МІХАЙЛА ГРАМЫКА



# РОДНАЯ ПУШЧА

П'ЕСЫ, ВЕРШЫ, ПАЭМЫ, УСПАМІНЫ, ЛІСТЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

## УСЕ ГЭТА ТРЭБА НАМ

Міхайла Грамыка адносіцца да слаўнай плеяды тых пісьменнікаў, якія стаялі ля вытокаў беларускай савецкай літаратуры, актыўна ўдзельнічалі ў станаўленні яе творчых традыцый. Толькі на тры гады маладзейшы за Янку Купалу і Якуба Коласа, ён і літаратурную дзейнасць пачаў амаль адначасова з імі — у 1907 годзе. І не яго віна, што сённяшняму чытачу ён вядомы не так добра, як бы гэта было па справядлівасці. Так, як у 20-я гады, напрыклад. Уладзімір Дубоўка ўспамінаў, што тачагасныя маладыя пісьменнікі вельмі зайздросцілі Міхайлу Грамыку. Нават папулярны, не абыдзены славай М. Чарот на адным з маладнякоўскіх сходаў з недаўменнем дапытваўся: «У чым справа? Калі са сваімі вершамі выступае Міхайла Грамыка, яму больш апладзіруюць, чымся нам». Некаторыя пісьменнікі, у тым ліку і Адам Бабарэка, лічылі, што не апошнюю ролю ў гэтай справе адыгрывала ступень выканаўчага майстэрства: большасць маладнякоўцаў нават кароценькія вершы чыталі з паперкі і не надта выразна. Не пагаджаючыся з такім тлумачэннем, У. Дубоўка сцвярджаў: «Сакрэт, зразумела, не толькі ў тым, што Міхайла Грамыка добра і прыгожа чытаў свае творы, што выдатныя артысты па-мастацку даносілі да гледачоў ягоныя п'есы. Сакрэт быў у тым, што ён быў таленавіты, высокаадукаваны пісьменнік, што ў яго быў ясны, выразна акрэслены светапогляд».

Нарадзіўся Міхаіл Аляксандравіч Грамыка 12 лістапада 1885 года ў вёсцы Чорнае Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і разначынца. Шматлікія продкі-родзічы пісьменніка з прычыны малазямелля актыўна папаўнялі шэрагі дробных чыноўнікаў, прыказчыкаў, чыгуначнікаў... Родны брат бацькі Уладзімір выбіўся нават у адвакаты. Дзяцінства, малалецтва і юнацтва Міхайлы Грамыкі былі багатымі на ўражанні, падзеі, набыткі і страты. У трохгадовым узросце асірацеў. Праўда, забягаючы крыху наперад, зазначым, што мачыха аказалася чалавекам добрай душы і ніколі не рабіла розніцы між пасынкамі і роднымі дочкамі. Пасля смерці маці бацька з дзецьмі перабраўся ў Гомель, а ў 1892 годзе прыняў на сябе абавязкі «даверанага і ўправіцеля» маёнтка ўдавы магілёўскага настаўніка семінарыі. Маёнтак знаходзіўся непадалёк ад Іванішчавіч Быхаўскага павета. Іванішчавіцкі перыяд жыцця будучы пісьменнік успамінаў заўсёды з замілаваннем. Па-першае, сям'я нарэшце вырвалася з паласы матэрыяльных нягод, нястач. Па-другое, жыццё праходзіла на ўлонні маляўнічай беларускай прыроды, у асяроддзі працавітых

сялян з іх багатай мовай і фальклорам. Менавіта тут былі закладзе-ны асновы светапогляду, акрэсліліся сацыяльна-класавыя арыентацыі.

У 1905 годзе Міхайла Грамыка становіцца студэнтам медыцынскага факультэта Маскоўскага універсітэта (у 1911 годзе закончыў яго, але ўжо на фізіка-матэматычным факультэце па спецыяльнасці геалогія). Масква гэтага часу віравала рэвалюцыйнымі бойкамі. У гэты вір з галавой акунуўся студэнт з Беларусі: выступаў на мітынгах, удзельнічаў у маніфестацыях, распаўсюджваў лістоўкі і пракламацыі. У 1906—1907 гадах арганізоўваў рэвалюцыйных рабочых Магілёва, вёў агітацыйную працу сярод сялян Магілёўскай губерні. Рэпутацыя актыўнага сацыял-дэмакрата перашкодзіла яму атрымаць работу па спецыяльнасці на радзіме, таму пасля заканчэння універсітэта Міхайла Грамыка настаўнічаў у Адэсе ў прыватным камерцыйным вучылішчы і жаночай гімназіі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі браў удзел у дзейнасці таварыства беларусаў-бежанцаў «Гай». Летам 1921 года пераязджае на сталае жыхарства ў Мінск. Пачалося самае шчаслівае дзесяцігоддзе. Дзесяцігоддзе напружанай творчай працы, значных здзяйсненняў, пошукаў і знаходак.

«Было мне 36 гадоў,— пісаў М. Грамыка.— Але і ў маладзейшыя гады я не адчуваў такога ўздыму жыццёвых сіл, працаздольнасці і творчага захаплення, як тады... Прычыны? Першая — апынуўся я ў родным асяроддзі... Другая прычына — жывое акружэнне. Якое то было акружэнне! Я ўглядаўся ў постаці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага і многіх хоць і меней выдатных, але патрэбных для паўнаты і магутнасці «хору» і «аркестра». Дадаць трэба таксама палітычных дзеячаў-камуністаў, праз якіх толькі і магла рэалізавацца вялізная культурная праца».

Праца ў Інбелкульце, выкладанне геалогіі і мінералогіі ў Белпедтэхнікуме і Белдзяржуніверсітэце, паездкі ў геалагічныя экспедыцыі... Напісаўшы на беларускай мове падручнікі «Пачатковая геаграфія» для агульнаадукацыйнай школы, а таксама «Уводзіны ў навуку аб неарганічнай прыродзе» (ч. I — Крышталаграфія; ч. II — Мінералогія) для вышэйшых навучальных устаноў, М. Грамыка зрабіў вялізны ўклад у выпрацоўку беларускай навуковай тэрміналогіі. Усе тры кнігі выдадзены на добрым паліграфічным узроўні, а многія аўтарскія высновы і сёння гучаць надзвычай актуальна. Вось як, напрыклад, пачынае ён раздзел «Чалавек» у «Пачатковай геаграфіі».

«Вясёла ў школе, у класе, дзеці! Колькі тут прыяцеляў ды прыяцелек, колькі сяброў, таварышоў. Кожны з іх цікавы па-свойму, пасобнаму...

І многа вас, бялявых і чарнявых, ціхіх і жвавых; шмат дзяцей у школе і па-за школай, на вуліцы. І ўсе вы гуляеце ў розныя гульні, і вясёла вам і добра вам, як кветкам пад сонцам!

Яшчэ болей розных народаў і плямёнаў жыве на свеце. І лепей было б, каб усе людзі на зямлі, усё чалавецтва было, як вялікая, вялікая школа, каб не біліся, не ваявалі, а жылі б у «злучнасці брацкай».

На пачатак жа дваццатых гадоў прыпадае і поўнае разгарненне літаратурнай творчасці Міхайлы Грамыкі. Так, у 1907—1908 гадах

ён публікаваў свае вершы і допісы на рускай мове ў часопісах «Самообразование», «Белый камень» і «Пробуждение». Яшчэ напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі яго захапіла творчасць на роднай мове. Аднак сам пісьменнік не дужа высока ацаніў зробленае ім да пераезду ў Мінск: вершы называў прымітыўнымі, а п'есу «Змітрок з Высокай Буды» лічыў недасканалай па «структуры і моўным афармленні». Можна пагадзіцца з аўтарам: першыя яго вершы не вызначаліся асаблівай арыгінальнасцю.

Любы край мой, родны край,
Лес, пясок, суглінкі,
На палосках, так і знай,
Вецер гне былінкі.
Ўсё знаёмае датла,
Ельнік ды асіны,
На балоце, ля жытла
Спеюць журавіны.
Мілы сэрцу ты майму,
Родны край убогі...

У гэтым урыўку з верша «Беларусь» сучасны чытач без цяжкасці разгледзіць усе адзнакі масавай паэзіі нашаніўскай пары. Праўда, пад ранняга Коласа пісьменнік будзе пісаць не вельмі працяглы час. Яго паэтычнае муза мела надзвычай няўрымслівы характар, каб надоўга засяродзіцца на пэўнай стылёва-выяўленчай прыхільнасці. Спрабаваць, эксперыментаваць, вынаходзіць — такі творчы дэвіз абраў для сябе М. Грамыка яшчэ ў раннюю пару сваёй літаратурнай дзейнасці. Малады паэт добра арыентаваўся ў навейшых літаратурных плынях, пра што неаднойчы гаварылі яго сябры-паплечнікі. Праўда, да пачатку 20-х гадоў гэта вельмі мала адбілася на яго ўласнай паэтычнай творчасці. У 1914 годзе М. Грамыка з групай настаўнікаў-турыстаў наведаў Германію, Італію і Швейцарыю. Непрыемна ўзрушаны весткай аб пачатку імперыялістычнай вайны, ён піша гнеўныя радкі грамадзянскага пратэсту супраць бесчалавечнай сутнасці яе мэтаў і вынікаў. З далёкага тылу, а менавіта так і называецца верш, асабліва яскрава бачыцца алагізм ваенных дзеянняў. Сузіраючы амаль ідылічныя малюнкі швейцарскай прыроды, курортнага побыту, паэт далёкую вайну ўспрыняў як вар'яцтва, нейкае трагічнае насланнё.

Сумесная праца стагоддзяў, шуканні, мастацтва, навука,
Калоны, саборы, музеі — усё паскідана далоў!
А ўсе вы, здаецца, складалі ў крыж свае рукі,
Крыжом благаслаўлялі, здаецца, на бойку братоў!
Зладзейскага брата нашчадкі, маўляў — каініты
Адзін на другога ідуць забіваць, валадаць.
А там — хай руіны, і стогны, і кроў... Трагладзіты!
Ці знойдзецца хто, каб вас, братазабойцаў, стрымаць?

Не цяжка заўважыць, што малады паэт з апошніх намаганняў імкнецца ўтрымаць форму верша ў параметрах, абумоўленых патрабаваннямі і правіламі нарматыўнай паэтыкі. Разам з тым, нельга не адзначыць і тое, што для яго гэтыя правілы з'яўляюцца калі не путамі, то нечым далёка не галоўным. Абавязковым — на ўзроўні агульнапрынятага. Яму важней найбольш поўна данесці ўласныя думкі

і пачуцці, свой гнеў і пратэст супраць братазабойства, «каініства». Але такія адносіны да творчасці будуць працягвацца не надта доўга. Неўзабаве малады пісьменнік стане ўдзяляць удасканаленню формы сваіх твораў вялікую ўвагу.

Праблема формы і зместу затурбавала М. Грамыку бадай што аднаго з самых першых у беларускай савецкай літаратуры. Ужо ў 1922 годзе ён піша «нібы-паэму» — верш пад сімптаматычнай назвай «Гвалт над формай», у якім ёсць, напрыклад, і такія радкі:

Завострым вострыя мячы.
Сячы ўсе формы
І крычы!
Мы толькі рытмам, маршам цвёрдым
З паглядам жудасным і гордым
Без формы-вопраткі
У свет!
Усе сцягі — пад ногі;
Мы — богі!
Убогія богі!

Гэты верш прынёс рэпутацыі паэта вялізную шкоду. Н. Перкін у «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» прыводзіў яго як прыклад «уяўнага наватарства ў паэзіі», «надуманага, вычварнага, наскрозь прэтэнцыёзнага» твора. У падобных абвінавачваннях літаратуразнавец быў не адзінокім. Нават Р. Бярозкін, аўтар артыкула «Лірыка Міхайлы Грамыкі. З вопыту беларускай савецкай паэзіі 20-х гадоў», у цэлым прыхільна і пранікліва «расчытаўшы» сутнасныя асаблівасці верша, убачыў у ім адзнакі «штучнага і ненатуральнага перабольшання», нечага «штучнага і прэтэнцыёзнага». Даводзіцца горка пашкадаваць, што верш не публікаваўся аж з дваццатых гадоў. Многія ніспраўяргальнікі, здаецца, зусім яго не чыталі, бо пры ўважлівым знаёмстве пераконваешся, што ў вершы гвалту над формай не настолькі многа, каб, як гаворыцца, уздымаць гэтакі гвалт з той нагоды. Не дзеля штукарства або самамэтнай фарматворчасці эксперыментаваў М. Грамыка. Чалавек досыць сталага ўзросту, буйны вучоны і літаратар, ён проста не мог апусціцца да гэтага. Блазнаваць дзеля папулярнасці? Не, гэта было б не варта яго таленту.

Зрэшты, многія падказкі да разумення свайго верша, а разам з тым і да сваёй творчасці ў цэлым дае пісьменнік у артыкуле «Паэзія аб рэвалюцыі і рэвалюцыя ў паэзіі» — цікавай прадмове да «Гвалту над формай». Паразважаўшы над праблемай дыялектычнага адзінства формы і зместу, аўтар працягваў:

«Шуканне зместу, новага зместу, згодна новым формам жыцця, і шуканне новай формы, адпавядаючай рэвалюцыйнаму тэмпу,— вось заданні новай паэзіі, новай лірыкі. Павінна адчувацца, што сам пясняр перажыў або перажывае ў душы рэвалюцыйны рух.

Прасачыць гэтыя паралелі ў сучаснай лірыцы надзвычай цікава, але для гэтага трэба *навукова, удумліва аднесціся да доследаў* (курсіў мой.— *С. Л.*)». Гвалт над формай, адмаўленне формы? З боку чалавека, які заклікае па-навуковаму ўдумліва аднесціся да «до-

следаў»? Іронія сітуацыі заключаецца ў тым, што менавіта ў гэтым вершы аўтар, магчыма, упершыню за адносна немалыя гады сваёй творчасці па-сапраўднаму паважліва, патрабавальна аднёсся да формы. Аднёсся прафесіянальна, з адчуваннем перспектывы. Задумаўшы свой верш як апалогію слову (ды не таму біблейскаму, якое нібыта было пачаткам усіх пачаткаў, а слову — новай літаратуры), пісьменнік накрэслівае цэлую творчую праграму. Літаратура павінна развівацца, удасканальвацца. Па ўсіх параметрах. Як рэвалюцыя: быў люты 1917 года, а стаў Кастрычнік! Новы час заказвае новыя песні.

Браточкі мае, песняры!
Да зары
Да гэтай во пары
Вы спявалі аб чым?
Аб нядолі... неабсяжным полі...
Ад болю па волі
Вы слёзы лілі.
Досыць! Даволі!
Вочы ўгару! Вышэй! Вышэй!
Не маліцца!

—«Убогія богі» жадаюць па-іншаму «жыццё будаваці». І тут вынікае вельмі цікавы нюанс. Так, М. Грамыка ва унісон агульным сацыяльным і літаратурным настроям заклікае: «Палі, палі! Хто не з намі — валі, валі! Плі!» Звяртаючыся да слова, раіць: «Калі трэба, аблай! Лоўкай лаянкай лай. Асабліва ў горадзе,— хто падлезе ў горадзе — па мордзе, па мордзе!» Аднак гэты экстрэмізм апраўдваецца разумным практыцызмам мэты. Знішчэнне не дзеля знішчэння, не руйнаванне, а экспрапрыяцыя! Матэрыяльная і духоўная...

Навука, гульня, канстытуцыя
І нават сама
Рэвалюцыя,—
Усё гэта трэба нам,—
Не панам!
Мне!

У гэтых чаканна-лозунгавых радках заключана менш рыторыкі, чым гэта можа падацца на першы погляд. Калі і ёсць тут рыторыка, то яна праграмна ўгрунтаваная, а не плытка неабавязковая. Думка аб разумнай экспрапрыяцыі стала лейтматыўнай ва ўсёй творчасці М. Грамыкі, чым ён, дарэчы будзе сказаць, выгадна адрозніваўся ад многіх сваіх паплечнікаў па пяру. Ну, вядома ж, яму было блізкім меркаванне аб пабудове новым грамадствам прынцыпова новай культуры, культуры не эліты, не выбраных адзіночак, а культуры масавай, сапраўды агульнанароднай. Развіваючы ленінскае выказванне аб наследаванні пралетарскім мастацтвам лепшых здабыткаў ранейшага часу, пісьменнік у артыкуле «Пясняр сноў і чараў», прысвечаным творчасці М. Багдановіча, пісаў:

«Што мы, рэальныя працаўнікі, штодзённыя цагляры, зможам знайсці ў паэзіі «сноў і чараў»?

Мы знойдзем багата чаго карыснага. Надзвычайна выяўлены індывідуаліст і эстэт, Багдановіч не замкнуўся ў сваёй асобе. Творачы хараство, ён добра ведаў, што гэтым харастовом не кожны можа і мае права карыстацца. Што трэба яшчэ шмат зрабіць... Каб толькі хапіла сілы змагацца з «грамадскім горам»...

Мы, пралетарыі, якія ўжо навучыліся любіць і разумець хараство, павінны берагчы і пільнаваць зярняткі яго, каб перадаць іх тым, хто яшчэ толькі праціраюць вочы свае запатнелай далонню».

У адстойванні гэтага погляду М. Грамыка праявіў здзіўляючую паслядоўнасць і настойлівасць! Імкненне «берагчы і пільнаваць зярняткі хараства» акрэслілася ў яго душы яшчэ ў юнацкія гады, але асабліва ўмацавалася падчас ваеннага ліхалецця і рэвалюцыйных катаклізмаў. Працуючы ў бежанскім таварыстве «Гай», ён наслухаўся нямала сумных гісторый пра факты вандалізму на далёкай роднай Беларусі, ахопленай полымем класавых баёў. Устрывожанае сэрца пісьменніка падштурхнула яго да рашэння напісаць драму «Змітрок з Высокай Буды» (1918). Не пазбаўленая істотных мастацкіх пралікаў, яна разам з тым не можа не зацікавіць і сённяшняга чытача. Чым? Ды перш за ўсё — жывым сведчаннем пра рэвалюцыйныя падзеі на тэрыторыі Беларусі, пра драматызм нараджэння новага жыцця. А ў ракурсе папярэдняй нашай гаворкі п'еса цікавая мудрай спаважнасцю, спакойнай разважлівасцю аўтарскай пазіцыі ў паказе канфліктаў рэвалюцыйнай рэчаіснасці. Драматург агітаваў сваёй п'есай за разумныя чалавечыя ўзаемаадносіны, супраць экстрэмізму, непатрэбнай прагі руйнавання і знішчэння. Галоўны герой п'есы Змітрок з горыччу зазначае: «Тушыць цяжка, паліць куды лягчэй. Адзін чалавек можа спаліць цэлы горад, а каб зберагчы адну хату, трэба во якая грамада!.. Кніжак жаль... І як гэта чалавечая рука падымаецца нішчыць труды, працу колькіх пакаленняў!»

Усё гэта спатрэбіцца нам! Такое перакананне стала праграмай кожнага дня падчас работы ў Інбелкульце. М. Грамыка скарыстоўваў кожную магчымасць, каб праца «колькіх пакаленняў» не глумілася намарна. Вельмі актыўна выкарыстоўваў ён для гэтай мэты перш за ўсё літаратурную творчасць. Як непасрэднай прапагандай, выбарам пэўных сюжэтаў, так і апасродкавана — шляхам стварэння (па прыкладу М. Багдановіча) «зярнятак хараства». І не ўсякіх-усялякіх, а такіх, якімі славіліся суседнія літаратуры. Вядома, да некрытычнага наследавання пісьменнік ніколі не апускаўся, пераствараць жа на беларускай глебе, на арыгінальным матэрыяле — любіў. Як прыклад, можна спаслацца на надзвычай цікавую баладу «Мільён». Вось яе пачатак:

Чорная ночка.
Бялюткі снег.
Ні хаты, ні хлявочка,
Ні жартаў, ні пацех...
Эх прытулі сыночка.

Эх — грэх, эх — грэх!
Дык жа на ўсім свеце
Вецер, братка, вецер,
Завіруха круціць.
— Хлопцы, спрытны будзьце!

Рытміка-інтанацыйным ладам балада так, здавалася б, цесна зближаецца з паэмай А. Блока «Дванаццаць», што мімволі закрадаецца думка аб перайманні. Але чым далей чытаеш баладу, тым больш пераконваешся не ў пераймальнасці, а ў палемічнасці твора М. Грамыкі. Не апосталападобныя дванаццаць, а — мільён, не з Хрыстом на чале, а аб'яднаныя парывам класавай справядлівасці... Гэтыя антанімічныя пары можна было б працягваць і працягваць, аднак

зразумела і так, што беларускі паэт, скарыстаўшы «канву» вядомага твора, пайшоў сваім шляхам. Зразумела і іншае: такім шляхам ён паспяхова выконваў задачу «прышчэплівання» на кроне роднай літаратуры парасткаў невядомага тут гатунку. На ўсякі выпадак — хай будзе і такі ўзор!

Яшчэ ў 20-я гады крытыка адзначыла стылёвую адметнасць і тэматычную разнастайнасць паэтычнай творчасці М. Грамыкі. Сапраўды, паэт не замыкаўся на адных нейкіх тэмах і праблемах, яго цікавіла жыццё ва ўсіх праявах і падрабязнасцях. Вядома, да грамадзянскіх, публіцыстычных матываў ён меў большую схільнасць, але ніколі не цураўся інтымнай лірыкі. Без боязі памыліцца можна сцвярджаць, што эпоха рэвалюцыйнага ўздыму, сацыяльных пераўтварэнняў увайшла ў паэзію М. Грамыкі ў натуральных прапорцыях, у дастаткова пэўна і праўдзіва «прарысаваным» абліччы. Позірк паэта вельмі ўчэпісты, востры, здольны заўважыць самыя істотныя перамены ў паслярэвалюцыйным жыцці. Радавацца ёсць чаму: у вёску трапляе «даследдзе навукі, і словы Купалы, і Коласа гукі» («Маладняцкая»), «цяпер мы маем шмат свайго, мы ураджай сабралі ўвосень!» («Восьмы Кастрычнік»), моладзь пацягнулася да асветы («Узімку»), газеты сталі звычнымі ў сялянскім асяродку («Вёску» ў вёску») і г. д. Пазітыўныя перамены бачацца нават у знешніх праявах: вось «насустрач па́нам едзе распрыгонены мужык» («Пад бубянцы») або «нам цёпла ў маі, карагодзім: чаму не пець, чаму не жыць!» («Янку Купалу») і г. д.

Інтымная лірыка ў творчай спадчыне паэта прадстаўлена нешматлікімі вершамі («Майскае», «Між жыта на мяжы», «Ванда Корсак», «Узімку», «Марынка» і іншымі), але без іх Грамыка не быў бы Грамыкам, прынамсі, паэзія яго выглядала б значна бяднейшай. Столькі ў гэтых вершах шчырага пачуцця, светлых перажыванняў, яркіх эмоцый! Сказанае справядліва як у дачыненні да лірыкі кахання, так і да твораў сямейна-бытавога плана, сярод якіх асабліва моцнае ўражанне аказвае балада «Над калыскай». Пра задуму гэтага твора сам М. Грамыка пісаў:

«У кастрычніку 1923 года нарадзілася наша «пярвушка» Расціслава. «Аа-аа, Росценька! Ляжы, лялька, просценька!» — піша 37-гадовы бацька, для якога яна першая жывая радасць. Так з'явілася паэма «Над калыскай» («Дзіця» — у старым выданні)».

Р. Бярозкін справядліва сказаў: «Месца гэтаму твору — мы цвёрда перакананы — у самай скупой і патрабавальнай анталогіі нашых паэтычных узораў». Маладая пяшчота немаладога бацькі зрабіла яго дзівосна відушчым, надзвычайна чуйным. Са здзіўляючай пластычнай дакладнасцю перадае ён стан адчуванняў і перажыванняў немаўляці. Фізічна адчуваеш жаданне малой вырвацца з павівальных путаў, яе імкненне растлумачыць гэтым няцямным дарослым свае патрабаванні. Зрэшты, душа бацькі-паэта здольна «ўцяміць» вельмі многае.

— Хэа-хэа-ва-ва-ллі...—
Нейкая дзіўная — дзіўная мова,
Першыя птушачкі вольнага слова,

Гутарка, продкі якую вялі,
Можа, дзе-небудзь на гэнай раллі,—
Спадчына першага дзікага слова...

— А-а-мма-а- — нна-а — лле...—
З маткаю ў спрэчку малое ўступае,
Звольненай ручкай паветра хапае,
Раптам усмешку-чырвонец дае,
Плечкі ўздымае, вось-вось устае,
Просіць і грозіць, увагі чакае...

Глыбіні ўражання садзейнічалі не толькі вось гэтыя рэтраспектыўна-філасофскія паралелі, але і смелыя праекцыі будзённа-бытавога малюнка (шчаслівыя бацькі ля калыскі дачкі) на прасторавую — аж да касмічнай — перспектыву...

Несумненную цікавасць для сённяшняга чытача ўяўляюць паэмы М. Грамыкі «Лесніčанка» і «Крылан». Вытрыманыя ў рамантычным стылі, яны адрозніваюцца характарам асэнсавання рэчаіснасці. Калі ў першай з іх аўтар не дазваляе шырока разгарнуцца рамантычнай фантазіі, то ў «Крылане», наадварот, некаторыя зусім звычайныя жыццёвыя з'явы набываюць адзнакі таемнасці, выключнасці.

Адметны, значны след пакінуў М. Грамыка і ў развіцці беларускай савецкай драматургіі. Апрача згаданай вышэй п'есы «Змітрок з Высокай Буды» яго пяру належаць драмы: гістарычная «Скарынін сын з Полацка» (1926), героіка-рамантычная «Над Нёманам» (1927), гісторыка-рэвалюцыйная «Каля тэрасы» (1927), прыгодніцкая «Воўк» (1930) і камедыя «Віно бушуе» (1929). Сам аўтар вылучаў, высока ацэньваў драмы «Скарынін сын з Полацка», і «Каля тэрасы», з гонарам адзначаючы і поспех сярод гледачоў п'есы «Над Нёманам». «З усіх маіх п'ес найболей творчых сіл і часу патрабавала гістарычная драма «Скарынін сын з Полацка»,— пісаў у аўтабіяграфіі М. Грамыка.— Па стылю яна таксама найбольш апрацаваная. Яна вытрымана была ў памеры пушкінскага «Барыса Гадунова». Памятаю толькі пачатак: «На вежы выбіла чатыры, а доктара ўсё няма з друкарні... І ўчора так, і сёння — кожны дзень!» — скардзіцца служанцы адданая Францішку ягоная жонка».

На сцэне БДТ-1 п'еса была пастаўлена рэжысёрам В. Базылеўскім у пачатку 1926 года. Рукапіс яе пакуль што не адшуканы.

Да дзесятай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі М. Грамыка напісаў гісторыка-рэвалюцыйную драму «Каля тэрасы», якую вядомы даследчык гісторыі драматургіі А. Семяновіч лічыць лепшай беларускай п'есай другой палавіны 20-х гадоў. Зазначыўшы, што «Каля тэрасы» некалькі падобна да драмы М. Булгакава «Дні Турбіных» і асабліва да псіхалагічнай драмы Б. Лаўранёва «Разлом», ён працягвае:

«Падабенства гэтых п'ес у сэнсе іх праблематыкі тлумачыцца агульнасцю тых з'яў рэчаіснасці, якія адбываліся ў пераломны 1917 г. Драматургі імкнуліся паказаць, якія велізарны і жыватворны ўплыў мелі ідэі бальшавіцкай партыі не толькі на мільённыя масы

рабочых і сялян, але і на тую частку буржуазна-памешчыцкага класа, галоўным чынам інтэлігенцыі, якая канчаткова не парвала сувязей з народам».

І ў дадатак да гэтага варта сказаць, што М. Грамыка не наследаваў, не пераймаў сваіх славутых рускіх калег: усе тры п'есы пісаліся амаль адначасова. Стварэнне гэтай п'есы было абумоўлена ўнутранымі, асабістымі прычынамі ды яшчэ канкрэтнымі задачамі, якія стаялі перад тагачасным беларускім тэатрам. Драматург разумеў, што праблема сацыяльнага разлому, якую ён паставіў, але не здолеў узняць на патрэбную вышыню асэнсавання, не прымусіў загучаць на поўны голас у п'есе «Змітрок з Высокай Буды», не згубіла актуальнасці, яна проста стукаецца ў дзверы тэатраў. Дзея абедзвюх п'ес адбываецца ў надзвычай драматычны прамежак часу паміж лютым і лістападам 1917 года. Ёсць пэўная пераклічка паміж лёсамі паноў Кажанеўскіх і Барановічаў, насельнікаў вёскі Высокая Буда і фальварка Барановічы. Але ёсць і адно істотнае адрозненне: у новай сваёй п'есе драматург больш дакладна паказвае рухаючыя сілы рэвалюцыі, больш пэўна выяўляе ролю бальшавікоў у арганізацыі працоўных на рэвалюцыйныя здзяйсненні. Матрос з крэйсера «Аўрора» Барыка непараўнальна лепш арыентуецца ў палітычнай сітуацыі, чым Змітрок з Высокай Буды. Разам з тым, яны — блізкая радня. Па сваіх поглядах на рэвалюцыйныя падзеі, па разуменні гістарычнай перспектывы і адносінах да людзей. Барыка не валіць усё і ўсіх у адну кучу. І не ўсё, што звязана з класам памешчыкаў, бачыцца яму ў кепскім святле.

Т а ц ц я н а. Яна слаўная, Манюня. Нібы не паненка зусім.

С ы с о й. Ат. Адна пся костка.

Б а р ы к а. Разбірацца трэба: не ў адзін хлеў ставяць living rознае быдла.

Т а ц ц я н а. Нічому не зайздрошчу панскаму: ані сукням, ані дыванам. Але таму зайздрошчу, што яны адукаваныя, выхаваныя.

С ы с о й. Усё забраць, толькі і бяды!

Б а р ы к а. Забярэш коні, каровы. Асвету, культуру адразу не забярэш. Пра яе кажа Таццяна. *(Да Таццяны.)* Але возьмем і гэта, Танечка! І музыку... Паступова толькі.

Усё гэта трэба нам! Не панам! Працоўнаму народу. М. Грамыка, як бачым, выкарыстоўвае любую магчымасць, каб яшчэ раз напомніць дарагую яму думку аб ашчадным, разумным стаўленні да набыткаў культуры мінулага. Тым больш што ў другой палавіне 20-х гадоў такое напамінанне ўсё яшчэ заставалася актуальным, пра што ўскосным чынам можа сведчыць рэзкая крытыка ў адрас п'есы за недастатковую класавую непрымірымасць, якая прагучала адразу пасля прэм'еры спектакля ў БДТ-2 (1927). Вульгарна сацыялагічныя тэатразнаўцы-рэцэнзенты не маглі або не хацелі разумець аўтарскую пазіцыю, у якой ім бачылася ўсёдаравальнасць і сімпатыі да прадстаўнікоў непралетарскага лагера. А між тым аўтар далёка не індыферэнтны ў поглядах на сваіх герояў.

Б а р ы к а. Такія, як вы, патрэбны і пасля рэвалюцыі...

М а н ю н я. Мы і жывём пасля рэвалюцыі, як бачыце.

Барыка. Гэта што за рэвалюцыя.

Манюня. Ах! Вы аб іншай! Ну, а хто не такія, як я?

Барыка. Прэч з дарогі!

Манюня. А калі і тыя захочуць жыць?

Барыка. Ясна, што захочуць! Прыйдзецца ў бойку з імі...

Манюня. Хто ж гэта «такія, як я»?

Барыка. Хто зможа і захоча перадаць нам вашу культуру. *(З запалам.)* Вы не ведаеце, як мы шануем, як любім музыку і іншае там! Мы зробім так, што вашу ігру будуць слухаць сотні тысячы простых людзей!

Здаецца, усё ясна! Ну, а тое, што пісьменнік у варожым лагеры ўбачыў не адных толькі ворагаў, дазволіла яму выявіць дадатковы драматызм у паказе праўды эпохі. Разлом прайшоў не толькі паміж класамі, ён пакінуў на розных баках барыкады родных братоў, бацькоў і сыноў, некалі блізкіх сяброў... Яры манархіст Васіль Барановіч знайшоў разуменне і падтрымку толькі ў малодшым сыне Міколе, капітане царскай арміі. Другі сын Генадзь, брат Андрэй і пляменніца Манюня кожны па-свойму прыходзяць да рашэння прыняць бальшавіцкую рэвалюцыю, яе лозунгі і патрабаванні. Распад гэтай памешчыцкай сям'і як бы сімвалізаваў заканамернасць распаду антынароднай манархічнай дзяржаўнай машыны.

Амаль адначасова з драмай «Каля тэрасы» была завершана і гераіка-рамантычная п'еса «Над Нёманам», якая па прызнанню самога аўтара перароблена з паэмы «Леснічанка». П'еса мае дэтэктыўна напружаную фабулу, займальны сюжэт. Створана яна ў рэчышчы так званай прапагандысцкай драматургіі («Краб» У. Галубка, «Архангелы з крэсаў» В. Сташэўскага, «Романы Зоря» І. Барашкі і інш.), якая выкрывала антыгуманную палітыку пілсудчыкаў у Заходняй Беларусі і заклікала да барацьбы за ўз'яднанне бацькаўшчыны. Пастаўленая ў 1927 годзе на сцэне БДТ-1 рэжысёрам Е. Міровічам, драма «Над Нёманам» карысталася вялікім поспехам у гледачоў (у выніку анкетнага апытвання сярод камсамольцаў горада яе назвалі самай папулярнай п'есай сезона). П'еса выклікала жывую зацікаўленасць не аднымі толькі вострымі калізіямі ды напружанымі сюжэтнымі варункамі, але і па-сцэнічнаму ўмела прапісанымі характарамі персанажаў. Вядома, глянуўшы на п'есу сённяшнімі вачамі, нельга не заўважыць пэўны яе схематызм, просталінейнасць у вырашэнні канфліктаў. І ўсё ж сустрэча з драмай «Над Нёманам» абагаціць сённяшняга чытача: яна добра характарызуе, з аднаго боку, накірункі ідэйна-творчых пошукаў самога драматурга ў сярэдзіне 20-х гадоў, а з другога — дае падставы меркаваць аб стане развіцця беларускай драматургіі таго ж часу: згаданы твор М. Грамыкі тыповы ў агульнай плыні драматургічнай прадукцыі падобнай тэматыкі.

У дэтэктыўным плане вытрымана і драматычнае апавяданне «Воўк». П'еса нідзе не друкавалася і не ставілася (Е. Міровіч не паспеў завяршыць пастаноўку, хоць афішы аб спектаклі былі вывешаны). Канфліктная завязка ў творы не вельмі арыгінальная. Вёска ўзбурылася, узвірылася несправядлівым рашэннем суда, які, насу-

перак справядлівасці, прызнаў «суверэнітэт» пана над спакон вякоў сялянскімі землямі. Пажылыя вяскоўцы, навучаныя горкім вопытам паднявольнага жыцця, пасля нядоўгіх нараканняў згінаюць галовы перад злой воляй. На іншы шлях сталі маладыя дзецюкі, якія вырашылі пратэставаць, косамі ды віламі бараніць палеткі. Праўда, нічога з іх бунту не атрымалася. Напалоханы каморнік ненадоўга адклаў сваю справу. Пад ахoвай станавога прыстава і жандараў зямля перамерана, а бунтаўшчыкі паўсталі перад неабходнасцю расправы. Найбольш сурова паплаціўся Яська Мікула — завадатар.

Як бачым, завязка ў драме вельмі традыцыйная. Прынамсі, можна назваць да дзесятка твораў у беларускай літаратуры першай чвэрці XX стагоддзя, якія распрацоўвалі падобную жыццёвую сітуацыю. Праўда, пісьменнік у асноўным зацікавіўся знешнімі праявамі падзей, у выніку чаго драматызм эвалюцыі ціхмянага, сарамлівага і мяккахарактарнага Яся ў жарсткаватага, бязлітаснага ворага жандараў, паліцэйскіх і шпегаў — Ваўка застаўся слабавата раскрытым. Сённяшняга глядацкага вопыту наўрад ці дастаткова, каб дамысліць сітуацыі і наблізіць да сябе жыццёвыя перыпетыі Яся, тым самым духоўна, сэрцам далучыцца да глыбінь яго крыўды. Чым жа тады будзе цікавай п'еса чытачу «Роднай пушчы»? Па-першае, сваім прыгодніцкім, займальным ладам. А па-другое, яна досыць пазнавальная.

Камедыя «Віно бушуе» ў драматычнай спадчыне М. Грамыкі займае асаблівае месца. Гэты твор сведчыць, што калі б у пісьменніка была магчымасць нармальна працаваць у драматургіі, ён напэўна вырас бы ў адмысловага камедыёграфа. Схільнасць да гумару ў яго праяўлялася і раней, але яна скоўвалася адпаведнай творчай задумай і жанравымі патрабаваннямі... «Віно бушуе» — адна з самых сцэнічных п'ес М. Грамыкі. Ужо ў самой назве задаецца эмацыянальны тон усёй дзеі — энергічны, жыццесцвярджальны, напорысты. Для рэжысёра-пастаноўшчыка п'еса ўяўляе вельмі ўдзячны матэрыял. Яна багата насычана вясёлымі пасажамі, нечаканымі сюжэтнымі паваротамі і г. д.

Па тым часе п'еса была новай нават сваім матэрыялам, бо жыццё універсітэцкага студэнцтва амаль не краналася ў беларускай драматургіі. Выйгрышна выглядала п'еса яшчэ і тым, што драматург здолеў намаляваць вельмі каларытныя вобразы дзейных асоб. Праўда, як гэта нярэдка адбываецца ў камедыйных творах, найбольш яркімі атрымаліся менавіта героі або эпізадычнага, або адмоўнага плана (асістэнты Галёнка і Панаў; тэхнічныя супрацоўнікі Брацянкоў, Дзежка, Лімпяда; студэнты Сцяпан Гаўрылік і Млынкоў). Дастаткова выразным аказаўся і паказ побыту моладзі. Зноў жа і ў гэтым выпадку неабходна «папраўка» на спецыфіку жанру: пра вельмі сур'ёзныя рэчы драматург гаворыць з гумарыстычным «зніжэннем». Так, напрыклад, як у студэнцкай песні, якая паслужыла своеасаблівым эпіграфам да п'есы:

Нам весела, бо для нас
У жыцці шлях шырокі,—
Калі ў дождж не ломіць косці,—
Прыйдзе час соцстраху.

Запеўка нібыта залішне легкадумная, але яе нельга ўспрымаць адназначна. Не, не для таго напамінак аб кароткасці маладых гадоў, каб заклікаць да бяздумнага гульбішча, марнатраўнага пацяшання. Пацеха, вядома, не выключаецца, аднак не яна найважнейшая ў маладым жыцці, бо ўперадзе значныя, сур'ёзныя задачы:

Мы навуку панясём
Па кутох далёкіх,
Дапаможам ў будаванні
Новых, лепшых форм яднання,—
Што слыве Камунай.

Вось гэты куплет з'яўляецца лейтматывам усёй камедыі. І пры вырашэнні пытання аб ідэйным змесце твора, трэба абавязкова ўлічваць гэта. Тады не будуць бянтэжыць некаторыя вольнасці ў паводзінах герояў, пэўная няспеласць выказванняў некаторых персанажаў. Дарэчы, сучаснаму чытачу п'еса можа нямала сказаць аб сутнасці тагачасных спрэчак у маладым савецкім грамадстве аб шлюбе, аб сям'і, аб «новых» узаемаадносінах паміж мужчынам і жанчынай, аб свабодным каханні і г. д. Віно яшчэ бушуе, таму няма ніякіх гарантый, што яно не пераплюхнецца цераз край. Важна, каб не прапусціць аптымальны час для ідэйнай ферментацыі. Інакш задача будавання «новых, лепшых форм яднання» на належным узроўні не будзе выканана.

«Мой родны край мяне гукнуў да працы, як шмат каго з раскіданых сыноў, каб з крыўдаю старой ды цемраю змагацца, каб край ажыў, расквеціўся заноў»,— пісаў М. Грамыка перад ад'ездам з Адэсы на Радзіму. І ён адразу ж адклікнуўся, з гатоўнасцю пачаў «сплочваць даўгі», шчыра і самааддана працуючы на ніве роднай культуры, літаратуры і навукі. Нягледзячы на складанасць жыццёвых перыпетый, змог пакінуць пасля сябе вялікую творчую спадчыну. Мастацкія набыткі першапраходцаў-пачынальнікаў заўсёды цэняцца па павышанай шкале вартасцей. Гэта, аднак, не значыць, што ў дачыненні да твораў М. Грамыкі патрэбны нейкія скідкі-нацяжкі: амаль усё зробленае ім вытрымала выпрабаванне часам, да сённяшняга дня захаваўшы свежасць пачуццяў, актуальнасць думак, яркасць эмацыянальнага напружання...

І ўсё гэта трэба нам!

*Сцяпан Лаўшук*

# ЗМІТРОК
# З ВЫСОКАЙ БУДЫ

*Драма ў 4-х дзеях*

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Змітрок — статны селянін, 35 г.
Аксіння — жонка яго, 28 г.
Галіна Кажанеўская — паненка, 23 г.
Цыганок — селянін, чарнявы, 30 г.
Панас — стары дзед.
Саўка — п'яніца.
Стары пастух.
Малады пастух.
Мужыкі. Бабы. Сяляне.

## ДЗЕЯ I

Перакрыжаванне дарог. Распяцце.

### З'ява I

Аксіння і Цыганок.

Аксіння. Я ўжо табе казала не раз...

Цыганок. А можа, на гэты раз патраплю. Любая мая, выкінь яго з сваіх думак! Не вернецца ён, я табе кажу. Спраўма з табой вяселле без папа, ды якое! Спраўма, Аксіння, пакуль краса твая не завяла, як зёлкі.

Аксіння. Бясстыжы ты! Што табе мой Змітрок! А я ж ці магу яго забыць? Не вернецца, дык не трэба тады мне нічога ад жыцця. Ідзі, Цыганок, не грашы. Вунь нашыя бабы ідуць у фальварак. Бывай здароў!

Цыганок *(услед)*. Шчасце тваё, што засела ў маім сэрцы, а то б інакш я пагаварыў з табой! *(Пайшоў. Чуваць труба пастуха.)*

### З'ява II

Пастухі.

Малады. Каб я не адбараніў, дык бы прапароў беленькага бычка. А яго ззаду пугай — лясь! А здаровы бугай, каб яго...

Стары. Так і прамеж людзьмі: то за бабу, то за дзеўку б'юцца. Як паходзіш каля жывёлы ды прыгледзішся, дык дужа падобна да людскога — крыху, крыху прасцей. А грунт адзін...

Малады *(убок)*. Куды звярнула, Падласка, назад!

Стары. Ведама — пастух. Але ж і ў бібліі ўсюды прызначаецца: паства і пастыр. Бо, ці ведаеш, Янучок, як жывёле, так і людзям патрэбны пастухі: без іх раз-

брыдуцца ва ўсе бакі, адны ў жыта пойдуць, а ад другіх застануцца адны капыты, як на ваўка набрыдуцца. Ідзі туды, Янучок, звярні ад дарогі, а то пачнуць скубці там, дзе не трэба... Го-го-го, рабенькія мае! *(Выходзіць.)*

**З'ява III**

Змітрок.

Змітрок. Кожнае дрэўца вядомае мне тутака, кожная сцежка праходжана з маленства. Тры рокі, як кінуў я родны мой край, і зноў я з ім, з мілым, спаткаўся. Сустрэнь жа як сына мяне, прывітай, я дужа душой змардаваўся. *(Садзіцца.)*

**З'ява IV**

Змітрок і Малады пастух.

Малады пастух. Здароў!

Змітрок. Здароў, брат! Скацінку сваю пасеш?

Малады пастух. Эге ж. А вы скуль будзеце? Стойце... Ці вы не Змітрок з Буды?

Змітрок. Так, братка. А ты хто?

Малады пастух. А я — Янук з Лыскава. Вы мяне не спазналі?

Змітрок. Э, братка! Я столькі народу перабачыў. Столькі прайшло перад маімі вачамі гэтых плямаў, што завуцца тварам, ці аблiччам людскім, што ненарокам запомніў і сваіх братоў-землякоў! Ну, выбачай, Янук! Паздароўкаемся. *(Цалуюцца.)*

Малады пастух. Дык во як! Дык вы, значыцца, Змітрок з Буды? Вот дзела! З палону, ад ворагаў вызваліліся?..

Змітрок. Ад ворагаў, ад ворагаў... Ну, калі ты мяне спазнаў, спазнаюць і другія. Як жа вы тут маецеся?

Малады пастух. А перабыло ў нас усялякага: і добрага і дрэннага. Усе ўжо вярнуліся ў свае хаты, а толькі нелады ўсё: то за тое, то за другое.

Змітрок. Сварацца! Эх, людзі, людзі! Няма ў іх праўдзівага погляду на свет божы. Успамінаю, як білася нашае сяло з вашым за ляды падлесныя. Ці не яны гэта рунеюць там? Такія ляды, такія ляды бачыў я ў чужых краях. Яшчэ і лепшыя даводзілася бачыць... І ўсю-

ды яны паліты чалавечай кроўю! І льецца яна, льецца па зялёных лугавінах зямлі... Дык ты, Янук, пасвіш? Усё ў лесе, адзін. Прымерная часць твая: бліжэй к богу, бо далей ад людзей.

Малады пастух. Не, я не адзін, але і стары таксама кажа пра лес і людзей, як і вы. Во, гэта ён дудзе. Трэба йсці, бо ўжо пара і скацінку дахаты гнаць. Бывайце здаровы!

Зьмітрок *(адзін)*. Як дзіўна птушкі пяюць! Шчабечуць бяспечна. Маленькія сэрцайкі б'юцца раз у раз з жыццём. Камусь хвалу аддаюць... І не грэшныя яны перад богам...

### З'ява V

Зьмітрок і Галіна Кажанеўская, пасля Аксіння і другія бабы.

Зьмітрок. Дзень добры!

Галіна *(праходзячы,ківае галавой)*.

Зьмітрок. Чаму ж вы, паненка, не адказваеце на прывітанне?

Галіна. Ну, адказваю вам: дзень добры, ясненькі.

Зьмітрок. Другое дзела! А засмела гамоніце з мужчынаю, ды яшчэ на перапуцці.

Галіна. Не, я не пужлівая. Не так гадавалася, каб людзей баялася. А супроць звяроў ёсць другі спосаб. *(Вымае пісталет, смяецца.)*

Зьмітрок. Колькі жыў, першы раз сустракаю такую дзяўчыну, ды яшчэ панскага роду!

Галіна. Дзела не ў родзі, не ў косці, а ў самой імосьці, як кажуць.

Зьмітрок. Складна гаворыце, паненка. Ці мо мне так здаецца, бо даўно ўжо не чуў роднай гутаркі.

Галіна. А вы не тутэйшы? Падарожны?

Зьмітрок. Усе мы падарожныя на зямлі. Я — тутэйшы. А хіба не ведаеце, паненка, што і тутэйшых гналі бараніць чужыя межы?

Галіна. Вы былі за межамі нашай зямлі, у чужаземцаў, а цяпер з палону: цікава пагутарыць з вамі. Я — Кажанеўская Галіна. Калі вы тутэйшы, дык знаеце майго бацьку, дый братоў, пэўне, зналі?

Зьмітрок. Паненка Галіна Кажанеўская?

Галіна. Не трэба так мяне велічаць. Цяпер няма паноў, вы ведаеце гэта добра.

З м і т р о к. Паноў няма, але ж ці стала ад таго больш людзей? Не маю пашаны я ні да папа, ні да мужыка, бо адзін век песціў сваё тлустае цела, а другі карчаваўся, як крот, над сваімі беспатольнымі шнурамі і сеяў на іх зерне таксама для цела. Ні той, ні другі не думаў аб збожжы душэўным. Я падабаю толькі таго, хто працуе над сабой, хто патрапіць нядолю сваю пераждаць у мыслях, а там, ці пан ён, ці мужык — мне няма дзела.

Г а л і н а. Як праўдзіва, шчыра вы кажаце! Не, вы не просты чалавек. Я дужа задаволена, што спаткала вас тут, дзе скрыжаваліся дарогі...

З м і т р о к. Але тут жа і распяцце... Так, я знаў вашага брата, Ігналя Кажанеўскага. Мы з ім разам працавалі яшчэ ў тым, першым, рэвалюцыйным роцы. Божа, якія мы былі дзівакі: маладыя, як тыя дубкі, ды гарачыя, як вуголлі! Бывала, Ігнась пачне чытаць ці называць нешта такое магутнае ды вялікае — і пайшлі рушыць увесь свет ды будаваць яго па-новаму! Ад яго я і грамаце навучыўся, прасвятлеў. Толькі пасля неяк мы згубілі адзін аднаго... Дзе ён цяпер?

Г а л і н а. Мой брат Ігнась загублен...

З м і т р о к. Загублен?..

Г а л і н а. Не на вайне, хоць і біўся з ворагам доўга, хоць і ранены быў... Тут ужо, у двары, знайшоў смерць за чалавечыя словы.

З м і т р о к. Ці зверы прымаюць у душу словы чалавека! Няўжо нашы сяляне?

Г а л і н а. Былі і сяляне, але больш нейкія прыблудчыкі.

З м і т р о к. Для гэных ён быў чужы! Яны бачылі ў ім толькі пана, не ведаючы, што з маленства свайго песціў ён думку аб волі і быў сапраўдны дэмакрат!.. Во яно як! Вы — сястра Ігнася Кажанеўскага! А яго няма, забіты! І гэта першая страшная чутка, якую я пачуў, ступіўшы на зямлю бацькаўшчыны сваёй! Як вы можаце пасля гэтага жыць тутака, глядзець гэтым людзям у вочы, гаварыць з імі?!

Г а л і н а. Я не згубіла яшчэ веры ў народ, у яго душу. Каб не гэтая вера, я б не перамагла сябе.

З м і т р о к. Дзякую вам, панна Галіна, ад сябе і ад усіх нашых хлебаробаў! Народ, як дзіцянё: кусае тое, што яго ўскармляе. Ён галодны, яму толькі хлеба трэба,

а калі насыціцца, успамяне, што не адным хлебам жыў чалавек.

Г а л і н а. Не, я не ўцяку адсюль. Яны простыя, нават грубыя, але ж ці не плоць я ад плоці іхняй? Калі я сядзела, схіліўшыся над кніжкай, ці ж не яны давалі мне хлеб? А цяпер мне трэба ісці да іх, даючы знанне, і дапамагаць у думах, калі яны будуць працаваць каля хлеба.

З м і т р о к. Дык во як! Я спаткаў тут, на перапуцці, таварыша думаў маіх! Бачыце, якія нівы кругом, а ці шмат ратаяў? Галіна Кажанеўская! Во рука! Яна калісь трымала касу і цэп, а пасля і ружжо не дрыжала ў ёй.

Г а л і н а. Дайце сюды гэтую руку!

Чуваць жалейка пастуха, па дарозе праходзяць б а б ы, спяваюць. Адна з іх аддзяляецца. Змітрок пазнае ў ёй жонку.

З м і т р о к. Аксіння!

А к с і н н я *(кідаецца ў абдымкі)*. Галубок мой, Змітрочку! Ці гэта ты? Не думала ўжо, надзею пахавала! Тры рокі сумавала, тры рокі!

З м і т р о к. Ну, во і давёў бог!

А к с і н н я. Які ж ты худы! Ды і ў вачах нешта. Ці гэта я адвыкла?

З м і т р о к. А няўжо ж, адвыкла... Ну, а твае вочы, глянь сюды! Не, шчырыя вочкі, як былі. *(Цалуюцца, смяюцца.)*

А д н а б а б а. Яна ў нас, як святая.

Д р у г а я б а б а. А было ёй скусу багата.

А к с і н н я. Годзі вам, які скус!

З м і т р о к. Грэх у душы, не ў целе... А душу я бачу: во як ірванулася ка мне. Я тут гутарыў з паннай Кажанеўскай, ці вы незнаёмы?

Г а л і н а. Як не знаёмы? Штодзень бачымся з Аксінняй: яна з свайго гарода — я з саду нашага...

А к с і н н я. Ці ведала, Змітрочку? Паненка пісала лісты да цябе з маіх слоў, пакуль яшчэ можна было пісаць.

З м і т р о к. Праўда? Ну, зноў дзякую вам, ужо за сваю жонку!

А к с і н н я. А завошта ты іх дзякаваў, Змітрочку?

З м і т р о к. Была тут у нас гутарка адна. Ну, вот мы і разам! Быццам і не было гэтых часоў, што разлучылі нас.

Аксіння. Божа ж ты мой, я як непрытомная стаю!..

Змітрок. Ну, пабрыдзём да вёскі. Сустрэўся з жонкаю роднай, з добрымі людзьмі, трэба ж і з хатай прывітацца сваёй.

*Заслона*

## ДЗЕЯ II

Хата Змітрака. Дзень.

### З'ява I

Аксіння.

Аксіння (*пяе*).

А чый конь, а чый конь
Па загароддзю бегае
Ды капыцічкам, ды капыцічкам
Крамяні разбівае,
А ў крамяні, а ў крамяні
Агню даспявае?
Ай, у крамяню, ай, у крамяню!
Дай жа нам агню,
Запаліці, засвяціці
Жаніху свячу.

### З'ява II

Аксіння і Змітрок.

Змітрок. Во і я ўжо палуднаваць прыйшоў. Мая жонка паварыха добрая: зацірку смачную згатавала.

Аксіння. Якая я паварыха, Змітрочку! Ты ўжо ад маіх ласаў адвык. Як для цябе, я баба простая... Праўду кажу. Во ты нейкую кніжку трымаеш, а ці хопіць у мяне слоў пагаварыць аб ёй?..

Змітрок. Чаму не хопіць? Розум у цябе ёсць, каб крыху граматы... Але маеш шчырае сэрца да мяне і да людзей — за гэта не адступлюся ад цябе ніколі. (*Цалуе яе.*)

Аксіння. Ніколі? Бог яго ведае, Змітрочку! Каб бог паслаў нам дзіцянё — гадавала б я яго, гадавала...

Змітрок. Ну, зноў гэтая твая маркотная думка! Ціха, мо йшчэ будуць... А калі не з'явіцца, мо й лепш... Вальней тады працаваць для другіх.

Аксіння. Гэткая праца не па мне. Не, Змітрочку, хоць ты і разумны, а праглядзеў нашае жаночае сэрца.

Змітрок. Хіба яно такое таёмнае?

Аксіння. Вельмі таёмнае, Змітрочку. Ну, садзіся, родненькі, палуднуй!

Змітрок. Вось гляджу праз гэтую шыбку ў аконцы, бачу нашу вуліцу непрытульную і ўбогую, і ўспамінаюцца прашпекты ды палацы мураваныя. Але нізавошта не пайшоў бы туды. Прыкра і дрэнна каля іхніх муроў халодных ды турботы паўсядзённай! Кідаюцца людзі туды-сюды... У нас бедна, цёмна, а калі глянеш у абшары велізарныя за вёскай — траўка рунее, колас красуе, а з гаю чуцён спеў птушыны, дык так на душы радасна, так добра!

Аксіння. Гэта тваёй душы так здаецца, а ці хто другі знаходзіць такія словы, як мой Змітрок! Нашым усё роўна: ці аржонне, ці пуня, ці гай, ці ёўня.

### З'ява III

Тыя ж і Саўка.

Саўка (*напявае*). Дзілінь, дзілінь, баў — Саўка прапаў! Палажылі Саўку на голую лаўку. Лаўка трасецца, Саўка смяецца. Не, кажу, пайду да Змітрака, а мая жонка: «Куды ты, саромся людзей». А чаго мне саромецца? Ці я злыдзень які? Не, кажу, пайду, бо сумна з табой — гэта з маёй жонкай — у хаце сядзець.

Змітрок. Добра, што зайшлі, сусед,— папалуднуем. Бачыце, які стос бліноў нясе мая Аксіння.

Саўка. Слаўнае дзела! Каб чарку гарэлкі да іх, дык бы...

Аксіння. Суседзе, будзе ўжо з вас чарачак. Выпілі ў хаце, а ў гасцях закусвайце.

Саўка. Праўду, вашэця, гаворыце. Ну, калі ў вас няма і адной чаркі — нядоля ў вас у хаце!.. Буду бліны трэсці. Смачныя бліны! А мая жонка дык такіх кавалдаў напячэ, што і Лыска не есць. А скажыце, Міронавіч, як вы ваявалі? Ён, кажуць, хітры, вельмі хітры, але нядужы, але ці праўда гэта?

Змітрок. Я ўжо казаў не раз пра ўсё, што бачыў, аб чым чуў.

Саўка. А я не чуў.
Аксіння. Бо, мусіць, чухаліся пасля чаркі.
Саўка. Не, мая кабета, хутка кажаце! А што гэта такое, скажы мне шчыра, што з чалавека зрабіць можа звера, га?
Аксіння. Не ўгадаю ніяк.
Саўка. Ну, а гэта што: поўна бочачка круп, а наверсе струп?
Аксіння. Пэўне, мак.
Саўка. Не, макава галоўка!
Аксіння. Ану вас зусім!

**З'ява IV**

Тыя ж і Панас.

Панас. Пахвалёны вам, людзі добрыя!
Змітрок. Во, госць шаноўны! Як дужы, дзеду?
Панас. Мой сынок, ці мне ўжо дужацца! Чакаю толькі веку, дамавіны магільнай. Пабачыць бы сёлятняе збожжа, каб спачыць з ціхай мыслю аб спрацаваных унуках.
Саўка. Дзяды не зналі бяды, а ўнукі набраліся мукі!
Панас. Жыцце, чалавеча, заўжды было нялёгкае дзела, а калі хто яго споўніў, дык і паміраць лёгка. Не страшна смерць нікому, калі бог у яго доме. *(Да Змітрака.)* Ведаю, сынок, што ў тваёй хаце прабывае праўда і спакой... Ніколі не бачыў я, каб ты быў п'яны, не чуў, каб вы з Аксінняй сварыліся.
Змітрок. Можа, мы ціха сварымся, а дзед і не чуе.
Аксіння. А ўжо ж так.
Панас. Дзеда нялёгка абдурыць, дачушка... Людзі баюць, Змітрок, быццам ты іх цураешся, але я не даю таму веры.
Змітрок. Цураюся, калі яны прыходзяць да мяне з іхнімі дзялёжкамі, бо я не дужа лоўка лічу ні сваё, ні чужое дабро. А за другой радай не ходзяць да мяне пакуль што, але я чакаю... Многа перадумаў і думкамі гэтымі з адчыненым сэрцам падзяліўся б з грамадой нашай. Ты, дзеду Панас, Кажанеўская Галіна, ды яшчэ, можа, хто, нам трэба дапамагчы адзін аднаму. У сяле і граматы няма, але не ў адной грамаце дзела. Я бачыў гэтых граматных у гарадох. Што ў іх за душой? Мало-

цяць словамі, як цапамі на таку, а снапы ляжаць некранутымі.

Саўка. Далібог, праўда, каб я хварэў! Я чуў аднаго тут, у мястэчку. Як пачнець, і пайшоў, і пайшоў, і пайшоў.

Аксіння. Цішэй вы, сусед. Нядобра так кідацца, калі людзі гамоняць аб важнасці...

### З'ява V

Тыя ж і Галіна.

Галіна. Выбачайце, я к вам, пане Дзмітры. Тата просіць вас да сябе за тым самым дзелам, што вы ведаеце.

Змітрок. Ага, добра!

Аксіння. Сядайце, будзьце гасцёй.

Галіна. Дзякую, Аксіння. Ну, як ваша новая работа? Я знайшла вам рысунак, пойдзем, мне трэба нешта вам паказаць. *(Шэпчуцца ў другім кутку.)*

Саўка. Во, каб сюды маю жонку, дык бы яна такі шопат-лопат развяла, што толькі дзяржыся, Саўка!

Панас. Па галаве маркелка, а па мужыку жонка!

Саўка. Дык жонка па мне? Праўду, вашэць, кажаце...

### З'ява VI

Тыя ж. За сцэнай гоман. Уваходзяць сяляне, бабы, Цыганок.

Адзін. Мы к табе, Змітрок, хадзі на сход, важнае дзела трэба вырашыць!

Змітрок. Якое дзела?

Першы. А такое, што з фальваркам трэба скончыць! Даволі там панавалі. Прыйшоў час і нам панаваць!

Другі. Дабра ўсякага там даволі прыпасено, як у акружанай крэпасці.

Трэці. І коні добрыя ў стайні ржуць...

Чацвёрты. А што кароў па хлявох!..

Баба. Кожная па вядру малака дае. А скрыні аж трашчаць ад хустак ды кашуль галяндскіх. Будзе чым дзіцятка спавіць!

Другая баба. Пойдзем усёй грамадой!

Ц ы г а н о к. Хто не з мірам — той проці яго! Той нам вораг!

З м і т р о к. Дык я вам вораг! На гэта я з вамі не пайду! Што рабаваць? Гэта вашы вочы зайздросныя лічаць так, што там дабра на ўвесь свет. Як ваўкі згаладаныя кідаецеся на падаль! А што з той падалі? Усё пойдзець прахам! Мужыкі пачнуць біцца за коней, бабы пойдуць скубціся за анучы галяндскія і дзяліць іх па кавалачку. Адны чарапкі ды шматкі парасхопліваеце! Гідасць адна! І ці пасвятлее ж у вашых хатах, калі запаліце будынак? *(Паўза.)* Гэта Цыганковы выдумкі, што скрыні трашчаць ад дабра... *(Паўза.)* Браты мае! Ці такі ваш трудавы шлях? Не хадзіце па слядох тых, што рабавалі і збіралі ў скрыні свае! Так жывіце, каб саромеліся глядзець вам у вочы тыя, што без працы цягнуць з жыцця незапрацаванае імі дабро. Саромце іх працай сваёй і душой сваёй, як вы яе праняслі праз вякі нядолі! А пра пана Кажанеўскага скажу: учора я гаварыў з ім. Ён аддае сваю зямлю на мір, і колькі пакояў свайго дома пад чытальню народную, каб было нам дзе ўзімку пагутарыць аб чым... Прашу вас, паны-брацця, уважыць на гэта, абмяркуйце мае словы!

П е р ш ы. Яно быццам што і так.

Д р у г і. Можа, пакуль што... Змітрок праўду кажа...

Т р э ц і. Пан, ён сапраўды нядрэнны чалавек, а толькі...

Ц ы г а н о к. Ён ласкавы цяпер і добры!

П е р ш ы. Ці ён цябе калі скрыўдзіў?

Ц ы г а н о к. Ну і цалуйся з імі! Па мне, каб яны ўсе паздыхалі!

П а н а с. Свавольны ты чалавек! Сам ці жывеш папраўдзе? *(Да ўсіх.)* Я вам, як стары, кажу: Змітрок дрэннаму не навучыць.

Ц ы г а н о к. Ты ўжо здзяцінеў, стары!

П а н а с. Лепш быць дзіцянём, чымся воўкам.

С а ў к а. Чаго вы там у пана не бачылі? У яго і гарэлкі нямашака, далібог, праўда! Адны тыя кніжкі, далібог!

Ц ы г а н о к. Дык вы яму верце, што пан хоча нам добрае дзела зрабіць! Трымай кішэні шырэй! Аддасць ён зямлю! А што да пакояў, дык ім на кожнага трэба па дзесяць!

З м і т р о к. Я табе кажу, што гэта будзе дык бу-

дзе! Ты патрапіш весці народ куды хочаш, але не маеш права не даваць веры словам маім!

Галіна. Калі вы забылі пра братоў маіх, забыліся, як тата жыў з вамі — ідзіце, паліце, рабуйце! *(Хапаецца за галаву, выбягае.)*

Цыганок. Адкуль яна тут з'явілася? Нябось у маю хату не загляне! *(Паўза.)* Ану, каторым каля баб толькі сядзець, заставайцеся з ім. Смялейшыя за мной! *(Выбягае. За ім некаторыя.)*

*Заслона*

## ДЗЕЯ III

За вёскай.

### З'ява I

Галіна. Прыгожы куток! Гляньце, якія кветкі: пралеска, чыстацел, чарнабыль, вось лебяда... Колькі траў па нашых лугавінах, якія зялёныя, сачыстыя! Як гэта ўсё зрадзілася з душой у адно жыццё! А бярозка! Якое дзераўца так падобна да нашага краю і адзежай і ціхім поглядам!

Зміцрок. Бярозка выказуе жудасць і радасць існення. З якой пакорай стаяць яны на магілах, з якой прыветнасцю глядзяць паўз нашых шляхоў ва ўсякага, хто ідзе-брыдзе.

Галіна. Можа, гэта тое, што кажуць: і дым ад родных хат нам салодкі і мілы, але не, ці ж гэта дым? Я доўга жыла на моры і горы бачыла вышэй хмар... Да вы ведаеце, як прырода ў чужых краях багата, а ўсё ж яно, як чужое, і сэрца да яго не кладзецца.

Зміцрок. Я гэта зведаў. Прыйдзеш, бывала, да мора, сядзеш на камень, услухаешся... і здаецца: наша хвоя шуміць сваімі галінамі. Горы я любіў. Як велікаНы, стаяць яны і нешта думаюць, думаюць, а ля падножжа сцелецца жыццё.

Галіна. Якая ў вас душа!

Зміцрок. Не хваліце, пахвала псуе людзей. Што пра маю душу, дык яна ў мяне бывае горкая, як палын.

Можа, у Аксінні душа куды лепшая, бо яна, я ведаю, можа даравацъ, а я не магу.

Г а л і н а. Каму даравацъ?

З м і т р о к. Таму, хто б забраў у мяне маё золата, мае каменні самацветныя. *(Абнімае, цалуе Галіну.)*

Г а л і н а. Дзмітры, якая радасць.

З м і т р о к. А можа, грэх? Грэх, бо пры гэтым не ўсе радуюцца. Але не дуж сіліцца з ласкай, з гэтай блізасцю ад цябе... Так лёгка думаць з табой... Нават чорныя хмары душэўныя робяцца лёгкімі, як птушкі... Ластаўка мая вясковая!

Г а л і н а. Я бачыла так у сне... І во — ява! Так глыбока з вамі, з табой, проста, як з прыродай. Мне здаецца, ты з найлепшых кветак народа нашага, як казалі пра яго лепшыя кніжкі, лепшыя нашы людзі... Мала такіх, Дзмітры, мала! Так сумна і горка на душы, калі туманяцца ідэалы! Але вось сустрэўся ты... І адной зямлі мы з табой, тое ж аржонне ўзгадавала нас, праўда?

Відаць Ц ы г а н к а з-за дзерава. Паглядае, а пасля бяжыць.

З м і т р о к. Так, ластаўка мая, так! Вялікі жаль толькі, што не дано нам споўна спіць з крыніцы шчырай долі... не дано! Але няхай будуць гэтыя сустрэчы, ласкі дзеля таго, каб душа, адкрыўшыся адна перад другой, болей зрабіла для людзей.

Г а л і н а. Хіба ж твая душа не працуе для іх? Я бачыла, як слязіліся вочы сялян, калі ты чытаў «Адвечную песню». Маладыя сцішыліся, а старыя глядзелі на цябе так глыбока!

З м і т р о к. Не трэба хваліць, не трэба хваліць! Што ж бы я ім мог даць, каб не адкрытыя душы? Хвала богу, што прымаюць добрыя словы. Ды ці ж гэта мае словы? Гэта словы вечныя, спакон вякоў знаходжаныя тымі, што шукалі праўды паміж нядолі. Многа робіць у гэтым і твой бацька. Які найдасканальны, душэўны чалавек! Каб такіх болей было між вамі! На які шырокі шлях магчыма было б вывесці наш народ! Якая ўлада над сабой! І гэты чалавек рашыўся сыноў дзеля народа! Ні слова папроку не чуў ад яго! Пойдзем да яго, Галіна!

Г а л і н а. Пойдзем, рыцар мой, зараз. *(Цалуе.)* Во так, пойдзем пад нашымі бярозкамі. *(Чуваць пастуха.)*

### З'ява II

А к с і н н я *(ціха галосіць)*. Божа ж мой, божа ж мой! Завошта мне нядоля гэта, завошта? *(Садзіцца.)*

### З'ява III

П а н а с. Ціха, дачушка! Асушы вочкі свае. Я бачыў усё. Што рабіць? Адзін бог без граху. Можа, яна і пройдзе, гэтая атрута. Зірні ў люстра — паглядзішся, заглянь у сумленне — набядзішся...

А к с і н н я. Ой, дзеду, цяжка нешта на сэрцы, цяжка! Дыхання няма!

П а н а с. Ціха, ціха! Я табе паспяваю.

Вось на ніве сонца за гару заходзіць,
У ціхую ночку свету прадвяшчае.
А месячык бледны з ваблок выглядае.
Салавейка ў лесе песенькі разводзіць.
Гаспадары з поля ўжо брыдуць да хаты,
Гоняць прад сабою волікаў рагатых.
Пастухі скацінку ў сяло зганяюць.
Дзеўкі ёй вянкамі рогі прыбіраюць.
Ціха, доня, ціха!

### З'ява IV

Ц ы г а н о к. Стары ўжо ўцяшае, галосіш! Ці праўду я табе казаў! Спаткала свайго, ды не аднаго!

П а н а с. Кінь, чалавеча! Ці табе мала! Бачыш, як убіваецца?

Ц ы г а н о к. А ўсё за вашу святасць,— такіх, як ты ды Змітрок!

А к с і н н я. Навошта ты мяне падаслаў, Цыганок? Як злы дух нашаптаў мне і рашыў пакою!

Ц ы г а н о к. Дык выходзіць, я вінават!

П а н а с. Пойдзем, Аксіння, ужо месячык узышоў, пойдзем. *(Адыходзіць.)*

Ц ы г а н о к. Не маркоцься! Калі што спатрэбіцца, кажы. Усё зраблю, што загадаеш.

А к с і н н я. Як ты смееш слацца так перад маёй душой! Ты толькі цёмная цень ад таго чалавека. Не люб ты мне, і ніхто мне не люб у свеце! Змітрок, Змітрочак мой! *(Выбягае.)*

П а н а с *(брыдзе за ёй)*. Памажы божа гэтай кволай душы! Яна, як тая былінка на прыгорачку: і ціхенькі вецярок калыша яе і гне да зямлі!

### З'ява V

С а ў к а *(пяе)*. «Цецярук, цецярук, хадзі парыцца! Не пайду, не пайду, дзеўкі сварацца». А, здароў! Што ты тут робіш, чарнявы?

Ц ы г а н о к. Зрабіў бы, каб памаглі, а можа, яшчэ сам зраблю!

С а ў к а. Куды гэта ты зіркаеш?

Ц ы г а н о к. Вось туды, бачыш топалі высачэнныя каля садоў панскіх? Так бы, здаецца, іх з карэннем выкарчаваў!

С а ў к а. Чаму ты такі лядашчы? Ці табе гарэлкі не хватае, ці жонка табе не дагаджае?

Ц ы г а н о к. Чорта з два мне з жонкі ды з гарэлкі твае! Не гарэлка — дзярэлка твая душу дзярэць маю!

С а ў к а. А што табе душу дзярэць, цікава, далібог?

Ц ы г а н о к. Да гэты во глум! Глумяцца над намі, мужыкамі, а вы толькі буркалы пяліце. Уцямце сабе ў галаву, што ваш час прыйшоў! Праспіш, дык і загразнеш у балоце, век мужык мужыком! Слухайце толькі Змітрака ды Панаса. Аднаму ўжо ў дамавіну пара, другі ў святыя дабіваецца, а к дзеўкам ласціцца — дарма што жанаты!

С а ў к а. Хто, Змітрок?

Ц ы г а н о к. А няўжо ж ты!

С а ў к а *(смяецца)*. Вот дзела! Ну, пойдзем у вёску, ужо цёмна, а з табой нешта на дарозе таго, як яго...

Ц ы г а н о к. У мяне ёсць у кішэні шкляначка такога прасвятлення, што адразу як сонца засвеціць.

С а ў к а. Дапраўды? Пакажы!

Ц ы г а н о к. Сядай.

С а ў к а. Скуль ты яе дастаў? Ты ж, кажуць, няп'юшчы.

Ц ы г а н о к. Дзеля друга чаму не пастарацца. Раскладзём цяпло, пагутарым крыху...

С а ў к а. Далібог, брат, вот толькі калі гэтай атруты хваціш, дык чалавекам здаешся? А то якое наша жыццё?

Ц ы г а н о к. А мусіць быць лепшым, і працы не трэба было б такой крывавай, і грошы былі б у кішэні, і дзеўкі кахалі б.

С а ў к а. Мікіта, як цвярозы быў, дык у кажусе хадзіў, а як стаў гарэлку піць, мусіць абарванцам жыць.

Ц ы г а н о к. Асмель сябе, не будзеш абарванцам. Кожын з вас не горш за пана. Во гэтае вогнішча маленькае, толькі рукі грэе, а каб захацеў, мы б з табой такое разлажылі, што грэліся бы і грэліся бы давеку!

С а ў к а. Давеку, кажаш? Ды бы мы папякліся на ім!

### З'ява VI

З м і т р о к. Дзе гэта ты, Цыганок, чорная твая душа, такое цяпло збіраешся скласці? Вогнішча расклаў, а душу чалавечую заліваеш добрай вадзіцай!

Ц ы г а н о к. Да што там! Адкуль гэта вы з'явіліся?

З м і т р о к. Я адтуль, куды ты здужаеш прыйсці толькі як злодзей, бо ненавіснік ты ўсяго, што вышэй тваіх помыслаў! А куды іду, ці ты за мной пойдзеш, Цыганок?

Ц ы г а н о к. Ведама, святы турэцкі! Хадзі, Саўка, кінь яго, як ён кінуў сваю жонку!

З м і т р о к. Не важся памінаць аб ёй, груган! Вон ад мяне, не карчуй маю душу, бо натыркнешся на злобу!

С а ў к а і Ц ы г а н о к скрываюцца. Змітрок садзіцца каля агню, схіліўшы галаву.

*Заслона*

## ДЗЕЯ IV

### З'ява I

А к с і н н я *(спявае)*.

На лужочку, бліз лясочку,
Косы ўрад ідуць;
Траўка хіліцца пад імі,
Касары пяюць.

Птушка з лугу вылятае,
Журыцца, дрыжыць,
Песня птушачку пужае,
Сэрцайка баліць.

Сонейка заходзіць. Скора Змітрок прыйдзе, што-небудзь скажа такое ласкавае, дарма што працуе каля сваіх шнуроў, быццам і не кідаў вёску.

### З'ява II

Цыганок. Сумуеш усё? Эх, жанчына, не спадабала мяне, гордая! А дарма: усё адна-адной! А твой, пэўне, зноў дзе-небудзь каля фальварка?

Аксіння (*ціха*). Чаго ты такі крыўдзівы? Далося табе чужое сэрца! Ці ж ён у гульбе ўсё? Ці ж ён не арэ, не скародзіць?

Цыганок. Скародзіць твой Змітрок, а толькі не тое раллё. Я зноў спаткаў яго спазаранку ды зноў з той недаткнёнай. Ды ты не хапайся за сэрца, а лепш памяркуем, як гэта дзела парашыць.

Аксіння. Што табе трэба ад мяне, цёмная сіла?

Цыганок. Цёмная сіла? А хто табе нядолю дае, як не твая прасветлая сіла? Каб ты мне хоць славечка кінула, я б гэтай ноччу пайшоў туды адзін, ці я не здужаю сернікамі чыркануць ці цяпло раздуць?

Аксіння. Што ты кажаш?

Цыганок. А тое, што чуеш! Ці любіш жа ты панну Кажанеўскую?

Аксіння. Не муч, адступіся!

Цыганок. Аступлюся, каб пайсці спаліць гняздо Ґаліны!

Аксіння. Спаліць гняздо Ґаліны? Як жа ты... Што ты кажаш?

Цыганок. Не хочаш?

Аксіння. Адступіся! Во, і Змітрок ідзе!

Уваходзіць Змітрок.

Цыганок. Кахайся, баба, кахайся, а толькі ноч будзе светлая сёння!

### З'ява III

Змітрок. Іду гэта я ад гумна, аж заяц праз дарогу ды ў аўсы — скок! Маладзенькі такі, сівенькі!

Аксіння. А ты б яго за вушкі ды ў хату: мы б яго і згадавалі. Ай, Змітрочку, то ж нявaрта, калі заяц дарогу перабяжыць, не к дабру!

Змітрок. Каб толькі людзі не перабягалі, бо на іх заўжды спатыкаешся... Сядзем на прызбачку, нешта

не ахвота ісці ў хату, душна там, а тут не-не дый і набяжыць вецярок з лугоў. Душна, ноч будзе гразовая.

Аксіння. А дождждыку трэба, Змітрочку?

Змітрок. Трэба дажджу. Радасць бачыць, як усё рунее з-пад тваёй рукі! Кожная спрацаваная жменя ў полі, на божай волі, усходзіць збожжам. Каб і тут, на хатах, так было — усхадзіла збожжа!

Аксіння. Скора і з сярпом пойдуць бабы, і я з імі. Дужа люблю, Змітрочку, зажынкі. Як пойдуць з поля са снапом ды з песнямі.

Змітрок. А ты першая заспявала ў мяне! Ніхто так не зальецца па-над жніўём, як ты.

Аксіння. А я пры табе саромецца буду.

Змітрок. Во як! Ну, з табой паспявае Галіна. Ці ведаеш, Аксюта, дарма што паненка, а якая ў яе ўвага да народа, да яго жыцця!

Аксіння. Ты з ёй гаворыш штораз!

Змітрок. Не то што, а як патрэбна бывае сустрэць яе, каб падзяліцца думкамі, каб парадаваць друг друга, як лепш зладзіць жыццё на сяле.

Аксіння. Разумею, Змітрочку, разумею. Ці ж я магу стаць з ёй уровень! Але ж, калі ты не са мной, так нешта брыдка, і сум бярэць, і лукавы нешта шэпча...

Змітрок. Лукавы... А ты адгані яго. Што гэта? Маланка?

Аксіння. Не, гэта не маланка.

Змітрок. А што?

Аксіння. Во, зноў бліснула на небе ў тым баку...

Змітрок. Стой...

Аксіння. Змітрочку...

### З'ява IV

Саўка. Гарыць панскі двор! Усё Зарэчча кінулася туды...

Змітрок. Зладзеі! У каго паднялася рука! *(Парываецца.)*

Аксіння. Не йдзі, родненькі, заб'юць цябе!

Змітрок. Хай заб'юць! Ці магу я глядзець тут, калі тамака паляць людзей! Стары адзін з Галінай! Як яна будзе з яе душой!

Аксіння. З яе душой!

Змітрок *(не слухае)*. Яна пытала ў мяне: ці прыйду, калі страсецца бяда. І я даў маё слова — прыйду!

Аксіння. Змітрочку, як палае сэрца ў мяне, душна!

Змітрок. Сэрца ўцішыцца, а, бач, якія языкі агнявыя! *(Бяжыць.)*

Аксіння. Змітрочку! Пабег ад мяне! *(Бяжыць у другі бок.)* Кінуў, кінуў!

### З'ява V

Саўка. Во дзела дык дзела.

Панас. Хто запаліў?

Саўка. А ці хто яго ведае! Пэўне, Цыганок.

Панас. Гэты чалавек! І народ пабег з ім, ці тушыць, ці рабаваць. А дзе Змітрок?

Саўка. Толькі што ўгрунь кінуўся, у той бок, а Аксіння ў другі.

Панас. Куды пабегла Аксіння?

Саўка. Во сюды, нешта да рэчкі.

Панас. Чаму ж ты не кінуўся за ёй, чалавеча! Стаіш, як пень пры дарозе, або тыкаешся, як сляпое пічаня, калі ўп'ешся. *(Шпарка выходзіць.)*

Саўка. Далібог, дзядзька Панас, не піў сёння нічагусенькі! Не дае веры, што вы скажаце!

### З'ява VI

Адзін. Глянь, во сыпанулі іскры!

Другі. Згарыць усё!

Трэці. Толькі коміны застануцца сярод попелу.

Чацвёрты. Яно яшчэ доўга будзе тлець, бярвенне ўсякае, трухлявае. Бач, быццам тухне. Во зноў занялося!

Баба. Пайду барзджэй, дужа цікава, як гарыць панскі двор.

Другая баба. І я з табой, Марынка. Бяжым угрунь, а то зараз патухне, не пабачым нічога.

Першы. А, трасца вам, трэба бачыць! Сядзіце пры хатах.

Другі. Усё сяло там, пойдзем і мы.

Трэці. Пасабляць? А ці ёсць жа там вада, каб затушыць?

Чацвёрты. Дурны! Дык жа ёсць дабро ў скрынях, трэба яго ратаваць! *(Смяюцца, выходзяць.)*

### З'ява VII

З м і т р о к. Што зрабілася, дзе Аксіння? Чаго гукнулі мяне? Змарыўся! Тушыць цяжка, паліць куды лягчэй. Адзін чалавек можа спаліць цэлы горад, а каб зберагчы адну хату, трэба во якая грамада! Дзякую вам, браты, папрацавалі і залілі крыху... Кніжак жаль. Але больш засталося, хваліць богу... І як гэта чалавечая рука падымаецца нішчыць труды, працу колькіх пакаленняў! Дабро было б муры! Дык бог з імі! Муры не штука змураваць зноў шпарка. А ці ж выведзеш талакой тое, што прадумана ў помыслах, прахворана душой! Кнігі!

А д з і н. Гэта Цыганкова работа.

Д р у г і. Няўжо ж! Каб яго толькі знайсці. Уцёк злодзей!

З м і т р о к. Дзе Аксіння? *(У акно.)* Аксіння! Дзе ты, родная мая, захавалася? Можа, вячэраць гатуеш? Я ўжо вярнуўся, бач, які спрацаваны. Жывой вадой лілі на галаўні, ад самай рэчкі цягалі, зараз зноў пойдзем.

### З'ява VIII

Уносяць А к с і н н ю.

З м і т р о к. А-а! Што гэта? Што, каго нясуць?

П е р ш ы. Твая Аксіння.

Д р у г і. Ледзьве выцяглі,— ды ўжо спазніліся. Каб хто адразу пабег.

П а н а с. Я пабег, але якія мае ногі!

З м і т р о к. Не ведаю, што кажаце вы тут! Пытаю, каго вы прынеслі? Можа, гэта тая здань цудовая з ракі? Пусціце мяне. То яна, Аксіння! Вочачкі яе, косачкі! Аксіння, Аксіння! Гэта ты? Што ты зрабіла з сабой! Дык во як патушыла сваё сэрца! Чаму ж ты маўчала, чаму толькі раз прагаманілася, што палае яно ў цябе? Жонка мая мілая! Чаго дала волю сэрцу свайму? Ці не казаў табе, што не адступлюся ад цябе ніколі!

П а н а с. Яна любіла цябе больш, чым магла ўвабраць у сябе. Не падобна яна была да нашых баб. Інакшая якасць душа яе. Царства ёй нябеснае і астаўленне грахоў!

З м і т р о к. Жонка мая, жонка мая! Во як! Мысліў вярнуцца ў вёску к ціхаму жыццю! Я так змарыўся там, у той барацьбе, у чужых краях... А бачу, і тут вайна,

яшчэ горшая! Там ірваліся гранаты, тут ірвуцца сэрцы людскія. Там вораг пускаў удушша, і тут сцелюцца кругом атрута, атрута злобы, нянавісці, неўразумення! Там палілі з гармат, тут паляць сернікамі. І тая самая вада, што сцішае агонь, залівае вочы родных людзей! Ты спіш, мая жонка! Дык я раздую табе цяпло ў коміну, каб сагрэліся твае ногі і рукі! Я запалю гэтую хату, калі не сагрэць цябе! Там, на тым канцы, тлеліся кніжкі, тлелася навука. Хай жа запаліцца і з гэтага канца! Што тут! Бярвенне адно! Ці жыць мне ў гэтай хаце без цябе? Спалю яе!

Панас. Стой, сынок! Адыдзіся! Ці ты не Змітрок? Ці ты забыў ад гора свае словы? Ці не бачыш, як глядзяць на цябе твае браты-мужыкі? Можа, выпаўзе, як вуж той, Цыганок і будзе пахваляцца, пабачыўшы слабасць тваю. Сынку мой! Гора тваё вялікае, але і ты не маленькі, а дужы душой!

Змітрок. Не, я ўжо не дужы...

### З'ява IX

Галіна. Дзмітры! Што тут, Дзмітры? Мне казалі... Я кінула тату там... Агонь сцішыўся, сяляне працуюць добра, як ты заказаў... Дзе яна? Ці праўда гэта?

Змітрок. Во яна! Во гэта і ёсць праўда жыцця!

Галіна. Божа ж мой!

Панас. Нашыя шляхі яшчэ не закарчаваліся, не закалодзіліся. Пойдзем у свет. Ад вёскі да вёскі, ад хаткі да хаткі ісходзім па краю нашаму і будзем казаць пра сваё і чужое гора. Людзі пачуюць, што кажам мы ад сэрца крывавага, і праз тое, можа, дадуць веру слову і прасвятлеюць душой.

Галіна. Так, дзеду! Дзмітры, хадзі сюды, дайце рукі. Во як! Крапчэй возьмемся, і ніякае зямное няшчасце не зломіць нашых сіл, нашай веры ў святы ідэал жыццёвай праўды. Яна будзе жыць у нашай душы, як будзе жыць памяць аб нашай Аксінні. І прасіяе гэта праўда хоць праз век-вякоў!

Змітрок. Ачнуўся я... Дык зноў гэтай сцежкай, што прыйшоў сюды, пайду з вамі?

Панас. З намі, сынок! Во, бач, які посах добры ў мяне!

Змітрок. А ў цябе, Галіна, ёсць посах ды лапці?

Галіна. Будуць і ў мяне лапці, а зносяцца, босай будзе лепш хадзіць па пясочку нашаму.

### З'ява X

Вядуць Цыганка.

Усе. Забіць яго, забіць!

Змітрок. Не трэба! Помста не можа іскупіць злога дзела, а дабро ад яе таксама не ўзойдзе, бо дабро ўсходзіць, калі ціха на душы... Аксіння мая! Яна застанецца тут, адна, у дамавіне пачыць, а мы пойдзем к людзям, можа, яшчэ сустрэнем такога Цыганка, дык распутаєм і яго... А калі зморымся, вернемся сюды, у нашу вёску, і пачыйма з ёй радком на могілках... Праўда, Галіна?

Галіна. Праўда, Дзмітры!

Цыганок *(кідаючыся к Змітраку)*. Не, забіце мяне, бо цяжка мне жыць!

*Заслона*

*Канец*

*1918 г.*

# НАД НЁМАНАМ

*У 6 дзеях і 9 малюнках*

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Бронік — ляснік, 45 г.
Алена — дачка яго, 22 г.
Стась — нямы хлопец.
Андрэй Баравы — правадыр паўстанцкага аддзелу, з рабочых, 25 г.
Марына — яго матка.
Кастусь — таварыш Андрэя.
Мацей Лысёнак — стары селянін.
Косця — дачка яго, 18 г.
Тэкля Лісоўская — дачка асадніка, бойкая, рашучая паненка.
Вацлаў Ржэвуцкі — афіцэр, з сялян, прыгонны.
Шэцкі — граф, афіцэр.
Бжэзіцкі — палкоўнік.
Антон Брыль — жаўнер, з польскіх сялян.
Дарнілоўскі — лоўчы, 45 г.
Граф Гоцкі — валадар маёнтка, стары.
Ксёндз Юрага, 30—35 г.
Кавецкая Зафья — вучыцелька.
Лея — старая яўрэйка.
Барыс — сын яе.
Афіцэр дэфензівы.
Прадстаўнік ППС.
Жабрак, жабрачка, інвалід, паліцыянт, сяляне, жаўнеры, жандары.
Хор, балет.

Дзеі адбываюцца ў Заходняй Беларусі ў нашы часы *.

## ДЗЕЯ I

Астравок на Нёмане. Збоку леснікова хата. Садок. Кусты. Відаць кавалак рэчкі. Час пасля абеду. Пры адкрыцці заслоны каля рэчкі клапоціцца ля чоўна Стась, з хаты чуваць песню. Час ад часу свіст за рэчкай. Трывожныя водгукі.

### З'ява I

Алена *(пяе)*.

Каб я крылы лёгкай птушкі
Салавейкі мела,
Ў гай вясёлы, гай зялёны
Я б не паляцела...
Я б з песняй паляцела
У горад той далёкі,
Дзе ёсць дом, пануры, сумны,
Цёмны і высокі...
На акне закрыжаваным
З песняю я б села
І астрожнікам няшчасным
Сваю песню спела... **

*(Выходзіць з хаты. Да Стася.)* Стась, а Стась! Ты ж, братачка, глядзі на той бок, каб не прамінуць каго. Ага! Тварам, тварам на той бок, вось так. Слаўны ты хлапчына, лепш за іншага языкастага. *(Стась смяецца.)* Так, так. Зразумеў, не? Ну і добра. Хутка татка павінен варочацца, татка, зразумеў цяпер? Ну і добра. *(Адыходзячы ў кусты, нібы да Стасіка.)* А цяпер я — у ваду. Ты ж, Стасечка, не вярні ў мой бок галавы, не тое... Можа, загаворыш яшчэ... Не глядзі, не глядзі — купацца буду... *(Прабягае міма да вады. Спявае купаючыся.)*

---

* У часы Пілсудчыны.
** Словы К. Буйло.

### З'ява II

Косця і Тэкля з таго боку клічуць.

Косця. Давай Стаська з чоўнам!

Алена *(ад рэчкі)*. ...Ого! Я зараз, Косця! Сюды ў рэчку. *(Стась перавозіць Косцю з Тэкляю.)*

Косця. Аленка! Дзе ж ты?

Алена *(з-за кустоў)*. Хадзіце сюды, я апранаюся...

Косця. Хіба нікога з мужчын на беразе?.. Адважная ж ты, Аленка... Хадзі сюды, я з госцяй...

Алена *(падыходзячы)*. З мужчынскага роду тут толькі Стаська, ну, ён і ў той бок не глядзіць, а мой дзядунька-Нёман — нястрашны! Добры дзень, Косця!

Косця. Гэта Тэкля, дачка нашага суседа, што з Польшчы. *(Вітаюцца.)*

Тэкля. Дзіўна вы гаворыце, Косця,— з Польшчы! Нібы тут не Польшча?

Алена. Тут... Улада польская, вядома, а толькі...

Тэкля. Панна...

Косця. Алена, або Алёнка, як мы яе завём...

Тэкля. Я прыехала з-пад Плоцку, так. Але ж тут и бачу тую ж Польшчу, тыя ж касцёлы, тых жа паліцыянтаў, тое ж войска...

Алена. Так? І тыя ж звычаі, тую ж мову, панна Тэкля?

Тэкля. Ну, ензык-то тут, праўда, папсаваны, я не вем, цяжка размаўляць з сялянамі, з хлопнем... Але ж так не павінна быць... Трэба вучыць дзяцей. Вучыцелька ест, здаецца?

Алена. Вучыцельку прыслалі, нейкую дэвотку, а нашага маладога настаўніка выслалі аж пад Кракаў... Добрая справа.

Косця. Праўда, панна Тэкля, вы яшчэ тут усяго не ведаеце,— пажывіце!

Тэкля. Ну, так. Нехта свісціць за рэчкай?

Косця. Хлопцы нашыя.

Тэкля. У вас тут пекната, панна Алена. Нейкі чароўны куточак, кветкі... Відаць, што маладая гаспадыня. Мамы няма, здаецца?

Алена. Маці памерла. Я не памятаю яе. Гадаваў бацька. *(Да Косці.)* Што ў вас на вёсцы чуваць? Даўно не была там.

Косця. Ды нішто. Кастусь пазнаёміў мяне з Андрэем, сваім прыяцелем...

А л е н а. Ну і што, хто ён такі?
К о с ц я. Цётку Марыну знаеш, што ў школе служыла?
А л е н а. Памятаю. Яна да нас прыходзіла.
К о с ц я. Дык Андрэй яе сын, нядаўна прыехаў, служыў недзе на фабрыцы, у Лодзі, ці што...
А л е н а. Ну і як ён, цікавы хлапец ці так сабе, звычайны?
К о с ц я. Пазнаёмішся, пабачыш.
А л е н а. Ну, тое няхутка будзе.
К о с ц я. Можа, і хутка. Ён збіраецца сюды, да вас.
А л е н а. Ого, які спрытны...
Т э к л я *(да Алены)*. Вам хіба такія кавалеры трэба, панна Алена?
А л е н а. Адкуль вы ведаеце, што мне наогул патрэбны кавалеры, дзіўна!
Т э к л я. Такая пекная дзяўчына! О, каб мне такая пекната! Ну, не сярдуйце, будзем сябраваць, добра?
А л е н а. Я сябрую тугавата, праўда, Косця?
К о с ц я. Нас скончыла вучылішча адзінаццаць дзяўчат, а толькі во да мяне Алёнка, здаецца, падышла крыху бліжэй.
Т э к л я. Во вы якая?
К о с ц я. Але ж яна добрая і вясёлая, не тое што...
А л е н а. Не тое што сава на нашым востраве, ха-ха-ха!
Т э к л я. Дзе ж вы вучыліся?
А л е н а. Скончыла з ёю нашу школу ў Міры, а пасля ў Вільні два гады вучылася ў гімназіі.
Т э к л я. Вядома, у беларускай? Ха-ха-ха!
А л е н а. Вядома, у беларускай...
К о с ц я. А бацька ўзяў яе дадому, цяжка яму было аднаму гаспадарыць тут...
А л е н а. Бацька не браў мяне — самой сюды захацелася.
Т э к л я. О, то вы з асветай! Па-польску будзем размаўляць?
А л е н а. Я не ўмею па-польску.
Т э к л я. Не веру! А з якімі кавалерамі пазнаёмімся! Што вашыя Андрэйкі ды Кастусі!
К о с ц я. Панна Тэкля, вы нашых хлопцаў не чапайце!
А л е н а. Ды вы іх не ведаеце, дзіўна!
Т э к л я. Ну, добжэ, добжэ. Ах, якія вы заядлыя

«беларусінкі». Прыходзьце ў маёнтак. Я вас пазнаёмлю з польскімі кавалерамі. Якія ёсць між іх, як цокне шпорамі... дзінь, дзінь... А вочы! А як умеюць цалавацца... во сюды, у шыйку. Ах, што я вас псую — вы ж яшчэ дзяўчатачкі!.. Асабліва панна Алена — гэты астравочак, рэчачка... Ха-ха-ха!

А л е н а. Вы ж, мусіць, таксама не замужам?

Т э к л я. Я? О, я! Доўгае апавяданне. Калі-небудзь, калі бліжэй пазнаёмімся, раскажу...

А л е н а. У маёнтку я не бываю.

К о с ц я. Вы іншая справа, Тэкля, вы — дачка асадніка...

Т э к л я. Мой татусь таксама працуе каля зямлі, як і ваш, панна Косця.

А л е н а. Але ж мы не бываем у маёнтку, а вы, відаць, свой чалавек там.

Т э к л я. А кіньма гэтае!.. Не хачу сварыцца з вамі з першага разу. Мне сумна тут, няма калежанак, і я буду бываць у вас, Алена, я вас зацягну да нас, да таткі, і там пазнаёмлю з Шэцкім, паручнік такі, граф...

К о с ц я. Так, такія панічы нам не ўпару, праўда, Аленка?

А л е н а. Вядома, не!

Т э к л я. Якая розніца? Дзяўчына, асабліва пекная, во як вы, Алена...

А л е н а. Кіньце, панна Тэкля, мне непрыемна... Ды наогул... Досыць даводзіцца чуць гэтае глупства.

К о с ц я. Ад лоўчага Дарнілоўскага, напрыклад...

А л е н а. Я пайду.

Т э к л я. Стойце, вы, пякнотачка! Я хачу вось што сказаць: дзяўчына, кабета нават, можа зрабіцца яснавяльможнай пані, графіняй, княгіняй, мільярдэршай... біскупшай. Ха-ха-ха! Калі захоча. Разумееце, дзяўчаткі, калі за-хо-ча!

А л е н а. Глупства якое! Няма тут чаго разумець! З таго боку клічуць! Татка варочаецца. Стась, Стась, дзе ты!

Т э к л я *(да Косці)*. Я знікаю. Калючая панна Алена!

К о с ц я. Няпраўда, панна Тэкля. Пабачыце!

Т э к л я. На першае знаёмства годзі. Да пабачэння, пякнотачка!

А л е н а. Калі панна Тэкля будзе зваць мяне пякнотачкай, я буду вас анёльчыкам.

Тэкля. Можа, лепей — д'ябалёначкам?..

Алена. Д'ябалёнак, ён крыху вышэй...

Тэкля. Вышэй? Ай, Алена! Ну, я хаваюся ў кусты, не хачу спаткацца з вашым татам. Ён як лось, кажуць. *(Адбягае, хаваецца.)*

Алена *(да Косці)*. Навошта ты, Канстанцыя, прывяла яе? І сама ссябравалася?

Косця. Прычапілася, разумееш, а мне хацелася да цябе сёння. Хацелася пра Кастуся пагаварыць, пра ўсё...

Алена. Дык прывяла гэтую... паненку... дачку асадніка... Добра!

Косця. Ну, суседзі ж цяпер, што ты зробіш, Алёнка!

Алена. Я пайду, татку падвячорак гатаваць...

Косця. І я з табой, хай яна тут сядзіць!

Алена. Не, прабачай! Прывяла, дык выводзь яе! Прыходзь адна! *(Выходзіць.)*

Косця *(пайшла шукаць Тэклю)*. Панна Тэкля!

### З'ява III

Бронік і лоўчы Дарнілоўскі.

Дарнілоўскі. А добра тут у цябе, Бронік, што ні кажы! Кожны раз, як трапляю, нікуды далей не ахвота. Ах, кум-сонца! Камарынае мяса... А дзе ж дачка? Гм... гм... *(прыхарошваецца.)*

Бронік. Мусіць, у хаце. Мо зайдзеце?

Дарнілоўскі. Не, тут добра, тут добра, гм... гм... *(Прыглядзеўшыся ў кусты.)* Нешта нібы кабеткі ці дзяўчаткі — хустачкі там, кум-сонца! Бронік, ты, гм... гм... стары, а хустачкі ходзяць сюды.

Бронік *(курыць)*. Не да мяне, да дачкі. Алёнка!

Алена *(з хаты)*. Тут я, татачка. *(У акно.)* Зараз будзе падвячорак. Добры дзень, пан лоўчы!

Дарнілоўскі. А, дзень добры, дзень добры, паначка мая Аленачка! Хто гэта ў вас там у кустах мітусіцца, камарынае мяса?

Алена. Гэта Косця, дзяўчына адна, заходзіла ды прывяла панну Тэклю.

Дарнілоўскі. Тэклю? Ці не дачку асадніка?

Алена. Так, здаецца.

Дарнілоўскі. Выхаваная дзяўчына, выхаваная.

Так, так, вам, панна Алена, добрая калежанка, добрая, гм... гм!

Бронік. Яна лепей сябруе з лесам во гэным ды з Нёманам: яна ў мяне такая! *(Курыць.)*

Дарнілоўскі. А не добра то, не добра, панна Алена! Трэба да людзей... а то ў лесе... Камарынае мяса.

Алена. Я зараз. *(Хаваецца ў акно.)*

Дарнілоўскі. Н-да, кум-сонца, пане Браніслаў... камарынае мяса... Ведаеш што? Я запісаўся ў саюз «Стшэльба», ну, «Стрэльба» па-простаму, і табе раю, н-да. Тры злотых у год узносу, гэта глупства, а маеш выгоды і правы вялікія. Раю табе, Браніслаў, запісацца.

Бронік. А навошта мне гэта, пане лоўчы? Няма куды грошы падзець? Хай, перапрашаючы, паны запісваюцца.

Дарнілоўскі. Глупства гаворыш, Бронік! То ж дэмакратычны саюз, камарынае мяса! Туды не кожны і пан трапіць! То ж мы таксама, каб зямлю сялянам, гм! І іншае там, па праграме, праграм такі, камарынае мяса...

Бронік. Але ж, перапрашаючы, у тое камарынае мяса мала хто з нашых сялян запісваецца. *(Курыць.)* Ды ніхто, можна сказаць...

Дарнілоўскі. Якое камарынае мяса? Што ты вярзеш? «Стшэльба» завецца наш звёнзак, звязак.

Бронік. То і яно, што стрэльба, а ў каго страляць будзе?

Дарнілоўскі. Звязак мае на мэце бараніць дзяржаву польскую, сучасны лад, камарынае мяса, н-ну. Кум-сонца!

Бронік. Лад цяперашні? Парадкі тут.

Дарнілоўскі. Ну, не без таго, каб трошку змяніць тое-сёе, камарынае мяса!

Бронік. Камарынае мяса тое наўрад ці зменіш так сабе, вашым саюзам... адным...

Дарнілоўскі. Што ты кажаш? Не разумееш нічога ў палітыцы! Я не красамоўца, каб растлумачыць табе ўсё. На вось кніжку, кум-сонца! Пачытай дый пішы заяўку, я паклапачуся, паручуся за цябе. Ты сумленны ляснік. Н-нда, кум-сонца! Я, брат, просты чалавек, хоць і шляхціч... Я...

Бронік. Алена!

Алена *(нясе страву)*. Ціху, ціху, татка, нясу.

Дарнілоўскі. На татку так? Ой-ой! Што ж ты, кум-сонца, дазваляеш?

Алена. Ешце, пане лоўчы!

Дарнілоўскі. Ды што ешце, ешце, камарынае мяса! Можа, я выпіць хачу. Вось вам што! Ага!

Алена. Проша, калі ласка! Зараз зубровай прынясу. *(Ідзе ў хату.)*

Дарнілоўскі. Сумленны ляснік, грабскі лес сцеражэ добра.

Бронік. Ніколі граб не садзіў гэтага лесу, ані бацька яго, ані дзед.

Дарнілоўскі. Што ты хочаш сказаць, Бронік? Лес грабскі, камарынае мяса!

Бронік. То-та ж, што камарынае мяса. Хто «камарынае мяса», а хто сам з мясам, пане лоўчы!

Дарнілоўскі. Сцеражыся, Бронік! Мы на грабскай службе.

Бронік. Я пільную лес, і ўсё! Ён тут стаіць з дзядоў-прадзедаў, і ўсё! І трэба яго ўнукам перадаць — і ўсё!

Дарнілоўскі. Во які ты, з балдавешкай, кум-сонца! Тады ўжо не ведаю, ці варта табе запісвацца ў «Стрэльбу».

Бронік. Я маю сваю стрэльбу, пане лоўчы!

Дарнілоўскі. А калі цябе прымусяць запісацца? Альбо так, камарынае мяса, так, тады што?

Бронік. Са службы далоў? Ха! Лясы ўсюды знойдуцца!

Алена *(з бутэлькай)*. Піце, пане лоўчы.

Дарнілоўскі. Адзін? Ніколі, панна Алена! Браніслаў, налівай, кум-сонца.

Бронік. Што ж, выпіць можна... за вас, пане лоўчы. *(П'е.)*

Дарнілоўскі. А я за вас, з балдавешкай, пшэпрашаёнц, панна Алена. Во! А цяпер вы... за каго?

Алена. Я не п'ю.

Дарнілоўскі. Ну, не! Вы абразіце госця з балдавешкай! Так не добра!

Алена. За нашы лясы, во! *(П'е.)*

Бронік. Добра, дачка, добра!

Дарнілоўскі. За лясы? Я, Браніслаў, скажу табе проста. Я твой начальнік, граф мае да мяне павагу, чорт бяры, чалавек я...

Алена. З балдавешкай, хе-хе-хе!.. Прабачайце, па-

не лоўчы, але ж вы смешна неяк гаворыце: «камарынае мяса» ды «з балдавешкай».

Дарнілоўскі. Ну, каб вы ды не дзяўчына, ды не дачка яго, ды не Алена, якую я... якая мяне... Камарынае мяса з балдавешкай, чорт мяне бяры... Ха-ха-ха! Прывычка, благая прывычка. Яшчэ маладым гуляючысь, пачаў неяк дадаваць гэтае слаўцо... хе-хе-хе!

Алена. Ну, ды глупства, даруйце!

Бронік. Вы нешта хацелі сказаць.

Дарнілоўскі. Ага, так... Дык я кажу: чалавек я ўдовы... дачку выдаў замуж, ну, дык вось аднаму... як бы гэта сказаць, аднаму з балдавешкай...

Алена. Ха-ха-ха!

Бронік. Вядома, сумна аднаму, хоць бы і са стрэльбай, што і казаць! Я сваю Алёну з Вільні выклікаў.

Алена. Сама прыехала, татка.

Бронік. Вядома, сама, вядома! Сумна аднаму, што і казаць.

Дарнілоўскі. Я і кажу... камарынае мяса...

Алена. Трэба пана лоўчага сватаць, так?

Дарнілоўскі. Толькі вы не бярыцеся ў сваццi, не, не, пшэпрашаёнц! Не!

Алена. Не, не можна? Чуеш, татка?

Бронік. Ды чую, чую... чаму ж гэта так, пане лоўчы?

Дарнілоўскі. А таму, што... панна Алена не павінна нікога мне сватаць... а сама... а сама... *(У гэты момант чуваць на рэчцы песню, спачатку здалёку, пасля бліжэй.)*

Ах ты, Нёман-рака,
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу мужыка
Ў свае воды лавіў.

Дарнілоўскі. Добра спяваюць... чорт бяры, кумсонца! Хто гэта?..

Алена. Плытнікі, плыты гоняць, прыгожая песня. Не перашкаджайце.

Дарнілоўскі. А калі яны мне перашкодзілі справу зрабіць, чорт бяры... камар... Н-н-да!

Алена. Ну, ціху, пан Дарнілоўскі! Слухайце лепш. *(Чуваць песню бліжэй.)*

Як стаяў над табой
Сын нядолі худы

І над цёмнай вадой
Пяяў песню жальбы...

Алена. Слаўныя словы гэтай песні. *(Дэкламуе.)*

Як стаяў над табой
Сын нядолі худы
І над цёмнай вадой
Пяяў песню жальбы...

Бронік. Пра нашу рэчку пяецца... Пра Нёман.

Дарнілоўскі. Н-да... сын нядолі, сын нядолі... Гэта, мусіць, пра прыгонныя часы пяецца...

Бронік. А мо і пра нашыя...

Дарнілоўскі. Н-ну, ну, кум-сонца, глупства... не думай так, Браніслаў.

Алена. Так усе тут думаюць, пане лоўчы. Пяяў песню жальбы...

Дарнілоўскі. Чорт бяры, камарынае мяса з балдавешкай! Люд тутэйшы неспакойны, то так!.. Але ж тут у цябе, Бронік, як у капеле... добра, ціха! Ну, ды й не з пужлівых... На злачынца якога, крамольніка, як казалі калісь у Расіі, маю вось што! *(Паказвае рэвальвер.)*

Алена. Ха-ха-ха! Ого, страшна!

Бронік. Мала гэта пасобіць супраць добрай стрэльбы.

Дарнілоўскі. Так, так, каб не стаялі ў мястэчку ды ў маёнтку жаўнеры з балдавешкай, мой Браніслаў! Н-да! *(Да Алены.)* Куды ж вы, паненка, я ж недагаварыў?

Алена. Другім разам, пане Дарнілоўскі. Справа ёсць. *(Выходзіць.)*

Дарнілоўскі. Вось табе маеш, кум-сонца. Ну, Браніслаў, можа, адпачыць дзе пакажаш?

Бронік. Што ж, можна пад паветку, сена крыху ёсць, а то і тут, у садзе...

Дарнілоўскі. Не, пад паветку тады, камарынае мяса.

Бронік. Проша за мной. *(Выходзяць.)*

### З'ява IV

Паступова робіцца цямней. Вечарэе. Алена выходзіць у сад. Ходзіць, напяваючы. З кустоў, ад рэчкі, вынырвае фігура Андрэя Баравога. Нейкі час глядзяць адзін на аднаго.

Алена. Хто такі? Вас перавезлі?

Андрэй. Ніхто мяне не перавозіў. Сам. З плытнікамі я. Гэта тут хата лесніка Броніка?

Алена. Тут. Вам да яго?

Андрэй. Можа, да яго, можа, да вас.

Алена. Ну што ж, у чым справа?

Андрэй. Я тут нядаўна. Цётку Марыну ведаеце? Я яе сын. Пра вас гаварылі мне Кастусь і Косця.

Алена. Андрэй Бараві?

Андрэй. Так маё імя і прозвішча...

Алена. Сядайце... во тут, ці што, а то ў хату пойдзем.

Андрэй. У хату пасля. Добра тут у вас, мне казалі, зацішна...

Алена. Вы работалі ў горадзе, у Лодзі, здаецца?

Андрэй. Работаў і ў Лодзі...

Алена. На фабрыцы ці так дзе?

Андрэй. Троху на фабрыцы, троху і так...

Алена. Хочаце гаварыце, хочаце не. Я запыталася, каб крыху знаць вас, ведаць, аб чым гаварыць...

Андрэй. А вы тут нідзе не... работаеце?

Алена. Вяду гаспадарку во тут, у таты, ён ляснік...

Андрэй. Ведаю, я не аб тым. Я пытаюся пра работу грамадзянскую, палітычную.

Алена. Гаспадарка таксама палітыка, праўда?

Андрэй. Цяпер вы мне не адказалі — квіты! Ха-ха-ха!

Алена. Квіты.

Андрэй. Ну добра я вас разумею. Наогул тут у вас ёсць з кім гаварыць, моладзь, вядома,— хлопцы, дзяўчаты. З першых слоў адчуваецца,— матэрыял ёсць. Толькі згуртаваць...

Алена. Ну, што ж, гуртуйце!

Андрэй. Гэта само сабой робіцца, штучна няварта, дый цяжка, можна памыліцца... Я не пра вас, а так, наогул.

Алена. Разумею. Але відаць, што вы даўно не былі ў нашых краях. Неасцярожны.

Андрэй. Неасцярожны? Ха-ха! Не вас жа мне асцерагацца!

Алена. Тут сочаць за кожным, асабліва з маладых, хто хоць крыху свядомы ды вызначае сябе беларусам.

Андрэй. Беларус, кажуць, і камуніст адно і тое самае? Але нішто, не так чорт страшны, як яго малююць, як кажуць. Трэба нешта рабіць, непакоіць, паказваць і тлумачыць на кожным кроку...

Алена. Тут часам і мітынгі робяць...

Андрэй. Але, ды хто на іх выступае, вось у чым сабака!

Алена. Манеўры зараз тут. Пагналі войска. У графа, у маёнтку, кажуць, гусары стаяць...

Андрэй. Я іх ужо бачыў, крыху пазнаёміліся. Ёсць і сярод іх хлопцы нішто. Трэба агледзецца, даследаваць, што і як. Мясцовасць таксама.

Алена. Тапаграфію, ці што?

Андрэй. А што ж, так! У нас вайна не на жыццё, а на смерць — альбо мы, альбо паны. Альбо гаспадары тут — такія, як маці мая, як вы, як ваш бацька. Альбо граф Гоцкі, граф Шэцкі, палкоўнік Бжэзіцкі і дэфензіва.

Алена. Вы ўжо даведаліся і пра прозвішча?

Андрэй. Гэта таксама важна. Сёння я вызначыў праплысці па Нёману на ўсялякі выпадак... Падсеў да плытнікоў.

Алена. Гэта вы з імі спявалі?

Андрэй. Крыху. *(Пяе.)* Ах ты Нёман-рака... Ці ты думаў, ці сніў...

Алена. Як слязу мужыка...

Андрэй. У сваё ўлонне лавіў.

З-за хаты голас Дарнілоўскага.

Дарнілоўскі. Ну і заседзеўся я ў цябе, Браніслаў, з балдавешкай...

Андрэй. Гэта яшчэ што ў вас за індык такі?

Алена. Ха-ха-ха! Добра сказана. Лоўчы наш, таткава начальства.

Андрэй. Лоўчы? Усе яны тут лоўчыя, калі сцежкі воўчыя.

Алена. Сцежкі ў нас воўчыя, праўда, таварыш Андрэй.

Андрэй. Ц-с-с! Мая мянушка — Клін.

Алена. Добра!

Андрэй. Ну, я пайшоў... Вас, Алена, здаецца, зваць?

Алена. Алена, Аленка, як хто прызвычаіцца...

Андрэй. Здаецца, ідуць сюды,— мала пагаварылі. Хаця на першае знаёмства досыць, праўда?

Алена. Мо і так.

Андрэй. Будзем бачыцца. Плытнікі мае пагналі, мабыць, плыты далёка. У вас човен ёсць?

Алена. Ёсць... толькі... Стаська, наш перавозчык,

мабыць, спаць пайшоў. Я вас перавязу, бо як жа чоўнам назад.

А н д р э й. Добра. *(Ідуць на рэчку.)*

### З'ява V

Д а р н і л о ў с к і  і  Б р о н і к.

Д а р н і л о ў с к і. Засядзеўся, засядзеўся, камарынае мяса, у цябе, кум-сонца! Зірні, блізка, што і месяц паўзе ў небе. Я не баюся нікога, але балота там, як яго ў нас пяройдзеш?

Б р о н і к. Ды што ўжо, паначуйце ў мяне. Рана ўзбуджу, і пойдзем у лес.

Д а р н і л о ў с к і. Ну, то добра. Дзякуй табе, кум-сонца. А дзе ж гэта твая дачка, нешта не чуваць?

Б р о н і к. Мусіць, ля вады. Яна любіць часам і ўначы скупацца. Угу! *(Курыць.)*

Д а р н і л о ў с к і. А добра тут у цябе. Зноў кажу, як добра, камарынае мяса. Пайду прайдуся на рэчку. Ты кладзіся, Бронік, змарыўся! *(Знікае ў кустах.)*

Б р о н і к. Павадзіўся журавель у зялёны канапель!.. *(Ідзе ў хату.)*

### З'ява VI

С т а с ь выходзіць з нератам з-за хаты і ідзе на рэчку. Праз нейкі час чуваць з рэчкі «птушку» — «віць-віць».

### З'ява VII

Выходзяць А л е н а  і  Д а р н і л о ў с к і.

А л е н а. Я ставіла жакі за Дубаўкай, рачулка тут ёсць. Стась наш забыўся паставіць...

Д а р н і л о ў с к і. Мне, мусіць, здалося, камарынае мяса, што я чуў два галасы на рэчцы, панна Алена?

А л е н а. Мусіць, здалося. Я напявала там сама з сабой...

Д а р н і л о ў с к і. На два галасы? Таксама, мусіць, здалося, што ў чоўне сядзела двое... н-нда, з балдавешкай?

А л е н а. Гэта я так трымала жак перад сабой.

Д а р н і л о ў с к і. Жак... гм... Жак французскае імя, камарынае мяса! Ці не Андрэем завецца той Жак... камарынае мяса? Я чуў, як яго Андрэем на развітанне пераксцілі...

А л е н а. Ха-ха-ха! Жак у Андрэя перарадзіўся? Ды няўжо, пан лоўчы, мысліце, што да дзяўчыны на астравок не можа пераплысці які-небудзь Сымон, ці Жак, ці Андрэй, нарэшце?

Д а р н і л о ў с к і. Таямніца, таямніца, дзявочая душа. Я хоць і ўдоў, але даўно тое было з балдавешкай. Н-ну, што ж, можа, і памыліўся, прабачце! *(Збіраецца адысці.)*

А л е н а. Стойце, пан Дарнілоўскі! А хочаце, пераплывём зараз праз Нёман?

Д а р н і л о ў с к і. У чоўне? Што ж, добра. Хоць и абражаны, камарынае мяса. Але ў чоўне з вамі...

А л е н а. Ды не ў чоўне, а так во! *(Паказвае, як яна плавае.)*

Д а р н і л о ў с к і. Як так, удваіх? Уначы?

А л е н а. Я ўперад, вы за мной, ну? Пакуль месяц з-за хмары не выйшаў, а то сорам будзе, ха-ха-ха! *(Смяецца і ўцякае. Праз момант чуваць плёск на вадзе.)*

Д а р н і л о ў с к і *(рушыць у той бок)*. Ч-чорт, камарынае мяса, стары дурань! Псіна! *(Бяжыць туды.)*

### З'ява VIII

Раптам перад ім вырастае С т а с ь з трызубцам на рыбу.

С т а с ь. Мм... мэ... н-не... н-не...! *(Бароніць праход, пагражае.)*

Д а р н і л о ў с к і. Ч-чорт прынёс гэтае камарынае мяса! *(Чуваць голас Алены: «Ах ты, Нёман-рака». Свіст.)*

Нямая сцэна.

*Заслона*

## ДЗЕЯ II

Палац графа Гоцкага. Авансцэна — гасцiная; ззаду — зала, у якой адбываецца баль з прычыны ад'езду ў Варшаву графа Гоцкага.

### З'ява I

Выбягаюць у танцы у гасцiную г р а ф  Ш э ц к і і Т э к л я.

Т э к л я. За мазурку з вамі, пане граф, можна аддаць усё... літаральна ўсё.

Ш э ц к і. Я калі бяру, панна Тэкля, то толькі самае каштоўнае...

Т э к л я. Было б непрызваіта падносіць графу Шэцкаму нешта іншае...

Ш э ц к і. Не камплімент, але ж дзіўна, што ў такой глухой правінцыі, на такіх «кшэсах всходніх», можна спаткаць такую гжэчную панну...

Т э к л я. Я тут нядаўна...

Ш э ц к і. Панна з якога фальварка?

Т э к л я. ...Я ...мой тата...

Ш э ц к і. Перапрашаю, я ўспомніў... вы з Плоцку?

Т э к л я. Я вучылася там у пансіоне...

Ш э ц к і. Не ведаю, як у панны выкладалася матэматыка, але ж танцы, пэўне, ставіў у вас маэстра...

Т э к л я. Жартаўнік, пан граб. О-о!

Ш э ц к і. Не, не, не! Ні ў якім разе, бронь божа! Я не прывык жартаваць з паннамі, і калі я што раблю, то ўсур'ёз. *(Аглядаецца і робіць рух, каб пацалаваць Тэклю.)*

Т э к л я *(адбягае раптам у другі куток)*. Як тут бачна ў графа Гоцкага! Чаму ён мужна пакінуў залу?

Ш э ц к і. Граф Гоцкі стары чалавек. Зразумела, што яму надакучыў баль, і ён пайшоў адпачыць... Ён сёння едзе да Варшавы...

Т э к л я. А так? І забярэ з сабой балет?

Ш э ц к і. Маленькі балет выпісаў я, каб крыху разважыць сум на «крэсах»... Ха-ха!

Т э к л я. Дасціпна, пане грабе, дасціпна! «Крэсы» патрабуюць культуры, нашае культуры...

Ш э ц к і. І мы даём ім нашую культуру? Ха-ха! Я меней за ўсё зацікаўлены падняццем «крэсавай» культуры. Калі я выпісаў некалькі пластычных фігурак, то толькі затым, каб развяжыць сум у часе нашых манеўраў ва ўсходняй правінцыі...

Т э к л я. Мне здаецца, што святы абавязак кожнага паляка і кожнай полькі...

Ш э ц к і. Асабліва кожнае полькі...

Т э к л я. Так, асабліва полькі! Ну, як кажуць палітыкі, дапамагаць прышчапляць тут польскасць... мы тут павінны ўсе быць у звязку... усе нашы ксяндзы, нашыя ўрадаўцы, нашыя...

Ш э ц к і. О, ды панна палітык, то добра! Я не чакаў. Тым прыемней будзе пачаць звязак усепольскі на «крэсах»... З панны Тэклі... Можна?

Т э к л я. Н-ну, так. Я не разумею, як пан граф зразумеў мяне.

Шэцкі. Я зразумеў панну, як належыць, здаецца мне! Трэба складзі звязак?..
Тэкля. Так.
Шэцкі. Мы яго складаем?
Тэкля. Так.
Шэцкі. Так. *(Цалуе Тэклю.)*
Тэкля. Зусім не так, Шэцкі!.. Вы мяне не зразумелі...
Шэцкі. Зусім так, панна крэсова, я вас зра-зумеў... *(Ловіць і цалуе зноў.)*

**З'ява II**

Ксёндз Юрага і Дарнілоўскі.

Ксёндз *(уваходзіць у бакавыя дзверы)*. Гм... гм. Можна бачыць графа Гоцкага?
Дарнілоўскі. Найяснейшага графа з балдавешкай. Гм... гм... Мы дачуліся, нібы найяснейшы граф пакідае сёння маёнтак. І мы... Я і ягамосць...
Шэцкі. Граф Гоцкі ў сваіх пакоях.
Дарнілоўскі *(пазнаўшы Тэклю)*. А, то ж панна Тэкля! Я і не пазнаў, камарынае мяса!
Тэкля. То я, пане Дарнілоўскі. Чаму ж вы не на балі? *(Да ксяндза.)* Маё вітанне, ваша мосць. *(Юрага сурова жагнае яе.)*
Дарнілоўскі *(да Шэцкага)*. Жывём, ведаеце, тут, як палясоўшчыкі, проста... лясы... балоты... Н-нда, камарынае мяса, перапрашаючы... Лоўчы Дарнілоўскі.
Шэцкі. Граф Шэцкі, паручнік. *(Вітаецца з Юрагам.)*
Дарнілоўскі. Можа, перапрашаючы, сваяк нашага найяснейшага.
Шэцкі. Здаецца не, покі што...
Дарнілоўскі. Вельмі шкада, вельмі шкада, н-нда, перапрашаючы, камарынае мяса.
Шэцкі. Што пан дадаў? Мяса?
Тэкля. О, то прызвычайнасць мовы пана Дарнілоўскага.
Ксёндз. К графу як прайсці?
Шэцкі. Праз залю, ваша мосць. Я правожу... Проша. *(Усе праходзяць дзверы. Як толькі яны прайшлі, адразу ў зале загучаў факстрот, які замяніў ледзь чутную дагэтуль музыку.)*

### З'ява III

Збоку жаўнер і лёкай праносяць кош з віном.

Лёкай. Вінь шампань.

Жаўнер. Для паноў і пань.

Лёкай. З французскай лазы...

Жаўнер. Пачаставаць бы не гэтакай, але той, што зрэзаў для казы...

Лёкай. Нап'юцца віна...

Жаўнер. Не заўважаць ражна. Ха-ха-ха. *(Праходзяць.)*

### З'ява IV

Ржэвуцкі і Брыль.

Ржэвуцкі. Дзенькую, Антоне, за падарак на вёску! Мне было надта цікава.

Брыль. То праўда, пане паручнік. Я задаволены!

Ржэвуцкі. Афіцэру, як ведаеш, аднаму не паказацца: такая нянавісць... І справядлівая... Заўтра пойдзем зноў з табой. Дасі зноў сваю марынарку.

Брыль. Добра, пане паручнік. Я пазнаёмлю пана паручніка з цікавымі людзьмі.

### З'ява V

У гэты момант з залы ўваходзяць палкоўнік Бжэзіцкі і граф Шэцкі. Брыль выходзіць.

Бжэзіцкі *(злёгку выпіўшы)*. Ха-ха! Ну так, ясна! Ножка не благая, згодны, але ж, Шэцкі, сівізна. *(Паказвае на сваю галаву.)*

Шэцкі. Крыху сівізны ў вашым чыне, пане палкоўнік, тое ж, што ордэн ганаровага легіёна на персях.

Бжэзіцкі *(заўважыўшы Ржэвуцкага)*. А-а! Наш чарнец, наш дэмакрат, дзе быў?

Ржэвуцкі. Я толькі з вахты, пане палкоўнік.

Бжэзіцкі. Налі віна яму, Шэцкі.

Шэцкі. Я зараз дам загад...

Бжэзіцкі. А калі і сам прынясеш таварышу? Час наш дэмакратычны... а? Ха-ха-ха!

Шэцкі. Слухам, пане палкоўнік. *(Хоча ісці.)*

Бжэзіцкі. Ха-ха-ха! Ну, добра, як хочаш. Я хацеў ужо даўно пабыць з Ржэвуцкім з вока на вока.

Ш э ц к і. Слухам. *(Ідзе ў залу.)*

Б ж э з і ц к і. ...Так. Сядайце. Дзіўлюся, паручнік, што вы не чарнец, не арганісты, не прафесар лацінскай мовы, ну, і іншае там, падобнае. Прывабны твар, маладзецкая выпраўка, узорная службовасць і разам з тым непатрэбна ліберальная, не вайсковая душа. А?

Р ж э в у ц к і. Пане палкоўнік...

Б ж э з і ц к і. Проша ўвагі! Не вайсковы дух у вас, паручнік Ржэвуцкі! Вы разумееце, што такое армія? Армія — воля нацыі. Армія — мужчынскі элемент нацыі. Калі воля моцная, калі мужчынскі элемент моцны, то і ўсе ўстановы дзяржавы, ўсё жыццё дзяржавы — здаровыя! Армія моцная, калі элементы яе, вось такія індывіды яе, вось такому індывіду, як вы, моцны духам!

Р ж э в у ц к і. Я не адчуваю ў сабе хваробы волі і духу, пане палкоўнік.

Б ж э з і ц к і. Вы хворы, Ржэвуцкі! Вы хворы на дэмакратызм, на гуманізм, хто вас ведае, можа, на сацыялізм, га? На камунізм, чорт бяры!

Р ж э в у ц к і. Мысліць — не значыць хварэць, пане палкоўнік.

Б ж э з і ц к і. Мысліць! У тым і справа, што нам, вайсковым, меней за ўсё да твару мысліць і болей за ўсё дзеяць! Мысліць, а яшчэ болей марыць можна аб чым угодна. Але чалавек вайсковы, чалавек волі, павінен выбіраць з мысляў і мар толькі тое, што могуць рэалізавацца. Так. Мы павінны быць рэалістамі, смела глядзець жыццю ў вочы. Так, сацыялізм, камунізм — то ўсё не рэальна!

Р ж э в у ц к і. А барацьба за іх рэальна ці не, пане палкоўнік?

Б ж э з і ц к і. Барацьба?.. Так... барацьба рэальна, на вялікі жаль. Яна ёсць, так! Тым патрэбней нам, вайсковым, быць збоку яе!

Р ж э в у ц к і. Быць пасіўным? Значыць не мець волі, а пан палкоўнік сказаў, што мы — сама воля нацыі?

Б ж э з і ц к і. Проша без іроніі і сафізмаў, паручнік! Я вяду з вамі падобную размову толькі з тае прычыны, каб... каб паказаць вам, што я разумею ваш малады крытыцызм і незадавальненне парадкамі, якія зараз існуюць на абшарах Жэчы Паспалітай Польскай.

Р ж э в у ц к і. Прыемна чуць, пане палкоўнік...

Б ж э з і ц к і. Пшэпрашам! Я сам... Так, я сам, як

кожны істы паляк, тым-сім не задавалены... (*Чуваць музыку... Баль.*)

Ржэвуцкі (*у бок музыкі*). Парадкі, здаецца, не такія благія.

Бжэзіцкі. Я не задаволены, паручнік Ржэвуцкі, што ў нас няма моцнае ўлады... што ў нас гаварыльня, прапагандыльня рознага глупства, наш сейм! Што... Ну і гэтак далей...

Ржэвуцкі. Крайнія погляды, пане палкоўнік!

Бжэзіцкі. Я адчынёны з вамі. Каб не было дыктатуры зброду над польскімі патрыётамі, трэба ўстанавіць дыктатуру патрыётаў Жэчы Паспалітай над збродам... Ну, даволі пакі што палітыкі! Спадзяюся выпрацаваць з вас, паручнік Ржэвуцкі, добрасумленнага афіцэра польскай арміі. Калі не — выбірайце: альбо — альбо!

Ржэвуцкі. Падобнае баляванне таксама ўваходзіць у праграму патрыётаў Жэчы Паспалітай, пане палкоўнік?

Бжэзіцкі. Граф Гоцкі дае баль у пашану нашага палка, які манеўраваў у ваколіцах яго маёнткаў. У чым рэч?

Ржэвуцкі. Не рацыянальна, прынамсі, баляваць на вулкане.

Бжэзіцкі. Крэсы не вулкан! Вулкан — прырода, а тут прапаганда нашых мілых суседзяў! А баляваць? Афіцэр па прыродзе сваёй павінен быць вясёлым: заўтра смерць, сёння кабеты, віно... Але ўсё ў меру — ясна! Ясна, паручнік Ржэвуцкі?

Ржэвуцкі. Ясна, пане палкоўнік!

Бжэзіцкі. Ха-ха-ха! Ну то добра. А зараз у залу марш, чарнец, ха-ха-ха!

### З'ява VI

У гэты момант з залы вылятаюць некалькі пар балерын, за якімі — грамадка афіцэраў. Танец — толькі не мазурка.

Бжэзіцкі. Панове афіцэры, мадам! Проша ўзяць да сябе паручніка Ржэвуцкага. Ён толькі што з вахты. Разважце нашага чарняца. Бывайце здаровы!

Усе. Жычым!

Бжэзіцкі выходзіць.

Тэкля (*падыходзіць да Ржэвуцкага*). Сёння тут так весела, пане Ржэвуцкі.

Ржэвуцкі. Не думаю, каб усім!

Тэкля. Павінна быць так! З вамі фокстрот, добра?

Ржэвуцкі. Я не танцую фокстрот.

Тэкля. Тады мазурку?

Ржэвуцкі. Ды танцуйце, панна. Мала вам Шэцкага, іншых?

Тэкля. Шэцкага, іншых? Ха-ха-ха! А мне трэба вас, пане Ржэвуцкі, вас, разумееце? З Шэцкім мы размаўлялі перад вашым прыходам аб каштоўнасцях...

Ржэвуцкі. Якіх каштоўнасцях? Я тут прычым? Дабранач, панна Тэкля. *(Хоча ісці.)*

Тэкля. Стоп, увага, пане паручнік! З вамі размаўляе дзяўчына, панна, трэба быць кавалерам.

Ржэвуцкі. Смешна мне з вас... Калі б я вам сказаў: трэба быць не кавалерам, а чалавекам, вас бы рассмяшыла гэта яшчэ болей! Ну, дабранач!

Тэкля. Дабранач... А толькі... адно слова. *(Шэптам.)* Я кахаю вас, пан Ржэвуцкі. Першае ў жыцці каханне! Шэцкі, іншыя... глупства! Разумееце? Я дрэнная, так, вам не такая патрэбна! О, я добра ведаю! Але ж я... Ну, дабранач! Ха-ха-ха! *(Адбягае ад яго ўбок, дзе Шэцкі і іншыя. Ржэвуцкі рашуча выходзіць.)*

Шэцкі. Панна Тэкля ў ажытацыі — што значыць? Ай ды Вацлаў, ай ды чарнец!

Тэкля. Я ў ажытацыі ад Вацлава? Ха-ха-ха! Сам пан Шэцкі падліваў мне ў келіх шампанскага, а тут вярзе няма што! Ха-ха-ха! Эй, мужчыны, закрыць вочы. Тэкля будзе танцаваць. *(Узлятае на стол і пачынае танец. Балет як бы акампануе ёй. Усе ў такт пляскаюць у далоні.)*

На парозе з залі — граф Гоцкі, з ім Дарнілоўскі, ксёндз і іншыя.

Гоцкі *(глухі, увесь час паўтарае «цо»)*. Брава, брава! Цо?.. Якая пекная дзяўчына! Цо?.. То не з Варшавы? Цо? Проша далей, проша далей! Вясёла, вясёла! Я еду да Варшавы. Хто ведае, што будзе з намі ютро, дзеткі! О, час наш, час страшны... І патрэбна болей вясёласці, дзеткі. Цо?..

Дарнілоўскі. Ваша найяснейшая мосць!

Гоцкі. Цо? Цо ты мувіш?

Дарнілоўскі. Я кажу, ваша мосць, камарынае мяса, гм... ччорт мяне бяры! Ваша мосць, хай не клапоціцца аб сваіх маёнтках... аб маёнтках, кажу...

Гоцкі. Цо? Майткі, якія майткі?

Дарнілоўскі. Маёнткі кажу я...

Гоцкі. Майёнткі на «крэсах всходніх»... то камні в нырках мне, тут мне сядзець, разумееш? Панове? Я не прыехаў бы сюды, каб не жаўнеры, бо войска размясцілася па маіх маёнтках. Я буду праз колькі час размаўляць з вайсковым міністрам... м... м... Цо? З генераламі. Цо?

Шэцкі. Карскім...

Гоцкі. Цо? Карскім... Цо? І я перадам яму... дам яму, цо? Перадам яму... афіцэры трымаюць, афіцэры моцна трымаюць у сваіх руках *(азіраецца, кавалеры ў гэты момант кідаюць дам)* м... м... свае ваяцкія шаблі! Да пабачэння, панове!..

Усе. Жычым! *(Гоцкі выходзіць. За ім усе, апрача Тэклі і ксяндза.)*

Юрага *(да Тэклі)*. Цябе цалаваў Шэцкі, як я праходзіў? Цалаваў?

Тэкля. Але ж не я яго! Што за гнеўнае запытанне?

Юрага. Тэкля!

Тэкля. Ваша мосць!

Юрага. Я чалавек, Тэкля, і мужчына! Я спакусіўся тваімі прывабамі, забыўся на сан... Чым ты адплаціла мне?

Тэкля. Адумайся, ваша мосць! Ты зайздросціш? Да Шэцкага? Я не кахаю Шэцкага, досыць з цябе? Але я дзяўчына, ха-ха! У вачах людзей, вядома. Мне трэба жыць... ды і ты... Чым адплаціў? А? Радасцямі? Забыўся набажэнства пякельнае?

Юрага. Заўтра чакаю ўначы... Фортка ў садзе будзе не замкнута.

Тэкля. Заўтра не абяцаю... дый наогул...

Юрага. Тэкля!

Тэкля. Ваша мосць, сюды ідуць.

### З'ява VII

Шэцкі, Дарнілоўскі і іншыя варочаюцца, праводзіўшы графа.

Дарнілоўскі. Сама дабрата! Мухі не пакрыўдзіць, камара не заб'е! Я пра нашага вяльможнага графа з балдавешкай, нда!

Шэцкі. Мне здаецца, што галоўная заслуга старога графа ў тым, што ён ужо не можа скрыўдзіць ніводнае з

такіх пякнотачак... *(Да балерын.)* Так! Ха-ха-ха! Музыка, грай!

Дарнілоўскі. Я зараз скажу, пане грабе. *(Выходзіць ў залу і крычыць.)* Проша граць ціха, камарынае мяса!

Тэкля. Ха-ха-ха! Чулі, пан Шэцкі? Новы танец — «Камарынае мяса». Ха-ха! *(Музыка грае, Шэцкі вальсуе з Тэкляй, затым з адной з балерын. Балерыны робяць некалькі лёгкіх па.)*

Юрага *(да Тэклі.)* Я выходжу.

Тэкля. А можа, ваша мосць, застанецеся на некалькі часу? Гляньце, якія ножкі ў панны Лёдзі... Праўда, а? А талія ў панны Жулі? А?

Юрага. Я выходжу. Нам трэба сур'ёзна пагаварыць аб рабоце ў мястэчку і на вёсцы. Заўтра прыйдзе да мяне навучыцелька.

Тэкля. Дэвотка Кавоцкая? Як то прыстала айцу!

Юрага. Навучыцелька Кавоцкая робіць польскую школу...

Тэкля. Яна дурніца вялікая. Колькі дзяцей ходзіць у яе школу?

Юрага. Ходзяць тыя, хто лічыць сябе палякамі...

Тэкля. Ведаю добра, дзеці асаднікаў... Ха-ха! Пяць ці сем чалавек.

Юрага. Ну, тым болей нам трэба абгаварыць план работы.

Тэкля. Добра. Заўтра прыйду да вас, толькі не адна... З графам Шэцкім, добра?

Юрага. Тэкля! *(Выходзіць.)*

### З'ява VIII

У гэты момант праз пакой праходзяць Брыль і жаўнер. Спыняюцца, аглядаюць прысутных афіцэраў. На момант пакой пустуе.

Брыль *(да жаўнера)*. Падкладзі туды-сюды па кутах вось гэтыя лістовачкі...

Жаўнер. Смеху будзе!

Брыль. Можаш падсунуць каму ў кішэню: хай дэфензіва пашаволіць паноў афіцэраў!

Шэцкі *(да аднаго з афіцэраў)*. Я забараніў бы жаўнерам праходзіць тут... без дазволу... аглядаць нас... Парушэнне дысцыпліны. *(Жаўнеры знікаюць. Зноў баль.)*

### З'ява IX

Уваходзіць Дарнілоўскі, прыкметна выпіўшы.

Дарнілоўскі. Панове афіцэры, жаўнеры і... камарынае мяса... дамы... н-нда! Прывабныя дамы... нда! Вы прыехалі з Брэста ці нават з Варшавы... О-о! Я быў у Варшаве... З балдавешкай... Вясёласць! Пекната! О!

Тэкля. Пан Дарнілоўскі пачаў прамову, мы слухаем...

Дарнілоўскі. Не замінай... камарынае мяса... Псік... З Варшавы.. А ці ведаеце вы, што ў нас тут на Нёмане.. Н-нда, камарынае мяса?

Шэцкі. Пан Дарнілоўскі, мяса ўжо досыць. Мы толькі што елі ангельскі біфштэкс. Час падаць фрукты... Мы чакаем...

Дарнілоўскі. Вы чакаеце. Ну, дык знайце, што вашыя ўсе дамы — пфэ, камарынае мяса ў параўнанні з той, што жыве на востраве... над Нёманам... Н-нда?

Шэцкі. На востраве святой Алены? Ха-ха!

Дарнілоўскі. Так, так, вы згадалі. Яе завуць Алена. *(Усе смяюцца.)*

Тэкля. Пан Дарнілоўскі кажа праўду. На Нёмане ёсць адна пякнотачка... Я з ёй нядаўна пазнаёмілася... Пан Шэцкі, хочаце пазнаёміцца, га?

Шэцкі. Я не зусім люблю духі аля... «гной». Ха-ха! *(Усе смяюцца.)*

Дарнілоўскі. Пан... Пан... паручнік, камарынае мяса. Я не дазволю... Я.... Я член звёнзку «Стрэльба». Я выклікаю пана... на дуэль... *(Хоча вынуць з кішэні хустачку ці пальчатку, разам з ёй падае на падлогу лістоўка.)*

Шэцкі. З вялікай прыемнасцю, пан Дарнілоўскі, але толькі пагаворым аб форме дуэлі заўтра.

Тэкля. А што там за ліст? Ці не ад панны Алены? *(Падымае і чытае з расстаноўкаю, не ўмеючы.)* «Весяліцеся і балюйце, панове, у гонар Рэчы Паспалітай Польскай! Мы, работнікі і сяляне тых мястэчак і вёсак, што абкружаюць з усіх бакоў вашыя маёнткі і палацы, таксама ўмеем весяліцца».

Шэцкі. Што такое? Што такое? Што за лістоўка? Дайце сюды, панна Тэкля...

Дарнілоўскі. Я... Я... камарынае мяса... Я... член звёнзку «Стрэльба»... «Стрэльба»... Я...

Шэцкі *(чытае далей)*. «... Але нашая весялосць ёсць

весялосць барацьбы і прадчування пабеды. Вашая — хаўтурныя запоіны... Скора прыйдзе час, і палацы пера-твораццa ў школы і шпіталі для народа!» Д'ябал...

Нямая сцэна.

### З'ява X

На парозе палкоўнік Бжэзіцкі.

Бжэзіцкі. Чаму такая ціша?.. *(Шэцкі падае яму лістоўку.)*

Бжэзіцкі *(прабягае напаўголаса)*. Дзе знайшлі?

Дарнілоўскі. У мяне ў кішэні... пане палкоўнік...

Бжэзіцкі *(да Шэцкага)*. Пратэлефаніраваць! Выклікаць!

Шэцкі. Слухам. *(Ідзе да дзвярэй, дзе яго збівае слуга.)*

Слуга. Яго светласць граф Гоцкі!

Усе. Як? Вараціўся? Якім чынам?

### З'ява XI

На парозе Гоцкі, запэцканы, абадраны, нават без нагавіц. Напужаны, але трымаецца яшчэ з гонарам.

Гоцкі. Д'ябал во, цо! Не праехалі і трох вёрст... Цо? Бандыты... так зрабілі напад... Цо? Не, не стралялі — у іх стрэльбаў няма, глупства... Цо? Але ж забралі коні... шубровец нейкі пнуў мяне ў бок... Цо? Так, я застрэліў бы яго... але не ўзяў рэвальвера... Цо? Трэба іншых коні... Цо? І я буду прасіць пана палкоўніка... Цо?

Бжэзіцкі. Я дам графу да станцыі 20 гусараў. Панове афіцэры, баль скончаны! Проша зрання да мяне!

Гоцкі. Цо? Так, так... баль скончаны! *(Праходзіць у смешным выглядзе пад музыку, якую чуваць з залы, вакол яго балет і госці.)*

*Заслона*

# ДЗЕЯ III

Мітынг «дэмакратычны». Мястэчка. Пляц перед касцёлам, які відаць збоку. Насупраць — правулак з крамкамі. Пры падняцці заслоны чуваць набажэнства. Арган. Спевы. Перад цвінтаром пераважна моладзь, якая ўваходзіць у царкву толькі на кароткі час...

## МАЛЮНАК I

### З'ява I

Жабрак *(на прыступках)*. Свенты Вінцэнты, молься за намі, прачыстая, святая сыботачка, мамачка... упрашаю ўвесь свет госпадні...

Жабрачка. Падарыце, панове, на маю слепату, на маю цемнату, на маё нябоства, на маё... *(Да жабрака.)* Колькі набраў ужо?

Жабрак. Колькі набраў, то набраў. Ціху! Людзі ідуць...

Падыходзяць Бронік, Алена, Мацей, Косця, Кастусь і іншыя.

### З'ява II

Бронік. Зойдзем хіба ў касцёл, Алёна!

Алена. Я пасля, татачка. Ведаеце, што не з набожных...

Мацей. Вось тое ж і нядобра, што «не з набожных». Усе зараз маладыя гэткія, Бронік, і мая Косця тое самае вярзе.

Косця. Ці ж нам ужо так замальваць свае грахі, татка? Яшчэ не набраліся вялікіх...

Кастусь. Ото ж добра сказана, як адрэзана! Ну, адкуль яны ў нас, грахі, ну, дзе яны ў нас, дзядзька? Хоць кішэні выверні! *(Смех.)*

Мацей. Хавай, сынок, язык у раток, ды глыбей!

Кастусь. Дзядзька Мацей, так-такі пад глотку пасадзіць ды яшчэ спераду зубамі загарадзіць? *(Смех.)* Калі ані вольнага слова, дык бэндзь, Косця, здарова,— вучуся на ксяндза. *(Смех)*.

Мацей. Ціху! Набажэнства ідзе! Бачыў ты іх? Ці мы гэткія былі з табой, Бронік?

Бронік. На кожны час свая каша, пане Маціяша. І мы, як маладыя былі, часам у вялікую пятніцу малако

пілі. Ну, а цяпер і свет іншы, дык не нападай ты на моладзь!..

Мацей. Не тое! Хай сабе рагочуць,— вядома, не на цвінтары перад святой брамай, не тое! А тое, што патаённасць завязалася ў іх, што ў касцёл адзін аднаго не пускаюць, у бога не верапь!..

Кастусь. Веру мы не чапаем, дзядзька Мацей. Маліцеся сабе! Мы толькі прыглядаемся, каб з закрыстай у палацы сцежак не было.

Косця. Во, во!

Мацей. Што ты вярзеш, Кастусь, цьфу!

Моладзь *(разам)*. Цьфу!

Мацей. Цьфу! Бачылі вы? Я і кажу — таемнасць у іх, Бронік! Як адзін яны! Здаецца, і правадыра няма, а як вымуштраваны. Косця, пойдзем. *(Ідзе да касцёла.)*

Косця. Я з Алёнкай зараз...

Мацей *(здымае шапку, падыходзіць да прыступак)*.

### З'ява III

З касцёла выходзіць Марына.

Марына *(да Мацея)*. Спазніўся, кум... Зараз кончыцца.

Мацей. Ты ж руска, Марына, чаго ў касцёл?

Марына. А ты паляк, Мацей?

Мацей. Вядома! *(Моладзь смяецца.)*

Марына. Дык я хіба вашых святых збаламучу?

Мацей. Глупства кажаш! Я да таго, што маліцца па-нашаму не ўмееш!

Марына. Мой сынок кажа: вы, кажа, матку боскую не падзялілі, хоць, здаецца, адна была яна ў вас.

Кастусь. Якой яна была веры — праваслаўнай ці каталіцкай? *(Смех.)*

Марына. О то ж і мой сынок, Андрэйка, кажа.

Мацей. Ат! У браму святую ўвайсці не дадуць. Нячыстая сіла, дый годзі! Ва імя айца і сына і свентаго духа... *(Уваходзіць у касцёл.)*

Моладзь *(хорам)*. Амен!

Алена *(да бацькі)*. Татачка, сёння тут будзе мітынг. Я застануся... А ты?

Бронік. Ну і я, вядома.

Марына. Ага! Андрэйка казаў: пайду на мітынг.

Бронік. Андрэй твой, цётка Марына, слаўны... Ого-го! Такога сына мець! Гэта вось як і дачка ў мяне.

А л е н а. Ды што вы, татка, аж сорам слухаць вас! Добра, што свае ўсе тут... таварышы.

Б р о н і к. Чуеш, цётка Марына? Запаўзло якое да нас слова...

М а р ы н а. Андрэйка з горада прывёз, з фабрыкі.

К а с т у с ь. Во, Андрэй нават словы возіць з горада! Але нішто, добра, цётка Марына, што сына свайго так любіце і шануеце, і мы яго любім! Закурыць, ці што?

К о с ц я. Кінь, Кастусь, не добра тут курыць! І так на нас старыя абураюцца.

К а с т у с ь. То праўда. Там дым *(паказвае на касцёл)* з кадзіла, тут — з табака. Нядобра!

А л е н а. Лепш чыстае паветра... Ну, адыдзем, а то зараз сыпануць з касцёла... *(Адыходзяць.)*

### З'ява IV

З касцёла выходзіць народ: с я л я н е, ж а ў н е р ы, некалькі п а н о ў і п а н ь. Можна паказаць так: за панамі, добра апранутымі,— сяляне; за чыноўнікамі-гараджанамі — жабракі ў зрэб'і. Калі і без працэсіі рэлігійнай, то ўсё ж даць малюнак: кантраст дастатку і беднаты.

Ж а б р а к *(да пані)*. Са святам, панічка, свентэга Вінцэнта... Хай і вам, як яму на тым свеце!

П а н і. Цо? Цо ты мувіш?

Ж а б р а к. Каб ножачкі вашыя не ступалі, ручачкі не працавалі.

П а н і *(злым шэптам)*. Я яшчэ жыць хачу! Які дурны, на! *(Дае грош.)*

Ж а б р а к. Дзенькую. Каб жа святы Вінцэнты прыбраў вас у сваё ўлонне з дзетачкамі, з кветачкамі...

### З'ява V

Ш э ц к і і Т э к л я. Выходзяць з іншымі з касцёла.

Ш э ц к і. Прымусілі мяне сядзець да канца ў атмасферы стрыманага смаркання і шэптаў. Не эстэтычна, панна Тэкля!

Т э к л я. Патрэбна, пан Шэцкі, калі мы хочам быць трошку папулярнымі ў «красовых» католікаў...

Ш э ц к і. Хаця б адзін прыгожы твар у малітвенным захапленні!

Т э к л я. Тут не Варшава, пане Шэцкі!

Ш э ц к і. Панна Тэкля абяцала пазнаёміць з пекнай леснічанкай... Так? І ніц.

Тэкля. Яе не было ў касцёле. Не мая віна.

Да Шэцкага падыходзіць інвалід.

Інвалід. Проша пана афіцэра... рукі не маю, правая...

Шэцкі. За Польску?

Інвалід. На вайне быў... адарвала пад Брэстам...

Шэцкі. Поляк, вайсковы?

Інвалід. Завошта ўжо не ведаю... працаваць не магу... бачыце...

Шэцкі *(да Тэклі)*. Я панну праводжу.

Праходзяць і сустракаюцца з Аленай, Косцяй і Кастусём.

Тэкля. Добры дзень, панна Алена.

Алена *(холадна)*. Добры дзень. *(Праходзяць.)*

Тэкля. Бачылі?

Шэцкі. Так. Нішто. Вочы выразныя.

Тэкля. Надзвычайна. Простая сялянка, праўда, трошку асвечаная... у гімназіі была нават... у Вільні.

Шэцкі. Ну, яе кампанія! Бандыты тыповыя. Тут усе хлопцы бандыты, а дзяўчаты... у выпадку, калі такія знойдуцца...

Тэкля. Вы, мусіць, добры этнограф, пан Шэцкі? Шкода Алены... Я ўпэўнена: ні адзін з хлопцаў не цалаваў яе.

Шэцкі. Вы ўпэўнены? Тады яна робіцца яшчэ цікавейшаю ў маіх вачах!

Тэкля. А вы, пане грабе! *(Б'е яго злёгку. Абое знікаюць.)*

## З'ява VI

Ксёндз Юрага, Кавоцкая.

Кавоцкая. Такое казанне, такое казанне, пане ксёнджу! Колькі пачуцця! Колькі веры! Пякельны грэшнік мусіць праліць слёзы, недаверак мусіць пачаць маліцца, калі правіць набажэнства ксёндз Юрага!

Юрага. Навучыцелька перавялічвае тое, што ест звычайным. Навучыцелька не павінна так захапляцца адным чалавекам, хто б ні быў, нават служка божы, бо то есць грэх!

Кавоцкая. Ксёндз размаўляе са мной, нібы з вучаніцай першае класы. Я...

Юрага. Так, грэх, бо прыхільнасць да аднаго чалавека адцягвае праўдзівага хрысціяніна ад сотні, тысячы людзей, якім хрысціянін можа быць патрэбным!

Кавоцкая. О, так! Я навучыцелька, у мяне дзеці... Праўда, мала дзяцей у мяне покі што, свенты айцец, але ж няўжо я не маю права на асалоду, на адпачынак... на... на каханне?

Юрага. На каханне? Вы? Панна навучыцелька?

Кавоцкая. Бронь божа... ах, мне стыд. Я маю на ўвазе каханне да чыстасці, да таго, што далёка, як анёл!

Юрага. Добра, добра! Вем, вем... Я аддаў сябе на служэнне маіх бліжніх. І калі я магу даць хоць малую асалоду — я не маю права адмовіць...

Кавоцкая. Ах! *(Цалуе яго руку. Праходзяць. Паступова пляц напаўняецца з другога канца, дзе крамкі, якія адчыняюцца.)*

Селянін Тодар. Кажуць, мітынг будзе...

Другі. Угу... Пасланцы папрыязджалі...

Трэці. Адзін аж з Варшавы, кажуць, з самага сейму.

Першы. Ат, што з таго сейму? Казалі, зямлі дадуць...

Другі. Цяпер кажуць: купі!

Трэці. Каб за грошы, дык бы я і сейм купіў.

Першы. Вось жа!

Другі. А паны як сядзелі, так і сядзяць!

Трэці. Абразаюць, брат, толькі татарскіх хлопчыкаў у Міры...

Другі. Паноў не паабразаць трэба, а...

### З'ява VII

Андрэй, Кастусь (з другога боку).

Кастусь. Чуў?

Андрэй. Няўжо ж! Тут самы матэрыял... Я даўно хаджу, прыслухоўваюся. *(Да сялян.)* Дык кажаце, дзядзькі, што Гоцкага не абрэзалі, га?

Першы. Мусіць, што не...

Другі. Толькі, кажуць, порткі здзелі...

Трэці. Ды пешкам і пусцілі...

Андрэй. Яно карысна яго светласці па ўласных маёнтках крыху пашпацыраваць... без майткоў!

Першы. Ды мы б яму ўжо сафок пакінулі, хай шпацыруе!

Д р у г і. Хай бы гуляў! (*Кастусь перадае аднаму лістоўку.*)

А н д р э й. Не з такіх яны, каб малым задаволіцца, браточкі!

Т р э ц і. То ж і бяда...

П е р ш ы. А Мацею нашаму, Лысёнку, дык абы набажэнства.

Д р у г і. У яго ж добрыя суседзі.

А н д р э й. Хто ж гэта?

Т р э ц і. Граф Гоцкі з аднаго боку, асаднік Лісоўскі з другога...

А н д р э й. Значыцца, дзе дзесятая яго дзесяцінка канчаецца, там Гоцкага тысячная пачынаецца?

У с е. Ага ж.

### З'ява VIII

П а л і ц ы я н т.

К а с т у с ь (*заўважыўшы*). Пойдзем, брат, трэба картуз прыгледзець... бачыш, стары які ў мяне. (*Адыходзяць.*)

П а л і ц ы я н т. Аб чым яны гутарылі з вамі?

П е р ш ы. Ды пыталіся, ці няма каго з Гарадзішча...

Д р у г і. Там браценік іхні, ці што, жыве...

П а л і ц ы я н т. А нічога не перадавалі ў рукі?

П е р ш ы. Ці яны што злавілі?

Д р у г і. Можа, птушку якую?

Т р э ц і. Не, мы не бачылі... каб птушку, ці што...

П а л і ц ы я н т. Самі вы птушкі... ваўкі добрыя! (*Адыходзіць.*)

П е р ш ы (*услед*). Ды і ты, братка, на авечку нешта не падобны!

Д р у г і. Поўсць замест воўны!

### З'ява IX

Л э я і Б а р ы с.

Л э я. Паедзем ужо! Дзе наш Тодар?

Б а р ы с. Мама, мне трэба быць на мітынгу... Усе нашыя хлопцы будуць...

Л э я. Мітынга, мітынга! Што табе з тае мітынгі? Як тата памер, ты зусім звар'яцеў... Ты ў школу не ходзіш... ты... ты...

Барыс. Ат, мама! Я ўжо не маленькі! Вы, старыя, толькі не перашкаджайце нам...

Лэя (*заўважыўшы селяніна, што гаварыў першым*). Во, во і наш Тодар! Тодарка, мы едзем. Ты таксама ўжо ўправіўся ў мястэчку?

Селянін. Ды ўправіўся, Лэя, а толькі тут, кажуць, зараз мітынг будзе.

Барыс. Чуеш, мама, і Тодар застаецца!.. Ну, вядома, усім цікава. Гэта ж не часта здараецца.

Лэя. Ай, ай, што там у хаце! Адзін Саламон застаўся!.. Тодарка, дык слухай, пойдзем тады да Ёселя, забярэм тавар.

Тодар. Добра, добра... Паспеем, не клапаціся, Лэя.

Сходзіцца народ. Ставяць стол для прамоўцаў. Сярод натоўпу амаль усе дзейныя асобы.

Галасы. Мітынг!
— Збірайся!
— Во сюды стаў!
— Тут лепей. Сюды!
— Ат, ды не! Глупства нейкае, чаго там слухаць!
— Сядайце!
— У касцёле лепей!
— Ну, ну, ты, бальшавік!
— А ты яшчэ болей за мяне.
— Не болей, ды даўжэй!
— Ха-ха-ха!
— Ну, годзі, цыц!

Ставяць шыльду: «Мітынг ППС. Запрашаюцца прадстаўнікі іншых партый». Звоняць.

### З'ява X

Дэпутат ППС. Прашу ўвагі! Мітынг арганізаваны польскай партыяй сацыялістычнай, з дазволу ўлады павету. Таварышы! Мая прамова не есць справаздача дэпутата сейму. Мая прамова мае на мэце толькі нагадаць тым, хто спачувае нашай рабоце, хто верыць у нашую партыю...

Кастусь (*з натоўпу*). Бліжэй да справы, пане дэпутат...

Галасы. Што робяць пэпэсы ў сейме?
— Ціху, няхай гаворыць?

Дэпутат. Увагі, што я чуў — не слушныя! То есь

увагі нашых ворагаў, якіх мы добра ведаем. ППС есь адзіная праўдзівая сацыялістычная партыя.

Голас. У чым яе сацыялізм?

Дэпутат. Сацыялізм ППС у тым, што ППС не згаджаецца з капіталістычным парадкам, з эксплётацыяй работніка...

Галасы. Толькі ўсяго!

— Чаму ж вы ўваходзіце ў міністэрства?

— Пасядаеце побач з капіталістамі і абшарнікамі!

— Ого-го!

Дэпутат. Мы вядзём легальную законную барацьбу...

Галасы. Ого! Па законах капіталістычных і абшарнікаў.

— Вы абяцалі зямлю?

— Вы абяцалі аўтаномію нацыянальнасцям?

— А школы беларускія зачыняюць!

Кавоцкая. То ест няпраўда! Я навучыцелька дзяцей беларусінаў...

Галасы. На чужой мове.

— Дзеці не разумеюць.

— Колькі іх у вас — два з палавінай?

— Асадніцкія?

Дэпутат (*звоніць*). Якая неарганізаванасць! Таварышы! ППС добра ведае парадкі на «крэсах всходніх»...

Голас Андрэя. У Заходняй Беларусі, пане дэпутат!

Тэкля. На «крэсах всходніх»!..

Дэпутат. Ну, так! У Заходняй Беларусі. Я памыліўся... ППС добра ведае, што мясцовая ўлада не выконвае тых законаў, якія пад ціскам і ўплывам ППС прыняты ўжо сеймам і якія значна палягчаюць жыцці на «крэсах»... у Беларусі Заходняй. ППС проша толькі сваіх выбарцаў адносіцца да работы ППС з поўнай павагай і давер'ем, і справа будзе зроблена.

Галасы (*рэдкія*). Брава, брава! (*Большасць галасоў, свіст.*)

— Мала!

— Нічога не сказаў.

— Ціху!

Дэпутат (*звоніць*). Я зараз дам слова прадстаўнікам іншых партый, калі яны тут знойдуцца.

Галасы. Ёсць!

— Ёсць!

— Знойдуцца!

Дэпутат. То проша! А пасля я дам адказ і закончу мітынг.

Выбягае да стала Тэкля.

Тэкля. Проша слова!

Дэпутат. Хто ест панна? Таважышка?

Галасы. Тэкля!

— Дачка асадніка Лісоўскага!

— Далоў!

Тэкля. Я — таважышка, толькі не пана дэпутата. Я... (*смех.*)

Дэпутат. Чыя ж таважышка? Але... Ну, проша...

Тэкля. Панове! Пан дэпутат хацеў сказаць нам нешта, але не сказаў анічога...

Галасы. Правільна!

Тэкля. Панове! Пан дэпутат надта лёгка аддае «крэсы» нейкім беларусінам...

Галасы. Ого!

— Здорава!

— Вылецела птушка!

— Слухай!

— Слухай!

Тэкля. Панове! Хто вы ест? Хто кароткі час таму назад маліўся ў касцёле?.. Вы ўсе католікі, палякі... Дзе можна так вольна, так спакойна маліцца, як не ў нас, у Польшчы, у Жэчы Паспалітай Польскай...

Галасы моладзі. Ого, куды гне!

— Маліцца захацелася?

— Грэшная, мусіць!

Мацей. Хай гавора!

Тэкля. Трэба моцна трымацца польскасці! Трэба бараніць нашую дзяржаву, але не так, як бароніць яе нашыя ППС, не!

Дэпутат. Проша! Я не дам слова! Панна ест якой партыі, панна?

Галасы. Дай дагаварыць.

— Мусіць, ППС.

— Свабода слова!

Тэкля. Хто я ест — вшыстко едно для пана дэпутата. Я кажу: мы — палякі, усе, што тут сабраліся.

Галасы. Лжэ!

— Далоў!

Тэкля. І калі вы не хочаце, каб прыйшлі бальшавікі, каб паздзіралі са сцэн вашых хат нашыя каталіцкія абразы... Трымайцеся касцёлу і лічыце сябе палякамі!

Галасы. О-о-о! Лжэ!

— Няпраўда!

*(Галасы не даюць ёй гаварыць.)*

— Далоў!

Дэпутат. Дайце казаць, дайце казаць.

Тэкля *(сходзіць)*. Я скончыла.

Галасы. Добрая птушка!

— Па пёрках відаць.

Андрэй *(выступае з натоўпу)*. Браточкі!..

Дэпутат. Якой партыі, проша?

Андрэй. Я ад сялян і работнікаў тутэйшых...

Дэпутат. Партыя?

Галасы. Наш!

— Наш!

— Хай гаворыць!

Дэпутат *(праз сілу)*. Проша!

Андрэй *(пачынае гаварыць. Спачатку спакойна. Затым усё болей надменна. У часе яго прамовы збоку падыходзіць група вайсковых. Сярод іх Шэцкі, Ржэвуцкі, Брыль і некалькі жаўнераў)*. Браточкі! Я хацеў спачатку звярнуцца да вас звычайным для нас словам... Таварышы... Але як з гэтага пачаў пан дэпутат ППС, то я кажу — браточкі. *(Смех.)*

Галасы. Добра!

— З тым не таварыш.

Андрэй. Мы чулі тут зараз і заклікі да давер'я ППС, і заклікі да аб'яднання вакол касцёлу. Сястрыцы і браткі! Ля касцёла аб'ядноўваюцца тыя, хто прыязджае маліцца. Мы не забараняем нікому маліцца, не забараняюць рабіць гэта і бальшавікі там, на усходзе...

Галасы. Праўда!

— Праўда!

— Няпраўда!

— Сам бальшавік!

— Дай гаварыць!

— Гэта наш!

Андрэй. Але касцёл наўрад ці дасць зямлі... Ён толькі бласлаўляе, калі кладуць у труну і даюць тры аршыны. *(Смех.)* Лганнё і тое, нібы бальшавікі зні-

маюць абразы ў хатах! Аб чым спрачацца? Спытайце ў тых, хто быў там, за кардонам. Тут, мусіць, ёсць такія...

Галасы. Ёсць!

— Хто?

— Ціху!

— Далей!

Андрэй. Але з гэтай паненкай спрачацца ці варта? Пакінем яе. Наш дэпутат... Хоць ён і не зусім наш...

Дэпутат. Проша, таварыш! Я ест дэпутат!

Андрэй. Даруйце! Пан дэпутат лічыць сваю партыю праўдзіва сацыялістычнай. Хай будзе так, не спрачаемся. Але ў чым рэч? Дзе гэтыя сацыялістыя, калі садзяць у турму іншых сацыялістых?

Дэпутат. Камуністых, хоча сказаць прамоўца?

Андрэй. Хай камуністых, пане дэпутат! Але за каго яны? З рабочых супроць фабрыкантаў? За сялян супроць абшарнікаў? Гэта раз! Вас у сейме 40 ці болей, тых толькі два. З вас ёсць міністры, з тых толькі арыштанты, покі што...

Дэпутат. Улада не нашая! Нарадовы дэмакраты — эндэцыя!

Андрэй. Вы з народавымі дэмакратамі вашымі ваюеце толькі ў сейме. Давайце паваюем тут! Давайце рабіць, калі вы толькі здольны на тое, рэвалюцыю супроць паноў, абшарнікаў, банкіраў, фабрыкантаў... Ну? Дзе вашая барацьба за сацыялізм, за працоўных?

Дэпутат. Я... Мы...

Галасы. Ого-го!

— Давай, мілы!

— Правільна!

— Давай рабіць рэвалюцыю!

— Якое жыццё тут!

— Анархісты!

— Бунт!

— Паліцыя!

Андрэй. Ага! Ужо паліцыю нехта крыкнуў. Мусіць, з партыі...

Дэпутат. Мы як і ўвесь II Інтэрнацыянал, супраць крывавай рэвалюцыі. Мы супраць руйнавання Польшчы. Мы супраць усяго, што перажыла Расія!

Андрэй. Крыві спужаліся? Добра! Там было многа крыві, бо было досыць белых генералаў!

Галасы. Правільна!

— Наш!
— Ого! Хай гаворыць!

Андрэй. Калі мы аб'яднаем волю рабочых і сялян, то і крыві будзе мала... Ну?

Дэпутат. Дэмагогія!

Галасы. Праўда!

Андрэй. Дзе вашая нацыянальная культурная аўтаномія? Дзе беларускія школы? Многа? А лёгка дабіцца?

Галасы. Пасадзяць!
— Падай толькі заяву!
— Ого! Ведаем панскую праўду!

Андрэй. Дзе вашая парцэляцыя зямлі? У Гоцкага многа адабралі? А? Культурная гаспадарка? Тота ж і яно! Во ён! Во абдзялёны зямлёй на карысць сялян! Во ён абрэзаны! *(У гэты момант на задняй сцэне праплывае сілуэт карэты графа Гоцкага з аховай войск.)*

Усе *(у той бок)*. Улю-лю! Ату! Ого-го!
— Натрак Гоцкі варту ўзяў!
— Пралетары!
— Штаны беражэ!
— Го-го-го!

Андрэй. Дык хай жыве злучнасць усіх працоўных Польшчы. Хай жыве... *(У гэты момант дэпутат хапаецца за званок. Шум. Ён махае рукой, адыходзіць. Ззаду Андрэя паліцыянт.)*

Паліцыянт. Мітынг зачынёны. Пан заарыштаваны. *(Андрэй ірвануўся ўбок. Шум, галасы, свісткі, з усіх бакоў паліцыянты.)*

## МАЛЮНАК II

Там жа, на пляцу. Народу няма. Перавернуты стол, ларкі.

### З'ява I

Шэцкі, Ржэвуцкі выходзяць з касцёла.

Ржэвуцкі. Якая гадасць! Тое, што я тут бачыў... Польшча?

Шэцкі. Трэба было затрымаць таго бандыта-бальшавіка! Ён бег проста на цябе. Афіцэр!

Ржэвуцкі. Кінь, Шэцкі! І тое, што тут было. Ха-ха-ха! Дэмакратычная Польшча! Чаму не далі дага-

варыць яму? Пры чым тут паліцыя? Дэмакратызм! Плюю я на такі дэмакратызм! Мне сорам, што я паляк.

Шэцкі. Ты баба! Можна бандыту даваць слова? Гэта быў бунт, а не мітынг!

Ржэвуцкі. Бунт яшчэ будзе, Шэцкі! О, які будзе бунт, калі ў Жэчы Паспалітай захаваецца падобны лад.

Шэцкі. Пужаеце, пане паручнік з хлопаў. О, твая кроў дае сябе знаць. Я добра ведаю, што бацька твой хлоп!

Ржэвуцкі. Я ганаруся сваім паходжаннем, ведай ты! Я ганаруся тым, што ў маёй крыві няма элементаў бяздзелля, распусты і выраджэння!

Шэцкі. Ты нервуешся болей, як я! Ну, што ж! Вайну, нам? Добра, прымаем! Мускулы ў нас яшчэ нішто, пане хлопе! Ха-ха-ха! *(Робіць пагардны знак і знікае.)*

### З'ява II

Ржэвуцкі некалькі момантаў адзін, абапёршыся на цокаль. Да яго падыходзіць з-за касцёла Брыль. З процілеглага боку ціха, але стойка прасоўваецца маніфестацыя. На чале яе з чырвоным сцягам Алена. Побач Андрэй, Бронік і іншыя сяляне. Спеў ціхі:

Што трэба свабоды,
Зямлі чалавеку, што трэба
Зладзеяў пабіць...

Пры праходжанні маніфестацыі Ржэвуцкі робіць вайсковае вітанне. Тое самае і Брыль. Маніфестанцы заўважылі іх, крычаць: «Ур-ра!»

### З'ява III

Раптам з касцёла выбягае Тэкля. У выцягнутай руцэ рэвальвер. Яна накіроўваецца да Андрэя.

Тэкля. Тут «крэсы» польскія, бальшавік! *(Страляе. Ржэвуцкі рушыць да яе і хапае за руку. Выстрал міма. Свісткі... Брыль трымае Тэклю.)*

Андрэй *(падбягае да Ржэвуцкага)*. Дзякую. Мы цяпер бачым, што і пад вашым мундзірам трапляюцца, праўда, рэдка, сумленныя людзі... Алена, паліцыя! Сцяг! *(Алена хутка хавае сцяг. Маніфестацыя разбягаецца.)*

### З'ява IV

Паліцыянты, Тэкля і Ржэвуцкі.

Паліцыянт. Хто страляў? Дзе?

Тэкля. Я. У бальшавіка.

Паліцыянт. Дзе ён? Дзе бальшавік?

Тэкля (*паказваючы на Ржэвуцкага*). Адзін з іх!

Нямая сцэна.

*Заслона*

## ДЗЕЯ IV

Дэфензіва за працай.

### МАЛЮНАК I

Дэкарацыя сукні.

#### З'ява I

Бжэзіцкі. Афіцэр дэфензівы. Шэцкі.

Бжэзіцкі. Д'ябал ведае, што такое! Касцёльная клікуша — дэвотка, авантурныя паненкі, «гуманныя афіцэры» і бунтарскі натоўп хлопаў! Што рабіць?

Шэцкі. На вялікі жаль, у Польшчы няма чалавека, які адпавядаў бы патрабаванням моманту. У нас ест сенат, але мы не старажытны Рым...

Бжэзіцкі. Не старажытны? Мы павінны быць сучасным Рымам!

Шэцкі. Рымам Мусаліні, ха-ха! То іншая справа!

Афіцэр (*да гэтага нешта пісаў*). Я не маю афіцыйнага права прымаць удзел у абгаворы такой палітыкі, пане палкоўнік... Дэфензіва — абарона дзяржавы, як яна ест.

Бжэзіцкі. Я вас разумею, пане капітан. Што яшчэ я вам магу асвятліць з нашага тут бытавання?

Афіцэр. Я бы хацеў усё ж пазнаёміцца з паручнікам Ржэвуцкім. Яго паводзіны ў час маніфестацыі ў мястэчку... Характарыстыка, якую мы маем аб ім... (*Глядзіць на Шэцкага.*)

*Шэцкі.* Пры такіх афіцэрах армія нішто, мітынг!

Афіцэр. Я павінен пазнаёміцца з паручнікам Ржэвуцкім.

## З'ява II

Ж а ў н е р.

Б ж э з і ц к і *(звоніць).* Пакліч зараз паручніка Ржэвуцкага!

Ж а ў н е р. Слухам!

А ф і ц э р. Я даў загад прывесці таксама Тэклю Лісоўскую. Вы нічога не маеце супраць, пане палкоўнік?

Б ж э з і ц к і. Тэкля Лісоўская не лічыцца ў мяне ў спісках палка, пане капітан!

А ф і ц э р. Так... Але ж...

Ш э ц к і. Тэкля Лісоўская, адданая польскай справе на «крэсах» паненка...

А ф і ц э р. Кулю рэвальвера яна магла б выкарыстаць для лепшага выпадку...

Б ж э з і ц к і. Карыстаць кулі — ест прывілей вайсковых, я так мыслю. І дрэнна, калі кожная спадніца будзе мяшацца ў справы стрэльбы...

## З'ява III

Уваходзіць Р ж э в у ц к і.

Р ж э в у ц к і. Пан палкоўнік паклікаў мяне?

Б ж э з і ц к і. З вамі хоча пазнаёміцца пан капітан...

Ржэвуцкі і капітан холадна, афіцыйна вітаюцца.

А ф і ц э р. Некалькі пытанняў да пана паручніка...

Р ж э в у ц к і. Проша.

Б ж э з і ц к і. Проша сесці, Ржэвуцкі.

Р ж э в у ц к і. Дзенькуе, пане палкоўнік. Мне так выгодней...

А ф і ц э р. У размове з графам Шэцкім, вашым калегам, пан меў выпадак кінуць на пляцу мястэчка ўголас словы: «Яшчэ будзе бунт!» Пан меў на ўвазе рэвалюцыю?

Р ж э в у ц к і. Пан капітан добра асведамлёны ў здарэннях. *(Зірнуўшы ў бок Шэцкага.)*

А ф і ц э р. Нас цікавяць не толькі здарэнні, але і погляды, і думкі польскіх грамадзян...

Р ж э в у ц к і. Думкі — асабістая справа. Можна адказваць толькі за ўчынкі.

А ф і ц э р. Дзіўна!

Ш э ц к і. Паручнік Ржэвуцкі жыве ангельскімі ідэямі 18-га стагоддзя!

Афіцэр. Аб якіх забыліся цяпер і самі ангельцы... Так. Другое. Пан паручнік выказаў вайсковаму пашану бальшавіцкай маніфестацыі?

Шэцкі. Чырвонаму сцягу, які нёс які-небудзь местачковы Ёсель...

Бжэзіцкі. Ты выказаў вайсковы гонар...

Ржэвуцкі. Я выказаў вайсковы гонар людзям, якія ёсць прадстаўнікі тутэйшага народу, большасць хлебаробаў, працай якіх корміцца тут польская армія... Я выказаў гонар простым, але вытрыманым людзям... Яны ішлі ціха, бяззбройна, з нейкай сваёй песняй... Пасля таго як мітынг, на які сабраліся па праву вольнага слова, разагнала нагла паліцыя!

Афіцэр. Вы чулі прамову нейкага Андрэя Баравога, партыйная мянушка «Клін»? Як яна падабалася польскаму афіцэру?

Ржэвуцкі. Я не ўслухоўваўся ў змест.

Шэцкі. Мы стаялі поплеч. Прамову было добра чуваць...

Ржэвуцкі. У такім разе граф Шэцкі мог бы і даць характарыстыку прамове...

Афіцэр. Нас зараз цікавіць вашая характарыстыка, пане паручнік.

Ржэвуцкі. Народ яе ўспрымаў як сваю...

Шэцкі. Не ўсе.

Ржэвуцкі. За выключэннем двух, трох, якія...

Афіцэр. Якім пан паручнік, ясна, не спачувае. Так. Апошняе запытанне: як прозвішча жаўнера, што быў з паручнікам?

Ржэвуцкі. Не вем... падышоў ззаду... нашага палка, здаецца.

Афіцэр *(да палкоўніка)*. З мяне покі досыць. *(Піша.)*

Бжэзіцкі. Паручнік Ржэвуцкі мусіў быць арыштаваны яшчэ заўчора, але я ўзяў цябе пад сваю апеку.

Ржэвуцкі. Барздо дзенькую, пане палкоўнік... Але...

Бжэзіцкі. Я зараз не бяру на сябе адказнасць як палкоўнік польскай арміі бараніць цябе, калі б нават патрабаваўся твой арышт...

Афіцэр. Пшэпрашэм пана палкоўніка! З майго боку такіх прэтэнзій да паручніка няма...

Бжэзіцкі. Тады ты вольны.

Ржэвуцкі. Слухам. *(Выходзіць.)*

Афіцэр *(ціха)*. Я нарокам пакінуў пана паручніка на волі покі што... Вы разумееце?

Шэцкі. Ну так, ясна!

Афіцэр. Настрой выразны. Важны нам факт: арганізацыя тут альбо адзінка з такім настроем.

Шэцкі. Сын хлопа, чаго чакаць! А як ганарыцца сваім хлопствам! «У нас у крыві няма гультайства, эксплётацыі!»

Бжэзіцкі. Так казаў? *(Стук.)*

Афіцэр. Проша.

### З'ява IV

Дарнілоўскі, Тэкля.

Дарнілоўскі. Маю гонар з'явіцца, панове афіцэры. Па запрашэнні... па запрашэнні даць адказ... камарынае мяса... гм, гм.

Афіцэр. Цо? Вы лоўчы Дарнілоўскі?

Дарнілоўскі. Маю гонар быць слугою найяснейшага граба Гоцкага... з балдавешкай...

Афіцэр. Залішніх слоў не патрэбна, карацей!

Дарнілоўскі. На кожнае запытанне... адно слова... камарынае...

Бжэзіцкі *(да Тэклі)*. Проша сядаць!

Тэкля *(холадна)*. Дзенькуе!

Бжэзіцкі *(да афіцэра дэфензівы)*. Калі я буду патрэбны, проша клікнуць.

Афіцэр. Добжэ. *(Развіталіся. Да Дарнілоўскага.)* Хто падклаў вам антыдзяржаўную лістоўку ў кішэню? А можа, вы і самі...

Дарнілоўскі. Я? Камарынае мяса! Сам лістоўку? Што ж я яе сам пісаў? Сам друкаваў, з балдавешкай?

Афіцэр. Спакойна, пане лоўчы.

Дарнілоўскі. Пану вядома, што я член звёнзку «Стрэльба». Вось *(паказвае білет і іншыя адзнакі)*.

Афіцэр. Ніц не знача!

Дарнілоўскі. Як ніц не знача! Звёнзак мае на мэце бараніць дзяржаву... камарынае мяса.

Афіцэр. Дзяржаўны лад абараняе дэфензіва!

Дарнілоўскі. Так. Так і я кажу... так... так...

Афіцэр. Вам заданне, пан Дарнілоўскі: высветліць справу з лістоўкай... іначай...

Дарнілоўскі. Добра, добра, я найду злодзея!.. Я... з балдавешкай...

Шэцкі. Калі ласка, без мяса, пан Дарнілоўскі, і без балдавешкі. Калі вы, нарэшце, зробіцеся вегетар'янцам?

Дарнілоўскі. Вы абражаеце мяне, пане грабе!.. Вы яшчэ малады, пане грабе. Яго светласць граф Гоцкі...

Афіцэр. Вы вольны ісці!

Дарнілоўскі. Перапрашаю! Я найду злачынца... Я... *(Выходзіць.)*

Тэкля. Я пад арыштам, ці не? З мяне ўзялі падпіску...

Афіцэр. Аб нявыездзе. Вашая справа пойдзе ў законным парадку да следчага і пракурора. Не можна ж, папраўдзе, у арганізаванай, культурнай дзяржаве, дазваляць кожнаму, хаця б патрыёту, рабіць самачыннасць і браць на сябе ролю правадзейных установў. Вы, панна Тэкля Лісоўская... Стралялі...

Тэкля. Страляла ў бальшавіцкага агітатара і не трапіла, на жаль, бо мне перашкодзілі!..

Афіцэр. Так. Мы пакінем зараз развважаць. Я ахарактарызаваў ваш учынак, то афіцыйна. Зараз мы будзем гаварыць неафіцыйна. Для нас вы — патрыётка.

Шэцкі. Здаецца, можна было б сказаць мацней — каллега!

Афіцэр. Так. Вашая справа павінна фармальна праходзіць дзяржаўны суд. Але кара будзе, мусіць, невялікая...

Тэкля. Я не страшуся польскага суду!

Афіцэр. Так. Але зараз, на волі, вас возьме на парукі... мм... хто-небудзь... хаця б ксёндз Юрага... Вы, здаецца..

Шэцкі. Я бяру на парукі панну Тэклю.

Афіцэр. Вы? Добра. Значыць, покі вы на волі, улада, дэфензіва чакае ад вас дапамогі...

Тэкля. У мяне канфіскавалі зброю.

Афіцэр. Дапамога можа быць сутнай: прасачыць за паручнікам Ржэвуцкім.

Тэкля *(парыўна)*. Ржэвуцкім?

Шэцкі. Чаму панна здэжанавалася? Ясна — за Ржэвуцкім, які перашкодзіў вам выканаць...

Афіцэр. І за іншымі, спіс якіх вам будзе дадзены. Згодны?

Т э к л я. Я рабіла і раблю справу Жэчы Паспалітай без даручэння!

А ф і ц э р. Панна Лісоўская — вольна. Да пабачэння. *(Тэкля выходзіць.)*

А ф і ц э р. Пане грабе, вам прыйдзецца ўзяць на сябе маленькую рэч...

Ш э ц к і. У чым справа, пане капітан?

А ф і ц э р. Зрабіць патроны паручніка Ржэвуцкага халастымі.

Ш э ц к і. З парабелюма Ржэвуцкага?

А ф і ц э р. На кожны выпадак. *(Звоніць тэлефон.)* Алё. Так. Я. Цо? Ну, ну так. Д'ябал *(Запісвае.)* У 15 кіламетрах ад Міра на дарозе знойдзена цела... нашага агента... Д'ябал! Пся крэў! *(Да Шэцкага.)* Патрэбна дапамога вашага палка. Паліцыя тут слабая, трэба зладіць... аблаву... па-нашаму. *(Званок.)* Алё. Так. Зараз... Ну? Не чую... не чуваць. Мацней проша! Не чую... Д'ябал!

Ш э ц к і. Яшчэ што-небудзь?

А ф і ц э р. Дрот перарэзалі, ці што?

Ш э ц к і. Зусім магчыма. І добра, што нічога болей.

А ф і ц э р. Напрыклад?

Ш э ц к і. Нашыя шыі.

*Заслона*

## МАЛЮНАК II

### З'ява I

Дарога за вёскай. Гай.

М а ц е й. Косця! Косця... Во паганючая дачка! Косця!

К о с ц я *(выбягае з сярпом)*. Чаго вы, я тут, ну?

М а ц е й. Ну, ну. Дажала? Не... Мусіць, ужэ з Алёнкай дзе бегала, а то і з Кастусём...

К о с ц я. Татка! Во вазьму кіну ды і папраўдзе з Кастусём пабягу!

М а ц е й. Бяжы! Хай раней па табе пера прабяжыць! Во бог даў дачку!

К о с ц я. Не бог, ды матка!

М а ц е й. Памаўчыш?

Косця (*мякчэй*). Цяжка жаць, татка... каб машыну...

Мацей. Твая матка машын не ведала... Машыну! А ты гуляць будзеш?

Косця. І з машынай не гуляюць, а толькі выгадней. А пра маму... Ну што добрага? Рана спрацавалася... Ды ці мала гэтакіх на вёсцы: надарвецца і ў труну! Або сохне, жаўцее...

Мацей. А што зробіш? Нашае жыццё такое, сялянскае...

Косця. Так не павінна быць! Нашыя хлопцы кажуць: капэрацыю каб сялянскую. Ды дзе тут, у Польшчы!.. Заікніся толькі, каб дазволілі — «бальшавікі»! Зараз табе і прышыюць: бальшавік, камуніст.

Мацей. Ат, не муцілі б хлопцы, то мо лепш было б!

Косця. Што вы, татка, дапраўды! Муцілі, муцілі... А як жа не маўчаць? Каб не хлопцы нашыя, што там крыкнуць, там прыгрозяць, дык бы...

Мацей. Што «дык», «дык бы»... Лепш працавалі б, як па лесе бадзяцца!..

Косця. А хто загнаў іх у лес? Ды ці ж яны не працуюць?

Мацей. Працуюць, працуюць! Языком мелюць: зямлю адабраць! Я свае не дам нікому!

Косця. Татка, вашую ніхто не возьме, а за Гоцкага граба не клапаціцеся! Вы са мной ці з Кастусём — адно, а як да справы, да зямлі гутарка зойдзе з сялянамі, дык зусім іншы чалавек...

Мацей. Гоцкі, Гоцкі! Уцісненне ёсць з зямлёй, з Гоцкім хаця б сабе... з парадкамі: усё мільч ды мільч! Як паперку якую дык давай грошы. Парадкі!

Косця. От жа! А памятаеце мітынг?

Мацей. Ды памятаю, згары ён!

Косця. Самі ж пляскалі, як Андрэй гаварыў...

Мацей. Усе пляскалі.

Косця. А пасля з намі пад чырвоны штандар пайшлі. Ат, татка! Вы ж селянін ці пан? Можа, як кажа Андрэй: у жываце мужык, а ў галаве нібы панок?

Мацей. Панок! Як убачыў граба, як прыехаў ён тады, дык і пайшоў пад ваш штандар, далібог! І адкуль вы гэтага колеру берыцё? Адбіраюць жа!

Косця. Само фарбуецца, клімат такі... чырвоны!

### З'ява II

Марына.

Марына *(таксама з сярпом)*. Жну, жну авёс свайму асадніку, а самой так сумна, сумна робіцца і крыўдна. *(Плача.)*

Косця. Кіньце, цётачка Марына!

Марына. Як жа кінуць, дзеткі? Яго дачка, Тэкля гэтая, шануючы кума ды цябе, што дзеўка яшчэ, шлюнда гэтая... Тэкля... Забіць жа мэцілася Андрэйку... майго сыночка... Хаваецца цяпер недзе...

Мацей. Мусіць, заарыштаваная сядзіць.

Косця. Татка верыць у правасуд панскі? Ат!

Марына. Каб пабачыла, задушыла б яе! Бачыш! Не падабалася, што гаварыў хлапец праўду!

Косця. Будзе яшчэ нашае права, цётачка, будзе! Усе нашыя хлопцы кажуць... і робяць.

Марына *(цішэй)*. Гэта ж Андрэй узяў сабе мянушку — «Клін» празываецца. Каб жа не даведаліся паліцыянты, што гэты Клін — ён, мой Андрэйка... бяда будзе...

Косця. Вы меней толькі, цётачка, гаварыце пра гэта.

Марына. То праўда твая. Ведама, баба дурная! Пайду ж дажынаць майму... Наймітка, нічога не зробіш! Ды Андрэйка і не ведае, у каго я палетнічаю: раззлаваўся бы!

Косця. І то праўда, кіньце, цётка, дапамагаць ім!

Марына. Ды грошы ўперад узяла... Нядобра. Ну, пайду, заставайцеся здаровы!

Мацей *(да дачкі)*. Ты дажынай, Косця. Я з канём пад'еду. *(Адыходзіць. Чуваць дажынкавую песню.)*

Мяне мамунька чакала,
Варацейкі адчыняла:
А ідзець мая прыгонніца,
Прыгонніца-нявольніца,
Не дзень была — нядзелячку,
Не мёд піла — гарэлачку,
Не аддыхала ні гадзінкі,
Баліць яе серадзінка.

Косця падпявае, жне збоку.

## З'ява III

Кастусь.

Кастусь. Костачка мая, го!

Косця. Кастусь! *(Цалуюцца.)* З лесу? Усе там? Пахаваліся?

Кастусь. Хаваемся! Ды толькі не спакойна... сочаць... У фальварак дэфензіва прыехала.

Косця. Чула... Не першыня...

Кастусь. Агента забілі каля Забалоцця... Будуць шукаць. За Тэкляй трэба сачыць... Бяруся за яе. Як што — па мяне. Ведаеш, дзе хаваюся.

Косця. Вядома.

Кастусь. З Аленкай разам. Вы ж у нас малайцы... Як што, пашліце каго-небудзь.

Косця. Зробім, не клапаціцеся... Толькі... вось што, Кастусь, не хавайцеся ў пуні майго бацькі. Сам ведаеш, набожны. Ксяндзу верыць.

Кастусь. Гэта праўда... Але ж выгадна двор ваш стаіць: сярод асаднікаў. Ну, нічога не зробіш: трэба шукаць чаго іншага... Цяпер і ў лесе добра, а крыху пазней, як пахаладае... *(Чуваць спевы.)* Эх, добра пяюць! Ведаеш, Косця, колькі ў нас ужо ў дружыне?

Косця. Ну?

Кастусь. Блізка каля трыццаці чалавек. Патрошку зброю дабываем, весялей робіцца!

Косця. Няўжо ў адчыненую бойку збіраецеся?

Кастусь. Як прыйдзецца, галубанька! І ўсе так: хто з паліцыянтамі паспрачаўся, ударыць не даўся. Хто з войска ўцёк: не хоча, кажа, падначальвацца панам-афіцэрам. Хто за маніфестацыі.

Косця. Кастусёк!

Кастусь. Што, Костачка мая? *(Цалуюцца.)*

Косця. А татка не верыць, што мы з табой... толькі там, цалуемся.

Кастусь. А нам і так добра... Час такі... Крыху супакоіцца, тады... Толькі нешта не відаць супакою!

Косця. Канца-краю няма, як хмарамі зацягнула.

Кастусь. А не, дык... туды шасць!

Косця. Праз мяжу?

Кастусь. Праз мяжу! Калі прыцісне, хоць у пятлю лезь, сілы не хопіць... тады ўжо пацалуемся крыху мацней... а? Костачка? *(Цалуюцца.)*

Косця. Глянь, ідзе нехта па дарозе. Ой, вайсковы!

Трэба ўцякаць. Не, нешта дзіўны нейкі — на паліцыянта не падобны... картуз у руцэ. Гэта ж... ці мне здалося... Гэта ж... Ну, так, ён!

Кастусь. Хто? А, стой... Так!

### З'ява IV

Ржэвуцкі. Шпарка праходзіць міма, аглядае абоіх. Спыняецца.

Ржэвуцкі. Як тут... як тут, панове, таварышы...

Кастусь. Што пану, да каго?

Ржэвуцкі. Я не ведаю... Мне патрэбна бачыць тую панну... тую таважышку, якая несла заўчора ў мястэчку чырвоны штандар.

Косця *(ціха)*. Гэта той... афіцэр...

Кастусь. Я не ведаю, пра каго пан афіцэр гаворыць, але ж, здаецца, вы той, што схапіў яе за руку...

Ржэвуцкі. Так... Вы, значыцца, былі там... Я хацеў бы бачыць каго-небудзь... з тых, што... могуць перадаць...

Кастусь. Што? Сядайце, проша, вы змарыліся, беглі, мусіць.

Ржэвуцкі. Так, я бег. Вы можаце мне не верыць, я польскі афіцэр, зразумела!

Кастусь. Мы бачылі вас тады і чулі ўжо пра вас...

Ржэвуцкі. Я не ведаю з вас, сялян, нікога. Але я бачу, што вы адно, асабліва моладзь... Кожнаму з вас я магу перадаць: ратуйцеся, хавайцеся, калі ў вас што ест. Адзін жаўнер наш, рэвалюцыянер, можа, нават камуніст, я не вем, перадаў мне, што заўтра аблава: ён падслухаў... Ён сам не мог ісці да вас, бо яго ўзялі ў караул. Я пабег... Але я не ведаю, як робіцца такая работа... І я афіцэр да таго ж...

Кастусь *(пераглянуўшыся з Косцяй)*. Мы бачылі вас тады... гэтага досыць, мы верым вам...

Ржэвуцкі. Я павінен вараціцца, за мной, мусіць, сочаць, я прыйшоў тайком. Да мяне ўжо давер'я збоку...

Кастусь. Вашага начальства? Зразумела...

Ржэвуцкі. Мне рабілі раніцай допыт... з дэфензівы...

Кастусь. Так, так... Ну, Косця, я бягу, трэба нешта рабіць...

Косця. А я што, куды?

Кастусь. Прабачайце, пане паручнік, але мы... ну... жаніх і нявеста. Можа, надоўга развітаемся.

Р ж э в у ц к і. Проша, проша! *(Адварочваецца, тыя цалуюцца.)*

К о с ц я. Мы ж умовіліся з ёю.

К а с т у с ь. Ну, пазнаём іх! Я бягу. *(Знікае ў кустах.)*

**З'ява V**

А л е н а *(убачыўшы Ржэвуцкага)*. Косця! Скончыла жаць? Ты не адна? *(Ржэвуцкі і Алена доўга глядзяць адзін на аднаго.)*

К о с ц я. Алена, гэта, ты пазнала?

А л е н а. Калі я бачу каго добрага хоць раз... Я пазнаю адразу!

Р ж э в у ц к і. Я таксама, і не забываю тады ніколі...

К о с ц я. Я пабягу, Алена. Пан афіцэр усё табе раскажа. Небяспека!..

А л е н а. Небяспека? З якога боку?

Р ж э в у ц к і. З боку тых, ад каго яе заўсёды можна чакаць — ад вашых ворагаў.

А л е н а. Нашых? І... а вы?

Р ж э в у ц к і. Я? Я, як бачыце, нібы яшчэ ў іншым стане... звонку... а ў душы...

А л е н а. А ў душы?

Р ж э в у ц к і. Я не з імі, ва ўсякім разе! Я не ведаю вас... панна... таважышка... Я бачыў вас тады, з чырвоным штандарам. Чырвоны штандар быў маім ворагам, так мяне выхоўвалі. Я ўбачыў тут, на «крэсах», што маё выхаванне ест штучная прышчэпка тых ідэй, якімі жывуць мае таварышы — афіцэры. А жыццё вашае — барацьба за правы, за сваю зямлю — зусім нешта іншае. *(Прытуляецца да дрэва, ходзіць нервова.)* Ці ж можа благі штандар трымаць у руках такое яснае стварэнне? Не рабіце парыву насцярожання. Не! Я многа перажыў, каб гаварыць прыемныя рэчы паннам... кампліменты.

А л е н а. Я простая дзяўчына. Мой бацька ляснік... там, на Нёмане... Ну, усё роўна!

Р ж э в у ц к і. Не, не ўсё роўна! А яшчэ прыгажэй! Так! Вы трымалі штандар. Каля вас я бачыў столькі здаровай юнасці... здаровай, вясковай... ад зямлі... Я сам па крыві сын глебы. *(Усхвалявана.)*

А л е н а *(асцярожна падыходзіць да яго, кранаецца яго пляча)*. Не трэба! Вы мужчына... вам патрэбна быць сільным, мужным... вы зрабілі тады такое, што мы не можам не дзякаваць вам. О, вы яшчэ, мусіць, не ведае-

це, хоць вы і сумленны, чулы чалавек, сын глебы, як вы кажаце, як мы, сяляне, простыя людзі... як мы можам памятаць зло... і мы яго памятаем. Але дабро мы таксама памятаем... самае малое дабро!

Ржэвуцкі. Я ведаю! Я добра ведаю! Я сам адчуваю тое самае, тое самае, панна, таважышка...

Алена. Алена!

Ржэвуцкі. Таважышка Алена. Мне яшчэ трэба многа перажыць, перадумаць, пераламаць сябе... Памажыце, Алена! Патрымайце нада мной яшчэ свой штандар, чырвоны штандар... як тады... У мяне нікога тут няма блізкага. На Млаве, у Польшчы... успамін дзіцячых гадоў. У мяне яшчэ барацьба з самім сабою... з імі, з тымі... Я ж «здраднік»! Алена, яны будуць лічыць мяне здраднікам бацькаўшчыны!

Алена. Няпраўда, няпраўда! Ваша бацькаўшчына — Польшча вольнага працоўнага народу! Вы ёй не здрадзілі! Яны лгуць! Вы паспачувалі нашай барацьбе. Гэта ж зрабіў бы кожны селянін, кожны работнік у Польшчы. Во дзе вашая праўдзівая бацькаўшчына. Не верце ім! Яны горстка з народа польскага, хоць і маюць уладу. Мы добра ведаем! Не верце ім, ды і самому сабе. Калі ў вас яшчэ засталася хоць кропля таго... іхняга! Вам дарога з тымі, хто хоча вольнай працы!

Ржэвуцкі. Алена, Алена, трымайце штандар!.. Трымайце! *(Плача. Алена паклала руку на яго плячо.)*

### З'ява VI

Тэкля выбягае да іх.

Тэкля. Каханкі! Ха-ха-ха! Здраднік, хлоп!.. Не, Польска яшчэ не згіне праз такіх! За вочы хлопскай дзяўчыны... беларусінкі... ха-ха-ха! Зганьбіць свой мундзір!

Ржэвуцкі *(парываецца схапіць рэвальвер. Алена прытулілася да яго, стрымлівае)*.

Тэкля *(адскочыўшы крыху ўбок)*. Не, не заб'еш! Не! Шэцкі разумнейшы! Ха-ха-ха! Стшэляй! Я кахала цябе... як нікога і ніколі! О, матка боска! Мой каханы — здраднік нашай Польшчы!

Алена. Панна Тэкля!

Тэкля. Мільч! Бальшавічка! Захацела шлюбу? Будзе вам шлюб на дрэве, во так... Ах! Чаму ў мяне адабралі мой рэвальвер!

Ржэвуцкі *(парываецца ісці з Аленай)*. Алена! Таважышка!

Тэкля. Ха-ха-ха! Таважышка Алена! Хутка даведаўся яе імя! Не, стой! Ты дурны і наіўны. Пабег папераджаць бандытаў? Каханку сваю папераджаць? Спазніўся!

Ржэвуцкі. Панна Тэкля! *(Кідаецца ў яе бок.)*

Тэкля *(адбягае)*. Эй, сюды. Эй!

Выбягаюць двое жандараў.

Ржэвуцкі *(выхапіў рэвальвер, страляе халастым)*.

Тэкля. Ха-ха-ха! Вяжыце яго, вяжыце! *(Кідаецца на Алену. Тая хапае яе за горла і кідае на зямлю. Бяжыць. Вацлава скручваюць.)*

Тэкля *(падбегла да Ржэвуцкага)*. Не ўцячэ і твая каханка. Ха-ха-ха!

*Заслона*

## ДЗЕЯ V

### МАЛЮНАК I

Кавалак саду і флігелю. У момант дзеі акно на бельэтажы асвятляецца і відаць сілуэт Ржэвуцкага, які стаіць або сядзіць, пакрываючы галаў рукамі... Перад ім афіцэр дэфензівы, Шэцкі, Тэкля, ксёндз па чарзе. Гэта асвятляецца на моманты.

#### З'ява I

Вартаўнік. Куды ідзеш? Стой, ні з месца!

Марына. Гэта ж я з асаднікаў, з палякаў, значыцца, жонка значыцца. Я тут на агародзе працую, на панскім... мне прайсці туды.

Вартаўнік. Нічога не ведаю, ідзі хутчэй! *(Робіць жэст стрэльбай.)*

Марына. Мне туды, туды... у гарод... бронь божа. *(Праходзіць.)*

## З'ява II

Ксёндз і Кавоцкая.

Ксёндз *(праходзячы ў сярэдзіну флігеля).* Проша! Панне навучыцельцы туды не можна!

Кавоцкая. О! Я пачакаю, пачакаю на яго мосць. *(Да вартаўніка.)* Ах, які стыд, які стыд! Афіцэр польскага войска на баку хлопаў, ды яшчэ тутэйшых. Які стыд! Што робіцца на Нёмане, што робіцца на Вісле! *(Жаўнер робіць знак нецярпення.)* Чаму так? Таму што касцёл губіць сваю вагу... А калі касцёл губіць...

Вартаўнік. Мільч! Я не маю права размаўляць!

Кавоцкая. А чаго ж пан жаўнер размаўляе. Нех пан толькі слухае, то і будзе добра.

Вартаўнік. Мільч! Я не маю права слухаць!

Кавоцкая. Пан бачыў, што я прыйшла з айцом ксендзам... *(Жаўнер бярэ на нагатоў.)* Ай, ай! То я пачакаю там! Якая дысцыпліна, ай! То добра... Якая дысцыпліна, ай! *(Адыходзіць.)*

## З'ява III

Шэцкі і Тэкля праходзяць.

Тэкля *(выразна хвалюючыся).* Я павінна яго бачыць, Шэцкі. Я павінна і я зайду... туды... да яго!

Шэцкі. Вас не дапусціць варта ў яго пакой, панна Тэкля. Што з вамі? Вы здэжанаваны!

Тэкля. Вы праводзіце мяне, вас прапусцяць!

Шэцкі *(стараецца спыніць яе каля дзвярэй).* Пан палкоўнік пасадзіць мяне пад арышт... я не маю права, панна Тэкля!

Тэкля *(адхіляе яго).* Граф Шэцкі, будзе горай! Я маю права! *(Праходзіць. Шэцкі за ёй.)*

Кавоцкая *(выскоквае).* Панна Тэкля прайшла туды? *(Жаўнер зноў робіць на нагатоў.)* Ай, якая дысцыпліна! *(Знікае.)*

Ксёндз *(выходзіць назад. Кавоцкая падбягае да яго).*

Кавоцкая. Ну, цо? Прыняў споведзь?

Ксёндз. Мне было іншае даручэнне, панна навучыцелька. Вацлаў Ржэвуцкі ўжо не каталіцкая душа: бацыла маскоўская запанавала ў яго душы. Ржэвуцкі — бальшавік!

Кавоцкая. Ах, мой божа! А такі ладны, такі прыгожы малады чалавек!

Ксёндз. Я, служыцель святой царквы каталіцкай, быў прыняты ім так, як прымаюць пернік з атрутай...

Кавоцкая. Якая непавага! Я б так ніколі не прыняла яго мосць!

Ксёндз. Толькі смерць можа ўстанавіць раўнавагу ў душы таго нешчасліўца!

Кавоцкая. Як, яго пакараюць смерцю?

Ксёндз. То не нашая справа! Будзе суд, будзе суд.

Праходзяць. Зноў выходзіць Марына з кашом садавіны, грызе яблык. Не гаворачы нічога, падыходзіць да самага жаўнера і раптам дае яму яблык у самы рот. Той спачатку нібы злуецца, але бярэ яблык. Марына совае яму ў кішэню яшчэ некалькі, совае і лістоўку. Жаўнер азіраецца, але робіць выгляд, што нічога няма, адыходзіць крыху. Марына робіць знак хусткай у бок акна. У акне сілуэт Ржэвуцкага.

### З'ява IV

Дарнілоўскі.

Дарнілоўскі. Што ты тут вырабляеш? Каго ты тут на спатканне вызываеш... камарынае мяса?

Марына. Цябе ж, мой індычок, я тут чакала ўвесь час! Чаго ж ты спазніўся?

Дарнілоўскі. Мяне, камарынае мяса?

Марына. Але ж, камарынае сала... *(Выходзіць, яшчэ раз махнуўшы хусткай да акна.)*

Дарнілоўскі. Нічога не разумею, чаго тут жаўнер, а? *(Падыходзіць. Жаўнер выстаўляе штык.)* Ай! У чым... рэч... камарынае... Тут была кантора маёнтку яшчэ ўчора? Што тут здарылася? Спаймалі каго?

Жаўнер. Ніц невем! Мільч! *(Наступае на яго.)*

Дарнілоўскі. Ды што ты, што ты? Ты можаш падрапаць мне што-небудзь! Ай! Я член звёнзку... Я член...

Жаўнер. Мільч.

Дарнілоўскі. Добра... Я адыду... У цябе нічога не даб'ешся... Толькі што гэта ў цябе... Там, у кішэні? *(Жаўнер схапіўся за кішэню, выпала лістоўка.)* А-а! І табе таксама падклалі з балдавешкай! Гэта яна... гэта яна... тая баба! Я яе злаўлю! Я абяцаўся ўсіх пералавіць з балдавешкай. *(Бяжыць.)*

### З'ява V

Выбягае Т э к л я.

Т э к л я. Ха-ха-ха! Не пазнаў мяне, ха-ха-ха! Ржэвуцкі, Вацлаў Ржэвуцкі, самы пекны ў палку... Самы пекны ва ўсім войску польскім. А? Хіба я не прыгожая? А? Ён закахаўся ў дачку лесніка. На Нёмане такі астравочак... ціхі... ціхі... Ха-ха-ха! *(Да жаўнера.)* Чаго ты стаіш тут? Вартуеш? А-а! *(Наступае на яго.)* Ён усё роўна ўцячэ, так! Ён уцячэ ад цябе... Толькі не ад мяне... не ад мяне, дай стрэльбу, дай! *(Жаўнер адпіхнуў яе прыкладам.)* Ай, ратуйце!

### З'ява VI

Бжэзіцкі і некалькі вайсковых.

Б ж э з і ц к і. Што ту? Хто крычыць?

Т э к л я. Я крычу... Я... Тэкля Лісоўская! Не пазналі, пане палкоўнік? Зараз жа выпусціць яго! Зараз!

Б ж э з і ц к і. Вар'ятка! Узяць яе!

Т э к л я. Пшэпрашам, пана палкоўніка! Я трошкі... закруцілася... Так... закруцілася. *(Пачынае скакаць, як у 3 дзеі.)* Польска гіне! Наша Польска гіне!

Б ж э з і ц к і. Адвесці яе! *(Яе адводзяць, яна слабее.)* Вар'яцкі дом! *(Уваходзіць у дом.)*

Акно з сілуэтамі на момант асвятляецца. Ціха. Толькі вартаўнік ходзіць. Праходзіць праз сцэну А н д р э й Б р ы л ь. На момант затрымаўся каля жаўнера. Прайшоў міма. Свет паступова гасне. Чуваць далёкія спевы з поля. Цёмна. Здалёку шум нарастае. Праходзяць, прабягаюць людзі. Шум. Галасы спачатку здалёку, затым бліжэй.

Г а л а с ы. Пажар! Пажар!
— Палац запаліўся!
— Трывога!
— Бачнасць!
— Напад! Напад! Партызаны!

На момант асвятляецца забіты Брылём вартаўнік. У акне сілуэты Ржэвуцкага, хлопцаў, жаўнераў. Суматоха.

Г а л а с ы. Бі лямпы!
— Таварыш Клін, сюды!
— Ржэвуцкі, за мной! *(Глухія стрэлы.)*

## МАЛЮНАК II

### З'ява I

За вёскай.
Сцэна бойкі між паўстанцамі і жаўнерамі. Ноч. Асвятляюцца толькі асобныя групы.
Група I.

Андрэй. Уважна, хлопцы! Уважна! Здаецца, абходзяць нас з левага флангу. На Нёман!

Кастусь. Да Броніка?

Андрэй. Возьмем чоўны, ды на ніз!

Ржэвуцкі *(без картуза)*. Панове, даруйце, таварышы! Дайце мне стрэльбу!

Андрэй. Алена, можа, вы дасцё сваю?

Алена *(у мужчынскай вопратцы)*. Не дам!

Ржэвуцкі. Алена? Тут Алена?

Алена. Я тут, Ржэвуцкі, во! *(Здымае шапку, відаць яе твар і каса.)*

Ржэвуцкі. І вы ратавалі мяне?

Алена. Не аднаго вас... паўстанца аднаго таксама захапілі, мы вызвалілі!

Андрэй. Вось што, таварышы! Ржэвуцкаму трэба зараз жа адысці далёка, покі мы затрымаем іх тут... Яму небяспека. Мы і па гумнах да часу пахаваемся — свае, а яго могуць выдаць: мова ды і так, аблічча.

Ржэвуцкі. Таварышы! Я хачу з вамі... Я вайсковы... Я магу быць карысны!

Андрэй. Таварыш Ржэвуцкі! У нас дысцыпліна не горай, як у вашым палку!

Ржэвуцкі. Слухам!

Андрэй. Барыс!

Барыс. Я тут, таварыш Клін!

Андрэй. Бяры Ржэвуцкага і зараз жа ў свой двор — да старой Лэі — схаваць на некалькі часоў, пакуль мы не...

Барыс. Зараз, адсюль?

Андрэй. Зараз жа на Грывінец, праз балота і на шлях, яны з коньмі не пяройдуць.

Ржэвуцкі. Таварышы! Я не паспеў і падзенькаваць вас! Таварышы! Вы вызвалілі мяне ад вязення, а можа, і ад смерці, і вы рызыкавалі сваім жыццём! З сённяшняга дня, з сённяшняй ночы вашая барацьба ест справа майго далейшага жыцця. *(Цісне рукі, цалуюцца. Падышоўшы да Алены.)* Вы патрымалі свой чырвоны

сцяг над маёй галавой! Я б хацеў толькі яшчэ хоць раз убачыць вас!

Барыс. Бывайце здаровы, таварышы. *(Знікаюць. На нейкі момант ціха.)*

Кастусь. Нішто хлопец, гэты Ржэвуцкі! Аж слязіну выгнаў

Андрэй. Скокнуць прыйшлося яму здорава! З паручніка ў паўстанцы! Калі што якое здарыцца са мной, яго слухаць, хлопцы! *(Раптам застагнаў.)*

Усе *(да яго)*. Баліць што?

Андрэй. Таварыш Алена! Можа, у вас знойдзецца кавалак бялізны?

Алена. А што, Андрэй?

Андрэй. Думаў, так пройдзе, ажно не... нага...

Алена. Нага? Што, дзе? Можа...

Андрэй. Падстрэліў нейкі сабака... кроў цячэ... Баюся, каб валачыць не прыйшлося мяне.

Алена. Кастусь, памажыце! Вось для перавязкі. *(Ірве на сабе кашулю.)* Памажыце зняць бот!

Андрэй. Ой, ой, памалу, браточкі, памалу!

Кастусь. Што ж гэта ты, братка, га? Маўчаў столькі! І як ты бег?

Андрэй. А што было рабіць? Жандарам здавацца? Ці каб граф Шэцкі скокам пачаў вучыць?.. Не, браточкі!.. Так і ведайце, што калі што якое здарыцца тут ці надалей, кулю сюды, а вы гайда!

Алена. Кіньце, Андрэй! Не хачу і чуць такога! Мы ўсе тут загінем, а не кінем вас!

Кастусь. Якая ж можа быць гутарка? Што ты гэта?

Андрэй. Слухайце, я не жартую! Вы гэтыя свае пачуцці кіньце! Аднаго пакінулі сёння ў маёнтку, што, ён горай за мяне быў?

Кастусь. Што ты раўнаеш, Андрэй!

Алена. Каб бінт быў, марля!

Андрэй. Можа, палявы лазарэт, дактары, а?

Алена. Не смейцеся. Паляжыце лепш... во так... *(Кладзе яго галаву сабе на калені.)*

Андрэй. Дзякую! Нешта, праўда... нібы аслаб. Крыві, мусіць, выйшла багата. Спаць ахвота.

Алена. Зморанасць. А тут яшчэ...

Кастусь. Што ж тут рабіць?.. Што рабіць?..

### З'ява II

*Марына.*

Голас. Стой!

Марына. Дзетачкі мае! Гэта ж я! Дзе ж мой сыночак? Ледзь знайшла вас уцёмках... Гэта ж вярсты са тры бегла...

Андрэй. Матулечка, дзе вы?

Марына. Тут, сыночак мой... Што ж ты ляжыш? Га? Аленачка?

Алена. Змарыўся, цётачка Марына, змарыўся...

Марына. Ды не ўсё вы гаворыце, дзеткі, не ўсё! *(Заўважыўшы бінты.)* Ой, горачка ж маё, ай, горачка! Сыночак мой!

Андрэй. Нічога, матулечка, нічога! Гэткая справа нашая. Бывае... Пападзе... крыху ранены... тут... нага, аслаб...

Марына. Андрэйчык, мой сыночак! Што ж гэта? Дзетачкі ж мае, я ж не сказала вам: у Мацея ўжо былі, у Лысёнка жандары гэтыя...

Кастусь. Ну, як Косця?

Марына. Косця? Бацьку далі бізуна: «Бандытаў хаваеш», кажуць. А Косця... афіцэр іхны нешта адвёў яе...

Кастусь. Нягоднік! Я бягу, браткі, не магу я! Андрэй, браточка!

Андрэй. Ну, ну! Што ж, тваё права! Бяжы, можа, дапаможаш, напужай наскокам! Ой!

Алена. Што? Дрэнна? Не лоўка ляжаць?

Кастусь. Бягу!

Андрэй. Уваччу агеньчыкі... Нічога не бачу...

Цёмна.

Група II: Шэцкі, афіцэр дэфензівы, жаўнеры, Мацей.

Шэцкі *(па палявому тэлефоне)*. Тэлефоны чуваць? Так. Добра, што не знайшлі шнур? Перарэзалі? Адстрэльваюцца? Кулямётам іх! Пасласць два плютоны! Язда ў абход. Цо? Так. Цо? Коні? Балота? Д'ябал іх возьме з іх балотам!

Афіцэр *(на Мацея)*. Бальшавікоў хаваеш, стары!

Мацей. Паночкі! Я ж набожны католік, я ж да касцёлу...

Афіцэр. Зараз усе вы да касцёлу!.. Клін хаваўся ў цябе?

Мацей. Ніякага Кліна не ведаю... Кастусь, хлапец адзін... жаніх дачкі.

Афіцэр. Кастусь? Ілжэш, пся крэў! Андрэем таго зваць, батагоў яму! *(Мацея адводзяць, чуваць енкі.)*

Шэцкі *(па тэлефоне)*. Так! Не даць за ноч схавацца па лясах! Адрэзаць адступленне! Цо? Ужо ніхто не стрэляе? І нікога не забралі? Зараз рушым далей... Ідзе росшук па дварах... штаб палка... так, пане палкоўнік, маю гонар давесці: бандыты адстраляліся і адышлі... Цо?

### З'ява III

Уводзяць Косцю.

Афіцэр. А-а! Дзе твой жаніх? Адкажы!

Косця. Ніякіх жаніхоў у мяне няма, я ды татка...

Афіцэр. Тым лепш. *(Да Шэцкага.)* Я зараз, проша тут пачэкаць... *(Да жаўнера.)* Проша правесці за мной. *(Выходзіць.)*

Шэцкі *(у тэлефон)*. Слухам! Цо? Пане палкоўнік? Пад суд? Мяне? Зараз жа самому весці аддзел язды? Слухам! *(Да жаўнераў.)* На коні сядай! Марш! *(Знікаюць.)*

### З'ява IV

Мацей. Божачка ж ты мой. Ах вы, душагубы, ах вы, злачынцы! Не паглядзяць, што ты набожны, што ты стары, што ты... Ай, яй, яй, да іншых пайшлі, нашых паласаваць! Косця! Косця! Во стрэлілі, няўжо нашыя хлопцы блізка? Косця!

### З'ява V

Косця *(плачучы, выбягае)*. Татка! Татка! Што яны хацелі рабіць, татка!

Мацей. Ціху, бо яны тут дзе! Ціху!

Косця. Не баюся! Вочы павыдзеру! Стрэльнуў нехта, яны пусцілі мяне, ды на коні... Кастусёк мой! Дзе ж ты, родненькі? Лепш з табою ў лес ісці. *(Плача.)*

Мацей. Пойдзем усе ў лес, у паўстанцы, дачушка, усе! Вілы возьмем, цапы, косы, а правучым сцервяцоў!

Косця. І вы татка? З намі?

Мацей. Навуку атрымаў ад паноў афіцэраў ды жандараў: во сюды ды сюды.

Косця. Татка! Божачка мой, дзе ж нашыя?

### З'ява VI

Кастусь (*налятае*). Косця, Костачка мая! Ты жыва? Дзядзька Мацей, дзе яны?

Косця. Кастусёк, нічога! Стрэльнуў нехта, яны і кінулі мяне дапытваць. Толькі збіраліся нешта дрэннае зрабіць, Кастусёк. (*Плача.*)

Кастусь. Сцервяцы! Гэта я стрэльнуў, як падбягаў да вашае хаты. Пойдзем з намі, усё роўна прападаць!

Косця. Іду, іду... І татка з намі.

Кастусь. І дзядзька? Добра! Болей будзе... Там Андрэй, ведаеш, ранены, баімося за яго.

Косця. Ну?

Кастусь. Крывёй зышоў... дрэнна.

Мацей. Бронь божа! Такі хлапец! Як ён тады казаў... на мітынгу... усю праўду.

Косця. Хто каля яго?

Кастусь. Алена... нашыя. Ржэвуцкі, ведаеш, што на наш бок перайшоў... Ну, пасля раскажу, хадзем! А то зноў вернуцца.

Мацей. Вернуцца? Хату падпалю, усё дабро хай пойдзе ў порах, а пакорлівым Мацей ужо не будзе!.. Не! Жартуеш!

Кастусь. Добра, дзядзька, добра, збірайцеся!

### З'ява VII

Бронік.

Бронік. Ты ў двары, Мацей? Дзе мая Алена?

Кастусь. Алена з намі... у лесе... нічога...

Бронік. А! Ну, добра, а то я думаў, бронь божа, захапілі яе... Не магу сядзець на востраве... Узяў стрэльбу ды сюды. Спаткаў конных, схаваўся... ды зноў бегчы...

Кастусь. Ну, усе разам туды! Каб толькі яшчэ Андрэя ў жывых застаць!

Бронік. Андрэй паранены?

Кастусь. Так, дзядзька Бронік! Паранены наш Андрэй...

Бронік. Ну, пачакайце ж, панове жандары!

Кастусь. Хутчэй у лес!

Мацей. Зараз, толькі вілы вазьму. Зараз. Ах, сцервяцы! Вілы вазьму толькі, зараз!

Цёмна.

Група I.

Андрэй. Піць, піць ахвота! Трымайся, хлопцы, трымайся!

Алена. Піць... Дзе ж бы гэта?

Марына. Сыночак, можа, мы цябе перацягнем куды ў хату?

Андрэй. У хату не можна, маці. Хіба куды на гумно... дый туды не можна... зазірнуць усюды... Трымайся, хлопцы!

Алена. Не можна... Зіркаюць усюды, шукаюць...

Марына. Праўда, сама бачыла. Дзе ж схаваць цябе, сынок?

Андрэй. Як лоўка мы гэта па іх, а? Дапамог жаўнер іхні... Ён наш... ціхі такі... як яго...

Марына. Брыль, Брыль, казалі пра яго.

Андрэй. Так, Антон Брыль... О, гэткі многа зробіць! Нібы ў старане... Праўдзівы польскі селянін без касцельнага паху... Піць. Горача... горка...

Алена. Вы не гаварыце, не хвалюйцеся, Андрэй!

Андрэй. Не, нічога... Што гэта? Нібы стрэлы зноў?

Алена. Здаецца... стрэлы і блізка...

## З'ява VIII

Хлапец-партызан.

Хлапец. Конны аддзел праскочыў па дарозе... Затрымоўваць далей ці не?

Андрэй. Не... Адступаць патроху... рызыходзьцеся па два ў розныя бакі... Лепш, каб праз іхнюю лінію, ды назад... Туды, дзе яны ўжо былі... Шукалі... Іначай пераловяць. Скарыстаць ноч гэтую трэба! Нага... Каб не яна...

Хлапец. Бягу!

Алена. Стой, таварыш, вось што. Пашліце сюды дваіх хлопцаў да таварыша Кліна.

Андрэй. Не трэба!

Алена. Слухаць мяне! Таварыш Клін слабы дужа... перавязка дрэнная.

Хлапец. Зараз!

Андрэй. Няхай адцягнуць мяне куды далей... дый кінуць. Аднаго мяне не знойдуць.. а там... адляжусь ночку...

Алена. А сабакі? Кіньце! Дзяцінства гэта, Андрэй!

Марына. Слухайся Алёнкі, сыночак, слухайся! Ой, зноў стрэлы бліжэй... божачка...

Алена. Бягуць нашыя сюды.

Галасы набліжаюцца.

Галасы. Абыходзяць!
— Вёска Ліпцы занята ўжо!
— Гаспадарацьтам, шукаюць...
— Прыбеглі адтуль, арыштоўваюць старых!
— Куды адыходзіць?

Андрэй. На Брады... як я загадаў... А мяне на Нёман... на рэчку... мо можна чоўны знайсці або плыток, мяне на плыток, а не, дык...

Марына. Што ты кажаш, сыночак. *(Плача.)*

Андрэй. А не, дык у рэчку, ды ўсё тут!

Алена *(хлопцам)*. Падымайце таварыша Кліна!

Зноў падбягаюць. Галасы.

Галасы. Сюды падыходзяць!
— Ужо блізка! Ціха!
— Трэба бегчы!

Андрэй. Бяжы, хлопцы, бяжы, кідай мяне! Бяжыце, Алена! Маці!.. Я не дамся жывы, не дамся жывы, бяжыце!

Алена *(да хлопцаў)*. Бяжыце ў той бок, а мы ў гэты панясём яго. Яны кінуцца за вамі.

Хлопцы адбягаюць. Чуваць стрэлы. Алена і Марына падымаюць Андрэя. Цяжка. Апускаюць зноў.

Андрэй. Кіньце мяне, кажу! А не, дык вось што зраблю. *(Ірве павязку.)*

Алена. Што ты робіш, Андрэй!

Марына. Сынок мой, сынок, што ты зрабіў! Кроў... Што ты зрабіў! Забіў сябе!

Алена. Трымайце яго руку моцна... Я зараз... *(Стараецца павязаць зноў. Абедзве нахіляюцца да грудзей Андрэя, плачуць.)*

Андрэй. О-о-о-о! *(Удзвюх падымаюць Андрэя.)*

Цёмна.

Група II: Кастусь, Косця, Бронік, Мацей.

Кастусь. Тут Андрэй... Сядзелі тут.

Бронік. Алена? І дачушка мая тут была?

Кастусь. І Алена, вядома. Чуеце? З таго боку стрэлы, так, чуваць... Няўжо высачылі, сабакі?

Бронік. Дачушка мая, Алёна! Дзе ж ты? Дзе шу-

каць цябе? Пойдзем шукаць далей. Мацей, Кастусь пойдзем!

Кастусь. Асцярожней толькі! Ноч кароткая. Сюды хадзіце, за мной, у гэты бок, можа, пачуем што. Ціха!

Цёмна.

Група І: Алена і Марына ў другім ужо месцы. Кладуць Андрэя на зямлю. Святлее.

Алена. Аслаб зусім. Маўчыць. Рукі халадаюць.

Марына. Дай сагрэю! Дай сагрэю! Да грудзей прытулю, сыночка свайго сагрэю! *(Абедзве заміраюць.)*

Алена. Нёман блізка... вунь. О-о, як цяжка... Татка! Хоць бы ты памог, аказаўся. *(Ззаду надыходзіць афіцэр дэфензівы і некалькі жаўнераў. Афіцэр хапае Алену за руку.)*

Алена *(ускочыла, глядзіць на яго)*.

Нямая сцэна.

Ззаду набягае Стась з трызубцам.

Стась. Н-не! Н-не! *(Ударыў афіцэра ў галаву. Афіцэр валіцца. Жаўнеры, кідаюцца на Стася.)*

Падбягае Шэцкі.

Шэцкі. Стой, ні з месца! Бяры яго! *(Да Алены.)* Знакамітая красотка з-над Нёмана? А то хто тут прылёг? *(Хоча падысці да Андрэя, над якім замерла Марына.)*

Алена. Не смей! Не падыходзь! Ён памёр!

*Заслона*

## ДЗЕЯ VI

На Усход.

### МАЛЮНАК І

Пакой пастаялага двара.

#### З'ява І

Алéна, жаўнер, Лэя.

Лэя. Ах, мой бог, мой бог! Такая прыгожацка, такая прыгожацка! Ой, маладзёж, маладзёж! Вам не ў гэтым свеце жыць трэба! Не з нашымі людзьмі. Вам трэба

рай, каб былі святыя справядлівыя! А дзе гэта ўзяць?

Алена. Зробіцца, цётка Лэя, тут, на зямлі!

Жаўнер. Мільч, не можна размувіць!

Лэя. Ой, ой. Дачка Броніка. *(Да жаўнера.)* Якая суровасць! Слова не можна сказаць. Яна ж не ўцячэ... Вас тут досыць...

Жаўнер. Мільч! А не тое, пойдзеш адсюль!

Лэя. Ну добра, мільч дык мільч. Хоць бы Барыс быў у двары!

Алена. Дзе Барыс?

Жаўнер. Мільч! Які яшчэ Барыс?

Лэя. Дзе Барыс? Я ведаю, дзе Барыс? Ох, маладзёж! І добра вы робіце, і страх з вамі! *(Да жаўнера.)* Ну, есці можна даць? *(Жаўнер адвярнуўся, маўчыць.)* Ясна, што можна. Во малачко, выпіце малачка, трэба есці, пакуль даюць. Што робіцца, што робіцца!

Алена. Дзякую, цётка Лэя! Смага! *(П'е.)*

**З'ява II**

Шэцкі ўваходзіць, засопшыся.

Шэцкі. Ну, як тут? *(Жаўнер вітаецца.)* Зноў спатканне? Лёс, лёс! Нічога не зробіш! *(Да жаўнера.)* Я таксама да Навагрудку... Разам паедзем.

Жаўнер. Слухам!

Шэцкі. Проша выйсці. Як там конь мой? Я тут пабуду, папільную.

Жаўнер. Слухам!

Шэцкі *(да Лэі)*. Выдзь, гаспадыня, мне трэба допыт зняць!

Лэя. Ой, што робіцца, што робіцца! Можа, яшчэ малачка?

Алена. Дзякую, цётачка Лэя, не хачу!

Шэцкі *(крыху дражнячы)*. Цётачка Лэя, проша выйсці!

Лэя. Ну, зараз! Ну! Дзе ж гэта мой Барыс? *(Выходзіць.)*

Шэцкі. Усё ж я дагнаў вас! Узяў камандзіроўку спецыяльна. *(Алена адвярнулася, маўчыць.)* Ну, што, панна леснічанка? Як і раней, хочаце прынесці сваю дзявочую чыстасць на алтар рэвалюцыі? Ха-ха-ха!

Алена. Прыйдзецца памерці, памру. Лепш смерць, як паднявольнае жыццё і залежнасць ад падобных вам!

Шэцкі. Так. Ну, а ўсё ж? Каб захацела, можа б...

Хто ведае, на што можа пайсці мужчына пры згодзе з дзяўчынай? А?

А л е н а. Вы агідны мне, разумееце? Вы агідны мне як свядомы вораг майго народа! Вы гэта разумееце?

Ш э ц к і. Не разумею і не хачу разумець!

А л е н а. Вы мераеце ўсё на капыл сваіх паннаў. Я чула ўсё гэта ад вас у часе арышту, у час першага допыту. Хоць бы ў астрог хутчэй ці куды там у вас!

Ш э ц к і. Не спяшайцеся, панна! Жыццё, нават такое «агіднае», як вы кажаце, лепш за смерць, самую гераічную, хоць бы за свой народ, за рэвалюцыю!

А л е н а. Філасофія прагнілага стану!

Ш э ц к і. Прагнілы стан! Ну, я не зусім яшчэ адчуваю сябе прагнілым. Кіньма карты! Вы пекная, надзвычай пекная дзяўчына... Вы разумееце, што азначае гэта? Я мог бы пайсці на гвалт, каб не гонар афіцэра?

А л е н а. Вы добра ведаеце, што я задушу вас, во дзе ваш «гонар афіцэра»!

Ш э ц к і. Дзяўчына, не будзі звера!

А л е н а. Ён ніколі ў вас не спіць, выхаваны гувернантамі звер!

Ш э ц к і. Калі так, добра! Чаму я не магу пацалаваць цябе, як Тэклю? *(Падыходзіць да яе, барацьба. Стук у дзверы.)* Ну, хто там? *(Апраўляецца, ідзе да дзвярэй.)*

На парозе і н в а л і д.

## З'ява III

Ш э ц к і. Што трэба?

І н в а л і д. Проша пана афіцэра... Інвалід... быў жаўнерам... пад Брэстам біўся з ворагам... *(Пазнае.)* А! Знаёмы! Дзень добры! *(Наступае.)*

Ш э ц к і. Вон, бандыт!

І н в а л і д. Не крычы! А то, калі я закрычу... на ўсю вёску, на ўвесь свет закрычу! Спужаўся? Правай рукі няма, ды левая моцная! *(Хапае зэдлік.)*

Ш э ц к і *(хапаецца за шаблю)*. Вон!

І н в а л і д. Заб'ю, гад! Усё роўна прападаць! Усіх перабіў бы такі! Што зачыніўся з ёй? Га? Арыштаваў, дый... звяруга! *(Кідае ў Шэцкага зэдлікам.)*

## З'ява IV

Л э я, ж а ў н е р.
Жаўнер робіць крок. Інвалід адмахваецца адной рукой.

І н в а л і д. Не руш! На вайне руку адбілі! Жаўнер грознае арміі! Яна яшчэ прыйдзе! *(Выходзіць, хлопаючы дзвярамі.)*

Ш э ц к і *(услед)*. Бандыт! *(Садзіцца, да Лэі.)* Дай млека!

Л э я. Млека? Тут было трошку, выпілі, галодныя... Пайду, мо засталося. *(Выходзіць.)*

Ш э ц к і *(да жаўнера)*. Колькі чалавек праваджае? *(Паказвае на Алену.)*

Ж а ў н е р. Трох.

Ш э ц к і. Мала. Тут бандыты на кожным кроку. Яны вырастаюць, як грыбы пасля дажджу, і арганізуюцца ўмомант. Кожны пень на дарозе можа зрабіцца паўстанцам. Д'ябал!

А л е н а *(да жаўнера)*. Скора паедзем далей?

Ж а ў н е р. Не ведаю, як пан паручнік.

Ш э ц к і. Цікава. Вы самі сказалі, што лепш смерць, як такое жыццё. Не ўсё роўна. Тут... там...

А л е н а. Турма... суд ваш, абы было ясна! Ды не бачыць вас, гэта галоўнае.

Ш э ц к і. Я быў больш гжэчным, панна лесьнічанка, калі дазволіў пахаваць вашага... вашага, як там у вас яго завуць... І яго пахавалі з увагі да вас, да маткі яго. Не так, як бы належала яго закапаць, проста як...

А л е н а. Маўчыце! Выхваляецеся гжэчнасцю ў пахаванні? Вы лепш дайце нам жыць!

Ш э ц к і. О, зноў гнеў! Нам спяшацца няма чаго, на ноч не выедзем. Схадзі павартуй навокал, дзе той бандыт, што заходзіў. Клікні, хай тут будуць іншыя двое... Надалёка наш конны плютон — трыццаць чалавек.

Ж а ў н е р. Слухам! *(Выходзіць.)*

Ш э ц к і. Падабаецца мне ваш гнеў! А што, калі б я зараз прапанаваў вам уцячы? Усё падрыхтаваў бы?

А л е н а. Тонкі здзек! Вы горай за тых, што проста б'юць, катуюць!

Ш э ц к і. Здзек? Не! Не тое! Вы не адгадалі. Вы занадта чыстая, ясная. Я не анёл, вядома, не ваш той герой... Нават не Ржэвуцкі, якога вы ратавалі...

А л е н а. Агіда!

Ш э ц к і. Я? Ха-ха!

### З'ява V

Л э я. Ну, во малако, троха знайшлося.

Ш э ц к і. Дзенькую. Пастаў там. Пасля даследуем, як пахне млека, проша ісці ў сваю камору.

Л э я. Мне тут трэба ў шуфляду...

Ш э ц к і. Проша ісці! Ну! *(Лэя зірнула на яго, выходзячы.)*

А л е н а. Выхаваны чалавек!

Ш э ц к і. Я магу быць больш, як нявыхаваным. Я не скончыў... Вы смелая, незалежная, выслухайце мяне. Справа ідзе аб вашай волі, а можа, і...

А л е н а. Аб жыцці з вамі?

Ш э ц к і. Калі б я ўцёк з вамі туды, у лес. У ваш лес.

А л е н а *(выпростваецца ў гневе.)* Маўчыце!

Ш э ц к і. Думаеце, у паўстанцы? Не, мяне не цікавяць вашыя паўстанцы. Можа, не цікава мне і барацьба з імі. Што? Вас здзівіла? Я хацеў бы толькі аднаго — вашага пацалунку! Аднаго! За пацалунак вольны ваш можна жыццё аддаць. Вы... ты ведаеш? *(Падступае.)*

А л е н а. Жывёліна... Слімак... Задушу...

Ш э ц к і. Душы! Ну, душы! *(Падстаўляе шыю, ірве каўнер.)*

А л е н а *(б'е яго па твары)*. Атрымай, жывёліна!

Ш э ц к і *(сеў, як змораны. Стук у дзверы)*.

### З'ява VI

Д а р н і л о ў с к і.

Д а р н і л о ў с к і. Мяне сюды не пускалі. Казалі... камарынае мяса... арыштант. Але, што гэта? Няўжо мне здаецца, камарынае мяса? Алена? Панна Алена, дачка Броніка?

А л е н а. Дзе тата? Вы бачылі тату?

Д а р н і л о ў с к і. Тата? Браніслаў?. Ён... ён... камарынае мяса... не ведаю.

Ш э ц к і. Паслухайце вы, хадзячы біфштэкс! Што вам трэба? Што вам трэба?

Д а р н і л о ў с к і. Я... я... член звёнзку... Я не дазволю...

Ш э ц к і *(у дзверы)*. Эй, жаўнер!

### З'ява VII

Ж а ў н е р і з і м  Б р ы л ь у форме жандара пад грымам.

Б р ы л ь. Проша ачысціць пакой! Я прысланы ў дапамогу... даставіць арыштантку ў Навагрудак!

Ш э ц к і. Паперы проша!

Б р ы л ь. Проша. *(Дае паперы.)*

Ш э ц к і *(чытае)*. Дзіўна. *(Аглядае Брыля.)*

Б р ы л ь. Проша пана афіцэра і ўсіх ачысціць пакой! Я адказваю за арыштантку. Проша. *(Да жаўнера.)* Проша ачысціць!

Ш э ц к і. Дзіўна! Я зараз з пастарунка, пратэлефаную. *(Выходзіць.)*

Д а р н і л о ў с к і. Я зараз таксама. *(Да Алены.)* Панна арыштавана... камарынае мяса. *(Выходзіць.)*

Б р ы л ь. Проша стаць на вуліцы, а іншых пастаў за пуню. Ідзь!

Ж а ў н е р. Слухам!

Б р ы л ь *(як тыя выйшлі, падбег да Алены, скінуў бародку)*. Я Брыль, Антоні, бяжым!

А л е н а. Антон Брыль?

Б р ы л ь. Так. Не час размаўляць. Зараз бяжым!

А л е н а. Куды?

Б р ы л ь. Туды, дзе нас выратуюць. Мне ўжо таксама тут не можна. Барыс, сын Лэі, ён праводзіць праз гароды, на луг. Вось вам вопратка!

А л е н а. Як сон... Як сон! Я зараз. *(Бяжыць за пераборку.)*

### З'ява VIII

Л э я. Ой, што я чую, ой! Дзякуй богу, дзякуй богу! Так мой Барыска тут?

Б р ы л ь. Тут, ён чакае... доўга расказваць!

Л э я. Ой, ён нягоднік! Ой... ён нягоднік.

А л е н а. Ды што вы, цётка Лэя! Ён слаўны хлопец! *(Выходзіць, пераапранутая местачковым яўрэем, шапка на вушы.)*

Б р ы л ь. Добра! Добра! Малайчына, Барыс!

Л э я. Ой, ён нягоднік, ой, штукар! Хай ён жывенькі будзе! Хай жывенькі! І вы таксама.

Б р ы л ь. Ну, марш уперад, арыштантка!

А л е н а *(цалуе Лэю)*. Бывайце, цётка Лэя. Усяго вам добрага!

Знікаюць. Праз хвіліну ўбягае ў хату Шэцкі.

Шэцкі. Ну так... д'ябал! Дзе ён? Дзе яна? *(Да Лэі.)* Дзе яны, ты?

Лэя. Што я ведаю? Я жандар? Яе вывеў зараз жандар, такі паважны чалавек.

Шэцкі. Куды вывеў, гавары!

Лэя. Можа быць, дзяўчыне патрэбна было, я знаю? Зараз прыйдуць, сказалі...

Шэцкі. Прыйдуць? Што ты брэшаш! Жаўнер!

### З'ява IX

Дарнілоўскі.

Дарнілоўскі. Пане грабе! Зараз здарылася... зараз... здарылася... камарынае мяса... у мяне...

Шэцкі. Жэбы цебе качкі зтэпталі! Кажы хутчэй!

Дарнілоўскі. Нічога не разумею! Дзе дысцыпліна? Жандар, што нас выправадзіў...

Шэцкі. Ну, куды ўцёк? Дзе арыштантка? Ты бачыў?

Дарнілоўскі. Як, панны Алены няма? А дзе ж, камарынае мяса?

Шэцкі. Ды кажы, кажы, а не тое, я з цябе павытрасу ўсё мяса. *(Трасе яго.)*

Дарнілоўскі. Пан абражае мяне! Я не дазволю, я член «Стрэльбы»...

Шэцкі. Д'ябал цябе бяры з тваёй «Стрэльбай»! Што ж не страляў? Куды пабеглі? У які бок? Зараз жа на коні!

Дарнілоўскі. Ніхто не бег! Спакойна падышлі гэты жандар і малады яўрэй з ім...

Шэцкі. Які малады яўрэй? Прачніся ты, мяса!

Дарнілоўскі. Падышлі... камарынае мяса, узялі ў мяне рэвальвер.

Шэцкі. Дурань! Як узялі?

Дарнілоўскі. Я абражусь, пане грабе! Узялі... Падышлі і кажуць: давай... Жандар кажа... Ну, я і даў, а ён перадаў зараз яго яўрэю... Малады такі... Шапка на вушы... *(Шэцкі б'е стэкам Дарнілоўскага.)* Як вы смееце! Я... Я...

Шэцкі. Стары дурань! На коні! Марш!

*Заслона*

## МАЛЮНАК II

На мяжы лес.

### З'ява I

Селянін (*ціха*). Ну, цяпер самі! Далей мне не можна... Тут во недзе ў лесе і мяжа. Не пераходзьце рэчкі толькі — бо зноў тут будзеце. Заставайцеся здаровы! Дай жа вам добры час, пару харошую! (*Развітаўся і знікае.*)

Алена. Жудасна, таварыш Брыль.

Брыль. Нішто! Цёмна, добра... Зорак няма, а то па зорках... Ну, як-небудзь дабяжым! Ц-с-с!

Алена. Што? Вы чулі? Нехта ідзе, здаецца?

Брыль. Кладзіцеся сюды, во сюды, за кусты!

Хаваюцца.
Праходзяць два жаўнеры.

### З'ява II

Першы. Нібы хруснула тут.

Другі. Ліс, можа, ці барсук...

Першы. Цёмна, як у цыгана ў барадзе... каго тут зловіш?

Другі. Сцеражыся, ліха матары, немаведама каго і што!

Першы. Ну, немаведама! Перабегла б адтуль таварышоў у дапамогу тутэйшым!

Другі. А калі таварышы, дык што тут благога?

Першы. Пагавары, пакуль хто кулю ўзад не ўлепіць! Жыццё, як ваўку на таку! (*Праходзяць.*)

Брыль (*выпаўзаючы*). Чулі размову?

Алена. Чула, характарна. Грунт добры для размоў і лістовак... Толькі каб перайсці!

Брыль. Можна і пагаманіць з імі, толькі рызыкоўна. Вось што я думаю: ці не лепш нам тут перабыць да раніцы?

Алена. Да раніцы? Нас заўважаць!

Брыль. Перад самым світаннем змарыўшыся спяць. А ўначы, як бачыце, бадзяюцца. Можна напоркацца. Ды і мяжы не ўбачыш!

Алена. Холадна сядзець... будзе ўсю ноч. Але, як вы вырашыце, таварыш Брыль,— я згодна!

Б р ы л ь. Здаецца мне, так будзе спакайней. Апранайце марынарку.

А л е н а. А вы?

Б р ы л ь. Вы сагрэецеся, тады мне дасцё.

А л е н а. Не, нядобра так! Мне нішто, не холадна пакуль...

Б р ы л ь. Слухайцеся і маўчыце, таварыш Алена. Сядзем спінамі адзін да аднаго, будзе цяплей. Я на варце.

Цёмна. Чуваць далёкія стрэлы. Пасля пачынае віднець.

Б р ы л ь. Таварыш Алена! Прачніцеся!

А л е н а. А, што? Няўжо я спала?

Б р ы л ь. Прыткнуліся да дрэва. Трэба спяшацца... бачыце слупок?

А л е н а. Дзе?

Б р ы л ь. Сюды глядзіце. У той бок — вунь.

А л е н а. Няўжо мяжа? Божа!

Б р ы л ь. Праўда, што і бога дзіцячага ўспомніш! Аж трасці пачало! Мяжа, слупок, таварышка! Воля!

А л е н а. Ой, гляньце туды!

Б р ы л ь. Зноў удвох! Няўжо пранюхалі? Ну, заб'ю, ды перабягу! *(Шчупае рэвальвер.)* Дзе ваш рэвальвер, Алена?

А л е н а. Не мой, ды Дарнілоўскага. Вось ён!

Б р ы л ь. Жартуеце! Але хавайцеся. Хавайцеся пакуль.

А л е н а. Не, не жаўнеры. Аж ад сэрца адлягло! Я лепш за вас бачу, Брыль...

Б р ы л ь. Маладзейшая, мусіць! Усё ж падгледзім за імі. *(Хаваюцца. Праходзяць двое з клункамі за плячамі.)* Ах, каб вас ліха! Кантрабанда!

А л е н а. З якога боку яны ідуць?

Б р ы л ь. Разбярэш тут! Мусіць, з таго, з нашага.

А л е н а. З якога нашага? Адкуль мы ці куды мы?

Б р ы л ь. З нашага: куды мы, той наш бок. Пайшлі. *(Хоча падняцца.)*

А л е н а. Ляжыце... Адзін сюды кіруецца.

Б р ы л ь. Справімся! Страляйце следам за мной... не раней, а то...

А л е н а. Чарнявы нейкі, з бародкай, з адным кіем... Пачакайце, нешта нібы...

Праходзіць Р ж э в у ц к і, аброс барадой, старая вопратка.

Б р ы л ь. *(з-пад куста)*. Дык гэта ж Ржэвуцкі! Пане

паручнік! Стой! *(Ржэвуцкі хапаецца за рэвальвер.)* Свае, свае. *(Паказваецца.)* Ледзь адначасна не стрэльнулі!

Ржэвуцкі. Брыль, Антоні! *(Кідаецца да яго, цалуюцца.)*

Брыль. Не адзін я... Вылазьце, таварышка!

Алена. Ржэвуцкі!

Ржэвуцкі. Алена! Тут спаткаліся! На мяжы! Я сню! Алена!

Алена. Ржэвуцкі! Не сон — праўда! Во мая рука! Ах, як смешна вы зараслі барадой! *(Бярэ яго за рукі. Адварочваецца ў хваляванні і радасці.)*

Ржэвуцкі. Якое шчасце! Якое шчасце! Антон, даражэнькі!

Алена. Шчасце там! *(Паказвае ў бок мяжы.)*

Брыль. Ціху... вы абое! Захапіліся! Вашае шчасце пакуль яшчэ кантрабанда: трэба перанесці... тады...

Ржэвуцкі. Брыль, даражэнькі! Нікога няма навокал! Я глядзеў. Алена, таварышка, як нашыя? Андрэй наш? Я ж нічога не ведаю!

Алена. Андрэй Баравы... Памёр ад раны, Ржэвуцкі.

Ржэвуцкі. Андрэй... ад раны... Памёр. *(Знімае картуз. Брыль таксама. Усе некалькі момантаў у суме. Чуваць далёкую жалейку.)*

Брыль. Ну, досыць суму, таварышы! Мяжа блізка, але яе трэба перайсці. Уперад!

Алена. Бывай здароў, мой Нёман! Татка, ты бывай здароў! Косця, Кастусь. Усе, усе, хто жыве і хто спіць! Андрэй, Стась, усе чакайце нас!

Ржэвуцкі. І ты, мая Польшча! Не пабачу цябе, пакуль не зменішся ўся... уся!

Брыль. Пакуль не зменішся наскрозь ад Варшавы да апошняга хутара! На мяжу, таварышы! Чуеце?

Алена. Чуем, музыка далёкая...

Брыль. Там, куды мы ідзём, свята!

Ржэвуцкі і Алена *(разам, у бок Савецкага Саюза)*. Вітаем цябе, Усход! Вітаем цябе, твае святы і тваю музыку. *(Раптам усе бягуць і знікаюць. Чуваць «ура» і далёкую музыку «Інтэрнацыянала». Праз нейкі момант з'яўляюцца польскія жаўнеры... Музыка мацней. Яны спыняюцца як зачараваныя...)*

*Канец*

*Заслона*

*1926 г.*

# КАЛЯ ТЭРАСЫ

*Драма ў 4-х дзеях з часоў 1917 г.*

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Барановіч Васіль Генадзьевіч — памешчык.
Генадзь — старэйшы яго сын, скончыў універсітэт.
Мікола — малодшы сын, капітан.
Барановіч Андрэй Андрэевіч — далёкая радня памешчыка, павятовы ўрач.
Софія Пятроўна (Сафі) — другая жонка ўрача.
Марыя (Манюня) — дачка ўрача; дае ўрокі музыкі.
Таццяна — дачка садоўніка Барановічаў.
Барыка Пётра — матрос Балтфлоту.
Сысой — селянін, салдат з фронту.
Матруна — яго жонка.
Прахайла — былы спраўнік.
Раіса — яго дачка.
Лапцэвіч — павятовы камісар Часовага ўрада.
Пігельскі — член зямельнага камітэта.
Таварыш Станіслаў — вярнуўся з ссылкі.
І. Петрапаўлаўскі (айцец Іона) — свяшчэннік.
Васіль (Вася) — яго сын, «ударнік».
Афіцэр, каўказец «дзікай дывізіі».
Сяляне, казакі, тэкінцы.

Дзея адбываецца ў фальварку Барановічаў.

## ДЗЕЯ І

Панскі дом у садзе. На пярэднім плане тэраса з калонамі. Чуваць раяль: гучыць музыка Шапэна, Мендэльсона.

### З'ява І

Г е н а д з ь у садзе каля тэрасы. М а н ю н я выходзіць з пакоя да Генадзя.

М а н ю н я. Добра ў вас тут, кузен! Які цудоўны дзень!

Г е н а д з ь. Вам падабаецца чырвонае лісце і пах восені?

М а н ю н я. Чырвонае лісце... Гэта сімвалічна для нашага часу, праўда, Генадзь? *(Бярэ лісток.)*

Г е н а д з ь. Вы правы, Манюня. Перачытваю гісторыю французскай рэвалюцыі. Гісторыя паўтараецца: і ў нас будуць гільяціна і адсечаныя галовы...

М а н ю н я. Ой! Добра, што сонечны дзень,— задрыжала б! *(Смяецца.)*

Г е н а д з ь. У такі час лепш за ўсё наглядаць збоку і чакаць.

М а н ю н я. І чытаць, як вы? А мой бацька гаворыць, што цікавей прымаць удзел у гісторыі, чым пасля чытаць пра яе.

Г е н а д з ь. Прымаць удзел... Брат Мікола прымае ўдзел... Не! Нам, арыстакратам, лепш быць убаку, каб не апынуцца блізка ад гільяціны.

М а н ю н я. А вы лічыце сябе арыстакратам, Генадзь?

Г е н а д з ь. Вядома! Мы ж з вамі Барановічы — нікуды не дзенешся!

М а н ю н я. Можа, і так, па-бацькоўскай лініі. Але мая бабка не была нават дваранкай, маці таксама. У мяне, выходзіць, толькі чвэртка блакітнай крыві. У маіх дзяцей яе будзе толькі асмінка.

З саду да тэрасы падыходзіць М і к о л а.

### З'ява II

Тыя ж і Мікола.

Мікола. Манюня, Манюня! Цудоўная кузіна! Што я чую? Марыць аб лялечках жывых.

Манюня. Да маіх слоў не прыбаўляйце ўласных тлумачэнняў, кузен Мікола!

Генадзь. І праўда, Мікалай! Што за тон! Мы з Манюняй на сур'ёзныя тэмы гутарылі.

Мікола. О-о! Не сумняваюся! Філолаг і філосаф — па адзін бок, выканаўца балад Шапэна — насупраць, цудоўна! *(Да Манюні.)* Надоўга да нас?

Манюня. Некалькі дзён пажыву з вашага дазволу, гарэзны кузен.

Мікола. Ды жывіце хоць да перамогі шалтай-балтай Керанскага над кранштацкай матраснёй!

Генадзь. Не хутка тое здарыцца!

Мікола. Ты ўпэўнены, філосаф?

Манюня. Бацька тое ж гаворыць.

Мікола. Што менавіта? Наогул цікава было б паслухаць палітычны прагноз дзядзькі Андрэя. Наколькі я памятаю, калі яшчэ кадэтам быў, спрачаўся ён з нашым бацькам: усё раіў раздаць зямлю мужыкам.

Генадзь *(ціха)*. Добра было б.

Мікола *(пачуў)*. Вядома! Для філасофіі, але не для жыцця!

Манюня. Хто ведае!

Мікола. О-о! Бачу, дзядзька Андрэй выхаваў дачушку па сваёй праграме.

Манюня. Я ўдзячна бацьку!

Мікола. Уяўляю сабе: там у вас, у горадзе, поўны кантакт з мясцовымі бальшавічкамі!

Манюня. Заходзіць часам да бацькі нейкі Станіслаў.

Мікола. Так-так! Чуў пра такога. З Сібіры вярнуўся, на жаль. Час ад часу не лягчэй. А як адносіцца да такой «дружбы» ваша новая maman?

Манюня. Бацька ў сур'ёзных пытаннях не лічыцца з яе густам.

Мікола. Што не лічыцца з жанчынай у палітыцы — гэта нядрэнна, але толькі...

Манюня. Старо, старо, кузен Мікола! Сумна з вамі.

Ідзе ў сад.

Мікола. А кузіна наша досыць прывабная. Як на твой філасофскі густ?

Генадзь. Я не падыходжу да жанчын збоку...

Мікола. Не трэба «збоку», лепш з фронту! Ха-ха!

Генадзь. Цынік! Фронт сапсаваў цябе, Мікола!

Мікола. Калі амаль кожны дзень на тваіх вачах з жывых людзей робяцца анатамічныя прэпараты...

Генадзь. Як ты можаш!

Мікола. І хто гарачэй моліцца, той хутчэй зліваецца са сваім богам... Што гаварыць з табой! Вы тут, тылавыя, розныя сардэчнікі, нервовыя — вы можаце сюсюкаць аб маралі, аб іншых матэрыях. А мы, франтавікі...

Генадзь. Калі вам абрыдла ваяваць — у чым справа? Тады бальшавікі маюць рацыю: заключайце мір! Ты ж сам член палкавога камітэта.

Мікола. Я член палкавога камітэта, а ты проста... Бальшавікі хітрыя! Без анексій і кантрыбуцый! Як ты не ўцяміш, што, па-першае, нам не дадуць заключыць мір саюзнікі. Па-другое, і гэта галоўнае, як толькі мы скончым вайну і распусцім усю гэтую мужычую масу па хатах, дык ты ўяўляеш сабе, што будзе?

Генадзь. Думаю, Мікола, што ўсё роўна гэта будзе.

Мікола. Што «гэта»? Кажы дакладней!

Генадзь. Тое, што страшыць цябе. Чытаю гісторыю французскай рэвалюцыі, першай. Павучальна, Мікола!

Мікола. Ну, і пішы дысертацыю! Нам няма часу. Наша навука — во! *(Паказвае пісталет.)* А мір заключым тады, як тут крыху арганізуемся... *(Агглядаецца.)*

Да тэрасы падыходзіць Сысой у шынялі.

### З'ява III

Тыя ж і Сысой.

Сысой. Дзень добры, пане капітан!

Мікола. Добры дзень, пане ніжні чын.

Сысой *(не заўважыў іроніі)*. Мая пляменніца Таццяна тут у вас у фальварку працуе?

Генадзь. У нас. *(Да Міколы.)* Дачка садоўніка, памятаеш?

Мікола. Нават вельмі.

Сысой. Так што, прыйшоўшы ў водпуск... Самі мы бяздзетныя, я і Матруна, адна яна ў нас, сястры нябожчыцы дачка.

Мікола. Вельмі цікава!

Сысой *(заўважыў насмешку)*. Вядома, вам цікава... Ды толькі...

Мікола. Што «толькі»?

Сысой. Часы ўжо не тыя. Яно нібы і тое самае, але не зусім, пан капітан.

Мікола. Ад бальшавічкоў наслухаўся?

Сысой. На сходках чулі мы ўсялякіх. Ды толькі я сюды... пабачыць бы пляменніцу.

Генадзь. Таццяна ў садоўніцкай хаце. Пройдзеце самі?

Мікола. Праводзь дзядзечку. Што ж ён будзе блытацца ўсюды? Я цяпер не ведаю, якія тут у вас парадкі.

Генадзь. Пойдзем сюды, бліжэй будзе. *(Выходзяць.)*

Мікола *(адзін)*. Чорт ведае што! Дэзерцір, не іначай!

### З'ява IV

Мікола, Манюня, Таццяна на тэрасе.

Манюня. Добра, што заходзіш час ад часу, Танечка!

Мікола. Вырасла, расквітнела, закрасавала!

Таццяна *(сарамліва)*. Здалося вам.

Манюня. Ён табе «ты», ты яму «вы». Не сучасна!

Мікола. Свабода, роўнасць, братэрства! Як у французаў: эгалітэ, лібертэ! Рэвалюцыянерка наша музыкантка! А мы з Танечкай і не на «ты» і не на «вы», а лепей на «мы». Праўда, Танечка?

Таццяна. Як выйдзе, так і будзе.

Манюня. Разбірайцеся ў сваіх адносінах. Бачу, даўно знаёмы. Пайду сыграю што-небудзь.

Мікола. Госця наша так захапляецца музыкай, што я не маю сілы спыніць!

Манюня. Іграю, бо толькі так прымаю ўдзел у жыцці! *(Ідзе ў пакой.)*

Мікола. Вось так, Танечка! Закрасавала!

Таццяна. Вы нешта хацелі раней сказаць?

Мікола. Шукаў цябе дзядзька твой.

Таццяна. Дзядзечка Сысой! Вярнуўся з фронту! Куды ж ён пайшоў?

Мікола. Яго павёў Генадзь, не клапаціся, Танечка.

Таццяна. Пайду, будзе чакаць!

Мікола. Хвілінку, хвілінку! Маліннік памятаеш? А гаёк на могілках?

Таццяна. Мікола Васільевіч! *(Хочаісці, ён заступае дарогу.)*

Мікола. Не трэба «Васільевіч»! Заві, як тады каля кладкі, купацца ішла... Вочкі ў зямлю...

Таццяна. Як вам не сорамна! Сталы чалавек, з фронту... пагоны...

Мікола. Пагоны! Іх хутка скінуць з нас! *(Хоча абняць.)*

Таццяна. Я была фальварковай дзяўчынкай, вы — звычайны разбэшчаны паніч... Кіньце, жартаваць з сабою, як раней, я вам не дазволю!

Мікола. Я не жартую! Зараз рэвалюцыя, хочаш сказаць. Так?

Таццяна. Зараз рэвалюцыя... пачынаецца...

Мікола. Можа, канчаецца?

Таццяна. Пачынаецца!

Мікола. Ой-ой! Якія ўсе дзяўчаты зрабіліся разумныя палітычна!

Таццяна. Хіба дрэнна гэта?

Мікола. Дрэнна ці добра, але жыццё ідзе незалежна ад палітыкі. Сваё права ўстанаўляе. І не вольны я абыякава глядзець на тое, што так палымнее жыццём! *(Падыходзіць, абдымае.)*

Таццяна *(скідае яго руку)*. Вырасла я за вайну!

Мікола. Я таксама не той, Танечка! Хіба дарослыя не маюць права на каханне!

Таццяна. Каханне... Адказнае гэта слова, каб так кідаць яго на вецер.

Мікола. Я і не кідаю! Я хачу, каб слова гэта злучыла два маладыя сэрцы!

Абое знікаюць у прысадах.

### З'ява V

На тэрасе стары Барановіч і Сафі.

Сафі. І не кажыце, Васіль Генадзьевіч! Андрэй Андрэевіч — арыгінал, дэмакрат, нават рэвалюцыянер! Я сама дэмакратка, але ўсяму ёсць мера, нават дэмакратву!

Барановіч. Нн-да. Вам Андрэй нічога не гаварыў пра наша прозвішча?

Сафі. Пра фамілію? Нібыта нічога. А што? Раскажыце, цікава! Я люблю паслухаць пра розныя сямейныя тайны!

Барановіч. Вы не так мяне зразумелі, Сафі. Я пра самы корань... Правільна наша прозвішча Баррэн... Баррэн...

Сафі. Французскае?

Барановіч. Ну, так. Продак быў палітычны эмігрант пасля крывавай рэвалюцыі.

Сафі. А можа, пасля Напалеона застаўся барабаншчык які-небудзь? Ха-ха!

Барановіч. Ну, Сафі! Як можна!

Сафі. Я жартую! Значыць, у вас ёсць частка гэтай жвавай, вясёлай крыві?

Барановіч. Нн-да! Праўда, кроў разбаўлена... Але... *(Прыходзіць у жвавы настрой.)* Так, гадкоў скінуць трохі... Нн-да!

Сафі. Вам няможна даць вашыя гады! Вы так добра выглядаеце, Васіль Генадзьевіч!..

Барановіч. Не тое, Сафі! За сем месяцаў пастарэў на дзесяць гадоў. Праклятыя «лютаўцы». Я называю так усіх, хто прымаў удзел у агіднай справе звяржэння законнага гаспадара вялікай дзяржавы, тысячагадовай дзяржавы.

Сафі. А я вітала Лютаўскую рэвалюцыю!

Барановіч. Вы? Не паверу!

Сафі. Пагадзіцеся, Васіль Генадзьевіч, што скандальная тройца: бязвольны Мікалай, немка Аліса, сібірскі мужык Рыгор Распуцін...

Падыходзяць Манюня і Мікола.

### З'ява VI

Тыя ж, Манюня і Мікола.

Манюня. Добры дзень, Софія Пятроўна!

Сафі *(холадна)*. Добры дзень, Манюня!

Манюня. Бацька не прыехаў з вамі?

Сафі. Твой тата зараз заняты не толькі медыцынай.

Мікола. Зусім справядліва! Як сябе адчуваеце? *(Цалуе руку.)*

Сафі. Мерсі! Тут у вас я буду адчуваць сябе яшчэ лепш.

Барановіч і Мікола *(разам)*. Спадзяёмся.

Сафі. А дзе старэйшы з маладых Барановічаў?

Мікола. О-о! Тата навучыў вас, як вымаўляць адразу тры «ррр»!

Манюня. А вось і ён!

Уваходзіць Генадзь.

З'ява VII

Тыя ж і Генадзь.

Генадзь. У нас госці! Добры дзень, ma tante!

Сафі. Добры дзень, Генадзь! Вы як пачулі, што я ўспомніла пра вас!

Мікола. Я пакрыўдзіўся б за «цётку».

Генадзь. Лічу лагічным: паколькі мы называем «дзядзька Андрэй».

Барановіч. Генадзь мае рацыю. Андрэй даводзіцца братам, праўда, у трэцяй ступені. Значыць, жонка яго для вас цётка. А галоўнае, мы — Барановічы.

Сафі (*какетліва*). Я не крыўдую, асабліва на Генадзя.

Мікола. Я не ў пашане тут у жанчын!

Манюня. Ад вас залежыць, кузен Мікола!

Барановіч (*да Генадзя*). Абходзіў маёнтак? Як там у нас? Парадак хоць які застаўся?

Генадзь. Я быў у лесе, тата. Там поўны парадак.

Мікола (*іранічна*). Там цішыня, чырвонае лісце!

Манюня. Залішне злосці, кузен, залішне.

Мікола. Што зробіш? Такі час!

Генадзь (*да бацькі*). Сысой тут быў, дзядзька Таццяны.

Барановіч. Сысой? Які Сысой? А-а! Брат яе маці-нябожчыцы... Нн-да! Ён жа на фронце?

Мікола. А цяпер дэзерцір. Усё ў парадку!

Генадзь. Ты не ведаеш, Мікола!

Манюня. А мы пасябравалі з Таццянай. Слаўная дзяўчына, простая, ясная.

Мікола. Не зусім простая і ясная.

Сафі. Манюня цягнецца да прастаты, пейзанства!

Барановіч. Каб яе бацька, садоўнік наш, не вярнуўся з маньчжурскага фронту, яна б іначай, можа, выхоўвалася. Нн-да!..

Мікола. Чаму так, тата?

Барановіч (*не адказваючы яму*). Ну, гаспадары і

госці, можа, пойдзем у дом? Які ні добры дзень, але восень.

Усе падымаюцца памалу на ганак.

Генадзь. Праўда, тата, што Таццяніна маці...

Мікола *(перабівае)*. Можа, знойдзецца іншая тэма, апрача — Сысой, жонка садоўніка...

Манюня. А чым тэмы не спадабаліся капітану? І гэта пасля Лютаўскай рэвалюцыі?

Мікола. Менавіта, кузіна! Пасля Лютаўскай і каб папярэдзіць новую, горшую!

Барановіч. Згодны з табой, Мікола! Ты праўдзівы Барановіч, Баррэн, наша кроў!

## З'ява VIII

Тыя ж і айцец Іона.

Іона *(падыходзіць да тэрасы)*. Іду і чую: «кроў, кроў»! Сказана ў святым пісанні: «Пійце ад ея усі, бо сія есць кроў мая новага завета, за вас ізліваемая!»

Мікола *(іранічна)*. Тут, бацюшка, пра іншую кроў была гаворка, пра зямную.

Іона. Ісціна адзіная, сын мой! *(Да Барановіча.)* Госці ў вас?

Барановіч. Госці. Знаёмцеся. Жонка доктара Барановіча з горада. Дачка яго.

Іона. Высокая ступень прыемнасці. Дзіўныя справы твае, госпадзі! У такой маладой мамашы і такая, як гронка вінаградная, даспелая дачка!

Сафі. Манюня падчарыца мне.

Іона. Усё ж, дзіўныя справы твае, госпадзі! У нас, у духоўным званні, такой з'явы не можа быць, каб другая жонка. Адна-адзіная, усопла яна — і свяшчэнніку вялікі пост!

Генадзь. Ксяндзы абыходзяцца ж.

Іона. У іх іншыя парадкі. Сям'і няма. Ха-ха!

Манюня. Пайду да Таццяны.

Сафі. І я з табой, Манюня!

Генадзь. А мне з вамі дазволіце?

Манюня. Калі ласка.

Мікола. Ты б застаўся тут, Генадзь.

Генадзь. Навошта?

Мікола. Хаця... Ад цябе як ад казла малака,— ідзі!

Генадзь, Сафі, Манюня выходзяць.

Мікола. Дзе ваш сын, бацюшка?

Іона. Меў добры намер прыйсці да вас. Але... Вядома: муж жану не абраце на ложку сваім у наш час. А бацька... Ці ж угледзіць за сынам? Народ разбэсціўся за паўгода якіх, як не стала ў нас благачасцівейшага. Моладзь гару пачынае браць. А куды можа прывесці яна?

Барановіч. Нн-да! Не ўсталяваны розум... цэнтры, як кажа псіхалогія.

Іона. У тым і бяда, што цэнтры ў іх якраз добра ўзмоцненыя.

Мікола. Справа не ў гадах. Я — што? У сталых гадах?

Іона. Як юны Давід прад Саулам!

Мікола. Вось жа. А погляды мае вам вядомыя.

Барановіч. Баррэн да мазга касцей!

Мікола. У наш час лепш барэнствам нашым не выхваляцца надта, любы тата. Трэба мець волю бараніць погляды і ўсё вось гэта, што звязана з нашымі поглядамі, з нашымі жыццёвымі патрабаваннямі. *(Паказвае рукой навакол.)*

Іона. Сама ісціна глаголе вуснамі юнашы сяго!

Мікола. Дзіўлюся памешчыкам нашым, дваранам, усім, хто апынуўся за бартом! Як мы скарысталі свабоду? Што робім? І параўнаць з бальшавікамі! Петраград сёння-заўтра паўстане...

Іона. І скіне Часовы ўрад?

Мікола. Ясна!

Іона. Слава ўсявышняму! Я ўвесь час упэўнены быў, што сталіца пакаецца і верне законнага манарха!

Мікола. Апамятайцеся, айцец Іона! Ха-ха! Сталіца скіне Керанскага, каб перадаць уладу бальшавікам.

Барановіч. Ты пужаеш нас, Ніколя!

Мікола. Каб толькі яны нас пужалі! Можна чакаць і горшага. 2 ліпеня юнкеры і казакі выручылі Керанскага, разагналі кулямётамі на Неўскім бальшавіцкія банды. А што пасля ён зрабіў? Карнілаў хацеў узяць Петраград, вёў войска, каб разагнаць Саветы. Керанскі аб'явіў Карнілава па-за законам. А быў у змове з ім.

Іона. Адрокся, яко апостал Пётра ад Хрыста!

Мікола. Іменна так! Бачу: трэба ўсюды на месцы

арганізоўвацца. Чыталі 242 наказы сялянскіх дэпутатаў?

І о н а. Прызнацца, як закрылі газету «Свет», ісцінны свет, які разліваў адстаўны палкоўнік Камароў на рускіх людзей, я не чытаю газет.

Б а р а н о в і ч. Згодзен з вамі, айцец Іона. Я сам не ведаю, якую газету выпісваць.

М і к о л а. Характэрна! Як лёгка здалі мы свае пазіцыі! Мы не акапаліся на новых, і прыйдзецца адступаць... да самых...

Б а р а н о в і ч. Ты настроены сёння занадта песімістычна, Ніколя!

М і к о л а. Адступаць да самых асін, на якіх нас і падвесяць!..

І о н а. Ды міне нас чаша сія!

Б а р а н о в і ч. Што рабіць, што рабіць?

М і к о л а. Я прыехаў з фронту... Агледжуся, сарыентуюся... Перш за ўсё мы павінны мець сувязь са штабам, са стаўкай. Па-другое, усім узброіцца з галавы да ног, ад юнцоў да старых. Я крыху паклапаціўся наконт апошняга. Па-трэцяе, генерал Карнілаў, які зараз... *(Аглядаецца.)*

Збоку падыходзіць матрос Б а р ы к а. Заўважыўшы яго, Б а р а н о в і ч і І о н а падымаюцца на ганак і знікаюць.

### З'ява IX

М і к о л а і Б а р ы к а.

Б а р ы к а. Капітан Барановіч! Добры дзень, пан капітан!

М і к о л а. Добры дзень, пан матрос!

Б а р ы к а. Нас не паложана так называць — матрос Балтфлоту, і годзе.

М і к о л а. Годзе, правільна! *(Чытае.)* «Аўрора»... Не чуў...

Б а р ы к а. Крэйсер. Можа, пачуеце з часам.

М і к о л а. Ваяваць збіраецца яшчэ Балтфлот? З кім жа гэта?

Б а р ы к а. Як прыйдзецца.

М і к о л а. Так... Чым магу быць карысны?

Б а р ы к а. Карысны? Пакуль нічым. Я тут у водпуск адпушчаны. Маці старая захварэла дужа. Нікога пры ёй. Ну, нашыя таварышы і кажуць: «З'ездзі, паглядзі, які там у нас па вёсках настрой».

Мікола. А матросам якая справа да настрою сялян?

Барыка. З нашага павета ёсць на крэйсеры. Беларусамі сябе называюць.

Мікола. О-о! Якая самасвядомасць!

Барыка. А тут я даведаўся, што ў фальварак прыехаў з фронту член палкавога камітэта. Я хоць і тутэйшы, але даўно адарваўся ад вёскі і мала каго ведаю. Вось і вас, хоць вы і наш, як кажуць.

Мікола. Усё зразумела! Вы, мусіць, уваходзіце ў свой камітэт?

Барыка. Уваходжу.

Мікола. Бальшавік?

Барыка. Я ж не пытаўся ў вас, у якой вы партыі. Выбралі вас салдаты і афіцэры — ну і ўсё!

Мікола *(нервова)*. Не хочацца быць са мной шчырым? У такім разе не разумею вашага прыходу да нас у маёнтак.

Барыка. Проста цікава. Усё ж не звычайны афіцэр — паніч. Калі мой прыход вас нервуе... маёнтак ваш.

Мікола. Давайце, балтыец: «пакуль што ваш!»

Барыка. Можа, і так. Як лёгка расхвалявацъ пана, нават маладога, і пустой размовай.

Мікола. Прычым тут «пан». Я перш-наперш салдат!

Барыка. Хоць і ў залатых пагонах.

Мікола. Салдат-франтавік! Тры гады ў акопах! Быў паранены. Вас дзівіць, што ўзнерваваўся. Ёсць з чаго! Я досыць адукаваны чалавек і рускі патрыёт. Вайна прайграна. Новы палітычны лад. Трэба агледзецца, разабрацца, што далей рабіць.

Барыка. Ну і як? За Керанскага? Можа, і за Карнілава?

Мікола. Ці не допыт гэта? Зарана!

Барыка. Дык і вы са мной не шчырыя. Ну, добра. Пакуль нічога мне болей не трэба! Бывайце!

Мікола. Так, так! Прыйшоў паглядзець, як адчуваюць сябе паны?

Барыка. А што ж! Хіба не цікава? Асабліва тыя паны, што хочуць іграць яшчэ ролю.

Мікола. Роля наша яшчэ не скончана: зарана гоніце са сцэны!

Барыка. Вось жа і цікава пабываць на рэпетыцыях. Бывайце. *(Выходзіць.)*

Мікола *(адзін)*. Гэта тып! Адзін варты цэлай сотні «дзікай дывізіі»!

Да тэрасы падыходзяць Сафі, Генадзь і Манюня.

### З'ява X

Мікола, Сафі, Генадзь і Манюня.

Сафі. Манюня вечна ідэалізуе. Таццяна звычайная вясковая дзяўчына, не болей.

Манюня. Але і не меней. *(Да Міколы.)* Што за матрос пайшоў ад тэрасы ў сад?

Мікола. Бальшавік, балтыец. Ідэйны. Метыс французскага санкюлота з тутэйшым падпольшчыкам. З'явіўся проста ледзь не ў пакоі выведаць, як мы сябе адчуваем.

Сафі. Чаму вы не арыштавалі яго, Ніколя?

Генадзь. Цяпер? Вы што, ma tante? Не маем права. Мы толькі жывём.

Мікола. Чуеце: «Не маем права»! Мой ідэаліст-брацец не вычытаў з гісторыі французскай рэвалюцыі, што «права» не пішацца, а высякаецца шаблямі на чарапах! Ва ўсякім разе, трэба наглядаць за матросікам.

Манюня. Уся яго постаць не гаворыць за тое, што ён бандыт.

Мікола. Характэрна для нашай мілай кузіны! Якая розніца: матрос, афіцэр.

Манюня. Розніца застаецца, кузен Мікола! І часам не на карысць афіцэра! *(Рашуча ідзе праз тэрасу ў дом.)*

Сафі. Манюня з яе выхаваннем робіцца непрыемнай!

Генадзь. Яна лепш уразумела наш час... І, можа, знойдзе свой шлях і будзе яшчэ радавацца жыццю... Хаця... Ці мае гэта значэнне? Што ў наш час мае значэнне?

Мікола. Не твая слінявая філасофія, ва ўсякім разе!

Сафі. Ну! Ніколя! Вы не ў гуморы! *(Да Генадзя.)* Пакажыце, Генадзь, як прайсці да возера. Здаецца, адзін лебедзь яшчэ жыве.

Генадзь. І яго даўно няма, але на возеры прыгожа і ўвосень. Я з ахвотай.

Генадзь і Сафі знікаюць у садзе. Мікола адзін. Ён аглядае пісталет, хавае яго і адыходзіць у другі бок.

### З'ява XI

З саду да тэрасы падыходзяць Барыка, Сысой, Таццяна.

Барыка. Нікога. Як разагнаў хто. Нехта іграе ў пакоях.

Таццяна. Манюня. У госці прыехала з горада. Дачка доктара.

Барыка. Добра іграе!

Сысой. Спецыялістка! Вучылася паненка.

Барыка. Навучымся і мы, пачакайце. Самі ж нас вучыць будуць гэткія паненкі.

Таццяна. Яна слаўная, Манюня. Нібы не паненка зусім.

Сысой. Ат. Адна пся костка.

Барыка. Разбірацца трэба: не ў адзін хлеў ставяць living рознае быдла.

Таццяна. Нічому не зайздрошчу панскаму: ані сукням, ані дыванам. Але таму зайздрошчу, што яны адукаваныя, выхаваныя.

Сысой. Усё забраць, толькі і бяды!

Барыка. Забярэш коні, каровы... Асвету, культуру адразу не забярэш. Пра яе кажа Таццяна. *(Да Таццяны.)* Але возьмем і гэта, Танечка! І музыку... Паступова толькі.

Таццяна. Ну, бывайце здаровы, дзядзечка і Пётра! Дзякую, што заходзіце: адна я засталася.

Барыка. Як жа адна! Мы ўсе з табой, уся вёска!

Таццяна падымаецца на ганак.

Сысой. Куды ж ты?

Таццяна. Да Манюні, справа ёсць.

Сысой. Да нас заходзь!

Таццяна. Добра, зайду. *(Выходзіць.)*

Барыка *(азірнуўшыся, ціха)*. За імі зараз сачыць трэба. Ані кроку без нашага вока!

Сысой. Абавязкова!

Барыка. У кожным такім панскім закутку прыталілася здрада.

Сысой. Здрада?

Барыка. А ты думаў! Павыбіралі ў камітэты палкоўнікаў ды капітанаў па дурасці, а цяпер...

Сысой. Во гэта ты ў самы пункт: па дурасці! Яшчэ ў першым дні, як цара скінулі. Яны ж гэта: «Мы з вамі, братцы! Адзін народ!»

Б а р ы к а. «З вамі». А пасля: Карнілава давай! Адзін з такіх камітэцкіх тут сядзіць. Я яго ўжо раскусіў!

С ы с о й. Ого! Мы іх з маленства ведаем. Генадзь — той крыху прыдуркаваты. А гэты — ого!

Б а р ы к а. Словам, браце,— сачы! Не я буду, калі ў самую гасцінную не забяруся!

С ы с о й. У спальню, цяплей будзе, таварыш Барыка.

Б а р ы к а. Ха-ха! Ды ну цябе, Сысой!

С ы с о й. Гэта я так, глупства. Хачу табе сказаць. *(Зусім ціха.)* Я, браток, блізка што дэзерцір...

Б а р ы к а. Дзе дэзерцір? Казалі, нібыта паранены...

С ы с о й. Быў трохі... Керанскі загадаў: трэба ваяваць да пераможнага канца, тады, кажа, атрымаем зямлю і волю. А навошта мне тая зямля, калі...

Б а р ы к а. Керанскі не дасць ні зямлі, ні волі. Усё адкладае на Учрадзілаўку. А каб сапраўды ўзяць ад паноў зямлю, ад капіталістаў вольную працу, дык за гэта варта і загінуць. Так ты і ведай!

С ы с о й. Ага! Вось як. Трэба гэтыя твае словы абмеркаваць...

Б а р ы к а. І калі б ты ўцёк з таго, нашага, фронту, як будзем бараніць зямлю і волю, то, браце, не даравалі б.

С ы с о й. Правільна! Страляй тады першы во сюды, у грудзі!

Б а р ы к а. Загіне не адзін...

С ы с о й. А каб так...

Б а р ы к а. Што «так»? Ты, браце, глядзі, не адхіляйся!

С ы с о й. Не, гэта я... лухту нясу. Па-мужыцку жыцця яшчэ захацелася!

Б а р ы к а. Можа, і пажывём, не ўсе загінем.

### З'ява XII

Т ы я ж і М а т р у н а.

М а т р у н а *(хутка падыходзіць да тэрасы)*. А я цябе шукаю. Прабачце, таварыш, я...

С ы с о й. Што там у цябе? Што здарылася?

М а т р у н а *(нешта шэпча Сысою, затым уголас)*. Улез у хату... Я, кажа, з «дзікай дывізіі».

С ы с о й. Што? Дык як жа так? Якое мае права?

М а т р у н а. Нам, кажа, начальнік дазволіў.

Сысой. Я яму пакажу начальніка! *(Да Барыкі.)* Увечары забягу да цябе, пагаворым...

Барыка. Заходзь, заходзь!

Матруна *(у бок пакояў)*. Іграюць, балююць... Нібы нічога ніякага! І навошта тады гэтая леваруцыя?

Барыка. У тым і ўся справа, цётачка, што дагэтуль была толькі «праваруцыя», а цяпер і «леваруцыя» будзе. Ха-ха!

Сысой таксама смяецца.

Матруна. Хіба што так! *(Да Сысоя.)* Ну, пойдзем, а то... *(Выходзяць.)*

### З'ява XIII

Барыка і Манюня.

Манюня *(выглянула з пакоя)*. Вы... Вам каго?

Барыка. Нікога і нічога. Дзень добры!

Манюня. Добры дзень!

Барыка. Слухаю, як іграеце...

Манюня. Вельмі прыемна. Заходзьце!

Барыка. Дзякую! У другі раз...

Манюня *(выходзяць на тэрасу)*. Я думала, што мяне слухалі толькі старыя партрэты ў зале.

Барыка. А жывы матрос! Спалохаліся, мусіць?

Манюня. Не з палахлівых!

Барыка. Па-нашаму! Пра вас гаварыла Таццяна, хваліла.

Манюня. Слаўная дзяўчына. Яна заходзіла ў пакоі. Села каля мяне і слухала, як я іграю.

Барыка. Павучыць іграць вы змаглі б?

Манюня. Толькі і раблю, што вучу іграць на фартэпіяна. Пакуль... А каго вучыць?

Барыка. Ну, Таццяну, напрыклад.

Манюня. Яе вучыла б з ахвотай. Пазнавата па гадах. Але паспрабавала б. Яна вам...

Барыка. Ніхто яна мне. Яе бацькі і мае былі суседзі на вёсцы. Ды я ж толькі на кароткі час прыязджаў.

Манюня. Так, разумею цяпер.

Барыка. Такія, як вы, патрэбны і пасля рэвалюцыі...

Манюня. Мы і жывём пасля рэвалюцыі, як бачыце.

Барыка. Гэта што за рэвалюцыя.

М а н ю н я. Ах! Вы аб іншай! Ну, а хто не такія, як я?

Б а р ы к а. Прэч з дарогі!

М а н ю н я. А калі і тыя захочуць жыць?

Б а р ы к а. Ясна, што захочуць! Прыйдзецца ў бойку з імі...

М а н ю н я. Хто ж гэта «такія, як я»?

Б а р ы к а. Хто зможа і захоча перадаць нам вашу культуру. *(З запалам.)* Вы не ведаеце, як мы шануем, як любім музыку і іншае там! Мы зробім так, што вашу ігру будуць слухаць сотні, тысячы простых людзей! Усе будуць працаваць, але лёгка, павольна, па сваіх здольнасцях.

М а н ю н я. Чула ўсё гэта, чула... Сацыялізм!

Б а р ы к а. Усім хопіць сонца, садоў і кветак! Зразумейце, адчуйце ўсім сэрцам, паненачка!

М а н ю н я. Мяне завуць Мар'я...

Б а р ы к а. Ну, Мар'я, Манюня! У душы трэба адчуць, што ўсім хочацца жыць, ды каб добра, прыгожа.

### З'ява XIV

Т ы я ж і М і к о л а.

М і к о л а *(падыходзіць да тэрасы з саду)*. Агітацыйны залп з левага борта крэйсера «Аўрора»! Па загаду матроскага камітэта?

Б а р ы к а. Пан капітан, вы камітэт наш не чапайце. Вы ад яго вельмі далёка!

М і к о л а. Спадзяюся!

Б а р ы к а. А жыць у поўную меру кожны мае права і хоча, без агітацыі.

М і к о л а. І ўсё ж праводзіцца яна, ваша агітацыя. *(Да Манюні.)* Як кузіна ўспрымае яе?

М а н ю н я. Успрымае як належыць. *(Ідзе ў дом.)*

М і к о л а *(да Барыкі)*. Ну-с?

Б а р ы к а. Каму мінус, каму плюс. Бывайце.

М і к о л а *(услед, ціха)*. Мярзотнік!

Б а р ы к а *(раптам вярнуўся)*. Што вы сказалі? *(Рукой робіць рух пад бушлат.)*

М і к о л а. Не да вас!

Б а р ы к а. Ясна! Да самога сябе!

М і к о л а *(схапіўшыся за кабуру)*. Што?

Б а р ы к а. Да пабачэння!

*Заслона*

## ДЗЕЯ II

Дзея адбываецца спачатку ў панскім садзе, затым на гумнішчы.

### З'ява I

Сысой і «ўдарнік» стаяць у садзе.

«Ударнік» (*з нарукаўнікам, на якім чэрап*). Устаноўчы збор! Врэменнае правіцельства!

Сысой. Ды што там «врэменнае». Калі часовае, значыцца, дык і адыходзь, здавай пазіцыю!

«Ударнік». Дазвольце, грамадзянін Сысой! А каму здаваць пазіцыю?

Сысой. Ну, каму?

«Ударнік». Врэменнае правіцельства абрана Гасударственнай Думай?

Сысой. Ну, Думай!

«Ударнік». Пасля Лютаўскай рэвалюцыі?

Сысой. Ну, няхай сабе рэвалюцыі.

«Ударнік». Законна, значыцца?

Сысой. Ну, няхай законна! Далей што?

«Ударнік». Як аб'яўлена: Врэменнае правіцельства павінна здаць уладу Устаноўчаму збору. Вось чаму яно і врэменнае, часовае, як вы кажаце! Трэба чакаць.

Сысой. Чаго? Што будзе рабіць Устаноўчы збор?

«Ударнік». Ён усё ўстановіць і ўзаконіць. Па-першае,— дзяржаўны лад. Што ў нас павінна застацца: манархія ці рэспубліка.

Сысой. Дык ён можа і манархію зноў вярнуць, цара?

«Ударнік». Калі большасць Устаноўчага збора захоча манархію, вядома, не самадзяржаўную, а канстытуцыйную, на манер Ангельшчыны ды іншых культурных краін...

Сысой. Нам ніякія ангельскія манеўры не патрэбны! У нас свае пазіцыі!

«Ударнік». Які вы ўпарты!

Сысой. Няўжо ж!

«Ударнік». Я кажу: калі большасць Устаноўчага збора будзе за манархію. Яны ж народныя выбраннікі.

Сысой. Я такіх не выбіраў! Я не хачу новага цара, хоць бы ён і без правоў сваіх быў! I ўвесь народ так. Чуеш — гудуць тамака. Тады што?

«Ударнік». Гэта я так толькі, як прыклад. Устаноўчы збор будзе ставіць і іншыя пытанні.

Сысой. Пра зямлю?

«Ударнік». І пра зямлю. Каму і як валодаць. Ці плаціць выкуп памешчыкам.

Сысой. Дык твой збор можа прымусіць мяне плаціць панам?

«Ударнік». Ат, які вы! Калі большасць пастановіць.

Сысой. А мне такой пастановы не трэба! Мне трэба такая пастанова, якая... мне трэба ды ўсім вунь тым! *(Паказвае на гумнішча, адкуль чуваць галасы, плюецца і адыходзіць.)*

«Ударнік» *(услед)*. Вас бальшавікі сагітавалі. Сапхнулі з законнай дарогі! Чэрнь цёмная!

Сысой. Сам ты чэрвя! Чарвяк і ёсць!

**З'ява II**

«Ударнік» і Барыка.

Барыка *(падыходзіць)*. Ха-ха. Злуяцеся, пан «ударнік»! Цяжкавата з народам гаварыць вам?

«Ударнік». З цёмным — цяжка.

Барыка. А з адукаваным, беленькім куды лягчэй! Ха-ха!

«Ударнік». Мір без анексій і кантрыбуцый? А многія нашы салдаты ў акопах думаюць, што анексія і кантрыбуцыя — краіны такія! Ха-ха!

Барыка. І малапісьменныя прымаюць прымірэнне! А ваш лозунг «вайна да пераможнага канца» не для салдат, не для народа!

«Ударнік». Лістовачкі: «Акопная праўда», «Салдацкая праўда»... Не хапае, каб выпускалі «Дэзерцірскую праўду»! Не ведаеце, што вы — слугі германскага генеральнага штаба?

Барыка. Во-во! Пламбіраваны вагон! Быццам добрапісьменны, а балбочаце, як базарная кумка. Вы чулі калі-небудзь іншых, апрача эсэраў?

«Ударнік». Не чуў і жадання не маю!

Барыка. Шкада! Каб чулі, дык бы, можа, спаролі гэты чэрап! Вы ж, здаецца, не з памешчыкаў, дык ідзіце, пакуль не позна, да нас, да народа, і замест чэрапа можаце жыццё сапраўднае атрымаць!

«Ударнік». Знайшоў каго агітаваць! Мяне не так лёгка збіць з ног!

Барыка. Трэба будзе, дамо падножку!

«Ударнік». Пагражаеце, «таварыш»? Можа, зноў збіраецеся «выступіць»? Здарава вас тады, у ліпені, лупцавалі! Ды хто — юнкеры ды дзве сотні казакаў! Ды ці не там і вас пачаставалі? Я чуў, нібы паранены?

Барыка. Не вам мае раны лічыць! Можа, да павятовага камісара збегаеце, каб арыштавалі? Дык ручкі кароценькія!

«Ударнік». А хоць бы і так! Не запалохаеш! Паглядзім яшчэ, хто каго!

Барыка. Паглядзім, калі наладзім, карнілавец! *(Робіць рухі рукой пад бушлатам.)*

«Ударнік» *(спалохана)*. Я... Я... Бальшавік! *(Уцякае.)*

**З'ява III**

Каля тэрасы Пігельскі і Лапцэвіч.

Лапцэвіч. Проста галава дурэе! Што там у Петраградзе, хто там у Петраградзе — Керанскі, Саветы? Увесь час трымаю сувязь з губернскім камісарам, а ён з урадам. Камісар патрабуе не дазваляць ніякіх збораў, мітынгаў. А чуеце? Без вашага дазволу. Тут пачаў верхаводзіць матрос-балтыец.

Пігельскі. А гаспадары дазволілі?

Лапцэвіч. Мусіць. А можа, і не. Прыехаў з фронту малодшы Барановіч. Кажуць, член палкавога камітэта. Можа, ён навядзе парадак, бо з ім, кажуць, з «дзікай дывізіі» некалькі кавалерыстаў.

Пігельскі. Што, гэта значыць, супраць натоўпу да дэзерціраў з вінтоўкамі! Трэба ісці на мітынг, нічога не зробіш: нас жа запрасілі.

Лапцэвіч. Пачуем і бальшавіка таварыша Станіслава. Канспірацыя ў іх! Рыхтуюцца выступаць зноў. Усюды рыхтуюцца.

Пігельскі. Каб не яны, рэвалюцыя спакойна ішла б сабе наперад. Яны кідаюць камяні на дарозе.

Лапцэвіч. А з другога боку, Керанскі перамог бы Карнілава, каб не бальшавіцкія агітатары сярод салдат 3-га корпуса, які ішоў на Петраград.

Пігельскі. Можа, і так. Бальшавікі адзіныя ў сваёй праграме. А мы: правыя эсэры, левыя эсэры, меншавікі... Чарноў супраць Спірыдонавай... Нас павінна аб'яднаць вернасць рэвалюцыі, а мы засядалі ў Савеце рэспублікі разам з Карнілавым.

Лапцэвіч. Што ж, па-вашаму, леваэсэрам з бальшавікамі засядаць?

Пігельскі. Можа, і лепей было б.

Лапцэвіч. Дакаціліся да Леніна!

Пігельскі. А вы да кадэтаў! Ну, пайшлі. Пасля яшчэ падыскуціруем. *(Ідуць у бок гумнішча, адкуль увесь час чуваць галасы.)*

### З'ява IV

Натоўп сялян на гумнішчы. На пярэднім плане Сысой і Матруна.

Сысой. Во і таварышы з горада прыйшлі на гумнішча.

Матруна. А яшчэ лепей было б у самы палац, самая нагода.

Адзін з сялян. Добра баба надумала! Час надышоў!

### З'ява V

Тыя ж і Барыка.

Барыка. Правільна! Час на месцах рабіць тое, што сказана ў наказах сялянскіх дэпутатаў!

Галасы сялян. Хадзем хутчэй!

### З'ява VI

Барановіч, Генадзь, Прахайла на тэрасе.

Барановіч. Чорт ведае што робіцца! У маім гумне мітынг! Дзе Ніколя?

Генадзь. Што такое «наша гумно»? Гаворка ідзе аб нашых галовах!

Барановіч. Ты пачынаеш нерваваць мяне не меней, чым тыя, што гудуць! Дзе Мікола?

Прахайла. Не хвалюйцеся, ваша правасхадзіцельства!

Барановіч. Кіньце вы — «правасхадзіцельства». Хто цяпер каго правасходзіць!

Абодва ідуць у дом.



Бацькі пісьменніка —
Аляксандр Гаўрылавіч Грамыка
і Алена Ільінічна Акушка-Грамыка.
1884 г.



Міхайла Грамыка.
Партрэт работы
народнага мастака Беларусі В. В. Волкава
1926 г.

## З'ява VII

Генадзь, Сафі.

Сафі *(падыходзіць да тэрасы)*. Вы адзін, Генадзь?

Генадзь. Усе разышліся.

Сафі. Там яшчэ натоўп гудзе?

Генадзь. Там сур'ёзны мітынг. Прыехалі з горада прадстаўнікі розных партый.

Сафі. Жудасны час. Андрэй якабінец, бальшавік. Адукоўвае і мяне. Адно, што я прымаю ад рэвалюцыі,— поўную свабоду пачуццям, сэрцу!

Генадзь. Як разумець гэта?

Сафі. Яна адчыняе дзверы... Вы скажаце: народу, волі. А я скажу: граху!

Генадзь. Якому, ma tante?

Сафі. Без «ma tante»! Я перш за ўсё жанчына! Вы чытаеце гісторыю французскай рэвалюцыі, а я — «Святую біблію». Ха-ха! «Святая біблія». Нагадваеце гісторыю пра Іосіфа Прыгожага...

Генадзь. І жонку царадворца Пентэфрыя?

Сафі. Дзіўная гісторыя! Як проста гаворыцца пра жаночую страсць! *(Парываецца да Генадзя. Той адхіляе яе.)*

Генадзь. Ma tante! Там мітынг, людзі! Яны ўбачаць, што вы...

Хутка ідзе ў бок дома. Сафі хапае яго за руку.

Сафі. Мой Іосіф! Дзе спаткаемся! Я належу толькі табе!

## З'ява VIII

Матруна і іншыя жанчыны разыходзяцца з гумнішча.

Першая. Свет перавярнуўся, кумкі! Айцец Іона казаў у нядзелю: «Не даруе бог, што цара скінулі!»

Матруна. Дзякуй і яму, богу, за таго цара! Сысой мой кажа: трэба і Керанскага разам з панамі ды з усімі гэтымі іншымі...

Другая. Няўжо ж! А ў Быхаве, кажуць, нейкі генерал Карнейчык сядзіць за кратамі!

Матруна. Карнілаў! Ды каб толькі не ўцёк, кажа Сысой. Бо сцерагуць яго не нашы салдаты.

Першая *(да Матруны)*. А ці праўда, што матрос да прыезджай паненкі заляцаецца?

Матруна. Хто табе казаў?

Першая. Хто? Ды ўсе людзі!

Матруна. Бабы! Ды не ўсе, а тыя, што брахаць любяць!

Першая. Сама ты такая! Каб мае ногі да цябе ў хату не ступалі болей!

Матруна. Кінь ты гэта! Не такі час!

Другая. І праўда, цёткі! Мы ж толькі што чулі там...

Праходзяць, працягваючы размову.

**З'ява IX**

На тэрасе Таццяна і Мікола.

Мікола. Адна, Танечка?

Таццяна. З кім мне быць?

Мікола. Хацеў бы я, каб, Танечка, або ні з кім, або са мной!

Таццяна. Чаму ж так? Зараз якраз трэба быць...

Мікола. Разумею, што хоча Танечка сказаць: трэба быць з тымі, што толькі разышліся!

Таццяна. Хоць бы і так.

Мікола. Далібог, Танечку варта было б у Савет рабочых, сялянскіх і дэзерцірскіх... прабач, салдацкіх дэпутатаў.

Таццяна. Во, бачыце, які вы, Мікола Васільевіч! А «дэзерціры» вас абралі ў камітэт!

Мікола. Я пажартаваў. Некаторыя афіцэры так, між сабой, праўда, гавораць!

Таццяна. Жарты такія не да часу!

Мікола. І да рэвалюцыі ні ў якой іншай арміі не было такой мяккай дысцыпліны, як у нашай, у рускай. Большасць афіцэраў жылі з салдатамі, як з братамі.

Таццяна. А я памятаю, як вы ўдарылі свайго дзеншчыка па твары... Толькі пасля юнкерскага прыехалі...

Мікола. Бывае, Танечка... Згарача... Я тады, можна сказаць, малакасосам быў... Вайна ўсіх зрабіла дарослымі.

Таццяна. А надоечы лаялі чаркеса.

Мікола. Азія, Танечка, дзікуны. Я не рэакцыянер, я за раўнапраўе. Але тое, аб чым гаворыць матрос, далёка завядзе нас. Яны, бальшавікі, не толькі ўсю нашу зямлю хочуць падзяліць, але і коні, каровы, авечкі, ды-

ваны, раялі... парэжуць, знішчаць усё, калі будуць дзяліць.

Т а ц ц я н а. Не чула і такога ад Пётры, ды і ні ад кога.

М і к о л а. І ўсё каб агульнае: і ежа, і спальня, і жонкі, і каханкі. Ну? Ці згодна ты з такой праграмай?

Т а ц ц я н а. Вы жартуеце! А я хачу праўду знаць!

М і к о л а. Не жартую, не! Праграма! А праўда ў тым: мы прызналі рэвалюцыю, не пайшлі цара бараніць. Арыштавалі генерала Карнілава. Мы згодны падзяліцца з народам і зямлёй, і маёмасцю, але паступова, па справядлівасці. Я дэмакрат. Во! Калі ласка — бяры пагоны! *(Зрывае пагоны, падае Таццяне.)*

Т а ц ц я н а. Куды мне з імі?

М і к о л а. Пры роўнасці правоў... Ты такая прыгожая, такое яснае сонейка для мяне. *(Абдымае.)*

Т а ц ц я н а. Мікола...

М і к о л а. Я жартаваў тады. Цяпер... хочаш — заўтра ў царкву?

Т а ц ц я н а. Не трэба мне царква!

М і к о л а. Ну, паедзем адсюль у другі горад... Усё зраблю! Сродкі пакуль што ёсць!

У захапленні нахіляецца, цалуе калені. Затым падымае і нясе ў глыбіню сцэны.

### З'ява X

Нейкі час праз сцэну праходзяць невялічкімі групамі с я л я н е і с а л д а т ы. Асобныя рэплікі:

А д з і н. Мы згаджаемся! Адабраць усю панскую зямлю!

Д р у г і. Канфіскацыя жывога і мёртвага...

Ж а н ч ы н ы. Каровы, свінні... А мёртвы вінентар? Які гэта?

Д р у г і. Не ведаеш? Плугі, косы, малатарка... Усё гумно.

С а л д а т. Годзе ваяваць! Без анексіі і кантрыбуцыі! Зямлі ў нас хапае!

М і к о л а выходзіць з пакояў, азіраецца, папраўляе кушак.

М і к о л а. Не ў час, не ў час, капітан Барановіч, паддаліся страсцішкам.

Падыходзіць Б а р ы к а. Абодва нейкі час моўчкі аглядаюць адзін аднаго.

М і к о л а. Намітынгаваліся?

Б а р ы к а. Дзеля вашай асалоды, пан капітан! Чаму ж самі не прыйшлі? Паслухалі б і вас...

М і к о л а. Годзе з мяне франтавых мітынгаў. Там яны ўжо забаронены. Забароняць і тут, калі анархіі не захочуць.

Б а р ы к а. Анархія. Як разумець яе?! А наогул, рэчка назад не цячэ, пан капітан!

М і к о л а. Запрудзіць можна і рэчку, калі трэба!

Б а р ы к а. А для гэтага да народу трэба звярнуцца, да яго сілы!

М і к о л а. Збяром крыху і народу. Заўтра тут будзе стаяць яшчэ сотня. Памітынгуеце тады!

Б а р ы к а. Дык вось як! Вось які вы дэмакрат, абраны салдатамі ў камітэт!

М і к о л а. Сёння на гумне, заўтра ў зале! У маёй зале! Зразумела табе?

Б а р ы к а *(спакойна, з усмешкай)*. Ужо на «ты». Хутка! *(Пасля з захапленнем.)* «Маё» — «тваё»! Сорам нам з вамі чапляцца за старыя словы! Мы ж маладыя! Усё жыццё перад намі! Уся зямля!

М і к о л а. Ха-ха! Уся наша зямля табе сніцца!

Б а р ы к а *(нібы не слухае яго)*. Гумно, зала... На гумно пойдзе той, каму выпадзе малаціць і будзе ахвота. А ў залу — каму ахвота танцаваць! Месца хопіць усім, пан капітан!

М і к о л а. Чулі мы ўсё гэта, балтыец. І брашуркі чыталі вашы!

Б а р ы к а. А мы хоць і «матрасня» для вас, але і мы апрача брашур таксама нешта пачытвалі!

М і к о л а. Чаму не забраць чужое натоўпам, не запанаваць. На «ўра» без працы!

Б а р ы к а. Гэта яны не працавалі і не працуюць? Тыя, што былі на мітынгу?

М і к о л а. Я не пра сялян! Я пра такіх чужакоў, прайдзісветаў, як ты.

Б а р ы к а *(абурана)*. Зноў на «ты»? Але годзе! Пажартавалі і... Нават Гучкоў адмяніў «тыканне», а вы... Прыйдзецца, я бачу, яшчэ не раз спаткацца і пагутарыць душа ў душу, пан капітан!

Мікола хапаецца за кабуру.

Б а р ы к а. Зноў за кабуру? Эх вы, ваякі! *(Спакойна адыходзіць.)*

Мікола рвануўся за ім. Раптам з другога боку падыходзіць М а н ю н я і спыняе яго.

### З'ява XI

Мікола і Манюня на тэрасе.

Манюня. Кузен?

Мікола (*крыху апамятаўся*). Пагаварылі... Я забыўся перадаць яму адну рэч... на ўспамін аб капітане Барановічу...

Манюня. Здаецца мне, што мы наогул пакінем па сабе «добрую» памяць!

Мікола. Матрос зацікавіў вас, Манюня!

Манюня. Пакуль не! Але думаецца, што такія, як ён, хутка зацікавяць усіх нас!

Мікола. Мяне не цікавяць! (*Забаўляецца з пісталетам.*)

Манюня (*глядзіць убок, куды пайшоў Барыка*). І чаго баяцца далейшай рэвалюцыі? Ну, пажар! Згарэў дом, мэбля, нават мой раяль. Але ж сонца, неба застануцца!

Мікола. І матрос-балтыец застанецца! Што яшчэ трэба?

Манюня. Чаму вы такі злосны, Мікола? Хай злуюцца старыя, ды і яны не ўсе. Мой тата, напрыклад...

Мікола. Стары не той, хто доўга жыве, але той, хто сам сябе перажывае. Я пакуль яшчэ не збіраюся перажыць сябе самога.

Падыходзіць Генадзь.

### З'ява XII

Тыя ж і Генадзь.

Генадзь. Кузіна Манюня, і ты, Ніколя, зірніце: усюды чырвонае лісце, чырвонае лісце!

Манюня. Сімвал змены, Генадзь!

Генадзь. Здаецца мне, што восень гэтага года ніколі не скончыцца... Ніколі не скончыцца... Так мне здаецца... Лісця насыпаецца ўсё больш і больш.

Мікола. А мне здаецца, што тваё чырвонае лісце робіцца валам, кулямётным гняздом і дула павернута не на захад, а на ўсход!

Манюня. А мне хочацца іграць! Іграць гераічную санату! (*Бяжыць у бок дома.*)

Генадзь (*задуменна*). Санату гераічную... Бетховена...

Мікола. І яму санату! За кулямёт ты павінен узяцца. Бараніць айчыну дзядоў! Нашы тэрасы, нашы прысады! Слімак!

Генадзь. Бетховен таксама спадчына...

Чуваць акорды.

*Заслона*

## ДЗЕЯ III

Надвячорак. Пакой у панскім доме. Задняя сцяна з шырокімі вокнамі-дзвярыма выходзіць на тэрасу, на авансцэне дзейныя асобы ў вольных позах. Паступова цямнее ў пакоі. Тады запальваюць лямпу над сталом. Час ад часу праз шкляныя дзверы на тэрасе паказваюцца і знікаюць цені. Адзін момант праз шыбу відаць твар Сысоя і Матруны.

### З'ява I

У пакоі Рая, афіцэр, «ударнік».

Афіцэр *(іграе на гітары)*. «Ала-верды, господь с тобою! Какой бы ни был ты страны...»

Іншыя. «Алав-ерды, ала-верды!»

Афіцэр. Раечка! Поцелуйте меня, прошу!

Рая. Абыдзецца без пацалункаў!

Афіцэр. Почему же! Зачем такая строгость? Вино, песни! Женщин не хватает! *(Хоча абняць Раю.)*

З'яўляецца Мікола.

### З'ява II

Тыя ж і Мікола.

Мікола. Так-так! Жанчын не хапае, дык дзяўчыну ён хапае! Героі, героі! З віна і жанчын пачынаем! А чым скончым?

Афіцэр. Тем самым и окончим, господин капитан! Ах, не могу! Вся кровь от головы отошла. Вы говорили: у вас сестра Манюня. Где Манюня?

Вася. Рукі кароткія да Манюні!

Рая. А да мяне — не кароткія? Вось жа вам! *(Б'е «ўдарніка» па твары.)*

Мiкола. Ай да Раечка! Малайчына! Ну што ж. Выпiць хiба з вамi i мне. *(Налiвае сабе вiна.)*

Афiцэр. Господин капитан! За ваше здоровье! Ала-верды!.. Не беспокойтесь: мы еще себя покажем!

Мiкола. Не ўпэўнены ў гэтым, прызнацца! Ну, ды ўсё роўна: пiць дык пiць.

У пакой уваходзiць Сафi.

### З'ява III

Тыя ж i Сафi.

Сафi. Якая кампанiя! Гэта вы, Нiколя, кiнулi смелыя словы: пiць дык пiць? Падтрымлiваю! Хто налье мне?

Афiцэр. С моим кавказским удовольствием. *(Налiвае вiно i падае Сафi.)*

Сафi. Мужчына з галавы да ног! У каго так сказана?

Мiкола. У Шэкспiра. Толькi крыху iначай: «Кароль ад галавы да ног!»

Афiцэр. Измерение довольно точное: до ног! Ниже некуда!

Сафi. Рая, вы адчуваеце сябе добра?

Рая. Без вас, Софiя Пятроўна, не надта добра: адны мужчыны!

Мiкола. I прытым — ад галавы да ног! *(Цалуе Раю.)*

З'яўляюцца Барановiч, Прахайла i Генадзь.

### З'ява IV

Тыя ж, Барановiч, Прахайла i Генадзь.

Барановiч. Нiколя! Вы банкетуеце... Я таксама быў малады... Але... Нн-да! Ты гаварыў аб актыўнасцi, Нiколя. Гаварыў, што трэба сабрацца, дамовiцца...

Мiкола. Тата! Я добра памятаю аб нашым галоўным заданнi — арганiзацыi ўсiх актыўных сiл дзяржаўнага парадку на месцах. Дзеля гэтага я i прыехаў з фронту. Але... Тое, што я знайшоў тут *(паказвае на прысутных, якiя трымаюць чаркi)*... патрабуе значнай падрыхтоўкi. Прыходзiцца пачынаць...

Афiцэр. С кахетинского!

Мiкола. Без жартаў, пан паручнiк!

Барановіч. Дзяржаўны парадак! Ты добра гэта адзначыў, Ніколя!

Прахайла. Хто цяпер пільнуе парадак! Калісь да рэвалюцыі...

Мікола. Усяго сем месяцаў назад.

Прахайла. Мне здаецца, прайшлі дзесяткі гадоў. Вось што робіць рэвалюцыя!

Рая. Не трэба было служыць у паліцыі!

Прахайла. А дзе ж служыць, па-твойму? Вось дурнічка маміна!

Рая. Вы маму-нябожчыцу не чапайце! Служылі б... ну, скажам, дзе-небудзь настаўнікам у школе.

Прахайла. З маёй асветай? Ну, як цябе назваць, Рая? У беднасці?

Рая. Няхай у беднасці! Затое зараз спакайней было б!

Мікола. А Раечка ваша разумна гаворыць! Дазвольце дакрануцца да ручкі вашай райскай Раечкі!

Прахайла. Дакранайцеся, Мікола Васільевіч, да ручкі і наогул... Я што? Адно слова — адстаўка без мундзіра і пенсіі! *(Усхліпвае.)*

Афіцэр. Господин отставной! Зачем? Кахетинского нужно выпить, помогает! *(Дае віна.)*

«Ударнік» Вася. Tempora tempantur... Прабачце, Tempora mutantur! Уся латынь семінарская з галавы вылецела! Фронт! Часы мяняюцца! Усё верціцца і цячэ, як казаў адзін грэк-філосаф.

Мікола. Пакінь філосафаў, «ударнік петрапаўлаўскі»! Лепш выкладзі твае намеры ў сучасны момант. У Расіі павінен з'явіцца моцны духам чалавек, свой Напалеон. Кожны з нас павінен вызначыць сябе адносна такога чалавека!

Барановіч. Ты праўду кажаш, Ніколя! На-па-леон! Нн-да!

Мікола. Карнілаў павінен быў стацца такім Напалеонам, але пораху напалеонаўскага не хапіла ў генерала.

Прахайла. Наш першы Напалеон сядзіць пад арыштам! Ды дзе сядзіць? Хоць бы ў Петрапаўлаўскую засадзіў яго нягоднік Керанскі, а то — у Быхаў, дзе я калісьці быў спраўнікам!

Мікола. Трагічна і для вас, і для нашага без трох мінут Напалеона!

Генадзь. Бурцаў у сваёй газеце патрабуе дыкта-

туры Карнілава і Керанскага. Я чытаў «Общее дело». Навошта тады была рэвалюцыя? Бальшавікі будуць правы: яны ідуць простым і ясным шляхам!

Мікола. І ты за імі, святы ўгоднік Генадзь!

Барановіч. Не нам, Барановічам, ісці іхнім шляхам! У нас свой «бальшак» — дзяржава Расійская, але без старых чыноўнікаў. За братам Міколам трэба ісці, Генадзь.

Афіцэр. Мы освободим Корнилова — факт!

Мікола *(азіраючыся на тэрасу)*. Цішэй нельга, пан паручнік? Ды і глупства вы гаворыце!

Афіцэр *(пакрыўджана)*. Как это «глупства»? А кто со мной говорил?

Мікола. Піце кахецінскае і маўчыце!

Афіцэр. Мадам! Меня оскорбили! Я же мужчина с головы до ног!

Мікола. Ды што гэта, папраўдзе, у нас? Не сур'ёзная палітычная гутарка, а чорт ведае што!

Барановіч. Я папрашу ўсіх у мой кабінет! Тут... гэтыя дзверы на тэрасу...

Уваходзіць айцец Іона.

### З'ява V

Тыя ж і Іона.

Іона. Я не спазніўся на сабранне? А-а-а! Бачу, што не! Благаславёна трапеза сія, пшаніца, віно і елей!

Рая. Пшаніца, віно і іерэй!

Прахайла. Елей, дурніца! Алей, па-нашаму.

Сафі. Бацюшка! З пералічаных вамі страў у нас на стале адно віно!

Афіцэр. Кахетинское, батюшка!

Іона. Ну што ж! Усё блаславенне пойдзе на кахецінскае! Грахі, грахі!

Барановіч. Добра, айцец Іона, што вы прыйшлі. Аб'яднацца ўсім, як патрабуе мой сын Мікалай!

Іона. У евангеліі сказана: дзе двое збяруцца ва імя мае, там і я між вамі!

Барановіч. Ісціна, айцец Іона! Святая ісціна!

Іона. Але праўду трэба сказаць, хаця і горкую! Ці часта вы збіраліся ва імя яго? Я разумею царкву праваслаўную. Кайся, інтэлігенцыя! Кайцеся і вяльможы! Ці часта прыходзілі да мяне на споведзь? Ці часта прымалі іншае віно — святое прычасце?

Барановіч. Прарочыя словы!

Сафі. Васіль Генадзіч! Продкі вашы — французы, вы казалі. Вера ў іх каталіцкая.

Іона. Царква Хрыстова адзіная — кафаліцкая, каталіцкая, па-нашаму, у перакладзе — сусветная. Будзе час — Усход і Захад аб'яднаюцца.

Барановіч. Рэвалюцыя — кара за вальнадумства, нн-да!

Мікола. І за глупства!

Афіцэр. Хорошо сказано! *(Напявае.)* «Алаверды...»

Іона *(заўважыўшы сына)*. І ты тут, блудны сын мой Васіль?

«Ударнік». Маглі б успомніць іншую прытчу, айцец!

Іона. Мне лепей знацца ў прытчах, гэта мой фронт! А твой там, куды павядзе капітан! *(Паказвае на Міколу.)*

Афіцэр. Батюшка, пожалуйста! *(Налівае віно.)*

Іона. Суета сует! За страждущих и пленных. *(Выпівае.)*

Афіцэр. Хорошо! Кто попался в плен? *(Хапае Сафі за талію.)*

Сафі *(адхіляе яго)*. Сядайце там! Яшчэ далей.

Афіцэр. Тогда я не достану кахетинского! А я хочу выпить за всех воинов! Чтоб война кончилась победой над полными врагами!

Рая. Над поўнымі ворагамі!

Мікола. Гэта над вамі, Раечка!

Сцэна паступова цямнее. Генадзь запальвае лямпу.

Афіцэр. Зачем свет? Хорошо и так.

Усе ў розных позах. Нейкі час маўчаць, кураць. У акне на тэрасу паказваюцца твары Сысоя і Матруны. Іх ніхто не заўважыў, апрача Сафі.

Сафі *(ускрыквае)*. Ай! Хто там!

Генадзь *(зірнуўшы на дзверы)*. Здаецца, Сысой і жанчына!

Усе збянтэжаны.

Мікола *(да афіцэра)*. Дзе вашы тэкінцы, паручнік?

Афіцэр. Кахетинцы? То есть, я хотел сказать — текинцы. Вы знаете, господа, что?

У с е. Ну, што?

А ф і ц э р. Очень нехорошо! Мои текинцы начали слушать разных агитаторов. Вчера один матрос...

М і к о л а. Трэба арыштаваць матроса Барыку. На камісара Лапцэвіча няма чаго спадзявацца: тыповы прадстаўнік урада Керанскага! Сёння гатоў арыштаваць зямельны камітэт, заўтра пабяжыць раіцца з мясцовымі бальшавікамі!

П р а х а й л а. Галоўны тут муціла — «таварыш Станіслаў». Я яго даўно ведаю!

М і к о л а. Можа быць! Але праводзіць у жыццё ўсе іхнія дырэктывы матрос Барыка.

«У д а р н і к» В а с я *(зрываецца з месца)*. Я выпалю ў кусты, куды яны схаваліся!

М і к о л а *(стрымлівае яго)*. Спакайней, «ударнік»! На ваш стрэл збяжыцца ўся вёска! Хавайце пісталет ды не забаўляйцеся з ім да часу!

Г е н а д з ь. Я выйду, пагляджу вакол. *(Выходзіць на тэрасу.)*

Б а р а н о в і ч. Я даўно прапаную ў мой кабінет. Там можна шторы апусціць на вокны!

Г е н а д з ь *(вярнуўшыся з тэрасы)*. Манюня сюды ідзе... Здаецца, з матросам...

Б а р а н о в і ч. Дачка Барановіча — з матросам!

С а ф і. Выхаванне Андрэя Андрэевіча. Я не маю ніякага ўплыву!

М і к о л а. Кіньце аб уплыве! Лепш забірайце з сабою ўсе гэтыя бутэлькі, пакуль балтыец не ўбачыў, потым будзе здзекавацца.

Усе ў хваляванні хапаюць бутэлькі.

А ф і ц э р. Кахетинского только одна бутылка! Я в шутку называю «кахетинское» — чепуха. Всякие «малаги», «кагоры»... *(Бярэ некалькі бутэлек.)*

Усе выходзяць у бакавыя дзверы. Генадзь хоча ісці за ўсімі. Мікола спыняе яго за плячо.

М і к о л а. Пачакай! Схаваемся вунь туды, у куток!

Г е н а д з ь. Навошта?

М і к о л а. Паслухаем размову!

Г е н а д з ь. Але гэта не этычна, Мікола!

М і к о л а. Кінь клікушнічаць! Не такі час!

Сілком цягне Генадзя ў куток. Яны хаваюцца. У той жа момант з тэрасы ўваходзяць М а н ю н я і Б а р ы к а.

### З'ява VI

Манюня і Барыка.

Манюня. Калі пагаворыш з вамі, таварыш Барыка, усё робіцца неяк ясней. Заходзьце! Нікога няма чамусьці... У дальніх пакоях галасы.

Барыка *(азіраючыся)*. Тут толькі што вінцо папівалі. *(Нюхае паветра.)*

Манюня. Усё магчыма, Барыка! Сядайце!

Барыка. Не, не сяду! Зарана матросу ў панскіх пакоях сядзець. Пачакаем крыху. Вы хацелі мне нешта пра Таццяну сказаць?

Манюня. Хацела падзяліцца з вамі тым, аб чым даведалася сёння... Кажу: з вамі і мне будзе лягчэй разабрацца.

Барыка. Кажыце хутчэй!

Манюня. Жудасная сямейная тайна! *(Ціхім галасам.)* Цётка Матруна паведаміла Таццяне ўчора, што яна не дачка садоўніка...

Барыка. А чыя ж?

Манюня *(яшчэ цішэй)*. Самога Васіля Генадзьевіча.

Барыка *(у хваляванні)*. Вось табе! А адкуль Матруна даведалася?

Манюня. Сама Таццяніна маці прызналася ёй перад смерцю...

Барыка. Так-так! Па-дваранску, па-панску! Па ўсіх правілах! Але навошта было Матруне так усё і выкласці Таццяне?

Манюня. Вось жа!

Барыка. Дзе ж Таццяначка? Вы бачылі яе?

Манюня. Ніхто зрання яе не бачыў...

Барыка *(у хваляванні)*. Пайду яе шукаць... Ноч ужо! *(Шпарка выходзіць на тэрасу.)*

У той жа момант паказваюцца Мікола і Генадзь.

### З'ява VII

Манюня, Мікола, Генадзь.

Манюня *(крыху спалохана)*. Вы тут, кузены?

Мікола. Мы тут! Няўжо праўда?

Манюня. Вы чулі нашу размову?

Генадзь *(у адчаі)*. Мы чулі ўсё, Манюня! Усё! Як жыць пасля гэтага? Як жыць? Што рабіць?

М а н ю н я. Чаму не жыць, Генадзь? Вы маеце родную сястру, і такую слаўную! Знайдзіце яе і прывядзіце ў свой дом!

Г е н а д з ь. Знайду! Прывяду яе ў свой дом! Сястрыцу! *(Выбягае з плачам.)*

Мікола ўвесь час сядзіць на канапе ці на крэсле, схіліўшы галаву на рукі. Маўчыць.

М а н ю н я. Генадзь лепшы брат!

М і к о л а *(нібы ачнуўшыся)*. Лепшы брат? Так-так! Ён лепшы брат! Ён толькі брат! Ён толькі брат! Яму лягчэй!

М а н ю н я *(вельмі здзіўлена)*. А вы?

М і к о л а. А я... *(Доўга моўчкі пазіраюць адзін на аднаго.)*

М а н ю н я *(нібы зразумеўшы.)* Дык вы...

М і к о л а. Не толькі брат! *(Зноў нахіляе галаву.)*

М а н ю н я. Самец! *(Шпарка выходзіць на тэрасу.)*

Мікола падымаецца, ходзіць па пакоі. Дастае з кабуры пісталет, зноў кладзе на месца. Здалёк чуваць галасы. Натоўп на тэрасе. Нясуць Т а ц ц я н у. З другога боку ўваходзіць Б а р а н о в і ч і іншыя.

## З'ява VIII

С я л я н е, М а т р у н а, С ы с о й, Г е н а д з ь, М і к о л а, Б а р а н о в і ч.

Б а р а н о в і ч. Мікола! Што гэта ўсё азначае? Натоўп у нашым доме!

С ы с о й *(да паноў)*. У садзе вісела ў вашым! Га? Што ж гэта? Парадак? Га?

Б а р а н о в і ч. Таццяна? Дачка садоўніка?

М а т р у н а. Твая яна дачка, утроба ты панская! Твая! А Таццяначка! А галубачка ж ты наша! А каб жа таму, праз каго ты загінула, ані выратавання, ані каяння!

Б а р а н о в і ч. Я... я... Маці нічога не гаварыла... Даўнасць... Маладосць... Таццяна! *(Углядаецца ў твар.)*

С ы с о й. Ды што там казаць! Кладзіце на канапу!

Б а р а н о в і ч *(зноў углядаецца ў твар)*. Таццяна!

М а т р у н а. Яна ж і падобна да цябе, бяспутнік! І да яго. *(Паказвае на Міколу.)*

Г е н а д з ь. Сястрыца, сястрыца. *(Парываецца да Таццяны.)*

Ґаласы з натоўпу. У гэтага сэрца ёсць, хоць і паніч! А той...

Сысой. Ну, прымайце, кажу! Ваша яна!

У гэты момант з тэрасы ўрываецца Барыка. Затым падыходзяць айцец Іона і Манюня.

### З'ява IX

Тыя ж, Барыка, Іона, Манюня.

Барыка. Не, не іхняя! Наша яна па маці, па крыві!

Іона. Дазвольце, праваслаўныя, мне цяпер! Хоць і не па закону... Во блажэнном успеніі...

Барыка. Годзе! Адпявай вунь тых! *(Паказвае на паноў.)* Вынясем яе з гэтага смуроду дваранскага! Памажыце, хлопцы!

Таццяну падымаюць і чынна выносяць. За імі ідуць Манюня, Генадзь.

Барановіч. Коля! Як быць? Што рабіць?

Мікола. Вашай дачкі няма, пан Барановіч! І сястры ў мяне як не было, так і няма! Ісці да іх, да матроса Барыкі? Выносіць вас так, як Таццяну, не будуць. *(Заглядвае ў пакой.)* Паручнік, «ударнік»! За мной, у горад! Там ёсць у нас справы!

*Заслона*

## ДЗЕЯ IV

Тая ж сцэна, што ў першай дзеі. Раніца. Паступова святлее.

### З'ява I

На тэрасе Сысой, Матруна, сяляне.

Сысой. Уцёк, кажуць, да Карнілава! Во ён які! А яшчэ ў камітэт яго выбіралі.

Сяляне. Каторы з панічоў?

Матруна. Вядома, Мікалай, капітан! Адразу ўцёк, як здарылася з Таццяначкай.

Селянін. Вунь што! Глядзі ты!

Матруна. Думаю, тут нешта нейкае, што і не паняць!

Сысой. А чаго не паняць? Пётра Барыка загадаў не пушчаць нікога з паноў з фальварка, пакуль яны там, значыцца, бальшавікі у горадзе ўпарадкуюцца!

Селянін. На пошце казалі, што ў Петраградзе робіцца!

Сысой. Што трэба, тое і робіцца! Керанскага скінулі, але-ткі ўцёк, кажуць, псіна! Уладу забралі рабочыя, матросы...

Селянін. Словам — буржуям крышка!

Матруна. Цішэй вы! Пачуюць, уцякуць усе чыста! *(Прыслухоўваецца.)*

Сысой. Куды дзенуцца! Вось што — усе ў кусты, і не варушыся!

Селянін. Каб жа ўлетку — залезлі б у мяккую траву!

Сысой. А ты пад лісцё! Ну, хадзем!

Усе выходзяць.

### З'ява II

На тэрасе з'яўляюцца тэкінцы.

Першы тэкінец. Нам сказал: стреляй мужик. А сам удырал. Нэхорошо!

Другі. Какой начальство! Никакой начальство! Сам окно видал: дамачка за таль дыржал, вино дыржал. Никакой начальство!

Сысой *(выскаквае з двума сялянамі. У іх сякеры)*. Хадзі сюды! Давай вінтоўкі! Так! Кінжалы сабе пакінь!

Першы тэкінец. Не будэм сэкир башка?

Сысой. На ліха нам твая башка! Ды вы ў нас страляць наняліся? Ах вы, сучыя пляменнікі!

Другі. Паламенники. Дурак был, а он начальство был!

Першы. Начальства удырал!

Сысой. Кінь ты аб сваім начальству! Сапраўднае начальства, можа, сёння тут будзе!

Першы. Опят он будэт?

Сысой. Ды не ён! Другі, наш!

Першы. Ваш? Корошо!

Сысой. І ваш, і наш! Ды вы з якой мясцовасці?

Другі тэкінец. У нас нэт мясцовасці...

Сысой. Як гэта так? Зямля ў вас ёсць?

Першы. Песок-земля. Кызылкум земля.

Сысой. А паны ёсць?

Першы. Какой шпана?

Сысой. Князь ёсць?

Другі. Князь не хорош: на война посылал, винтовка давал.

Сысой. Вось жа! Вінтоўку даваў, а добрай зямлі не даваў! Не бойся: нашых князёў разам выганяць будзем!

Першы. Ты корош, товарищ. Стреляй нэт?

Сысой. Навошта нам цяпер страляць вас? Хадзіце сюды, хавайцеся! *(Вядзе тэкінцаў у прысады.)*

### З'ява III

З пакояў на тэрасу выходзяць Генадзь і Барановіч з чамаданам.

Генадзь. Ну, куды мы паедзем, татусь?

Барановіч. У горад і далей. Туды, дзе Мікола.

Генадзь. Зразумейце! У горадзе ўжо гаспадарацъ бальшавікі. Самі чулі ад дваровых людзей. На дарогах іхнія заслоны. Нас адразу ж арыштуюць!

Барановіч. Лепш, па-твойму, сядзець тут, чакаць, пакуль свае мужыкі павесяць нас пад акном уласнага кабінета? Дзякую! Не ўсюды заставы. Я ведаю дарогу праз лес, праз гаці. Пакліч Саўку запрэгчы коні.

Генадзь. Яшчэ вельмі рана, татусь. Людзі спяць, калі хто і застаўся. Звечара пабеглі ў горад.

Барановіч. Ну, ідзі запражы сам Цыганка!

Генадзь. Я не ўмею надзяваць хамут: заўсёды галава не лезе!

Барановіч. Надзяеш не перавярнуўшы! Выхаванне вашае!

Генадзь. А хто яго нам даў? З дзяцінства прывучалі, што ўсё за нас робяць «рабы».

Барановіч. Вярзеш немаведама што! Паўсотні гадоў, як вольнанаёмная праца! Талстоўства тваё!

Генадзь. Леў Мікалаевіч праўдзівы, сумленны чалавек. Папярэджваў такіх, як мы! Дачакаліся!

Барановіч. Не да яго зараз! Што рабіць? Як мог Мікола кінуць нас у такі час!

Генадзь. Мікола ўпэўнены якраз, што ён выратуе. Паехаў па казакоў.

Барановіч. Каб жа прывёў! Каб жа прывёў!

Генадзь. Казакі будуць, як і тэкінцы!

Барановіч. Агітацыя, думаеш?

Генадзь. Няўжо ж не!

Барановіч (*у роспачы садзіцца на ганак, дастае насоўку, выцірае вочы*). За што такая пакута?

Генадзь. Было за што, татусь!

Матруна паказваецца з-за дрэў.

**З'ява IV**

Тыя ж і Матруна.

Барановіч (*спалохана*). Матруна! Ты чаго тут зрання!

Матруна. Ды тут мы... трэба было...

Барановіч. Наглядаць прыставілі?

Матруна. Мо і так! Вы ж, паночкі нашыя, як тыя дзеткі! Куды гэта сабраліся?

Барановіч. А табе якая справа?

Матруна. Мне нічога. Але вам лепей дома сядзець, нікуды не рушыцца. Генадзь праўду гаворыць. Я чула. Як-ніяк тут свае людзі. А да чужых трапіце, каб горш не было? Хто вам зараз гатуе? Фроська каторы дзень у горадзе.

Генадзь. Хто гатуе? Учора была Манюня. Вы ж ведаеце яе?

Матруна. Няўжо ж!

Генадзь. А то самі што якое зварым.

Матруна. Нясіце чамаданчык назад! Сядзіце ў пакоях! Я прыйду, прыгатую абед.

Генадзь. Дзякуем вам, Матруна!

Матруна. Няма за што пакуль! Ну, мне трэба ісці, бывайце здаровы! (*Знікае.*)

Генадзь. Чулі, татусь, як разважае просты чалавек. Іхняя сіла, а сэрца засталося. Ды якое чулае!

Барановіч. Можа, ты і правільна разумееш усё! Ды толькі позна прыйшло нам разуменне! Мікола, Мікола! Дзе ён зараз? Што робіць? Ці жывы? (*Плача.*)

З'яўляюцца Прахайла і Раіса. Абое з рэчамі.

**З'ява V**

Тыя ж, Прахайла і Раіса.

Прахайла. Добрага рання, ваша правасхадзіцельства!

Барановіч. Кіньце вы!

Прахайла. Ледзь дацягнуў! Думаю, куды нам? Толькі да вас! Можа, прытуліце?

Генадзь. Ненадзейны і ў нас прытулак.

Раіса *(таксама зморaная)*. Мікола Васільевіч казаў мне, што хутка вернецца і забярэ... мяне!..

Прахайла *(дражнячы)*. Мікола Васільевіч ёй абяцаў! Чулі такое? Ды ў капітана такіх, як ты...

Рая. Забараняю так гаварыць, хоць вы і бацька мне! Коля мне прызнаўся, што... любіць мяне!

Прахайла. Коля ёй прызнаўся! Разумееш ты, панчоха матчына, што калі ў вас да «Колі» дайшло, дык тут адным прызнаннем не адробішся!

Рая. Не смейце!

Падыходзіць Сафі.

### З'ява VI

Тыя ж і Сафі.

Барановіч. А вы як трапілі да нас? Няўжо пешкі?

Сафі *(паказвае на боты і паліто, якія ў гразі)*. Бачыце? Ніводнай фурманкі!

Барановіч. А дзе Андрэй? Што ён робіць?

Сафі. Ах, божа мой! Андрэя я не бачыла. Ён з «таварышамі» дзень і ноч!

Барановіч. Што яны там? Што кажуць?

Сафі. Збіраюцца ў вас у Ліпках арганізаваць школу-камуну!

Барановіч. Нечуванае нахабства! Яны ўпэўнены, што бальшавіцкае паўстанне ў Петраградзе пераможа? А Масква? А Дон? А ўся Расія?

Генадзь. Наш павет — частка Расіі. А што ўжо здарылася тут? Не трэба слепаты, татусь!

Барановіч. З табою яшчэ горшыя поцемкі, Генадзь! Мікола, Мікола!

Сафі. Я кінула дом, дзе я ўсё роўна не гаспадыня, і пайшла да вас. Спадзяюся, што мяне Васіль Генадзьевіч лепш зразумее!

Генадзь. Вы ішлі адна ноччу?

Сафі. Жанчыны былі з горада. Уцякалі ад бальшавікоў.

Генадзь. Гандляркі якія-небудзь!

З-за дома шпарка выходзіць Мікола ў паходнай форме. З ім дзесятак казакоў.

## З'ява VII

Тыя ж, Мікола, казакі.

Барановіч (*убачыўшы сына, кідаецца да яго*). Ніколя! Ніколенька! Жывы, мой сыночак! Я быў упэўнены. Я верыў і нават маліўся!

Прахайла (*таксама ўскочыў з ганка*). Збавіцель наш!

Мікола (*вызваляецца ад бацькавых абдымкаў*). Пасля, пасля! Не да сентыментаў зараз, рана! Ідзіце ўсе ў дом, сядзіце ціха далей ад акон: можа, будуць страляць.

Барановіч. Тут, у нас, у садзе? Хто? Супраць каго, Ніколенька?

Мікола. Горад заняты бальшавікамі. Я ледзь прабіўся з казакамі. Калі пачуеце стрэл, кладзіцеся на падлогу! Не перашкаджайце мне!

Сафі. На падлогу? Я на ложак лягу або на канапу.

Ґенадзь. І мне з імі ісці ў дом?

Мікола. А якое ты выключэнне?

Усе ідуць у пакоі. Перш за ўсіх шпарка знікае Прахайла. Рая спынілася, глядзіць на Міколу, чакаючы чагосьці.

Рая. Мікола Васільевіч! (*Той робіць рукой рашучы знак. Яна шпарка знікае.*)

Застаюцца Мікола і казакі.

Мікола (*да казакоў*). Агледзець увесь сад! Засада можа быць. Знойдзеце каго, вядзіце сюды!

Казакі павольна, без ахвоты разыходзяцца. Мікола падымаецца ў дом. Нейкі час сцэна пустуе. Чуваць крык: «Стой, трымай!» Стрэл. Мікола выбягае. Вядуць Сысоя, тэкінцаў. За імі ідзе Матруна.

Мікола (*убачыўшы Сысоя*). А-а! «Дзядзечка» франтавы, руплівы! (*Павышаючы голас.*) Вартаўнік і шпіён бальшавіцкі!

Сысой (*спакойна*). Дык мы ж вас...

Мікола. Хацелі вы нас, а выйшла — мы вас!

Матруна. А завошта? Яны ж сапраўды вартавалі вашага бацьку і брата ад ліхіх людзей. А я прыйшла... дагаварылася панам абед згатаваць.

Мікола. Маўчаць! (*Да казакоў.*) Хто страляў?

Казак. Может статься — баба! У нее тоже винтовка была.

Мікола. Абед гатаваць прыйшла з вінтоўкай!

Матруна *(без хвалявання)*. Ат! Глупства гаворыш, паніч Мікола! Вінтоўкі мы з Сысоем адабралі ў гэтых. *(Паказвае на тэкінцаў.)* Яны збіраліся ў народ страляць.

Мікола *(іранічна)*. У народ!

Тэкінец. Никакой народ мы не стрелял! Начальник удырал!

### З'ява VIII

На тэрасе Мікола. Убаку моўчкі стаяць казакі. За сцэнай чуваць галасы. Паказваецца атрад чырвонаармейцаў. Вопратка розная. Чырвоныя нарукаўнікі. За імі таварыш Станіслаў, Барыка, доктар Барановіч, Манюня, каманда.

Таварыш Станіслаў *(убачыўшы Міколу)*. Так, пане капітан, член палкавога камітэта! У поўным паходзе? З кім ваяваць сабраліся? З імі?

Паказвае на Сысоя, тэкінцаў, Матруну, на групку сялян, што падыходзяць да тэрасы.

Мікола. Адказваць вам не збіраюся!

Таварыш Станіслаў. Ваша права! *(Тонам загаду.)* Раззброіцца! Пісталет здаць!

Да Міколы падыходзіць камандзір атрада.

Мікола *(да казакоў)*. А вы што ж? Казацкую зброю на зямлю перад гэтымі?..

Таварыш Станіслаў. Ужо позна агітаваць, пан капітан! *(Да казакоў.)* Ваша часць перайшла ў горадзе на бок бальшавікоў. А вы? Вас тут амаль столькі, як і нас! На каго вінтоўкі накіруеце? На народ?

Казак. Зачем? Куда все наши, туда и мы!

Другі казак. Нам бы на Кубань!

Таварыш Станіслаў. І Кубань сваю ўбачыце! Здавайце вінтоўкі!

Барыка *(падыходзіць да казакоў)*. Так, браты кубанцы, спакайней будзе і дадому хутчэй. *(Бярэ ў аднаго вінтоўку. Да сялян.)* Ну, чаго стаіце? Бяры — спатрэбіцца! *(Паказвае на Міколу.)* Яшчэ такія засталіся!

Казакоў раззбройваюць. Вінтоўкі перадаюць сялянам.

Сысой. Давай мне маю назад, ды і шаблю давай! *(Прычапляе казацкую шаблю і затым знікае.)*

М і к о л а *(да чырвонаармейца, які падышоў да яго).* Не чапаць! Сам здам! *(Здымае кабуру.)*

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Заадно і пагоны!

Мікола зрывае пагоны і далёка адкідае іх. У гэты момант на тэрасу з пакояў выходзяць с т а р ы  Б а р а н о в і ч, С а ф і, І о н а, П р а х а й л а, Р а і с а, Г е н а д з ь.

Б а р а н о в і ч. Мікола! Сын мой! Што яны з табой робяць? Што ж казакі?

М і к о л а. Супакойцеся, тата! Я сам раблю!

Д о к т а р *(да Барановіча).* Здароў, Васіль. Мікола сам за сябе, сам робіць... яго словы, супакойся!

Б а р а н о в і ч. Ты тут, Андрэй, з імі? Чаму ж дазваляеш зневажаць афіцэра?

Д о к т а р. Васіль, зразумей: афіцэраў у нас няма зараз. А паважаем мы тых, хто з намі!

С а ф і *(вырываецца ўперад).* Андрэ, Андрэ! Як добра, што ты прыехаў. Супакой нас! Я тут...

Д о к т а р. Бачу, што тут! Па якой справе сюды?

С а ф і. Андрэ! Мне было цяжка дома! Цябе ўвесь дзень няма. У камітэце... Так усё па-новаму ў горадзе...

Д о к т а р. Добра! Зараз не да хатніх размоў!

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў *(да Сафі).* Лепш за ўсё вам пабыць са старым: яму цяжка ўсё пераварыць адразу. *(Паказвае ўбок, дзе каля калоны стаіць Мікола, яго трымае за руку стары Барановіч. Заўважыўшы на тэрасе іншых.)* Ды тут у вас пасяджэнне было! Мусіць, дзяржаўныя справы вырашалі?

І о н а *(падыходзіць, нізка кланяецца).* Сказана ў апостала: «Властям предержащим всякая власть да повинуется! Несть бо власть, аще не от бога есть!»

Б а р ы к а *(да гэтага размаўляў з Манюняй збоку).* Альбо ад рэвалюцыі, бацюшка!

Смех.

І о н а. Магчыма, і тое, сын. Усё ад бога!

Б а р ы к а. І рэвалюцыя?

І о н а. Што ж — і рэвалюцыя...

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Хутка прыстасаваліся, ойча. Характэрна для вашай прафесіі. Ідзіце з імі ў пакоі пакуль што.

І о н а *(шпарка падымаецца на прыступкі, падхапіўшы падраснік).* Несть бо власть! Несть бо власть.

Да таварыша Станіслава і Барыкі баязліва падыходзіць Прахайла.

П р а х а й л а. Не чакаючы... дазвольце, таварыш начальнік! Служыў па справах парадку... З вялікай старannасцю магу і пры новай уладзе, так сказаць — народнай...

Т а в а р ы ш С т а н і с л а ў (*углядаецца ў твар*). Стары знаёмы! Ды вы парык скіньце! (*Той спешна здымае.*)

П р а х а й л а. З прычыны непрыемнай лысіны...

Т а в а р ы ш С т а н і с л а ў. З прычыны схавацца, правакатар дзевяцьсот пятага года! Дык гэта вас я сустракаў на вуліцы?

П р а х а й л а. Я... таварышы...

Т а в а р ы ш С т а н і с л а ў. Мы вам не таварышы! (*Да начальніка атрада.*) Арыштаваць! (*Прахайлу забіраюць пад канвой.*)

Р а я. Тата, тата! (*Плача.*)

П р а х а й л а. Не нюнь!

Т а в а р ы ш С т а н і с л а ў. Пагаворыце пазней. Ідзіце ў дом!

Манюня падыходзіць да Міколы, каля якога стары Барановіч і Генадзь. Яны каля калон тэрасы. Манюня нешта ціха гаворыць.

М і к о л а (*уголас*). Раззброіцца ў поглядах, кузіна Манюня? Гэта не так проста! Не пагоны скінуць.

Таварыш Станіслаў і Барыка, пачуўшы гэта, насцярожваюцца. У гэты момант з-за дома паказваюцца С ы с о й і некалькі ўзброеных с я л я н. Яны вядуць «у д а р н і к а» і а ф і ц э р а. Б а р а н о в і ч і С а ф і ідуць у пакой.

### З'ява IX

Т ы я ж, апрача Барановіча і Сафі, С ы с о й, «у д а р н і к», а ф і ц э р, М а т р у н а.

С ы с о й. Хаваліся!

Т а в а р ы ш С т а н і с л а ў. З «дзікай дывізіі»?

А ф і ц э р. Совершенно случайно!

Т а в а р ы ш С т а н і с л а ў. Што «случайно»? Што вы тут ці што вы з «дзікай» карнілаўскай дывізіі?

А ф і ц э р. И то и другое!

Т а в а р ы ш С т а н і с л а ў. Разам з капітанам Барановічам прабіраліся бліжэй да генерала?

А ф і ц э р. Случайно ехали в том направлении...

Б а р ы к а. Ды натрапілі на чырвонагвардзейскую заставу і павярнулі аглоблі!

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў (*да «ўдарніка»*). А вы з чэрапам?

«У д а р н і к». Спасать отечество! Семінарская асвета... Tempora tempantur... mutantur... Прабачце, забыўся латынь!

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Лепей бы пра Карнілава забыўся ды пра загады капітана!

М а т р у н а (*вырываецца з натоўпу*). Нашага бацюшкі сынок. Ён нішто... казалі, з фронту.

С ы с о й. Не рыпайся, Матруна! Без цябе разбяруцца!

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў (*зноў да камандзіра атрада. Паказвае на Міколу, Прахайлу, афіцэра і «ўдарніка»*). Трэба гэтых адвесці ў горад. Казакаў і тэкінцаў перадайце ў казарму, а тых здаць у турму... да суда.

К а м а н д з і р. Ёсць!

Выводзяць М і к о л у, а ф і ц э р а, «у д а р н і к а». Ч ы р в о н а г в а р д з е й ц ы выходзяць на сцэну. Праз нейкі час чуваць «Інтэрнацыянал».

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў (*да Барыкі і Манюні*). Трэба прыняць дом і гаспадарку, зрабіць спіс маёмасці. (*Да сялян.*) Таварышы! Фальварак аб'яўляецца народным.

Галасы: «Правільна! Ура!»

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Людзей не чапаць самавольна! Народны суд разбярэцца ў кожным! Гэтага таварыша (*паказвае на Барыку*) ад імя павятовага рэвалюцыйнага камітэта прызначаю камендантам маёнтка і ваколіц... Да выбараў сельсавета...

Галасы: «Правільна!»

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў (*зноў да Барыкі і Манюні*). У доме пару пакояў пакінуць ранейшым гаспадарам. Дом трэба падрыхтаваць пад школу... (*Да сялян.*) Тут будзе школа для вашых дзяцей. А сіроты будуць жыць у панскім доме і вучыцца... Школа-камуна... Як? Згодны?

Галасы: «Добра, добра!»

С ы с о й. Чаму не добра! Дзецям-сіроткам такія хароміны!

Д о к т а р (*да тав. Станіслава*). Можа, лепей, каб стары пераехаў у горад да мяне?

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Можна і так.

Матруна. А навошта ім куды ехаць? Ані пальцам не кранём старога пана ды вось яго. *(Паказвае на Генадзя, які стаіць у задуменні.)* Я буду гатаваць ім паесці...

Таварыш Станіслаў *(усміхаючыся)*. Можна і так, гаспадарце!

Манюня *(да Генадзя)*. Будзеце, Генадзь, памагаць нам: маёмасць перапісаць, у будучай школе працаваць?

Генадзь. Я не адмаўляюся... Толькі Мікола... *(Адварочваецца, гатоў расчуліцца.)*

Таварыш Станіслаў *(як бы супакойвае яго)*. Мы вас прызначым або тут па школе, або ў павятовы аддзел асветы...

У гэты момант здалёк чуваць стрэлы. Усе насцярожаны.

Сысой *(рашуча)*. Пабягу туды! Што там здарылася?

З ім рушылі некалькі ўзброеных сялян.

Барыка. Няўжо арыштаваныя задумалі ўцёкі? Пераб'юць усіх!

Манюня *(да бацькі)*. Мікола ў такім настроі...

Доктар. Усё можа быць... Дрэнна, калі настрой пануе над развагай!

Нейкі час чаканне.

Сысой *(з хлопцам нясуць на руках Міколу)*. Што ты скажаш! Надумаўся! Ну і трапіла куля! Падбіваў іншых, ды ніхто за ім не пабег.

Доктар, Генадзь, Манюня кідаюцца да параненага.

Доктар *(да Манюні)*. Хутчэй прынясі, доня, мой саквояж! Добра, што прыхапіў! Кладзіце яго на тэрасу на пляцёнку!

Міколу кладуць на шэзлонг.

Доктар *(да Матруны)*. Тазок і чыстай вады абмыць вакол раны!

Матруна прыносіць, затым выходзіць. Манюня прыносіць саквояж. Доктар аглядае рану, бінтуе.

Доктар. Левая плечавая... Трэба зараз у горад на аперацыйны стол... Я паеду з ім, таварыш Станіслаў?

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Якая размова!

Б а р ы к а *(да Сысоя)*. Хутка запрэгчы коні.

С ы с о й. Умомант! У доўгія калёсы, у драбіны! *(Бяжыць за сцэну.)*

З пакояў вырываецца с т а р ы  Б а р а н о в і ч, за ім С а ф і.

Б а р а н о в і ч. Ніколенька! Сын мой! Што з табой зрабілі? Я чуў стрэлы, глядзеў праз акно. *(Хоча падысці да сына бліжэй.)*

Д о к т а р *(засланяючы Міколу)*. Васіль! Не чапай! Не перашкаджай мне і Манюні, калі хочаш, каб сын жыў!

Б а р а н о в і ч. Забілі майго сына, сапраўднага Барановіча.

М і к о л а. Кінь галасіць, бацька! Будзь мужны. *(Да доктара.)* А вы, дзядзька Андрэй, дарэмна клапоціцеся аба мне! Шкада, што не трапіла ў мазжачок!

Д о к т а р. Без філасофіі, капітан Барановіч! Як у шпіталі на фронце: дысцыпліна!

С ы с о й *(шпарка падыходзіць)*. Падвода гатова!

Д о к т а р. Падымайце з шэзлонгам! Асцярожна!

С ы с о й  і  с я л я н е падымаюць і выносяць М і к о л у. Генадзь дапамагае. Следам ідуць с т а р ы  Б а р а н о в і ч, М а н ю н я, С а ф і.

Д о к т а р *(да жонкі)*. А ты што? Усе не сядзем у драбіны! Заставайся тут!

С а ф і. Андрэ! Я... Я прайдуся пешкі...

Д о к т а р. Зноў пешкі? Не патрэбна там.

С а ф і пакрыўджана адыходзіць. На сцэне застаюцца таварыш Станіслаў і Барыка. Яны стомлена садзяцца на прыступкі. Барыка закурвае люльку, таварыш Станіслаў — папяросу.

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Так яно, таварыш балтыец!

Б а р ы к а. Складаная рэч — рэвалюцыя, таварыш Станіслаў.

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. А вы як мыслілі? Рэвалюцыя, контррэвалюцыя ў канчатковым выніку — гэта людзі і зноў-такі людзі. *(Глядзіць на бесказырку матроса.)* «Аврора»... Так-так!

Б а р ы к а. Чаму я не быў на сваім крэйсеры ў такі момант!

Т а в а р ы ш  С т а н і с л а ў. Ваш крэйсер зрабіў сваю вялікую рэвалюцыйную справу. А такія бальшаві-

кі, як вы, патрэбны і на месцах. Ну, мне пара таксама ў горад. *(Падымаецца.)*

Барыка. Адпачылі б тут у пакоях. *(Паказвае на дом.)* Усю мінулую ноч не спалі, таварыш Станіслаў.

Таварыш Станіслаў. Адаспімся! Трэба быць у горадзе. Невядома яшчэ, які крэндзель пачнуць там замешваць пігельскія ды лапцэвічы.

Барыка. Я правяду вас!

Паказваецца Сысой.

Сысой. Усё ў парадку, таварышы.

Таварыш Станіслаў. Ён і завязе мяне. Заставайцеся ў фальварку, каб і тут парадак быў.

Сысой. Куды ж гэта?

Барыка. Завязеш, Сысой, таварыша Станіслава і хутчэй вяртайся: ты тут мне патрэбны!

Сысой. Гэта мы ўмомант!

Абодва выходзяць. Барыка застаецца адзін каля тэрасы ў роздуме. Падымае з зямлі чырвоны кляновы ліст, разглядае. Нечакана з пакояў пачуліся моцныя і хвалюючыя акорды. Балада Шапэна № 3.

Барыка *(заплюшчыўшы вочы, слухае)*. Манюня! Вярнулася!

Манюня з'яўляецца на тэрасе. Барыка падхапіў яе на прыступках і паставіў на зямлю.

Манюня. Ты тут?

Барыка. Не чакала? Як ты іграла! *(Абдымае.)*

Манюня. Не так моцна, балтыец! *(Вызваляецца з абдымкаў.)* Ды наогул... *(Адвярнулася.)*

Барыка. Думаеш, не разумею? Мне самому баліць за яго... во як! Валявы, упарты, прыгожы. Можа, яшчэ выжыве... Зразумее ўсё.

Манюня *(зноў павярнулася да Барыкі)*. Хіба не скончылася барацьба?

Барыка. Барацьба толькі пачынаецца... Упартая! І мы будзем разам у гэтай барацьбе, разам! Плячо ў плячо! *(Зноў моцна абдымае.)* «Аўрора» мая! Радасць мая адваяваная!

*Заслона*

*1927 г.*

*Дапрацавана ў 1975 г.*

# ВІНО БУШУЕ

*Камедыя ў 4-х дзеях з сучаснага жыцця*

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Снігіроў Павел Пілiпавіч — прафесар, нежанаты.
Ясінскі Андрэй Андрэевіч — дацэнт, партыец.
Галёнка Іван Іванавіч, Панаў — асістэнты
Галіна Тодараўна — жонка Ясінскага.
Ірына — дачка яго, піянерка.
Брацянкоў, Дзежка, Лімпіяда — тэхнічныя супрацоўнікі
Урбановіч Марына — студэнтка, партыйка.
Прасінская Вольга, Мірчык Тамара, Будоль Ганна, Ганіч Таццяна, непрыгожая. — студэнткі
Бабіновіч Васіль, моцны, нязграбны.
Дубень Янка, Млынкоў, Сцяпан Гаўрылік, Алесь Гаўрылік — студэнты
Гаўрылік Аўгень, Гаўрылік Наста — бацькі, сяляне
Студэнты, студэнткі, музыкі.

Дзея адбываецца ў наш час.

## ДАДАТАК

*Студэнцкая песня на матыў «Gaudeatus» («Гаудэамус»)*

I

Нам вясёла, бо для нас
У жыцці шлях шырокі,—
За гадамі маладосці,
Калі ў дождж не ломіць косці,—
Прыйдзе час соцстраху.

II

Мы навуку панясём
Па кутох далёкіх,
Дапаможам ў будаванні
Новых, лепшых форм яднання,—
Што слыве Камунай.

III

Нам вясёла, бо для нас
Сонца і дзяўчаты,—
За гадамі буйнай сілы,
Калі нас прымаюць міла,—
Прыйдзе час соцбесу...

IV

Хай жывуць правадыры
ЦК і ЦВК (Чытаць ЦЭКА і ЦЭВЭКА).
Мы сыны працоўных гушчаў —
Фабрык, вёсак, стэпаў, пушчаў,—
Ды шляхоў шырокіх.

V

Хай жывуць працаўнікі
Усіх галін навукі,—
У нашым ясным светаглядзе
Песімісты ў заняпадзе —
Мы матэрыялісты.

## ДЗЕЯ І

Студэнцкі інтэрнат. Ложкі, сталы.
Янка Дубень, Гаўрылік Алесь.

Алесь *(уваходзіць шпарка)*. Яначка, слаўны мой, сімпатычны, араматычны. *(Круціць таго.)*

Янка. Кінь, Алесь! Ну! А то...

Алесь. Зразумей! Радасна жыць... Вось я іду па вуліцы, а мне згары за каўнер: кап, кап, кап... Чорт яго ведае, што там накапала. Я спачатку лякнуўся — ёлкі-палкі і г. д., а пасля смешна стала: гэта ж сонца. Зранння сняжок выпаў, а зараз сонца, ну і... Эх, Яначка, якая гэта сіла — сонца!

Янка. Ды ну цябе ў... кіслату. Сонца, сонца!.. Мне арганіку здаваць.

Алесь. Ну і здавай — усё роўна правалішся, па-помніш маё слова.

Янка *(чытае)*. Мураўіны алдэгід. Мураўіны алдэгід можна здабыць... мураўіны алдэгід можна здабыць...

Алесь. З мураўёў, вядома, назбіраць, націснуць — і гатова. Ха-ха...

Янка. Цьфу! Яго можна здабыць, прапускаючы метыл-спірытус праз платыну... праз платыну.... праз гэтую, перагрэтую... Так, яшчэ раз і мураўіны алдэгід...

Алесь. Сам ты алдэгід, хімія пахучая. Вось што, Тамара Мірчык не заходзіла?

Янка *(кідае кніжку, наступае)*. Ага! Я ўжо даўно прыглядаўся да вашых фігляў-мігляў. Ды вось які ты астраном! Та-та-та! Вось ён чаму пра сонца. Закапала яму згары... Куды табе закапала?

Алесь. Чакай, чакай, Яначка, у чым справа? Я ж толькі папытаўся... Можа, ты сам... можа, яна табе...

Янка. Што «ты сам», што «яна мне» — нічога. Ха-ха! *(Абодва смяюцца.)* Нічога яна мне, дурны ты! Дый я ёй нічога. Ды наогул гэта для мяне не існуе.

Алесь. Што «гэта»? Каханне?

Янка. Хоць бы сабе каханне, любошчы там розныя з жанчынамі і наогул з дзяўчатамі.

Алесь. Ты хочаш сказаць: з дзяўчатамі і наогул з дзяўчынамі, бо дзяўчына, разважаючы лагічна, ёсць частка цэлага паняцця — жанчына.

Янка. Мне здаецца, што цэлае хутчэй дзяўчына... Ды чаго ты чэпішся да мяне? Для мяне гэта ўсё няважна.

Алесь. Дазволь! А пытанне роду, пытанне плоці, як кажуць па-расійску, «половой вопрос»? Як жа ты яго развяжаш?

Янка. Што? Залозы там гэтыя самыя, каморачкі набраклі? Ха! Падумаць! Ну, а калі ты, скажам, галодны, дык няўжо так і накінешся на абы-які кавалак мяса?

Алесь. Але ж, нарэшце, пад'ясі, так ці іначай паснедаеш ці павячэраеш. Ага, а што?!

Янка. Дурны ты, як той нябесны месяц. Галадуюць, калі трэба, скажам, вязні ў турмах. Дык жа голад жыццю пагражае, а гэтыя твае любошчы — ані! Перацярпі які дзянёк-другі — яшчэ лепей сябе адчуваць будзеш, у галаве прыбудзе. *(Чытае.)* ...Мураўіны алдэгід можна здабыць...

Алесь. Чорт хімічны! З табой дыскутаваць — трэба бобу наесціся. *(З кута з-пад коўдры напявае Млынкоў.)* Млынкоў...

Янка. Ён заўсёды так.

Млынкоў *(напявае)*. Дубень Янка алдэгід з хіміяй пад ручку, скуль узяўся Майн Рыд і махнуў анучкай...

Янка. Чаго ж ты маўчаў, прытаіўся, як злодзей?

Млынкоў. Прабач, як пісьменнік. Цікава, як вы наконт усяго такога іншага. *(Вылазіць з-пад коўдры.)*

Янка. Непрыгожа гэта, нядобра.

Млынкоў. А як жа іначай наглядаць жыццё, як ты яго апішаш?

Янка. Ты, можа, і мяне апішаш?

Млынкоў. І апішу, ты цікавы тып.

Янка. Пішы, пішы, усё роўна я твайго нічога не чытаю.

Млынкоў. Не сочыш за сучаснай літаратурай, адстаеш ад жыцця.

Алесь. Ха! Не чытаць тваіх твораў, значыць, адстаць ад жыцця? Бачылі?

Янка. А ты хімічныя бюлетэні чытаеш?

Млынкоў. Спецлітаратура — толькі.

Янка. Ну, а мне цікава, як які-небудзь Сымон пасварыўся з Габрусём дзеля Марыські, ай-ай.

Млынкоў. Калі Марыська будзе табе падабацца — зацікавішся.

Янка. І не падумаю! Мураўіны алдэгід...

Млынкоў. З хіміяй пад ручку... *(Перадражнівае.)*

Янка. Адчапіцеся вы абодва!

Алесь. А я што табе раблю, бачылі.

Млынкоў. Сяду і занатую: «У гэты момант яго вочы гарэлі, як бунзэнаўскі пальнік...»

Уваходзіць Гаўрылік Сцяпан.

Сцяпан. Здрасце! Ах, кампанія. І брацец тут — замячацельна, замячацельна. Што вы пішаце, Млынкоў? І вабшчэ, пачаму вы здзесь сідзіце?

Янка. А дзе нам сядзець? А дзе ты сядзіш?

Сцяпан. Я... я, так сказаць, у састаянні стаяння...

Янка. Не, ты ў стане сядзення, ды яшчэ між двух крэслаў.

Сцяпан. Ах, я ведаю, ведаю, аб чым вы, таварыш Дубень. Пра беларускасць і так далее...

Янка. Ага, аж да Італіі.

Сцяпан. Досыць аднаго братца вам — он будзет сідзець з вамі тут у «роднай» Беларусі, а я, так сказаць, гражданін Вселеннай, так сказаць... Мая родзіна — планета Зямля.

Янка. Так сказаць.

Алесь. Чаго ж выхваляешся? Мы ўсе на Зямлі нарадзіліся, не на Марсе ж.

Бабіновіч Васіль.

Сцяпан *(да Алеся)*. Ты памалківай. Я на сем лет старэй за цябе. Да-с, таварыш Дубень, мая родзіна — планета Зямля. Это звучыт гордо: зямля.

Бабіновіч. Зямля, планіда, а ты на ёй — гніда. *(Цісне Сцяпана, абдымаючы.)*

Сцяпан. Ай! Фізічаская сіла, большэ нічэво. Голая фізічаская сіла.

Бабіновіч. Я зусім не голая сіла, што ты.

Сцяпан. Ай! Мядзведзь, бораў!

Бабіновіч. Ну, яшчэ дадай: зубр, лось... Чаго ж ты, сыночак зямлі, пішчыш?

Сцяпан. Ай!..

Бабіновіч. Гэта гучыць горда: ай! *(Усе смяюцца.)* Ну, ідзі сабе, ідзі!

Сцяпан *(адышоўшы)*. Паціснуць здаравецкім кулачышчам пячонку, знаеце, яшчэ не довад, знаеце, таварышы. Это слабы довад проціў меня.

Янка. Як паціснуць, залежыць ад гэтага.

Сцяпан. А я гавару: нічэво вы са мной не здзелае-

це. Не хачу і не хачу. Адрэжце мне палавіну языка, а я ўсё роўна другой палавінай буду гаварыць па-рускі і зачоты здаваць.

Бабіновіч. А вы чулі, хлопцы, як ён вымавіў «усё роўна»?

Сцяпан. З вамі пажывёш, чорт ведае як гаварыць будзеш. Вот кончу і ў Томск паеду, в Цехналагічаскі, і пляваць...

Янка. Не плюй, сам нап'ешся.

Сцяпан. Нап'юся, толькі не вашага, а свайго. *(Выходзіць пад смех.)*

Бабіновіч. Ну, і браток у цябе!

Алесь. Ат! *(Стук у сцяну.)* Дзяўчаты стукаюць. Што? Не чуем, галасней. Хто стукае?

Янка. Табе не ўсё роўна.

Алесь. Адгадаць? Ну, яшчэ раз стукніце! Тамара Мірчык. *(Глухі смех за сцяной.)*

Бабіновіч. Памыліўся, Гаўрылік. Глядзеце, імя ведае, мала яму фаміліі.

Алесь. Далібог, яна. Не хоча прызнацца толькі.

Бабіновіч. Ану, я. Слухаю, хто ў тэлефона? Адгадаць? Магім. Такая: сама, значыцца, нішто сабе, поўнаформіе і вабчэ, а вочы, дык таго лепей! — шэравата-бура-малінавыя з сінцом... *(Смех.)* Змоўклі. Скончана, братка Гаўрылік.

Янка. Пакрыўдзілася, ясна. Дый ты, Бабіновіч: «поўнаформіе». Навошта гэта было казаць?

Алесь. Ён не памыліўся, далібог, не.

Бабіновіч. Ну, ідзі, хімія, выбачся за мяне. Я сам бы пайшоў, ды яшчэ напалохаю дзяўчат.

Янка. Што? На іхнюю палову ісці? Пайшлі вы ўсе... далібог, хлопцы, пайшлі б вы куды, хоць бы сабе і ў жаночы калідор. Мне арганіку трэба...

Голас. Студэнткі гуртам.

Тамара. Хто ў вас тут нахал, га? Хто?

Бабіновіч. Ды мы ўсе нахалы, асабліва вунь гэты. *(Паказвае на Янку.)*

Будоль *(сентыментальна)*. Толькі не вы, таварыш Бабіновіч, не паверу.

Бабіновіч. Я і кажу: асабліва ён.

Тамара *(да Янкі)*. Гэта вы гаварылі з намі праз сценку? Што за глупства вы гаварылі? І вам не сорам, таварыш?



З жонкай Лідзіяй Іванаўнай Рытар-Грамыка
і дачкой Марынай. 1924 г.

Г а л а с ы. І вам не сорам...
— Свядомы чалавек...
— Студэнт...
— Здаецца, матэматык...

Я н к а (*з адчаем*). Я хімік.

Т а м а р а. Усё роўна. Хімія таксама навука. Дык вы што ж гэта? Што за дурныя жарты? Вы дзе жывяце?

Я н к а. У інтэрнаце.

Т а м а р а. Я не аб тым. Вы не прыкідвайцеся наіўным. Вы жывяце ў Савецкай краіне, ці ў якой-небудзь там.... ну, усё роўна. Га? (*Студэнты смяюцца.*) Свядомая грамадзянка Савецкай рэспублікі не дазволіць так з сабой жартаваць. Мы вам пастукалі, як таварышам, хацелі прапанаваць вам арганізаваць разам маёўку, а вы... Мы не дазволім.

А л е с ь. Таварыш Мірчык! Тамара! Ды вы... пачакайце... ой, не магу... Тамара!

Т а м а р а. А-а, і вы тут? Добрая рэч. Ну, я з вамі ні слова цяпер. (*Да Янкі.*) Вы зразумелі ўсю сваю...

Я н к а. Ды дазвольце нарэшце. Я таксама свядомы грамадзянін Савецкай рэспублікі. Я таксама не дазволю. Што вам ад мяне трэба, таварышы студэнткі?

Т а ц ц я н а. Што нам трэба ад яго, чулі? Нічога нам ад вас не трэба! Хімік, падумаеш!

Б у д о л ь. Спецыяльнасць тут ні пры чым. Я на літаратурна-лінгвістычным.

М л ы н к о ў. Гэта значыць, у перакладзе, язычным— літаратурна-язычным.

Т а м а р а. Глупства вы кажаце, лінгвістычным, і ўсё. (*Да Ганіч.*) Дай мне з ім скончыць. (*Да Янкі.*) Зараз жа прасіце прабачэння ў нас, як прадстаўніц жаночага калідора, зараз жа!

Я н к а. Не, прабачайце. Я ў вас прабачэння ніякага прасіць не буду, прабачайце.

Б а б і н о в і ч. Сып, Янка, сып.

Б у д о л ь. Ах, таварыш Бабіновіч... Вам такія выразы не да твару.

Б а б і н о в і ч. І не да фігуры, можа?

Я н к а. Ды наогул, якое вы маеце права? На якой падставе? Хто вам даў паўнамоцтвы, каб так урывацца ў пакой, дзе мужчыны? Дый наогул... Я мог бы быць тут... без...

Т а ц ц я н а. Пфа! Цікава нам, без чаго ён там мог быць. Мы зараз выйдзем і ніколі да вас ні нагою.

Іншыя. Ні нагою! Самі ж пастукаеце ў сценку.

Таццяна. Я нават адсунуся ад сваёй сценкі, фу! Аказваецца, вось хто тут — хімік, падумаеш!

Тамара *(да Янкі)*. Ну? Доўга мы будзем чакаць? *(Да іншых.)* А вы чаго зубаскаліце, таварышы? Сорам, фу, фу!

Алесь. Таварыш Тамара! Ды чакайце, ой, не магу!

Тамара. Нам чакаць няма чаго. Хадзем! Ганьба, фу!

Алесь. Тамара! Слухайце, Тамара. Ой, не магу. Дык жа стукаў вам не ён, і гаварыў не ён, а я ды вось хто. *(На Бабіновіча. Студэнткі спыніліся, азірнуліся.)*

Бабіновіч. Блізка да ісціны: першы стукнуў ён, падмог я, ну, а яму *(на Янку)* выпаў прыемны лёс пагутарыць з вамі. Бачыце, які ён шчаслівы? Так і свеціцца, як купальскі чарвячок.

Будоль. Ах, няўжо вы першы стукалі? Не паверу. Вы такі салідны.

Янка. Пайшлі вы ўсе... да арганічнай хіміі, вось што. Мне няма часу.

Будоль *(да Бабіновіча)*. Спыніце вашага таварыша, вы ж такі... ён жа лаецца.

Таццяна. І брыдка так — фэ!

Тамара. Ну, ён нічога такога не сказаў.

Таццяна. Ён зусім іншае хацеў сказаць, я ведаю.

Янка. Адкуль вы можаце ведаць! Вы нічога не ведаеце!

Галасы. Ха-ха-ха!

Бабіновіч. Вось гэта дык аналіз тваёй лаянкі, Янка.

Таццяна. Ведаю, не меней вас, і задачы здаю. Вы хацелі брыдкае сказаць.

Бабіновіч. Ну, і дзяўчаты, любата.

Алесь. Мы ж даўно не бачыліся.

Тамара. Пойдзем!

Усе. Пойдзем!

Тамара. Вы не думайце, што нас лёгка збіць з нагі рознымі вашымі бяссэнсавымі славечкамі. Мы яшчэ паставім пытанне аб ужыванні розных славечак, як...

Бабіновіч. Як арганічная хімія, напрыклад.

Будоль. Вы востры, як...

Бабіновіч. Алдэгід.

На парозе раптам усе смяюцца.

Млынкоў. Бачыў ты іх! Тут, браткі, і я ўжо губляюся, як кажуць.

Бабіновіч. Бо ты пісьменнік.

Янка. Ч-чорт ведае, што такое! На якое мне ўсё гэта ліха! Прычапіліся, халеры спаднічныя!

Алесь. Ой, пакінь, не магу!

Бабіновіч *(да Янкі)*. Ды чаго ты разбушаваўся, як піўныя дрожджы? Дзяўчаты як дзяўчаты, слаўныя. Наскочылі на нас, як таварышы, проста, без гэтых сентыментаў, і правільна адчыталі нас. А ты...

Янка. Без сантыментаў! Ды ты што хацеў, каб яны мне морду набілі, ці што? *(Адыходзіць.)* Мураўіны алдэгід можна здабыць...

Млынкоў. Такі выпадак. Трэба запісаць.

Алесь *(да Бабіновіча)*. Якая з іх табе болей падабаецца?

Бабіновіч. Ты хочаш, каб я сказаў: Тамара Мірчык. Не, браток, хоць яна наогул нішто, з ініцыятывай, ну і вочы і г. д... Жанчына, братка, гэта зло — так думае Янка Дубень. Дык трэба выбіраць меншае. Вось і я выбраў бы гэтую, ну, што вось тут круцілася... Словам, самую малую з іх.

Алесь. Ганіч Таццяну?

Бабіновіч. Не ведаю, як іх там зваць, можа, Ганіч. Не, я, браток, жартую — ніводная з тых, што тут былі, мне не падабаецца.

Алесь. Затое ты, здаецца, падабаешся гэтай, курносай.

Бабіновіч. Здаецца, на жаль.

Алесь. Ну, а табе хто? Не з гэтых, а так?

Бабіновіч. Багата будзеш ведаць, хімікам зробішся.

Студэнткі вярнуліся.

Тамара. Ну, ладна, таварышы. Мы на 70 працэнтаў жартавалі з гэтым усім. Глупства, вядома, як кажуць, буржуазныя забабоны.

Таццяна. Усё ж, каб той *(на Янку)* не смеў так выражацца.

Тамара. Ладна, скончана. Трэба пагутарыць, як арганізуемся мы, інтэрнат, на гэтую маёўку, і яшчэ ёсць пытанні...

Будоль. У вас ці ў нас збярэмся? *(Да Бабіновіча.)* А вы будзеце за старшыню.

Б а б і н о в і ч. Не, ужо лепей вы.

А л е с ь. Давайце тут, у нас.

Я н к а *(з кутка)*. У іх лепей.

У с е. Ха-ха!

Я н к а. Лінуць бы на вас усіх... Мураўіным алдэгідам.

На ўваходзе М а р ы н а У р б а н о в і ч, дацэнт Я с і н с к і, сяляне Г а ў р ы л і к і.

М а р ы н а. Дзень добры, таварышы. Дазвольце да вас гасцей прывесці, з вёскі. Пытаюцца, дзе інтэрнат *(падкрэслівае)*. Тут, кажуць, сыны іхнія, двое...

Б а ц ь к а Г а ў р ы л і к. Так, таварышы, двое Гаўрылікаў.

А л е с ь. Татка, маці! *(Абдымаюцца.)*

М а ц і. Алесечка! Дзякуй таварышам, вось гэным, і ніхто не ведае... Ад самага вакзала ішлі, пакуль яны не паказалі.

Б а ц ь к а. Што ты маці — паказалі... Праводзілі, як бачыш.

М а ц і. Ды бачу... самая інтэрнацыя.

Б а ц ь к а. А дзе ж Стахван?

А л е с ь. Недзе выйшаў. Ну, сядайце, ну, хоць сюды, да мяне на ложак. *(Ідуць.)*

М а ц і. Розныя людзі бываюць, ведаеш, сынок. Пытаемся, дзе інтэрнацыя...

А л е с ь. А вы пыталіся, дзе студэнты жывуць?

М а ц і. Не.

Адыходзяць. У гэты момант чуваць галасы.

Г а л а с ы. Таварыш Ясінскі!
— Дзядзька Ясінскі!
— Проша да нас!
— Калі ласка!
— Паглядзіце, як мы жывём.

Я с і н с к і. Добра, добра, дзякуй. Я так... мімаходам. Ну, што ж, нішто, здаецца, у вас весела...

Т а м а р а. Вы не думайце, дзядзька Ясінскі, што мы часта іх разважаем — ані.

Т а ц ц я н а. Мы нават пасварыліся з імі надоечы. Асабліва з тым... *(на Янку.)*

Я н к а. Зноў да мяне. Таварыш Ясінскі, нічога падобнага.

Я с і н с к і. Ого, я бачу, хто ў вас тут прыгнечаны, а хто прыгнятальнікі.

Я н к а. Проста захватваюць наша памяшканне, няма куды дзецца.

Я с і н с к і. Імперыялісты, словам. *(Смех.)* Ну, я пайду. Бывайце здаровы, таварышы. *(Зірнуў на Урбановіч.)*

М а р ы н а. Я... таксама.

Т а м а р а. Ты, можа, засталася б паінфармаваць, як у нас адносна маёўкі...

М а р ы н а. Ну, добра, толькі хутчэй... што вас цікавіць?

С т у д э н т к і. Дзядзька Ясінскі, заўтра будзеце прымаць залікі?

— Ой, страшна.

— Правалімся.

Я с і н с к і. Буду, буду, у дзесяць гадзін. *(Выходзіць.)*

М а р ы н а. Якую інфармацыю вам, аб чым?

Т а м а р а. Можа, вы спяшаецеся, таварыш Урбановіч? Можа, вам трэба разам з таварышам Ясінскім?

М а р ы н а. Без глупства, калі ласка. *(Бабіновіч прыслухоўваецца.)* Я ў студкоме, як табе вядома. Ясінскі — у дэканаце. Мы сустракаемся па справах, якія ў нас ёсць. І годзі аб гэтым.

Т а ц ц я н а. Ой, якая сур'ёзная! Вас трэба было б да нас сюды, хоць на тыдзень... у інтэрнацыю.

М а р ы н а. Што за жарты! Падыдзі ды навучы, як казаць правільна. Цябе ж вучылі.

Т а м а р а. Вось што, тут госці — пойдзем да нас, таварышы.

Б у д о л ь *(да Бабіновіча)*. Пойдзем да нас.

Б а б і н о в і ч. Да вас з вялікай прыемнасцю. Усе хадзем, хадзем!

А л е с ь *(на момант кідаючы бацькоў, да Бабіновіча)*. Я зараз, братка, з бацькамі пагутару толькі. Калі ўбачыш дзе брата, пашлі яго сюды, скажы — бацькі. Ды што з табой, Васіль?

Б а б і н о в і ч. А што са мной, ну? Чаго табе?

А л е с ь. Ага! Та-та-та! Разумею.

Б а б і н о в і ч *(дражнячы)*. Та-та-та! Тамарай тваю зваць, так?

А л е с ь. Ну, Тамарай.

Б а б і н о в і ч. А мне падабаецца болей «ма-ма-ма». Ты, хлапчына, ні чарта не разумееш. *(Выходзіць.)*

А л е с ь. Ма-ма-ма? Хто ж гэта такая?

М а ц і *(з кута)*. Што, сыночак, мяне клічаш?

Алесь. Не, матуля, гэта я так, прыпамінаю адно імя.

Бацька. Пэўне ж, дзяўчына. Ну, і ладныя ж яны тут у вас, студэнткі гэтыя самыя. Не глядзі, што вучоныя, а спрыту колькі: віць, віць, віць! Круць, круць! *(Паказвае.)*

Маці. Бачыў ты! Стары ты ўжо, каб цябе немач! *(Жартліва пхае ў спіну.)* Ляксандрачка! Я вам абаім тут вось напякла тое-сёе. *(Дастае.)*

Бацька. Што ты з ёю зробіш, сынок? Вядома, жанчына, маці, дык яно гэта... А бацька што? Хіба тытунём патрактаваць.

Маці. Вядома, у горадзе смачней напякуць, дзе ж вы бачылі раўняць! Ну, але ж пакаштуйце свайго, дзіравенскага.

Алесь. Дзякую, матулечка, дзякую, татка. Ого! Яшчэ і як гэта ўсё прыдасца да нашага абеду. *(Са смакам адкусвае, хавае. Бацькі глядзяць. З-пад коўдры ў куце смачны цмок: Млынкоў не вытрымаў.)* Млынкоў, ты тут?

Млынкоў. Тут!

Алесь. Дык чаго ж ты маўчаў, хадзі частавацца нашым вясковым.

Млынкоў. Дзякую, Гаўрылік, я гэта так...

Алесь. Ды вылазь, хадзі сюды!

Бацькі. Проша, калі ласка, таварыш студэнт... нашага вясковага пакаштуйце.

Млынкоў *(рэкамендуецца)*. Млынкоў.

Алесь. Ён у нас пісьменнік.

Маці. А-а! Але ж, мусіць, у вас усе ўжо пісьменныя, ці гэта як?

Бацька. Ды не, маці, гэта тыя, што ў газеце пішуць.

Млынкоў. Во, во, і наогул. Я фактычна яшчэ нідзе не друкаваўся.

Алесь. Але надзею маеш, праўда? *(За сцяной музыка.)* Нашыя музыкі да дзяўчат зайшлі, там, мусіць, цэлае ігрышча.

Маці. Каб жа ж у нас ды так ігралі, дзе вы бачылі?

Бацька. Струмантаў болей. Можа, мы табе, сынок, замінаем тут?

Алесь. Не, што вы! Зараз жа павінен Сцяпан зайсці.

Б а ц ь к а. Але ж нешта няма. Мусіць, заняты вельмі. Дык вось што, сынок, як бы нам паначаваць дзе?

А л е с ь. Гэта можна будзе... можна тут.

Б а ц ь к а. Каб у «Дом селяніна», казалі, добра там.

А л е с ь. Можна і туды, можна і тут, я што-небудзь зраблю зараз.

М а ц і. Не, ужо туды лепей. Мы б са старым... разам...

Б а ц ь к а. Ага, сынок! А ты Сцяпану скажаш, каб туды прыйшоў, калі захоча. А то тут і табе, і нам сцясніцельна.

А л е с ь. Дык добра, добра. Я тады адвяду вас, тут недалёка...

Збіраюцца. Млынкоў памагае, праводзіць у калідор, варочаецца, запісвае. Чуючы галасы, хаваецца.

С ц я п а н  Г а ў р ы л і к. В о л ь г а  П р а с і н с к а я.

С ц я п а н. Захадзіце, я січас найду запіскі. Захадзіце жа, Ольга.

В о л ь г а. Я тут пачакаю, хутчэй.

С ц я п а н. Захадзіце, што вы.

В о л ь г а. Кіньце! Тут у вас мужчыны, няёмка...

С ц я п а н. Ні душы. Усе там, за сценкай, длінны калідор... Слышыце, іграют... Ну, пасматрыце, как я тут устроілся, вот здзесь...

В о л ь г а. Ну? Што цікавага?

С ц я п а н. Цікавага, цікавага! Неужэлі нічэво? А вот мой столік. Хаціце, фотографіі пакажу... цікавыя, как вы гаварыце...

В о л ь г а. Ну, што асаблівага? Якія фатаграфіі... Ды хутчэй давайце запіскі.

С ц я п а н. Вот, пажалуйста, взгляніце, я отвернусь. *(Дае фотаздымкі.)*

В о л ь г а. Фу, голыя нейкія... *(Глядзіць.)*

С ц я п а н. Ну, і велікалепна. А какія формы, какое цела — как слановая косць! Красота! А вот это... поцалуй... называецца. Вы так цалавалісь когда-нібудзь? А, Олечка?

В о л ь г а. Нічога не разумею, што тут... Ой, фу! *(Кідае.)*

С ц я п а н. Нічэво не фу. Какая вы! Проста із манастырскай абіцелі. Фу! Пацалуй — это всё. Без нево — нічэво, пустота. Самае радаснае, остра-радаснае ў жызні — пацалуй, вот такой, как здзесь.

Вольга. Дзе гэта вы вычыталі? Давайце запіскі.

Сцяпан. Всё остальное: наука, соцыялізм і прочая газетная матэрыя — толькі антракты, і скучныя. Олечка, антракты ў адной яркай п'есе, каторая называецца — любоў?

Вольга. Дзе ж тут любоў? Каханне, значыць?

Сцяпан. Пралогам, вступленіем к этой п'есе і есць пацалуй. *(Цалуе ў шыю.)*

Вольга. Ну, яшчэ што. Сюды могуць увайсці. Давайце сшытак, чуеце!

Сцяпан. Ні душы жывой! Олечка, маленькі пацалуй, сладкі, как мёд, п'яняшчый, как... *(Цалуе, падаючы да ног.)*

Вольга. Фу! Фу! Сорам! *(Бароніцца.)*

Сцяпан. Олечка, Олечка мілая. Мы ж вольныя людзі. Аставім эці прадрассудкі. Толькі раз каленка, каленка пацалаваць. *(Цягнецца. З-пад коўдры Млынкоў чыхае.)*

Вольга. Ай! *(Уцякае.)*

Сцяпан *(кідаецца)*. Хто? Хто гэта? Тыт... ты... сво... свіння.

Млынкоў. Нічога падобнага! Што мне чыхнуць няможна на сваім ложку?

Сцяпан. Чыхнуць! Чыхнуць! Пісака!

Млынкоў. А ты хацеў гэта... так... адразу... без чарэмхі, га? Ды не давялося. Ха-ха-ха!

За сцяной глухая музыка.

Сцяпан. Пі... пісака!

*Заслона*

## ДЗЕЯ II

Сцэна — кабінет прафесара. У кутку трэба даць у разрэзе кавалак кватэры дацэнта Ясінскага.
Брацянкоў, Дзежка.

Брацянкоў *(прыбірае)*. Ты мне кажаш: нiверсціцет. А як я быў яшчэ ў камерчаскім, дык ты думаеш што? Не гарай за ніверсціцет. Па-першае,— гаспада прападавацелі. Каўнер — чорны бархат. Нагавіцы —

зялёныя, гузікі — зіхацяць. Форменнасць была. А цяпер: ці гэта прафесар, ці асісцент, ці студэнт — усё роўна. Ні гузіка не адрозніш.

Д з е ж к а. Ну, сказаў: не адрозніш. Ён як прыйдзе, брат, дык адразу туд-сюд: чаму, кажа, у вас гэтая вадкасць мутная. А студэнту, што ні даў — добра. Хімік, брат.

Б р а ц я н к о ў. Хімік. А я табе кажу, хоць бы наш кабінет... Скажам, сабака... Ну, добра... Ну, за што ты яго мучыш, га? Што ты «навука», дык маеш права мучыць стварэнне? Што яна «заолёгія»? Дык чым жа яна вінавата, што яна заолёгія?

Д з е ж к а. Дзіўлюся табе, Брацянкоў. Каля заолёгіі служыш, а не разумееш у ёй — ані-ні, нібы, выбачай, які матэматык.

Б р а ц я н к о ў. Матэматыкі ты не чапай — там Лімпіяда, ёй што, дошку выцерла, зэдлікі перасунула,— гатова! Я, брат, за жывёлай мучаніцай гляджу. Белых пацукоў накармі, сабакам аперацыю перавяжы... Падумаць толькі! Выразаюць залозку за залозкай. Адну выразаў — хвастом не віляе, другую выразаў — не брэша.

Д з е ж к а. Бо гэта, брат, і ёсць навука. Гэта самая апошняя навука.

Б р а ц я н к о ў. Ды пачакай, не замінай. Што з таго, што навука? Ён жа мне ці табе не можа выразаць таго, што сабаку?

Д з е ж к а. Ну, дык што? І добра, што не можа.

Б р а ц я н к о ў. Добра! Навука для каго: для сабакі ці для чалавека?

Д з е ж к а. Ведама, для чалавека.

Б р а ц я н к о ў. Вось жа. Дык як жа ён можа вывад зрабіць ад сабакі ды да чалавека?

Д з е ж к а. Во і можа, во і можа! Гэта я і хацеў сказаць.

Б р а ц я н к о ў. Ага! Ага! Сабаку выражаш — не брэша, а чалавеку тое самае выраж — забрэша. Што тады?

Д з е ж к а. Як гэта забрэша? Не можа быць таго.

Б р а ц я н к о ў. А ты выразаў? А твой прафесар можа выразаць?

Д з е ж к а. Мой гэтым не займаецца.

Б р а ц я н к о ў. Ага! Ну, дык ты са мной і не спрачайся. Я ўсё чуў, ведаю. Паслухаць, што цяпер студэн-

там расказваюць. Выходзіць па-іхняму, усярэдзіне ў нас агармоны сядзяць.

Дзежка. Я пра гэтае слова чуў, як твой прафесар з маім размаўлялі.

Брацянкоў. Гэта глупства, нічога не значыць, пустата: агармоны сядзяць, сокі выпускаюць, і ад іх гэтага розныя непрыемнасці ў чалавека. Падумаць!

Дзежка. Во, во! Прыкладам, у дзяўчыны можа зарадзіцца дзіцё.

Брацянкоў. У дзяўчыны, без мужчынскае дапамогі?

Дзежка. А вось жа! Трапіць такі гармон да яе. Яна і ведаць не будзе... і гатова.

Брацянкоў. Ды дзе гэта было? Калі?

Дзежка. Будзе, таварыш Брацянкоў! На тое і сабак мучаць, выразаюць...

Брацянкоў. Ага! Значыць, зоолёгіі ў іх дапытваюцца. Хіба што!

Пры апошніх словах з'яўляецца прафесар Снігіроў.

Снігіроў. Таварыш, э-э, Браценкаф, вы пацукам давалі корму?

Брацянкоў. А як жа, Павел Піліпавіч. Усё як належыць: грэчкі, потым пячонкі варанай.

Дзежка выходзіць.

Снігіроў. Гэта добра, гэта добра... Так... А вы... Браценкаф, любіце пачытаць? Вы, здаецца, цікавіцеся навукай?

Брацянкоў. А як жа, Павел Піліпавіч! З вялікай ахвотай магу памагчы навуцы... а толькі...

Снігіроў. Што? Кажыце, Браценкаф, не саромцеся... Я чуў вашую размову з вашым калегам, таварышам...

Брацянкоў. Гэта Дзежка з хіміі...

Снігіроў. Ну, так. Я чуў, што вы стараліся развязаць сур'ёзныя важныя навуковыя э-э... праблемы... ну, пытанні...

Брацянкоў. Мы, таварыш прафесар, нічога такога не развязвалі... А толькі я кажу, вы мяне выбачце, Павел Піліпавіч, а толькі навошта зоолёгію мучыць, Павел Піліпавіч?

Снігіроў. Дазвольце... Браценкаф... Вы... вы

блытаеце... у вас не яснае мысленне... Мучыць заолёгію ніяк няможна... Заолёгія — навука, адцягненае паняцце...

Брацянкоў. Я ж ведаю, Павел Піліпавіч. Наглядаў. Вось так адцягне, дый... таго, чык па аперацыі.

Снігіроў. Поўная блытаніна паняццяў. Вось што! Я вам дам адну кніжачку... Прачытайце (*шукае*). «Асновы прыродазнаўства». Папулярная форма.

Брацянкоў. Дзякуй, Павел Піліпавіч. Калі форменна, дык гэта добрая кніжка... (*Разглядае, напаўголаса.*) Ну, так, сабака! (*Уздыхнуў.*) З усёй прэпарацыяй.

Снігіроў. Ну, пойдзем, паглядзім нашу «заолёгію», як вы кажаце...

Брацянкоў. Папраўдзе, Павел Піліпавіч... Мучыць навошта яе? Мучыць яе зусім не патрэбна. (*Выходзяць.*)

Галёнка. Панаў.

Галёнка. На кой чорт мне, скажы на міласць, эта беларусізацыя. Чалавек я чыста рускі, Астраханскай губерніі.

Панаў. Фамілія твая как будта не астраханская... Галёнка дажэ, кажэтся, что-то значыт па-беларускі.

Галёнка. Фамілія... Што значыт фамілія в сравненіі са всей псіхо-фізіологічэской сушчносцью? Да, наконец, весьма вазможна: какой-нібудзь мой прадзед, с каторым у меня нічэво обшчэво...

Панаў. Это плохо характерызует тваю прабабушку...

Галёнка. Остав. Так вот... можэт быць, он і был родом з Северо-Западного краю... Што із тово.

Панаў. О-о! Тады я з табой павінен гаварыць пабеларуску.

Галёнка. Остав шуціць!

Панаў. Я не жартую. Чаму я, сапраўдны велікарус, не бачу нічога страшнага ў беларусізацыі?

Галёнка. Ты выключэнне... Ты можаш заніматся сваімі гармонамі і вмесце с цем пачытываць эці іхніе слоўнічкі і грамацічкі і т. д.

Панаў. Да! І добра сябе адчуваю, і не замінае мне ані...

Галёнка. Остав хоць со мной эці словечкі, на что мне это, на что? Я должэн говорыць: «калі ласка» вместо «пожалуйста».

П а н а ў. Між іншым, заўваж: «калі ласка» — надзвычайна музычна гучыць.

Г а л ё н к а. Чорт с нім! Почэму я должэн меняць язык Пушкіна на чорт знает что. «Дзень добры» — вместо «здравствуйте». «Як» — вместо «как», «конь» — вместо «лошадь».

П а н а ў. А ведзь і ў Пушкіна — конь.

Г а л ё н к а. «Вочы» вместо «глаза».

П а н а ў. О-о! Зноў паэтычна. І зноў жа ў Лермантава. Ха-ха! Сам сябе б'ёш, астраханец.

Г а л ё н к а. Давольна! Паследній годзік! На Волгу-матушку. Дастатачна, наігрались.

В о л ь г а  П р а с і н с к а я, Галёнка, Панаў.

В о л ь г а. Прабачце, прафесара можна бачыць?

П а н а ў. Мы самі толькі што прыйшлі. Здаецца, яго яшчэ няма.

Г а л ё н к а. А вам па какому дзелу?

В о л ь г а. Тут заліковыя кніжкі, я хацела...

Г а л ё н к а *(да Панава)*. Это зачотные, что лі?..

В о л ь г а. Ну, так, заліковыя кніжкі...

П а н а ў. А вось тут яны, на стале, здаецца, пашукайце. *(Тая шукае, некалькі разоў выпадкова зірнула. Панаў ціха.)* Мы зараз спытаемся, што значыць твая фамілія, добра?

Г а л ё н к а. Пажалста, нічэво не значыт.

П а н а ў. Развяжыце, калі ласка, нашу спрэчку,— я кажу, што фамілія Івана Іванавіча — Галёнка — нешта азначае па-беларуску?

В о л ь г а. Галёнка?! Косць!.. Вось тут *(паказвае сабе на нагу, шпарка выходзіць.)*

П а н а ў. А што?

Г а л ё н к а. Это не важно. Но как она здорово это сказала... Вось тут. Кажэтся, фамілія ее Прасінская.

П а н а ў. Ого-го! Астраханскае сэрца тваё здаецца... таго-с...

Г а л ё н к а. Глупасць! Стану я з-за какой-нибудзь «тутэйшай», как оні говорат, ламаць себя.

П а н а ў. Язык не зломіцца.

Г а л ё н к а. Да не стану. А ў нас там татарачкі есць, пачышчэ.

П а н а ў. А язык ламаць не прыйдзецца, ха-ха-ха! *(Выходзіць.)*

С ц я п а н  Г а ў р ы л і к, Галёнка.

Сцяпан. Здрасьце, прафесар здзесь?

Галёнка. Нету прафесара... Вам заліковую кніжку?

Сцяпан. Да, мне зачотную кніжку...

Галёнка. На стале, кажэтся... Скажыце, вы беларус?

Сцяпан. Я? Да... Собственна... я здзесь родзілся.

Галёнка. Но ведзь вы по-рускі говорыце всё-такі.

Сцяпан. Да, конечно... хотя акцэнт выдает... но я еду ў Сібір, в Цехналагічаскі.

Галёнка. Хорошо дзелаеце... Я тожэ, вероятно, скоро выеду отсюда. Весці заняція на белмове — нет уж, ізвініце.

Сцяпан. І к чэму это? Все студзенты говорат порускі.

Галёнка. Ну, не скажыце. Вот толькі што была тут... студзентка Прасінская...

Сцяпан. Прасінская? Вольга?

Галёнка. Я уже не знаю — Вольга она ілі Ольга, но она говорыт по-белорускі... к сожаленію.

Сцяпан. Да... Прасінская... яна даўно заходзіла?

Галёнка. Недавно... она кончает курс?

Сцяпан. Так... то есць, хто яе ведае. То есць, кто ее знает... кажэтся, кончает... А што?

Галёнка. Нічэво, так. Она откуда жэ родом?

Сцяпан. Вы пра Вольгу Прасінскую?

Галёнка. Ну да, да.

Сцяпан. Не інцерэсаваўся, знаеце.

Галёнка. Я заінцерэсовался, із какой області белорусы говорат по-белорускі?

Сцяпан. То есць, як хто, то есць, как кто... Это от области не завісіт.

Галёнка. Так... Она у меня, кажэтся, не отрабатывала пракціческіх...

Сцяпан. Вы пра Вольгу Прасінскую...

Галёнка. Но ведь мы о ней говорым с вамі?

Сцяпан. Аб ёй, аб ёй... так... Я, прабачайце, не інцерэсаваўся яе практыкумам.

Галёнка. А чым жа вы інцерэсавалісь в данном случае?

Сцяпан. Ніякага дажэ данного случая не было...

Галёнка. Ніякага. (*Падкрэслівае.*)

Сцяпан. То есць нікакова, да.

Галёнка, Сцяпан, Дзежка.

Дзежка. Іван Іванавіч, вас просяць наш прафесар... да нас...

Галёнка. Іду! *(Выходзіць.)*

Дзежка *(да Сцяпана)*. Ваша фамілія Гаўрылік?

Сцяпан. Гаўрылік. А што? Хто-небудзь ажыдае мяне?

Дзежка. Двое — стары і старая...

Сцяпан. Госпадзі, і сюды прыпёрліся!

Маці, бацька, Сцяпан.

Маці. Сцяпаначка!

Сцяпан. А-а! Гэта вы! Мне гаварыў Алесь. *(Цалуюцца.)*

Бацька. Чаму ж ты не прыйшоў учора ў «Дом селяніна»? Няўжо ж такі заняты? Га?

Сцяпан. Да ведаеце... страшэнна, страшэнна... Многа вучыцца... Скончу універсітэт і ў Сібір...

Маці. Як? Што ты, сынок, чаго?

Бацька. Хіба там лепей?

Сцяпан. Лепей не лепей, а еду туды. Мне тут цесна, на этай Беларусі.

Маці. Скажы, падумай. Ад навукі, значыцца... у Сібіру слабадней. Ай-ай-ай, блізкі свет. Сыночак.

Сцяпан. Ну, што? Таму і еду, што далёка.

Бацька. Хіба ты па зямельнай часці?

Сцяпан. А пры чым тут зямля? Вы, прабачайце, нічога не разумееце. Я хачу на інжынера вучыцца, тут няма як... А затым... Я ваабшчэ не панімаю: я пайшоў вучыцца не для таго, што б... я парваў з дзярэўняй і з усім дзеравенскім, разумееце?

Бацька. Ну, маці, хадзем! Бывай, Сцяпан, здаровы...

Сцяпан. Вы ж яшчэ не зараз на вакзал... Я зайду...

Бацька. Ды не клапаціся, сынок, не трэба, я не вельмі і заходзіць хацеў, каб не турбаваць цябе... Гэта маці...

Маці. А як жа! У Сібір едзе. Ці пабачу калі? *(Плача.)*

Сцяпан. Ну вот, яшчэ чаго не хапала. Проста скандал з вамі...

Бацька. Хадзем, маці, кінь плакаць...

Снігіроў, Брацянкоў.

Снігіроў. Ну, вось і добра. Пацучкі — так па-ва-

шаму? — падкарміліся, а заўтра мы іх і таго... *(Заўважыў.)* Вы да мяне?

Сцяпан. Ізвініце, прафесар. Я за кніжкай к вам...

Снігіроў. Кніжку вам падпісаў. *(Шукае. Да сялян.)* А ваша таксама?

Бацька. Не, мы... так... да сына... прабачайце...

Сцяпан. Ізвініце, прафесар, эта... ка мне... случайно сюды...

Маці. Гэта — наш сын...

Снігіроў. Нічога, нічога. Што ж!

Маці. Мы тут па справах у горад... вядома, аб зямлі, як дзіравенскія, ну, і сыноў пабачыць захацелася.

Сцяпан. Ах! Давольна! Пойдзем!

Снігіроў. Не, пачаму ж? Інцерэсна пазнаёміцца з беларускімі сялянамі.

Бацька. Ды што ж, таварыш прафесар, тут асабліва анцерэснага, як і ўсе сяляне, так і мы... Дык ужо выбачце нас... заставайцеся...

Маці. Што я вас буду *(выходзяць)* прасіць... каб Сцяпанку, таварыш прафесар, у Сібір не ехаць, ці не можа ён такія экзаменты здаць?

Сцяпан *(вярнуўся па матку)*. Мамаша, мамаша! *(Цягне.)*

Снігіроў. Не от меня это завісіт... э-э, таварышы... Я ведзь не адміністратар, я фізіолаг.

Маці. Ён у нас і з фізыкі таксама няўдалы... усё хварэў, як малы быў... куды яму ў Сібір...

Снігіроў. Я право нічаго тут не... не параю...

Сцяпан. Ах!

Бацька. Маці, годзі дакучаць! Хадзем!

Маці. Ат, усе мужчыны роўныя: і вучоныя і не вучоныя, чуласці няма: не сэрца, а невядома што ў вас там трапечацца.

Сцяпан. Мамаша!.. *(Выходзяць.)*

Снігіроў *(да Брацянкова)*. Што значыць «чуласць»?

Брацянкоў. Чуласць? Ну, скажам, вы Павел Піліпавіч, сабачку аперацыяй знішчожылі... Ну, ён, вядома, не будзе ўжо гэта самае...

Снігіроў. А-а. Разумею, разумею.

Снігіроў, Урбановіч, Брацянкоў.

Урбановіч. Можна?

Снігіроў. Калі ласка.

Урбановіч. Я хачу здаць вам, прафесар, анатомію. Я не натуралістка, мне кароткі курс.

Снігіроў. Калі ласка! *(Паказвае сесці.)*

Брацянкоў. Я пайду сваіх хворых дагледжу, сабак...

Снігіроў. Добра! Добра! Беламу тужэй перавяжыце жывот.

Брацянкоў *(уздыхнуўшы)*. Перавяжу, вядома...

Снігіроў. Ну, добра. Так што ж у вас запытацца?.. Ну, скажыце аб костках... э-э... таза...

Урбановіч. Лагво. Ну, значыць, мы маем, па-першае, лагвовую паверхню... потым разверць крыжавога ходу, самы крыжавы ход... потым...

Снігіроў. Ну, добра. Таз вы ўсвоілі... Ну, а скажэце пра рэбры...

Урбановіч. Рэбры падзяляюцца на сапраўдныя і несапраўдныя — кожнае рабро мае галоўку, шыйку і цела...

Снігіроў. Можа быць, скажаце, як па латыні косці.

Урбановіч. Осса.

Снігіроў. Ну, зусім добра. Вы па якой спецыяльнасці?

Урбановіч. Гістарычка.

Снігіроў. Зусім, зусім добра для гістарычкі... Ну, скажыце, праўда, пытанне не анатамічнае... Што вас асабліва цікавіць у гісторыі, якая эпоха?

Урбановіч. Мяне што цікавіць асабліва?

Снігіроў. Ну, так, якая эпоха?

Урбановіч. Сучасная.

Снігіроў. Дазвольце, якая ж тут гісторыя? Гісторыя — тое, што далёка ад нас...

Урбановіч. Не зусім так. Сённяшняе заўтра ўжо будзе гісторыяй — гэта раз, па-другое, каб пазнаць яго, трэба ведаць гісторыю. Адсюль гістарычны матэрыялізм.

Снігіроў. А вы — матэрыялістка?

Урбановіч. Таксама як і вы, прафесар...

Снігіроў. Як разумець матэрыялізм? Яшчэ далёка, далёка не ўсё пазнана. Асабліва што да законаў жыцця.

Урбановіч. Вы віталісты? Жыццёвую сілу прызнаяцё?

Снігіроў. Жыццё ёсць жыццё — вось што я прызнаю...

Урбановіч. Але пазнаць яго можна і трэба?

Снігіроў. Так, можна пазнаць, але... яшчэ далёка.

Урбановіч. Усё ж, значыць, «жыццёвая сіла» — матэрыяльна? Значыць, нічым па сутнасці не розніцца ад іншых форм матэрыялізму?

Снігіроў. Як сказаць... Мяне цікавіць, чаму сучасная моладзь так ухапілася за матэрыялізм? Наша пакаленне нават у навуцы было больш... ну, ідэалістычным, калі хочаце...

Урбановіч. Ваша пакаленне было далей ад рэвалюцыі, ад пабеды яе, ад развязвання сацыяльных пытанняў.... Думаецца мне, што гэта галоўная прычына... хаця я яшчэ не цвёрда ў дыялектычным матэрыялізме...

Снігіроў. Наадварот, вы надзвычайна добра ўмееце весці дыялог, для сваіх гадоў — вядома і... і знаходзіць слабыя месцы свайго праціўніка...

Урбановіч. Для сваіх гадоў, праўда?

Снігіроў. Так... ваша маладосць сама сабой складае цэлую... тэорыю і філасофію.... Маладосць ваша...

Тыя ж. Брацянкоў і Ясінскі.

Брацянкоў. Падцягнуў бандажы беламу сабаку, Павел Піліпавіч...

Снігіроў. Ну, добра, добра... Падцягніце яшчэ чорнаму...

Брацянкоў. У чорнага ўсё ў парадку, Павел Піліпавіч. Вы ж яшчэ на ім навуку не паказвалі.

Снігіроў. А, так, так... ну, словам, там што-небудзь папраўце...

Ясінскі. Дзень добры, Павел Піліпавіч!..

Снігіроў. А-а, Андрэй Андрэевіч.

Урбановіч. Мне ўжо можна?

Снігіроў. Так... А я вам запісаў у кніжачку?

Урбановіч. Не яшчэ...

Снігіроў. А-а, так, так... Зараз, зараз...

Ясінскі. Дзень добры. *(Вітаецца з Урбановіч за руку.)* Павел Піліпавіч, вам хутка прыйдзецца прачытаць лекцыю ў парадку шэфства на тэму: «Матэрыялізм і сучасная фізіялогія» — нічога не маеце?

Снігіроў. Матэрыялізм і сучасная фізіялогія?.. Ага, так, так... Толькі не цяпер, Андрэй Андрэевіч, не цяпер... Так, праз... ну, месяц.

Ясінскі. Ну, добра... *(Да Урбановіч.)* Мне трэба з вамі пагутарыць... адносна даклада аб працы студэнцтва ў вёсцы...

С н і г і р о ў *(да Урбановіч)*. Я таксама з вамі хацеў... хаця... пасля... як-небудзь...

У р б а н о в і ч *(да Ясінскага)*. Я пачакаю. *(Адыходзіць у другі канец.)*

Г а л ё н к а. Павел Піліпавіч. *(Заўважыўшы.)* Здрасьце! Там этот, как его, Браценкоф... перапутал всё... всех собак... нічэво не разберош...

С н і г і р о ў. Я разберусь, я разберусь, я яму сказаў...

Я с і н с к і. А калі Іван Іванавіч пачне практыкавацца на мове выкладання?

Г а л ё н к а. Я? Атнасіцельна белорусазнаўства?..

Я с і н с к і. Ну, так... З восені, як вам вядома, пытанне гэта павінна быць развязана канчаткова.

Г а л ё н к а. Вазможна, не, толькі не для мяне...

Я с і н с к і. Пераводзіцеся, мусіць? Тады іншая справа.

Г а л ё н к а. Так, я рэшыл... Мне, знаеце, это совершэнно невозможно...

Я с і н с к і. А вось Павел Піліпавіч, Панаў, яны таксама не беларусы, але...

Г а л ё н к а. Не знаю, не знаю... у ніх особенные языкі, возможно.

С н і г і р о ў. То есць, як асобенныя? Не разумею вас.

Г а л ё н к а. Не знаю, не знаю.

Б р а ц я н к о ў. Павел Піліпавіч, белы сабака зноў брахаць пачаў.

С н і г і р о ў. Што? Не можа быць.

Г а л ё н к а. Я вам гаварыў...

С н і г і р о ў. Тады я іду, прабачайце. *(Да Урбановіч.)* Я зараз.

Выходзіць з Г а л ё н к а м і Б р а ц я н к о в ы м.

Я с і н с к і. Добра, што спаткаліся... Я хацеў вам, таварыш Марына, сказаць пра некаторую навіну, навіну... у мяне, у сям'і....

У р б а н о в і ч. Што? Слухаю з увагай, Андрэй Андрэевіч.

Я с і н с к і. Мая жонка, Галіна Тодараўна...

У р б а н о в і ч. Ха! Прабачайце, таварыш Ясінскі. Мяне дзівіць, як гэта жанатыя мужчыны, нават такія, як вы, у размовах з... ну, знаёмымі дзяўчынамі, любяць напомніць пра сваю жонку...

Я с і н с к і. Вось як! Можа быць... Я за сабою такога нібы і не заўважаў... прынамсі, з вамі.

Урбановіч. Не заўважыў... так... Дык вось я і кажу: тут наглядаецца як бы нейкае сваяўласцівае выхвалянне. Вось мною, мужчынам, колькі жанчын цікавіцца...

Ясінскі. Ды вы, таварыш Марына, проста псіхолаг, не толькі марксістка... *(Званок па тэлефоне. Падыходзіць.)* Алё, так... Я... А, ты, Галіна...

Сцэна ў кватэры, якая асветлена. Галіна і Ірына (піянерка).

Галіна. Ты, Андрэй? Так... Я вось што хачу сказаць табе... Я хацела напісаць, але навошта, калі ёсць тэлефон... праз чвэрць гадзіны мы едзем з Ірай на вакзал і потым далей... Не, не трэба... катэгарычна... Так лепей для ўсіх нас... Гэта не тое ўсё... Так, мы ведаем адно аднаго і паважаем, прынамсі, да гэтага часу... Можа быць, адпачыць, трэба табе, мне... Што?.. Не прыязджай.

Ірына. Скажы, мама, што піянеры ўмеюць цярпець, калі ім балюча. Я буду сумаваць па татку, але не трэба, каб ён быў зараз...

Галіна. Так... Пачакай... Добра... Іра? Так, Іра таксама... Ты крыху недаглядзеў яе за працай... І наогул быў заняты апошні час...

Ірына. Скажы, мама, што я вырасла, татка даўно не мераў мяне.

Галіна. Добра.

Ясінскі *(у тэлефона. У бок Урбановіч)*. Галіна Тодараўна збіраецца выехаць. Можа быць, ты і права, Галіна. Пры той суровасці, якую мы ўстанавілі адносна нашага ўзаемнага пачуцця. Мне будзе цяжка... без Ірыны... Што? Ах так. Н-ну... адрас твой? Спадзяюся, што адпачынак твой ненадоўга... Што?

Галіна. Не ведаю... Іра будзе пісаць табе... скажу на развітанне... Здраджваць можна жонцы, але не свайму дзіцяці... Жонка можа даравраць адхіленне ўбок, дачка — ніколі. Бывай.

Ясінскі *(ціха)*. Бывай! Галіна Тодараўна надзвычайна просталінейны чалавек... Патрабавальны да сябе і да іншых: альбо ўсё, альбо нічога.

Урбановіч. Разумею такіх... Альбо ўсё, альбо нічога.

Ясінскі. Так і яна сказала.

Урбановіч. Ну вось мы з ёй сышліся... Калі едзе ваша жонка?

Ясінскі. Ды зараз вось, зараз... Ужо на вакзале...

Урбановіч. Што ж вы стаіце? Чакаеце?

Ясінскі. Вы не чулі? Па тэлефоне... Сам не ведаю... Ну, паеду, там паглядзім... бывайце...

Урбановіч. Вы ўжо толькі што сказалі тое самае па тэлефоне...

Ясінскі. Што ж я вам павінен сказаць?

Урбановіч. Не ведаю, не тое самае, ва ўсякім разе... *(Адыходзіць.)*.

Ясінскі выходзіць.

Бабіновіч *(уваходзіць павольна, як мядзведзь)*. Дзень добры! *(Не адказвае яму.)* Прафесар тут? *(Не адказвае. Падыходзіць ззаду.)* Не той самы, ва ўсякім разе.

Урбановіч. Фу, як вы мяне напужалі, таварыш Бабіновіч. Праўда, што не той самы.

Бабіновіч. Зусім іншы, зусім.

Урбановіч. Адкуль вы ўзяліся?

Бабіновіч. О-о! Гэта было даўно, 27 год назад.

Урбановіч. Я не аб тым! *(Хлопае яго заліковай кніжкай.)*

Бабіновіч *(пакорна падстаўляючы галаву)*. Сюды яшчэ можна і сюды... Калі ласка. Хлопайце. Я злопаю, усё роўна...

*Заслона*

## ДЗЕЯ III

Лабараторыя.
Галёнка і Панаў. Галёнка чытае ўголас кавалкі з граматыкі. Праходзіць праз пакой. Панаў заняты каля стала.

Панаў. Што? Што ты там чытаеш?

Галёнка. Нічаво особенного. Рыхтуюсь да заняткаў са студэнтамі па арганічнай хіміі.

Панаў. Ах, рыхтуешся? *(Падкрэслвае.)* І, здаецца, па граматыцы?

Галёнка. Нічога падобнага! Ды, нарэшце, хоць бы і так?

Панаў. А Вольга як?

Галёнка. Пры чым тут Вольга?

П а н а ў. Ха-ха-ха! Ясна, ні пры чым.

Г а л ё н к а. Нічога смешнага! А калі я там галадаваць буду? Дый наогул... нічога смешнага. Свядомасць вызначаецца быцціем. Разумееш?

П а н а ў. Я гэта зразумеў і граматыку вызудзіў.

Г а л ё н к а. То скажы мне такую рэч... Ольга будзе... Вольга, так? Прыдыханне...

П а н а ў. Прыдыханне.

Г а л ё н к а. Оля — Воля?

П а н а ў. Воля.

Г а л ё н к а. Значыць, Волга, гэта па-беларуску, а па-расійску трэба Ольга, так? Чорт, я зусім збіўся.

П а н а ў. Ха-ха-ха!

Пры гэтых словах уваходзяць В о л ь г а П р а с і н с к а я, Г а н і ч Т а ц ц я н а, Я н к а Д у б е н ь. Панаў не заўважае іх, Галёнка бачыць.

Ха-ха-ха! Дык Ольга — Вольга, а Волга — Олга.

Г а л ё н к а. Давольна, досыць... На заняткі ідуць.

П а н а ў. Вольга Прасінская з прыдыханнем.

Г а л ё н к а... Кк... Кх... *(Дубень паказвае на Прасінскую жэстамі.)*

Д у б е н ь. Кхэ, кхэ! Задачкі здаць хімічныя. Мы да дзядзькі Панава.

П а н а ў. А-а! Калі ласка... Ну, што ў вас?

П р а с і н с к а я. У мяне... зараз скажу... *(Чытае па лісточку.)*

Д у б е н ь. У мяне спачатку не адцэджвалася нічога, а пасля, як асеў у мяне асадак... Словам, у мяне...

П а н а ў. Так... правільна...

Г а н і ч. А ў мяне — мураўіны алдэгід...

Д у б е н ь. Дазвольце — і ў мяне мураўіны алдэгід... Як жа так?

П а н а ў. А вы разам аналіз рабілі?

Д у б е н ь. Нічога падобнага, дзядзька Панаў!

Г а н і ч. Нічога падобнага, дзядзька Панаў!

П а н а ў. А-а, так... так... я вам даў адну задачу.

Д у б е н ь. Значыць, правільна?

П а н а ў. Правільна, правільна ў абоіх.

Г а н і ч. А што? *(Да Дубеня.)*

Д у б е н ь. А што! *(Да Таццяны.)*

Уваходзяць с т у д э н т ы, с т у д э н т к і. Шум. Малады голас.

П а н а ў. Каму яшчэ задачу?

Галасы. Мне, мне!

Панаў раздае задачы. Пачынаюцца заняткі каля сталоў.

Ганіч *(да Дубеня)*. Нам лепш перамяніцца месцамі, бо зноў скажуць...

Дубень. Хай гавораць, я нікуды не пайду, гэта маё месца.

Ганіч. Калі так, і я не пайду, гэта маё месца.

Дубень. Калі ласка. Калі ласка. У кожнага свая задача.

Ганіч. Ведама, свая, і вы нічога не пытайце ў мяне.

Дубень. Я ў вас? Пхэ. Хімік знайшоўся! Я і без вас аналіз зраблю.

Ганіч. А я без вас. [...]

Голас. На штаны мне ліnуў. Халера кіслотная.

Другі. А ты, калі хіміяй займаешся, скідай штаны.

Прасінская. Таварышы, без глупства.

Ганіч *(нясмела)*. Таварыш Дубень... што гэта можа быць па-вашаму?

Дубень *(глядзіць)*. Жалеза, самае тыповае жалеза.

Ганіч. Дзякую!

Дубень *(да яе)*. У вас як... алюміній... так, як у мяне. *(Паказвае.)*

Ганіч. Так. Тыповы алюміній.

Дубень. Дзякую!

Спеў. Пад ціхі спеў у куце выходзіць на авансцэну Вольга Прасінская, разглядаючы пры свеце колбу. З дзвярэй ціха крадзецца да яе Сцяпан Гаўрылік.

Сцяпан. Олечка! *(Тая нібы не чуе.)* Олечка! *(Нечакана круты паварот з пагрозай абліць яго, той шарахаецца.)* Олечка, што вы! Вы маглі абліць мяне... вашай кіслатой.

Вольга. І абалью.

Сцяпан. Но зачэм жэ? Я вас люблю, Олечка.

Вольга. Магчыма... але я вас — не! Ідзіце адсюль і разглядайце свае фатаграфіі...

Сцяпан. Вам панравілісь, Олечка?

Вольга. Я праз іх зразумела вас, і яны, і вы сталі мне агідныя.

Сцяпан. Олечка, севодня ў 7 часоў...

Вольга. Вось як ліну! *(Лье з колбы, але Сцяпан*

*вывернуўся, і кіслата папала крыху на Галёнку, які толькі што ўвайшоў у дзверы.)* Ай! Прабачце...

Галёнка. Нічога, нічога! *(Спуджаны.)* А можа, вы кіслатой, тады я... мне на руку... якой кіслатой?

Вольга. Ды гэта вінная кіслата... ха-ха-ха! *(Адбягае.)*

Галёнка. Ах, толькі ўсяго? *(Выціраецца смялей. Да Сцяпана.)* Здаецца, па вашаму адрасу, таварыш э-э... Гаўрылік... вам належала...

Сцяпан. Я ўступаю сваё права, Іван Іванавіч, калі ласка.

Галёнка. А вы, я чую, ужываеце беларускія выразы, хоць і збіраецеся ў Томскі тэхналагічны.

Сцяпан. А вы, Іван Іванавіч, нават дасканала спрактыкаваліся, хоць і збіраліся на Волгу, здаецца.

Галёнка. Пазвольце, таварыш, вам заявіць, што я значна старшэ за вас... да-с... і сам гаспадар свайму слову і выбару...

Пакуль яны сварацца, праходзяць Прасінская і Панаў, жвава гаворачы і паказваючы на шклянкі.

Сцяпан *(жэстам паказвае на іх.)*

Галёнка. Што? Што вы хочаце сказаць?

Сцяпан. Што міма вас праплывае Волга.

Галёнка. Як міма вас Вольга. *(Выходзіць сярдзіта.)*

Алесь *(у дзвярах)*. Слухай, Стэфка, бацька і маці едуць зараз.... Маці хоча цябе бачыць... перад Сібірам тваім... бацька... не надта...

Сцяпан. А божа ж мой, ды туды я не еду... Сібір! Сібір!

Бацька і маці ў дзвярах.

Маці *(з асцярогай)*. А божа ж мой, што ж гэта такое? Аптэка не аптэка, а лекамі пахне.

Алесь. Лабараторыя тут, хімія.

Бацька. Хай сабе, гэта нічога, што хімія. Хай сабе працуюць, практыкуюцца. *(Студэнты заўважыўшы.)*

Голас Бабіновіча. О, вёска да нас у госці, гэта я разумею!

Другі. Калі ласка!

Алесь. Дазвольце, таварышы, пазнаёміць, гэта мае бацькі... нашыя, і яго таксама. *(Паказвае на Сцяпана.)*

Галасы. А-а!

— Ну, добра...

Бацька. Вы ўжо прабачайце, таварышы студэнты... Па простаму мы... цікава, дзе гэта ды чым сыны займаюцца... Але, бачым — нішто, не гуляеце тут... Гэта добра... Вучыцеся, таварышы маладыя, нашыя сыны... Гэта я не за сябе толькі.

Бабіновіч. Гэта ад вёскі, ад вёскі, дзядзька, правільна, слухаем!

Алесь. Ну, татка, прыйдзецца вам сказаць прамову. Да нашай студэнтэрыі...

Бацька. Прамову не прамову, але слова магу.

Галасы. Просім!

Бацька. Дык вось. Як мы, вёска, без кулакоў, вядома...

Галасы. Правільна...

Бацька. Дык просім вас, дзеткі нашыя дарагія, студэнты і студэнтачкі...

Галасы. Ого!..

Бацька. Н-да! Просім вас — працуйце, вучыцеся, каб нам там лепш жылося, каб удабрэнне, лектрыфікацыя, каб, значыцца, нам вальней... гэта ад старога ўсяго... Словам, працуйце на карысць савецкае нашае ўлады!..

Галасы. Ур-ра!

Маці *(хоча казаць. Сцяпан не пускае...)*.

Алесь. Ды кінь, Стэфка! Матуля — кажыце.

Галасы. О-о!

— Просім!

Маці *(як бы плачучы)*. Вучыцеся, дзеткі, каб на гэтай самай стрыкацыі, на лераплані — у Сібір можна было злётаць...

Галасы. Ого, маці!

— Добра!

Маці. Ага, дзеткі мае. Да сыночка, да Стафанчыка.

Сцяпан. Ды не еду я.

Маці *(не слухаючы)*. Ды каб назад... Сюды... Во...

Галасы. Добра, будзе, маці, ёсць!

Бабіновіч. Дык дазвольце цяпер мне. Мы таксама, большасць з нас, маем такіх бацькоў, як вы, але, на жаль, не ўсе так вось наведваюць сваіх дзяцей, так цікавяцца нашай працай, нашым жыццём. Сыны вёскі, мы, павучыўшыся, зробімся ўжо работнікамі горада, рабочымі... і гэта ўжо ёсць першая сувязь рабочага горада з бядняцкай вёскай. І мы будзем старацца гэтую сувязь

зрабіць і мацнейшай, і цікавейшай: каб горад зрабіўся квітнеючым садам, а вёска электрыфікаванай, калектыўнай фабрыкай збожжа.

Галасы. Ура!

Бацька. Правільна! Збожжавай фабрыкай! Гані і гані зярняткі.

Маці. Ды каб машынкай, стрыкацыяй гэтай свінням замешваць.

Галасы. Ого! Добра!

Бацька. Ну, за гэтым — заставайцеся здаровы. Пойдзем, маці! Бывайце... *(Ціснуць рукі.)*

Тамара *(да Алеся)*. Я выпадкова бачыла ўсю сцэну. Вы малайчына, таварыш Гаўрылік! Вы проста... слаўны...

Алесь. Ну? Праўда, Тамарачка?

Тамара. Ідзіце, ідзіце, праводзьце бацькоў! *(Жартліва пхае яго.)*

Алесь. Тамарачка! Скажу! Такі выпадак. Я даўно збіраюся сказаць...

Тамара. Ды пасля, пасля, ідзіце!

Алесь. Не, не, трэба зараз. Давайце пазаксімся з вамі.

Тамара. Што? Мне яшчэ два залікі, а ён з глупствам. Пайшоў...

Алесь. Я ўжо і бацькам сказаў... Татка кажа: што з таго, што не нашае веры... Цяпер адна вера...

Тамара. Пайшоў...

Ясінскі і Урбановіч (праходзячы).

Ясінскі. Не, усё ж такія сцэны радасны для мяне. Хай тут ёсць і наіўнасць, але ж важна тое, што наша навука — не замкнутая ў касту, яна, як рэчкі, уліваецца ў вялікае мора працы.

Урбановіч. Вы паэт, таварыш Ясінскі...

Ясінскі. Думаю, не болей і не меней за вас, таварыш Урбановіч... Мы павінны злучаць многае, умець мысліць вобразамі, гэта ва ўсякім разе...

Урбановіч. І мараходам быць, і цесляю, і паэтам, і фабрычным работнікам. Вы праўду кажаце, няма часу спецыялізавацца... пакуль што... Нам наогул няма часу...

Ясінскі. Нам мала часу, вы хочаце сказаць, таварыш Галіна.

Урбановіч. Настолькі мала, таварыш Ясінскі, што мы блытаем імёны, хоць гэта не важна...

Ясінскі. Марына? Як жа?

Урбановіч. Вы сказалі Галіна. Што піша Галіна Тодараўна?

Ясінскі. Галіна... Тодараўна... Яна фактычна нічога не піша, піша Іра, дачка мая, піша, што мама займаецца стэнаграфіяй...

Урбановіч. Правільна робіць! Толькі, па-мойму, яна магла б заняцца і тут...

Ясінскі. Ёй не было патрэбы займацца гэтым тут, значыць, яна і не магла.

Урбановіч. Жанчына павінна быць абсалютна незалежнай матэрыяльна, каб не быць толькі жонкай.

Ясінскі. У камуністычнай грамадзе так і будзе, таварыш Марына, але зараз... у пераходны перыяд...

Урбановіч. Пераходны перыяд — для цэлай грамады, кожны паасобку павінен зрабіць яго найкарацейшым... для сябе, прынамсі.

Ясінскі. Не ведаю. Пытанне дыскусійнае.

Урбановіч. Для мяне — не.

Ясінскі. Тэорыя, хоць і добрая. Цікава, як вы павядзеце яе ў практыку?

Урбановіч. З кім я пайду, той паможа мне зрабіць гэта.

Ясінскі. Вы ў гэтым упэўнены?

Урбановіч. Іначай я з ім не пайду. Прадметная камісія там будзе?

Ясінскі. Там. *(Ідуць пад шум студэнтаў. Работы ідуць далей. Здаюцца задачы Панаву. Падыходзяць Дубень і Таццяна Ганіч.)*

Панаў. Вы зноў разам, таварышы? Няўжо зноў я вам даў аднолькавую задачу?

Дубень. Не, задачы розныя, але толькі мы... гэта... разам... Ды мне фактычна ўсё роўна...

Ганіч. Мне таксама... Толькі мы разам, за адным сталом. *(Тыя, што працуюць, зацягваюць «Баразёнку...». Пачынае Бабіновіч, пяюць не ўсе, некалькі галасоў.)*

Галасы. Ну, годзі
— Скончыў.
— Абедаць, хлопцы! *(Скідаюць халаты. Разыходзяцца.)*

Дзежка і Лімпіяда.

Д з е ж к а. Вы памажыце мне, Лімпіядачка, прыбраць хімію, а я вам матэматыку прыбяру... Зараз тут прадметная камісія будзе.

Л і м п і я д а. Добра, давай, што табе? Ну і насмуродзілі ж!

Д з е ж к а. Хімія — нічога не зробіш. Навука, Лімпіядачка, з аналізам...

Л і м п і я д а. З якім гэта яшчэ аналізам... словам наўчыўся немаведама якім... У мяне ў аўдыторыі таксама розныя гаворацца... Але я так: у адно вуха ўвойдзе, у другое выйдзе. Можа, яно там, па-вучонаму, і нішто, а мне, па-дзявоцтву, дык часам брыдка і слухаць...

Д з е ж к а. Не магу даць веры, Лімпіядачка, як гэта па-дзявоцтву брыдка слухаць?

Л і м п і я д а. А так, што брыдка... Стануць перад дошкай студэнт і студэнтка, скажам... спрачаюцца, спрачаюцца, а тады ён і кажа... ат, сорам і паўтарыць нават.

Д з е ж к а. Што ж гэта такое ён можа сказаць перад дошкай? Людзі ж яны з навуковай падрыхтоўкай.

Л і м п і я д а. А вось табе і падрыхтоўка: трэба, кажа, цяпер пімпердзікуляр паставіць... Ат!..

Д з е ж к а. Н-да, у нас на хіміі такіх слоў не ўжываюць... Але ўсё ж я вам скажу, Лімпіядачка, яны хоць і з гэтымі словамі markdown, ды народ вясёлы. Чулі, як спявалі «Баразёнка вузенька»? Га?

Л і м п і я д а. Чула, чаму не. Гэта яшчэ што, «Баразёнка...», гэта і ў нас спяваюць... Яны аднойчы заспявалі нешта нейкае, я прыслухалася, ну, лаянка: мальма твая матар, што ты скажаш?

Д з е ж к а. Скажу на гэта так, Лімпіядачка, навука — навукай, а хімічная сіла бярэ сваё. Колькі я разоў падглядаў: толькі задачу здадуць, абы ўдваіх засталіся, зараз — цмок, у самую, перапрашаючы, шчаку, з вашага дазволу, вось так... *(Цалуе.)*

Л і м п і я д а. Пфу! Заслініў.

Б р а ц я н к о ў *(увайшоўшы, бачыць гэтую сцэну)*. Н-да, а мой прафесар не заходзіў сюды?

Д з е ж к а. Не, пакуль што не існавалі тут...

Б р а ц я н к о ў. Н-да... А ўсё ж, таварышы, н-да... у хімічным кабінеце ды гэтую самую заалёгію разводзіць... н-да... не гадзіцца...

Д з е ж к а. Ну, ты і скажаш, Брацянкоў, проста нялоўка.

Л і м п і я д а. Пфу! Каб на вас, смурод з вашай хіміяй, з вашай зоолёгіяй,— той і той цалавацца лезуць. *(Выходзіць.)*

Д з е ж к а. Што ж гэта выходзіць?..

Б р а ц я н к о ў. А тое выходзіць: па зоолёгіі — дзіцё, а па закону — аліменты.

С н і г і р о ў, Я с і н с к і, У р б а н о в і ч з бакавых дзвярэй.

С н і г і р о ў. Я згодзен прачытаць лекцыю на вашую тэму, таварыш Ясінскі... хоць заўтра.

Я с і н с к і. Добра. Думаю, без намёку на асобную жыццёвую сілу, віталізм і г. д. Што? Праўда, Павел Піліпавіч?

С н і г і р о ў. Так. Вы праўду кажаце. У маім светапоглядзе былі некаторыя элементы навуковага ідэалізму... Цікавіцеся ведаць, што канчаткова пераканала мяне ў магутнасці матэрыялістычнага, скажу дакладна, марксісцкага светапогляду?

Я с і н с к і. Нават марксісцкага? Вядома, цікаўлюся, Павел Піліпавіч, кожны больш-менш выдатны навуковы работнік, пераходзячы цалкам на наш бок, павялічвае тым і нашы і свае навуковыя сілы, я ў гэтым упэўнены. Ну, дык што канчаткова ўсталявала вас?

С н і г і р о ў. Блізкасць да сучаснай моладзі... У наш час было меней веры ў жыццё,— адсюль незадаволенасць, расчараванне... Ну і ідэалізм. Таварыш Урбановіч, надзвычайна добра растлумачыла неяк мне...

У р б а н о в і ч. Я? Вы перавялічваеце мае сілы, як дыялектыка...

С н і г і р о ў. Пацвердзіце, таварыш Ясінскі, можа таварыш Урбановіч весці дыскусіі?

Я с і н с к і. Здаецца, здольна, наколькі мне вядома.

Д з е ж к а. Таварыш Ясінскі, да вас там прыйшлі.

Я с і н с к і. Ага! Ну, я зараз... Вы пачынайце пасяджэнне, Павел Піліпавіч, калі збяруцца!

С н і г і р о ў. Добра!

Я с і н с к і выходзіць.

У р б а н о в і ч. Для мяне вялікая прыемнасць, прафесар, што вы звярнулі некаторую ўвагу на мае словы тады.

Снігіроў. Я звярнуў тады ўвагу не толькі на вашыя словы.

Урбановіч. Як вас разумець, прафесар?

Снігіроў. Як разумець? Я зразумеў, што ў рэальным, матэрыяльным так многа свае нутраное сілы, што яно не мае патрэбы яшчэ ў іншай сіле... Я зразумеў гэта, гледзячы на вас. Па-другое... тут, бачыце, я ўжо не ведаю, як вам сказаць... Я стары, яшчэ дарэвалюцыйны прафесар і стары, дарэвалюцыйны халасцяк.

Урбановіч. Здаецца, на светапогляд гэта апошняе не павінна мець уплыву, прафесар?

Снігіроў. Уплывае, слаўны малады калега, уплывае... Я думаў, што для мяне засталася толькі навука, мае доследы над жывёламі... Я не ставіў сваю работу ў сувязь з нечым агульным, вялікім. Вы сваім беспасрэдным і разам з тым ідэйным жыццём прымусілі мяне падумаць не толькі аб сваіх эксперыментах, але і аб сваім светапоглядзе, аб сваім месцы ў сацыяльным арганізме...

Урбановіч. Я вельмі рада, прафесар, што іграла пры гэтым працэсе вашай псіхікі некаторую ролю...

Снігіроў. Значную, слаўны малады калега мой, значную.

Урбановіч. Не я адна, але моладзь наогул, як вы і сказалі...

Снігіроў. Вы на 90 працэнтаў... Можа быць, мне належыць проста сказаць вам тое, што я адчуваю... але я больш прызвычаіўся мець справу ў сваіх эксперыментах з...

Урбановіч. З сабакамі.

Снігіроў. Я крыху не тое хацеў сказаць, малады калега мой... Вы жартуеце... Што ж, стары прафесар і халасцяк, які не адважваецца сказаць тое, што адчувае, варты таго, каб з яго смяяцца.

Урбановіч. Дарэмна, прафесар, дарэмна... Я якраз жартую і смяюся з тым, каго не лічу за старога!

Брацянкоў з сабакам, якому перавязаны жывот.

Брацянкоў. Павел Піліпавіч! Так жаласна брэша, так жаласна, ну, як скардзіцца на аперацыю... Можа, вы паглядзелі б, далі б яму чаго?

Снігіроў. Ну, чаго ж вы яго сюды, таварыш Брацянкоў? Навошта? Ах вы, які жаласлівы... Ну, што тут? Ну, што з ім? *(Да Урбановіч.)* Я зараз... я зараз...

Выходзіць. Уваходзяць Ясінскі, асістэнты, Бабіновіч.

Ясінскі. Яшчэ не пачыналі? Ідзём. Дзе Павел Піліпавіч?

Урбановіч. Пайшоў супакоіць хворага сабачку.

Бабіновіч. Ад сваіх жа ўласных эксперыментаў.

Ясінскі *(ціха да Урбановіч)*. Наш старча збіраецца рабіць доследы, прынамсі, псіхічныя, не толькі над сабачкамі... Так, здаецца?

Урбановіч. Чаму не! Іншы думае, што сам робіць дослед, а на справе ў гэты момант доследы робяцца якраз на ім самім.

Ясінскі. Намёк? Я сам умею наглядаць... і бачыць тое, што мне патрэбна...

Урбановіч. Умееце бачыць тое, чаго, можа, і няма сапраўды?

Ясінскі. Не думаю, каб тыя, каго я наглядаю, умелі так добра іграць ролю...

Урбановіч. Не думайце сабе, колькі хочацца.

Ясінскі. Мы пачынаем пікіравацца, як кажуць... Мне здаецца, сяброўства паміж намі нічым не можа быць парушана...

Урбановіч. Сяброўства ў агульнай рабоце — гэта так. Але... для адпачынку, мусіць, у нас не хопіць агульнага часу...

Ясінскі. Пасля пасяджэння пагаворым яшчэ? Таварыш Марына, выйдзем разам?

Урбановіч. Не ведаю.

Прафесар Снігіроў.

Снігіроў. Яшчэ не пачыналі? Ах, гэты мой Браценкоф. *(Да Урбановіч.)* Так... я вам нешта хацеў сказаць...

Урбановіч. Можа, пасля пасяджэння, прафесар?

Ясінскі. Так, пара пачынаць. *(Ідуць. Урбановіч адыходзіць убок, каля сталоў.)*

Будоль уваходзіць у смешным хваляванні.

Будоль. А-а, гэта вы, таварыш Урбановіч, гэта добра... Скажыце, пасяджэнне прадметнай камісіі скончылася?..

Урбановіч. Толькі пачалося...

Будоль. Вы пойдзеце туды?

Урбановіч. Пайду.

Будоль. Паклічце, калі пойдзеце, Бабіновіча... Такі... высокі... салідны...

Урбановіч. Знаю, знаю яго.

Будоль. Ага! Скажыце... Будоль просіць на мінуту... Я буду ў калідоры.

Урбановіч. Добра.

Будоль шпарка выбягае. Урбановіч і Бабіновіч у дзвярах.

Урбановіч. Вас чакае Будоль там...

Бабіновіч. Будоль? Нумарок. А я наглядаў вас праз дзверы...

Урбановіч. Ну і што?

Бабіновіч. Не трэба сумаваць аб тым, чаму дапамагчы не можаш.

Урбановіч. А лепш дапамагчы таму, хто сабраўся сумаваць, так?

Бабіновіч. Я? Як гэта вы... адразу так?

Урбановіч. Што? Здагадалася? *(Робіць знак развітання, выбягае ў залу пасяджэння.)*

Будоль. Таварыш Бабіновіч! Таварыш Бабіновіч! Я вас чакаю... тут.

Бабіновіч. Вы?

Будоль. Ну, я, а хто ж?

Бабіновіч. Ага! Ну, добра, дык пачакайце яшчэ столькі ж!

*Заслона*

## ДЗЕЯ IV

Беларускі лясны ландшафт. Дарога. Маёўка. Чуваць музыка, спевы, галасы. Дзея ідзе жвава, з уздымам. Праходзяць Алесь Гаўрылік, Тамара Мірчык.

Алесь. Тамарачка, добра тут, праўда?

Тамара. Добра.

Алесь. Ніякі стэп, ніякае мора не можа параўнацца з нашым лесам. Праўда, Тамарачка?

Тамара. А вы бачылі мора?

Алесь. Ды не, дзе я мог бачыць, калі? Вось зараз, як скончыў, ды мы з вамі пазаксімся...

Тамара. Кіньце, Алесь, пра гэта. Мне яшчэ дыплёмку трэба напісаць...

Алесь. Ого! Дык чакаць яшчэ? Мне таксама дыплёмку трэба, разам пісаць будзем...

Тамара. З вамі напішаш, якраз. І што вы там рознага глупства сваім бацькам нагаварылі?

Алесь. Зусім не глупства. Бацька выбар мой, як кажуць, благаславіў. Цяпер адна вера — ха-ха! *(Абое смяюцца.)* Дык трэба, каб і наогул было ў нас усё агульнае, га, Тамарачка?

Тамара. Пойдзем! Чуеце, наш лагер, здаецца, падымаецца на новае месца...

Алесь. Хай падымаецца. Гляньце, як сонца праз ліству смяецца, як вы, Тамарачка.

Тамара. А можа, як вы, Алесь? Ха-ха. *(Смяецца.)* Ну, пойдзем, нашы далёка адыдуць.

Алесь. Хіба тут нядобра нам?

Тамара. Добра, добра...

Алесь. Трэба, каб яшчэ было лепей.

Тамара. Не трэба!

Алесь. Трэба, Тамарачка, любая мая! *(Цалуе.)*

Тамара. Ну вось! Я так і думала. Пойдзем!

Алесь. Заўтра ў загс, Тамарачка, болей не магу. Заўтра ў загс, а сёння яшчэ пацалунак... адзін разочак.

Тамара. Гэта ўжо будзе два.

Алесь. Хай будзе тры! Верыш мне, Тамара? Чаму гэта ў лесе няма загсаў?

Тамара. Глупства кажаце! Не веру! Каб не верыла, няўжо... ат, дурны хлопчык! Вось! *(Цалуе яго.)*

Алесь. Тамарачка, любая, залатая мая! *(Цалуюцца шчыра. Галасы.)*

Тамара. Ідуць сюды, Алесь! *(Знікаюць у гушчары.)*

Янка Дубень, Таццяна Ганіч.

Янка. Нічога падобнага. Я раней узяў гэтую тэму, а вы ўжо пасля прыйшлі... Ды наогул, я буду пісаць работу толькі з хіміі.

Таццяна. Скажыце! Я таксама хачу пісаць кандыдацкую толькі з хіміі.

Янка. Вы можаце ўзяць і батанічную тэму, вам усё роўна.

Таццяна. Можаце браць сабе заалагічную, калі хочаце, я нічога не маю...

Янка. Дзіўна, як гэта вы можаце мець што-небудзь супроць маёй тэмы?

Т а ц ц я н а. А вось захачу і буду мець супроць, што тады? Вось захачу!

Я н к а *(крыху пужліва).* Як вы можаце захацець? Гэта немагчыма.

Т а ц ц я н а. Што немагчыма? Вось дзівак! Скажыце, таварыш Дубень, вы... заўсёды такі?

Я н к а. Які гэта такі, не разумею?

Т а ц ц я н а. Што, каб вам падабалася якая-небудзь дзяўчына?

Я н к а. Ну?

Т а ц ц я н а. Вы б і з ёю так вось трымалі сябе... спрачаліся... словам... так...

Я н к а. Якраз я б так і трымаўся.

Т а ц ц я н а. Ха-ха-ха! Я вас і злавіла!

Я н к а. У чым? Нічога падобнага. Воўсе не злавіла, нічога падобнага.

Т а ц ц я н а. Ну, добра, я жартую. *(Садзяцца.)* Вы куды далей збіраецеся, таварыш Дубень?

Я н к а. Сам не ведаю. Мне прапанавалі застацца пры кафедры аспірантам... А вы?

Т а ц ц я н а. Сама не ведаю. Мусіць, на правінцыю прыйдзецца, куды-небудзь у Мазыршчыну, Полаччыну...

Я н к а. На правінцыю? Што ж, і там жыць можна, працаваць... Нават цікава.

Т а ц ц я н а. Вядома! Сумаваць не буду. Зараз жа краязнаўствам займуся, арганізую там што-якое, калі няма нічога. Ого! Яшчэ як весела будзе! Новыя людзі, новыя знаёмствы... Ого!

Я н к а. Так. А чаму б вам не пастарацца тут, у цэнтры як-небудзь, а?

Т а ц ц я н а. Тут? А чаго? Што тут цікавага? І хто тут цікавы?

Я н к а. Як хто? Тут усё ж ёсць...

Т а ц ц я н а. Ну, хто тут цікавы? Хто?

Я н к а. Тут... ну, ці мала тут цікавых людзей... і гледзячы з якога боку?

Т а ц ц я н а. Ды з якога хаця. Ну, хто?

Я н к а. Ну, хто... А скуль я ведаю?

Т а ц ц я н а. Ха-ха! Ёсць, ёсць тут цікавыя, нішто... Крыху дзівакі толькі.

Я н к а. Пра мяне вы?

Т а ц ц я н а. А хоць бы і пра вас, тады што?

Я н к а. Нічога... Я і кажу: трэба вам тут застацца.

Разам бы тэму апрацоўвалі... Калі хімічную тэму, дык толькі тут і можна, дзе ж на правінцыі?

Т а ц ц я н а. А калі батанічную?

Я н к а. А навошта вам батанічная?

Т а ц ц я н а. Ха-ха-ха!

Я н к а. Ха-ха! Вось дзівачка, чаго смяецца? З мяне?

Т а ц ц я н а. Вядома, з вас.

Я н к а. Так і заўсёды будзеце смяяцца з мяне?

Т а ц ц я н а. Не, не заўсёды. Толькі тады, калі вы будзеце такі смешны, камічны.

Я н к а. А я часам бываю і трагічны, каб вы ведалі.

Т а ц ц я н а. Ой, як страшна!

Я н к а. А вось я зараз вазьму ды і...

Т а ц ц я н а. Што?

Я н к а. Дый скажу вам такое, што вы зараз уцякаць, да грамады.

Т а ц ц я н а. Ну? Цікава!

Я н к а. Я вас... *(Нахіляецца.)*

Т а ц ц я н а. Што? Не чую! *(Нахіляецца да яго.)*

Я н к а *(шэпча, нахіліўшыся. Трэск сухога галля. Азіраюцца разам. Падымаюцца)*. Гэта Млынкоў. Ён, я ўпэўнены. Выходзь, Млынкоў, усё роўна бачу, што ты.

М л ы н к о ў *(з запісной кніжачкай, нялоўка)*. Дзе ты бачыў мяне? Ты так, наўгад сказаў, што я. Праўда?

Я н к а. Наўгад. Ты, Млынкоў, памыліўся. У нас нічога такога, да.

М л ы н к о ў. «Нічога такога» таксама для мяне цікава. Ха-ха! Вось, брат, штука ў чым.

Я н к а. Цьфу ты, форт паперны!

М л ы н к о ў. Ха-ха! Як ён каецца здорава, запішу.

Я н к а. Кінь! Зараз паламаю і твой аловак і...

М л ы н к о ў. Што ты! Бачылі?

Т а ц ц я н а. Ого, які вы! Вы мне зусім падабаецеся такі.

Я н к а. Чаго ж ён... чорт ведае што запісвае.

М л ы н к о ў. Я надоечы зусім загсаўскую сцэнку запісаў, вось тут якраз, дзе вы сядзелі.

Т а ц ц я н а. Тут? Хто? Скажыце, Млынкоў!

М л ы н к о ў. Пісьменніцкая тайна. Ні за што на свеце!

Т а ц ц я н а. Ну, а калі я вас моцна папрашу, га?

Я н к а. Ого, якая вы! Вы мне зусім не падабаецеся... такая.

Таццяна. Не буду, не буду болей... такая... (*Выходзяць.*)

Дзежка, Брацянкоў, Лімпіяда.

Брацянкоў. Ты, таварыш Дзежка, кажаш — мясцком. Ладна. Што ёсць мясцком?

Дзежка. Як гэта, што ёсць мясцком? Мясцком гэта... гэта па саюзнай лініі... Праўда, Лімпіядачка?

Лімпіяда. Для мяне ўсе ў лініі роўныя. Я сама сабе сваю лінію вяду.

Дзежка. Правільна, таварыш Лімпіяда, правільна! Але ж няможна так ставіць пытанне: трэба і аб тым падумаць, што паболей за «я» ды за «сваё».

Лімпіяда. Вы мяне знаеце, я вас — і надта нават добра.

Брацянкоў. Ты, таварыш Дзежка, не адказаў, што ёсць мясцком. Дык я адкажу табе і раз'ясню. Мясцком — гэта саюзная лінія, правільна. Што азначае саюзная лінія? Бараніць анцірэсы членаў свайго саюзу. Я — член.

Дзежка. Вядома, член. Што ж казаць тут.

Брацянкоў. Так, правільна. Ну, а ты, таварыш Дзежка, наш мясцком, бароніш мае анцірэсы?

Дзежка. Я? Ну, наогул мясцком... Калі хто цябе пакрыўдзіць на службе, у працы, ну і наогул... Вядома.

Брацянкоў. Наогул? Наогул мясцком і ўсё наогул? Мы цябе выбіралі, так?

Дзежка. Вы хацелі, што ж я.

Брацянкоў. І я выбіраў. У першым нават радзе сядзеў, руку аж во як падняў. Дзежку, Дзежку! А ты? Ты мяне ўважаеш? Ты мне саступаеш? Ты скажы тут пры Лімпіядзе, у лесе, як мясцком арганізаваў, канешне, маёўку. Усе кабінеты — зоолёгія, хімія, ну, іншыя там... Ты саступаеш мне?

Дзежка. Як гэта — саступаеш? У чым саступаць, таварыш Брацянкоў?

Брацянкоў. У чым саступаць? І ты не ведаеш, у чым? Будзем казаць так: хто з нас старэйшы?

Дзежка. Вядома, вы, таварыш Брацянкоў.

Брацянкоў. Хто яшчэ ў камерчаскім служыў з гаспадамі прападавацелямі?

Дзежка. Я не служыў, вядома.

Брацянкоў. Вось жа і яно! Цяпер скажам так:

чыя навука старэйшая — хімія ці зоолёгія? Зоолёгія старэйшая.

Д з е ж к а. Вы ўжо прабачайце, я сачу за навукай. Хімія старэйшая. Яшчэ ў Егіпце фараоны займаліся хіміяй.

Л і м п і я д а. Цьфу! Да фараонаў дагаварыліся. Ды чаго вы спрачаецеся? Чаго вам не хапае?

Б р а ц я н к о ў. Вы, Лімпіяда, не мяшайцеся. Тут якраз пра вас кабінеты ў спрэчку ўвайшлі, н-да!

Д з е ж к а. Дзіўныя рэчы вы гаворыце, таварыш Брацянкоў. Проста зразумець цяжка, што і аб чым. Калі вы на таварыша Лімпіяду намёк кіруеце, дык дазвольце вас паінфарміраваць, што па савецкіх законах яны, тое есць іхны пол, самыя раўнапраўныя грамадзяне, і я проста дзіўлюся...

Л і м п і я д а. Ты не дзівіся! Я па ўсякіх законах сябе ў крыўду не дам, а па савецкіх дык і надта. А маё слова такое. Абодва вы мужчыны ў палажэнні, службу маеце... Які сур'ёзна падыдзе, той дзяўчыне і любы... А што гады, ды там якая навука старэй, дык я лічу гэта — глупства. Вось мой і сказ, і пайду я ад вас, і дагаварыцеся вы сабе самі. *(Скора выходзіць. Брацянкоў і Дзежка ў нечаканасці — ідуць за ёй.)*

Б р а ц я н к о ў. Бачыў ты такую зоолёгію? Тут, брат...

Д з е ж к а. Так пытанне ставіць няможна, як вы, таварыш Брацянкоў...

М а р ы н а У р б а н о в і ч і Г а л і н а Т о д а р а ў н а.

Г а л і н а. Мы прайшлі з Андрэем усе тры стадыі адносін паміж жанчынай і мужчынам.

У р б а н о в і ч. Якія, Галіна Тодараўна?

Г а л і н а. Спачатку прыяцелі, а потым каханкі, нарэшце, таварышы. Так, я думаю, з такім настроем я зноў прыехала сюды.

У р б а н о в і ч. Мне падабаецца вашая Ірачка, такая слаўная, маладая падружка ваша.

Г а л і н а. Так, яна ў мяне слаўная... Скажыце, таварыш Марына, проста і ясна, не як жанчына жанчыне... На якой стадыі вашыя адносіны?

У р б а н о в і ч. З кім, Галіна Тодараўна?

Г а л і н а. З маім мужам Андрэем?

У р б а н о в і ч. Галіна Тодараўна! Вам толькі здаец-

ца, што вы гаворыце са мной не як жанчына... Вы хутка збіліся нават на жончын тон...

Г а л і н а. Вам толькі здаецца, што вы добра адрозніваеце па тону жонку ад жанчыны і абедзвюх ад чалавека. Вы занадта маладая для такой справы.

У р б а н о в і ч. У нас яшчэ лічыцца за правіла, што малодшы павінен моўчкі выслухоўваць абразлівыя словы ад чалавека, які меў выпадак раней зарэгістравацца на свеце.

Г а л і н а. Зарэгістравацца — ха! Ну, не злуйцеся, малады сябра мой, не злуйцеся! Зразумейце, што я не хачу абразіць вас, задаючы вам такое пытанне. Зразумейце, што ніхто, апрача вас, не можа мне адказаць на яго...

У р б а н о в і ч. Андрэй Андрэевіч перш за ўсё.

Г а л і н а. Так і відаць, што вы яшчэ зусім маладая... Гэта не загана, вядома, не.

У р б а н о в і ч. Я вам скажу адно: мне падабаўся Андрэй Андрэевіч. Болей я нічога не скажу і не ведаю.

Г а л і н а. Падабаўся? І вы яму таксама?

У р б а н о в і ч. Болей нічога не ведаю. *(Ззаду іх галасы чуваць.)*

Г а л і н а. Андрэй і Іра...

Уваходзяць Я с і н с к і і І р ы н а.

І р ы н а. Не, татка, праўда. Я лічу, што цалавацца з чужым чалавекам негігіенічна.

Я с і н с к і. Негігіенічна? Вядома, негігіенічна, дачушка.

І р ы н а. А тым часам, ёсць такія несвядомыя... студэнты нашыя некаторыя... Я сягоння бачыла, татка, праўда... І галоўнае, татка, — у самыя губы. Фу! Так негігіенічна.

Я с і н с к і. Так, дачушка, правільна: у самыя губы гэта... гэта негігіенічна. Хто там уперадзе, мама?

І р ы н а. Мама і тая прыгожая студэнтка — Урбановіч... Яна не цалуецца, мусіць, праўда, татка?

Я с і н с к і. Яна? Так, яна... не цалуецца.

І р ы н а. Малайчына! Яна мне падабаецца, а табе, татка?

Я с і н с к і. Мне? Мне таксама, дачушка.

І р ы н а. А маме? *(Выходзяць.)*

П р а ф е с а р С н і г і р о ў, а с і с т э н т ы, с т у д э н т ы; сярод апошніх — Б а б і н о в і ч. Прафесар акружаны імі.

Снігіроў. Дарагія таварышы мае! Маладыя, слаўныя таварышы мае! Я адчуваю сябе сярод вас добра. Я сам маладзею душой і целам.

Бабіновіч. Нават целам, прафесар?

Снігіроў. Вас дзівіць? Амаладжацца можна не толькі праз *(азірнуўшыся)* праз аперацыю доктара Штэйнаха, але і праз уздым некаторых псіхічных цэнтраў. Думаю, што ёсць сувязь паміж цэнтрамі сімпатыі і павелічэннем жыццёвай сілы арганізма...

Бабіновіч. А ўжо ўстаноўлены цэнтры сімпатыі, прафесар?

Снігіроў. Я якраз цікаўлюся пытаннем аб цэнтрах сімпатый. Устанавіць дакладна іх пакуль што не давялося. Ясна адно, што гармон... *(азірнуўшыся на студэнтак)* э-э... некаторых залоз адыгрывае тут галоўную ролю.

Вольга. Як усё ж дзіўна думаць, што прыхільнасць да якога-небудзь чалавека, ну, сімпатыя, залежыць ад нейкага там гармона...

Панаў. Мы яшчэ не прызвычаіліся да навуковага мыслення ў пытаннях кахання і г. д... У нас яшчэ жыве рамантычны светапогляд нашых прабабак... А папраўдзе, не ўсё роўна, чым выклікаецца сімпатыя, абы яна была, праўда? *(Да Вольгі.)*

Вольга. Можа, і праўда.

Снігіроў. Зусім правільна, маладыя, слаўныя таварышы мае! Будзе час, я яго прачуваю — будзе час, калі сімпатыі будуць узнікаць адвольна, праз прышчэпку таго ці іншага гармона той ці іншай асобе...

У часе яго маналогу збоку набліжаюцца Дзежка, Брацянкоў, Лімпіяда. Брацянкоў прыслухоўваецца.

Бабіновіч. Каму ж будуць прышчапляць гармоны, прафесар? Таму, хто хоча закахацца, ці таму, у каго ён хоча закахацца?

Снігіроў. Абоім, малады калега мой, абоім. Так, я прачуваю той час. Тады самая маладая, самая прыгожая дзяўчына павінна будзе захапіцца чалавекам... э-э... калі гэта будзе патрэбна для яго працы...

Бабіновіч. Для працы гэтага чалавека? Хоць бы ён быў стары, нецікавы? Ну, а як жа? Ці ўзбагаціцца ад гэтага жыццё той маладой, прыгожай?

Снігіроў. Вы кажаце аб крайнасцях. Маладая

асоба будзе жыць жыццём таго... чалавека. Ды, апрача таго, што ёсць старасць... *(Выходзяць.)*

Брацянкоў. Чулі? Будзе час, што прышчэпяць табе куды трэба гармона і ты пакахаеш, каго трэба. Справядліва будзе, не то што...

Лімпіяда. Ніколі не дамся! Каб мне ды які стары прафесар ды прышчапляў? Ніколі не дамся!

Дзежка. Вы, таварыш Лімпіяда, разважаеце, як жанчына... нда, якая працуе толькі пры кабінеце матэматыкі. Трэба пытанне ставіць шырэй і глыбей.

Брацянкоў. Правільна! *(Праходзяць.)*

Сцяпан Гаўрылік, Галёнка.

Сцяпан. Ну, што ж вы на Волгу, нарэшце, едзеце, Іван Іванавіч?

Галёнка. Сягодня тут так добра, так многа слаўных дзяўчат, што пра Волгу я крыху забыўся...

Сцяпан. Дзіўна толькі, што адна слаўная дзяўчына не з намі, Іван Іванавіч, што? Ха-ха-ха!

Галёнка. Вы намякаеце на Прасінскую...

Сцяпан. Волечку...

Галёнка. Вы болей зацікаўлены ў сей асобе, таварыш Гаўрылік, наколькі я змог заўважыць...

Сцяпан. Сія асоба захапілася Панавым. Я скараюся перад больш кваліфікаваным таварышам. Вам, мусіць, цяжэй перанесці такі ўдар?

Галёнка. Мне не цікава вам даводзіць, але і вы самі разумееце, што каб я захацеў...

Сцяпан. Хацення тут яшчэ малавата... Я па сабе ведаю... ха!

Будоль заклапочана выбягае.

Будоль. Скажыце, вы не бачылі, куды прайшоў прафесар Снігіроў з групай студэнтаў?

Сцяпан. А-а! Таварыш Будоль, давайце разам шукаць, добра?

Будоль. Я сама... мне трэба бачыць Бабіновіча...

Сцяпан. Я так і думаў. Мы яго знойдзем, толькі разам — добра?

Будоль. Ну, добра... Толькі глядзіце, я баюся далёка ў лес...

Сцяпан. Ну, са мной? *(Бягуць некалькі дзяўчат.)*

Адна. Іван Іванавіч, што ж вы адзін?

Галёнка. Тут і аднаму добра.

Другая. Пойдзем туды, там скокі, цікава.

Адна. Там і Вольга Прасінская, ха-ха-ха!

Галёнка. Для мяне ўсе роўныя.

Адна. Ну? Не верым, Іван Іванавіч! *(Цягнуць яго ў лес.)*

Урбановіч адна. З-за дрэва Бабіновіч.

Бабіновіч. А куды?

Урбановіч. І не спужаў, ані. Я была ўпэўнена, што вы недзе тут.

Бабіновіч. Чаму? Я ж, здаецца, не падыходзіў да вас сёння.

Урбановіч. І ўсё ж....

Бабіновіч. Гм... Усё ж. Вы пасябравалі, здаецца, з жонкай Ясінскага?

Урбановіч. Не столькі пасябравала, колькі пагаварыла. Кінем пра гэта!

Бабіновіч. Давайце пра іншае... Толькі як пачаць... вось пытанне...

Урбановіч. А вы без гамлетаўскіх пытанняў.

Бабіновіч. Тады пачнём з намёкаў... Хто пра любоў ні слова, той не любіць, праўда?

Урбановіч. Не любіць той, хто пра любоў усім трубіць. Ха-ха! *(Абое смяюцца.)* Вось мне з вамі лёгка неяк, проста.

Бабіновіч. А не боязна? Тут, у лесе? Я ж, як мядзведзь. Ха-ха!

Урбановіч. Таму і не боязна. Каб вы былі... мужчынам спецыфічным...

Бабіновіч. Дык, значыць, я не мужчына? Вы ж мяне абражаеце?

Урбановіч. Вы мне падабаецеся... разумееце?

Бабіновіч. Разумею... *(Падумаўшы.)* Ах ты, божа ж мой, які я дурны! Гэта ж у такім выпадку трэба нешта рабіць... Пацалаваць трэба! *(Цалуе.)* Ух!

Урбановіч. Ха-ха-ха! Ну, і мядзведзь, праўда, касалапы.

Бабіновіч. Марыначка! Гэта так, ад засмучэння. Я магу быць лоўкім, спрытным... як... як... ну, словам, я ж вас люблю даўно. Вы самая лепшая дзяўчына!

Урбановіч. У свеце?.. Так? Ха-ха!

Бабіновіч. Не, у гэтым лесе. Ха-ха-ха! Я ведаю добра, што я крыху таго... Таліяй не выйшаў.

Урбановіч. Кіньце, Васіль, глупства казаць.

Бабіновіч. Не, Марыначка! У чалавеку павінна быць усё прыгожа: і твар, і вопратка, і думкі... Ну, вопратку я зраблю хутка новую...

Урбановіч. Думкі ў вас, я ведаю, ясныя, рэальныя, значыць, разумныя. Значыць, прыгожыя,— гэта галоўнае...

Бабіновіч. Ну, а твар?

Урбановіч. Во! *(Цалуе яго ў голаў.)*

Бабіновіч. Марыначка, ды я сёння самы шчаслівы чалавек!..

Урбановіч. У гэтым лесе. *(Смяюцца. Цалуюцца.)*

Бабіновіч. Марыначка, што ж гэта: мы цалуемся і на «вы»?

Урбановіч. Адразу неяк дзіўна сказаць табе — «ты».

Бабіновіч. А пацалаваць адразу? Ха-ха? *(Цалуюцца.)* Хвоі з коранем выверну. Давай мне які хоць фронт — вайсковы, культурны — усё перавярну, што супроць нас будзе!..

Урбановіч. Супроць нас з табой?

Бабіновіч. Супроць усяго, што мы тут рабілі, творым... Эх, ды ці нам з табой тут у лесе агітацыяй займацца? Добра тут, Марыначка?

Урбановіч. Добра, Васіль.

Бабіновіч. Нехта хруснуў. Пойдзем далей, тут дарога...

Урбановіч. Пойдзем, Васіль, слаўны мой, моцны!

Бабіновіч. Ну, а... ён?

Урбановіч. Маўчы. Усё скончана там, дый не было нічога... Так...

Бабіновіч. Ён таксама слаўны і... прыгожы.

Урбановіч. Маўчы! *(Закрывае рот пацалункам. Абое ў захапленні імчацца ў гушчар. Праз нейкі момант — Млынкоў з блакнотам і алоўкам. Запісвае, праходзіць.)*

Праз сцэну праходзіць гімнастычны гурток студэнтаў і студэнтак. Фігуры. Музыка. Сцэна напаўняецца народам.

Галасы. Тут, тут закончым.
— Апошняя палянка.
— Сюды цягнецца ўсё.

Паселі. Гульні. Спевы.

Ясінскі. Таварышы!

Галасы. Ціха, ціха!

— Слухайце!
— Таварыш Ясінскі хоча казаць.
— Дзядзька Ясінскі.

Ясінскі. Таварышы! Ад імя ячэйкі і дэканата дазвольце па-таварыску развітацца з вамі. Вось гэты лес, што акаляе нас, некалі быў поўны дзікага звяр'я. Сёння ў ім замест дзікага выцця гучаць галасы маладых, поўных сіл і веры ў новае жыццё, работнікаў. У гэтым лесе, дзе яшчэ не так даўно хаваліся недабіткі старога свету, розныя бандыцкія зграі, сёння гучаць музыка і спевы маладых, асвечаных пралетараў, сыноў рабоча-сялянскага адроджанага краю. Хай тыя веды і тая калектыўная вытрыманая ідыялогія, якую вы набылі там, у горадзе, пойдуць з вамі і па іншых падобных, яшчэ глухіх лясах і прывучаць іх слухаць галасы новага, вольнага, арганізаванага жыцця! За нашу моладзь, за нашу моц, за нашу змену! *(«Ур-ра!» Кіліхі віна, піва.)*

Снігіроў *(расчулена)*. Таварышы!

Галасы. Ціха, цішэй!

— Прафесару слова!

Снігіроў. Маладыя таварышы мае! Я ніколі яшчэ не адчуваў сябе такім бадзёрым, такім маладым, як сёння.

Галасы. Го-го!

— Ур-ра!

— Ціха!

Снігіроў. Я сёння проста студэнт, якім я быў 35 год назад у адным старым нямецкім універсітэце... Мы таксама наведвалі маляўнічыя ваколіцы гэтага горада, спявалі, весяліліся... Але адно ў вас з'яўляецца перавагай: тая ідэёвасць, з якой вы выходзіце ў жыццё. Вы не проста вясёлыя буршы-студэнты, вы — будаўнікі новага, можа быць, не ва ўсім для мяне зразумелага — я стары ўжо чалавек,— але я ўпэўнены, лепшага, вышэйшага жыцця. За вашу радасць! *(«Ур-ра!»)* За вашае заўтра, за свядомы, поўны жыццёвай энергіі...

Голас. Незалежна ад гармонаў. Так, незалежна ад гармонаў калектыў. *(«Ур-ра!»)*

Бабіновіч. Таварышы! Дазвольце ад імя гэтага самага новага маладога жыцця падзякаваць нашых старэйшых таварышаў, якія кіравалі на працягу некалькіх год нашай падрыхтоўкай да барацьбы за... я скажу проста і ясна — за камунізм. *(«Ур-ра!»)* Як довад таго, што мы ўсур'ёз пачнём праводзіць нават новы быт, дазволь-

це зарэгістравацца перад вамі: Васіль Бабіновіч — Марына Урбановіч, з гэтага дня муж і жонка, вось! *(Цалуюцца пад «ура», музыку.)*

Галасы. Да й мы, і мы!

Выходзяць Тамара — Алесь, Таццяна — Янка.

Галасы. Ого!
— Хімік наш!
— Сугубая хімія!

Затым Панаў, Галёнка, Сцяпан Гаўрылік, Ганна Будоль, Вольга Прасінская.

Галёнка. Дазвольце, дазвольце. Калі так проста цяпер заключаць э... брак, шлюб, то дазвольце... зарэгістравацца... *(Хоча ўзяць Вольгу Прасінскую за руку; тая вырываецца, яе бярэ Панаў, і яны пад «ура» цалуюцца.)*

Ясінскі. Таварышы! Не забудземся пры новых шлюбах і аб тых, хто многа гадоў здолеў аддаць для сумеснай работы з намі ў цяжкія часы, калі... *(Расчулена і разам смеючыся выводзіць Галіну Тодараўну. Музыка. «Ур-ра!»)*

Брацянкоў у групе з Дзежкам і Лімпіядай.

Брацянкоў. Таварышы! Таварыш прафесар зусім правільна сказаў. Дазвольце далучыцца і мне да вашага слова — згаджаюся з вамі. Толькі прашу вас, таварыш прафесар,— не мучце заолёгію!

Смех. «Ура!» Музыка.

*Заслона*

*1929 г.*

# ВОЎК

*Драматычнае апавяданне*
*ў 4-х дзеях і 5-ці абразах*

(Матэрыял для 4-й дзеі ўзяты з апавядання Э. Ажэшка «У зімовы вечар»)

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Сымон Мікула — селянін. У першай дзеі — 40—45 гадоў, у апошняй — 60—65 гадоў.

Крыстына — яго жонка. Толькі ў першай дзеі.

Яська, ён жа «Воўк» — сын Сымона. У першай дзеі 18 год, у апошняй — 40—45 гадоў.

Рыгор — другі сын Сымона, маладзейшы.

Ляксей — трэці сын Сымона. Толькі ў 4-й дзеі.

Ганупя — дачка Сымона. Толькі ў 4-й дзеі.

Кацярына — дзяўчына ў 1-й дзеі, пасля — Рыгорава жонка.

Алёна — жонка Аляксея. Толькі ў 4-й дзеі.

Наста — цётка Крыстыны. У 4-й дзеі — старая бабулька, каля 70 гадоў.

Трубнікаў Іван Сцяпанавіч — станавы прыстаў.

Храпакоў —ураднік у 1-й дзеі, надзірацель у турме ў 3-й дзеі.

Гайковіч — механік на шкляной гуце.

Броня — яго дачка.

Цыбульскі — канторшчык на гуце.

Вольга Міхайлаўна — жонка начальніка турмы.

Каморнік.

Палітычны ў турме.

Хлопцы, дзяўчаты, арыштанты.

## ДЗЕЯ І

Вёска на канцы, пры выхадзе ў поле. Кавалак гумна, хаты.

### З'ява І

Крыстына і Наста.

Наста. Ён жа ў цябе, як баранчык той, так і туліцца да кожнага, так і туліцца. Ды васількамі сваімі — зір-зір!..

Крыстына. Дзевятнаццаты гадок пайшоў, а як дзіцянё малое. І люблю ж я яго, цётачка Наста, што год, то болей, нібы толькі-толькі з калыскі...

Наста. Навошта бацька браў яго ў горад да аблаката — усю справу пра зямлю раскрыў яму той аблакат.

Крыстына. Цяпер ужо Сымон і сам не рады. А Яська гарачы: «Несправядліва ды несправядліва прысудзіў суд»,— толькі і гаворыць. Старыя пагадзіліся ўжо, прымірыліся, а моладзь — куды! А Яська наперадзе!

Наста. Ой, каб жа бог найвышэйшы ды абараніў нас! *(Праходзяць.)*

### З'ява II

Сымон Мікула, Яська, некалькі сялян.

Сымон. Я табе кажу, Яська, кінь ты гэтае сваё глупства. Прысудзілі — кончана! Трэба пагадзіцца. Неяк жа пражывём і на сваёй зямлі.

Яська. Татка, дык і тая ж наша, адсуджаная! Як жа так? Ты ж сам увесь час казаў з аблакатам, памятаеш, як гутарылі, планы ён паказваў, алавіком па іх вадзіў. Як жа так? Я нязгодны на замірэнне, татка!

Малады хлапец. І я!

Сымон *(перадражніваючы)*. І я! Ты глядзі, дзе твая свіння, свінапас! Малако на губах амый раней, соплі вытры! І я! Каб з-за вас яшчэ што якое здарылася? Зараз каморнік прыедзе, капцы ставіць будзе, а табе *(да сына)* яшчэ ланцуг за ім цягнуць прыйдзецца...

Яська. Ланцуг? Ды што вы, татачка! Ды ніколі!

Каб я за ім ланцуг цягнуў? Па сваёй зямлі ланцуг цягнуў?

Сымон. А працягнеш — і не твая яна тады стане, і скончана!

Стары селянін. Абідна, што і казаць! Усе старыя кажуць — нашая яна!

Сымон. Адцягаў, планы падмяніў!

Яська. Планы падмяніў? Чуеце, хлопцы?

Хлопцы. Планы падмяніў!

Сымон. Бо пан! Мы аблаката, ён двох! Адзін аж з Піцярбургу. І планы новыя папрывозіў. З панам судзіцца — гэ-гэ!

Яська. Дык як жа з панам тады, як ні судом, татачка?

Хлопец. Як жа з панам, дзядзькі?

Стары селянін. Абідна, што і казаць. Як жа з панам?

Сымон. З панам?

Усе. Ага. З панам, з зямлёй?

Сымон. Скарыцца. Аблакат толькі рукамі развёў!

Яська. А справядлівасць, татка?

Сымон. Ніякай справядлівасці, сынок, няма на гэтым свеце. Не дабівайся яе, каб худа не было!

Яська. А без справядлівасці хіба добра будзе?

Сымон. Табе кажу, Ясь, кінь! Сам я ўблытаў цябе ў гэтую гісторыю, каб жа мне бог найвышэйшы дараваў за гэта! Разыходзьцеся, хлопцы, зараз каморнік будзе, стараста казаў. Разыходзьцеся! Хадзі, Яська...

Галасы. Несправядліва!

— Капцоў ставіць не будзем!

— Хай сам ставіць!

Разыходзяцца, Ясь адзін затрымаўся з хлапцом.

Яська. А што, каб не пусціць, Грышка, а?

Грышка. Грамадой каб?

Яська. Ага. Старыя не пойдуць, дык мы адны, хлопцы, чалавек з 20 збярэм?

Грышка. Ды збярэм...

Яська. Біць не будзем, а так з косамі ды з граблямі і падойдзем.

З'ява III

Кацярына і некалькі дзяўчат.

Кацярына. Гляньце, Яська з Грышкам! Самыя ціхоні...

Адна з дзяўчат. А прыгожы, гэты Яська!

Кацярына. Прыгожы, толькі, як дзяўчына, сарамлівы, не люблю такіх...

Адна з дзяўчат. А табе каб пацалаваў з наскоку!

Кацярына. А чаму ж не!

Яська. Кацярынка! Дзяўчаты!

Кацярына. Бач, які спрытны стаў! Ну-ну, што далей?

Яська. Дзяўчаткі! Як каморнік прыедзе зямлю адмяраць, што адсудзілі ад нас, вы да нас, на луг...

Кацярына. А што будзе там, на лузе?

Яська. Хлопцы збяруцца.

Кацярына. Дык мы не прыйдзем, страшна. Ха-ха-ха!

Яська. Ды не, што ты, Кацярынка, падумала! Гэта мы для каморніка збярэмся.

Кацярына. Ого, нешта ты, баранчык, паспрытнеў. Ха-ха!

Грышка. Дык я пайду, Яська, скажу хлопцам.

Яська. Ага, пакліч, братка! Я тут пачакаю... *(Дзяўчаты таксама адыходзяць.)* Кацярынка!

Кацярына *(спыніўшыся)*. Што яшчэ загадаеш?

Яська. Чаго ты дражніш мяне, смяешся... Я ж не хлапчанё якое... я...

Кацярына. Баранчык беленькі, кучаравенькі... Во і зачырванеў... *(Убок.)* Я зараз, дзяўчаткі!

Галасы. Бывай.

— Павучы Яську, як цалавацца. Ха-ха!

Кацярына. Чуў ты, Яська, гэта ж сорам які мне будзе праз цябе! Чаго затрымаў, га? Чаго ты мяне трымаеш, блазнота ты сінявокая...

Яська. Ды я ж нічога, я ж, здаецца, і не трымаю цябе... Я толькі спытаўся... Прабачай, Кацярынка...

Кацярына. Прабачай, Кацярынка! Спытаўся! А якое ты маеш мужчынскае права пытацца ў дзяўчыны? Аб чым ты хочаш спытаць? Ведаю я вас, хлапцоў, аб чым вы нас пытаеце!..

Я с ь к а. Кацярынка, я не пра гэта... Што ты! Я зусім пра іншае!

Кацярына. Пра іншае? Пра якое гэта іншае?

Я с ь к а. Каб ты не дражнілася, не маніла мяне баранчыкам. Я, Кацярынка, зусім ужо вялікі хлапец, бачыш?

Кацярына. Ды бачу, вырас! Разам раслі...

Я с ь к а. Вось жа, разам раслі...

Кацярына. Ха-ха!

Я с ь к а. Ха-ха-ха! *(Сарамліва.)*

**З'ява IV**

Рыгор *(пахмурна)*. Яська, у хаце нікога няма, я коні вывяду пасвіць, хадзі...

Кацярына. Цягні, цягні яго ў хату, Рыгор. *(Да Яські.)* Ён гаспадарней за цябе.

Я с ь к а. Рыгорка, ты, братачка, ужо выведзі, а я заўтра за цябе.

Рыгор. Кацярына, там цябе матка твая клікала, як я праходзіў.

Кацярына. Во пястун знайшоўся. Ідзі ўжо! *(Да Яські.)* Што вы з каморнікам задумалі?

Я с ь к а. Не пусцім зямлю абмяраць.

Кацярына. Гэта ты не пусціш, баранчык кучаравенькі?

Я с ь к а. Хлапцы ўсе... І я з імі...

Кацярына. Хлапцы! Так усе разам і пойдуць супраць! Нехта ж павінен наперадзе быць, рэй весці.

Я с ь к а. Я і бяруся, Кацярынка. Я, не смейся! Я не магу гэтай несправядлівасці перацярпець. Я ведаю ўсю праўду, што зямля нашая, аблакат усё нам растлумачыў, я ж з бацькам ездзіў у горад...

Кацярына. А старыя ўсё кажуць: прайгралі, скарыцца трэба.

Я с ь к а. Перад чым? Перад няпраўдай? Перад панам? Перад гэтымі, што з кукардай на шапцы?

Кацярына. Смелы ты, пакуль форму не бачыш...

Я с ь к а. Кацярынка, чаму ты так кажаш?

Кацярына. Сарамлівы занадта, каб смелым быць! Во, як дзяўчына, і вочы ў зямлю. Ну, які з цябе завадар? Ха-ха-ха! І цалавацца, мусіць, не ўмееш.

Я с ь к а. Кацярынка, што ты кажаш? Як жа так — цалавацца? Цалавацца ж, вядома, страшней, як з начальнікам якім...

Кацярына. Ха-ха-ха! Ну і смешны ты, Яська, далібог! Ну, што з табой рабіць? Бывай, пабягу, дзяўчатам скажу пра цябе, які ты смелы.

Яська. Не верыш, Кацярынка?

Кацярына. Веру, што смелы, толькі не з дзяўчатамі. А?

Яська. Во якая ты, далібог! На ж табе. *(Цалуе.)*

Кацярына. Ай, смешны! Ха-ха-ха!

**З'ява V**

Сымон.

Кацярына. Ай! *(Уцякае.)*

Сымон. Ну, што ж, нічога! Абодва вольныя — хлапец і дзяўчына, толькі і бяды. А табе ажаніцца час, Яська, гэта праўда.

Яська. Ды не, тата, я толькі...

Сымон. Пакуль што «толькі», ды каб не было болей чаго, чуеш? Каб не было «гэтулькі».

Яська. Чую, татачка!

Сымон. Каб у законе ўсё было. Распусты не пацярплю ў хаце.

Яська. Я ж...

Сымон. Ды ты ў мяне, як дзяўчына тая, чысты. А толькі я наперад кажу...

Яська. Я і наперад такім буду, татка. Дзяўчаты самі смяюцца з мяне. Кацярынка... я яе і пацалаваў, каб не здзекавалася.

Сымон. Добра ўжо! Лепш цалуйся, а на зямлю прайграную забудзься...

Яська. Калі не прыйдуць адмерваць — забудуся, а не — дык не!

Сымон. Што? Бацькі не слухацца?

Яська. Я не супраць вас, татачка, супраць няпраўды!

Сымон. Яська!

Яська. Татачка, вунь народ ідзе сюды.

**З'ява VI**

Галасы. Натоўп з каморнікам.

Каморнік. Мне якая справа? Мне што скажуць, то я і зраблю, што загадаюць, тое і адмераю.

Сымон. Вось жа, гаспадзін каморнік, і бяда, што

вы, што загадаюць, то і адмераеце! А каб вам, перапрашаючы, загадалі ў чужую хату залезці ды палатна адмераць? *(Стрыманы смех.)*

Каморнік. Што? Вы што ж гэта? Стараста, нарадзі чалавек пяць капцы ставіць!

Стараста і іншыя. Ставіць дык ставіць, супраціўляцца не будзем.

Сымон. Вядома, не будзем. Я так толькі, каб па сумленню.

Яська. Вам, татка, па сумленню, ім па іменню.

Сымон. Маўчы ты, не твая справа!

Усе разыходзяцца з голасам... Праз нейкі час Крыстына, Наста і іншыя жанчыны і дзяўчаты.

Крыстына. Прыехаў-ткі, пайшлі абмяраць зямлю. Дзе ж Яська?

Наста. Трэба яго ў хату забраць ды і не пускаць, пакуль абмерка ідзе.

Крыстына. Як ты яго забярэш? Малы, ці што?

Наста. Вялікі ды паслухмяны, матцы ўважыць.

Кацярына. Яська пасмялеў, ведаеце, дзяўчаткі. Такі стаў, спрытней за якога іншага з хлопцаў!

Наста. Ці не ты яго, Кацярына, спрытным зрабіла, ды калі ж гэта паспела?

Дзяўчына адна. Кацярынку мы пакінулі з ім ўдвох, дык, мусіць, яна...

Наста. Глядзі, дзеўка, каб не было чаго!

Кацярына. З кім жа гэта, цётка?

Дзяўчына. Га, ды пэўна ж не з табой, Кацярынка!

Крыстына. Кіньце вы, не да жартаў мне. Дзе хлапцы? Хлапцоў пільнаваць трэба, каб туды не йшлі, за каморнікам.

Наста. Гляньце, гэта ж яны і ідуць, і Яська нагерадзе, а божачка ж мой, бітва будзе...

Галасы... Праходзіць натоўп з косамі, граблямі.

### З'ява VII

Яська. На луг і пойдзем туды, нібы касіць.

Усе. А што ж! Касіць не можна свой луг? Проста наперарэз, вось туды!

Крыстына. Куды ж гэта ты, сыночак? У бацькі спытаўся, га?

Яська. Матулечка, я ж... мы касіць, татка ведае...

Наста (*хоча ўзяць у яго касу*). Давай сюды. Хадзі ў хату, блазнота! (*Лёгкая барацьба. Ясь аддае касу.*)

Яська. Ды што вы, бабуленька, хіба я буду спрачацца з вамі, бярыце касу, навошта яна мне! Я і без касы. Хлопцы, гайда на луг!

Крыстына. Ясечка, Ясечка, не губі душу... Ты ж без касы касіць не будзеш? Наста, аддай яму касу, як жа ён адзін без касы, яшчэ пакрыўдзіць яго хто!

Наста. Не аддам, хай у двор ідзе!

Яська (*цалуючы матку*). Матулечка, ды хіба мы што якое... Мы ж толькі натоўпам пaглядзім, што ён там робіць. Ён і ўцячэ, матулечка, а касы мне і не трэба.

Наста. Хадзі ў двор, кажу!

Кацярына. Ды што вы, цётка? Хлапцу на луг няможна пайсці? Ха-ха-ха! Ну і Яська, а яшчэ заляцацца пачаў быў. Ідзі ў хату!

Яська. Кацярынка! Бабуленька, ды што вы ўсе! Гайда, хлопцы!

Усе. На луг! Што нам і пакасіць няможна! Каморнік!

Крыстына. Пайду за імі, пагляджу, што яны рабіць будуць. Мо папярэджу што.

Наста. Гэта ж далёка, Крыстына, а ў хаце нікога. Рыгор коні павёў, Ляксей свінні пасвіць.

Крыстына. А божа ж мой! Ідзіце, цётка, распарадцеся там. Я толькі здалёк зірну на Яську.

Наста. Ат!

Разыходзяцца. Дзяўчаты за сцэнай пяюць: «Стаіць Яська на гары, а я стаю ў даліне, Яська сее кавуны, а я журавіны» і «Рабіна, рабіначка, рабіна мая. Чаму ж ты, рабіначка, рана адцвіла».
Спешна, у абурэнні праходзіць каморнік. За ім два старыя нясуць ланцуг, прылады.

Каморнік. Сволачы, бунтаўшчыкі, абмераць не далі! Добра ж, я ў фальварак зараз!

Знікае, збягаецца народ.

Сымон. Прагналі? Што ж гэта будзе, мужчыны? Дзе Яська мой?

Адзін. Каморнік казаў, што ў фальварку сядзіць станавы.

Сымон. Ага! Чакалі, значыцца! Падгатавалі. Дзе ж Яська! Дзе ж хлапцы?

Наста. Я ж казала... Божачка ж ты наш! Станавы, значыцца, бітва будзе!

Сымон. Якая там яшчэ бітва! Пасадзяць у астрог палову! Вот табе і бітва!

### З'ява VIII

Яська і хлопцы.

Яська (*крыху засмучона*). Гэта ж мы толькі падышлі, татка, да яго, а ён — уцякаць! Мы нічога і сказаць не паспелі... Я, як быў без касы, бабка Наста адабрала, дык выступіў наперад... А ён зір на мяне, ды ходу...

Сымон. Ты выступіў наперад? Эх, сынок, сынок... А ведаеш, што станавы ў фальварку? Хіба яны не чакалі? Гэта ж чужую зямлю абмяраць! Эх, сынок! Што ты нарабіў?

Яська. Хлопцы, разыходзьцеся, кідай косы, нібы нічога і не было! Татка, што ж такое мы зрабілі? Падашлі з свайго лугу да іх. Дык няўжо ж што будзе?

Сымон. Эх, маладзенькі ты, блазнота, хоць і разумны, свету не ведаеш, парадку не ведаеш. Гэта ж бунт, разумееш ты? Гэта ж бунтам палічуць!

Крыстына. Ведаеш, Сымонка, пайшла я Яську нашага пераняць, дык не паспела, каморнік ужо бяжыць назад... Бяры яго, Сымоначка, у хату, схавай яго, каб у твар не пазналі, наперадзе ён быў, схавайма яго.

Яська. Ды нічога не будзе, мама, куды ж мне хавацца?

Сымон. Дзе ж ты яго схаваеш? Падкажа хто, горай будзе... Пойдзем да хаты, ды ўсё тут! Што будзе, то будзе... (*Разыходзяцца. Праз нейкі момант дзяўчаты.*)

Галасы. Станавы пад'ехаў, старасту выклікаў.

— Ой, што ж гэта будзе, а божухна, а матачкі ж мае...

— А Ясечкі нашыя, а Грышачкі!

### З'ява IX

Станавы,ураднік, стараста, каморнік.

Станавы. Дык у цябе бунт? Збірай усіх на сход.

Стараста. Зараз, вашабродзь. (*Станавы, ураднік хаваюцца. Праходзіць хлопец з касой.*)

Станавы. Стой! Бунтаўшчык! Узяць яго... (*Хлапца адводзяць убок.*)

### З'ява X

Яська і Рыгор.

Рыгор. Я толькі коні вывеў, зір, аж станавы...

Яська. Ну і што з таго, страх вялікі!

Станавы. Ні з места! Не страх цебе станавы! Нікто цебе не страх, нікакое начальства! Нікакая власть?

Яська. Я ж вас не бачыў, дык і не баяўся.

Станавы. Маўчаць!

### З'ява XI

Сымон і іншыя.

Сымон. Ясь!

Яська. Татачка!

Станавы. Эта твой сын?

Сымон. Так, вашбродзь, мой, большанькі.

Станавы. Большанькі! Бунтаўшчык он! Ды все у вас тут!

Яська. Мы ж не бунтуемся, мы ціха гаворым... а вось вы...

Станавы. Ах ты ё...!

Яська. Што ё, «ё» мо ё, а мо і няма. Справядлівасці няма.

Станавы. Справядлівасці? Это што ешчэ такое? Ураднік!

Ураднік. Здзесь, вашбродзь!

Станавы. Што за хлопец? Как он?

Ураднік. Ды гаспадзін зімлямер вказывалі, што самы галавной...

Станавы. А-а! Галавной! Зачыншчык! *(Да Сымона.)* Вот хто твой «большанькі»! Ты, выходзіт, сам...

Сымон. Я нічога сам, вашабродзь. Бунтаваць мы не, не пастанаўлялі. А што несправядліва ад нас зямлю адразаюць, дык гэта праўда, вашбродзь. Я сам стары салдат, у Турэцкую вайну паходам хадзіў.

Яська *(узрушаны)*. Татка, татачка, што вы з імі? Хіба не бачыце? Рэвальверт на бяззбройных навёў. Хіба гэта людзі? Кукарды адны, болей нічога!

Станавы. *(да ўрадніка)*. Тут не только сопроціўленне, тут пахнет пракламацыяй!

Ураднік. Вот іменна-с! Здзесь, в здзешнюю дзірэўню как раз пракламацічэская дземократія прыезжала!

І все, как здзесь гаворыцца, «хлопцы» здорава імі абкручываліся на прадмет пракламацічэскай рэвалюцыі!

Станавы *(да ўрадніка)*. Ты не плутай! *(Да Сымона.)* Ты, стары, гаварыш «несправядліва зямлю абразаюць». А ізвестна вам, што зямля спакон век панская была і только государ імператар Александр второй ізволіл собственноручна перадаць часць землі на предмет землепользованія крэсцьянам, а?

Стараста. Гэта мы чулі, вядома...

Яська. Як гэта так? Цар собственноручна зямлю аддаў? Ды чыя ж яна была спакон вякоў? Хто на ёй працаваў?

Станавы. Вот, вот! Хорошо, хорошо! Проціў цара! *(Да ўрадніка.)* Каго ты ешчо срэдзі хлопцаў імееш на прымеце?

Ураднік. Ды здзесь любой, все харашы! Вот этат і этат...

Хлопцы. Ды мы што? Дзе вы бачылі што?

Станавы. Малчаць! «Ды мы што»! А с косамі на чыновніка пры іспалненіі служэбных абазанасцей — так это вам «ды мы што»? Ураднік, стараста, панятыя — взяць! Даставіць в стан, сейчас же, вмесце са мной едзем... Я вам пакажу бунтаваць! Пусць там ва всей Расіі — рэвалюцыя, у меня в стане — я навяду парадак!

**З'ява XII**

Крыстына. Вашабродзь, паночак, міласэрны, божачка ж мой! Яську майго завошта берыцё ад мяне?

Станавы. Завошта? Нужно было драць, как малый был, паперок лавкі лежал!

Крыстына. Паночку, ён жа ціхі такі, спытайцеся хоць каго... Ён жа без касы пайшоў на луг. Што ён мог зрабіць?

Станавы. Предвадзіцельствовал. Генерал в сражэніі без вінтовкі, а камандует.

Наста. Ды дзе тут заражэнне, ніякага заражэння і не было ні ў каго.

Станавы. А ты што мешаешся, дура-баба? Ну, марш вперод! Расступіцц, плоха будзет!

Яська. Матулечка, татачка, не ўбівайцеся... Глупства! Ну, пасяджу крыху, што ж, я хіба злачынства якое зрабіў?

Ураднік. Злачынец і есць! Не разгаварываць з арэстованымі, мы службу панімаем, не первый раз!

Я с ь к а. Татачка, матулечка, дзякую вам за ўсё, за ўсё... Хлопцы, дзяўчаты, весяліцеся тут, мы скора назад. Няўжо ж засудзяць!

У р а д н і к. Маўчаць! Марш!

Т р а і х выводзяць. К р ы с т ы н а бяжыць за імі.

К р ы с т ы н а. А куды ж цябе вядуць, сыночак, куды?

С ы м о н. Зацягаюць па халодных каморах, а пасля суд! На загубу браў яго ў горад, да аблаката таго... Каб жа ведаць, на колькі год засудзяць!

### З'ява XIII

К а ц я р ы н а. А дзядзечка Сымон, а даруй жа мне, даруй... Гэта ж я яго падбіла: не верыла, што ён смелы... а ён... Гэта ж я, дзядзечка!

С ы м о н Э! Ды ні ты і ніхто, так ужо на раду, мусіць, напісана было яму... За праўду... За праўду пайшоў Яська мой! Наста, ідзі за імі, за маткай. Прыгледзь, а я каня запрагу, паеду. Не выпушчу з вока Яську.

Н а с т а. Каб жа і ім дабра не было, каб яны праз зямлю праваліліся, у пекла трапілі, у агонь вечны — усе гэтыя начальнікі,ураднікі. Гэта ж сказаць такое на Яську, «заражэнне», кажа, у яго!

К а ц я р ы н а. Я з вамі, бабунечка! Можа, яшчэ раз пабачу Яську. Ой, як шкада яго, ой, як шкада!

Н а с т а. А мне што да цябе, хадзем! Хадзі са мной. *(Выходзяць.)*

Сцэна цямнее. Чуваць далёкае прычытанне баб і сумная далёкая песня.

*Заслона*

## ДЗЕЯ II

Двор шкляной гуты. Прайшло 3—4 гады.

### З'ява I

Ц ы б у л ь с к і *(да рабочага)*. Пяску падвязуць сёння? Мала засталося, трэба прыспешыць...

Р а б о ч ы. А падвязуць, пэўне ж...

Ц ы б у л ь с к і. Ды каб добрага, белага... А то апошні раз гэты Сымон з Дубраўлян нейкага шэрага падвёз, бракаваць будзе... Калі прыедзе з сынам ды з сынавай сваёй... пакліч мяне...

Р а б о ч ы. Добра, паклічу...

Ц ы б у л ь с к і. Ну, як гэты навічок, што з турмы?

Р а б о ч ы. А старанны, нішто...

Ц ы б у л ь с к і. Тры гады праседзеў недарма...

Р а б о ч ы. Ён расказваў, дык глупства... Праз зямлю выйшла... Ён з Дубраўлян...

Ц ы б у л ь с к і. Сымона Мікулы сын, ведаю... Бацька такі гаспадар... А ён — бунтаўшчык.

Р а б о ч ы. Ён жа не адзін, пане Цыбульскі... З кожным можа стацца.

Ц ы б у л ь с к і. Як гэта так, з кожным? Кожны гаспадар сабе. Не суйся, куды не трэба.

Р а б о ч ы. А ёсць жа так, што і над табой гаспадары...

Ц ы б у л ь с к і. Хто над табой, а над кім і ты гаспадар, такі парадак усюду...

Р а б о ч ы. Ды гэта так.

Ц ы б у л ь с к і. Ну, дык вось...

### З'ява II

Я с ь к а (*узмужнеў, схуднеў, больш маўклівы*). Механіка трэба... Адна печка слаба да агню... Рабочыя казалі...

Ц ы б у л ь с к і. Ты да каго гэта зварочаешся?

Я с ь к а. Ды хоць бы да вас... Я яшчэ парадку не ведаю добра...

Ц ы б у л ь с к і. Бачу, што не ведаеш... У турме табе больш знаёмыя парадкі...

Я с ь к а. Пане канторшчык... Я...

Ц ы б у л ь с к і. Я, каб быў упраўляючым, не прымаў бы на работу...

Я с ь к а. Арыштанта? А-а. Я адбыў сваё.

Ц ы б у л ь с к і. Ды праў пазбаўлены... Вось гэта галоўнае. Яшчэ невядома, як паліцыя паглядзіць на гэта... Прынялі!

Я с ь к а. Я працую не горай за іншых, механік кажа...

Ц ы б у л ь с к і. Механік... Палюбіўся Гайковічу... Ха-ха! Ну, добра, паглядзім, што далей будзе...

Я с ь к а. Ды вам, прабачайце, пане канторшчык, што з усяго гэтага? Ваша справа — кантора!

Ц ы б у л ь с к і. Ты што ж гэта, а? Ты што сабе думаеш? Мне маё месца ўказваць? Я канторшчык, я бухгалтар, я ўсё! Праз мяне ўсе паперы... усе дакументы вашыя — у мяне... Ты што сабе думаеш, арыштант ты? А-а? Ідалі вы! Прынялі птушку! *(Ідзе ў кантору.)*

### З'ява III

Г а й к о в і ч *(выходзіць з канторы)*. Куды мяне клікалі, хто?

Я с ь к а. Дзень добры! Там, пане Гайковіч, адна печка сплахавала.

Г а й к о в і ч. А, гэта ты. Добра, іду... Ну, як, цяжкавата каля шкла працаваць?

Я с ь к а. Горача, пане Гайковіч...

Г а й к о в і ч. Як у пекле, праўда? А дзьмеш як?

Я с ь к а. Вучуся пакуль што. Якая ні цяжкая работа, а лепей за турму, пане Гайковіч.

Г а й к о в і ч. Ну, вядома!

Я с ь к а. Чаму толькі не навучаць там... [...]

### З'ява IV

Б р о н я. Тата, абедаць ідзеце...

Г а й к о в і ч. Пачакае твой абед, Бронечка, трэба гуту дагледзець...

Б р о н я. Халоднае будзе ўсё, паабедалі б, а тады...

Г а й к о в і ч. Не магу зараз. Пачастуй во нашага навічка. Грошы ж яшчэ не атрымаў?

Я с ь к а. Не, ды дзякую, што вы... Я... я пайду з вамі... *(Да Броні.)* Дзякую, вельмі...

Г а й к о в і ч. Ну мы разам прыйдзем, дачка, падагрэеш! *(Выходзяць.)*

### З'ява V

Ц ы б у л ь с к і *(пераймаючы Броню)*. Пачакайце, пачакайце, панна Броня! Маё шанаванне. Даўно не бачыў вас... служба...

Б р о н я. Ды што вы, Цыбульскі, глупства гаворыце. Зрання вы пад нашым акном шпацыравалі, у акно заглядалі, пакуль я пліту распальвала.

Ц ы б у л ь с к і. Ну, што там! Нас, так сказаць, раз-

дзяляла празрыстая атмасфера, прадукцыя нашай шкляной, так сказаць, гуты... А мне патрэбна перакінуцца з вамі слоўцам безпасрэдна, так сказаць.

Броня. Вы абедалі?

Цыбульскі. Вас цікавіць маё, так сказаць, халастое палажэнне?

Броня. Я пытаю вас, вы абедалі? Бо я не абедала, бывайце.

Цыбульскі. Ах так! Разумеем і панімаем! Размаўляць не жадаем!

Броня. Ды вы не крыўдзіцеся, Цыбульскі, але мне, праўда, няма часу. Другім разам! *(Выходзіць.)*

Цыбульскі. Ну, што ж, пацерпім! А сваё вазьму!

## З'ява VI

Сымон, Рыгор.

Сымон. Дзень добры вам! Куды пясок ссыпаць, прывезлі...

Цыбульскі. А-а... пясок. Трэба было б інжынер каб пряняў... ды ў горад паехаў... Ну, я сам, хаця пясок у вас дрэнны, нікуды не гадзіцца...

Сымон. Чаму ж гэта так, гаспадзін канторшчык? Ці ж першыня вазіць? Дзе бралі, там і бярэм... Два гады як на гуту возім, яшчэ вас тут не было...

Цыбульскі. Ладна! Колькі вазоў?

Сымон. Там вазоў з дзесяць з нашае вёскі.

Цыбульскі. Пачакайце, зараз выйду! *(Ідзе ў кантору.)*

Рыгор. Татка, то ж Яська наш прайшоў!..

Сымон. Што ты пляцеш, дзе?

Рыгор. Вунь, выйшаў з гуты, з рабочымі...

Сымон. Дык во куды падаўся, на гуту... Збег, ды недалёка...

Рыгор. Татка, можа, паклікаць яго?

Сымон. Маўчы! Ці ж гэта той Яська, што быў да турмы? Сам хіба не бачыў? Успомні, як да Кацярыны чапляўся? Думаў, адбудзе сваё, розуму навучыцца там, і зухвалы быў занадта... Навучылі, каб іх так чэрці навучылі! Збег — і добра зрабіў... А то невядома, што б я зрабіў яму... Няма ў мяне сына Яські, няма...

Рыгор. Татка, даруйце яму! Ён мо і кінуў бы піць ды авантуры даказваць, каб у хаце застаўся... Татка!

Сымон. Не, не выправіцца, не! Сам уцёк, кпіны мае

данялі... Што ж! Толькі далёка не адбег. Яму б у Сібір трэ было ўцячы. *(У хваляванні.)* Не хачу сустракацца, здавайце пясок адны... Я пайду адгэтуль — болей ніколі не прывязу, пакуль ён тут...

Рыгор. Татка, як жа вы пешкі? Трыццаць вёрст!

Сымон. Няма ў мяне сына Яські, няма! *(Выходзіць. Рыгор ідзе ў кантору.)*

### З'ява VII

Станавы, Цыбульскі *(праходзячы)*.

Цыбульскі. Она, кажется, тут, на гуце... Пясок прывезла вместе з мужам...

Станавы. Н-да! Так, па-вашаму, нічэго себе для... так сказаць... Ха-ха!

Цыбульскі. Бабёнка — ядрышка, анцік — марынад.

### З'ява VIII

Гайковіч, Яська, некалькі рабочых (у кашулях з закасанымі рукавамі).

Адзін. Чаго ён бадзяецца па гуце?

Другі. Зачасціў...

Адзін. Нюхае... Крамолу шукае...

Другі. Так ты яе знойдзеш лёгка...

Гайковіч. Ну, чорт з ім, з станавым. *(Да Яські.)* Зойдзем да мяне?

Яська. Ды не, дзякую... другім разам... Я тут пабуду... Мае землякі, кажуць, пясок прывезлі, пабачыцца ахвота...

Гайковіч. А, ну, то так, вядома, вядома... *(Да рабочых.)* Дык калі што — клікні мяне, у хаце буду...

Адзін. Ладна!..

Гайковіч адыходзіць.

Другі рабочы *(да Яські)*. Ты навічок, але, здаецца, нішто хлопец...

Першы. Мы ведаем, завошта ты ў астрозе сядзеў...

Другі. За зямлю, што пан адсудзіў...

Яська. Ну, так, за зямлю...

Першы. Хлапец падхадзяшчы...

Яська. Да чаго?

Другі. Ну, да... *(аглядаецца)* каб дружней, значыцца... каб мы глядзелі на цябе, як на свайго...

Яська. Ды я ж... свой, здаецца, працую з вамі, з канторай не сябраваўся пакуль што.. Дык у чым справа?

Адзін. Справа, брат, не ў канторы — кантора што, глупства? Праз кантору пераскочым...

Другі. Ты глыбей забірай... у самую гушчу...

Першы. Ды што там! Чытаў жа, мусіць, у турме не адну біблію... давалі ж і яшчэ што якое чытаць?

Яська. Давалі, чытаў... А-а! Вось вы аб чым... Разумею, хлопцы, разумею... Брашурачкі, пракламацыі?..

Другі. Самы раз!

Першы. Пальцам куды трэба!

Яська. Так, так... Пра зямлю там, пра паноў, пра фабрыкантаў... пра цара і яго генералаў...

Другі. Ну, дагаварывай, гэта пашырэй будзе, а то — кантора!

Яська. Так, так, гэта ўсё так. Пра гэта ўсё я чытаў, давалі... былі людзі, сядзелі разам, слаўныя, праўдзівыя людзі. Пра зямлю я там куды болей даведаўся, усю праўду... А як каморніка праганяў, дурны яшчэ быў, зусім дурны...

Першы. Ну?

Яська. А толькі....

Другі. Што толькі, кажы?

Яська. Трапіліся мне добрыя людзі, рэвалюцыянеры, ужо на трэці год, як сядзеў... А першыя два... О, о! Злачынцы, дрэнь, забойцы... узломшчыкі...

Першы. Ну, дык што, і яны людзі...

Яська. Ды людзі... А толькі душа, нутро гэтае самае, здорава ў іх паржавела за кратамі... Агідасці многа набраліся... А я, хлопцы, малады быў, васемнаццаты год... Ну, і збілі, вучыць пачалі, як зладзеі па начах красці ходзяць, як кожны замок адчыніць...

Другі. Але ж ты не адчыняў, ты ж толькі з турмы выйшаў, нядаўна, здаецца.

Яська. Ды не краў, браце, так! Ды ў душы ёсць гэта...

Першы. Вось жа і мы кажам...

Яська. За мной глядзець трэба, сам за сабой сачу... Бацька біў мяне, як я пачну апавядаць пра турэмную навуку...

Другі. Бацька? Біў, кажаш?

Яська. Як вярнуўся, паглядзеў, што цяжка жыць ім у вёсцы, ды і кажу: «Ахвота людзям па такіх хатах сядзець, гараваць-бедаваць, калі на свеце столькі ба-

гацтва ёсць і да яго лёгкім спосабам дайсці можна»,— кажу, а бацька мне кулаком у плечы...

П е р ш ы. Не ў той бок твае думкі пайшлі, факт!

Д р у г і. Рабочы чалавек праз замочкі нічога не даб'ецца... Можа, адзін хто, ды і то ненадоўга...

П е р ш ы. Не туды, брат, пайшоў, скрывіўся крыху... Не па рабочай лініі.

Я с ь к а. Ну, я і ўцёк ад бацькі... бадзяўся некалькі месяцаў ды сюды і апрадзяліўся... Я працы не баюся, хачу!

Д р у г і. Н-да! Ну, што ж, папрацуй, паглядзім, можа, што з цябе і путнае выйдзе.

Я с ь к а. Хачу, каб было так... Папрацую, апраўлюся, тады мо зноў да бацькі пайду. Во мае намеры якія, хлопцы!

П е р ш ы. Ну, словам, хлапчына, трымайся, а там — паглядзім... Жанчына ідзе сюды...

Адыходзяць, праз сцэну праходзіць К а ц я р ы н а ў кантору.

### З'ява IX

Я с ь к а. Кацярына! Кацярына!

К а ц я р ы н а. Гэта ты, Ясь... Татка казаў зараз, што ты тут... Я за Рыгорам... у кантору...

Я с ь к а. Пачакай! Што ты, нібы ад злодзея якога...

К а ц я р ы н а. Ды не, што ты, Ясь... а толькі...

Я с ь к а. Тата тут? Усе вы? Дзе ж тата?

К а ц я р ы н а. Пайшоў дадому... нас кінуў...

Я с ь к а. А-а! Не захацеў з большым сынам бачыцца... Так... Ну, што ж, я пайду далей, пайду на край свету, у Сібір, каб не сароміліся свае родныя... *(Плача.)*

К а ц я р ы н а. Яська, не плач... Мы ўсе шкадуем цябе... Дня не праходзіць, каб бацька не ўспомніў пра цябе і за абедам і за вячэрай... Ясь...

Я с ь к а. Кацярыначка! Ты ж памятаеш, якім я быў тады, чатыры гады назад...

К а ц я р ы н а. Памятаю... Як не памятаць... Ты ж... Гэта ж я тады... *(Плача.)*

Я с ь к а. Кацярына, што ты? Цалавацца навучыла мяне. *(Смяецца, як бы праз слёзы.)* Ну, так, я ж дурны быў, нічога не ведаў...

К а ц я р ы н а. Дурны... Ты тады слаўны быў, Яська!

Я с ь к а. Ну, вось! Дык слухай жа далей, сядзем во сюды...

Кацярына. Мне ж трэба ў кантору... там Рыгор, мусіць...

Яська. Ну, хвілінку, Кацярынка, можа, ужо ніколі не ўбачымся... Я пайду адсюль... *(Ідуць за кут, так што іх не відаць з канторы.)* Ну, ну сядай! Ты думаеш, я зайздрошчу брату — ды згінь я! Добра, што выйшла за яго... Што ж я табе быў? Хіба жаніх, а?

Кацярына. Ты ж ведаеш, калі я выйшла... Як ты ўцёк...

Яська. Ну, так... ведаю... А хіба я мог узяць цябе за жонку, як вярнуўся? Я прыглядаўся да ўсяго... да сябе самога... да цябе...

Кацярына. Чаму ты так паводзіў сябе нядобра — напіваўся... з дзяўчатамі таксама... Гэта ж ніхто не прызнаваў цябе, Ясь...

Яська. Ніхто! А я сам сябе прызнаваў?.. Нуда нейкая як акруціць... Нечага хочацца, сам не ведаю чаго, Кацярыначка! Ці ж такія рэчы я бачыў у турме, наслухаўся? Вы ж у вёсцы седзіцё, нічога не ведаеце... а я стаў вучоны. Папрацую цяпер тут — выпраўлюся, Кацярыначка! І цябе я прагуляў... не адважваўся падысці, як да нявесты... Чыстая ты такая... ніякай пакасці не ведаеш... *(Прытуляецца да яе, плача.)*

Кацярына. Ясь, я замужка, кінь!..

Яська. Пацалуй жа мяне, Кацярыначка, за бацьку, за маці, за ўсіх. Я ж пацалаваў цябе калісь, памятаеш... каб не здзекавалася, баранчыкам не дражніла...

Кацярына. Ясь, я ж любіла цябе... а цяпер...

Яська. Ну, любі брата, любі Рыгора — ён ціхі, добры... Хіба ж я што маю? Кацярыначка, жыві добра, бывай здарова! *(Кацярына непрыкметна для сябе цалуе яго.)*

### З'ява X

Праходзяць, не заўважаючы іх, Цыбульскі, станавы.

Станавы. Я не дазволю, а данясу жандармскаму палкоўніку, вы правы, гаспадзін Цыбульскі, такіх дапускаць невазможна!

Цыбульскі. Тры гады ў турме... па зямельнаму дзелу судзілі яго...

Станавы. Стойце, стойце, а фамілія?

Цыбульскі. Мікула, Яська Мікула з Дубраўлян.

Станавы. Та-та-та! Стары прыяцель! Го-го! Так я ж его атлічна знаю!..

Цыбульскі. Ах так, Іван Сцяпанавіч...

Станавы. Ну, я ж яго арэстовывал... О, эта гусь харошый... *(Размаўляючы, праходзяць.)*

Яська. Чула?

Кацярына. Чула — божа ж мой... пра ўсё чула... Гэта той самы станавы...

Яська. Той самы. Прагоняць, значыць, не дадуць працаваць... Як ваўка затукаюць.

Кацярына. Ясечка, што ж гэта я сяджу з табой, мне ж трэба да Рыгора... Можа, як уладзіцца яшчэ... Бывай, Ясь, здаровы!

Яська. Ідзі, Кацярыначка, ідзі, як ад таго ваўка, а то і цябе каб не падстрэлілі...

Выходзяць. З акна канторы іх убачыў Цыбульскі. Раптам ім насустрач выходзяць станавы, Цыбульскі, Рыгор, рабочыя.

Станавы. Здарова, прыяцель!

Яська. Дзень добры, гаспадзін станавы, толькі прыяцелі мы з вамі невялікія...

Станавы. Н-да! Атсідзел за бойкасць характера, но не ісправілся, как відаць!

Яська. Я сядзеў за справядлівыя правы нашыя, гаспадзін станавы... А лепшым ці зрабіўся... то не ведаю, можа, лепшы, можа, горшы, а вы дык такі самы, як былі...

Станавы. Мне іспраўляцца незачэм, не прахвост, не прэступнік... Ну, да шуткі в сторону! Цебе, галубчык, здесь не места, я не пазволю, я данесу куда следует...

Яська. На гэта вы майстра! Не турбуйцеся, навошта крывёйналівацца... Сам пайду. *(Да Рыгора.)* Рыгор!

Рыгор *(адвярнуўся, не адказвае, да Кацярыны).* Дзе ты ходзіш, дадому пара!

Кацярына. Я, Рыгорка, Яську ўбачыла... загаварылася з ім...

Цыбульскі *(да станавога).* Сямейная сцэнка, так сказаць... Маладзічка правінілася!.. *(Да Кацярыны.)* Ды ты не паддавайся, мала чаго! А муж у цябе ціхі — дарує! Ха-ха!

Яська *(у абурэнні).* Ты што, падла, мяшаешся: на мяне падказаў, гад! Да жанчыны цяпер!

Цыбульскі. Слыхалі? Чулі? Я служашчы! Гаспадзін станавой! Эта... Эта... Я цябе засуджу, негадзяй!

Станавы. В маём прысутствіі такое паведзеніе!

Нужна саставіць пратакол! *(Да рабочых.)* Вы свідзецелі, как он себе пазвалял!

Адзін рабочы. Ды што ён сабе такое дазволіў асаблівага?

Другі. Хоць бы лаянуў як мае быць!

Першы. Чаго, праўда, мяшацца ў чужыя справы, хоць бы і канторшчык!..

Трэці. Кожны разлуецца... Я б, каб мужам быў ці сваяком...

Цыбульскі. Што, што ты сказаў? Ладна! Пагаворым у канторы пры выплаце! І он туда ж!

Станавы *(да Яські)*. Марш за мной в контору! Тут, я віжу, ужэ пракламацыйкамі папахівает! Марш, гавару! А не то...

Яська. Што «а не то»? Што «а не то»? Зноў рэвальвер дастанеш супраць бяззбройных? Не баюся... плюю на цябе!..

Станавы. Мерзавец! *(Дастае рэвальвер.)*

Кацярына *(баронячы Яську)*. Ясечка! Заб'е цябе!

Яська. Хай страляе! Я яшчэ раз плюну!

Адзін з рабочых *(хапае за руку станавога)*. Стрымайцеся, гаспадзін станавы, што ж гэта вы! Ён па закону адкажа! А забіваць чалавека няможна!

Збягаецца народ, Гайковіч, Броня.

Станавы *(адскочыўшы)*. Как ты смееш дзержаць меня? Бунт! Казакаў захацелі, сволачы!..

Гайковіч. Ды супакойцеся! *(Хоча стрымаць яго.)*

Станавы. І вы с німі заадно — харашо!

Броня. Татачка, кінь яго, бачыш — звер!

Яська. Звер і ёсць! Казакамі пужае!

Станавы. Уб'ю, мерзавец!

Яська *(лоўкім прыёмам збівае яго з ног і вырывае рэвальвер...)*

Станавы.Ураднік! Хрыпакоў!

Яська. Цяпер шалей колькі хочаш! Не паможа табе твой Хрыпакоў!.. Забіў бы гада, ды не хачу людзей пужаць! *(Да рабочага.)* На рэвальвер, хай ні ў мяне, ні ў яго...

Станавому дапамагае Цыбульскі падняцца, і яны абодва ў абурэнні ідуць у кантору. Чуваць:

Станавы. Харашо, харашо, гаспадзін механік. Мы і вас прыпечатаем, будзьце пакойны! Іш, какія рэчы.

Цыбульскі. Бунт, форменны бунт! *(Знікаюць.)*

Кацярына. Што ж гэта цяпер будзе, што будзе?

Рыгор. Дадому трэба! Ублуталіся!

Яська. Рыгор! Бывай здаровы, братка! Не хочаш! Кацярыначка, матульку пацалуй за мяне, не пабачу!

Рыгор *(да Кацярыны)*. Ну, мо застанешся тут? *(Кацярына, плачучы, ідзе за ім...)*

Гайковіч *(да Яські)*. Ты, брат, таго! Нічога, якнебудзь... Уцякаць трэба табе, брат!

Яська. Я ўцяку... А вам тут як расхлёбваць?

Рабочы. Нам не прывыкаць! З нас не надта возьмеш, а рэвальверт ты бяры сабе, прыгадзіцца, нам без патрэбы пакуль...

Яська. А мне нашто? Ну, ладна, давай, стрэльну, можа, калі. Ну, даруйце ўсе, што нарабіў Воўк клопату вам!

Рабочы. Вастры лыжы, брат, вастры, а то тэлефон ёсць, умомант стражнікі падсыпяць.

Яська. Дзякую ўсім, бывайце здаровы!

Гайковіч. Правільна, вастры лыжы!

Броня *(стаяла воддаль з клункам)*. Вам... На дарогу... закусіць... Вы ж не абедалі... Тут трошку, прабачайце....

Яська. Мне? Дзякую, дзякую.

Гайковіч. Правільна, дачушка, па-чалавецку! Бяры, бяры, прыгадзіцца, брат.

Рабочы. Не да кожнай хаты падойдзеш папрасіць у тваім стане! Бяры!

Яська. Ну, калі так... Не забудуся ніколі! Бывайце!.. *(Ідзе да брамы.)*

Рабочы. Не, не, ты лепш сюдой, праводзім... За мной ідзі... праз парканы... *(Ідуць у другі бок.)*

Броня *(кідаючыся на шыю бацькі)*. Тата, а ты як? Табе ж пагражаў станавы? Бяжым таксама?

Гайковіч. Бяжым? Не, стараваты я ўжо на бегуна, дачушка, стараваты!.. Ды і ты не клуначак маленькі... Як з табой?..

З канторы з асцярогай, азіраючыся, паказваецца станавы. За ім выглядае Цыбульскі.

Станавы. Уцёк, мерзавец, спугался!

Цыбульскі. Рэвальвер у яго, Іван Сцяпанавіч!

Станавы. Н-да, знаеце лі!

Цыбульскі. Н-да, знаеце!

*Заслона*

## ДЗЕЯ III

Астрожны двор. Кавалак высокага муру або высокі бярвенчаты частакол. Краты на вокнах, што выходзяць на двор... Прайшло яшчэ 3—4 гады пасля 2-й дзеі.

### З'ява I

Яська і арыштанты займаюцца прыборкай двара. Апрануты яны ў шэрыя марынаркі і круглыя шапкі без казыркоў.

Яська *(запявае)*.

Сяджу я за кратамі, свету няма.
Я рвуся у поле, у лес — ды дарма!
Муроў не раскідаць і варты не збіць,
А сэрца астрожніка ные, баліць.

Першы арыштант. Кінь сэрца адрываць! Вясёлую лепей зацягні!

Іншыя. Хай пяе, хай! *(Падцягваюць.)*

Яська. На волі пакінуў я родных сваіх...
Ці так без мяне ім, як мне тут без іх...
Шляхі вы, дарогі, ой, рэчкі, лугі...
Ды ногі трымаюць, звіняць ланцугі!

Іншыя. Ды ногі трымаюць, звіняць ланцугі!

Яська. Во жыццё, туды тваю і маю!

Першы. Кінь, Воўк, лаяцца!

Яська. А што рабіць? Псалмы чытаць, па-твойму? Я не поп, бачыш — волас кароткі!

Першы. Можна і без псалмоў, можна і без лаянкі.

Яська. Ага! Прафэсар багаслоўя! Бручка параная, апостал бубновы!

Першы. Свалата ты! З табой па-добраму, як з чалавекам, а ты... Зладзюга! Табаку маю хто злімзіў учора? Давай!

Яська. Во, пазбірай во тут ды пакуры, патэльня лысая!

Першы. Душагуб, колькі забіў?

Яська. Я, можа, калі і забіў, дык гада такога, як ты, а ты, стары чорт, дзяўчынку згвалціў!

Першы. Брэшаш, ніколі таго не было! Вось вам крыж, браточкі, не за такое я! Ах ты... Воўк, аў-аў... *(Падвывае.)*

Усе смяюцца.

Яська. А за ваўка — на табе! Як пацук толькі піснеш!

Пачынаецца змаганне, абодва качаюцца.

Другі. Надзірацель ідзе! Кінься!

Трэці. Хай б'юцца, тваё якое дзела?

Яська. Хай ідзе! А што, ляжыш? Будзеш ваўком дражніцца? Га?..

Першы. Не, пусці.

Яська. Ну, ідзі, сучы пляменнік!

Першы *(уцякаючы)*. Воўк! Воўк!

Яська *(смяецца)*. Ха-ха! Ну і смелы! Пачакай, у камеры спаткаемся, нікуды не дзенешся! *(Адыходзіць за рог.)*

Другі. Звяжыся з ім — клыкі запусціць. Праўда, што воўк.

Трэці. Нядаўна ж і пасадзілі яго да нас, а трымаецца — ого!

Другі. Кажуць, палітыкам калісь быў...

Трэці. Каб палітыкам быў — не з намі б сядзеў, вунь яны дзе!

Другі. А ён за зямлю пацярпеў, за справядлівасць, кажуць...

Трэці. Га! Калі тое, можа, было! Чуў я... А цяпер завошта сядзіць?..

Другі. Цяпер не ведаю, а чуў, што яго маладым узялі за зямлю, супраць пана...

Трэці. Не ведаеш, дык маўчы, а я ведаю...

Яська *(варочаецца.)* Ведаеш, дык кажы, я не хаваюся перад іншымі.

Трэці. Крамніка з жонкай забіў у Парэччы... Во!

Яська. Забіў? Можа, забіў, можа, і не... А як жыць? Я спрабаваў — куды! Ну, ды ўсё роўна, я не пахваляюся, што лепшы ад вас...

Другі. Ты хоць смялейшы, ды не падказваеш на іншых, і то добра!

Трэці. Сярод злодзеяў лепшы, адным словам...

Яська. Можа, і горшы... Эх, на волю ўцячы! І краты пераргрызу, а ўцяку!

Трэці. Грызі, грызі, толькі зубы паломіш!

Яська *(зноў напявае)*. На волі пакінуў я родных сваіх...

Надзірацель. Іш, распелась, пцічка! Да клетачка хараша! Каторы тут Яська Мікула?

Яська. Я Яська Мікула. А што?

Старшы. А, не пазнал бы, не пазнал. А меня што ж не пазнаеш, што лі?

Яська. Урадгік Хрыпакоў!

Старшы. Ураднік! То-та ж і ано, што не ўраднік, а старшой надзірацель... Ты тут недавна, патаму і не знаеш. Я па фаміліі в спіску цебя ўвідзел, вспомніл, хоць дзела-та было давнешнее, хе-хе-хе!

Яська. Што ж гэта вы так, з волі ды за краты захацелі?

Старшы. Как эта за краты? Мы не арыштанты! А здзеся куды спакайней. Там лаві такіх вот галубчыков, как ты вродзе, а здзесь — гатова! Все на месце!

Яська. Гэта дык здорава сказана!

Старшы. Канечне, ха-ха! *(Да іншых.)* Ну, давольна кавырацца, па камерах! А ты пастой... Вот што, хлопец ты нішто, з прокламацыі, можна сказаць, збілся! Н-да... Эта там на слабодзе плахавата выглядаў, а здзеся абратна, харашо!

Яська. У чым жа справа? Я не палітычны, вам вядома...

Старшы. А первы-та раз, мы помнім-с, ізвініце-с!..

Яська. Даўно тое было... Цяпер судзілі за іншае...

Старшы. Ну, да словам — Федот, да не тот. В цебе што-та такое есць, вродзе как зладзей, вродзе как па печатнаму дзелу ілі там па земельнаму...

Яська. Хай будзе «вродзе», у чым жа рэч?

Старшы. Ольга Нікалаевна, жана начальніка. Знаеш, відал?

Яська. Бачыць — бачыў, вядома, але не знаюся. Прычым тут я?

Старшы. Ды ты слушай. Прасіла меня прызначыць каторага... С чысцейшых, само сабой... Відала ана цібя мімаходам...

Яська. Куды прызначыць? Да іх на кватэру дапамагаць — не пайду! Чуў я, не пайду!

Старшы. Как эта так, «не пайду»! Ашалел ты, дурак? Да ты паглядзі, і гдзе ты разгаварываеш? Што эта цібе лужкі там вашы дубровінскія, што лі?

Яська. Дубровінскія лужкі... Эх, маўчалі б лепш! А то... А да начальніка на кватэру не пайду, ды ўсё!

Старшы. Как хочаш, дурак, тут насілія быць не можэт, патаму мужчынскі ты пол! Вот дурак-та! Бабёнка eшчо — сметана, можна сказаць!

Яська. Цьфу! Брыдота!

Старшы. Ну, «брыдота»! Пабрэдзёш і ты!

Яська. У камеру мне? Я пайду...

Старшы. Ступай, вот прыберош калодкі эці... Вот дурак!

Выходзіць. Яська пераносіць калодкі. Вольга Мікалаеўна за сцэнай: «Нічэво, нічэво. Я сама, не баюсь... Нічэво!»

Вольга Мікалаеўна (*заўважыўшы Яську*). Нічэво, галубчык, не сцесняйся, работай!

Яська. Ды я нічога... Болей да мужчын прызвычаіўся, а так нічога... Калісць пасароміўся...

Вольга Мікалаеўна. Давно ў нас?

Яська. У вас? Як гэта ў вас?

Вольга Мікалаеўна. Ну, ваабшчэ, вот здзесь... у нас, канечна, не у меня там... Ты ведзь не был ешчо на нашэм дварэ?

Яська. Не быў... Не было справы, у госці не запрашалі...

Вольга Мікалаеўна. Можа, і запросяць... Я тожэ па-вашаму ўмею, па-простаму. Я хоць і жэна начальніка, а душа, разумееш, у душы я — простая, даступная да простых людзей. Ну-ну! А Хрыпаков, надзірацель, гаварыл с табою сегодня?

Яська. Гаварыў, ён з намі наогул разгаварвае.

Вольга Мікалаеўна. Ну-ну? І што жэ ты?

Яська. Я? Во мне гэтыя калоды трэба перацягнуць... Прабачайце, барынька!..

Вольга Мікалаеўна. Сярдзіты які! На, вазьмі вот! (*Дае булачку.*)

Яська (*сярдзіта і неахвотна*). Дзякую... Каб толькі жывату не папсаваць — далікатная! (*Бярэ калоду, знікае.*)

Вольга Мікалаеўна. Неацёсаны какой! Прыдзёт, всё равно!

### З'ява II

Хрыпакоў, Вольга Мікалаеўна.

Хрыпакоў. Здрасце, барыня!

Вольга Мікалаеўна. Здраствуй! Ну что, гаварыл? У меня как раз цепер самая работа в доме. Са служанкай не ўправіцца. Сагласен он?

Хрыпакоў. Куды там! Ізвестна. Еслі бы, знаеце, па варавской часці, вродзе карманшчык, ізвініце, то да! А Яська этат самы вродзе как паліцічэскі, па зямельнай часці.

В о л ь г а  М і к а л а е ў н а. Знаю я эта. Ну, так что? Ідзёт он ка мне в дом?

Х р ы п а к о ў. Я ізвіняюсь... Атказал... вродзе гордасць.

В о л ь г а  М і к а л а е ў н а. Дурак! (*Выходзіць у абурэнні.*)

Х р ы п а к о ў. Вот і я ему эта самае ізлажыл... Н-да!

Выходзіць. За сцэнай каманда: «Паліцічаскія — на прагулку!» З'яўляюцца п а л і т ы ч н ы я. Апрануты па-рознаму: капелюшы, шапкі, пінжакі на чорных кашулях... Сярод іх Б р о н я  Г а й к о в і ч.

П а л і т ы ч н ы (*размаўляючы жвава, да Броні*). Колькі вас тады захапілі на настаўніцкім з'ездзе?

Б р о н я. Ды амаль што ўвесь з'езд — першы і апошні. Чалавек з дваццаць было. Уцячы ўдалося чалавекам пяцём, не болей.

П а л і т ы ч н ы. Яшчэ хто-небудзь тут з вашых сядзіць?

Б р о н я. Параскідалі па розных астрогах. Хто і ў Сібір трапіў. Тут ёсць адзін, Бранцэвіч, чулі?

П а л і т ы ч н ы. Чуў, як жа, сацыял-дэмакрат?

Б р о н я. Так. Яму тры гады далі, мне паўтара... Я, шчыра кажучы, малы ўдзел там прымала, далі б меней, ды станавому па твары выцяла...

П а л і т ы ч н ы. Во як, малайцом, таварыш Броня! Заслужыў, вядома?

Б р о н я. Ну, гэта вядомы звер і нахал — Трубнікаў.

П а л і т ы ч н ы. Трубнікаў? Гэта што на гуце арыштаваў падпольную друкарню?

Б р о н я. Ён самы. Гады тры назад, калі яшчэ мой тата там служыў, адзін малады рабочы... Пачакайце, сюды ідзе арыштант...

### З'ява III

Х р ы п а к о ў  і  Я с ь к а.

Я с ь к а. Ну, куды ж далей ісці?

Х р ы п а к о ў. А вот за мной, праважу. Самі гаспадзін начальнік велелі прывесці цебя, дай, грыт, пагляжу, што за красавец такой. Маё пачценіе, гаспада паліцікі... Ну, как у вас здзеся... клімат.. воздух?

П а л і т ы ч н ы. Ды вы што, смеяцёся з нас?

Д р у г і. Здзекуецеся?

Броня. Як вам не сорам? Вы бы там, на волі, за гэтымі кратамі «пачценіе» сваё паказвалі палітыкам.

Хрыпакоў. І вовсе напрасна, барышня-паненачка! Там адно дзела, тут, абратна, другое... Здзесь все мы — адна сем'я, можна сказаць, адна квацера.

Яська. Толькі пакойчыкі розныя ды страва крыху..., а кватэра — агульная, праўда! Ха-ха!

Броня *(пазнаўшы яго)*. Вы тут? Ясь Мікула?

Яська. Я тут, Броня Гайковіч. А вы як? З палітыкамі, вядома?

Броня. Вы ж — таксама?

Яська. Не зусім так... Бачыце — шапка, куртка — угалоўны, ха-ха!

Броня. Ах так... Калі ж вы... змяніліся?.. Тата пра вас казаў, што вы...

Хрыпакоў. І вовсе палітык! Па сушчэству, так сказаць... А што шапачка непадхадзяшчая, так эта да! А вы, віжу, знакомыя?

Броня. Трошку знаёмыя былі... калісь...

Яська. Ніколі не забудуся на ваш клуначак тады... пакуль жыць буду, памятаць буду... Во... *(Паказвае хустку на шыі.)*

Броня. Як жа вы тады...

Хрыпакоў. Канечне, па закону не палагаецца, чтобы палітыкі з другімі арэстантамі разгаварвалі... І ваабшчэ, дажэ между сабой... *(Да Яські.)* Так ты тут пастой, пагавары, я січас сбегаю... Можэт, начальніка в квацере нет... Эх, палітыкі, палітыкі! *(Знікае.)*

Яська *(да Броні)*. А тата ваш там усё, на гуце?

Броня. Тата памёр, яшчэ ў той год, як вы...

Яська. Так. Слаўны быў чалавек.

Броня. Непрыемнасці былі, са службы звольнілі...

Яська. Мусіць, за мяне, за тую справу прычапіліся...

Броня. І за тое, ды наогул... Ён быў проста чулы чалавек да ўсіх, а яго за рэвалюцыянера лічылі...

Яська. Дык памёр... Ну, а пра нашых, дубраўлянскіх, чулі што?

Броня. Во дзе спаткацца давялося. Нездарма кажуць, што турма — царскі універсітэт.

Яська. Уцяку з гэтага універсітэта... На волю цягне, як ваўка ў лес... Не магу!.. Вам, палітыкам, лягчэй, прасвет — работа ўперадзе. А нам, а мне — усё роўна пагібель, усё роўна!..

Б р о н я. Ну, чаму ж. Надоўга вас?

Я с ь к а. А чорт іх ведае... Уцяку!

Б р о н я. Добра, калі рашучасць ёсць, таварыш Ясь!

Я с ь к а. Таварыш! Вы назвалі мяне таварышам! Яшчэ ніхто ніколі не зваў мяне гэтак. У хаце — Ясь, Яська, Ясечка... А тут вакол усюды — Воўк! Нават тыя, з кім мне даводзілася папраўдзе быць у таварыстве, ніколі іначай не абзывалі мяне, як Воўк. Я сам сябе так празваў — і пайшло. І няхай, Воўк дык Воўк.

Б р о н я. Я прызвычаілася да слова «таварыш» з нашымі...

Я с ь к а. З палітыкамі, гэта іншая рэч... Зусім іншая рэч... Я перад імі — балота, дрыгва... дрэнь! А, усё роўна! Зірнуць бы хоць на сваіх разок!

Б р о н я. Што вы так сябе зніжаеце? Трэба паважаць сябе, верыць у свае сілы, у свой гонар чалавечы і тады...

Я с ь к а. Верыць... у свае сілы! Іх у мяне хапае, каб уцякаць ды зноў — у астрог! Як я магу верыць самому сабе? Так, калісь, памятаеце, тады? Я думаў і верыў, што буду працаваць, выб'юся, скіну з сябе астрожную брыду... Далі? Ведаеце, што мне прапаноўваюць зараз? Туды пайсці, на двор начальніка турмы.

Б р о н я. Ну, дык што, не разумею?

Я с ь к а. Не разумееце... І адмовіўся я спачатку, а ўсё ж іду... І буду рабіць тое, што агідна мне, бо я адтуль уцячы змагу... Уцякаць буду, з акна кідацца, а слова вашае ўспомню, «таварыш»! Надзірацель ідзе — пайду з ім!

Б р о н я. Жадаю поспеху! Ясь! Каб вы, калі і трапіце сюды, дык за іншае, зусім... *(Цісне руку.)*

Я с ь к а. За іншае? За іншае? Каб жа!

Х р ы п а к о ў. Ну, айда, марш! *(Адыходзяць.)*

Б р о н я *(да палітычнага)*. Добры мог бы выйсці з яго працаўнік, палітычны, ды, бачыце, маральна збіты...

П а л і т ы ч н ы. Так, чуў я вашую размову — воўк, праўда што воўк... І ўцячэ... А мы з вамі пасядзім... *(Палітычныя зацягваюць у другім канцы песню.)*

Ахвярай вы сталі святой барацьбы  
За вольную працу народаў.  
З братамі, якія жывуць, як рабы,  
Штандар узвілі за свабоду...  
Хай цар у палацах шукае разваг,  
Віно на дыван разлівае,

Дарэмна! У вачох мітусенне і страх,
І твар ад акна ён хавае:
Там тысяча тысяч ідуць, як сцяна,
Хай многім закрыюць павекі,—
Ды чуе хмяльны цар з крыві і віна:
«Хай дэспат загіне навекі!»

Броня і палітычны падпяваюць. Чуваць крыкі: «Маўчаць! Расхадзісь па камерах!» Прыбягае Яська.

Яська *(да Броні)*. У любоўнікі да жонкі начальніка, а? Ха-ха! Яна мяне чакала, надзірацель набрахаў, што начальнік... а?

Броня. Што? Нічога не разумею?

Яська. А там, ад іх, з кватэры, уцячы можна, уцячы на волю, у лес... Сваіх пабачыць... Я ж Воўк... Воўк. Ці ж мне спяваць такую песню, як вы пеяцё! *(Плача.)* Ці ж спяваць?!.

Хрыпакоў. Ну, што ж гэта ты всё дурака валяеш? Ідзёш? Ждзёт... А вы памалчыце, гаспада, ведзь паліцікі!

Яська. Іду! Чорт з ёй і з начальніцай, і з усімі!

## АБРАЗ II 3-Й ДЗЕІ

Алея бульварчыка павятовага горада. Пад вечар.

### З'ява I

Цыбульскі крыху пастарэў, але з фанабэрыяй; служыць за сакратара паліцыі. Трубнікаў у адстаўцы, ад формы засталася толькі фуражка з кукардай.

Трубнікаў. Чыталі вчэра в газеце?

Цыбульскі. Праглядаў, а што?

Трубнікаў. Да как жэ! Із губернскай цюрмы бежал крупный арэстант, да этат, как его, да вы жэ знаеце...

Цыбульскі. Ізвіняюсь, Іван Сцяпанавіч, пачэму жэ іменна мне знаць крупного арэстанта?.. Как дробненькага якога, дык бы яшчэ... Хе-хе-хе!

Трубнікаў. Ха-ха-ха! Астраумнік! Ну, да вот вспомніл, вмесце все ведзь мы его, так сказаць, на чыстую воду вывадзілі. На гуце, на гуце... года тры-чатырэ назад...

Цыбульскі. А-а! Да што вы! Яська Мікула?

Трубнікаў. Он самый. Да ведь как, падлец, удрал-та! Скандал на всю губернію!

Цыбульскі. Ну?

Трубнікаў. Чэрэз кварціру начальніка, а? Вы панімаеце? В газеце очэнь апрэдзелённа намекают на жэну начальніка...

Цыбульскі. Ну! Бабёнка, значыць, таго...

Трубнікаў. Іменна... таго!

Цыбульскі. Н-да. З фізікі нічога быў, прахвосціна...

Трубнікаў. Ведзь вот я прасілся в начальнікі цюрмы — атказалі: в печаць, гаварат, папал, неловка...

Цыбульскі. Гэта што, палітычка тады, Гайковіч... Ахвотнік да дзяўчат, Іван Сцяпанавіч! Хе-хе-хе!

Трубнікаў. А вы не ахвотнік?! Не паахоцішся, не падстрэліш... А уж будзь я начальнік, у меня не убежыш!

Цыбульскі. Вы уж мяне ізвініце, Іван Сцяпанавіч, у такім дзеле сачустваваць, так сказаць, не ў апетыце...

Трубнікаў. Панімаю... Сам прыударывал на гуце за паненачкай... Пусцякі-с, дзела мінулае... Цепер бы вот службіцу, хоць в другую губернію... Не люблю, знаеце, адставнога сушчэстваванія...

Цыбульскі. Беспочвеннасць пастраенія жызні! Я вот...

Трубнікаў. Да, вам повезло: з гуты выперлі, в паліцыі секрэтарствуеце. Мне, баценька, сніжацца ведзь тожэ не гадзіцца... Я пайду...

Цыбульскі. Как эта «сніжацца», ізвіняюсь?.. Я праважу вас...

Трубнікаў. Праважайце, праважайце... Вернёцесь на бульвар за дзеўчонкамі, а?

Цыбульскі. Не паахоцішся — не падстрэліш, самі сказалі, Іван Сцяпанавіч. *(Праходзяць.)*

**З'ява II**

Яська — пінжак, штаны з чужога пляча, накінуты абы-як, на галаве — не свая шапка або брыль, на нагах — арыштанцкія боты, змучаны, садзіцца на лаву, вымае кавалак абаранка, есць. Пасля кладзецца і засынае... Праходзяць парачкі.

Яна. Ой, какой страшны, бальшой, пайдзем скарэй!

Ён. Інцерэсна, пінжак харошы, а сапагі...

Яна. Ой, і без галстука, какой ужас! *(Праходзяць.)*

### З'ява III

Цыбульскі і паненка.

Паненка. Все вы, мужчыны, адзінакавыя, ну, палажыцельна адзінакавыя, ну вот ва всём...

Цыбульскі. Ізвіняюсь, я бы гэтага не сказал. Есць всё-такі некаторыя разлічыя...

Паненка. І неправда, і ні в чом! Падайдзёт, пазнакоміцца, прэдложыт ліманаду выпіць...

Цыбульскі. Почэму ж, ізвіняюсь, ліманаду. Можна і не ліманаду...

Паненка. Ну, всё равно. Эта я так, к слову... Ну, вобшчэм что-нібудзь такое — все одзінакавыя, все.

Цыбульскі. А вот я, ізвіняюсь, не знаю вашэго, так сказаць, імені і такжэ імені вашэго папашы...

Паненка. Папашы, ха-ха-ха! Зачэм вам мой папаша! Вот смешной!

Цыбульскі. Собственна, канечне, мне нужны вы без папашы, но па імені і отчэству прынята называць? *(Заўважыўшы Яську.)* Пастойце-ка! Пастойце! Т-с-с!

Паненка. Ой, страшна!

Цыбульскі. Т-сс! Гаварат вам — т-сс! Находка! Мне як у голаву кінула!

Паненка. Ды што за находка?! Еслі бы дзесятку какую нашол, а то! Страшна!

Цыбульскі. Т-сс! Паненачка! Тут не дзесяткай папахівает! Ого! Ну і везёт жэ цебе, Цыбульскі! Павышэнне па службе, газеты, ізвестнасць! Дзесятка! Тут, дзетачка мая, пупырачка мая, ножачка мая!

Паненка. Што вы, аставце! Челавек неізвестнай наружнасці храпіт на бульваре, а он...

Цыбульскі. Сейчас мы эту неізвестную наружнасць абнаружым. *(Падыходзіць з асцярогай, падымае шапку на Яську.)* Ні палушкі сумнення — Яська Мікула.

Паненка. Знакомы ваш? Он п'яны. Ай!

Цыбульскі. Слаўны знакомец, старый таварыш па службе і ваабшчэ па школьнай скам'е, как гаварыцца. Хе-хе-хе! Спіць! Сейчас мы гарадавічка і за каўнерчык галубчыка... Эта цебе, арыстанцік мілы, не на гуце, гдзе все рабочыя — прыяцелі вашы. Эта цібе горад, паліцыя, культура... Ах, сукін сын, уцёк з турмы як лоўка. Ды не павязло Яську Мікуле, не павязло!

Паненка. Нічэво не панімаю, божэ мой, вот слу-

чай, і с аднім незнакомым пазнакомілась, і вот другой — савершэнна неізвестный...

Цыбульскі. Неізвестны, гаварыце? А мне очэнь ізвестны. Вось што, бягіце січас к гарадавому!

Паненка. Я? За гарадавым? Ды што вы!

Цыбульскі. Ды што вы, як малка тая, стаіце! Бяжыце, ну! А то праснецца! Шаволіцца... Т-сс! Вось стаіць, малка, і не рушыць!

Яська раптам усхапіўся і ўставіўся на Цыбульскага.

Яська. Шапку аддай!

Цыбульскі (*разгубіўшыся, дае сваю, чыноўніцкую*). Наце, вот!

Яська. Ды на чорта мне твая, з кукардай, насі сам! (*Бярэ сваю і выходзіць. Цыбульскі за ім.*)

Цыбульскі (*да паненкі*). Бяжыце за паліцэйскім... вы!

Яська (*варочаючыся*). А, дык ты так! Дык ты зла-віць мяне хочаш, гад! Зноў за краты пасадзіць! А сядзеў сам, сядзеў!

Цыбульскі. Кар-р-р... ул...

Яська (*затыкаючы яму рот*). Маўчы, задушу. Я ўсё чуў, што ты тут брахаў, усё! Думаеш, не пазнаў цябе, шчаслівец! Пазнаў! Павышэння захацеў, чыноў зарабіць на чужой скуры!..

Цыбульскі (*на момант вызваляецца*). Кар...

Яська. Ды не каркай, груган! Сам сабе накаркаў! Маўчы! (*Душыць Цыбульскага.*)

Паненка з крыкам уцякае. Яська падымаецца, азіраецца і воўчымі крокамі ідзе ўбок.

*Заслона*

## ДЗЕЯ IV

### З'ява I

У хаце Сымона Мікулы. Хата вялікая, з нізкай столлю. У печы агонь. Абразы з пазалочанай паперай. На лаве ў чырвоным куце сядзіць сівы Сымон. Рыгор — бондар. Майструе. Кацярына гаспадарыць каля печы. Ганулязкудзеляй (з другога боку

чалеснікаў). Алёнка над дзіцянём у калысцы. Сярод хаты Ляксей, смелы, упэўнены, у кажусе і з пугай. Усе ўважна слухаюць апавяданне Ляксея.

Ляксей. Да душы ж, праўду кажу, каб я так жыў! Увесь свет на кірмаш з'ехаўся, і толькі і гаманілі ў мястэчку, што пра гэта, нават торгу не было!

Рыгор (*панура, з-пад барады*). Скуль жа ён узяўся, гэты Воўк? Ці не той, што гуляў тут па начах, жах наводзіў?

Ляксей. Тады ж яго спаймалі, зрабілі суд ды засудзілі ў Сібір, у катаргу.

Ганулл. Вой, божа ж мой!

Ляксей. А ён узяў ды ўцёк, гад, ды за рабочага на нейкую хвабрыку з хвалшывым пашпартам пристаў, два гады жыў так.

Кацярына (*ад печкі*). Што? Што ты вярзеш, не можа таго быць?..

Ляксей. Як гэта не можа быць? Гэта ж усе ведаюць. Кажуць, зноў тады яго спаймалі, зноў у турму ды бізуноў сто ўсыпалі.

Алёнка. Ай-ай-ай!

Наста (*шкадуючы*). Божухна ты мой! Сто бізуноў усыпалі!

Кацярына. Вытрымаў? Вытрымаў ён?

Рыгор. Пытаешся! Вядома, вытрымаў, калі і зараз пра яго кажуць.

Ляксей. З Сібіру ўцёк.

Кацярына. З Сібіру? Даўно гэта было?

Ляксей. Па ўсім царстве разаслалі. Да губернатараў, да станавых, да земскіх, да воласці: такі і такі, пішуць, шукаць і затрымаць, хто сам кары не хоча.

Стары Сымон (*курыць увесь час*). Знайшлі?

Ляксей. Спаймалі.

Усе. Спаймалі?

Ляксей. Згадайце ж, людцы, дзе душагуба, вісельніка гэтага знайшлі?

Усе (*апрача Мікулы і Кацярыны*). Дзе, дзе, кажы, Ляксейка, міленькі, кажы хутчэй!

Ляксей. Тут, недалечка, нашым суседам быў, га? Добры сусед, што? Каб яму дабра не было!

Рыгор, Наста, іншыя. А-аа! Дык злавілі, зымалі зноў!

Алёнка. Зноў бізуноў дадуць, ай, ай, ай!

Ляксей (*смеючыся*). Лягчэй ветру ў полі зловіш,

як такога! Ого! Знік! Пакуль даведаліся, што пашпарт дзіўны, ды тое, ды сёе, ды пакуль прыйшлі, знюхаў, гад, чым пахне, ды і махні драла.

Усе. Зноў уцёк?

Кацярына. Ай! Каб жа ж...

Рыгор *(да яе)*. Што? Шкадуеш?

Наста. Вядома, шкада, чалавек ён, хоць злачынца... шкадаваць трэба.

Ляксей. Нічога! Тут недзе сядзіць недалёка. Пісар сённі казаў: «Шукайце, калі бога баіцёся, шукайце, а то, каа, усім бяда будзе. Разбой, каа, будуць злачынствы... А як хто яго зловіць, каа, дык мы яго зараз у турму, каа...

Наста, Алёнка, Ганулька. Ой, ой-ой!

Ляксей. Ды нагаек, каа, дзвесці ў скуру, «ды на катаргу, на ўсё ўжо жыццё».

Стары Сымон. А не брэшаш ты гэта ўсё, Ляксей? А не прыдумаў, каб баб напалохаць, бацьку звадзіць, га?

Ляксей. Калі я ілгу, татка, дык і пісар брэша. У канцэлярыю ліст прыйшоў.

Рыгор. Можа, і фатаграфія да канцылярыі прыйшла?

Ляксей. З такіх фатаграфій не робяць... Фатаграфія! Бізуном скуру пазнімаюць, гэта так! *(Па хаце як прайшла панурая здань.)*

Стары Сымон. Справядліва! *(Заграбае грошы са стала.)* Так з усімі шэльмамі трэба рабіць! Няхай не даказвае, чужога дабра не чапае! Усім нявінным людзям павінна быць забеспячэнне ад несправядлівасці, ад злачынства! А хто гэтага боскага прыказу не шануе, няхай пакутуе і цярпіць! Вось як! Годзі!

Усе пакорна маўчаць. Ляксей моўчкі падыходзіць да бацькі і дае яму грошы, той хавае за пазуху.

### З'ява II

Яська-Воўк — высокі, худы, у доўгіх ботах, у штанах з грубага сукна. Шэры сурдут, не па-зімоваму, рудаваты. У руцэ кій з жалезным канцом. Пазнаць Яську цяжка.

Яська. Пахвалёны ў хату!

Усе. На векі вякоў!

Яська. Пані гаспадару і пані гаспадыня! Ласкі вашае прашу, дазвольце гадзінку ў хаце вашай пасядзець... Сагрэюся і далей пайду — доўга дакучаць не буду.

Сымон. Прасімо, заходзьце і пасядзеце.

Кацярына. Зайдзеце, калі ласка, пасядзеце сабе і пагрэйцеся. *(Падае ўслончык, нейкі момант яна і падарожны глядзяць адзін на аднаго.)*

Яська *(сядаючы каля агню)*. Ой, зіма, зіма!

Ляксей. Спытаў і я гэта сянні, як з мястэчка ехаў. Вецер такі, што здэцца, ўхопіць за вушы дый панясе на край свету...

Яська *(жартам)*. Асабліва, калі чалавек з голаду лёгак.

Сымон. Мо есці хочаце?

Яська. З'еў бы, пэўна, што з'еў бы, але не ўзяў нічога на дарогу... Два дні ў дарозе. Т-фу! Што гэта я, памяць адмерзла, ці што? Два тыдні ў дарозе. Іду ды іду, шукаю, што згубіў... Не ведама толькі, ці згуба тая знойдзецца?

Сымон. Кацярына, маеш што есці?

Кацярына. Таўканіца з макам.

Яська. Чалавек заўсёды нешта губляе, а пасля...

Кацярына *(падае страву, хлеб)*. Ешце, калі ласка, чым хата багата.

Яська *(да гаспадара)*. Не гневайцеся, але прастыў я, каб чарачку... чарачку...

Сымон. Кацярына, дай гарэлкі. *(Кацярына ставіць бутэльку. Сымон налівае і п'е да госця, затым налівае яму.)* На здароўе!

Яська *(прагавіта бярэ чарку)*. На шчасце!

Наста *(падыходзіць да стала)*.

Сымон *(да Насты)*. Пі! *(Наста п'е з ахвотай.)*

Сымон. Здалёк?

Яська. З прус.

Сымон. Пан немец?

Яська. Іду з немцаў. Чуў, што добра плацяць на фабрыцы, дзе палотны робяць... Мулярскую работу ведаю... Абы зарабіць, абы жыць...

Рыгор. Беднаму чалавеку гэта так...

Яська *(перастаючы есці)*. А жонка вашая, пане гаспадару, ці жыве?

Наста. Даўно ўжо памерла, з дзесяць гадоў як памерла нашая Крыстына.

Яська. Памерла... А вас, цётка, Настай зваць?

Наста. У імя... А вы скуль ведаеце?

Яська *(да Сымона)*. А даўно гэтую хату пабудавалі?

С ы м о н. Хата старая, толькі падрубіў я яе ды вокны выразаў большыя.

Я с ь к а. Я ж гэта і гляджу...

Р ы г о р. Ці ж вы калі былі тут?

Я с ь к а *(не адказваючы)*. Дык старой няма ўжо... І Ясюка няма?

С ы м о н. Якога Ясюка?

Я с ь к а. Ха! Якога! Трэцяга сына вашага, пане гаспадару...

Р ы г о р. Ці вы тутэйшы, што так ведаеце ўсё?

Н а с т а. Мусіць, вы знекуль тут... зблізку. Былі тут калі, былі?

Я с ь к а. Ну, быў, быў! То й што, што быў. *(Спакойна.)* Наймаўся тут за работніка, калі двор будавалі.

С ы м о н. Даўно тое было. Можа, гадоў з дваццаць.

Я с ь к а. Так, гадоў дваццаць...

Н а с т а. Нешта мне як у вачох марочыцца, не то, здаецца, знаю вас, не то, здаецца, зусім не знаю.

С ы м о н *(неяк ажывіўшыся)*. І мне тое самае... здаецца, што вас знаю, то і зноў... *(Углядаюцца ў яго. Падарожны раптам устае і адыходзіць да печы.)*

Я с ь к а *(да Ганулькі)*. Ты дачка гаспадарова?

Г а н у л ь к а. Ага, дачка.

Я с ь к а. Самая малодшая, бо цябе не знаю.

Г а н у л я. Ага! *(У гэты момант Наста выпівае чарку. Сымон сядзіць апусціўшы голаў.)*

Л я к с е й *(да Яські)*. А аб разбойніку Ваўку ці не чулі чаго, па свеце ходзячы?

Я с ь к а *(памаўчаўшы)*. Чаму не чуў? Чуў! Усе аб ім цяпер гавораць...

Л я к с е й. А як думаеце, дзядзька, зловяць яго ці не зловяць?

Я с ь к а *(спакойна)*. Можа, зловяць, а можа, не зловяць.

Л я к с е й. Калі не зловяць, усім бяда будзе, пісар казаў.

Р ы г о р. Мне цікава, як гэта ён з турмы ўцёк? Гэта ж муры! Хіба птушкай трэба быць, каб уцячы! Хіба сцяну зубамі прагрыз?

Я с ь к а. Ды не.

Р ы г о р. А як жа? Каб і краты падпілаваў, дык бы, скокнуўшы, забіўся.

Я с ь к а. Ён і не скакаў, касцей не сабраў бы... Ён...

Кацярына (*падыходзячы да яго шчыльна і гледзячы ў вочы*). Ну, а як жа? Скажы, як ён уцякаў?

Яська (*таксама нібы вывучаючы яе вачамі*). Як? А праз кватэру начальніка, во як!

Кацярына. Праз кватэру начальніка? Нешта цяжка паверыць, ці праўда, хутчэй, дапамаглі яму.

Яська. Дапамаглі, праўда, дапамаглі, знайшліся людзі... Малады ён яшчэ быў тады, як першы раз уцякаў, а пасля, го! Навастрыўся! Малады ён быў тады, не такі, як во я зараз. Ха-ха-ха!

Сымон. А ты скуль ведаеш, як там усё было?

Рыгор. Гэта праўда! Скуль ведаеш!

Ляксей. Нешта, вашаць, надта ўжо добра ўсё ведаеце аб гэтым Ваўку.

Наста. Можа, вы, міленькі, бачылі яго калі?

Яська (*раптам сцішыўся*). Ды дзе ж бы я яго бачыў? З нямеччыны іду. Людзі баялі, чуў. А бачыць — не!

Ляксей. А шкада, бо і нам сказалі б, як ён выглядае.

Яська. Чуў... казалі: нізкі, лысы. Навошта вам ведаць, як ён выглядае?

Ляксей. Лягчэй было б злавіць. А злавіў бы, сам бы скуру сваімі рукамі здзёр бы з плячэй!

Яська. Фэ! Такі малады, а ўжо скуру збіраешся здзіраць з людзей!

Ляксей. Шкадаваць такога, га-га-га! Няхай людзей не забівае!

Алёнка. Ды не крычы ты, Ляксей, дзіця пабудзіш!

Ляксей. А буду крычаць! Каб яму дабра не было!

Гануля. Ой! Можа, і цяпер забіваць пачне!

Наста. Няўжо ж! Каб яму косці пакруціла!

Рыгор. Пабярэ сабе кампанію дый пачне коні выводзіць.

Ляксей. Не дачакаецца! Кат яму як улепіць з дзвесце бізуноў!

Гануля. Ой, ой!

Аленка. Ой, ой-ой!

Наста. Дзвесце бізуноў! Гэта з ліку збіцца можна! Навошта яму было на свет нарадзіцца такому!

Кацярына. І яго ж калісь матка на руках сваіх насіла, галоўку цалавала!

Рыгор. Загаласілі, што зладзюга бізуноў дастане!

Наста. Ці вытрымае!

Л я к с е й. Вытрымае! Яшчэ ў ланцугох на канец свету пойдзе!

Г а н у л я. Я б утамілася, не вытрымала!

С ы м о н. Годзі! Справядліва! Над такім і бог найвышшы літасці не загадаў! Ці ж то нявінныя людзі на тое гаруюць, каб яны іхным дабром карміліся і паіліся? І каб для такіх ніякае кары не было? Няможна, ніяк няможна! Годзі!

Я с ь к а *(пільна дагэтуль услухоўваючыся)*. Годзі! Добра вам, пане гаспадару, казаць: годзі! Але ці годзі таму, каго, як ліхога звера, па свеце ганяюць, каб, дагнаўшы, на горкі яблык збіць? Гэта ўжо ён толькі сам ведае сабе, увесь свет і дзень, калі нарадзіўся, праклінаючы. І ніводная матка не ведае, каго там, у калысцы, калыша. *(Падыходзіць моцнымі крокамі да стала, зноў п'е гарэлку.)* Годзі! А ці вы ведаеце, як той Воўк у бяду пайшоў? Можа, першы раз за такое глупства, а можа, і за справядлівасць?

С ы м о н. Кожнага чалавека няшчасце спаткаць можа, але той найгоршы, хто людзей забівае.

Я с ь к а. Найгоршы! Кожная душа мае сваю падшыўку, толькі ў аднаго выйдзе яна наверх, а ў другога не выйдзе! Найгорш! Калі чалавек паслізнецца ды, як свіння, у бруд улезе, ці ёсць хто, каб злітаваўся ды на сухое месца вывеў? Ніхто і не абернецца, а часцей пхнуць яшчэ нагой — ляжы! Той і пачне кусацца — цэлы свет яму вораг, не, дык добра! Калі так, дык так! Калі на дарозе стаіш, як ловяць...

Момант усе маўчаць.

Л я к с е й. Эй, пане! Нешта вы занадта разбойнікаў бароніце!

Я с ь к а. У цёплы кажух улез, дык табе і добра! А да таго, з якога, можа, зараз скуру знімуць, ніякай літасці мець не трэба?..

С ы м о н. Не трэба!

### З'ява III

Д з в е д з я ў ч ы н ы з вёскі. У руках — калаўроты. Агульная гутарка, смех.

Я с ь к а *(да старой Насты)*. Скажэце, цётка, ці аб Яську тут ужо зусім забыліся?

Н а с т а. Ды каб я веку свайго не дажыла, каб мне

рукі, як тая вярба, павысыхалі, калі я аб ім забылася, аб Ясючку сваім даражэнькім, аб саколіку бедненькім. Ой, бяда яму выпала, бяда! Каб ён праз зямлю прайшоў, як ён самога сябе загубіў!

Я с ь к а. Не праклінайце, цётка, ён і так прапаў!

Н а с т а. Бедная ж і матулечка яго, Крыстына, пляменніца мая. Не вытрымала гора ды суму!

Я с ь к а. Не вытрымала? Ну, а бацька як?

Н а с т а. Стары суровы быў да яго, божачка, які суровы! Не стрымаў саколік мой, уцёк і загінуў, мусіць, загінуў! Ні разу не пашкадаваў бацька, ні разу!

Я с ь к а. Ні разу? А чаму ж тады ўнука свайго Яськам назваў? Ой ты, старая бабулька, нічога ты не разумееш!

Н а с т а. Скуль гэта вы ўсё ведаеце? Во, зноў мне здаецца, ці я вас бачыла калісь, ці я вас не бачыла. *(Яська адыходзіцца ад яе, да Кацярыны.)*

### З'ява IV

Д з я ў ч ы н а, увайшоўшы, крычыць.

Д з я ў ч ы н а. Ратуйце, дзяўчаткі, калі сэрца пад кашуляй маеце! Хлопцы ідуць! *(Чуваць у сенцах шум, галасы, тупат мужчынскіх ботаў.)*

Д з я ў ч а т ы *(разам)*. Хутчэй, хутчэй зачыняйце дзверы, не пускайце! Зараз лён паліць будуць! Людцы, ратуйце!

Рух, бегатня, крыкі: «Не пускайце! Мы іх не хочам! Нам і без іх добра!»

Н а с т а *(падбягае)*. Пускайце! А гэта ж якая мода, каб на вечарніцы хлопцаў не пускаць! Завошта ж вы іх, галубкоў, на марозе трымаеце? *(Адчыняе дзверы.)* Хадзеце, хлопцы, хадзеце!

### З'ява V

Х л о п ц ы.

У л я н а. Лі ваду! Лі!

Х л о п ц ы. Добры вечар! *(Гаспадар не адказвае. Хлопцы адыходзяць да дзяўчат. Адзін з хлопцаў хоча падпаліць кудзелю. Зноў голас.)*

Хлопец *(да дзяўчыны Уляны)*. А, будзеш людзям пад ногі ваду ліць!

Пачынаецца вечарніца. Песні, жарты. Задаюць па чарзе загадкі.

Загадкі:

1. Дзірак багата, а лезці некуды? *(Сеці.)*
2. Бочка стогне, а баяры мёд п'юць? *(Свіння і парасяты.)*
3. Бегала ліска каля лесу блізка, ані яе дагнаць, ані следу спазнаць? *(Сонца.)*
4. Усе паны паздзелі штаны, толькі ўтрох — не. *(Сасна, ёлка, еленец.)*
5. За цёмным лесам белы бярэзнічак? *(Зубы.)*
6. Кіну не палку, заб'ю не галку, скубу не пер'е, ем не мяса? *(Рыба.)*
7. Красулька чарнульку ліжа? *(Агонь.)*
8. Ляжыць Ася (Рася, Кася), прасцяглася, як устане, неба дастане? *(Дарога.)*
9. Ляцелі белыя гусі, крыллі русы, ды нельга з іх па пёрку вырваць? *(Снег.)*
10. Мясная бочка, залаты вобад? *(Пярсцёнак.)*
11. Паміж авец стаіць чорны баранец. Поўны хлявец авец, адзін баран блеець. *(Поп у царкве.)*

Пасля Наста пачынае ў адным куце казку. Іншыя спяваюць. Ляксей згаварваецца з хлопцам напужаць.

Ляксей. Пачакай! Перапужаліся бабы казкі. Я ж ім горшага пуду наганю. *(Ідзе ў сенцы і праз нейкі момант варочаецца раптам.)* Людцы, ратуйце! Разбойнік Воўк ідзе, во прыйшоў ужо — з нажом, з вострым! *(Перапуд, бабы і дзеўкі хаваюцца адна за адну. Падарожны, які стаяў каля печы, як апараны зрываецца з месца і бярэцца за кій. Гэта заўважыла Кацярына.)*

Кацярына *(хапае яго за руку)*. Ясь!

Яська. Кацярына!

Кацярына. Ой, жывы, ты? Божа ж, які ты няшчасны, Ясь!

Яська. Няшчасны, гэта так... Я — Воўк!

Кацярына *(падае, яе бяруць на рукі, Ясь каля яе. Пярэпалах нейкі момант)*. Млосна мне, спужалася, дайце вады! Нічога, лепей ужо!

Рыгор. Можа, ты і папраўдзе ўбачыла яго, Ваўка таго, га?

Кацярына. Не, гэта ж жарт! Ляксей пажартаваў! Нічога ўжо.

Памалу ўсе супакойваюцца. Спевы. Схамянуўшыся, Яська садзіцца ля парога. Стары Мікула падыходзіць да яго, углядаецца.

Сымон (*шэптам*). Хто ж гэта ты такі? Хто?

Яська (*з-за бочкі голасным шэптам*). Тата, татачка!

Сымон (*адступаючы*). Ва імя... Ва імя... Што ж гэта? Сыночак!

Яська. Татачка! Гэта я, я, твой Яська! Гэта я — Воўк, наблукаўся, адпачыць прыйшоў... Не жыць мне ў гэтай хаце роднай, не жыць!..

Сымон. Сын мой, сын мой! Ці ж гэта ты — Воўк, душагуб?

Яська. Татачка! Не даруеш, не даруеш, чуў я словы твае, татачка! А памятаеш ты, татулечка, той дзянёк летні, калі ты ўгару ішоў, сетку з рыбай нёс, а я за табой босы бег, па пяску скакаў? Я ж сын твой, сялянскі сын! Толькі праз турму, праз пакуту, праз злачынствы я пабачыў свет і сябе пазнаў... А цяпер... ты сам сказаў, даравяць няможна!

Сымон. Няможна, сынку, няможна! (*У гэты момант, згаварыўшыся, падыходзяць Рыгор, Ляксей, іншыя хлопцы.*)

Ляксей. А пашпарт, пане, маеш? Пакаж, пашпарт.

Рыгор. Цяпер без пашпарту нікому няможна на свеце хадзіць.

Галасы. Можа, ты немаведама хто!
— Можа, ты Воўк той самы!

Яська. Я ж для вас... Я нічога благога вам не зрабіў! Пусцеце мяне!

Рыгор, Ляксей. Ого! Дык зробіш! Вяжы яго! (*Яська кідаецца за кіем, яго скручваюць.*)

Ляксей. Дык ты такі! Заместа пашпарту жалезную кульбу паказваць! Го-го! Добры ты птах, Воўк праўдзівы!

Галасы. Вяроўку давайце, бабы!
— Лейцы сюды!

Клапоцяцца каля яго. Наста, не чуючы, як праз сон, гаворыць: «Мяне браты забілі, пясочкам пасыпалі...»

Яська. Пусцеце мяне, людзі добрыя, пусцеце! Вы-

падкам зайшоў да вас, пагрэцца, адпачыць... Там ганяюцца, як харты за лісамі... Там, людзі добрыя...

Кацярына (*да мужа*). Сэрца ў вас няма! Пусцеце!

Рыгор. Іш, добрая знайшлася! Пачакай!

Сымон. Годзі! Пусцеце яго! Пусцеце, кажу вам! (*Сыны не адразу адступаюцца, затым вяроўкі спадаюць. Яська падбягае да Сымона, падае да ног.*)

Яська. Татачка, мой татачка!

Сымон. Ідзі, ідзі і не грашы супраць людзей... Ідзі... зловяць...

Яська (*ускочыўшы, аглядаецца ў суме і болі*). Няможна тут, і памерці няможна! (*Хутка выбягае.*)

Кацярына (*усхліпваючы, адыходзіць у кут*). Няшчасны, няшчасны які! Хоць бы не злавілі!

Сымон. Сынок мой, сыночак! Ясечка мой! (*Валіцца на лаву.*)

*Заслона*

*Канец*

*1930 г.*

## БЕЛАРУСЬ

Любы край мой, родны край,
Лес, пясок, суглінкі,
На палосках, так і знай,
Вецер гне былінкі.

Ўсё знаёмае датла,
Ельнік ды асіны,
На балоце, ля жытла,
Спеюць журавіны.

Мілы сэрцу ты майму,
Родны край убогі...
Сам не ведаю чаму
Я люблю дарогі.

Ўздоўж дарог пайшлі шляхі
Аж да павароту.
Скрозь лясы, лугі, імхі,
Дываны-балоты.

Вунь алея стромкіх ліп,
А далей — таполя.
Чуцен колаў нудны скрып,
Жыта звозяць з поля.

Пэўна, скончылі жніво,
Вунь ідуць дзяўчаты.
З песняй ціхай і жывой
Цягнуцца да хаты.

*1918 г.*

## З ДАЛЁКАГА ТЫЛУ

Насупраціў ладны швейцарац вакол пазірае з балкона.
Аконны балкончык. Падушачка, кветкі — прытул!
А вышай пад дахам сядзіць на карнізе варона.
Абодвум някепска, бо што ім сусветны разгул!

І роздум мяне ахапляе, як гляну на іх нечакана,
На гэтых абедзвюх істот.
І так пацягнула дадому, дзе Саўкі, Іваны ды Ганны,
Дзе ў кветках паляны, дзе аер, бярозкі, чарот!
Ды так узяло, што дзіцячыя модлы гатоў бы шаптаць,
І нейкага цуду, пракакаў, месію чакаць,
І, вольны у думках здаўна, гатоў быў усклікнуць: асанна!

Ды дзе там! Які тут паможа бяссільны месія!
Вар'яцтва, зларобства павектрам найшло на людзей.
Нямеччына, франкі, цары, прэзідэнты, стыхія
Зліліся у згустак гвалтоўных падзей.

Сумесная праца стагоддзяў, шуканкі, мастацтва, навука,
Калоны, сaборы, музеі — усё паскідана далоў!
А ўсе вы, здаецца, складалі у крыж свае рукі,
Крыжом бласлаўлялі, здаецца, на бойку братоў!
Зладзейскага брата нашчадкі, маўляў — каініты,
Адзін на другога ідуць забіваць, валадаць,
А там — хай руіны і стогны, і кроў... Трагладзіты!
Ці знойдзецца хто, каб вас, братазабойцаў, стрымаць?
О час вар'яцення! І як развязацца з табою?
О любыя людцы! О дзеткі! О сэрца ў грудзях!
Слязіны цякуль за свой край, за ўвесь свет з неспакою...
Сяджу у тылу і мару аб будучых днях...

*Берн. Першыя дні вайны 1914 г.*
*Рэдагавана ў 1964 г.*

## БРЫЕНЦ

*(Швейцарыя)*

Грамады гор на фоне сінявы
Стаяць задумлена пад белаю лавінай.
Бліжэйшая між іх, Рот-Горн сівы,
Як дзед ласкавы, над нізінай...

І возера, як Беларусі вока,
Прываблівa глядзіць, чакае твайго кроку.
Яму усё адно: эпоха, тыдзень, год —
Нібыта ведае, што прыйдзе твой чарод.

На беразе прыгрэўся гарадок.
Над ім шале [1], як гнёзды па узгорках.
Як сцежка срэбная, бяжыць-гудзе паток,
Хоць Гісбах-вадаспад увесь ў мастках-падпорках.

Зубчатка змейкаю паўзе на высату.
На ёй вагончыкі з турыстамі Рот-Горна.
Гара прыручана: чакае іх пакорна.
Пяць франкаў за білет, каб мінаваць чарту

Лясоў. Паснедаць на балконе
Гасцініцы. Адтуль глядзець вакол
На Альпы снежныя, на гарадок, на дол
Або, не гледзячы, адпачываць на ўлонні.

А ты, студэнт, білета не узяў,
Падняўся на гару за пяць гадзін без мала.
Нішто! Затое хараство ўвесь шлях цябе вітала,
Хоць збіўся пульс — ты ледзь яго суняў!

І стала добра так ад блізасці прыроды.
Яна адзіная красуня: над Дняпром,
Над Нёмнам, Гісбахам... І ўжо ты пішаш оды
Жыццю і хараству нябачаным пяром!

*Брыенц на возеры.*
*Лета 1914 г.*

---

* *Шале* — хаткі пастухоў.

## АПОШНЯЕ ДАРУЙ

Само сябе што і не чуеш, мора!
Ці прывітаю я твае хваліны зноў?
Бязбераражжа твае абшарнае прасторы
Ці дасць калі прытул выгнанніку гадоў?
Ад гэтых сініх вод павінен я далёка
Падацца, аж туды, дзе шапацяць лясы,
Дзе шэпчацца з лазой над возерам асока
Ды па шнурах калышуцца аўсы.
Мой родны край мяне гукнуў да працы,
Як шмат каго з раскіданых сыноў,
Каб з крыўдаю старой ды цемраю змагацца,
Каб край ажыў, расквеціўся заноў.
Вось я гатоў! Ўжо кайстра за плячыма,
Ужо ў руцэ мой падарожны кій;
Але... ты зіхаціш прад слёзнымі вачыма,
І ногі мне сякуць пад пенай круглякі!
Ты ззяеш золатам. Твае нясуцца спевы,
Гаворка дзіўная, адвечны гук вякоў;
І у душу маю сумлівыя навевы
Ідуць чаргой, як цені аблакоў...
Усё цікавіць зрок: пахілыя хібаркі,
Чаўны, што заляглі на брэзе адпачыць,
Як самавітыя, бязмоўныя таваркі,
Ды і рыбалка сам, што ў неба тварам спіць.
Дзяўчынка на бягу адкінула сарочку,
А шыйка чорная ўжо пырскі мора п'е;
Браток яе гуляецца ў пясочку,
Далонькай кволаю хвіліну мора б'е.
Няведама яму, што гэта цацка-хваля
Прыйшла здалёк, з паўднёвых берагоў...
Мо пачалася там, з турэцкага партала,
А мо бяжыць з Казбекавых снягоў!
Дзіцятку роўна ўсё: вялікае, малое,
Ці сіні акіян, ці дажджавы струмок —
На ўсё аднолькава б'е сэрца залатое,
На ўсё звініць, як срэбра, галасок!
О мора вольнае! Дай моцы мне душэўнай
Зрабіцца дзіцянём, каб роўна прывітаць
І сініх вод тваіх разгулак песнапеўны,
І тых, з кім прыйдзецца па свеце вандраваць!
Яшчэ навучы любіць бязбераражжа свабоды
Глыбокіх дум, бяздонных, як і ты,

Закаты гэных дум ды новыя усходы —
Нясцішна гаманіць у часе цемнаты!
Вось, я гатоў! Ўжо кайстра за плячыма,
Ужо ў руцэ мой падарожны кій!
Жыві, шумі прад слёзнымі вачыма,
Нясі, глытай каменне-круглякі!
Даруй! Іду у край далёкі, родны,
Бо кліча ён да працы ўсіх сыноў...
Каб толькі мне пачуць і там твой спеў лагодны,
Твой вольны спеў — у гомане лясоў!

*1921 г.*

## НАШ ВЕРШ

Льецца, льецца наш верш срэбраліты,
Смяецца у вочы бядзе і нядолі,
Пануе, пануе над лёсам няволі,
Да волі імкнецца, да волі няжытай
Той верш, самацвет срэбраліты.

Над бурай-віхурай,
Над снежныя наспы,
Ад пушчы панурай,
Ад возера-заспы,
Як грохат пярунны,
Як лірнік шматструнны,
Ён б'е ды спявае,
Як водгук, лунае
Над борам, над хвояй,
Травой-асакою...

Ляціць, як арол, ён, ляціць над аржоннем.
Глядзіць, як бядача над сошкай пануе.
Ён Случчыну, Сожчыну, Дзвінне пільнуе,
Віншуе ад хмараў дняпроўскія гоні,
Ляціць над дажынным аржоннем.

Той верш — як бярозка,
Як красачка лёну.

Ён гнецца, як лозка,
Над рэчкай з адхону;
Ён — сэрцу выгода
У час непагоды,
Калісь ён гаротны,—
Цяпер ўсенародны!..

Ён хлопчыкам бегаў за хатай па мяллю,
Узрос на раллі залатым каласочкам;
Купалле крапіла малога сыночка,—
Вяночкам галоўку прыбрала купалле
Бядулі, што бегаў за хатай па мяллю.

Ён рос, як курганная кветка,
Як рутава краска, ён рос;
Гулялі з ім школьныя дзеткі,
Як школы не цісnуў мароз.
А ўлетку ён жыў, як Сымонка,—
Музыкам задумным ён жыў;
Жалейку прыладжваў звонка,
Па шляху жыцця выхадзіў,
Заводзіў адвечную песню
І папараць-кветку шукаў;
Выходзіў спаткаці прадвесне,
Ды сівер ізноў ашукаў.

Тады ён чакаў у цішы,
Як выгнаны буйла з глушы,
Здавалася, лебедзем пеў
Ды зноў аж да зорак ляцеў.
З ткачыхаю слуцкай ў пояс
Заткаў васілёчкі ураз;
То ўзімку гуляў, як падвей,
Ды хаты заносіў мацней.
. . . . . . . . . . . . .

Прыйдуць ўнукі ўслед за дзедам
На ўспаміны, на пабеды...
Верш прачнецца, срэбраліты,
На купалле пад вяночкам,
Па раллі зноў каласочкам,
Ясакарам ды чаротам
Захістае над балотам.
Песні працы і змагання
Дапамогуць ў развіднанні.

Засмяецца ён з нядолі,
Запануе над няволяй,
Што не вернецца ніколі,
Ды памкнецца да няжытай
Новай працы пладавітай.

*1921 г.*

## ВОСЕНЬ

Вецер, братка,
Адкуль ты дзьмеш?
Адкуль ты песні свае вядзеш?
Чаго так сумна,
Чаго маркотна,
Багатадумна,
А мо гаротна,—
Калі былінку
Да глебы гнеш?
Калі галінку
У крыж жагнеш?

І нейкі ўспомін
З душы ўстае,
Калі ў комін
Лады свае
Зацягне мляўка
Той драматур,
А з дрэва каўка
Зляціць на шнур...

Ах, восень — слёзы!
Цябе люблю,
З вачэй, як лістам,
Краплю зямлю.
Чагось жадаю,—
Жадаю твораў,
Сяджу-чакаю
Нязнаных хораў
І жаўталіста
Сабе лаўлю.

Навокал мжыста,—
Ды я цярплю!

Тады павольна
У нетрах дум,
І слова здольна
Бяжыць на шум.
І рух душэўны
Тады мацней,
І верш напеўны,
Як пан Падвей.

*1921 г.*

## ПАД БУБЯНЦЫ

### 1. ДАРОГА

Гэй вы, вольныя паветры,
Грудзі белыя снягоў,
Беларусі нашай нетры,
Шпаркі коні,— дзілінь-боў!

Парка цугам дзіліньбоміць,
Шэрань шэрстку серабрыць,
А мароз аж санкі ломіць,
Ў палазах адно трашчыць...

Завініся у аўчыны
Ды глытай вачыма бель,
Па калдобінах — пуціны —
Проста ў родную купель!

Як зірнуць, малюнкі пішуць
Сонца, хвоя ды снягі.
Фарбы іхнія аж пышуць,
Нібы таюць ланцугі.

Вольна ў полі! Толькі вузкі
Рэйкі слізкія шляхоў.

Даць дарогу — коням грузка
Плысці ў вір пухавікоў!

Нам насустрач панам едзе
Распрыгонены мужык.
Мы аб'едзем, ён аб'едзе:
Водгук роўнасці вялік!

Ён аб'едзе, але гляне
Вокам вострым на «панкоў».
Як не скажа: «Ці то, пане,
Сталявацца ў вёску зноў?!»

Не пужайся, беларусін,
Мы не грозныя паны:
Едуць ў вёску без прымусін
Гарадскія летуны.

Новай вёсцы на спатканне,
Як браты, імчымся мы
Бачыць школ адбудаванне,
Дзе былі паноў дамы.

Ды каб вашыя паветры
Ў грудзі нашыя ўвайшлі.
Селянін, раскрый жа нетры,
Разгарні свае палі!

### 2. МАЁНТАК

Ноч. Агні. Пад лесам-садам
Прытуліўся гурт сяліб.
Па аголеных прысадах
Цені ходзяць... Скрып ды скрып...

Цені ходзяць ўздоўж аборы,—
Вунь пільнуюць стайні ўход.
Вунь, як нейкія дакоры,
Супыніліся ля варот.

Ці то муры, ці то цені,
Што дае начная сінь,
Што пахмура, ў задуменні,
Нас чакаюць... дзілінь-дзінь!

Нас сустрэлі найперш брэхам,
Сенцы скрыпнулі суздром.
Маразяным, гучным рэхам
Адазваўся «панскі» дом.

Сустракае, прывітае
Мова родная твая.
«Двор» ужо панкоў не знае,—
Тут працоўная сям'я!

### 3. ЁЛКА

Не ў лесе, ды ў залі
У люстрах — крышталі,
Прыбраўшыся ў цацкі-агні,
То ж ёлка-княгіня,
Дзяцінства багіня,
Стаіць, не хіснецца, ані!
Ўжо скачуць малыя,
Рассуньцесь, старыя,—
Паркету, паркету дзяцём!
Тут лёны, тут грэчкі,
А ў вочачках — свечкі.
Мы ёлачцы песню спяём:
«Паміж родных сястрыц,
Ўсіх лясоў вартаўніц,
        Я расла,
        Снег трасла...
Падышоў раз дзядок,
    Мяне, ёлачку, ў бок
        Сек ды сек,—
        Звёў мой век!
— Для каго ж ты, дзядок,
    Мяне, ёлку, звалок?
        — Для дзяток,
        Іх часок...
Дзеткі будуць пяяць.
        — Хто ж лясы вартаваць?
        — Еленкі
        Зеленькі...

Гэтак заля, як бы хаткай,
Стала дзеткам батракоў.
Ой, ягняткі, ой, піскляткі,

Хай пайграе ваша кроў!
Ўжо змарыліся,— дахаты!
Час ля печы адпачыць.
Сёння будуць сны багаты,
Дзеткі будуць «цуды» сніць...

### 4. ПОЛЕЧКА

Елку адсунулі ў кут.
Зараз заскачуць «дзядзькі»,
Цётачкі-«паненачкі» тут,
Аж зіхацяць дзецюкі!
— Ну, хлапцы, пачынай!
— Вальца?
— Кінь, не замінай!
— Польку!
— Дык шкада пальца!
— Табе? Ладзь ляпей скрыпку
Ды смыкам — раз!
— Дзядзька Тарас,
Полечку, шыбка!
Ножкі ў скочкі, вочкі ў вочкі,—
Вось і полечка, браточкі!
А чаму ж нам не скакаць,
Калі ўмеем працаваць.
Бо учора на таку
Было поту мужыку,—
Сёння ж ён ідзе у рад,
Як паркетаў панскіх сват.
Днюе — плача.
Ноччу — скача.
Зноў пацее, небарача.
Хто так здужае скакаць,
Ўлева, ўправа паддаваць?
Як прымае панскі дом
Гэткі топат, дым ды гром!
Стогнуць сцены, столь-крышталь,
Што не быў тут гэткі баль...
На таполях крумчакі,
Тут у залі веснякі.
Трум-та, трум-та, скок ды скок,
Весяліцца свой браток,
Ядзя з Янкі нібы кпіць,
Костусь з Ганкаю муціць,

А у дзядзькі Міхася
Дыбам поўсць, як у ляся.
Ножкі ў скочкі, вочкі ў вочкі,
Гэта ж полечка, браточкі! —
Хто умее працаваць,
Ці ж не здолее скакаць?!

### 5. ЗОРКІ

Над домам, над лесам
Сузор'і, як вочы, гараць.
Пад гэным бязмоўным навесам
І тыя, ўначы што не спяць,
І тыя, што спяць непабудна,
Што рвуцца, што ходзяць марудна,
Сузор'і гараць і гараць!

Пад імі гумно і прысады,
І гэны пануючы дом,
І пекны дрантон, каланады,
І снег за пабітым акном,
І гэтае белае поле,
І гэтая снежная воля,
І коней далёкіх — бом-бом!..

Пад імі, што тут панавалі,
Пад імі, што верх узялі,
Што ў пекнай асвечанай залі
Віншуюць свае мазалі.
Усё крыюць спрадвеку сузор'і:
І могілак цьмяныя ўзгор'і,
І наспы на белай раллі.

Гарыце, сузор'і, гарыце
У гэты таемнасці час!
Аб лепшым аб чымсь варажыце,
Каб злучнасці вугаль не згас,
Каб бубны аб вольнасці білі,
Каб сцягі трымалі, насілі,
Каб людзі цягнуліся да вас!

### 6. ЗВАРОЧАННЕ

Зноў на коні, зноў на сані!
У грудзі белыя снягоў!

Паздарова, вёска-пані,
Развіталіся: боў-боў!

Вонках хаткі і сялібы,
Збудаваныя наноў;
Дахі вышай, болей шыбаў —
Дар сваіх кіраўнікоў.

Цераз белыя паляны
Зараз ўедзем ў хвойны бор.
Як на свята, ён прыбраны,
Сонца з снегам тчэ узор.

Ў дарагіх княжацкіх шатах
Елкі важныя стаяць.
Іх выгляд якісь калматы,
Сном зімовым яны спяць.

Лес прыбраны, усыплёны,
Закаханы у зіму,
Снегам, цішай паланёны,—
Змаляваць цябе — каму?!

Ехаць, ехаць так бясконца,
Слухаць кволыя званы,
Праз чароўныя аконцы
Бачыць казку, як яны.

Лес глыбокі, лес спрадвечны,
Ты чаму кароткі стаў?
Казка снегу, сон баечны,
Што так хутка ты прапаў?

Горад, крамы. Людзі, людзі,—
Фабрык, гандалю сыны...
Ўжо не поле,— цісnуць грудзі
Вулак гулкія званы...

*1922 г.*

## МАЙСКАЕ

Сёння песні мае
Як лятуць ад душы,—
Ці то голас глушы,
Ці то вочкі твае?
Да душы, мне так добра, так хараша мне,
Мо затым, што учора сніў вочкі твае.
Дзве таполі ў ваду
Ўжо глядзяць весялей,
Стала траўка буйней,
Як па сцежцы іду.
Я спаткаю, знайду, каго сніў я не раз,—
Гэта май, гэта май! Мо і мой гэта час!
Я і сцежку знайшоў
На спатканне Вясны.
А з маёй сівізны
Кпіць натоўп матылёў.
Кажа возера мне: ты у люстра зірні
Ды разгледзь там сябе, ды дадому звярні.
Я вярбу абхапіў,
Галіны разгарнуў
Ды у люстра зірнуў,
Як бы сам з сябе кпіў,—
А на тым беражку хтось ад сэрца пяяў!
А на тым беражку хтось ў вяночку стаяў!
Сівізна, сівізна!
Ці цябе утапіць,
Каб з табою не сніць,
Як смяецца Вясна? —
Але май, але май, але яблынь ў квяту!
Я ж пялёсткі яе ў свой вянок упляту.
Я у смяглы вянок
Прамінулых гадзін
Той пялёстак адзін
Упляту, як лянок,—
Мо ад кветкі тае, ад дзіцяткі Вясны,
Набягуць на мяне счараваныя сны!
Хай жа вочы мае
У твае зазірнуць,
Каб нам разам глынуць
Асалоды тае!
Паглядзі, паглядзі, як глядзяцца ў ваду
Дзве таполі вось тут, і скажы: я прыйду!

*1922 г.*

## МІЖ ЖЫТА, НА МЯЖЫ

Між жыта, на мяжы — учора, толькі ўчора,
Хто жыта тое зжаў, хто узараў мяжу?
Падсыпаў хто туды званцу і гірсы-гора,
Прымусіў хто мяне падліць слязін-дажджу?

А ўчора: колькі слоў і смеху без прычыны
Ад вуснаў ў вусны йшло, нібы вясновы сок!
І колькі я разоў глядзеўся ў азярыны,
Як пацалунак бег, як хваляваўся зрок...

Персідскім дыванам здавалася нам глеба,—
А пацалунак бег; за ім спяшаўся я.
Па жыту хвалі йшлі, было у хмарах неба,
Але спрыяла нам таксама, як зямля!

І даравала ты, і першы пацалунак
Пасля нямых пагроз, як птушка, ціха сеў...
Дзявоцкіх пільных дум ён быў як паратунак,
Як бы прасіць мяне аб нечым ён хацеў...

Ляжала кніжка тут — нявольніца спаткання,—
Так ухвалілі мы, калі у жыта йшлі,
Але цікаўны том раскрыла нам каханне,
І колькі ў ім паэм пякнейшых мы знайшлі!

Ці ж выгін вуснаў тых не лепшыя два вершы,
З чырвонай літары пачатак вечных слоў?
Сачыстых рытмаў гук: «Ты першы, мілы, першы,
Што косы у вянок так непрыметна сплёў!»

Хацелі плакаць мы над жудасцю, над горам,
Што бог, кахання бог, праз нас дае другім,
Але прырода ўся нам пела ў вушы хорам,
І месца не было ля нас слязам благім...

А сёння я адзін. І могілкамі сталі
І хмаркі ў вышыні, і людзі, і сады...
Дзе ўчора нашае? Дзе вусны, што шапталі? —
І зноў замест «мы» — асобна — «я» і «ты»...

*1922 г.*

# НАД КАЛЫСКАЙ

*(Балада)*

*Першаму дзіцяці нашаму*
*прысвячаю*

I

Родная дзетка расце на вачах,
Новае нешта сягоння гавора,
Скардзіцца неяк пра ўласнае гора...
Столькі выразу у сініх вачах,
Клопату столькі на гэтых плячах:
Людзі вялікія — чыстае гора!

Хочацца есці,— чакаюць чагось!
Чуюць жа, чуюць выразнае: «гі-гі»,
Бачаць жа, бачаць з трох пальчыкаў «фігі»,—
Пальчыкі ясна іх склалі, нябось...
Маці згарнула, кладзе наўскос,
Раптам цалуе на вусначках мігі...

— Аа-ае, Росцінька,
Ляжы, лялька, просценька...
Люлі, люлі! Жыў каток,
Меў вусаценькі раток.
За вусамі зубачкі,
Вушкі — нібы трубачкі,
Свеціць вочкамі ўначы,—
Спі, Расточак, памаўчы!
— Гі-гі-гу-а-гіа-нне!
— Хто «не», коцік? — Гіа-мне!

Плача малое, натужна крычыць,
Хоча парваць павівальныя путы:
Ножачкі, ручачкі складзены, скуты.
Вочкамі пільна за маткай сачыць,
Так і здаецца,— пад грудзі ўзляціць,
Але ж на крыллях пялюшкі і путы!

— Хэа-хэа-ва-ва-ллі...—
Нейкая дзіўная-дзіўная мова,
Першыя птушачкі вольнага слова,
Гутарка, продкі якую вялі
Можа, дзе-небудзь на гэтай раллі,—
Спадчына першага дзікага слова...

Дагістарычны паўзверавы рык
Чуецца часам скрозь гэныя гукі,
Першае злучнасці смутныя мукі,
Першае любасці радасны крык,
Малпаў, нам кроўных, цікавы язык,
Прапраславянскія мяккія гукі...

— А-а-мма-а-нна-а-лле...—
З маткаю ў спрэчку малое ўступае,
Звольненай ручкай паветра хапае,
Раптам усмешку-чырвонец дае,
Плечкі ўздымае, вось-вось устае,
Просіць і грозіць, увагі чакае...

— Люлі, люлі. Жыў каток,
Хадзіў, шэры, у садок.
У садочку птушачкі,
Мышачкі-звярушачкі
Коціка спужаліся,
Раптам пахаваліся.
Верабейка скок на плот,
А сарока крыллі ўлёт.
Мышка за цаглінaчку,—
Толькі бачыў спіначку.

Сеў на павекі, на жылачкі сон.
Вусны частуюць апошняй усмешкаю,
Свеціць галоўка, як золатам, плешкаю,
Твараў вялікіх над ёй парасон:
Ёй ў абарону, як волат Самсон,
Бацька і маці схіліліся з усмешкаю...

II

Ночка сівая пад небам вісіць.
Сціснула подыхам антыцыклону.
Шэрань на дрэвах, як пасмачкі лёну.
Поўнач мінулася. Дзіцятка спіць.
Нешта пад чэрапам мякенькім сніць —
І усміхаецца антыцыклону.

Спіць і не ведае шэптаў благіх:
«Кажуць, яе і дагэтуль не ксцілі...
Кажуць, ні поп і ні ксёндз не крапілі...

Але ж бацькоў ахрысцілі самі̇х!
Нейкая новая вера у іх,—
Кажуць, па-новаму неяк аксцілі...

Кажуць, чырвоны з дзяцёнкам стаяў,
Папрыбіралі куты у партрэты,
Пілі ўсе разам квасень перагрэты...
Смолкай курылі, а больш ы пяяў,
Адылі раптам дзяцёнка узяў
Ды абышоў усе чыста партрэты».

III

Поўнач мінаецца шэптаў благіх.
Месяц спыняе свой тварык над хаткаю.
Хто там на Месяцы з чорнай лапаткаю?
Гэта ж паўзберажжы мораў сухіх,
Гэта ж і горы і схілы на іх,—
Kроўныя з нашай зямелькаю-маткаю...
Сінія вочкі на месяц глядзяць.
Месяц маленькі гуляе у зрэнках,
Месяц у беленькіх хмарачках-пенках.
Цягнецца ручка, каб месяц забраць:
Добра, каб з небам у хатцы гуляць!
Спрытнасці хопіць на чорненькіх зрэнках.

IV

Так. Праз зімовую сінюю здань
Ясна прырода малога жагнае,
Ў яснай, адвечнай купелі купае.
Як бы гаворыць: прачніся, устань,
Ў ясныя, зорныя вочы заглянь,—
Маці-прырода твой шлях асвятляе!

Вырасцеш, выбераш веру сабе —
Веру у вечную волю прыроды.
Вольнай навукі пазнаеш выгоды,
Будзеш удзельнікам ў гэтай сяўбе,—
З цемраю пройдзеш свой шлях ў барацьбе,
Моцнае дзіцятка моцнай прыроды!
Сонца хай патэрам будзе для нас!
Росныя травы — хай будуць крапілам!
Хвойныя пахі — нязменным кадзілам!

Свечкамі — Зоркі; між іх: Валапас,
Рэя, і Рыбы, і Ружа, Пегас...
Прага да ведаў — і звонам і білам!
Псалмамі — гімны чакання вясны,
Майскае свята і провады лета,
Спевы кахання, чым сэрца угрэта,
Жоўтаму полю паклон паясны
Хай ахвяруюць дачушкі, сыны,
Іншых ахвяр хай не знае планета!
Бібліяй будзе прыроды закон,
Будуць прарокамі людзі навукі:
Іх падтрымаюць мазольныя рукі.
Будуць «дзядамі» лічыцца Ньютон,
Лейбніц, і Дарвін, і Маркс, і Бекон,—
Іх святкаваць будуць з часам унукі!

## V

Раніца. Дзетка бяздумная спіць,
Месяц схаваўся, і гасяцца зоркі.
Хто ж гэта твар паказаў з-за узгорка?
Хто гэта ледзь кругавід залаціць?
Воран схапіўся, на здобыч ляціць.
Ў небе вісіць адзінокая зорка...

— Аа-мма-а-нна-а-лям...—
Раптам прачнулася. Вось пазяхае,
Пэўнай увагі ад маці чакае.
— Зараз малому я естачкі дам! —
Грудзі малому — і вера і храм:
Тут яно веры вякоў пагаджае,
Тут яно жыцця закон выканае.
Гэтымі гукамі: «мма-а» і «лям»
Нас яно ўводзіць у лепшы той храм,
Людскасць куды уваход пачынае!

*1923 г.*

## РОДНАЯ ПУШЧА

*(Паўстанцкая. На матыў — «Славное море»)*

Родная пушча, здарова бывай!
Пушча старая — паўстанцаў ахова:
Ноччу абходзім мы слонімскі гай.
Ціха, малойцы,— умова!

Плыткая Шчара — не межа для нас.
Хутка ўжо, хутка дзяржавы граніца.
Моцна гранаткі трымае пояс.
Добра пад хвойкаю спіцца!

Досыць пужалі мы гэтых панкоў:
Проці паўсотні пяць тысяч наслалі.
Раз абкружылі з усіх нас бакоў,
Але ж мы жару паддалі:

Пане палкоўнік у Несвіж уцёк,
Тыдзень дрыжаў навагродскі староста;
Можа, спаткаемся з вамі, панок,—
Дык пагаворым папросту!

Доўга бадзяліся мы па палёх,
Спалі на мэтліках, спалі пад стогам;
Хай пасумуе халодны астрог —
Хутка канчатак трывогам.

Сцежкай правёў нас стары селянін —
Вось праз балота на тыя лясочкі.
Тут падзяліліся мы на адзін
Ды развіталісь, браточкі.

Блізка, ўжо блізка... Ды згледзеў якраз,
Стрэліў, сабака, мне шлях замінае...
Кінуў гранатку яму я ў адказ:
Вось ён ляжыць і канае...

Досыць пакуль што пужаць нам панкоў,
Досыць старосты пазналі увагі.
Вось нас з усіх абкружаюць бакоў
Вольных чырвоныя сцягі!

*1923 г.*

## МІЛЬЁН

*(Балада)*

### I

Чорная ночка.
Бялёткі снег.
Ні хаты, ні хлявочка,
Ні жартаў, ні пацех...
Эх, прытулі сыночка.
Эх — грэх, эх — грэх!

Дык жа на ўсім свеце
Вецер, братка, вецер,
Завіруха круціць.
— Хлопцы, спрытны будзьце!
Збіў саўсім падноску,—
Каб на вёску, ў вёску!

### II

Вёска ці маёнтак...
— Ану, адчыняй,
Пакідай ложка!
А з хаты хрыпіць вонках:
— Пачакай, пачакай трошку...

— Матка боска,
Колькі іх, колькі! —
Шэпча старая,
Дзверы адчыняе.
Старэнькая ўжо, сівенькая...
— Пайду паклічу дзеда і сына
(«Ва імя ойца і сына»),
Схаваліся, думалі: паны-палякі,
Аж гэта свае палкі...

Вясёла ім, молада...
Пагаварылі, пакурылі,
Улажыліся,
Шэрымі дзіркамі прыкрыліся:
Ці ж ім пужацца холаду?

## III

У хаце ночка,
За акном снег.
Спяць у куточку,
Спяць без пацех...
Цік-цік... цік-цік,—
Гадзіннік за сценкай
Б'е свой час.
Знік-знік, яшчэ знік...
— Змілуйся, пан буг, абарані нас! —
Бабуля моліцца за сценкай,
Як заўсягды,
Як і тады,
Калі была паненкай.

## IV

Спіць пад снегам раніца,
Сінь-лясок туманіцца...
— Што ж я выйшла, ды куды?
Ці ж пазбыцца мне нуды?
— Дзеўча, ўзімку вёсанька!
Хай чакае кросанька;
Ты — Алеся, я — Рыгор.
Спяць армейцы, спіць і двор!
Глянь-зірні на зорачкі,
Вочкі пакажы,
Не спяшайся ў норачку,
Ціха, не бяжы!
Во, і спатыкнулася на аборачку...
— Пусці!
— Адзін пацалунак, дзяўчына,
Апошні ад роднай краіны;
А там у здагонку за панам
Мы пойдзем, і хто яго знае,
Што братку-Рыгора чакае...—
Сказаў і глыбока так глянуў,
Нібы прадчуваў тую рану...

* * *

Дзяўчыніна сэрца «тук!» блізка.
Схілілася вочкамі нізка...

— Не хочу! Не верыш ты ў бога!
Рыгор у адказ:
— У якога?
— Ну, бога, звычайнага бога...
— Іх многа, галубанька, многа...
— Які ты! У пана Езуса! —
Усмешка скацілася з вуса,
І вырас прад дзеўчай Чырвоны,
І рушыць пачаў забабоны.

* * *

А сэрца дзяўчыны «тук!» блізка.
Стаіць перад ім асцярожна.
Во зорка скацілася нізка...
— Галубанька, верыць так кожны,
Пакуль не пазбудзецца жаху
Прад сумнай, няпэўнаю доляй.
А як запануюць на полі,
Ў паветры, у лесе, на горах,
А як пабудуюцца гмахі,
Дварцы-палацы аб'яднання
І моцны навукі і знання
Па ўсіх па зямельных прасторах,—
Тады хіба часам прысніцца
Той бог, што цяпер па капліцах
Вісіць на крыжы бледналіцы...
— Няможна! — Схапілась маланкай
І раптам — да ганка.
— Не хочаш — не трэба!
Мы звыклі без хлеба
Па снегу, пад снегам з вінтоўкай.
Ідзі, даглядай за кароўкай.
Хай толькі, як будзеш маліцца,
Табе гэта ночка прысніцца!

* * *

Знікла дзеўча, а Рыгор
Абышоў наўкол дазор,
Зноў у хаце, на мяжу
Лёг ля самага крыжу.

* * *

Спіць бабуля, дзеўча моліцца,
Але нешта не здаволіцца;
Шэпчуць вусны модлы-верую,
Вочкі бачаць вочы шэрыя...

І словы ідуць мімаволі,
Якіх не ўжывалі ніколі:
— Пан Езус, чаму ж ты не з намі?
Чаму ж ты дагэтуль з панамі,
А нас, мазалістых з зямліцы,
Пакінуў, чамусь, бледналіцы?
Не хочу маліцца, не хочу!
Слязіна хай высахне ноччу!

V

Уперад, уперад! Кідайце салому!
Уперад да бойкі-крыві!
Дамо сёння жару тым птушкам-арлом мы,—
Іх сцягі з арламі — лаві!
Уперад з песнямі-прадвеснямі!
Уперад з гіканнем,
Пакуль не выганім!

* * *

Вось і бойка. Куля з шаблямі,
Штых з гарматай сустракаліся.
Гэта біліся-стараліся
Белапан з чырвоным парабкам —
Зрання біліся, хаваліся,
Па снягах-лясах бадзяліся...

* * *

Схапіліся людзі
Ля крыжу;
Схапіліся людзі
Ля слупу дарожнага.
Чырвоную жыжу
На снег выліваюць
І лаюць, бяскроўныя, лаюць адзін аднаго,
Бязлітасна варожыя...

* * *

Рыгор наперадзе,
Пан перад ім, як у нераце.

* * *

I шабля-маланка
Па шыі лізнула;
А штых, нібы свідар, заеўся.
Куды жвавы воблік падзеўся!
Чакайце, Алеся ды Ганка! —
Іх коўдра снягоў прыгарнула...

* * *

Глядзі ж, глядзі ж:
Той самы крыж
Ляжыць ля іх у снег нічком,
Нібы скасіла перуном.
Ці шабляй збіты,
Ці штых сярдзіты
Праткнуў яго?
Па полі рэха:
Ого-го!
Па полі громы-перуны.
Бягуць і нашы, і паны...

* * *

— Матка боска, колькі іх, колькі! —
Шэпча старая,
За ёй маладая:
— Рыгорка, Рыгорка!
Шукалі ж мы столькі!..
— Кінь, цётка, кінь, малодка!
Калі не памерці,
Дык дзень сцерці! —
Смяецца Чырвоны,
Адкінуўшы ўсе забабоны.
I плача матуля старая,
Шукае свайго маладая...
А там, ля узгорка,
Рыгорка ляжыць.
Ён спіць, і панок нейкі побач з ім спіць.

Над імі ў эфіры
Калышуцца сны...
А можа, то пахі
Радзімай сасны?
А можа, то лірнік
Трымкоча на ліры,
Што час настае,
Калі ўжо не будзе мо бойкі тае,
Калі мо апошні праб'е барабан,
Каб знішчыць апошні пануючы стан...
І з глебы, угноенай чырвань-крывёй,
Чароўныя кветкі ўзыдуць над зямлёй.

*1923 г.*

## МЕНСКАЯ ВЕЖА

*(Верш у прозе)*

Стаіць яна, вежа-званіца, у асяродку старога горада, што шаволіцца пад ёй сваімі вулкамі і прысадамі. Пануе яна над афарбаванымі цаглінамі муроў, над шматкаляровымі дахамі, нават над птушынымі гняздоўямі, нашто ўжо — апошнімі паверхамі гарадскога жыцця...

Трэба высока ўскінуць вочы, каб пабачыць галаву гэтага Самсона-волата.

А ля ног яго рупяцца спрытныя стварэнні, рупяцца пешма і конна, ганяюцца на самабегах-аўто, на самакатах-коніках...

Раніцай па ўсіх кірунках-сцежках выбіваюць брук тыя, што твораць жыццё, і тыя, што плятуцца ў хвасце яго, тыя, што сустракаюць першую вясну кахання, і тыя, што апіраюцца на апошні кій свайго доўгага шляху — вераб'і і буслы-настаўнікі; сакалы з вострымі дзюбамі і кіпцямі...

Вось праляцеў на аўто адказны працаўнік, які чытае ў вачах натоўпу таксама лёгка, як і ў апошнім нумары газеты; вось прайшоў гурток работнікаў з кляўцамі ў руцэ, з агнём будучыні ў зрэнках...

Спяшаецца засесці за канцэлярскі стол марна пекная дзяўчына на высокіх абцасах... Прайшоў у друкарню пяс-

няр, каб наглядаць за выйсцем маладых твораў, унукаў яго натхнёнага гукання... Прасмяяліся міма слухачы і слухачкі, што нікога не слухаюць, апрача голасу маладога жыцця.

Прайшоў дарогу другі пясняр і спыніўся з першым, і стаяць яны ля вежы-званіцы, абодва звычайныя з выгляду і нязмераныя яшчэ ў творчай працы... Стаяць яны, ці гавораць не гавораць, а толькі часам узнімуцца думкай пад вежу і аглядаюць адтуль жыццё...

Памалу, як дзед, прайшоў у свой камісарыят другі адказны працаўнік з поглядам спакою і прыгатаванай кожнаму рады ў сініх вачах...

Чырвоны коннік нёсся па вуліцы і круць — звярнуў каля вежы...

Яшчэ падбавіла мурашкаў-людцоў. Высокі, сутулы, шырокім крокам прайшоў сярод іх чалавек. Куды ён? Ці спяшаецца кінуць каму ў вочы праўду, ці спыніць няўмелую руку? А мо гукне з катэдры нечаканае слова, каб напомніць аб тых, што яшчэ не дацягнуліся да менскае вежы?..

Надойдзе якое Новае Свята, пойдуць міма вежы-званіцы шэрыя хвалі, а над галовамі іх — Чырвань прызываў і сцягаў... Чырвань прызываў і сцягаў — караблі бурнага мора...

У гарышчы гэнае вежы ходзіць укруг вартаўнік; ён здаецца маленькім. Увесь горад, стары горад працы, барацьбы, голасу і жартаў — як на далоні. Пільным вокам сочыць ён праменні ўсходу-заходу, поўначы-поўдня... Пара вачэй няўздраманых сочыць там уверсе, на вежы. Спакойна працуе ў дні супрацоўнік, і маці можа спачыць ля дзіцяці ўначы, бо ведаюць вежу яны і на ёй пару вачэй вартаўнічых.

Толькі ўбачыць ён дым ці смурод у паветры, пачуе — раптам ударыць у бом, выкіне галы-сігналы або токам запаліць ліхтарні... І зашаволяцца людзі ўнізе; медзяныя шлемы апрануць; коні трывалыя ўзнуздаюць, і вось ужо да валкі гатовы: гасіць стыхію варожасць.

* * *

Высіцца вежа над мурамі, вышэй і вышэй... Угару, здаецца, расце... Здаецца, хмаркі палошчуць сцяг яе, сцяг працы-змагання.

Акалічныя вёскі, што хаваюцца яшчэ ў пушчах, як і тыя, што агаліліся сярод узворанага поля, бачаць гэтую вежу са сцягам і кіруюць на яе барозны бліскучых плугоў. Маладзіца, што перасекла ўпоперак дзедзіну раллю, павязала галаў хусткай таго ж колеру, як і сцяг той на вежы.

Сівы дзед, канчаючы да захаду працу-сяўбу, зняў звыклай рукою шапку і зірнуў на вежу-сцяг.

Вясковы настаўнік у часе навучання выводзіць на дошцы літары сцягу, а вучні срэбным хорам спяваюць прызывы.

Стаіць нерухома менская вежа. Гэта хмаркі-здарэнні плывуць над яе верхавінай, а здаецца тым, што ўнізе, нібы гэта яна шавяльнулася ў хмарах.

І сочыць той вартаўнік па ўсіх кірунках-праменнях.

Яшчэ вышэй узнімаецца вежа.

Мімаволі глядзяць на яе гарады, што ляжаць па Віліі і Нёману: углядаюцца ў сцяг, у галы-сігналы і слухаюць бомаў. І слухаюць Вільня і Коўна і нават чэская Прага:

«Злучайцеся вы, пралетары, што мову і тую згубілі! Уся ваша маёмасць — вы самі. Што засталося ў вас, апроч гэных рук, якія вы прымушаны прадаваць тым ці тым гаспадарам сваім? Што засталося ў вас, апрача думак-хмарак, што гоняць вятры з боку ў бок? Што засталося ад хат вашых, апрача комінаў, а наўкол іх будуюцца асаднікі?

Што засталося ад пушчаў вашых — пні спарахнелыя з грыбамі-порхаўкамі!

Злучайцеся!— гукаюць сігналы менскае вежы: — Бо адсюль відаць далей, як з вашых балконаў-гарышчаў, а ветры даносяць да менскае вежы смурод пажарышчаў далёкіх!

Чаму раздзьмухае вас, як насенне непатрэбнае? Чаму не рассявае вас рука сейбіта, каб узняцца збожжам працы і яднання?

Дзе бацькаўшчына ваша, пралетары Віліі і Нёмана? Вы знойдзеце яе толькі тады, як здолееце карыстаць з працы рук сваіх. Вы знойдзеце яе — калі пераплавіце званы модлаў вашых у вострыя мячы змагання, а пацеркі на руках вашых ператворыце ў мазалі на руках вашых, каб не балюча было трымаць стрэльбы... Хай чарадуецца ў руцэ аловак вашых газетных спрэчак з сякерай, што павінна зарубаць насечкі-помнікі на пнёх павысечаных пушчаў...» Так гудзе з гары менская вежа-званіца,

што вырасла ў асяродку старога горада. Яна вырасла, каб запанаваць над цаглінамі муроў, за якімі сядзелі пралетары, пакуль не знайшлі сваёй бацькаўшчыны.

Трэба высока ўскінуць вочы, каб угледзець голаў-сцяг гэтага волата рэвалюцыі і пабачыць ля сцяга свядомага пралетара!

*1923 г.*

## НАШАЯ КРОЎ

У нас, крывічанаў,
Халодная кроў,
Пакуль не захопіць
Да краю любоў.

Як з нашага неба,
З вачэй не цячэ.
Сароміцца думка:
Вось-вось уцячэ!

Валоссе — як жыта,
Як золак — наш твар,
Пакуль на палудзень
Не ўзыдзе стажар.

Мы самі, як хвойкі,
Бярозкі ў гайку:
Стаім ані чутны
У зацішным цяньку!

Калі ж захапленне
На сэрца найдзе,—
Не знойдзецца вогнішчаў
Гэткіх нідзе!

Не воблачкаў статкі,
А гром-перуны
Па небе, па вочках
Пракоцяць яны.

Гайкі ды бярозкі,
Як пушчы, гудуць,
Аж страшна бывае
Туды зазірнуць!

Тады ўжо «тутэйшых»
Ані не пазнаць,
Як папараць-кветку
Збяруцца шукаць.

Тады ўжо шукаем
Не кветкі адной,
Але чалавечае
Праўды усёй!

Шукаем і верым,
Што знойдзем яе,
Ў шуканне ўкладаем
І душы свае...

І сэрца і грудзі,
Як дрыгва, дрыжаць.
Тады выпадае
І нас распазнаць!

Судзіце ж, браточкі,
Пра нашую кроў,
Пакуль не захопіць
Да краю любоў!

*1924 г.*

## «МАЛАДНЯЦКАЯ»

Пастаньце, браточкі,
Пастаньце, сястрыцы,
Раўнайце радочкі
І досыць журыцца!

Мы — дзеці працоўнай
Сям'і беларусаў
І ўсіх, хто тут роўны,
Жыве без прымусаў.

Адзін ўзгадаваўся
У хаце вясковай
І вось падкаваўся
На шлях гэты новы.

Хоць часам і шкода
Старэнькае маці,
Але трэба ходу,

Другая працуе
І вучыцца разам,
І сіл не шкадуе,
Нясытая часам.
Каб свету пазнаці.

Захоплены трэці
Пад нашыя сцягі,
Бо сумна сядзеці
Без гімнаў адвагі!

Ад вуснаў чырвоных,
Ад твараў-стажараў
Старых забабонаў
Разгоняцца хмары.

Хай гімн маладняцкі,
Дзе бедна і курна,
Нясецца па-брацку,
Нясецца хай бурна!

Мы хочам іначай
Жыццё будаваці,
Каб песні бядачай
Пазбыцца у хаце!

Каб спаці не клаўся
Работнік галодным,
Каб гмах будаваўся
Бястульным, халодным!

Каб ў вёску трапляла
Даследдзе навукі,
І словы Купалы,
І Коласа гукі.

А краты астрогаў
І жэрлы гарматаў
Складзе на падлогу,
На косы — араты!

І мы запалонім
У стан камуністых
І пушчы, і гоні,
Працоўных ўсіх чыста!

Пастаньце ж, браточкі,
Пастаньце, сястрыцы,
Трымайце радочкі:
Час хутка імчыцца!

*1924 г.*

## ЛЕТНІЯ АДПАЧЫНКІ

### I

Ляжу пад бярозай за садам старым,
І вокам, і думкай — над краем маім.
Лясы па узгорках, і жыта, і луг,
І ветрык над гэтым — мой сябра, мой друг.
Ён дыша, цалуе, ён поўна жыве,
Ён думкі хістае ў маёй галаве.
І думкі, як хвалі на жыце,— вунь там.
Аддам я іх ветру, хоць зараз аддам!

— Бяры, вырывай іх, хістай па кустах,
Хай хітрыя дзеці заглохнуць ў лістах,
Заціснуцца ў лісціках грушы старой,
Што спіць без дагляду пад гэтай гарой.
Эх, вецер, эх, братка! Ну, вольна ж табе!

Павецi, і хаткі, і поле ў сяўбе,—
Усё ты цалуеш адразу і ўміг,
Цалуеш адхоны узгоркаў маіх,
І хмуры сасоннік, і гучных дзяўчат,—
Усім ты вясёлы, жаданы сабрат...
Эх, добра і жабкаю шэраю быць,
Эх, добра ў вірочку між аераў жыць!
Не хочу быць птушкай, арлом-сакалом,
Ды лётаць у вершах за іхнім хвастом.
Пад сонца ўсё роўна, васпан, не ўзляціш:
Паветра там мала, а холад ды ціш.
А жабцы — ёй добра вось тут, да душы!
Як выплыве, сядзе — глядзі, не дышы!
Глядзі, як глытае казюлечак — хоп!
Зноў вылупіць вочкі і плоскі свой лоб.
Ёй сонца здаецца чырвоным блінком,
А бусел затое — як той палітком.
Эх, добра з чаротаў вадзіцу глытаць,
І спаць на лілеі, і жыць, як бы спаць!
Давай-ка мяняцца, жабуня, са мной,—
Мне шэрая скурка і спеўнічак твой,
Табе ж, разумееш, даю першынство:
У нас, людзі баюць, сядзіць бажаство,—
Прыроды уласнік, любімы сынок —
Усё аддае вось за гэны вірок.
Даю табе ліру, папер, алавок...
А жабка як квакне — ды скок у ставок...

II

Пад лесам, на ўзгорку, хвалюецца жыта.
Яно, як зямелька мая, пры мяжы той,—
Па ім, як па свеце, бягуць тыя хвалі,
Што ветру чакалі, што ветру прыждалі,
Шум шэрага шэпту па жыце шыбае,
А жаўранка спевы у сіні купае...
— Цір-цюр-пі-цю-пі-цю-пі!
Лі спевы, лі спевы, лі!
Кінь працу, кінь працу, кінь!
Сінь неба, сінь неба, сінь!
І лёг я на цень свой, паўдзённа-аршынны.
Пад голаў мне кветка-матыль канюшыны.
І пах яе пышны нязнятага мёду
Гадоў паскідаў мне да першага году;

Пайшоў чырванець мой падсонечны твар,
На скуру і думкі набыў я загар.
Заснуў. А той ветрык шаптаў мне у вушы
Пра поўныя соку зялёнага йгрушы;
Шаптаў мне пра сліў недаспелую цэру,
Пра смакі-зародкі, пра слуцкія бэры...
І так не хацелася з сонцам змагацца!
Кудысь захавалася строгая праца,
Напэўна, купацца пайшла у вірок,
Дзе спеў свой прасцецкі заводзіць юрок.

Лясы на узгорках, і жыта, і луг!
Я ім толькі, ім толькі сябра і друг.
Аддамся я сёння увесь адпачынку,
Бо чэрвень не зробіць благога учынку.
Мне люба сягоння за садам старым,
І вокам і думкай над краем маім...

*1924 г.*

## ВЕЦЯРОК ДЫ СНЯЖОК

*(Бытавыя напеўкі)*

За акном, за дваром снегавы буралом
Свішча, кліча, кляне, задзіраецца.
То у твар сцебане лебядзіным крылом,
То наскочыць на карк за халодным вуглом,
То па даху віхром прабіраецца...
        Бель ўзвіваецца;
        Баба лаецца:
— Каб табе благі лёс!
Каб жа ты не данёс,
Каб цябе ды табой ды пасыпала!
Вось паркан падапрэш,
Хоць ты хмаранькі рэж!
І чаго мяне вынесла — рыпала!
Ў хаце цёпла у нас,
І парадак, і час...

Мой зяцёк не абы-што, ды шэсцьдзесят
Кожны месяц бярэ,—
Не сячэ, не арэ,—
А да грошы прыладзіў жа нейкі сват!
На дачку толькі — зірк!
Дык яна, як мыш,— нырк!
І у хаце цяпер перайначыў ўсё.
Але так, зяць нішто,—
Не абмераў кутом,
Мне за печкаю месца прызначыўшы...
Каб цябе паралюш!
Каб табе той каклюш! —
Ну, глядзі — так і смажа спадніцаю!
Нібы я не стара,
Нібы з плечаў — гара,
Нібы ночкай — і я маладзіцаю!
Да кумы ж я іду.
Да старой не дайду.
А язык, далібог, так і чэшацца!
Аб зяцьку, аб дачцы,
Прабачайце, айцы,—
Аб суседзях усіх,— каб усцешыцца!
Мусіць, прыйдзецца зноў
Аглабелькі дамоў,
Дзе за печкаю месца прызначана...
Каб табе благі лёс!
Во, нячысцік нанёс,—
Ўсё на свеце цяпер перайначана!..

* * *

Над руінай старой, над цагельнай гарой
Курыць-веіць мяцеліца, круціцца...
Праз акнішчы руін то забрэша парой,
Як мінулых гадзін перагранай ігрой,
То плыве яна качкаю-вуціцай...
        Хто занудзіцца,
        Той забудзецца...
Вартаўнік на пасту, на каўзучым масту,
Аж на вочы налезла будзёнаўка.
А як месяц з-за хмар дасць усмешлівы твар,
Заблішчыць у руцэ яго конаўка...
Келіх дыму-агню:
«Стой, я пост бараню!»

Штых трыкутны глядзіцца у месячык,
Той халодны і той
Над руінай гарой...
— Вартаўнік, вартаўнік, галаву нахіліў?
— Не заснуў я, ды не!
Вецер моцна кране,
Калі толькі хоць крыху забудуся.
Мне не спаць на гары
Аж да зменнай пары,—
Хай у вочы пасыплецца груда ўся!

* * *

А над садам таксама гудзе буралом.
Але ж добра у садзе пад снежным крылом.
Толькі двом,
толькі двом!
Хай для іншых ні сцежак, ні лавы няма —
Ім дарма, ім дарма!
Бо для гэных, як лавы гаручай струмень,
Як егіпецкі цень, гэты белы прамень...
А сняжынкі, як слёзкі, па шчочках цякуць,
І так хочацца буру і свет прыгарнуць,
Ды каб сыпаў ды сыпаў з паднеб'я сняжок
На пушок, на лужок каб насыпаў стажок...
Ды каб месячык толькі вось так не глядзеў,
Каб смяяцца над імі, паганец, не смеў...
Калі хочаш — зірні, як з каханых вачэй
Прабяжыць прамяністы сігнал, гарачэй
За сузор'і паўднёвых начэй...
Там, на месяцы белым, ні снегу, ні бур,
Ні людзей, ні садоў, ні віхур,—
Дык глядзі ж, дык жыві вось хоць нашым жыццём,
А то спіш, як пустыня сваім небыццём,
А то спіш ды смяешся над нашым жыццём!

* * *

Лірнік лады пераводзіць
І стаіць, стары, пад снегам,
Ён вачамі не паводзіць
І не рупіцца начлегам.

Бо сляпому ўсё аднака:
Дзень яснейшы, ночка цёмна...
Белы вочы ў небарака,
Думкі ціхія бяздомны.

Вецер з чорнай барадою
Непаважліва балюе,
Над някрытай галавою
Кошык снегавы гатуе...

«Я-го-о па-а-слаўшы-ы,
Неба разу-у-мей-це,
На зямлі ста-а-яў-шы,
Ветра-мі узвейце...
І прыйшлі ад мора
Праз горы-прарокі,
Граху адпусцілі
Па людзях у змрокі».

Так спявае дзед той, лірнік,
Словы нейкія старыя,
Для яго яны глыбокі,
Для людзей яны сляпыя...

Хай там Кеплер ці Капернік
Ставяць зорныя законы,—
Іх не ведае той лірнік,
І нічому не здзіўлёны,
Перад ім часы нясуцца;
Завірыла завіруха;
Перакінуліся троны,—
Гукі трапілі праз вуха...

— Кажуць, людцы ўжо не тыя,
Але ж вось ідуць па горцы,
Нечым новым занятыя,
І смяюцца багаборцы.
Часам хто які спыніцца
Ды падкіне грош у кошык,
А не просяць, каб маліцца...
І сляпы схавае грошык
Ды пайшоў круціць па струнах.
І заплачуць струны ўночы,
Бо не плачуць яго вочы.

Яго вочы, як той месяц,—
Толькі ў іх няма усмешкі;
Барада навокал ходзіць,
Нібы з хмарынкі адзежкі...
Для музыкі ўсё аднака:
Дзень яснейшы, ночка цёмна.
Белы вочы ў небарака,
Думкам ціха і бяздомна...

* * *

Вецярок ды сняжок круцяць белы вірок.
Разышліся натоўпы па дворыках.
Помнік ціхі стаіць, нібы белы грыбок;
Бель падучая засціла зоркі.
Не балюе тут вецер з сівой барадой,
Барада, як і сам, нерухома.
Тут у святы ідуць ды ідуць чарадой,
Спеў дрыжыць у паветры знаёма...
Вулкі моўчкі бягуць,
Толькі дроты гудуць.
Вецер б'ецца у краты мядзяныя,
Ды часамі скрозь рык
Ліры просіцца зык,
Са старым, са сляпым пакіданае...

*1924 г.*

Заўвага. У 1922—1923 гг. у Мінску, на спуску да рэчкі, можна было бачыць сляпога лірніка. Яго вялікі партрэт быў у той час на выстаўцы.

## ЯНКУ КУПАЛУ

Бывае так, што ў поўдзень мая
За красаваннем і ліствой
Мы сонца мала прымячаем,
У садах бадзяючысь з братвой...

Сачаць галіны, пахнуць кветкі,
Ў палях ласкае вока рунь,
І мы, няўдумчывыя дзеткі,
Бяжым па сцежках працы ўгрунь!

Часамі нават ў цень заходзім,
Каб ад праменняў супачыць.
Нам цёпла ў маі,— карагодзім:
Чаму не пець, чаму не жыць!

А толькі думка адпачыне,
Нам ясна стане ў гэты дзень,
Што зелень ўся без Сонца згіне,
Што толькі з Сонцам дораг цень!

*1925 г.*

## ВОСЬМЫ КАСТРЫЧНІК

Як часам спрытнаю рукой
Кастрыцу вольныя дзяўчаты,
Паназбіраўшыся ў пакой
Ці каля лазні, што за хатай,

Здзіраюць, трэплюць ў гэны час,
Кладуць кудзеляю патлатай,
Пад песні лад, пад лоўкі сказ,
А з твару чырванню багаты,—

Так ў гэным месяцы калісь,
Таму гадоў ўжо будзе восем,
А свету кінуўшы: «Дзяржысь!» —
Бо там таксама смагла восень,—

Народ працоўны паздзіраў
З сябе ярэміну нядолі,
І вольным стаў, і моцным стаў,
Якім не быў яшчэ ніколі!

І багацеі, і паны,
Нібы кастра ад той каноплі,
Далоў ад нашай стараны,
Праз Польшчу, Рыгу, Севастопаль

Паразляталіся ў бакі,
Бо быў народ гатовы кроплі
Праліць з суровае рукі,
Каб зберагчы свае каноплі.

І бег Кастрычнік па зямлі
На рубяжы прад лістападам,
Быллё скідаючы з раллі,
Каб заараці новым ладам.

Ён бег па сцежках, па шляхах,
Грымеў няспыненым парадам,
Хоць меў ён кайстру на плячах,
Хоць меў ён ворагаў засаду.

Прайшлі гады, ідуць гады...
Мы далей-болей адчуваем
Тых дзён — Вялікіх Дзён — плады
І урачыстасці спраўляем.

І чым далей — для нас ясней,
Што калі мы выгоды маем,
Калі жывецца весялей,
Калі з зямлі мы карыстаем,
Якую пан трымаў раней,
Сам карыстаўся земскім раем,—

Дык гэта спадчына тых дзён,
Калі ў Кастрычніку мінулым
Паўстаў мазольны мільён
І ператрос гнілыя шулы...

І запалілася кастра
У тым Кастрычніку вялікім,
Бо йшчэ было, апроч цара,
Царкоў у незлічоным ліку.

Было крыві, было ўсяго
Таму гадоў ўжо роўна восем.

Цяпер мы маем шмат свайго,
Мы ураджай сабралі ўвосень!

Пастаньма ж з голай галавой
Ушанаваць братоў паснулых,
Хто паў тады, быў сам герой
Тых дзён вялікіх і мінулых!

*1925 г.*

## СУНІЧКА

Сунічку апошнюю гэтага лета
Сарваў я сягоння ды з'еў на мяжы.
Была яна сонцам цяпер перагрэта...
Раўнанняў тут колькі і дум для паэта
На восеньскім гэтым сухім рубяжы!

Салодка у роце. На сэрцы ж гаркотна,
Хоць жоўтага лісця навокал няма.
Ды вецер ад лесу навевам смяротным
Даводзіць, што сум мой не так і дарма.

Сунічка і сэрца маё перагрэты...
Бывай жа здарова ты, сінь цеплыні!
Сунічка праглынута сёння паэтам,
Навокал дажатае жыта — зірні!

*1925 г.*

## КВЕТАЧКІ

Кветачкі белыя, кветачкі кволыя
Яблыньку гэтую крыюць да ног.
Любасці голыя, вусны змярцвелыя,
Небам прыгрэтыя шэпты вакол яе,—
Ветрык сплятае кахана вянок.

Летам угрэюцца, зікнуць пялёстачкі,
Завязі дзень у дзень выйдуць у плод;
Родзяцца костачкі, хутка наспеюцца,
Сокам нацягнуцца ў жніўні у роспачы
Дзеткі паўдзённых санлівых пагод...

Лісцікі жоўтыя, думкай каханыя,
Сцелюць пад яблынькай мяккі дыван.
Далі нязнаныя, хмарачкі зноў тыя,
Ветрам ад захаду дзесь адарваныя,
Голыя сцежкі дажатых палян.

*1925 г.*

## ВАНДА КАРСАК

Ванда Карсак, чараўніца радзімага краю,
З горада йшла, калі стрэліся вочы у нас,
Цёпла было і цяніста было каля гаю.
Добра было! Як учора ўстае гэты час.
Слоў не было. Толькі вочкі ды зубкі — пачатак.
— Ванда Карсак! — свой дзяўчына азначыла род.
Што за імя? Мо прыдумала зубкам ў дадатак?
Я не спытаў ды назваўся: — Даніла Чачот!
— З горада я. Працаваць захацелася ў вёску.
Рукі мае занудзіліся там па сярпу! —
Смехам яна акрапіла знячэўку бярозку.—
Вёска мая вунь на гэтым лясістым гарбу.
Сам я блукаў па палях, па лясах, па сядзібах!..
— Можна да вас? — я спытаўся у Ванды Карсак.
— Ну, а чаму ж?! Крыху сумна для вас будзе хіба...
Хто вы такі? Падарожнік, студэнт ці батрак?..
— Вам як здаюся? — пытаннем я даў на пытанне.
Шчырыя вочкі тады адказалі смяшком.
Я ж, падарожны, аддаў тут і волю дазвання,—
З шляху сышоў ды зрабіўся яе батраком:
Бацьку касіў, а дачцэ аддаваў адпачынак.
Бацьку — тарпы, Вандзе я песні складаў.
Песні пяяць я ішоў за мяжу, у адрынак,—
Але ж і лецейка з ёй, лецейка з ёю спазнаў!

Лета прайшло, з летам і песні Данілы.
З ліпы асыпаўся лісць. Толькі рабінкавы жар
Чырванню ягад гарыць — ясна, балюча і міла,
Нібы успомінаў плынь, вобліку роднага твар.
Вольны цяпер, ды і волас прасяк сівізною.
З твару збялеў і даўно не бываў на таку.
Але бывае, зацішнаю, вольнай парою
Сціснецца нешта ў грудзях, і балючай штораз на вяку.
Сокі палёў пераймаюцца неяк ў слязіну.
Сонца заходзіць. Рыхтуецца вылецець шпак.
Сумна гляджу на чырвоную ўдоўку-рабіну.
Многа стаіць іх на восень па нашай краіне,
Спіць пад адной шэравокая Ванда Карсак.

*1925 г.*

## ХМЕЛЬ

Ізноў вясна, і кветкі зноў!
Як майскі сцяг — бушуе кроў.
Ў прыродзе радасць адраджэння,
Жыцця магутнае імкненне,—
Ўсё гэта твой, вясна, алькоў!

І як ні гляну, ні зірну,—
Я веру ў гэтую ману,
У сонца цёплыя праменні,
Што асвятлілі сутарэнні,—
У май я веру і вясну!

Гайкі і паркі — на парад!
Гараць струмені ў сто карат.
Прысады шэпчуцца ў спатканні,
Хоць за спатканнем развітанне
Заўсёды сочыць акурат.

Што ні галінка, то раман —
Прыроды радасны дурман.
І што ні сэрца, то жаданне,
А ў вочку кожным — запытанне:
Дзе праўда сонца, дзе падман?

Ляціць ўсцяж неба караван
З краін папаленых саван,
Ляціць да нас на гнездаванне,
Каб тут змяніць сваё убранне
І спевы кінуць на дзірван...

Але ж за ўсё прывабней спеў,
Ў якім пабеда ёсць і гнеў:
То гімны працы і паўстання,
Грамад магутных згуртаванне
І сцягаў безлічны павеў!

Хто весну ўчуе, той п'яны
Ад гэнай радаснай маны.
І асабістыя блуканні
Пяройдуць хутка у зліянне,
У творчы спеў жывой вясны!

*1925 г.*

## СКАКУНЦЫ

Там, дзе дрыжаць праменні,
Там, дзе гарачыня,
Злятаюцца раенні
Ды чутна стракатня;

Падзёнкі ані дбаюць —
Лятаюць над вадой,
Яны ў жыццё гуляюць,
Стракочуць над бядой:

«Ці ж сонца сёння мала?
Ці будзе век свяціць?
Ці дню ані прыдбала?
Ці ж нам ўсё жыць ды жыць?

Не мы ў жыцці павінны!
Хай плача небарак
Ды той, хто павучынны
Тчэ-дбае андарак!

Нам сонца дасць адзежу,
А кветкі — смакі страў,
А прыйдзе ноч, дык ежу
Мы знойдзем ў гушчы траў.

Навокал так прыемна,
Пакуль гарачыня:
І светла, і таемна!»
Гудзе так стракатня.

Падзёнкі ані дбаюць,
А скачуць чарадой,
Яны ў жыццё гуляюць,
Стракочуць над бядой.

*1925 г.*

## САМ-БОГ

Я сёння малюся багом
Усім старажытным, паганскім:
Таму, хто дасюль Перуном
Завецца па свеце славянскім,
Што сыпле маланкі ды гром,
Што рушыць лясы ў буралом,
Што шляхам ідзе крывічанскім...

Да пастыра статкаў звярнусь,
Здароўніка-лекара хворых,
Вялесу старому малюсь
Ад імя унукаў дакорных.
І сам тым малітвам дзіўлюсь,
І сам перад богам хвалюсь,—
Імкнуся у рухах пакорных...

Багіні, што воўну скубе,
Макушы, сястрыцы Вялеса,
Малюся у гэткай кляцьбе.
Мне радасна, праўнуку лесу,
Што веру знайшоў я сабе,

Хоць з вераю быў ў барацьбе,
Малюся сястрыцы Вялеса...

Стрыбожа, увагу звярні,
Стрымай ты вятры з-па-над мора,
У вочы праўнучы зірні:
Няма ў іх ні каліва гора!
Ў вачах запалілісь агні,—
Стрыбожа, ты іх барані,
Не дзьмі ты вятрышчам ад мора!

Русалкам, сястрычкам крыніц,
Маркотным маім берагіням,
Малюся, схіліўшыся ніц,
Малюся дзявоцкім багіням,
Цягнуся да гэтых сястрыц,
Гляджуся у люстры крыніц
І дзякую русым княгіням!

Ўсім ціхім малюся багом,
Насельнікам ёўні і хаты,
Куццёй, што жывуць, тварагом,
Ўсёй стравай, чым хаты багаты.
Яны мне спрыяюць кругом,—
Я ж сёння зрабіўся крылаты!

Ахвяру я вам прынашу:
Сярэбраны келіх слязінак!
І толькі аб тым і прашу:
Хай цягнуцца плыні гадзінак,
Што сёння я ў сэрцы нашу,
Чым смутак душы развяджу,
Ў чым цмок адзіноцтва загінуў!

Малюся і слёзы лію...
Душа — нібы фарбы вясёлкі,
Душа — нібы птушка ў гаю,
Душа — нібы красачкі-зёлкі!
Я сёння — Адам у раю —
Адвечную песню пяю,
Бягу па прыступках вясёлкі!

Праз вочы даведаўся я,
Што я ужо сёння каханы!

І роднай зрабілась зямля,
Братамі — лясы і паляны!
Адно ў мяне слова: мая!
Вясёлка, Вяснянка! — А я?
А я — як вяночкам прыбраны...

І сёння я сам, як Пярун,
Я бог, бо я шчыра кахаю...
Падайце мне ліру ў шмат струн —
Я песню ад песняў зайграю!
Я сёння — як продак-дзікун,
Я сёння — Ярыла-ігрун,—
Каханы, кахаю, кахаю...

*1926 г.*

## КАСАВІЦА

Звіняць над мяккім логам косы,
А сонца б'е на бель кашуль,
Ў запале твары, кожны — босы,
Хоць кожны слухаў посвіст куль...

Былі франты, ліхія лёсы,
І енкі сумныя матуль,
Ішлі армейцы, а матросы
Грымелі ў хвалі: «Лева руль!»

Калючы дрот пайшоў у атосы.
І не чуваць ў паветры куль,—
Той перамог, хто біўся босы,
А пан не вернецца адтуль!

Кладуцца роўняддзю пакосы
Ўздоўж сцен пакорнай муравы,
Наперад мерна суне Босы,
Нясе сталёвыя правы.

Хай сок з былінкі той сачыцца,
Але ж франтоў ліхіх няма! —

У нас сягоння касавіца,
І пот наш льецца недарма!

Калі ж па леце мо захмарыць,
Кажух прыкрые бель кашуль,—
Няхай той злыдзень там не марыць:
З нас кожны слухаў посвіст куль!

Мы ўмеем ў часе касавіцы
Назвозіць цэлыя стагі,—
Дык васпан можа памыліцца
Ды атрымаць «на пірагі»!

Цалуе сонца твар счарнелы,
Каб абазначыць працы цень.
Ступае Босы сёння смела,
Хоць і гудзіць наўкол сляпень...

Яшчэ гадкоў з пяток на волі,
І праца будзе ўсё лягчэй,—
Машын і тут набудзем болей,
Жыццё пальецца весялей!..

Тады касу, але з пашанай,
Занесці мусім у музей,
Як сімвал працы згартаванай,
Як сведку постаці сваей...

Звініць над логам касавіца
Пад песні мірныя матуль...
Той фронт крывавы толькі сніцца...

Калі ж нам прыйдзецца спыніцца
У мірнай працы дзеля куль,
Мы выйдзем з іншай касавіцай
І свету кінем: «Лева руль!»

*1926 г.*

## ЦАРКВА СТАРАЯ

Стаіць яна, калісь малебная,
Цяпер нікому непатрэбная...
Калісь тут слёзы часам капалі...
Цяпер вятры страху падрапалі,
І паліваюць хмаркі ймглістыя
І Серафіма і «прачыстую»...
Ў маршчынах твары пазабытыя,
І палінялыя і змрочныя,
Васковым куравам пакрытыя,
Калісьці «дзевы непарочныя»,
Старцы, у святасці пакутныя,—
Цяпер дашчаткі прастакутныя...
Жыцця удзельнікі келейнага,
Прасфорна-сытнага, елейнага,
Для люду цёмнага магутныя,—
Цяпер цікавасці музейныя!..
Хто меў учора світкі зрэбныя
І свечкі ставіў тут малебныя
Перад Міколам і «прачыстаю»,
Прызнаў іх сёння непатрэбнымі...
Хто вочы меў калісь імглістыя
Ад працы цяжкае, пакутнае,—
Жыццё убачыў ён празрыстае,
І сілу ён адчуў магутную...
То сіла працы, сіла розуму,—
Не свечка кволая, васковая,—
То сіла тэхнікі, а разам з ёй
Зямля сачыстая, вясковая!
А навакол — жыццё свабоднае,
Як рунь вясновая, зялёная,
Дзе праца — радасць велікодная,
А святы людныя, чырвоныя!
І дзілімбомы-дзілімбомныя
Даўно з званіцы ані посцяцца,—
Жыццё змяніла іх «скаромнае»,
Ды маладой ўсё сіле «просціцца».

*1926 г.*

## УЗІМКУ

Завірухаю раптоўна
Занясло садок і двор.
А да Ганначкі-«князёўны»
Вострыць лыжы наш селькор.

Ганна — любая дзяўчына,
Ў Ганны вочкі, што вірок.
Калі ж хлопец — малайчына,
Знойдзе ў сэрцы ён куток.

Ёй семнаццаць будзе ўлетку;
Хлопец — ма́лым перарос.
Маці кажа: — Ціха, дзеткі!
Дзеўча ж сеці ладзіць з кос.

— Янка, што прынёс сягоння?
— «Вёску» свежую прынёс.
Мусіць, нумар навагодні...—
І пайшоў у іх пакос!

Янка грэцца стаў ля печкі,
Ганна ўголас пачала:
«Як дагледзець лепш авечкі».
А далей там і «Пчала».

— А цяпер паслухай гэта.—
Янка кінуў грэць спіну.
— Пачакай, падкруцім свету,
Ці не сам чыркнуў? Ну, ну!

Янка выняў ліст з кішэні,
Прачытаў свой артыкул.
Словы сыпаў поўнай жменяй
На бяду усіх «акул».

Бачыць вока маладое
Непарадкі там і тут,—
Хай пазнішчыцца благое,—
Слова ў друку, як бы суд!

Але ж позна, ўсю газету
Не прагледзець, мусіць, не!

— Ґазы мала. Вось жа ґэт-та!
— Прывязу, не лай мяне!

Зазірнуў Ганулі ў вочкі,—
Цёпла ў вочках. Што зіма!
Заўтра ў клубе — як браточкі,
Нібы вочак тых няма...

* * *

Пройдзе зімка. Прыйдзе лета.
Мо не годзік і не два.
Дачытаць сваю «газету»
Іх пакліча ў гай ліства.

*1926 г.*

## «ВЁСКУ» — У ВЁСКУ

За студнем, лютым — веснаход.
За жніўнем — восені прыход.
І вось зямля свой карагод
Навокал сонца рушыць ў год.
На вёсцы «Вёска» загула,
Як тая рупная пчала,
Ляціць сюды, ляціць туды,
І вабны гук яе дуды
Чуваць па хатах бедакоў
Ды іх сяброў — сераднякоў.
І з «Вёскай» звыкся селянін.
Ці ж многа вольных тых часін!
Але газету пачытаць,
Нядзельку, свята скарыстаць —
Ужо так любіць не адзін
Наш беларускі селянін.
Газета шмат чаго нясе
Ад цэнтра рупнага — касе.

І гарадскі культурны рух
Тут пераймаюць серп і плуг.

Святлее розум веснякоў:
Цяпер аджылых мерцвякоў,
Сляпую спадчыну вякоў,
Не надта слухае сяло,—
Бо слова іншае дайшло.
Патроху новы светагляд
Бярэ старое на прагляд,
І тое, што псуе жыццё,
Ён вымятае, як смяццё.

Навукам з бібліяй старой —
Як тым зярняткам пад карой.
А свету каб зярнятам даць,
Каб збожжа болей панажаць,
Каб не зблажэла сенажаць,
Каб ў садзе моцненька цвіло,
Каб на гумне ажно гуло,—
На ўсё на тое трэба ўмець
Часінку неяк пасядзець.
Набрацца ведаў, развіцця,
Не спаць з газетай, як куцця!
Тады мо стане без папа
На ёўні лішняя тарпа,
А камсамолец і селькор
Чужым не будзе з гэных пор,
Не пабаіцца селянін,
Сумленны, добры сем'янін,
Як стане цяжка, працаваць,
З слабою сілай гараваць,
Сваю пашырыць тут сям'ю
На калектыўную раллю.

Дык хай на вёску «Вёска» йдзе
Яшчэ у большай грамадзе,
Каб і далей нам святкаваць
Гадоў не пяць, ды шмат па пяць!

*1926 г.*

## ЛІПЕНЬ

Поле маё каласіста-кудзёрае,
Сінія ў золаце ў ім васількі!
Ўсё вы залечыце, самае хворае,
Што узрашчаюць ў душы бедакі.

Добра, прывабна сцяжынкай нястрогаю
Сунуцца ў хвалі даспелых збажын,
Ўспомніць дзяцінства і многае... многае,
Што засталося за праслам маршчын.

Хутка, о хутка сцяблы каласістыя
Лягуць, як войска, ў дажынкавы пыл.
Птушкі з гняздоўяў злятуць галасістыя,
З фронтаў гаёвых ў паўднёвісты тыл...

І застануцца палеткі абдзёрыя,
Хмаркі над імі, нябёс бедакі...
Спей жа, маё каласіста-кудзёрае.
Смейцеся мне, васількі, васількі!

*1926 г.*

## МАРЫНКА

У Марынкі — нічога, ані!
Як калінка яна — адзінота,
Ні бацькоў у яе, ні радні,
Ёй адно толькі — жыць ёй ахвота,
Грызці кніжку, стаяць каля плота
Ды глядзецца ў ліпнёвыя дні.

Але ж вочкі ў Марынкі — агні!
Не пазнаеш,— ці сінь, ці чарнота,
Так стаяў бы, здаецца, ля плота,—
І ні гуку, ні слова, ані.
Хоць шапнуць ёй даўно ёсць ахвота,
Што па сэрцы мы, мусіць, зрадні...

Мо, як высветляць ў небе агні
Ды туманчык пацягне з балота,
Крадучыся, прайду каля плота,
І, як спевы заціхнуць,— ані,
Я шапну ёй, што жыць мне ахвота,
Што праходзяць ліпнёвыя дні.

*1926 г.*

## АТОЛ

Дзе бязберажжа ростань, дзе глыбінь акіяна,
Ёсць каралавы востраў, зацішны атол.
Непрыкметны амаль, ён гразіць капітанам,
Разам з тым ад прыбою бароніць, як мол.

Гэты востраў расцілі каралы-малюткі,
Закладалі аснову на жвірыстым дне.
Ён кальцом падымаўся стагоддзямі крутка.
А малюткі-каралы жылі, як у сне.

І бушуюць валы, выхаванцы прастораў,
І прыносяць абломкі грот-мачты, руля...
Ад часоў каравел да сучасных лінкораў
Ўсе той рыф абыходзяць — не вабіць зямля.

Але човен адважных ці плыт з беглякамі
Заўжды знойдуць прытулак, як пройдуць бурун.
Яны знойдуць спакой і угледзяцца самі
У прадонне зацішных, прывабных лагун.

Параўнай: ці ж той край, дзе радзімыя гоні,
Не баронны атол сярод грозных стыхій?
Не надзейны прытулак ў варожай пагоні,
У жыццёвай бядзе, у падзеях ліхіх?

А прывeты сяброў — то ж атол ў акіяне;
Каб даплыць да яго ў адзінокім чаўне!
Гэта ён, той атол, усплывае ў тумане —
Хопіць, хопіць жа сіл не замоўкнуць на дне!

*1952*

## САЛАВЕЙ

І зноў ты заляцеў
Сюды, ў знаёмы сад!
Магчыма, ты не той,
Ды гукі, гукі тыя ж.
І не змяніўся спеў:
Згадаецца вярбіна над вадой,
Згадаюцца часіны залатыя...
Ты куст аблюбаваў,
Ну, значыць, ён жыве!
Няхай той куст ў шыпах:
Паміж шыпоў — бутоны!
Цябе той куст чакаў,
І сад увесь чакаў, мой любы птах,
Чакаў тваіх вясняных перазвонаў!
Ці ўспомніў лаўку ты?
Яна мо падгнівае...
Прайшлі праз жах гады...
Дамок асірацеў... Сям'я дзесь дажывае.
Нішто! Абы ты зноў спяваў,
Салоўка родны мой,
Ды чараваў унукаў пакаленні!
Яны ідуць сюды гуллівай чарадой,
Прадоўжыць каб жыццё у новым захапленні!
Хай толькі не спугнуць цудоўны пошчак твой!

*1964 г.*

## КАЛІ...

*(Па следу дастаслаўнага цёзкі М. Ю. Лермантава)*

Калі я чую пчол ліпнёвае гудзенне
Або гляджу на клопат мурашоў,
На матылёў у кветках захмяленне,
На вылет птушанят, што кінулі алькоў...

Калі ідуць радочкам дзеткі з сада
І чую галаскоў сярэбраны раскат
Або ражок ад піянератрада
Збірае школьнікаў пад штандар на парад...

Калі пайшла ўразгон натужнасць хлебаробаў,
А гарызонт зацьміў завод-гігант шкляны,
А ў небе смельчакоў звышгукавыя спробы,
Практыкавацца каб ды ўзняцца да Луны...

Калі ад хваль магнітных ў Запаляр'і
Я чую голас з Мінска ці з Масквы,
А кінафільмы з Ніла ці Сыр-Дар'і
Перанясуць мяне на берагі Нявы...

Калі чытаю том прыхільніка навукі,
Калі узрадуе сугучнасцю пясняр,
Калі кунаюся ў сімфоній дзіўных гукі
Або ўглядаюся ў жаноча-матчын твар,

Што кісткай генія узняўся у Мадонну,—
Тады спаўзае з плеч цяжар маіх гадоў,
Ад думак жудасных знаходжу абарону,
І рукі цягнуцца ў абыймы ўзяць братоў!

Тады зноў радуюць і зоркі, і рассветы,
Зноў верыцца ў прагрэс, у барацьбу, народ,
У гімны перамог, якія недапеты,
Ды у жыцця спрадвечны карагод!

*1952—1965 гг.*

## ПАЯЦ

Ну што, паяц? Сам ты сабой здаволены?
Ты ж сёння паланіў і ложы, і балкон.
Здзяры хутчэй парык, бялілы змый,— ты
вольны!
У цемры сцэна ўся. Натоўп пайшоў ўразгон...

Чаму ж яшчэ вар'ятам пазіраеш
Ды углядаешся у люстра на свой твар?
Чаго яшчэ ад грыму ты чакаеш?
Змывай яго! Няўжо не гаспадар?

Хоць плач цяпер, табе не зняць лічыны:
Бялілы ўедлівы, румянаў не адмыць!
Ты звыкся так падроўніваць маршчыны,
Ты звыкся так самім сабой не быць!

Але на ўсё ёсць спын, і сёння час расплаты!
Апошні раз, паяц, зрабіся сам сабой.
Не трэба слёз: дарэмныя растраты.
На вежы поўнач б'юць. Апошні бой — ён твой!

*1965 г.*

# КРЫЛАН

*(Паэма)*

## НАД ХМАРАМІ

1

Па-над стужкай рачок,
Дзе рунее лажок,
Па-над вёскай, над цэглай гудоў-гарадоў —
Так падобны зусім
Да баечных багоў
Хтось ляціць ў паднябессі ў няведамы бок...

2

Ён стралою ляціць,
Неяк дзіўна гудзіць,
Ён пануе над логам, над морам — ўладар,
Ў вышыні, як арол,
Як міфічны Ікар,—
Яго шлях — бездарожжа, бязмежжа блакіць.

3

А пад ім Бабілёны ляжаць — гарады,
Як стажары гараць
Ліхтарнямі ўначы;
Там ніколі не скажуць людзём: адпачынь,
Там з'яўляюцца ўсіх
Ашуканстваў сляды.

4

Праз дымарні плыве, азіраючысь, дым,
Засціць сонца гмырак,
Засціць неба імглой;
Ён ахвяраў зямных без крыві аналой,
А той смутак, той дым —
Як чарнец-пілігрым...

5

А пад ім распрануліся ніўкі, лясы,
Ды паўзуць цягнікі,

Як вужакі паўзуць;
І раллі, і пакосаў ляжаць паясы,
Людцы справы свае
Павучынай снуюць.

6

Хто ён там? і куды? і адкуль? і зачым?
Дзе разбег летуна
Ён свайго супыніць?
Ці захоча сябе ён знізіць, прытуліць,
Гэны новы чарнец,
Воблак-хмар пілігрым?

7

Усё пад ім. А над ім толькі дзеці нябёс,
Толькі сонцы між зор,
Толькі месяца твар,
Толькі волатаў гэных нязменчывы лёс
Прызнае над сабой
Той лятун-уладар.

8

І дрыжаць, і гудуць скрыдлы птаха-арла...
Той арол нежывы,
Але быццам жыве;
Хвалі ветру сячэ, то па хвалях плыве,
Яго думка ўгару
Ад зямлі узняла...

9

Парадзіла яго думка вольных людзей,
Каму поўзаць даўно
Паабрыдла ў пылу;
Яго скрыдлы ствараў не адзін чарадзей,
Дамагаўся, каб даць
Сэрца, жыцце арлу.

10

І арлы ўзняліся над парай раллі,
І арлы на арлах
Угару узвілісь;
Перад рыцарствам хмар — што нізін каралі?
Уздымі галаву,
Каралёк, ды дзівісь!

11

Так той рыцар лунаў, песні песняй пяяў.
Песні тыя, што чуў
На зямлі ён калісь;
Спевы жальбы палёў, спевы ўсіх кавалёў
У песню зорных абшар
Там цудоўна ўплялісь.

12

Хто там слухаў яго ў адзіноце святой —
Толькі вецер-падвей,
Толькі хмарка шпарчэй
Пранасіліся там са сваёю слатой,
Ды паліў сонца твар,
Слаў праменні з вачэй...

13

І спяваў Ізяслаў,
І арлом кіраваў,
Углядаючысь пільна у стэпы, лясы;
Ён не голасам пеў,—
Ён душою хмялеў,
І не раз яго вочы дазналісь расы...

## ГОРНІЯ СПЕВЫ

14

Ясна ў небе. Вольна ў небе!
Там душы не трэба слоў,
Там на хмарах, па патрэбе,
Піша сонца псалм вякоў.

Зоркі плачуць ці смяюцца,
Не адкажа сын зямлі,
Як адвечныя нясуцца
Па бязбярэжнай раллі.

Хто туды падняцца зможа?
Думкай смелы і глыбок...
Зорка сыну дапаможа
Заплясці сабе вянок...

Ўспомніць спевы роднай маці,
Як люляла ля грудзёў,
Як наўчала пазнаваці
Гоман лесу і палёў.

Ўспомніць першага кахання
Веснавы зялёны спеў,
Жаль халодны развітання,
Снегавых віхроў павеў...

## УСПОМІН

### 15

Як вярбіны сырой адарваны лісток
Вецер гоне з галін
Ад радзімых гняздзін,
Так стыхія вайны ад лясістых заток
Аж пагнала у свет
Палядына вяршын.

### 16

Яшчэ вус не прашыб каляровы пакроў,
Яшчэ твар чырванеў,
Калі дзеўчыну стрэў,
Як прыйшлося пакінуць заховы бароў,
Вулкі родных сяліб,
Пах зварочаных скіб...

17

Бацька дужы яго дзесь ў акопах, як крот,
Пільнаваў, бараніў
Межы царстваў чужых;
Сцюжу, слоту знасіў, слухаў выбух грымот,—
Ды ад бойкі аднэй
Век-а-век супачыў...

18

— Дзе ж ты косткі злажыў? Мо на глебе Прусоў?
Можа, Нёман, як дзед,
Да сябе прыгарнуў?
Можа, Прут ці Дунай Беларусі сыноў,
Як і родных румын,
Ў сваё ўлонне глынуў?

19

Вобраз родны, стары прад вачыма стаяў,
Вобраз бацькі, што век
Жыў ля сына ды з ім,
Што ў апошнюю хвілю яго ўспамінаў,
Бо без ласкі грудзей
Жыць прыйшлось абаім.

20

Бацька рана матулю яго пахаваў
Каля вёскі глухой,
Над Дняпром, над ракой;
Яе сон і спакой белы крыж вартаваў...
Ці струхлеў, ці падгніў —
Сын яго не пазбыў...

21

Ці ж вартуюць крыжы сон ваякаў-бядот?
Тут касцяк галавы,
Там рукі, там нагі.
Колькі снегу, дажджу, сухавеяў, спякот
Знаюць косткі палёў,
Знаюць лёс свой благі!

22

Так пра бацькавы скон развражаў Ізяслаў —
І хлапчук- сірата,—
Як малітву тварыў,
Бо малітвай яшчэ стогны сэрца сцішаў,
Бо ён верыў тады
І малітву любіў.

23

У чужой старане адзінота-хлапчук
Сам сябе выхаваў,
Над сабой працаваў;
Ён не ведаў радні настаўленняў-прынук,
З рук гатовых чужых
Ён навукі не браў.

24

Нагляданне жыцця школай стала яму,
Сябрам кніга была,
Думцы сілу дала;
Удзячным толькі і быў духу волі свайму,
Што бурліў у крыві,
Прызываў: ты жыві!

25

І ён жыў, працаваў, дзе і як давялось:
То звыкаў кіраваць
Гаспадарчым канём,
То любіў з кавалём правіць кола і вось,
Размякчаў, гартаваў
На кавадле агнём.

26

Неяк выпала раз Ізяславу лятаць:
Яго ўзяў за сябра
Сталы лётчык з сабой.
З тых часоў палюбілась абшары хапаць,
Хоць у думках ужо
Ён лунаў над зямлёй.

27

З тых часоў палюбіў адзінокую высь;
Здолеў петлі рабіць,
То матор затрымаць,
То кружыць каршуном, ля зямлі берагчысь,
Ды сяброў-летуноў
То дзівіць, то пужаць.

28

Шмат пабачыў згары кругавідаў зямных,
Рэчак моцны разбег,
Вілавацін-вужак.
Гарбавін ланцугі, плямы гушчаў лясных,
Плямы жоўтых стапоў.
Дзе палюе кайсак... *

29

З высі карты пісаў, за навукай сачыў,
Ды памылкі яе
Выпраўляць давялось,
Але бомбы кідаць, хоць вайсковым і быў —
Хвала зоркам святым! —
Не прыдарылась штось!

30

І брыдота зямлі, ашуканства, спадман
Нейк вонках прайшлі
Загартнелай душы,
Хоць часамі сустрэчныя вочы і стан
Так прынадны былі,
Так шапталі: грашы!

31

Тым хутчэй падымаўся ўгару Ізяслаў,—
Стуль прынады зямлі
Непрыкметны былі.

* *Кайсак* — казак-стэпняк, вандроўшчык.

Вецер, братка яго, кроў студзіць памагаў,
Чыстасць сэрца мацніць,
Чыстасць думкі крыліць.

32

Шлі за годам гады, Ізяслаў перарос
Хвалявання пару,
Захаплення той чад;
Як над морам Паўночы ляціць альбатрос,
Над жыццём-небыццём
Ён лунаў наўздагад.

33

Пасля ночы аднэй балявання сяброў,
Дзе свой келіх віна
І Крылан асушыў,—
Разам з сонцам узняўся над смуткам палёў.
Там сын скутай зямлі
Сонцу модлы стварыў...

34

Замест псалмаў старых, ён узяў пасяваць
Песні песняў жывых,
Кніжку новых часоў.
Мовай роднай яму хтось хацеў перадаць
Долю ціхіх людзей,
Долю шумных лясоў...

35

То не словы былі, а праменні ад зор;
То не вершы былі,
А гудзелі званы,
І гукалі кудысь, і няслі прыгавор,
То, як хвалі крыніц,
Выбіваліся яны!

36

І на скрыдлах арла ён пяяў і чытаў,
Псалмы пеў Ізяслаў,
Іх скрозь слёзы пяяў,

Ці лады ён складаў, ці то слёзы глытаў...
Так высока дасюль
Над зямлёй не лунаў!

37

Мова маці яго загучэла ўгары,
Калыханка яе
Залюляла яго.
Паваскрослі ў душы дні дзяцінай пары,
Усё жыццё праняслось
Ад маленства свайго.

38

І да роднай зямлі прыцягнуўся Крылан,
Каб убачыць хутчэй
Яе ніўкі, бары.
Ледзьве-ледзь аб чужы непрыветны дзірван
Не разбіў ён арла
І сябе без пары...

## ЗВАРОЧАННЕ

39

Усё бліжэй і бліжэй яго родны загон,
Во, ўжо Окаўскі бор,
Во, ўжо стужка Дзясны!
Напружыся, арол, на адзін перагон,
Каб ля дзеда-Дняпра
слухаць гоман лясны!

40

Во, пад ім на крутых гарбавінах Мсціслаў,
І царква і касцёл,
Іх счарнелы купол.
— Добры дзень, старына! — прывітаў Ізяслаў,
У захапленні душы
Кінуў вокам вакол.

41

Як зірнуць, зелянелі узвышшы, лясы,
Пляма хатак малых,
Стужка рэчкі, масток...
Столькі тут захавалася ціхай красы,
Сам не ведаў аб ёй
Гэны дзед-гарадок!

42

Павучыну сталеццяў Крылан разгарнуў
І убачыў унізе
Барацьбу за мяжы,
У крывавыя плямы згары ён зірнуў,
Што лілі з двух бакоў,
Як садзілі крыжы.

43

Столькі гэных крыжоў насаджалі цары
Разам з сілай сваёй
Паваложскіх татар —
Крычаў, Быхаў, Мсціслаў ды навокал бары —
Ўсё палала цяплом,
Каб угрэўся тут цар.

44

Мала вёскам памог і Сангушка Раман,
Што пад Оршу ішоў
Родны край бараніць:
Для гістор'і герой, быў для вёсак ўсё ж пан,
Бо герояў яго
Мусіў сейбіт карміць!

45

Беларусін хаваўся ад вояў ў лясы,
Адпакутаваў там,
Як і продкі даўней.
Уначы выхадзіў пільнаваць паласы,
Каб слязіны сваёй
Смак зрабіць саланей.

46

І прапраўнук тых слёз угары разважаў:
«Павучына вякоў —
Ураджайнасць былля!
Каб іначай гісторык пра вас напісаў,
Можа, меней было б
І сягоння гнілля?»

47

Каб не тым на галовы вянкі заплятаць,
Хто складаў па сабе
Аж гару чарапоў,
Але тым, хто з паходняй ды з кнігай шукаць
Людзтву свету ішоў
Ад стыхіі ахоў.

48

Палкаводзец які Ганібал, Банапарт,
Ці ваякаў палкі,
Ці цары-каралі,—
Ці ж хто з іх тэй падзякі вялікай быў варт
Ад спалёных сяліб,
Ад стаптанай раллі? —

49

Не, не ім, але тым, што навучылі вучыць,
Як прыроду кахаць,
Як братоў шанаваць.
Не, не ім, але тым, што навучылі лячыць
Ды мікробаў крыві
Барацьбу назіраць.

50

А падзяка таму, хто скруціў Перуна
Ды хто пару, агонь,
Як у колы, запрог,
Каб хадзіла шпарчэй па палёх барана,
Каб глыбей у зямлю
Зарываўся нарог!

51

А падзяка таму, хто на горы зышоў,
Пад уладу машын
Хто паветра аддаў;
Канцавоссе зямлі хто адважна знайшоў,
Хто на выдмах пустынь
Для навукі блукаў!

## НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

52

І спыніўся блакітных пустынь бедуін
За старым за Дняпром,
Над адхонным пяском,
Там, дзе хвоя вартуе падмуркі руін,
Дзе капліца як спіць
Побач з ліпай радком.

53

Ён угледзіў з высі і прызнаў гэны кут,
Дзе у жыцце прыйшоў,
Дзе дзяцінства правёў.
Тут і маці яго ўжо пазбылась пакут...
Ці стаіць яе крыж
Сярод простых крыжоў?

54

Дык хутчэй жа, хутчэй прыгарні да грудзей,
Бераг роднай ракі,
Летуна-Крылана!
Каб на гоні дзядоў стаў на ногі мацней,
Дзе за дзедам яго
Ішла ўслед барана!

55

О, пяскі, залатыя худыя пяскі!
Хай ліюцца дажджы,
Хай сачацца снягі,

Усё праходзіць скрозь вас да падземнай ракі,
Ці даведаўся хто
Пра яе берагі?

56

У нетрах вашых пяшчын б'е жывіца вады.
Яна выйдзе калісь
І крыніцай заб'е.
Хтось прагоніць смагу, хтось нап'ецца тады,
І паставіць там крыж,
І святой назаве!

57

О, пяскі, залатыя Дняпроўя пяскі!
Колькі поту ужо
Пралілося скрозь вас,
А ці выйдзе калі плынь магутнай ракі,
Каб жывіцай жыцця
Адрадзіцца ураз?

58

Ўжо арол на пяску. На зямлі і Крылан
Сярод родных сялян,
Што ад вёскі бягуць.
Ізяслаў на зямлі.— Паздароў, акіян! —
Небасхіл-акіян!
«Добры дзень, цвярдынь-пуць!»

59

Падбягаюць хлапцы і дзядзькоў чарада,
Сыплюць словы яму:
«Хто такі ды аткуль?
Ці спыніўся саўсім, ці спяшае куды?»
Тых цікавіць матор,
Тыя шчупаюць руль.

60

І адказы дае хмараў госць — Ізяслаў:
Імя бацькі назваў,
Імя маці свае.

Сівы дзеда тады свайго ўнука прызнаў,
І вітае яго
Ён старэчай слязой:

61

— Дачакаўся стары свайго ўнука такі!
Ты ж — сыночак яе,
Мае роднай дачкі!
Вунь, на могілкі глянь, ў гэты бок ад рукі:
На падгорку ракі
Ўсё крыжы, ўсё мае!

62

— І дзядзькі там твае: і Андрэй, і Антось,
Там бабуня твая,
Там і маці ляжыць.
Каб жа ёй на цябе хоць зірнуць давялось!
Але не, аніяк —
Дваццаць год ужо спіць!

63

Дзеда простага слоў не ўтрымаў Ізяслаў:
Крыга сэрца яго,
Як паводкай, пайшла.
На старых на плячох, як малы, ён рыдаў,
А наўкол ад яго
Вёска гоман вяла...

64

Маладзіцы слязу выціралі хутчэй;
Ад табакі дзядзькоў,
Як з асеці, дало.
Аганёк прабягаў ад дзявочых вачэй,
Але разам усё
Падалось на сяло...

65

Дзень мінуў, першы дзень сярод гоману слоў,
У паветры тых слоў,
Што хаваліся вякі,

Сярод мовы тае, што усіх, як братоў,
Абзывае яна,
Што куюць веснякі.

66

«Дык ты, братка, ўвесь час аж пад хмары сігаў!
А ці ж лёгка там плысць?
Ці не млее душа?»
Амаль кожны пытаў і адказу чакаў.
«Там, брат, шляхаў няма,
Альбо ўсюдых саша».

67

Хутка з гутаркай той звыкся братка Крылан,
Ён машыну злажыў
У кагось пад павець,—
Да пары, пакуль зноў дух блукання — шатан —
Ад цвярдыні зямлі
Зноў да хмар не гукнець...

68

А пакуль ён любіў гэту маці цвярдынь,
Гэту вулку сяліб,
Гэту хатку, што грыб;
Але болей любіў рэчкі роднае плынь,
Плюскат срэбны яе,
Вольнаселішча рыб.

69

На прасторы лугоў ён любіў паглядзець,
Што за рэчкай ляглі,
За сялібай крыжоў.
Тут на наспах старых ён любіў пасядзець,
Дзе матулі сваёй
Крыж пахілы знайшоў.

70

З'елі хварбу дажджы, з'елі наспу яны,
Толькі вобраз жывы
Як святы тут стаяў.

Ўспомніў вочкі яе, валасок альняны...
І рабіўся дзіцём,
Яе ласкі чакаў...

71

Ўсё бяжыць ды бяжыць сівавусы Дняпро,
Праз вякі ён бяжыць,
Праз лясы і лагі,
А бяжыць аж туды, за казацкі парог,
Аж пакуль не міне
Ён свае берагі.

72

Там дзядуню-Дняпро ўлонне мора гляне,
Там дзядуня-Крывіч
Распране свой паяс,
Горкіх хваляў глыне, ды на іх і засне
Пад Палуднем спякот
На нязлічаны час.

73

Ўжо дажджом на мяжы беларускай зямлі
Не пральецца дзядок
Каля Клёцаўскіх хат;
Адрадзіцца ізноў ад балтыцкай раллі,
Дзе сястрыцу Дзвіну
З Рыгай сватае брат.

74

Наравіста сястра у затоку плыве
Праз Рубу, Капачы
Перакорыш-парог...
Давялося цяпер Рагвалода ўдаве
Зноў заставы трымаць
Чужаземных дарог!

75

І прад вокам таго, хто над рэчкай сядзеў,
Ўсёй мінуўшчыны твар,
Як у люстры, паўстаў.



Міхайла Грамыка
з доктарам геолага-мінералагічных навук
Пятром Мікалаевічам Чырвінскім.
Хібіны, 1940 г.

Як бы з люстра-Дняпра шлях варагаў глядзеў,
Нечы голас глухі
Ізяслава гукаў.

76

Ён гукаў заглянуць пад прысады вякоў,
Дзе зацішша ды цень,
Дзе спачыла жыццё.
Скамянела даўно там змаганне князёў:
Там і бойкі, і сойм —
Успамін, забыццё!

77

І цякуць у гісторыю год і вякі...
Нібы сетка-рачок
У затоку глыбінь;
Нібы жылы нутра, цеплаты касякі,
Што у сэрца нясуць
Хваляванні крывін.

78

Так раўняў Ізяслаў формы з'яваў зямных,
Плыні думак сваіх
Ён з прыродай раўняў.
Плыні думак цяклі, як з крыніц тых жывых
У затоку душы,
Дзе нябыт іх чакаў...

## МІЖ ВАСІЛЬКОЎ

79

Ці ж у смутку сядзець прызямліўся Крылан?
Ён ідзе працаваць:
Ён навучыўся араць
Ды з касой абхадзіць зеляніну-дыван,
Каб за ёю услед
Не забыцца спяваць.

80

Ён ідзе працаваць на гарод і на млын
І дае там прыклад
Згартаванай рукі;
Крылана не спазнае у ім селянін:
Сярод іх ён увесь,
Як усе веснякі.

81

Толькі вочы яго крыху болей гараць
І нясуць аганькі
Зоразнаўчых глыбінь.
Прыглядзецца — дык сына блукання спазнаць
Па задумы слядох
Ценяватых маршчын...

82

Апрануцца любіў ён у колер снягоў,
Ды каб вузкі паяс
Чырванеў пасярод;
А свой твар аддаваў пацалункам вятроў,
Калі ставіў снапы
На сухі азярод.

83

І тады ад яго васільковы шоў пах,
Бо ён хрэснікам быў
Аржаных каласкоў;
І такую ён моц спачуваў у нагах,
Нібы ўрос у зямлю
Каранямі вякоў!

84

А навокал яго плюскаў водгуллем смех,
Шчокат тых галасоў,
Што як птушкі пяюць...
Ці ж усход прывітаць шчакатухам тым грэх?
Ці ж ад кветак ліпца
Вонках пчолкі лятуць?

85

Б'е жыццё у вачох, б'е жыццё у грудзёх,
У вачох — заранiц,
У грудзёх, як з крынiц.
Цi то копны складаць, цi раскiдываць стог —
Смеху хопiць на ўсiх —
На дзяўчат, маладзiц.

86

А на iх хараство Iзяслаў пазiраў,
Як на хвалю ракi,
На галiнкi бяроз;
Не драпежную страву у iх смакаваў,
Не пужаў ён ваўком
Статак сарначак-коз.

87

Як мастак, ён глядзеў на дзявочу касу,
Цi як братка глядзiць
На сястрычак сваiх,
Калi з песняй канчалi сваю паласу,
А той спеўнiк жальбы
Як прасiўся за iх.

88

Iзяслаў падышоў, як раўня, да дзяўчат;
Яго жарты нiяк
Не будзiлi самца;
Жартаваў-працаваў памiж хустачак — брат,
Прызвычаiў самiх
Так глядзець на хлапца.

89

— А заглянь-ка сюды, вунь iдзе наш Крылан!
Нешта цягне ў руцэ...
— Цi ж не бачыш: то сцяг!
— А за iм жа, сястрычкi, Грыгорка ды Ян!
— Кiньма, дзеўкi, сярпы,
Бо дажынкаў працяг!

90

Гуртаваўся тады моцны моладзі хор,
Вёсак некалькі тут
Пасхадзілася ўраз;
Ладзіў іх галасы доўгім водгуллем бор,
Ды жніўё навакол
Ім давала адказ.

91

І нясуцца-гучаць спевы новых сярпоў,
На нядолю-бяду
Сумавання няма!
Ўжо даволі сярпы пазразалі снапоў,
Ўжо ідзе, ўжо гудзе
Сіла — Моладзь Сама!

92

Хто ж ім словы даваў, хто ж ім словы складаў?
І бяда, і прыгон,
І жаданне жыцця.
Песняроў-дудароў голас моцны наддаў;
Ад спрадвечнага сну
Даў жывога піцця!

93

Песняроў распяваць сам вучыўся Крылан,
Часам песні і сам
Ён для вёскі тварыў.
Моладзь хутка за ім прызвычаіла стан
Песняра-вадыра
Гэтых вулак і ніў.

94

Вольны сцяг у руцэ, а за сцягам снапы,
Між снапоў, як квятнік,
Шэраг жвавых дзяўчат;
То ж дажынкі ідуць ад капы да капы,
Не спазнаць у вачох
Дзедаў-хлопцаў ўнучат!

95

Вочкі большасці з іх — колер іхніх нябёс,
Хоць не мала такіх,
Нібы поўдзень іх ксціў;
Шмат каторы з хлапцоў тут знаходзіў свой лёс —
То чакаў-пагражаў,
То цярпеў, то прасіў.

96

Вось запаліцца твар, як маланкі стажар,
Але ў вочках лядок,
Як над вірам масток.
Колькі ж гэты лядок патрабуе ахвяр,
Калі гляне дзяцюк
Праз лядок у стажар!

97

— Крывічанка, дачка гэтых хвойных бароў!
У цябе і Літва
Захавалась ў вачох;
Праз пражылкі твае часам ляшская кроў
Загулліць, дадушы,
Як на тых берагох!

98

— У каханні тваім украінку спазнаць,
Як маскоўскі дагляд
Ты частуеш гасця;
А як здольна пяяць, а як здольна скакаць,
Не пазбыцца цябе
Аж да скону жыцця!

99

Так казаў той Крылан і падтрымліваў сцяг.
Ён уперад глядзеў,
Але бачыў наўкол.
Калі песня не йшла, ён даваў ёй працяг,
І дажынкі няслісь,
Ім адказываў дол.

*1923 г.*

## ЛЕСНІЧАНКА

*(Паэма)*

### ПЕСНЯ 1-Я

Над Нёманам, рэчкай вядомай,
Што поіць узмор'і Літвы,
Дагэтуль вайсковыя громы
Сярдуюць на сон баравы.

І шэрыя жэрлы гарматаў
Пільнуюць і Захад і Ўсход,
Не мае спакою араты
Над Нёмнам, ці першы-то год!

Сядзібы прымусіў пакінуць
Падужаны царскі казак:
«Вам лепей за Волгай загінуць,
Каб ў войска не ўзяў вас прусак!»

І костачак бежанскіх соткі
Убачыў і стэп і Урал.
І гінулі дзеці, малодкі:
Слаў Нёман сыноў за Байкал...

* * *

Каб скончыць і бойкі і спрэчкі,
Паўсталі працоўных рады,
Крывёю запляміліс рэчкі,—
І скінут царат без бяды!

Над Дзвінню, над Сожам, Бярозай
Даўно паўцякалі паны...
Вось толькі над Нёмнам пагрозай
Сядзяць ўсё яны як яны...

* * *

Дзе ў Нёман ўплывае Дубоўка,
Мяліны глядзяць з-пад вады.
Чаўнок абмінае іх лоўка,
Насунецца плыт заўсягды.

І плытнік стары, як належыць,
Наваліцца прысам на пуп,
Слаўцом па-над рэчкай урэжа —
І сунецца з меліны дуб.

Ёсць гакаў на рэчцы багата,
А ёсць і адзін астравок,—
На ім лесніковая хата,
Як баечны нейкі куток...

Лазняк і даўгія чароты
Хаваюць яго ад вачэй...
Здаецца, там дрыгвы, балоты,
І Нёман тут круціць байчэй.

* * *

Спяшаецца чоўн незнаёмы
Той востраў хутчэй абмінуць,
Каб часам ў віры-вадаёме
Дрыгвянай вады не глынуць.

Дык мала хто ведае сцежку
Да Броніка ў дзіўны куток;
Не кожны там знойдзе начлежку,
Патрапіць на той астравок.

Праз лапіны буйнай парэчкі,
Што мурам ад дрыгвы расла,
Хаваючысь, сцежка прасечкай,
Як лесам, да хаты вяла.

Хавалася шэрая хата,
Вяла з хмызнякамі хаўрус,
Бярвеннем ды мохам багата,
Як любіць наш брат — беларус!

Курыла праз комін дымочкам
На жах саламянай страсе,
Крывенькім смяялася вочкам,
Нібы на крывенькай назе.

Свіронак, хлявок ды паветка
Сябрамі тулілі дварок,

Саху замяніла тут сетка,
Ды нерат, ды хітры жачок.

Ды часам пад прасла садочку —
Паўна гаспадарчых клапот —
Спяшалася жоўтая квочка
Пусціць куранят на гарод...

Было гаспадаркі тут мала,
Затое садок харашэў:
Чыясьці рука даглядала,
І кветкамі ён як гарэў.

І ганак, у лісце прыбраны,
Альтанкай зялёнай глядзеў.
Прад ганкам пляцок пасыпаны
Пясочкам адборным жаўцеў.

Хто ж быў жыватворчым дыханнем
Таго астраўнога кутку?
Чыё несупынна стаpанне
Смяялася нават лістку?

Пануры ляснік сівавусы
Свой кут не заўсёды сцярог,
Бо меў ён ад службы прымусаў
Даволі у лесе трывог.

Са стрэльбай старой дубальтовай
Ён тут пільнаваў гушчары
І ведаў звярыныя ловы
Яшчэ да крывавай пары.

Ён сам быў, як лось той паважны,
Што чула глядзіць з-за галін,
Стары адзінотнік бадзяжны
На сцежцы таемных дрыгвін.

Той Бронік упарты ніколі
Панам не стараўся служыць,
Хоць панскі той лес мімаволі
Даўно даглядаў ён, каб жыць.

Лясы нам з дзядоў паспадалі,
Садзілі іх тут не паны,

Дык трэба, каб іх пільнавалі,
Каб жа не пазніклі яны!

Так Бронік у думках і словах
Свой чын заўсягды вызначаў,
І нават у панскіх умовах
Аб гэтым стары не маўчаў.

Але ён цаніўся па службе
Як спрытны сумленны ляснік,
З сялянствам таксама жыў ў дружбе,
Бо з глупствам лавіць не прывык.

Другім прыжывальцам тутэйшым
Быў Стаська, хлапчына адзін,
Нямы перавозчык, цішэйшы,—
Краіны няведамай сын.

Ледзь золак — ужо ён над рэчкай
Кіруе даўблёным чаўном;
То вынырне з ім між парэчкай,
То плясне над Нёмнам вяслом.

Часцей заплываў на Дубоўку,
Каб жакам абмацаць кусты
Ці ў сетцы з даўгою вяроўкай
Лічыць карасёвы хвасты.

Агледзеўшы нераты, жакі,
Нямы азіраў берагі:
Ці трэба каму небарака,
Падаць каб на бераг другі.

Ён з вострава ўсіх перавозіў:
Без Стаські не трапіць туды;
А часам на вёску завозіў
Па шляху бягучай вады.

Ці ж мог гэны Стаська бязмоўны
Прывабны куток ажыўляць?
Рабіць астравочак чароўным,
У кветкі яго прыбіраць?

Ды не, тут істота другая
Сваё выяўляла жыццё,

Як фарбы квяцістага мая,
Прыроды святой багаццё!

Дачка Браніслава Галена,
Дзяўчына прывабных гадкоў,
Усім кіравала нязменна,
І жыў астравок леснікоў.

Тут песня за песняй лілася,
Ледзь толькі ўвайшла у садок.
Вядома ж, не ціхага Стася
Тады хваляваўся чаўнок!

Не раз плытагон-вальналюбец,
Захоплены тым галаском,
Ламаў свой бусак-адназубец,
Спыніцца каб тым астраўком.

Ды Нёман, дзядуня зайздросны,
Мацней тады шваямі трос,
І топкі плыток стаяросны
Шпарчэй з Навагрудчыны нёс.

Як бацька у лесе вартуе,
А Стасік рыбачыць ў кустох,
Тады лесні́чанка жартуе
З дзядунькаю Нёмнам удвох.

Ў парэчках тканіну скідае,
Са стромкага беражку — бух!
Тады толькі Нёман той знае
Дзявоцкі няспынены рух.

Тады ажыўляюцца дрэвы,
За рэчкаю бор зашуміць:
І чуюцца, нібы напевы,
Што добра з прыродаю жыць!

А белыя пруткія грудзі
Кіруюць на бераг другі.
Дарма,— іх не бачыць вам, людзі,
Пакуль вы яшчэ не багі!

Далёка ніжэй на пясчанку
Выходзіць яна адпачыць.

Хто бачыў жывую вяснянку?
Дзед Нёман? Дык ён прамаўчыць!

Ўстае, азіраецца пільна,
Бяжыць па пясочку цішком
І чайкаю б'е белакрыльнай
Праз Нёмнавы хвалі ніцком.

Ды досыць ужо асалоды!
Бяжыць апранацца хутчэй.
Бо хатнія трэбы-турботы
Таксама не ссунеш з вачэй.

Палуднаваць вернецца татка
Са Стаськам у чоўне сваім,
Дык трэба, каб пухлых аладкаў
Хапіла, канечне, траім.

Здаралася, трапіць у госці
Чацвёрты хто-небудзь з мужчын:
То лоўчы напрэцца чагосьці,
То нехта з вясковых дружын.

Галена тады прымаўкала,
Не тое — саромелась — не!
Паважней нібы выглядала,
Ды раптам за стол як зірне!

І новы той госць нечакана
Глыне асалоды з вачэй,
Заные душа, нібы рана:
Не спаць яму шэраг начэй!

Як пара віроў-азярынак,
Як летняга неба глыбінь,
Што часам зірне з-пад галінак,
Цягнула вачэй яе сінь.

І бровак шнурок саматканы,
І вусны, як зрэзаў разьбяр...
Ці ж можна раўняць з маляваным
Жывы лесні чанкі той твар?

У бацьку і ростам і станам,
Шчарсанкай па твары была,

Бо маці, паснуўшая рана,
Са Шчорсаў за бацьку пайшла.

Каму ж яе сэрца належыць?
Ці ёсць хто, яе каб крануў?
Маўчыць рэчка Нёман і рэжа
Свой бераг, як быццам не чуў!

Жыві, крывічанская птушка,
Спявай у садочку сваім!
Спявай жа, пакуль весялушка,
Не думай аб лёсе благім!

Хто жыцця дазнаецца сцежкі,
Каб ёй без калючак прайсці,
Каб ціха, як тыя арэшкі,
У пушчы сабе адцвісці?

Дык не, лесічанцы Галене,
Прыгожай валодарцы кос,
Шлях іншы дзявоцкіх імкненняў
Ўпісаў, не мыляючысь, лёс.

### ПЕСНЯ 2-Я

Жыць цяжка на «крэсах усходніх»,
Марнуецца дарма народ.
Гудзіць Навагрудак, Гародня,
Пад Вільню ідзе карагод.

Парадкі зямель пад'ярэмных
Ўжо лаяў стары каталік,
А моладзь, без слоў тых дарэмных,
Паўстанцаў ўсё большала лік.

За здзекі асаднікаў дзікіх,
За землі паснулых дзядоў,
За соткі няпраўдаў вялікіх,
Што ўсталі, як здані вякоў;

За ўціскі тутэйшага слова,
За крыўду бяспраўных дзяцей,

Якіх праз чужацкую мову
З-пад родных зрываюць грудзей;

За войтаў насланых учынкі,
За брыдкі жаўнерскі пастой,
За слёзныя матак расінкі,—
Адна тут адплата — крывёй!

І шырыцца ў вёсках паўстанне.
Хлапцоў падбываюць рады...
Чырвонага полымя здание
Палохаць ідзе гарады.

Тады налятаюць жаўнеры,
На сцягах бялее арол;
«Сярэдніх» вякоў кавалеры
Збіваюць усё навакол.

Хто тут ў барацьбе пераможа?
Упарты, напужаны пан
Ці той, чыё топчацца збожжа,
Чый ўвек зневажаецца стан?

* * *

— Татуня, уставай, татуня!
Ідуць ўжо нашыя да нас!!
— Якія? — Ну, Кастусь з-пад Руні
Ды гэты... мусіць, з ім... Тарас!

— Дапраўды? Вось жа гэта добра!
Дык, знача, хлопцы уцяклі!
Ну, трэба ж ткі прыняць харобрых,
Ці ж мала іх там прыпяклі!

І Бронік з Нёманам. Чуе, плешча
Вунь там з-за выгіну вясло.
— Сюды! — Ён кліча і трапешча
За хлопцаў: добра каб было!

У цішыні таемнай ночы
Тры хлопцы выраслі з чаўна.
— Здароў будзь, бацька! — Першы скочыў.
— Эх, ночка, слаўная ж яна!

Ідуць у хату. Небяспечна
Размову весці тут утрох.
Цішэй у хаце. Ды яечня
Напэўна жджэ іх і тварог...

Сядзяць ў застоллі абрусовым.
Стары і чаркі ўжо дастаў,—
Бутэльку з настаем зубровым
Ў руцэ пражылістай трымаў.

— Ну, выпі, хлопцы! Хай шанцуе
У справе нашай і далей!
Жандар нам світак не шкадуе,
Дык сам дастане на алей!

Як уцякалі, раскажы-ка?
Як не забіў вас тут жаўнер?
— Э, бацька, мы хіба так з лыка,
Хоць носім просты мы каўнер?!

Ідзе гамонка. Ды світанне
Каб не застукала іх тут!
Сказаць — дык не было жадання
Пакінуць той гасцінны кут...

«Не выдаць востраў той жандарам;
Куды! — У Нёман лепш на дно!
Ці ж гэным станам, гэным тварам
Прапасці ёй тут заадно?» —

Тарас падумаў. На дзяўчыну
Зірнуў. Адбегла кроў чамусь.
Нервова ўзяўся за аўчыну.
— Ну, годзе! Трэба йсці, Кастусь!

Хлапцы усталі.— Ну бывайце! —
Тарасаў голас як дрыжаў.
— Не хутка ў госці нас чакайце,—
Дадаў ён раптам і збялеў:

Сустрэўся зноў ў вачах з дзяўчынай,—
Там спачування сінь-дымок
Прабег, як туманок з лагчыны...
Галена раптам — зір убок...

Знайшлася ржавая вінтоўка:
Ляснік дзесь выкапаў з кустоў.
— Плывіце ўніз аж за Дубоўку,
Сягоння мала тут плытоў,—

Ляснік ім падае параду.
Галена моўчкі ўдаль глядзіць...
Венеры зорка, як лампада,
У небе дражніцца, гарыць.

Стары з Галенаю стаялі
Яшчэ час доўгі у кустах.
Вясло дзесь пляскала аб хвалі,
Ды ветрык тросся ў чаратах.

Без слоў ідуць яны у хату,
І астравок зноў засыпаў.
І як той вязень свае краты,
Так Нёман бераг пілаваў.

## ПЕСНЯ 3-Я

Агні па паверхах палацу
Скрозь ліпы гараць, як маяк;
Вядуць сярод ночы там працу
Натоўпы прышэльцаў-ваяк.

Увесь двор пазаняты аддзелам
Бліскучых кракоўскіх гусар
З начальнікам іх ашалелым,
Прыхільнікам жудасных кар.

Сам граф у палац вараціўся:
У Варшаву спачатку уцёк;
Цяпер хлебасольствам хваліўся,
І ліўся тут смачны мядок.

У партрэтах прадзедаўскіх заля
Штоноч разважала гасцей;
Вячэра змянялася балем,
Капэла іграла часцей.

Збіраліся часам шляхцянкі
Пабачыць вяльможных паноў.

З кутоў пазіралі падпанкі,
Каб спольшчыць тутэйшую кроў.

Дзяўчаты не йшлі у палацы
Да гэтых благіх малайцоў.
Ды як з панічамі ім знацца,
Што ловяць, страляюць хлапцоў!

Палкоўнік Бжэзіцкі акрутны
Дае па гусарах загад:
Каб выступіць заўтра нячутна
У лес на вясёлы парад.

— Пачэшуць за спінамі хлопы,
Павыб'ем мы з іх барбарызм,
Бо Польска ест варта Еўропы,
І трэба спыніць бальшавізм!

— Пан Вацлаў са мною нязгодны? —
З усмешкаю кінуў убок.—
Але то гусарам выгодна:
Нам трэба зрабіць гэты крок!

Палкоўнік сказаў, як адрэзаў,
І старкі для моцы глынуў,
І ў вочы халодным жалезам
Сваім падначальным зірнуў.

Пан Вацлаў Ржэвуцкі, паручнік,
Узяў плашч свой і выйшаў у сад.
З палаца йшоў гоман шматгучны,
Бег ветрык па ліпах прысад.

Як ціха і добра ў прыродзе!
Які і каму тут загад?
Без соймаў тут сонца усходзіць,
Без соймаў ідзе на закат.

Пан Вацлаў успомніў падзеі
Айчыны кіпучай сваёй:
Памылкі, бясслаўе, надзеі
І новага часу развой.

«Дзяржава! Айчына дзяржавай
Зноў выйшла на роўны той шлях.

З супрацоўнікамі-геолагамі.
Кіраўск, 1940 г.



З сынам Барысам. Хімкі, 1968 г.



Міхайла Грамыка са студэнтамі. 1943 г.



За рабочым сталом.
Хімкі, 1968 г.

Якая бязмежная слава,
Які неабмераны гмах!

Што ж бачым? На розныя кшталты
Учынкі глухой барацьбы.
І яўныя здзекі і гвалты,
І зноў і паны і рабы!

Навошта нам гэтыя «крэсы»?
Навошта напружны дазор?
Патрэбны нам іншыя месы,
Каб Польшча жыла, як узор!

За Польшчу паляк чырванее,
Сумленны, вядома, паляк;
Сіл колькі прыгодных марнее!
Ды што ім? — Скачы кракавяк!

А гэты тут люд нешчаслівы?
Што ім мы ад брацтва даём?
Крывавай культуры палівы!
Бяспраўя і слёз вадаём!»

І сум агарнае Вацлава,
Як цень ад руін уначы.
«О Польшча, о Кракаў, Варшава!
Як вам ды сабе памагчы!»

І доўга сядзеў ён на лаве
Пад ліпай дуплістай старой.
Успомнілась вёска на Млаве
І бацькаў садок пад гарой.

Затым ён пайшоў да жаўнераў
Праз сад і праз двор пад павець.
Тут некалькі з іх кавалераў
Збіраліс вяселле глядзець.

— Куды? — запытаўся гусараў.
— На хутар, вунь той, праз лагі.
— А хлопцы дадуць як вам жару?
— Не, пане, народ неблагі!

— Ніхто з іх злавацца не будзе,
Іх крыўдзіць не просты жаўнер!

Свае мы, папраўдзе, там людзі,—
І голаў схіліў афіцэр.

Ды раптам надумаў: «Станіслаў!
Пазыч марынарку сваю
Ды боты. Няхай жа пра Віслу
Не ўсё адно блага пяюць!»

Апранут жаўнерам Ржэвуцкі,
З жаўнерамі госцем сядзіць.
Усё чынна у хаце, па-людску,
І чынна вяселле гудзіць.

Ужо моладзь наладзіла скокі,
Хоць тут бракавала хлапцоў.
Пабраўшыся ў моцныя бокі,
Дзяўчаты шапталісь з кутоў.

Як раптам праз нізкія дзверы
Стары і дзяўчына ўвайшлі.
Хто быў тут, усе кавалеры,
Як пчолы, ў той міг загулі.

Ржэвуцкі досць бачыў паненак,
Бо быў ён, як-ніяк, гусар,
І колераў розных адценак
Ён ведаў, як гляне на твар.

Чаму ж ён цяпер задзівіўся?
Ці гэтым выразным вачам,
Дзе сіні агеньчык стаіўся,
Ці шыйцы, ці пруткім плячам?

Усё разам яго прыкавала:
Выразнасць яе пекнаты,
Каса, што вужакай спаўзала,
І нейкі размах прастаты.

Зірнула яна на вайсковых.
Але не здзівілася ім.
Нібы тым гасцям выпадковым
Патрэбна тут быць, як сваім.

— Чаму ж гэта войска, панове,
На нас навалілі зашмат? —

Спытаўся ляснік ў простым слове
І смела зірнуў на салдат.

Галена ўздрыгнула. Бялейшы
З гусараў пачаў гаварыць,
Па твары нібы маладзейшы,
У вачах абурэнне гарыць.

Што кажа? — Што поляк не кожны
Ідзе за урадам сваім,
Што Польска, затым, што вяльможна,
Дык вось дагаджае не ўсім.

Што ёсць абурэнне ў народзе:
Сялянскі сілкуецца дух,
Што розныя станы не ў згодзе,
Расце і рабочы там рух.

Што прыйдзе той час, і ў Варшаве
Засядзе за ўладу народ,—
Засядзе над Бугам і Млавай,
Што з «крэсаў» пазнішчыцца дрот.

Відаць, гаварыў ў пракананні,
Казаў аб тым твару выраз.
І дзіўна, што ў гэтым убранні
З вайсковым каўнерам якраз!..

І змоўк.
 І забілі ў далоні;
Відаць, закранула усіх.
Музыка не ўседзеў на ўслоне
І польку урэзаў уміг...

Пан Вацлаў Галене: «Мне трэба
Вам зараз жа нешта сказаць».
— Дык выйдзем! —
І выйшлі пад неба,
Дзе тыя ўсё зоры гараць.

І тут ёй Ржэвуцкі прызнаўся,
Што быў ён не просты жаўнер,
Што заўтра паход пачынаўся,
Што іхні начальнік, як звер.

— Ці верыць?
— То панны ест справа!
— Ну добра! Скажыце куды,
І нашыя хлопцы распрaвай
Не будуць памшчацца тады.

— Не будуць страляць у гусараў?
— Не!
— Добра! Тады я скажу.—
Ён крыху прыблізіўся тварам.
Галены напружыўся слух.

Шапнуў. Да рукі дакрануўся.
І знік за бліжэйшым кустом.
І зноў за кустом мільгануўся,
Як чорныя крылы, плашчом.

## ПЕСНЯ 4-Я

У лесе вялікім трывожна,
Таемна між шэптаў начных:
Цяпла раскладаці няможна,
Не вабіць каб зрокаў благіх.

На лапінах дрэў, за карчамі
Грамадка малойцаў ляжыць...
Хто ў зоры упёрся вачамі,
А хто завінуўся і спіць.

Багата турбот на Тарасе.
Не спіць тых хлапцоў атаман.
Глядзіць, як па зорным паласе
Бяжыць сівавусы туман.

Вось хруснула нешта па хвоях.
Падняўся на локці Тарас,
Нашчупаў скрозь торбу набоі,
З наганам прысунуў пояс.

Зноў ціха. Бармочуць спрасоння
Таварышы далі лясной.
Тарас пераходзіць ва ўлонне
Снатворнае казкі начной.

Тс! Нехта спяшыць праз гушчары.
Хто? — Свой, бо па свісту пазнаць.
У хлопцаў увага на твары:
Чакаюць, а хочацца спаць!

На свіст той каротка, умоўна
Тарас адгукнуўся свістком.
— Гатуйсь! — ён падаў аднаслоўна,
І ўсе паўставалі суздром.

Падбег Васілёк Асаёнак,
Хлапчук пад трынаццаць гадкоў.
— Што скажаш? — Дрыжыць варанёнак,
Глядзіць на старэйшых браткоў.

— Да вас лесьнічанка паслала,
Дык я на каня ды сюды.
Ўцякаць каб адсюль, загадала,
Убок, на Старыя Брады.

— А конь дзе?
— Стаіць пад гушчарам.
— Ну, добра! Ну, дзякуй, браток!
— Дык знача, забава гусарам:
Ідуць паляваць у лясок!

— А ты, Васілёк даражэнькі,
Да Нёмна скачы як хутчэй,
На Бронікаў востраў маленькі,—
Хавайся ад панскіх вачэй!

І там аддасі лесьнічанцы
Вось гэта... лісток тут, паняў?
Вітай там! Ану, падшыванцы,—
Уперад! Каб пан не заняў!

І рушылась ціха грамадка
Без спеваў і нават без слоў.
Відаць было іншых спачатку,
Ды пушча глынула сыноў.

Васіль да каня вараціўся.
Канёк ціхамірна чакаў,
Глядзеў навакол і дзівіўся
І шыю аб лісце часаў.

Як выйшлі з канём на прасеку,
Сеў верхам і рушыў трушком.
Хлапец адчуваў небяспеку,
Каб выбрацца з лесу цішком.

Вось пушча з усходу радзее.
Бач, сонца стаіць пад паўдня...
Як раптам два конных зладзеі
Канямі спыняюць каня.

— Стой, пся крэў! — І хлопчык змярцвелы
Убачыў сталёвы замах
І твар з-пад брывей азвярэлы,
І «тукала» сэрца, як птах.

— Папаўся, паслугач бандыцкі!
Нам трэба яго абшукаць,
Каб пане палкоўнік Бжэзіцкі
Прычыны не меў зазлаваць!

Забыўся хлапчук з перапуду,
Што ў шапку паперку паклаў.
Але ж Васілёк той Іудам,
Хоць як ні пыталі,— не стаў!

— Той ліст да каго? — І маўчанне
Ім кідае хлопчык у твар.
Зноў б'юць, толькі чутна стагнанне
Ды шэпты ідуць між гусар.

І ловяць, і цягнуць у кучу
Старога, малога, дзяўчат,
Здзіраюць кашулі, анучы,
Шукаюць вайсковых прылад.

Крык, стрэлы, каманда, як рэха,
Па лесе лунае ўвесь час.
То водгулле п'янага смеху,
То дзікі пужлівы галас.

Пан Вацлаў, смутнейшы за хмару,
Таксама у лесе тым быў,
Глядзеў на глуменні і кару
У душы сваёй чулай насіў.

Як раптам учуліся крыкі.
Ржэвуцкі у пушчу бяжыць
І бачыць учынак там дзікі,
Што трэба хутчэй бараніць.

Ён рушыў наперад, як сокал,
І кінуў гусара пад пень.
Зірнуў той драпежна навокал,
А хустачка знікла, як цень.

— Як смееш! — ускочыў граф Шэцкі,
Схапіўся за шаблю уміг,
Ды збіў яго штурх маладзецкі,
І гнеў закруціў абаіх...

— Цяпер ты пра гонар успомніў,
А гвалціць — то права дзядоў? —
Ржэвуцкі гудзеў непрытомна
І выцяў гвалтоўніка зноў...

І шаблю занёс ён як кару,
Ды раптам чыясьці рука
Спыніла развязку гусара:
Стаяў сам злы геній палка.

— Звязаць! — загадаў ён жаўнерам.
Ржэвуцкі адскочыў назад.
Туман абвалок кавалера,
Ён кінуў палкоўніку: «Кат!»

І выпаліў з браўнінга ў ката,
Ды раптам прытомнасць згубіў:
Па ім як прабеглі салдаты,
Пад грудзі хтось горача ліў...

* * *

Дзяўчыніна сэрца, як пушча,
Жыве патаемным жыццём.
Ёй сінія вочы не сплюшчыць,
У марах не спаць забыццём!

Час важныусклаў на дзяўчыну
Адказных нямала турбот.

Паднёмнаву звольніць краіну
Унукам прыйшоў карагод.

Ды добра сябе адчувае
Галена ў сваёй грамадзе:
Тут кожны душу пашырае
У думках, у працы, ў бядзе...

А бацька! Стары маладзее,
Як моладзі сыпне гурток.
Для іх ён супроць ліхадзеяў
Аддаў свой прытульны куток.

«Хіба мяне пушча не знае?
Ці стрэльбай не здольны крутнуць?» —
Стары між хлапцоў разважае,
Каб моладзі спрытнасць крануць.

І Стась перавозіў праз Нёман
Паўстанцкіх вось тых арлянят,
І чуўся тут стрыманы гоман
І шэптаў згавораных лад.

Дзень сходзіць. Ад рэчкі свяжэе.
Над беллю забухаў бугай,
Паветра павольна цішэе.
Схілілася хмарка за гай.

З-за Нёмна няма веставога...
Дзе Стасік? Галена глядзіць.
Чаканне ў вачах і трывога,
Аж не, такі нехта стаіць!

Гэй, Стаська! Ды той і сам бачыць.
Чаўнок ужо гладзіць ваду.
А хлопец за рэчкай маячыць,
Абходзячы дрэў чараду.

Галена насустрач: «Як справы?
Ніхто не папаўся на лоў?»
— Чакаюць утрох там расправы:
Двох з нашых, а трэці з паноў.

— З паноў?
— Так, гусарскі паручнік:

Ў палкоўніка стрэльнуў за нас... —
Галеніна сэрца у клюшні
Заціснула неяк ураз.

І вобраз, ўсё болей прыемны,
Жывы прад Галенай стаяў,
Ў плашчы сваім шэра-таемным,
Як ночкай тады ён знікаў.

— Ты, Янка, бяжы да Тараса:
Скажы, каб збіраў малайцоў,
А я, не губляючы часу,
Як золак іду да паноў.

— Да замку?
— Так, выглядзець трэба,
Дзе вязні пакуль што сядзяць,
Якая ў настроях там глеба,
Каб дарма людзей не губляць!

Назаўтра у Шчорсах дзяўчына:
Прыборшчыцай трапіла ў двор.
Абходзіць паветкі, адрыны,
З тым, з гэтым вядзе разгавор.

Прыжогасць сваю прыхавала.
Ды ўсё ж ненарокам жаўнер
Кране, як вайсковы... Спыняла
Галена развязнасць манер.

Патрошку дайшла да палаца,
Дазналась, дзе вязні сядзяць.
Сачыць, не кідаючы працы,
Каб вязням тым знак як падаць.

Стаіць пад акном вартаўнічы,
Дык, значыць, за гэтым акном
Сядзіць той герой ваяўнічы,
Што тут пераржыў пералом.

Ржэвуцкі пачуў раптам спевы,
У смутку да шкла падышоў.
Зірнуў на ставок, што скрозь дрэвы
Залёты з праменнямі вёў.

Зірнуў на прысады, на волю
Блакітных, ледзь хмарных нябёс...
Ды раптам успомніў пра долю,
Пра хутка надходзячы лёс.

А хто гэта хусткай махае?
Раз... два... А-а! Чырвоны сігнал!
Чакай жа! Ці ж твар ён прызнае?
Няўжо?.. Так, ён воблік пазнаў!

За днём клапатлівай надзеі,
Трывожных чаканняў, панук
Ноч ціха спыніла ўсе дзеі,
Але не пазбавіла мук...

Так цяжка, так сумна Вацлаву...
Што зранку чакае яго?
Загіне, не ўбачыўшы Млавы,
Дзён першых кутка сваяго!

Загіне! Рассыплецца ў порах —
Увесь ён: вось волі рука,
І вочы, павекі каторых
Кранула жыццё бедака.

Рассыплецца, так! Але ж нешта
Нібы застанецца тут жыць,
Мо болей каштоўная рэшта,
Што будзе з братамі лучыць:

То думкі, то вольныя словы.
На сэрцы яго прарастуць
І ў формах няведама новых
І блізкіх ізноў ажывуць!

Не трэба залішняе славы,—
Жыў брацкі і братам памры!
Успомніць хто-небудзь Вацлава,
За праўду як згас без пары!..

О праўда!
Калі ж запануеш
Адна паміж рэчак ды гор?
Няўжо ж ты зямлю абмінуеш,
Узляціш праз планеты
да зор!

* * *

Тс! Крокі цяжкія па залі.
Астрогі і шаблі звіняць.
Ўстаў Вацлаў, каб вочы спаткалі
Таго, хто зноў хоча пытаць.

— Што трэба?
— Ад пана нічога!
— Пакіньце!
— Няможна: для пана дарога
Ўжо хутка — палкоўнік...
— Вы гуку пустога
Не трацце дарэмна!
Увесь гэты слоўнік:
Паручнік, капітан, палкоўнік,—
Нішто для Вацлава!
— То надта прыемна!
Паручнік даўно анархісты?
Ха-ха! А можа, ідэй камуністых
Ржэвуцкі ад хлопаў набраўся?
То мушу зазначыць: дарэмна
Ржэвуцкі у гэтым стараўся!
Яму не пасобяць ідэі!

— На вашыя словы, зладзеі,
Не я адкажу,— пачакайце!
Надыдзе той час абурэння,
Балюйце пакуль што, іграйце!
— Ржэвуцкі — прарок мітынговы!
Якія гарачыя словы!
Ха-ха! Але зранку шлях новы!
Суд будзе не надта суровы!
Ухваляць — раз, два, і гатова!

Зноў крокі цяжкія па залі,
Зноў новыя шаблі звіняць:
Не ўсе яшчэ здзекам пыталі!
Ржэвуцкі паставіў: маўчаць!

* * *

— Панове! Трывога, навала, панове! —
Пайшло па палацы гуляць.

І раптам тут блізка каманда на мове,
Якой ці ж хто думаў чакаць!

— Бі лямпы! Бяжы, хто пад панскаю вартай,
Бяжы ў цемнату на стаўкі! —
Р-раз-раз! Зноў пальнула па вокнах упарта
Агнём ад умелай рукі...

— Стой, здраднік! — Ды Вацлаў прад вартай не струсіў,
Як дзік той між гончых сабак,
Шлях вольным зрабіць ён гусараў прымусіў,
Рассекшы кагось аб вушак.

І дзікам прабег ён скрозь цёмныя залі
Туды, дзе чуваць галасы.
Яго там, здаецца, імя абазвалі
Праз ховы начной паласы...

— За мною, сюды, во сюды пад прысады! —
Яго хтось схапіў за руку.
А там страляніна па замку йшла ззаду,—
Біў шрот па жалезным таку...

Прабеглі і двор, і гаёк. «Адпачнем,—
Сказаў спадарожнік яго.—
Ваколіцы вокам пакуль што акінем,
Каб тут не чакала чаго!»

Прыселі пад дрэва з хлапцом на узгорку.
Хлапец па краюсе дастаў.
Вёў ветрык начную з лістамі гаворку,
З-пад лесу да іх набягаў.

Вацлаў, чыркануўшы знячэўку машынку,
На момант іх твар асвятліў
І гэтай агнёвай, віхровай хвілінкай
Сябе, як маланкай, спаліў!

Прад ім асвятліліся шырака вочы
Тых добра знаёмых глыбінь;
Агеньчык з іх шпарнуў пужліва-дзявочы,
Як вугля гаручага сінь...

— Галена, то вы? О галубка Галена!
Так вось хто мяне вызваляў! —

І Вацлаў прыпаў, як дзіця, на калені
І так, як яно, зарыдаў...

Ён чуў, як лажыліся цёплыя рукі
На голаў, каб слёзы сцішыць,
І голасу ветлага ціхія гукі
Ніщто б не змагло заглушыць!

— Нам трэба абодвум спяшацца.
Цяпер не паліце агню.
Да лесу. Там толькі мы зможам схавацца,
А далей — да хаты, да дню!

Падняўся Ржэвуцкі. Напружна пабеглі,
Кіруючысь проста на лес.
Здаваўся ён надта далёкім, адлеглым,
Як браць праз лугі ў перарэз.

Дабеглі. Спыніліся разам, з аддышкай.
Кроў бегла па целу, як вар;
Над імі, скрозь хвойныя лапіны, шышкі,
Бялеў новым шляхам стажар.

Як водгулле, чуліся рэдкія стрэлы
І топат далёкіх падкоў.
Але калі двое, дык ясна і смела:
Ці ёсць лепш за сэрца ахоў!

* * *

Той ночкай не спаў астравочак:
Сваіх і гасцей спатыкаў.
Штораз лесавы аганёчак
З чаўном Стасюка выгукаў.

Паляк пераехаў з Галенай,
Ды з пару за імі стральцоў.
Нарэшце, у смутку страшэнным,
Сустрэлі яшчэ малайцоў.

У хату нясьлі атамана.
Быў ціхім, бяскроўным Тарас.
Затое крывавая рана
Лягла, як чырвоны кутас.

— Сюды, во сюды! Асцярожна! —
Тарас, як скрозь сон, застагнаў.
І сціхла гаворка, і кожны
У смутку трывожным чакаў...

Галена падбегла да ложка,
Паклала руку на руку,—
Тарасавы вочы патрошку
Жывіць пачыналі шчаку.

Павольна яны расчыніліся
І раптам як крыкнулі: жыць!
Вільготныя хвалькі каціліс,
А вусны прамовілі: «Піць!»

— Галена! — Ці гэта здалося,
Ці праўда яе ён гукнуў?
— Пабачыць... цябе... давялося... —
Сказаў і з усмешкай заснуў.

Стары лесавік гаспадарыць:
Павыслаў з пакоя усіх,
Акно адчыніў, а сам варыць
Прымочку для ран тых благіх.

А хлопцы шкадуюць Тараса:
Нялёгка яго замяніць!
А трэба атаман адразу,
Бо ўжо барацьбы не спыніць.

І хлопцы пад хатай у садзе
Размову праводзяць цішком.
Здаецца, і Нёман штосьці радзіць,
І ветрык, што бег лазнячком...

Галена хлапцоў ссябравала
З Вацлавам. Віншуюць яго.
— Шкада, што вось гэтакіх мала,
А болей тут панства таго.

— Нішто! Між жаўнераў даволі,
Што ўжо зразумелі і нас,
Што шляхам тым самым да волі
Нам разам ісці ў гэты час...

Вацлаў да Галены: — Як можна!
Пашто ратаваў атаман?
Ці ж варты усе мы і кожны
Вось гэтых расчыненых ран?

— Ржэвуцкі, што зробіш? Бо трэба,
Інакшым не быў бы Тарас.
Для справы-то добрая глеба,
Як прыклад для іх і для нас.

— Для іх? — запытаўся пан Вацлаў.
— Для ворагаў нашых, паноў;
Хай бачаць, што іншых няма слоў,
Што кожны зрабіць так гатоў.

Абодва над Нёмнам стаялі.
З-пад зорак той як уцякаў;
Каўзаліся цёмныя хвалі,
А з лесу хтось нібы гукаў...

— Вы чулі? Так. Ціха, чакайце!
— Эй, хлопцы, азбройся хутчэй!
— То нашая варта! Уцякайце! —
Дайшоў ужо голас грамчэй...

* * *

Ужо чулася блізка пагоня.
— Мы зброю у човен, ды так!
— Во чуеце, топаюць коні...
— А як жа з Тарасам? Ён як?

Тараса цягнуць немагчыма.
Загіне ўсё роўна Тарас...
І хлопцы з слязнымі вачыма
Усе жычуць апошні той раз...

— Вы з намі, Галена, на бераг?
— Канечне, не з вамі, Вацлаў!
Вы мусіце весці наш шэраг... —
Ржэвуцкі, як слуп той, стаяў.

— Галена! Ну, годзе! Вядзіце! —
Яна працягнула руку:

— Галену вось так памяніце! —
Матнула яна за раку:

Сам Бронік таксама застаўся...
Цяпер іх было тут сам-трох.
(Нямы дзесь ад жаху хаваўся.)
І смутак на сэрцы налёг...

«Якое пытанне! Ці ж кінуць
Тараса вось так аднаго?
Не, лепш ёй тут разам загінуць»,—
Вось думкі ля ложка яго.

Ўжо цяўкалі стрэльбы далёка.
«Ці ж выйшлі хлапцы з паласы?»
Жаўцелі Тарасавы шчокі,
І пот пазліпаў валасы.

Прад ім нахілілась Галена.
На грудзі як камень налёг;
Бяссільна спаўзла на калені,
Бяскроўных кранулася ног...

* * *

Выразны быў час развіднення,
Калі надышлі груганы,
Героі крывавых здарэнняў,
Краін пад'ярэмных паны.

— Дай чоўны! — з-за рэчкі няслося
Пад залпы бяссорамных слоў.
Вядома, навальнік як просіць.
— Выходзь там! — пачулася зноў.

І кулі наўкол загулялі,
Як градам пайшлі па лістох.
Жандары ізноў палявалі,
Пужалі ізноў пералог...

Пазбілі, нарэшце, плацінкі
(На конях прыстаць не змаглі).
Па сцежках пасеклі галінкі.
Атаку на хатку вялі...

Пад дрэвам стаяў палясоўшчык,
Як лось, што чакае сабак.
Маршчын засмуглелыя тоўшчы
І вочы спаткалі ваяк.

Не ўспелі старога угледзець,
Як выпаліў ён па ваўкох,
Паспеўшы кагось папярэдзіць,
Зямлю таму выбіць з-пад ног.

«Паль!» — раптам раўнула каманда,
І лось заваліўся пад куст.
Па садзе рассыпалась банда.
Пайшло пагалоссе і хруст...

Галена ў той міг ачуняла,
Як банда у хату ўвайшла.
Уся полымем гневу шугала,
І як жа прыгожа была!

Ваякі спыніліся ўмомант.
— Хто гэты?
— Не рушце яго!
— Атаман бандыцкі! — роў гоман.—
Давай галубка сваяго!

— Не смей ты! — і пхнула у грудзі.—
Хоць дайце яму вы сканаць!
Звяры вы усе тут, не людзі! —
Начальнік ёй крыкнуў: «Маўчаць!»

Той момант ускочыў атаман.
Сабраўся апошні ў ім дух,
Каб сам сваёй воляй свой аман
Тут скончыць, свой скончыўшы рух.

— Злавілі? Папаўся у рукі?
Ды лжэце! Жывога не ўзяць!
Дык вось вам, падбаўлю дакукі! —
І раптам павязкі ляцяць.

Мундзіры пазбіліся ў дзверы.
Стаяў перад імі Тарас,
Як смертная здань тых жаўнераў,
Крывёю зыходзіў і гас.

## ДАСКАЗАННЕ

Далей што? Ці ж выпяюць песні
Аб тым, як дзяўчыну ўзялі,
Як Нёман зірнуў ёй балесне,
Як дрэвы услед загулі?

Ці трапяць жа выказаць словы,
З якім адчуваннем яна
Агледзела бацькавыховы,
Дзяцінства і смутку паўна?

Як сэрца стрымала Галены,
Таго не учуе жандар,
Калі, скрозь крывавую пену,
Яшчэ адзін глянуў ёй твар.

Той твар быў бязмоўнага таты,
Што кут свой яшчэ вартаваў.
Адчулі ўсё гэта вы, каты?
Тады б з вас ніхто не стрываў!

А далей? Вязенне і краты...
Ідуць пагалоскі з сяла да сяла:
Ці, кажуць, замучылі дзеўчыну каты,
Ці што ўратавана была,

Што ёй уцячы удалося,
Вядома, ў паўстанцкі той стан;
Што там, дзе Галена, запросіць
Ратунку староста і пан;

Што песні пасклалі паўстанцы,
А ў песнях дзяўчына-герой.
А панства пазбавілі танцаў,
А «крэсы» напружылі строй.

Ды баюць пра той астравочак,
Дзе Бронік з Тарасам ляжаць:
Хлапцы пахавалі уночы,
І ціха абодва там спяць...

Паснулі і дрэвы і хатка.
Парэчка здзічэла саўсім.

Прырода заводзіць парадкі,
Пануе над месцам глухім.

А Нёман? А Нёман як плача,
Сумуе без жартаў стары.
Крутне пад карчы, небарача,
І стогн адгукнецца ў бары...

На гэтым канчаюцца песні.
Даруйце, браточкі, за іх.
І вы, першакветкі прадвесня,
Сястрычкі куточкаў глухіх!

Даруйце за верш, за няскладдзе,
Ці ж вершам ахопіш людзей,
Прасторы каб даць пагуляць дзе,
Прасторы для гэтых падзей!

*1924 г.*

# ПАЭЗІЯ АБ РЭВАЛЮЦЫІ І РЭВАЛЮЦЫЯ Ў ПАЭЗІІ

Рэвалюцыя захапляе ўсе бакі грамадзянскага і прыватнага жыцця. Толькі не ва ўсіх галінах гэтага жыцця рэвалюцыя выяўляецца адначасна. Адны, як палітыка і эканоміка, пярвей за ўсіх адчуваюць на сабе змену форм, іншыя, як мастацтва і навуковыя ідэі, пазней падыходзяць пад рэвалюцыйнае кола гісторыі. [...]

Але амаль што кожная з пералічаных галін чалавечых шуканняў мае свае рэвалюцыйныя этапы, ступені, мае свае «лютыя» (феврали) і свае «кастрычнікі» (октябри). Нас цікавяць этапы рэвалюцыйнай паступовасці ў болей знаёмай нам галіне мастацтва — паэзіі. Зараз мы не маем часу і магчымасці разгледзець дэтальны ход руху беларускай або расійскай паэзіі з часоў 17-га года, каб прасачыць на прыкладах тое, што мы скажам аб ёй. Адзначым толькі галоўную думку. Праўдзівая, пэўная рэвалюцыя ў паэзіі, так сказаць «кастрычнік» яе руху, адзначацца поўнай зменай як формы, так і змесіу. Калі бачым або тое, або тое: новую форму пры старым змесце або нейкі нібы новы змест старой форме (праўдзіва новага зместу пры старой форме нават не існуе),— мы маем справу толькі яшчэ з «лютым» паэтычных, творчых шуканняў.

— Не досыць сказаць: «госпадзі, госпадзі, каб ужо ўвайсці ў царства нябеснае»,— сказана ў старой кнізе.— Не досыць паставіць над вершам загаловак: «Каваль», «Пралетарый» і г. д., каб лірыка была праўдзіва пралетарскай, рэвалюцыйнай.

Рэвалюцыя мае не толькі свой змест (змену палітычна сацыяльных форм жыцця), але і свой тэмп ходу, свой рытм, пад які яна робіць свае руйнуючыя і разам з тым будуючыя крокі.

Такі самы тэмп, нервова-рашучы тэмп ходу, павінна мець і паэзія, калі яна прайшла ступень «выспявання» рэвалюцыі (успомнім: чырвоныя сцягі мела і рэвалюцыя «лютага» — февральская!) і дайшла да ступені, калі ў ёй самой зрабілася рэвалюцыя.

Шуканне зместу, новага зместу, згодна новым формам жыцця, і шуканне новай формы, адпавядаючай рэвалюцыйнаму тэмпу,— вось заданні новай паэзіі, новай лірыкі.

Павінна адчувацца, што сам пясняр перажыў або перажывае ў душы рэвалюцыйны рух.

Прасачыць гэтыя паралелі ў сучаснай лірыцы надзвычайна цікава, але для гэтага трэба навукова, удумліва аднесціся да доследаў.

У нашай беларускай паэіі, здаецца, Чарот-Кудзелька адпавядае ў некаторых сваіх творах («Босыя на вогнішчы») такім запатрабаванням.

Ніжэй мы змяшчаем верш «Гвалт над формай», які з'яўляецца намерам, вопытам даць нейкае шуканне формы і зместу.

Аўтар яго будзе задаволены, калі гэты слабы прыклад дасць нейкі імпэт нашым новым творча-рэвалюцыйным пачынанням.

*1922 г.*

## ГВАЛТ НАД ФОРМАЙ

*(Нібы-паэма)*

Я — сын твой, магутнае слова!
Палова
Душы маёй й народа
Новае слова пішы,
І спявай, і крычы, і пішы!
Калі трэба, аблай!
Лоўкай лаянкай лай,
Асабліва ў горадзе,—
Хто падлезе ў горадзе,
Па мордзе, па мордзе!

* * *

Я — сын, не чапай жа матулі!
Што загулі, як пчолы ў вуллі?
Не падабаецца,
Што лаецца?
Мужык?
Але шык! Але шык!
На вачох, на вачох ён расце!
У хвасце
Ужо тыя, што ўчора смяяліся,
А ты йдзеш і ў яму не звалішся!

* * *

Мы ўсе — тваё дзеці, Слова:
Я, і мужык, і дзяўчынка,
Што песні спявае з падмосткаў:
Костка
Адна ў нас. Чорная костка
З чырвонай крывёю.
Мы з ёю
Прайшлі праз вякі,
Праз шляхі й правулачкі
Гістарычныя.
Жарцік — прагулачка!
З левага боку кароль
Пад Кракоўскую столь:
Управа — барадаты баярын.

А хто яго ведае, браточкі,
Можа, татарын
Казанскі?
Род панскі хутка да іх прыстасаваўся.
Застаўся
Скалой толькі ты,
Мой братка мужык
Ды дзяўчына,
Што песні у полі спявае
І Словы раджае
Лепей за Скарыны.
А я ўжо з'явіўся — пасля!
Хто я?
Грамыка? — Ды не!
Ён лыка
Толькі на лапці мае раздзіраў,
Калі новае слова шукаў!
Над Купалаў усіх — я Купала.
Варажбітка мяне так нагадала.
З усіх каласкоў-васількоў,
Ад дзядоў што йдуць, ад вякоў,
Я Колас!
Вы чуеце голас? Ён блізіцца, нізіцца...
Волас
Хай дыбам стане у вас,
Калі прыйдзе той час,
Час радасці Новага Слова!
Умова? Якая умова?
Ніякіх умоў дзеля слова!

* * *

Грэцкая дзеўчына Фрына
Калісь-та з'явілася голай
На свята.
На гульбішчы гулы гулі.
Але не глядзець не маглі?
Так. Слова народнае — Фрына
З песняром народзіць свайго сына.
Ён прыйдзе, далібог!
Сварог — Пярун!
О, колькі струн, ненацягнутых струн,
Трэба яшчэ працягнуць
Ад сэрца да сэрца.

Ад душы да душы!
Адзін з Купалаў сказаў:
«Годзі жыць у паняверцы».
Каб паверыў жа ён сам
У Новае Слова!

* * *

Браточкі мае, песняры!
Да Зары,
Да гэтай во пары
Вы спявалі аб чым?
Аб няволі... неабсеяным полі...
Ад болю па волі
Вы слёзы лілі —
Досыць! Даволі!
Вочы ўгару! Вышэй, вышэй!
Не маліцца!
Падсохла ўжо тая крыніца,
Ужо вогнішчы там раскладаюць,—
Вы бачылі, чулі?
На вогнішчах босыя маюць
Ужо слуцкія бэры,— не дулі.
Вы спявалі пра гора?
А хора, басаногага хора,
Вы чуеце гымны?
Крыху дымны гэтыя вогнішчы, дымны.
Але гымны нясуцца,
Пабедныя гымны!
Бедныя, бедныя вы,
Што іх не чуеце!
Усё яшчэ вы па хатах начуеце,—
А хат ужо няма!
Палацы багатыя будуюцца,
Гулам гудзіць басаногая вуліца,
Не пужайцеся,
Лепш кайцеся!
Басаногія пройдуць праз вогнішчы,
Пройдуць, каб бульбу спячы,
А там новае йграюць, нясуць трубачы.
Не ўцячы вам ад іх,
Не ўцячы!
Гэй, кавалі, грабары, асначы!
Грайце!

Тра-та! Ля-ля!
Гудзіць зямля!
Палі, палі! Хто не з намі,
Валі, валі!
Плі!

* * *

Няма! Нічога няма!
Не лайце!
А дзе ж пралетары?
Праз вогнішчы скокнуў на сонца,
Пасядзеў там, як Дары
На троне,—
І зноў праз ваконца
На зямлю!
І тут запанаваў новы чалавек.
Ад веку мы спалі...

* * *

Спачатку было Слова
І слова — да бога,
І бог — тое Слова.
Вось умова,
Святая умова!
Разумейце языцы,
Браточкі, сястрыцы!
Шукайце, шукайце вы Слова,
Усё новага, моцнага Слова!

* * *

Мы ўчора былі толькі галы:
Шукалі папараць Купалы.
А сёння мы, уцекачы,
Завострым вострыя мячы —
Сячы ўсе формы.
І крычы!
Мы толькі рытмам, маршам цвёрдым,
З паглядам жудасным і гордым,
Без формы-вопраткі
У свет!
Усе сцягі — пад ногі;

Мы — богі!
Убогія богі!
Дык кіньма хоць след!
Навука, гульня, канстытуцыя
І нават сама —
Рэвалюцыя,—
Усё гэта трэба нам!
Не панам!
Мне!
Браточкі, браточкі мае!
У вочкі, у вашыя вочкі
Дайце цяпер зазірнуць?
Вашага суду глынуць:
Вар'ят! Вар'ят!
Так, так! Я ваш сабрат,
Трэба гэтага, трэба!
Вар'яцтва — кавалачак неба,
Новага неба,—
Вось вашая глеба-ралля,
Дзе новы грымоча Ілья!
Трэба быць папраўдзе з народам:
Народ вісеў на крыжу,—
Я праўду кажу —
Трэба і нам на крыж,
На крыж шукання — вар'яцтва.
Я — брат твой вар'ят,
Дзеля брацтва!
Вось мой пяснярскі рэгламент —
Я знаю, што трэба рабіць,
Амэн!

*1922 г.*

# Крытыка

## ПЯСНЯР СНОЎ І ЧАРАЎ

*Пра творчасць Максіма Багдановіча*

Надзвычайна радуе вока від дагледжанага саду, поўнага яблык, ігруш і чырвона-крывавага вішання. Нас супакойваюць гэтыя салодка-карысныя вынікі чалавечай пільнай працы — культуры. Але ці не болей узрадуецца вока, убачыўшы сярод такога саду газоны ружовых пялёсткаў, сінькаляровых віолаў і вострых пахам гваздочкаў... Як цягнемся мы да гэтых кветак усёй сваёй істотай і адпачываем адразу... Так, тут добра, тут ужо заможнасць тых, хто гаспадарыць,— бо тут ужо зарадзілася пекната!..

Такой поўнай клюмбай квяцістага згуртавання азначаецца паэзія М. Багдановіча сярод працавітага саду нашае літаратуры.

Ён прайшоў сваё кароткае жыццё ў «зачараваным» царстве ідэалізаванай ім бацькаўшчыны, з нізкай жамчужын-вершаў, якія, нібы пацеркі, перабіраў, звяртаючыся ў песнях-модлах да бога хараства.

Ён мала ведаў рэальную бацькаўшчыну працы й змаганняў. Замест галасоў стогну й барацьбы яму чуўся сумны, маркотны лясун — гэты праабраз вечнай прыроды,— які іграў на нацягнутых струнах танкаствольных хвоек...

Калі іграе лясун-прырода, тады ўсё засынае: і рака, і каласы ў палёх, і няведама, што дрыжыць па лісцях лазняку —

Кроплі слёз, ці халоднай расы...

Гарачыя слёзы чалавечых вачэй і халодныя росы прыроды аднолькава блізкія гэтаму чуламу ўспрымальніку.

Прырода жыла перад ім мо болей, як перад іншым песняром, бо ён насяляў яе не толькі сваім перажытым, але і ўсім глыбока мінулым народнае творчае фантазіі.

Вось чаму возера сярод бору — гэта люстра, пакіну-

тае лесуном-прыродай, каб паэт мог агледзець у ім увесь свет, усю тую дрыжачую, прамяністую матэрыю, якая, як русалка, блутае свае косы ў сеці-думкі... А белы месяц-фантазія ловіць у гэтыя сеці русалку... І ноч шапоча ім: «Засніце!»

І спіць усё ў яго зачараваным царстве: і асака, і лаза зялёная, і хваля, што ціха коціцца... усё навокал.

Толькі сам пясняр, «заварожаны вячэрняй цішынёй», зліўшыся пачуццём з прыродай, чуе, як «дрыжаць ад ветру зоркі»... Крыштальна-дзяцінная душа! Каб чуць гэта, трэба не мець гневу ні проці каго. Ды на каго злаваць грамадзяніну «зачараванага царства»? Хто захоча пакрыўдзіць яго? Хіба «сінявокая» ноч, што па мяккай траве праходзіць... А за ёю туман «быццам дым сінявакты з кадзіла». Ніхто яго не скрыўдзіць, бо ён усім скажа: «Добрай ночы!» І сумна паплыве маладзік у небе вячэрнім, зялёным, як лёд». Бледна-сіні месяц сярод зялёнага, як лёд, неба! Хто бачыць такія колеры, колеры мудрасці й спакою, той мае права

Кінуць думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момант спачыці душой.

О, як любілі хворыя грудзі жыццё! Вядома, сваё жыццё,— пекнаты і хараства! Жыццё на волі, дзе над галавой:

Дубоў павець.
Віднеюць неба, горы, поле
Праз лісцяў сець.

Тут, у яго жыцці, усё добра:

...І блеск, і цень,
Той дзень, што мае нарадзіцца,
І знікшы цень.

М. Багдановіч — зачараваны месяцам «самнамбул».

Месяц выплыў над змрочнай, заснуўшай зямлёй
І павёў яго ў цёмную даль за сабой,
І прывабіў да мглістай, халоднай вады,—
Сэрца білася рыбкай у сеці тады.
Але месяц правёў праз раку светлы шлях.
І развеяўся з сэрца дрыжачага жах.
Зіхацела яна — серабра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна,
Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,
Але вось час жаданы нарэшце настаў...
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішына, глыбіна!..

Уся паэзія паэта-«самнамбулы» ў гэтым вершы. Месяц — гэта яго паэтычнае натхненне. Яно вывела яго да мглістай вады жыцця. І забілася рыбкай сэрца песняра перад гэтым бягучым жыццём-ракой, дзе столькі віроў барацьбы й няпраўды. Ён знайшоў дно, але не звычайнае тванiстае дно абывацельства... яго дно — цішыня пазнавання, у якім зараджаюцца зерні немінучай будучыні.

Паэт не дажыў да пары рэальна далучыцца да закладання цаглін будучыні — вось чаму з такой парыўнасцю ён зацікавіўся «Старой Беларуссю». У цішы гэтай мінуўшчыны ён хацеў знайсці той пластычны матэрыял, з якога іншыя маглі б ляпіць сучасныя сацыяльныя формы. Гісторыя паглыбляе сучаснае. Яна дае перспектыву ціхіх, як прысады, вякоў. Ён любіў уяднацца ў гэтыя прысады, каб разабрацца ў гаманлівым, але яшчэ не выразным у яго часы жыцці. Зацікавіўшыся каранямі, ён тым самым як бы прапанаваў зірнуць і ў другі бок народнае культуры, у ствол і галіны, дзе пачынаюць паказца адросткі маладых пралетарскага характару патрэб.

Мінулае ў Багдановіча не толькі апісваецца: яно жыве, праўда, без спарахнелых ужо костак... Яно жыве, бо пясняр аджывіў у ім пекнату.

«Так, рупная пчала ўмее мёд сабраць і з горкіх кветак».

Праз вякі прайшлі запісы і творы... І чаму ж не можа паўстаць з глыбокага гістарычнага сну і дзейнік усяго гэтага — чалавек!

«Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць пяро гусінае, і гляне... Светла сонца стаўпамі падае праз вузкае ваконца, і круціцца ў іх прыгожы, лёгкі пыл; рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі ў небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі. А тут, каля акна, малінаўка пяе і стукае жаўна...»

Калі так моцна жыве мінулае, то і тое, чым мы напаўняемся сёння, таксама пранясецца праз вякі — вось думка, выплываючая з вершаў Багдановіча.

Правадыр «зачараванага царства» быў надзвычайна вострым эстэтам. Усё пекнае і пластычнае вабіла яго: глыбокая думка, музычны твор, золак, майская раніца, іскрыстае віно!

«Мудрай прамовы мёд залацісты поўныя соты» — яму

былі «даспадобы» — «але не меней сэрцу панадны мёд сваім хмелем, светлым і тонкім».

Гэта старажытны грэк у беларускай вопратцы... Толькі грэкі ўмелі так разумець і любіць жыццё. Нездарма наш беларусін-грэк любіў песняра Анакрэона:

Бледны, хілы, ўсё ж люблю я
Твой і мудры, і кіпучы верш, Анакрэон!..
Верш такі — як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы,—
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно!

Сам пясняр, як ні жадаў,— не мог выпіць поўную чару жыццёвага хмелю... Апрача хваробы, пяшчотнасць, нейкая дзявочая сарамлівасць і глыбокі сум, што агортваў яго, калі ён выходзіў з свайго зачараванага краю ў край праўдзівы,— зрабілі тое, што й самае жывучае з пачуццяў — каханне — пературарылася ў вобразы глыбока драматычныя. «Дзве хмары — грымотная і празрыстыя — жадалі зліцца... ужо чырванелі ад жару... Але далёка іх вецер разнёс, наляцеўшы нячутна. Дробным дажджом над зямлёй, як слязамі, адна пралілася... Гулкім раскатам грымотаў другая ў адказ адазвалася... І паасобку загінулі хмары бяздольныя тыя, чуючы ў небе, як вецер над смерцю іх радасна вые...»

* * *

Што мы, рэальныя працаўнікі, штодзённыя цагляры, зможам знайсці ў паэзіі «сноў і чараў»?

Мы знойдзем багата чаго карыснага. Надзвычайна выяўлены індывідуаліст і эстэт, Багдановіч не замкнуўся ў сваёй асобе. Творачы хараство, ён добра ведаў, што гэтым хараством не кожны можа і мае права карыстацца. Што трэба яшчэ шмат зрабіць... Каб толькі хапіла сілы змагацца з «грамадскім горам».

Але ён ужо і тады ведаў, што пад шэрым попелам няяснасці тагачасных палітычных адносін, «чырвоны жар гарыць».

Мы, пралетарыі, якія ўжо навучыліся любіць і разумець хараство, павінны берагчы і пільнаваць зярняткі яго, каб перадаць іх тым, што яшчэ толькі праціраюць вочы свае запатнелай далонню.

*1923 г.*

# Успаміны

## ПРОСТА, ДАХОДЛІВА ПРА СВОЙ ПРАЦОЎНЫ НАРОД...

*(Пра Якуба Коласа, якога я ведаў з 1921 па 1930 год)*

Увосень 1921 г. група беларусаў, большасць настаўнікаў, пераехала з Адэсы ў Мінск. Частка з іх былі бежанцы. Яны да першай вайны з немцамі жылі і працавалі на Беларусі. Але былі і такія, што ўжо даўно абасноваліся ў Адэсе. Я, напрыклад, пасля Маскоўскага універсітэта ў 1911 годзе адразу пачаў працаваць у Адэсе. Падняліся мы з Адэсы па закліку ВЦВК Бел. ССР, якая за год да таго была вызвалена ад белапалякаў. Сталіца Савецкай Беларусі, калі мы ўехалі ў яе, насіла яўныя сляды нядаўніх боек. Але закіпала ўжо новае жыццё. Недаруйнаваныя будынкі хутка прыстасоўваліся да новых савецкіх устаноў. У былым архірэйскім доме, напрыклад, размясціўся Нарком асветы (Наркомпрос) і Інбелкульт. У гэтым будынку я ўпершыню ўбачыў і пазнаёміўся з абодвума слаўнымі пісьменнікамі нашымі.

Якуб Колас прыехаў пазней за нас адкулься з Пермшчыны ці з Валагодчыны, дзе ён настаўнічаў. Мімавольна раўнаеш, супастаўляеш гэтых двух «перш-настаўнікаў» нашай мовы і літаратуры.

Вось першае ўражанне. Янка Купала. Добра скроеная піджачная пара, дагледжаныя батфорты. Не ведаючы, можна было прыняць за маладога ляснічага, агранома, раённага партработніка, які вось толькі-толькі злез з сядла.

Якуб Колас. З першага зроку «асядаў» у памяці, як тыповы, «пракананы» народны настаўнік. Гэта невялічкая бародка, вусы, пад якімі магла хавацца нязлобная ўсмешка, шырокі лоб і погляд, які быццам углядаецца, быццам пытае цябе: што ты, маўляў, за чалавек, якія твае «познания» ў навуках і што ты ёсць наогул. А далей, у жыцці, у грамадзе — лёгкая іронія, пастаянны, але не рэзкі, тонкі гумар. І разам з тым — свядомасць аб сваім значэнні, тая рыска гонару, якая характарыза-

вала «салідных» прадстаўнікоў зямельна-лясных насельнікаў.

Стаўлю паралелі далей. На вечарынках у каго-небудзь або часцей у тым ці іншым доме Янка Купала выглядаў «свецкім» кавалерам: танцаваў, быў «цэнтрам» жаночага кола. Якуба Коласа я не бачыў у танцах. Хутчэй яго можна было паслухаць, калі ён забаўляў дзяцей сваімі кароценькімі здарэннямі-анекдотамі. Найбольшай папулярнасцю карысталіся: «У лесе нешта свісціць» і «А той, хто над намі». Не ведаю, ці выдадзены коласаўскі зборнік «смешных» баек-анекдотаў. А варта было б. «Костусь», як звычайна называў Коласа яго дзядзька, быў умелым пераказчыкам, асноўнай «манерай» якога павінна быць абсалютная сур'ёзнасць у перадачы самых смешных момантаў.

Якуб Колас прывёз з сабой у Мінск салідную сям'ю. Сям'я і заставалася той пачатковай ячэйкай, у якой знаходзіў і адпачынак, і ціхамірнае натхненне наш пісьменнік. Прыхільнасць да сям'і выразна выявілася ў стылі яго «двара», яго жылля. Трэба адзначыць, што ў той час Мінск адбудоўваўся вельмі павольна. Не кожны адказны работнік сяліўся ў дзяржаўнай кватэры. Хто меў хоць малую магчымасць, прымушаны быў абзаводзіцца «ўласным» домам. Янка Купала, геолаг прафесар Мікалай Бліадухо і іншыя будаваліся або куплялі гатовыя кватэры з невялікім садам пры доме. Я. Колас дом сабе пабудаваў па свайму плану, па свайму густу. Так і пахла хвояй ад падабраных адзін у адзін ствалоў двухпавярховага будынка! Знадворку дом не быў ні ашалёваны, ні афарбаваны. Таксама свежымі былі і сцены ўсіх пакояў. Як мог сын лесніка «заклеіць» дарагія сэрцу па дзіцячых успамінах жоўценькія бярвенні!

Пісьменнік не рысаваў сам сябе «бабылём». Жыллё сваё ён спланаваў на значны перыяд сумеснага жыцця з сваімі сынамі, з усёй сям'ёй. У доме Коласа я не памятаю ані «гасцінай», ані кабінета. Затое вельмі ясна ўздымаецца ў памяці светлая сталовая на другім паверсе. Вельмі даўгая, на ўсю шырыню дома, яна прызначалася прымаць за сваім сталом не толькі ўсё сямейства, але і значную колькасць гасцей. Гэты асноўны пакой быў месцам і працы, і харчавання. Тут, за ўмесным доўгім сталом, Колас прымаў прыяцеляў, моладзь, пісьменнікаў; тут можна было наглядаць абодвух нашых літаратурных старшынь за шахматным полем. І яшчэ адзін

пакойчык памятны. Падымаючыся па свежых, нефарбаваных приступках унутранай лесвіцы, можна было бачыць, калі дзверы не прычынены, невялікі, але светлы пакойчык — першага сына, Данілы, у той час яшчэ невялічкага хлопчыка. «Двор» Я. Коласа займаў не малы ўчастак у верхнім нагорным кутку Гарадскога парку. Фруктовыя дрэвы цяснілі амаль увесь пляц і былі пасаджаны да Коласа. Але і новы гаспадар прыклаў значную долю энергіі, каб прыдаць саду належны выгляд.

Апрача самога двухпавярховага дома, непаўторнай асаблівасцю коласаўскага «двара» была салідна складзеная бярвенчатая лазня-пральня, свайго роду «унікум». Яна сведчыла аб тым, што дастаслаўны пісьменнік не забыўся ў сваіх гаспадарчых планах аб клапатлівай сямейнай адказнасці сваёй вернай спадарожніцы Марыі Дзмітраўны. Лазня-пральня стаяла ў дальнім куту саду. Мылася ў ёй уся сям'я, а часам і «госць», якому не жадалася ісці ў гарадскую лазню, у той час вельмі слаба прыстасаваную.

Вось у такой абстаноўцы шырокай гасціннасці і сямейнага ўкладу, якія меркаваліся пісьменнікам на доўгія гады, выходзілі першыя манументальныя творы Якуба Коласа, паэмы «Сымон-музыка» і «Новая зямля».

Беларуская грамадскасць чакала гэтыя творы, чытала іх з вялікім інтарэсам. І досыць дзіўна было, што з-пад пяра такога знадворку прытульнага, захаванага «народнага настаўніка» з'яўляліся ў свет вольныя рыфмаваныя ў народным гусце пералівы або празаічныя старонкі, ад якіх так ішоў пах лесу і поля. Былі, праўда, і крытычныя заўвагі. Аўтар гэтых радкоў, які ў той жа, прыкладна, час заканчваў свае паэмы — «Крылан» і «Лесьнічанка», выказваў свой погляд на «Сымона-музыку» непасрэдна самому «дзядзьку Костусю». Крытык бачыў асноўны літаратурны недахоп у залішняй расплыўнасці паэмы, у паўторнасці малюнкаў прыроды і ўражанняў хлопчыка-героя. Якуб Колас не спрачаўся, не бараніў сваё творчае «дзіця», у вобраз якога было ўкладзена столькі душэўных эмоцый! Колас мог бы «асадзіць» крытыка, накіраваўшы яго ўвагу на ўласныя паэмы, з якіх «Крылан» мела значныя недахопы. Бясспрэчна, такая пагардлівасць з майго боку не магла не выклікаць пэўны «халадок» у нашых узаемаадносінах. Але Колас ніколі не крытыкаваў маіх твораў ані ў друку, ані вусна. Ён шанаваў «маладога» пісьменніка (па

нараджэнню я ўсяго на тры гады маладзейшы за Якуба Коласа) і заставаўся верным надпісу на сваім фотаздымку ад 15/V-1922 г.: «На добрую памяць дарагому брату-беларусу ад Якуба Коласа».

У 30-м годзе мы назаўсёды разышліся, і я не меў ужо магчымасці блізка наглядаць жыццё і творчасць дастаслаўнага земляка.

*1962 г.*

## АНТОН ГРЫНЕВІЧ

Паўстае ў вобразе высокі стары чалавек, крыху сутулы. Сівая бародка, сівы досыць доўгі волас, «па-тургенеўску» адкінуты на патыліцу. Уся гэтая акуратная сівізна як бы рама да інтэлігентнага выразу твару. Агульнае ўражанне — «народнік» канца мінулага стагоддзя, толькі не ў «чырвонай кашулі», а ў звычайным пінжаку. Размераны спакойны рух — адзнака чалавека, які знайшоў сваю жыццёвую справу і ўпэўнены, што справа гэтая значная, патрэбная, можа, не для кожнага зразумелая.

Ён прыйшоў да нас на кватэру пазнаёміцца бліжэй. Я назаўжды перад гэтым пераехаў з Адэсы ў Мінск, і Грыневічу было, мусіць, цікава... пазнаёміцца.

Памятаю: у руцэ трубачкай складзеныя ноты. У нас у той час не было музычнага інструмента, і «дзядзька» Грыневіч запрасіў да сябе, каб паслухаць народныя песні.

Адна з вулачак напалову драўлянага ў той час Мінска, звычайны ашалёваны дамок. Грыневічу ў ім належаў, мусіць, адзін, праўда, досыць вялікі пакой: з вокнамі ў сад, з нізкай столяй. Амэбляваны небагата, але чыста прыбраны, пакой гэты сумяшчаў спальню, кабінет, сталовую. Галоўная рэч у ім — фісгармонія. Гаспадар пачаставаў чаем з чайніка, які прынёс з кухні, і хутка сеў да фісгармоніі. Паліліся гукі адной, другой векавой народнай песні... А вось і свае ўласныя творы на словы беларускіх паэтаў. Якіх паэтаў, якія песні? — не захавала памяць. Захаваўся праз гады толькі воблік старога,

які жыў усёй сваёй духоўнай істотай у народнай стыхіі, што вылілася ў форме музычных песенных гукаў. І колькі трэба было самаадданай любові да свайго народа, каб ад краю да краю, па вёсках, слабодках і выселках, дзе пешкі, дзе на коніку, які рыссю сяк-так трасе калёсы, аб'ехаць, абысці Беларусь, і час ад часу спыняцца ў хаце ці на прызбе, і слухаць, слухаць, занатоўваць спевы працы і змагання, спевы радасці і гора!

А па звароце ў горад падсесці да фісгармоніі і пачаць прыводзіць у парадак сабранае.

Не памятаю каля старога ў яго кватэры жаночага вобліку, «падругі дней суровых» ці дачкі... Здавалася, жыве дзядзька Грыневіч адзінотай... Ці ж так? А творчая радасць? А душэўная блізкасць да народа?

Аб далейшым лёсе і канцы жыцця гэтага выдатнага дзеяча беларускай культуры, збіральніка песеннага фальклору я не ведаю.

*1964 г.*

## НАС НАТХНЯЎ ПОДЫХ РЭВАЛЮЦЫІ

*(Успаміны, напісаныя для Магілёўскага краязнаўчага музея)*

Пачаткам майго ўдзелу ў рэвалюцыйным руху ў Магілёве ў перыяд першай рэвалюцыі можна лічыць неаформлены гурток гімназістаў-пяцікласнікаў Магілёўскай гімназіі.

У адным класе са мной вучыўся Ювенальеў. Ён быў сынам Кусковай, а яна — жонкай Пракаповіча. Абодва былі высланы ў Магілёўскую губернію як «палітычныя». Пракаповіч пазней стаўся «легальным» марксістам. Ювенальеў па ўказцы вотчыма і маці пачаў групаваць вакол сябе аднакласнікаў.

У групу ўваходзілі: Бычкоў Яўгеній, Судзілоўскі Аляксандр, Гурвіч, я і, пэўна, іншыя. Мы чыталі недазволенае. Хутчэй за ўсё гэта былі пракламацыі супраць самадзяржаўнага рэжыму, але якога кірунку, дакладна не памятаю.

Тое, што нам даваў Ювенальеў, мы, прачытаўшы дома ўпотай, перадавалі адзін другому.

Галоўнае, што было ў такім гуртку, гэта выхаванне пачуцця таварыскай сувязі, нейкай канспіратыўнасці, а таксама пэўнай «мужнасці», адказнасці, бо мы добра разумелі, што чакае кожнага, калі мы будзем выкрыты.

Я часта хварэў, балела горла. Вучобу запусціў, і бацькі рашылі пакінуць мяне на другі год па хваробе. На другі год быў ужо іншы склад вучняў. Ювенальеў пераехаў у іншы горад. Бычкоў быў выключаны, здаецца, з 6-га класа і вярнуўся толькі ў 7-мы клас. Ён скончыў гімназію разам са мной у 1905 годзе.

Пасля універсітэта Бычкоў выкладаў у нашай гімназіі гісторыю. Ужо пры Савецкай уладзе я сустракаўся з ім у Мінску.

Гурвіч зрабіўся адвакатам, я сустракаў яго.

Судзілоўскі быў сярод нашага гуртка самым «радыкальным».

Збіраліся невялікімі групамі ў каго-небудзь з рабочых. Я знаёміў з рабочым рухам, выкладаў папулярна тэорыю Маркса. Задаваліся пытанні. Прапаганда ішла як бы своеасаблівым «канвеерам»: ад нашых кіраўнікоў праз нас да рабочых. Але галоўным была тая даверлівасць да маладых рэвалюцыянераў. Ведалі, што мы з інтэлігентных сем'яў — гімназісты, студэнты, і ўспрымалі нас як настаўнікаў наогул.

Першым маім рэвалюцыйным даручэннем як прапагандыста была работа сярод рабочых мукамольных млыноў. Млыны, здаецца, групаваліся па Быхаўскаму тракту. Трэба было ісці пешкі праз увесь горад, бо дом бацькі знаходзіўся на другім канцы.

Не памятаю дакладна: ці займаўся я з мукамоламі да універсітэта. Гэта значыць у 8-м класе (зіма 1904—1905 гг.), ці вярнуўшыся ўжо з Масквы пасля маніфеста 17 кастрычніка.

Рэвалюцыйную работу сярод яўрэйскага пралетарыяту вёў Бунд, або іначай «Усесаюзны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі».

Мы ведалі некаторых бундаўцаў, але аб Магілёўскай арганізацыі па ўмовах канспірацыі не ведалі. Зрэдку арганізоўваліся загарадныя «масоўкі», на якіх, мне здаецца, выступалі і сацыял-дэмакраты, і бундаўцы.

Паводле ўспамінаў Б. Қаржанеўскага, адзін такі мі-

тынг у лесе арганізаваў Сімоса Эйзенштат. Гэта быў першамайскі мітынг, «маёўка».

Але калі? Мусіць, ужо пасля маніфеста. Так ці інačай, трэба было трымаць варту. Пры сігнале аб набліжэнні конных стражнікаў мітынг рассейваўся ў лесе. Казакаў у Магілёве я не помню.

Больш замкнёна трымаліся сацыял-рэвалюцыянеры. Яны павінны былі больш канспіравацца. Усё ж часам у якой-небудзь «ліберальнай» сям'і сярод моладзі (студэнты, гімназісты, рэалісты) зачыналася «дыскусія» аб праграмах сацыял-дэмакратаў і сацыял-рэвалюцыянераў, нават анархістаў. Некаторыя, можа, уваходзілі ў іншыя гурткі: была як-ніяк поўная канспірацыя.

Больш актыўнымі былі: Міхаіл Герасімаў, Барыс Каржанеўскі. Далей ішлі не актыўныя, але «надзейныя», у якіх можна было часова схаваць пракламацыі, даць пачытаць, але якім не давалі даручэнняў.

Пачалі чытаць заграні́чнае выданне «Искры», якое прыходзіла вельмі рэдка. Памятаю такі выпадак. Прыношу «Искру» дамоў. Толькі нарыхтаваўся чытаць, як раптам званок на ганку: вярнуўся з горада бацька. Умомант газета — за пазухай. Але... бацька ў добрым настроі: ідзі да мяне, бярэ «па-сяброўку» за талію... Ходзім па пакоі, гутарым. Адчуваю, што бацькава рука варушыць пад кашуляй паперу...

Зараз запытае: «Што там у цябе, сынок?» Будзе размова сур'ёзней, чымся пасля пахавальнай дэманстрацыі. Тады, ужо год ці болей таму, допыт скончыўся. Бацька быў крануты маім спачуваннем нябожчыку, маімі слязьмі. Ды і што было? Удзел у пахаванні. Іншае зусім зараз: «Искра»... А-а! Значыць, свядомы ўдзел у падпольных справах! Рэвалюцыянер!

Папера шамаціць... Але — усё абышлося. [...]

Першае вулічнае выступленне ў Магілёве, якое я памятую, адбылося на другі год у 5-м класе, а мо ў 6-м, гэта значыць у 1900-м ці 1901 годзе.

Вось з якога выпадку.

Пакончыў самагубствам вучань рэальнага вучылішча. Сярод вучнёўскай моладзі хадзіла тлумачэнне, што самагубства здарылася на палітычным грунце. Рэвалюцыйныя кіраўнікі паставіліся скарыстаць пахаванне юнака, якое мусіла быць «грамадзянскім», г. зн. без свяшчэнніка, як форму палітычнага пратэсту супраць тага-

часнага школьнага, а заадно і супраць агульна-паліцэйскага рэжыму.

Ад аднаго да другога перадавалася: праводзіць труну! За труной ішоў натоўп вучняў і рамеснай моладзі, настроенай больш-менш рэвалюцыйна.

Ад рэальнага вучылішча спусціліся на мост. Труну везлі на простых калёсах. Ішлі моўчкі, сумна.

Калі прайшлі значны кавалак Лупалава, нечакана труна была пакрыта чырвоным палотнішчам.

Мы ўсе насцярожыліся. Але не прайшлі так і дваццаці крокаў, як скуль «вынырнуў» паліцэйскі чын і рашучым рыўком садраў з труны чырвонае палотнішча.

Адначасна раздаўся абураны крык: «Не дазваляйце гэтаму нягодніку чапаць пакрывала!» На плячо смельчака лягла цяжкая паліцэйская рука, і пачуўся загад: «Арыштаваны!» Яго павялі.

Упершыню я ўбачыў тады таварыша Клябанскага. Пазней мы даведаліся, што ён і арганізаваў гэтую дэманстрацыю. Натоўп быў рассеяны паліцэйскімі, якіх да гэтага мы не бачылі. Далей за труной пайшлі толькі сваякі.

Прозвішча паліцэйскага прystава, які пазней стаў паліцмайстрам,— Радыёнаў.

Колькі часу быў Клябанскі пад арыштам, не памятаю. Як палітычнаму ссыльнаму, яму, мусіць, «надбавілі». За абразу прystава. Я магу назваць Клябанскага як першага больш-менш выразнага кіраўніка вучнёўскага гуртка.

Барыс Каржанеўскі, які пазней увайшоў у аграрную групу, успамінае, што Клябанскі «праводзіў гутаркі, ...арганізаваў друкаванне пракламацый на гектографе». Сам Б. Каржанеўскі, па яго словах, друкаваў дзве пракламацыі разам з Засімовічам.

Але калі Клябанскі праяўляў гэтую рэвалюцыйную актыўнасць — да арышту на пахаванні вучня ці пасля,— гэтага ў сучасны момант я сказаць дакладна не змагу.

Ужо ў 20-х гадах у Мінску я сустракаўся з Клябанскім. Успаміналі з ім маладыя гады і работу ў Магілёве. Каб мы ведалі, што ўспаміны нашыя калі-небудзь спатрэбяцца, мы запісалі б іх.

З 6-га класа да старых удзельнікаў гуртка далучыліся новыя. Як гэта адбывалася канкрэтна, сказаць зараз цяжка. Неяк стыхійна, пачуццём мы «нашчупвалі». [...]

Вельмі здольны, востры на слова Судзілоўскі напя-

ваў нам досыць цынічныя вершыкі пра царкоўна-папоўскі побыт. У той час такія «вольныя» напеўкі хісталі ў нашай свядомасці традыцыйна-царкоўнае светаразуменне. Калі пазней я прачытаў раман «Бесы», дык герой яго, Мікалай Стаўрогін, асацыіраваўся ў мяне з Судзілоўскім. І дзіўна тое, што гэты радыкальны юнак быў сынком... павятовага станавога прыстава. Аб далейшым яго лёсе я нічога не ведаю.

[...] Да лібералаў належалі дзеці старога адваката Баніна. Большы сын быў судзейскім чыноўнікам, другі, Канстанцін,— адвакатам. Ужо пры Савецкай уладзе ў Мінску гэты Канстанцін быў юрысконсультам Саюза драматургаў і кампазітараў, і я меў з ім справы па Саюзу. Найбольш актыўнай у гэтай сям'і была дачка Анна (Нюра Баніна). Б. Каржанеўскі ўспамінае, што адзін паход у вёскі, калі складалася аграрная група, ён адбыў з Нюрай.

Больш радыкальна дэмакратычнай была сям'я Барыса Каржанеўскага — яго бацька і ён сам. Тут не толькі можна было дыскутаваць, але і хаваць нелегальшчыну і пісталеты. Праўда, на канікулы Каржанеўскія выязджалі ў свой Рагачоўскі павет.

У канцы лета 1906 года, быўшы ўжо актыўным членам аграрнай групы пры Магілёўскай арганізацыі сацыял-дэмакратаў (бальшавікоў), я парадніўся з сям'ёй Елізаравых, з дачкой якіх Яўгеніяй (Жэняй) мы сябравалі, як суседзі, дамамі, з малодшых класаў. Жэніна цётка, фельчарыца на Чарнігаўшчыне, дзядзька доктар, а таксама сям'я другой цёткі, якая жыла ў Тыфлісе — Гарбуновы. Усе былі радыкалы і нават рэвалюцыянеры. Яны і падтрымлівалі Жэню ў яе рашучых настроях. Яна сябравала з Нюрай Банінай і вучылася з дачкой жандарскага ротмістра Піжоля, забітага пазней сацыялістамі-рэвалюцыянерамі. Ад яе мы што-якое дазнаваліся з настрояў і планаў жандарскага ўпраўлення. Ужо ў 1910—1911 гг. пасля забойства бацькі дачка казала мне, што бачыла ў яго кабінеце папку з надпісам: «Дело Михаила Громыки». Цікава, што тэрарысты накіравалі пісталет не на палкоўніка Палякова, якога лічылі больш «пакладзістым», але на «актывіста» ротмістра.

Дарэчы сказаць тут, што актыўнасць сацыял-рэвалюцыянераў у Магілёве праяўлялася, апрача забойства Піжоля, у нямногіх выпадках. Сюды належыць намер забіць губернатара Клінгенберга сацыял-рэвалюцыянер-

кай Язерскай. Яна была жонкай своеасаблівага магілёўскага грамадзяніна, некалі высланага ў наш горад «за палітыку». Член гарадской управы, ён быў вялікім прыхільнікам азелянення горада. У вайну ангельцаў з бурамі (1899—1901) ён называў сябе «стары бур, брат Сцяпан». Дык вось, вярнулася з Сібіры, здаецца, яго жонка, спынілася ў гасцініцы і адразу ж накіравалася на прыём да «начальніка губерніі». Тут, нядоўга разважаючы, накіравала пісталет на «яго правасхадзіцельства». Але ззаду апынуўся паліцмайстар Радыёнаў і даў пад локаць: куля прайшла міма. У горадзе ўпарта трымалася чутка, што паліцыя ведала пра падрыхтоўку тэрарыстычнага акта.

Язерскую судзілі: яна атрымала шэсць гадоў катаргі. У поўным выйгрышы ад гэтага няўдалага стрэлу аказаліся губернатар і паліцмайстар.

Нечакана скончыў самагубствам студэнт, сын таксама цікавага грамадзяніна, адваката (прозвішча не памятаю). Ён пабудаваў сабе на здзіўленне магілёўцаў чатырохпавярховы дом па два пакоі ў кожным паверсе. Стаяла гэтая «вежа» на рагу былога Афіцэрскага бульвара і Дняпроўскага праспекта, побач з нізкім доўгім домам Баніна. Казалі, што самагубства студэнта адбылося на грунце невыканання нейкага тэрарыстычнага задання. Цела было знойдзена вясной у бярозавым гайку каля Карабанаўкі, праляжаўшы пад снегам усю зіму. Праз якіх два гады на тым жа месцы загубіў сябе і сам бацька-адвакат. Здаецца, ён быў паляк па нацыянальнасці.

Недалёка ад дома майго бацькі жыла сям'я адстаўнога чыноўніка Дуброўскага, таксама ў сваім доме.

Большы сын, Мікалай, выключаўся з універсітэта. Другі сын, Міхаіл, быў на два класы старэйшы за мяне. Ён не ўваходзіў, як мне здаецца, ані ў якую арганізацыю. Усё ж нейкая рэвалюцыйная традыцыя перадалася яму ад брата. Хутчэй за ўсё ён далучаўся ў перакананнях да сацыял-рэвалюцыянераў. Так ці іначай, але я без сумнення аднёс да яго пісталет, з якім вярнуўся з Масквы ў снежні 1905 г., і мы з цёзкам закапалі яго пад ганкам. Пра гэта далей. Большасць тагачаснай студэнцкай моладзі ў Магілёве за выключэннем выразных кар'ерыстаў была тыпу Міхаіла Дуброўскага.

Значна большая колькасць ліберальных, нават дэмакратычных сямей была сярод яўрэйскай інтэлігенцы —

дактароў, адвакатаў. Пасля маніфеста 17 кастрычніка сходкі адбываліся ў некаторых дома. Вядома, што, нягледзячы на «свабоды», паліцыя і жандармерыя рабілі сваю справу, і не кожны доктар ці адвакат рызыкаваў дапусціць сход, разам з ім — нарад паліцыі або, яшчэ горш — банду чарнасоценцаў.

Успамінаю адзін з такіх збораў. Драўляны флігель за гародчыкам. Збіраліся невялічкімі групамі. Аканіцы зачынены, шторы спушчаны. Хутка два-тры пакоі запоўнены народам. Разначынная інтэлігенцыя, моладзь. Тыповых рабочых (рамеснікаў) мала. Па партыях — большасць... кадэцкага кірунку. Бундаўцы, сіяністы, сацыял-дэмакраты і сацыял-рэвалюцыянеры. Гуллівая гутарка, спрэчкі па групах. Якога-небудзь «даклада» не чуваць. Выдзяляецца голас, які прыцягвае ўвагу. Ага! «Еврейский вопрос!» — звычайныя спрэчкі бундаўцаў і сіяністаў? Не, не тое! Паўтараецца слова: «асіміляцыя», г. зн. поўнае зліццё. Пайшоў гоман, голас нязгоды. Калі ж апошнім аргументам за «асіміляцыю» нечакана выпіраецца: «Вось за тое вас і б'юць, што вы абасабляецеся»,— голас пераходзіць у абурэнне. Не памятаю, якую нефармальную рэзалюцыю вынес сход. Аўтар дзікай прапановы (ледзь не сам гаспадар) адчуваў сябе, мусіць, не самавіта.

Падобныя сходкі мелі тое станоўчае, што дэмакратычная інтэлігенцыя адчувала сябе не паасобку, не групкамі, але пэўнай «грамадой», якая падтрымлівала настрой яднання і хоць бы не радыкальнай барацьбы.

У жніўні 1905 г. я выехаў у Маскву вучыцца ва універсітэце. Далі мне адрас-яўку. Хто даў? Можа, Клябанскі, можа, Сімха Эйзенштат — не памятаю. Хутка накіроўваюся па адрасу. Дом, здаецца, на Цвярскім бульвары, «пышнейшы» за тыя, у якіх сяліліся студэнты на Броннай, па Козісе. Падобная і кватэра. Сустракае мяне дама «свецкага» тыпу. Падаю ліст. Прачытаўшы, гаспадыня ветліва ўхмыляецца, запрашае ў гасцінную. З запытанняў і маіх адказаў высвятляецца, што я трымаюся сацыял-дэмакратычных поглядаў, менавіта бальшавіцкага кірунку. «Нават бальшавік? Вельмі крайняя праграма!» — халодным ужо тонам адзначыла гаспадыня. Не памятаю, накіравала яна мяне куды ці не, але я зразумеў, што маю справу са звычайнай «ліберальнай» (пазней гэта былі кадэты). У другі раз я ўжо сюды не пайшоў, а стыхійна пачаў далучацца да масавага студэнцкага ру-

ху. Усерасійскую забастоўку, маніфест 17 кастрычніка, вялізную дэманстрацыю першага грамадзянскага пахавання забітага «чорнай сотняй» Баўмана, пагромы студэнтаў і «забастоўшчыкаў», забарыкадыраванне універсітэцкіх карпусоў дзвюма тысячамі студэнтаў — усё гэта я перажыў. Між іншым, сярод «барыкадаваных» студэнтаў я сустрэўся з Зелікам Лур'е, магілёўцам, які разам са мной канчаў гімназію. Універсітэт быў закрыты урадам. Я вярнуўся ў Магілёў у лістападзе, але не надоўга, як сталася на справе.

Пасля маніфеста фармальна былі дазволены ўсе партыі. Мне даручылі ад сацыял-дэмакратычнай арганізацыі ўзяць у гарадской управе дазвол скарыстаць тэатр для мітынгу. Звяртаюся да належнага служачага. Мне адмаўляюць з прычыны таго, што тэатр патрабуе рамонту. Спрачаюся. Вакол збіраюцца кіраўнікі, ухмыляюцца, шэпчуцца... Азіраюся і бачу свайго «продка», як зараз кажуць. Трымаюся афіцыйна. «У чым справа?» — падыходзіць бліжэй бацька. «Ды вось... ваш сынок... ад сацыял-дэмакратаў!» Нямая сцэна. Я выходжу. Дома «нямая» сцэна пераходзіць у вельмі выразны дыялог, які ледзь не скончыўся трагічна. Чаму? Для бацькі маніфест, свабоды і г. д.— гэта не болей як слабаволле Мікалая II і хітрыкі Віттэ. Але яго сын, яго «першынец» — канчатковы рэвалюцыянер, нават «партыйны!» — непераносна! Я зразумеў, што заставацца далей у сям'і немагчыма. Ледзь не на другі дзень я «збег» у Маскву разам з Жэняй Елізаравай і яе сяброўкай. Яны, праўда, выехалі без сямейнай драмы.

У Маскве я прабыў усё снежаньскае паўстанне. [...]

У канцы снежня, пасля разгрому рэвалюцыйных дружын на Прэсні, я зноў вярнуўся ў Магілёў.

Мне пашанцавала прайсці патруль на вакзале і нават правезці ў чамаданчыку пад бруднай бялізнай пісталет. Зварот мой быў успрыняты ў сям'і радасна. Нават бацька сустрэў мяне як «уваскрошага з мёртвых», бо па Магілёву пайшлі чуткі, што бачылі (?) мяне і Жэню забітымі на барыкадах. Але ў першы ж дзень ён «абследаваў» чамаданчык і знайшоў наган. Толькі раніцай, калі ён пайшоў на службу, я пераканаўся, што даў промаху. Але зараз жа пайшоў на пошукі і ў шуфлядзе пад чыстай бялізнай убачыў свой «баявік»! Не разважаючы доўга, я занёс яго Міхасю Доброўскаму, і, як ужо гаварыў, мы закапалі яго ў кабуры пад ганкам. «Дзе рэваль-

вер?» — было першае пытанне, калі вярнуўся з горада бацька. Я разыграў наіўнага сынка. «Як? Дзе? Што?» «Продак» зразумеў, што мы квіты. Ён шматзначна зірнуў на «першынца». Я вытрымаў гэты позірк, і тым справа скончылася.

З зімы 1905—1906 гг. я ўступіў у аграрную групу пры Магілёўскай арганізацыі РСДРП. У групу ўваходзілі яшчэ Барыс Каржанеўскі, Засімовіч, Барыс Бундавец. [...]

Кіраваў аграрнай групай таварыш Мацвей, на розных кватэрах якога мы і збіраліся. Ён быў мужнага выгляду чалавек, з цёмна-русай барадой, тып інтэлігентнага рабочага. Ён уносіў у нашу маладую групу дух бадзёрасці, упэўненасці і рашучасці. Пераканаsuccessful прыхільнік ленінскай лініі ў партыі, ён, калі бываў у вясёлым настроі, расказваў, як давялося яму неяк выступіць на адной канферэнцыі супраць меншавіка Маслава. «Вы казыраеце сваёй доўгай барадой,— кіўнуў ён таму,— але ў мяне барада яшчэ даўжэйшая».

Таварыш Мацвей даваў нам тэарэтычныя ўстаноўкі, а таксама практычныя парады, як трэба весці работу ў вёсцы. Тут можна сказаць, што самым тэарэтычна падрыхтаваным у групе быў Барыс Каржанеўскі, які ўважліва прачытаў два тамы «Капітала» і ўзяўся нават за трэці.

Перад аграрнай групай стаяла задача: падцягнуць тагачасную беларускую вёску на Магілёўшчыне да ўзроўню рэвалюцыйнай свядомасці. Рабочы рух пасля маскоўскага снежаньскага паўстання быў загнаны, як вядома, глыбока ўнутр. Але сялянства толькі з 1906 года пачало актыўнічаць, прынамсі, на Беларусі. У цэнтральных губернях, на Паволжы, на Украіне палілі фальваркі, дзялілі маёмасць. Вядома, якімі жорсткімі карнымі паходамі супраць хлебаробаў адказала царская «конституционная» (пасля маніфеста) улада на сялянскі дух. Па нашай беларускай зямлі вялізных «жакерый», наколькі мне вядома, у той час не падымалася. А наколькі палітычна адсталай, наіўнай была самасвядомасць, відаць хоць бы з таго, як сяляне па глухіх кутках успрымалі агітатараў. Нас называлі «дэмакратамі» (чарнасоценных перарабілі ў «домокрадов»), а месцамі нават «прынцамі». Мы былі нічым іншым, як прынцамі, якія праз галовы міністраў ды губернатараў надумалі адабраць зямлю ў паноў. Чакалі, што з Пецярбурга накіра-

вана «дзесяць вазоў планаў і па тых планах будуць дзяліць зямлю». З прыведзенага відаць, наколькі складанай і асцярожнай, «дыпламатычнай» павінна была быць агітацыйная работа ў вёсцы і выступленні на сходках.

Прывяду некалькі паасобных выпадкаў, каб даць уяўленне тагачаснай абстаноўкі для аграрнай групы. Выязджалі мы не толькі ў вёску, але і ў мястэчкі і гарадкі Магілёўшчыны. Хадзілі і пяшком.

Прыязджаю цягніком у Копысь (ці ў Шклоў?). Заходжу па пэўнаму адрасу ў тыповы драўляны дамок. Сустракае малады мясцовы падмайстра (а то дык і сам майстра), звычайна бундавец. Мяне ўжо чакалі. Трэба арганізаваць сход, на якім я зраблю даклад на тэму: «Аграрнае пытанне ў сацыял-дэмакратаў і сацыял-рэвалюцыянераў». Заходзяць на кватэру яшчэ некалькі маладых «актывістаў», якія заўважылі на вуліцы прыезджага, хоць было ўжо цемнавата. Высняецца, што прыйдзецца скарыстаць памяшканне сінагогі: больш няма дзе сабраць народ. Ды ў сінагозе і больш гарантыі ад паліцэйскага наскоку. Хлопцы разыходзяцца, каб папярэдзіць равіна ды «склікаць народ».

І вось праз якую гадзіну-паўтары «праваслаўны» студэнт упершыню ў сваім жыцці — у яўрэйскім малітвенным доме! Ды не ў якасці... турыста, але ў ролі дакладчыка, які гаворыць з равінскай вышкі. Народу набілася досыць: яўрэйская рабочая моладзь, хлопцы з бліжэйшай вёскі, некалькі чалавек з мясцовай інтэлігенцыі — аптэкар, настаўнік і іншыя. Пасля даклада — дыскусія на поўны ход: «нацыяналізацыя» ці «сацыялізацыя» пасля канфіскацыі зямлі ў паноў. Спрэчкі вольныя, палымяныя. Сходка скончылася досыць позна — толькі паспець на цягнік. Мясцовая паліцыя прыкінулася, нібы не заўважыла ані прыезджага, ані няўчаснага «малітвенага» збору. Ды ці ахвота звязвацца з мясцовай «баявой дружынай» бундаўцаў!

Другі выпадак.

Прыйшла неяк падвода з мястэчка Х., ці тое пад Бялынічамі, ці ў бок Быхава — не памятаю. Патрабаваўся туды агітатар. Даручылі мне. Апрануўшы пінжак на чорную кашулю, захапіўшы літаратуру, сеў я на мяшок з сенам, куды запіхнуў пісталет, і паехалі. Пасярэдзіне дарогі заехалі ў двор падкарміць каня. Гаспадар, сляпы яўрэй сярэдніх гадоў, увесь час, пакуль я чакаў, нервова

хадзіў па хаце з кута ў куток шырокімі «сляпымі» крокамі, чухаючыся. «Скуль, хто, куды?» — задаваў ён пытанні. «У госці, у мястэчка»,— быў адказ. Позна ўжо спыніліся на двары, дзе жыў местачковы аптэкар (а мо фельчар?). Сустракае таварыш Жэня, дачка гаспадароў. Дапазна гутарым на розныя тэмы. Жэня досыць начытаная. Яна — сацыял-дэмакратка. Раніцай выходзім з Жэняй «у паход». Да абеду абышлі дзве-тры бліжэйшыя вёскі. Усюды збіраўся народ ахвотна, бо, мусіць, было свята. Слухалі, задавалі пытанні. Жэню ведалі, а значыць, і да таго, з кім яна прыйшла, адносіліся даверліва.

— Трэба было б зайсці яшчэ ў адну, крыху ў бок ад шляху,— прапануе Жэня.— Даўно прасілі.

Трэба дык трэба! Перакусваем у Жэніных бацькоў. Ідзём. Уваходзім у вёску. На бярвеннях каля хат групкі сялян. Жэня ўголас заклікае збірацца на сярэдзіну вёскі. Ідзём далей. Я азіраюся і бачу, што ўязджае ў вёску конны стражнік. Я падыходжу плячо ў плячо да Жэні, упаўголаса кажу: «Не азірайцеся назад, стражнік! Бярыце ў мяне пракламацыі і пісталет». Умомант Жэня хавае ўсё гэта сабе пад кофту. Спакойным крокам ідзём далей. «На канцы — знаёмы гаспадар, зойдзем да яго»,— гаворыць Жэня. Так і робім. «А да мяне госць прыехаў з горада»,— тлумачыць яна гаспадару, заходзячы ў хату. «Сядайце!» Але нам не дужа «сядзіцца». Гаспадар скардзіцца на дзетвару, што трасуць у яго яблыкі. Ён, відаць, здагадаўся, што за госць такі. А трэба заўважыць, што да нас звярталіся неаднойчы як да сапраўдных нейкіх «камісараў» па розных бытавых справах. Мы спачуваем гаспадару і не заступаемся за хлапчукоў. Гаспадар задаволены. Але трэба нешта рабіць! «Ці не можна ад вас пераехаць на другі бок? Човен ёсць? — пытаюся ў гаспадара.— Мне трэба карацей выйсці на шлях!» — «Можна! — адказвае гаспадар.— Ды толькі човен мой бярэ адразу не больш дваіх». Ну і добра! Выходзім з хаты, спускаемся па ўзгорку да рэчкі, якая цячэ ўздоўж вёскі. Тут яна пашыраецца і пераходзіць у прудок. Хлапец перавозіць спачатку мяне. А калі падплывае ў другі раз з Жэняй, на двор сыпануў натоўп, а на чале яго — конны стражнік. Ён хвалюецца, паказвае ў наш бок... Гэ, гэ! Спазніўся, дабродзі! Не адважышся пераехаць за намі адзін! Не азіраючыся, нібы ўсе падзеі на беразе нас не дачытаць, лугавінай заходзім у лес. Тут умаўляемся. Я буду чакаць у лесе, а Жэ-

ня вернецца ў мястэчка і вышле падводу. Чакаць прыйшлося доўга. Зусім зацемна затарахцелі на шляху калёсы. Зноў пастаялы двор і сляпы гаспадар. Ён пазнаў мяне па голасу. «Чаму так мала гасцявалі?» — пацікавіўся сляпы. Трэба было неяк тлумачыць. Ужо пад раніцу, падрыжэўшы ў пінжаку, пад'ехаў я пад горад. Злез з воза і завулкамі прабраўся... але не дадому, а на кватэру да аднаго з тых, хто не актыўнічаў, ды «спачуваў».

Неяк правялі сходкі групкай, здаецца, ў аколіцах Княжыц. Было нас: Барыс Каржанеўскі, Барыс Бундавец, Засімовіч і я. Сходкі прайшлі добра, ніхто не «сарваў», не перашкодзіў. Асабліва ў агітацыйнай «форме», як зараз кажуць пра спартсменаў, быў Барыс Бундавец. Ён наогул лічыўся ў аграрнай групе агітатарам, бо браў сваім палымяным характарам, які не скруціла і год сядзення ў Варшаўскай цытадэлі. Б. К., Засімовіч кваліфікаваліся больш у якасці прапагандыстаў. Варочаемся ўжо зацемкі. Вёрст за 8 да горада абганяе нас фаэтон у парцы коней. Не дужа шпарка фаэтон рушыць сярэдзінай шляху, а мы абочнымі сцежкамі. Чамусьці мы без згавору паскорылі крокі, як бы наганяючы коні. Аж тут блiснуў агонь з фаэтона, і ў той жа момант пальнуў пісталет. Проста ў наш бок. Не разважаючы, я выхапіў з-пад пінжака свой (ці не той наган, што вывез з Масквы?) і бахнуў у адказ! Тут мяне схапілі за руку: «Што ты нарабіў!» — «А што?» — «Ты забыўся, што пару дзён назад выехаў у павет віцэ-губернатар? Што, калі ў фаэтоне ён? Падыме ў горадзе трывогу, вышлюць на заставу стражнікаў...» Так! Я ўцяміў, што «сплахаваў»... І праўда: коні адразу ўзялі на шпаркую рысь. Трэба нешта рабіць. Не даходзячы да заставы вярсты 3—4, мы крута зварочваем улева і праз Пячэрскі лес, на Пелагееўку, выходзім проста на астрог. Адзін з нас аддзяляецца і знікае ў ціхіх вуліцах, а мы утрох апынуліся на пляцу перад астрогам. На пасту стаіць гарадавы. Уздоўж закратаных акон ходзіць вартаўнік... Ані душы на аколіцах! Мы спакойна абыходзім паліцэйскага. Ён не адважваецца адзін спыніць нас: усё ж была яшчэ пара рэвалюцыйнага рушэння. Мы праходзім уздоўж левага крыла астрога, па глухой вуліцы. У канцы «Сеннай площади» разыходзімся. Я заначаваў, здаецца, у Барыса Каржанеўскага.

На другі дзень сярод губернскага чыноўніцтва пайшла чутка: учора ўноч на віцэ-губернатара Ладыжан-

скага, які варочаўся з паветра, было зроблена ўзброенае нападзенне. Ён адстраляўся.

Пасля аднаго з выездаў па заданні аграрнай групы я прастудзіўся і захварэў на запаленне лёгкіх. На вялікую непрыемнасць для маёй сям'і я застаўся хворым у Елізаравых. Дактары раілі, каб я пабыў на выздараўленні на поўдні. Бацькі ўхапіліся за гэты выпадак і накіравалі мяне да матчынай радні ў Растоў і ў Грозны. Бацька спадзяваўся «забіць двух зайцаў»: адхіліць ад рэвалюцыйнай работы і адначасова ад сяброўства з Жэняй Елізаравай. Але... вярнуўшыся з Поўдня, я афіцыйна пашлюбаваў з Жэняй. З восені 1906 г. мы паехалі ў Маскву. Жэня паступіла на курсы французскай мовы. Але хутка вярнулася ў Магілёў і пачала служыць у земскай управе. Па тагачаснаму універсітэцкаму статуту можна было здаваць курсы навук па прадметна. Я з гэтай прычыны наведваўся ў Магілёў, але не браў ужо даручэнняў ад аграрнай групы. Сувязі станавіліся ўсё радзей. Група распадалася. Улетку 1907 г. я, памятаю, дзе-нідзе выступаў на паўлегальных сходах у якасці сацыял-дэмакрата. У афіцыйнай выбарчай кампаніі ў Дзяржаўную думу мы, моладзь, удзелу, наколькі мне вядома, не прымалі.

За час актыўнай дзейнасці аграрнай групы арыштаваны быў толькі Барыс Каржанеўскі. Яго затрымалі ў вёсцы ці на дарозе ў Быхаўскім павеце. Два месяцы сядзеў ён у Быхаўскай турме. Судзіла яго аж Кіеўская судовая палата (вядома, выязная сесія). Але з прычыны, што пры ім знайшлі толькі «Выборгское воззвание» першай Думы, ды на судзе ён прыкінуўся наіўным хлапчуком, далі яму два месяцы турмы «з залікам». Ён і выйшаў «на волю».

Аб далейшым лёсе Засімовіча і іншых дакладна не ведаю.

## ДАДАТАК ДА УСПАМІНАЎ

«Искра» прыходзіла ў Магілёў хутчэй за ўсё праз Палескі камітэт РСДРП, які, наколькі мне вядома, знаходзіўся ў Гомелі. Як даходзіла нелегальная літаратура з-за мяжы ў Расію — агульнавядома. Тут яна размяркоўвалася па камітэтах, а далей праз кіраўнікоў ар-

ганізацый або паасобных таварышаў. Дэталі адносна Магілёва мне невядомы.

Ніякіх паасобных дамоў для явак я не ведаю. Збіраліся на кватэрах кіраўнікоў, кватэры мяняліся. Там жа знаходзіліся гектографы для адбіткаў пракламацый.

Барыс Каржанеўскі, як я ўжо пісаў, гаворыць: «Клябанскі арганізаваў (але як, не ўказвае) друкаванне пракламацый на гектографе...» Аб друкарні я не чуў ніколі.

Ён — настаўнік-пенсіянер, апошнія гады жыве ў Казахстане. Зелік Лур'е быў аднаго са мной выпуску гімназіі — 1905 г. Безумоўна, ён належаў да рэвалюцыйнай моладзі, але пра непасрэдны ўдзел яго ў Магілёўскіх арганізацыях я нічога не ведаю. Ён паступіў у Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя Баўмана. Лёс яго далейшы мне невядомы.

З Жэняй Елізаравай нашы жыццёвыя шляхі разышліся трагічна з 1908 г. Яна, кажуць, выйшла замуж у другі раз за доктара і жыла са сваёй сям'ёй на поўдні Украіны.

Далейшы лёс таварыша Мацвея мне невядомы.

*1965 г.*

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Я ўзяўся пісаць «Старонкі сямейнай хронікі», дзе хачу досыць падрабязна расказаць пра сваё жыццё. З гэтай прычыны тут я намячаю толькі галоўныя вехі.

Мой дзед паходзіў з ваколіцы Грамыкі на р. Бесядзь (прытока Сожа). Малазямелле і дрэнная глеба прымушалі частку сыноў амаль кожнай сям'і пакідаць бацькаву гаспадарку і падавацца ў гарады: Гомель, Магілёў, Кіеў. Тут з іх выходзілі дробныя чыноўнікі, прыказчыкі, чыгуначнікі. Вось жа мой дзед Гаўрыла Данілавіч і яго сыны зрабіліся разначынцамі. Родны дзедаў брат Іван Данілавіч і лінія яго сям'і заставаліся ратаямі — хлебаробамі. Дзед служыў у Гомелі. Ажаніўся з каталічкай.

Памёр 26-ці гадоў. Бабка выйшла замуж у другі раз за беларуса — каталіка Невяровіча, і сям'я пераехала ў Вільню. У час упартай русіфікацыі абодвух праваслаўных хлопчыкаў з ахвотай прынялі ў духоўнае вучылішча, каб вырваць з-пад уплыву «польскай» сям'і. Уладзіміру было 12 гадоў, Аляксандру — 10, калі адбывалася паўстанне 1863 года. Бацькаў айчым прымаў у ім актыўны ўдзел. Ужо ў школьным узросце я чуў ад бабкі і бацькі апавяданні пра трагедыю паўстання. Асвятляліся людзі і падзеі з розных пунктаў гледжання. Бабка — з поўным спачуваннем; бацька — як праваслаўны рускі «патрыёт». Я цалкам прымаў бабчына асвятленне: шкадаваў «палякаў» і абураўся на казакаў. Хутка пасля паўстання Невяровіч памёр, і бабка вярнулася з дзецьмі ў Гомель. Дзядзька Уладзімір пачаў служыць чыноўнікам, але хутка пераключыўся на прыватную адвакатуру. Браўся за рызыкоўныя справы адсуджваць зямельныя валоданні на карысць нашчадкаў, якія страцілі свае правы. Меў поспех, бо выявіліся ў яго значныя юрыдычныя здольнасці, хоць меў ён асвету ўсяго тры-чатыры класы віленскага духоўнага вучылішча. Бацька пайшоў валанцёрам у полк. Прымаў удзел у турэцкай кампаніі 1877—1878 гг. Быў пад Плеўнай. Вярнуўся з паходаў у званні фельдфебеля, вельмі ганарыўся балгарскімі, румынскімі і сербскімі медалямі. Пасля вайны браўся за розныя службы, жыў і ў радні ў Грамыках, выконваючы сялянскія работы, памагаў большаму брату ў ягоных адвакацкіх справах.

Маці маёй ледзь споўнілася шаснаццаць год, калі выйшла замуж. Яна карэнная гамяльчанка з сям'і гарадскога служака Іллі Гаўрылавіча Акушкі. Гэны мой дзед быў каталікам з уніятаў. Бабка з матчынага боку, Наталля, родам Клімовіч, была праваслаўнай. Гэта так было тыпова для значнай часткі беларусаў — гараджан. У год, як мне нарадзіцца, дзядзька Уладзімір набыў зямлю каля сяла Чорнае ў былым Рэчыцкім павеце. Надумаў будаваць хутар. Гаспадарыць пасадзіў малодшага брата. Пакуль будаваўся дом, бацька і маці жылі ў сяле. Тут я і нарадзіўся 12 лістапада (31 кастрычніка ст. ст.) 1885 года і запісаны ў прыходскай царкве. Імя далі ў гонар матчынага дзеда, майго прадзеда Міхайлы Клімовіча. Мне было каля трох гадоў, брату чатырыпяць месяцаў, калі памерла маці. Пахавана яна на вясковых могілках таго ж Чорнага. Хутка дзядзька прадаў

хутар. Бацька з дзецьмі перабраўся ў Гомель. Праз пяць гадоў ажаніўся ў другі раз. Заступніца матулі, мачыха, аказалася супраць народных казак сардэчнай жанчынай. Праз усё жыццё з намі яна не рабіла розніцы паміж пасынкамі і роднымі дочкамі. Бацька атрымаў пасаду даверанага і ўправіцеля маёнтка ўдавы магілёўскага настаўніка семінарыі. Толькі па «сегрэгацыйных», як у наш час назвалі б іх, законах царскай дзяржавы звычайны настаўнік і яго ўдава праз «юрыдычнае» ашуканне купца-яўрэя змаглі атрымаць лясныя абшары больш як на дзесяць вёрст. Фальварак каля вёскі Іванішчавічы ў Быхаўскім павеце быў у поўным заняпадзе. Бацька з усёй шчырасцю і ўмельствам узяўся наладжваць гаспадарку. З сямі да трынаццаці гадоў я пражыў багатым на ўражанні жыццём. У гэты час сям'я наша не адчувала матэрыяльнай нястачы. Блізкае знаёмства з нашай прыродай, сялянамі, мовай, markaрознабаковымі праявамі гаспадаркі, непасрэднае назіранне за дзейнасцю бацькі заклалі ў маю душу пэўныя асновы светапогляду. Толькі значна пазней я даведаўся, што далёка не кожны «аканом» ходзіць з касой першым у касавіцу; падае снапы ў барабан малатарні; вучыць, як крыць гонтамі страху, як рабіць прышчэпы... [...]

Дастатак дазволіў паслаць сыноў у гімназію. Калі я перайшоў у трэці клас, бацька, расквітаўшыся з памешчыцай, пераехаў у Магілёў. Тут набыў невялікі, але ладны дамок, прыбудаваў кухню і пакоі для дзяцей. Пры доме быў кветнік і фруктовы сад на 12—15 сотак. Тут я правёў гімназічныя гады, праводзіў большую частку студэнцкіх вакацый. Першыя два-тры гады гарадскога жыцця сям'я яшчэ мела дастатак. Бацька спрабаваў займацца адвакатурай. Але яму не так шанцавала, як дзядзьку Уладзіміру. Ужо з шостага класа я пачаў займацца рэпетытарствам. У пятым класе ўвайшоў у нелегальны вучнёўскі гурток, які пазней узяла пад свой кірунак Магілёўская арганізацыя РСДРП (бальшавікоў). З гэтага часу пачаліся разыходжанні з бацькам па палітычных поглядах і перакананнях. Пазней гэтыя разыходжанні прымалі часам амаль драматычныя формы.

У 1905 годзе я паступіў у Маскоўскі універсітэт на медыцынскі факультэт. Недахоп сродкаў у бацькі (было ўжо трое сясцёр) і малыя заработкі рэпетытарствам прымусілі перайсці на прыродазнаўчае аддзяленне фі-

зіка-матэматычнага факультэта, дзе можна было прыязджаць здаваць экзамены.

Рэвалюцыйны, бурны канец 1905 года я правёў у Маскве. Усерасійская стачка. Маніфест 17 кастрычніка. Вялікая на той час маніфестацыя пахавання Баўмана. Снежаньскія барыкады...

Пасля разгрому рэвалюцыйных дружын на Прэсні я выехаў з Масквы. [...]

У 1906—1907 гг. я ўваходзіў у аграрную групу Магілёўскай арганізацыі РСДРП (бальшавікоў). Агітавалі па вёсках, па мястэчках.

Пасля аднаго такога выезду я захварэў на запаленне лёгкіх. Доктар раіў пажыць на поўдні. Бацькі паслалі мяне ў Растоў і Грозны, дзе асталявалася матчына радня. Гэтыя абставіны, ранняя першая жаніцьба, патрэба хутчэй закончыць асвету — адхілілі ад выканання рэвалюцыйных даручэнняў.

У 1911 годзе я атрымаў дыплом.

У Віленскай акрузе мне ў пасадзе настаўніка сярэдняй школы адмовілі. На пазычаныя пад працэнты грошы я паехаў у Адэсу, дзе жыла сям'я знаёмых па Маскве курсістак. У гэтым горадзе пражыў 10 гадоў, выязджаючы на лета ў Беларусь.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі беларусы-бежанцы арганізаваліся ў Адэсе ў таварыства «Гай». Далучыўся і я да культурна-асветнай працы сярод землякоў. Улетку 1921 г. з групай настаўнікаў пераехаў у Мінск.

Настаўніцкая група наша — «адэсіты», як пачалі нас зваць,— адразу рассыпалася па кватэрах. Мне дастаўся пакойчык на другім паверсе досыць вялікага дома, які нядаўна гарэў.

Жыццё ва ўсіх галінах толькі-толькі наладжвалася. З'язджаліся па закліку урада з усіх бакоў: з Петраграда, Масквы, Урала. Не было памяшканняў для школ і ўстаноў. Будавалі спачатку невялікія і невысокія камяніцы, рамантавалі і пашыралі старыя асабнякі. Напрыклад, у архірэйскім асабняку размясціўся Народны камісарыят асветы.

Было мне 36 гадоў. Але і ў маладзейшыя гады я не адчуваў такога ўздыму жыццёвых сіл, працаздольнасці і творчага захаплення, як тады... Прычыны? Першая — апынуўся я ў родным асяроддзі. Праўда, ужо з 1917 года я пачаў працаваць у арганізацыі беларусаў-бежанцаў «Гай», а пазней — у бежанскіх школах дзіцячага гарад-

ка імя III Камуністычнага Інтэрнацыянала. З тых часоў я ўжо не аддзяляўся ад нашага народнага жыцця. Другая прычына — жывое акружэнне. Якое то было акружэнне! Я ўглядаўся ў постаці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага і многіх хоць і меней выдатных, але патрэбных для паўнаты і магутнасці «хору» і «аркестра». Дадаць трэба таксама палітычных дзеячаў-камуністаў, праз якіх толькі і магла рэалізавацца вялізная культурная праца.

З той жа восені 1921 года я пачаў выяўляць сябе ў двух кірунках: навукова-педагагічным і літаратурным. Часам даручаліся мне і адміністрацыйныя абавязкі, напрыклад, школьная інспекцыя, праца ў дырэкцыі тэатра.

Адразу я пачаў выкладаць геалогію і мінералогію ў Белпедтэхнікуме. З дня яго заснавання працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Мікола Азбукін і я — галоўныя аўтары нашай навуковай тэрміналогіі ў галіне геаграфіі, геалогіі, грунтоў і хіміі.

Пасяджэнні ў Інбелкульце, на якіх нязменна прысутнічалі Янка Купала, Якуб Колас і выдатнейшыя знаўцы нашай мовы, з месяца ў месяц узбагачалі мае веды моўных законаў. Я пачаў адчуваць грунт, калі пераходзіў да паэтычнай творчасці.

Я рос пад даглядам праслаўленых сыноў нашага народа, якія прыхільна, спрыяльна адносіліся да мяне.

На другі ці трэці год перайшоў ва універсітэт на кафедру геалогіі, кіраўніком якой быў вядомы прафесар, пазней акадэмік Мікола Фёдаравіч Бліадухо. Па яго планах я рабіў маршрутныя выхады і выезды. Прайшоў, між іншым, па беразе прыгажуні Проні ад вытокаў яе каля г. Горак да злучэння з Сожам пад Слаўгарадам (былое мястэчка Прапойск). Пісалася пра мае адносіны да вынаходак нафты ў Рэчыцкім раёне. Справа ў тым, што М. Азбукіну і мне даручана было абследаваць пачатковым маршрутам гэты раён. Верагодна, што ўжо ўлетку 1930 года мы ўгледзелі б некаторыя адзнакі нафты. Памаглі б і распытванні насельнікаў. Магчыма, што ўжо тады па нашых запісах пастаўлена была б буравая разведка. Але наш маршрут быў нечакана спынены.

Культурна-нацыянальнае будаўніцтва ішло між тым поўным тэмпам. Мне прыйшлося ўзяцца за свае дысцыпліны, у выніку чаго надрукаваны былі два падручнікі: «Уводзіны ў крышталеграфію» і «Уводзіны ў мінералогію». Выдадзены яны былі добра, з фотаздымкамі.

Трэба дадаць і трэці момант, спрыяльны для творчасці. Перажываў я ў той час рамантыку кахання. Пры гэтым «лірыка» яго пераходзіла момантамі ў «драму». З Лідай Рытар, якая стала маёй жонкай, мы працавалі разам у Адэсе ў школе-камуне. Прыехалі таксама разам. Яна ставіла па школах-інтэрнатах змястоўныя і вясёлыя вечары самадзейнасці, на якіх часта бывалі Купала, Колас, Бядуля, Чарвякоў і інш. Ці дзіва, што хутка пайшлі ў мяне цэлыя раздзелы вершаў, паэмы («Крылан»), драмы («Над Нёманам»). Так, увесь раздзел старога выдання «Плыні» пад назвай «Рытмы кахання» адбівае асабістыя перажыванні. Або невялічкая паэма «Пад бубянцы» (закончана была 8/VI 1922 г.). Пісалася яна ў драматычныя моманты.

У кастрычніку 1923 года нарадзілася наша «пярвушка» Расціслава. «Аа-аа, Росценька! Ляжы, лялька, просценька!» — піша 37-гадовы бацька, для якога яна першая жывая радасць. Так з'явілася паэма «Над калыскай» («Дзіця» — у старым выданні). [...]

У маленькім пакойчыку флігелька, што стаяў на двары дома цешчы артыста Грыгоніса, пісалася больш вялікая паэма «Крылан». Хатка была падзелена пераборкамі на «каюткі». Усю каютку займаў ложак.

Ці не ў той флігелёк зайшоў да нас Якуб Колас? Ці не там паспрачаліся мы аб памерах нашых паэм — «Сымона-музыкі» і «Крылана»? Літаратурны «хлапчук» гарэзліва пераконваў сталага майстра скарачаць ягоную славутую паэму. Прымітыўна-рамантычны «Крылан» і стала-рамантычны «Сымон-музыка»! Толькі нябачнае падтрыманне малой істоты, якая лямантавала на шырокім ложку, магло падбіць мяне на такую гарэзнасць.

У 1926 годзе быў напісаны невялічкі верш «Марынка», які звярнуў на сябе прыхільную ўвагу крытыкі *. Можна падумаць, што верш гэты прысвячаўся другой нашай дачушцы. Але Марына, цяпер доктар гістарычных навук, нарадзілася толькі ў 1927 годзе.

Неяк у маі 1925 года пазванілі мне: «Дзядзька Грамыка! Заўтра 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Выручайце. Трэба даць у газету прывітанне». Што тут зробіш. Праз дзве гадзіны быў напісаны і перапісаны верш «Янку Купалу».

* Дарэчы, гэты верш разам з большым крыху вершам «Ванда Карсак» толькі і ўвайшоў з усіх маіх рэчаў у «Анталогію беларускай паэзіі».

Яшчэ ў Адэсе ўлетку 1917 года я пачаў спрабаваць сябе як беларускі пісьменнік. Першай такой спробай, калі не лічыць некалькіх вельмі прымітыўных вершаў, была п'еса «Змітрок з Высокай Буды». Друкавалася яна ў газеце «Вольная Беларусь» у 1918 годзе. П'еса з драматычным уздымам, але наогул досыць слабенькая па структуры і моўным афармленні. Е. Міровіч пачаў быў рыхтаваць яе да пастаноўкі, але хутка ад яе адмовіліся, і добра зрабілі.

З таго часу Я. Купала, М. Красінскі і іншыя настойліва раілі, каб я не кідаў спрабаваць сябе ў драмах. У выніку такіх шчырых сяброўскіх парад з'вілася яшчэ пяць п'ес. Вялікі і разам з тым вельмі сціплы і патрабавальны да сябе Я. Купала казаў, нібыта мне больш «удаюцца» жаночыя тыпы, чымся яму.

У 1929 годзе надрукавана была асобнай кніжкай драма «Каля тэрасы». З поспехам прайшла яна сезон на сцэне 2-га Беларускага дзяржаўнага тэатра. Галоўную ролю — матроса Барыкі — з уздымам праводзіў незабыўны К. Саннікаў. П'еса ў першым друкаваным варыянце мае значныя недахопы і «сырая», але яе дынаміка адпавядае рэвалюцыйнаму ўздыму Кастрычніка. Цяпер я значна перарабіў гэту п'есу, і яна зацікавіла некаторыя калектывы народных тэатраў.

У «Полымі» № 7 за 1929 г. была надрукавана мая камедыя з жыцця студэнтаў «Віно бушуе».

Драма «Над Нёманам» перароблена мной з паэмы «Леснічанка». Матэрыял для паэмы і драмы падказала мне жонка, якая ведала добра на Нёмане месцы, дзе адбываліся паказаныя падзеі. Ставіў п'есу Е. Міровіч, і яна карысталася поспехам. На анкетнае запытанне сярод камсамольцаў, якая п'еса найбольш спадабалася ў мінулым сезоне, большасць адказала: «Над Нёманам». У драме выступала амаль уся трупа 1-га Беларускага дзяржаўнага тэатра (цяпер тэатр імя Я. Купалы), бо ў ёй 21 дзеючая асоба, апрача эпізадычных. На памяць прыходзяць некаторыя ролі. Правадыра паўстанцаў іграў У. Крыловіч; польскага афіцэра Вацлава Ржэвуцкага, які перайшоў на бок паўстанцаў,— Б. Платонаў; ксяндза — Ф. Ждановіч; дачку асадніка Тэклю — мая сястра Кацярына Грамыка. У сучасны момант адзін машынапісны экземпляр п'есы захоўваецца ў мяне, другі — у бібліятэцы тэатра.

З усіх маіх п'ес найболей творчых сіл і часу патра-

бавала гістарычная драма «Скарынін сын з Полацка». Па стылю яна таксама найбольш апрацаваная. Яна вытрымана была ў памеры пушкінскага «Барыса Гадунова». Памятаю толькі пачатак: «На вежы выбіла чатыры, а доктара ўсё няма з друкарні... І ўчора так, і сёння — кожны дзень!» — скардзіцца служанцы адданая Францішку ягоная жонка. П'еса была пастаўлена ў 1-м Беларускім дзяржаўным тэатры ў юбілей 400-годдзя скарынінскіх выданняў у віленскай друкарні. На афіцыяльным тэатральным экземпляры п'есы стаяў штамп: «Дазваляецца да пастаноўкі на адзін раз». Гэта дало зачэпку добраму сябру майму Міколу Азбукіну пусціць жарцік: «Тваю п'есу будуць ставіць кожныя 400 гадоў!» Аўтарскае права на «Скарыну» я перадаў Беларускай Акадэміі навук. Адзіны ўласны экземпляр выпрасіў у мяне навуковы супрацоўнік акадэміі Мік. Шчакаціхін. Усе іншыя загінулі разам з рознымі архівамі ў час Айчыннай вайны.

Да тэатральнага жыцця я меў дачыненне не толькі як драматург. Уваходзіў я ў склад дырэкцыі 1-га Беларускага дзяржаўнага тэатра. Цёмная зала ў часе генеральных рэпетыцый бачыла мяне, мусіць, не радзей, чым геалагічны кабінет універсітэта.

Было так. Узімку — падрыхтоўка і заняткі са студэнтамі. У вольныя хвіліны — крыху вершаў. Часам накідваўся план п'есы. Здаралася, што напісаны былі першыя дзеі, але напісанае адкідалася і пачыналася занаў. Канчатковая апрацоўка адкладвалася на летні адпачынак. На ўлонні прыроды, дзе-небудзь у Калодзішчах або ў Астрашыцкім Гарадку, канчалася пад восень тая ці іншая п'еса.

Апошняя п'еса мая — «Воўк» — рыхтавалася Е. Міровічам да пастаноўкі ў сезон 1930/31 гг. Па горадзе былі расклееены афішы. Пра гэта інфармавала мяне жонка. Сам я не меў ужо магчымасці бачыць тыя афішы, а п'еса не ўзышла на сцэну.

З 1931 г. я жыў у Івана-Вазнясенску. У 1936 г. пераехаў з сям'ёй у запалярны Кіраўск, дзе раней асталявалася большая з сясцёр. Тут матэрыяльна нам жылося добра. Я працаваў у горным тэхнікуме, жонка — завучам у школе. Тут у нас нарадзіўся сын. Пасля паветранай бамбардзіроўкі Кіраўска 28 чэрвеня 1941 года пачалася эвакуацыя. Я апынуўся ў Пермскай вобласці (Чусавы Гарадок). Праз год пераехаў да сям'і ў Удмур-

цію. Меў розныя пасады. Нарэшце асталяваўся выкладчыкам Удмурцкага педагагічнага інстытута. Большая дачка выйшла замуж у 1945 годзе за інжынера і пераехала з Іжэўска ў Казань, а пазней пад Маскву. За ёй падалася малодшая і жонка з сынам. Я заставаўся ў Іжэўску да 1948 года. З восені 1948 па 1952 год зноў працаваў у Запалярным горным тэхнікуме. З 1952 года выйшаў на пенсію.

Спрабаваць сябе ў літаратуры пачаў яшчэ студэнтам. Пісаў вершы, невялікія навелы. У 1913—1914 гг. задумаў вершаваны раман, які так і не скончыў.

Поўны разварот некаторых літаратурных здольнасцей праявіўся толькі тады, як перайшоў у творчай працы на мову сваіх дзядоў.

*1965—1967 гг.*

# СТАРОНКІ СЯМЕЙНАЙ ХРОНІКІ

## Частка першая

### I. АГУЛЬНАЕ

Продкі мае з бацькавай лініі — карэнныя насельнікі ваколіцы Грамыкі (Старыя Грамыкі, Новыя Грамыкі) на рэчцы Бесядзь (прытока Сожа вышэй Гомеля).

У гэтай ваколіцы, як і ў іншых бліжэйшых (Жалезнікі, Цярэшкавічы) з даўніх часоў асталяваўся такі звычай: частка сыноў заставалася на бацькавай зямлі гаспадарыць; адзін-два падаваліся ў Гомель, Кіеў, Магілёў. Прычына — малазямелле і пясковая глеба. Пры малым развіцці прамысловасці ў гэтых гарадах такія выхадцы, «ізгоі» маглі ісці толькі на розныя службы: у дробныя чыноўнікі, прыказчыкі, дарожнікі. Хто меў магчымасць скончыць гарадское вучылішча (вышэйшае пачатковае), прымаўся ў юнкерскае і выходзіў у пяхотныя афіцэры.

Мой дзед, Гаўрыла Данілавіч, быў якраз такім «ізгоем». А ягоны брат, Іван Данілавіч, заставаўся да канца жыцця «ратаем», поўнакаштоўнай «зямельнай сілай».

Я так і не мог дазнацца ад бацькі, кім служыў у Го-

мелі мой дзед. Ведаю толькі, што памёр вельмі маладым — 26-ці гадоў. Мусіць, служыў дробным павятовым чыноўнікам. У прыгарадзе Гомеля — Беліцы — нарадзіўся мой бацька і яго старэйшы брат.

Усе Грамыкі спрадвеку лічыліся праваслаўнымі. Але мой дзед узяў сабе за жонку каталічку, якая паходзіла з сям'і выхадцаў з Захаду. Ёй было 30 гадоў, калі яна засталася з двума хлопчыкамі — Уладзімірам і Аляксандрам. Бабуля Караліна, застаўшыся маладой удавой, выйшла замуж другі раз за «апалячанага» беларуса — каталіка Невяровіча, таксама ўдовага. У яго былі дзеці — сын і дачка. Сям'я перасялілася ў Вільню.

Бацькаў айчым прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года. З дзіцячых гадоў я чуў ад бабулі і бацькі, што ў іх хаваліся паўстанцы.

Вядома, што ў тыя часы праводзілася рашучая русіфікацыя. Абодвух праваслаўных хлопчыкаў-сіротак з ахвотай прынялі ў духоўнае вучылішча *, каб «вырваць» з польска-каталіцкай сям'і. Бацька прайшоў два класы; дзядзька Уладзімір, здаецца, крыху болей.

Я быў у сярэдніх класах гімназіі, калі бацьку патрабавалася трымаць экзамен на «першы класны чын». Ён звяртаўся да мяне па некаторых пытаннях гісторыі, геаграфіі, геаметрыі, што ўваходзілі ў праграму. Але пісаў бацька лепей за мяне па почырку ды і па грамаце на букву «яць», хоць граматычных правілаў і катэгорый не ведаў.

Недахоп школьнай асветы абодва браты дапаўнялі самаадукацыяй праз разнастайнае чытанне, хоць і бессістэмнае. Апрача газет бацька наш калі-нікалі чытаў і такія раманы, як «Великий Розенкрейцер» Саліаса, а са мной разам — нават «Тараса Бульбу», з якім у думках, напэўна, параўноўваў сябе.

Што да дзядзькі, дык той налягаў выключна на юрыспрудэнцыю, аб чым далей.

---

У часе паўстання Уладзіміру было дванаццаць год, Аляксандру — дзесяць.

У духоўным вучылішчы ўсе палітычныя падзеі тлумачыліся, вядома, з пазіцый праваслаўя і рускага сама-

* Тагачасныя духоўныя семінарыі, якія рыхтавалі свяшчэннікаў, дзяліліся на чатырохкласныя духоўныя вучылішчы і шасцікласныя семінарыі. Усяго трэба было вучыцца дзесяць гадоў.

дзяржаўя. А дома ў «матушкі» і айчыма чыталі каталіцкія кантычкі і маліліся за паўстанцаў у той час, як пад вокнамі праходзілі казацкія патрулі, Уладзімір больш жыццёва дасціпны і прыстасаваны, досыць хутка вызваліўся і ад абрадавага праваслаўя, і ад спецыфікі тагачаснага патрыятызму. Аляксандр, больш наіўны і шчыры, стараўся і ў жыцці праводзіць тое, што закладалі ў душу яго віленскія настаўнікі.

І вось здарылася так, што па-рознаму асвятлялі драму паўстання ён, мой бацька, і ягоная маці, бабуля Караліна. З бацькавых слоў выходзіла, што паўстанцы ўцякалі «до лясу», як толькі бачылі казакаў. Расказваўся належны анекдот. Бабуля з захапленнем апавядала пра вялізныя народныя маніфестацыі за горадам, пра тое, як мужчыны вырывалі коллі з парканаў і адбіваліся ад коннікаў, а жанчыны тыркалі ім у бакі свае зонцікі.

Я, малы хлопчык, туліўся да ўлоння бабулі, слухаючы яе, і ўсёй дзіцячай душоў быў разам з паўстанцамі, разам з «палякамі», гатоў быў кідацца на жандараў, на казакаў.

Тут ужо бяссільныя былі бацькавы анекдоты.

Вядома, апавядалася ўсё гэта не адначасова, і кожны быў упэўнены ў моцы сваіх слоў на душу дзяцей — слухачоў. Бабуля Караліна ўжывала выразна акцэнтаваную руска-беларускую мову з падмешкай польскіх слоў. Яна хадзіла ў касцёл, малілася па польскім малітоўніку.

Але лепш за яе ведала нашу мову малодшая бабуліна сястра — бабуля Амалія. Ад яе наслухаўся я багата народных казак ды жартаўлівых апавяданняў на тэмы біблейскіх легенд, калі адну зіму да гімназіі жыў у Гомелі ў яе кватэры. Драўляны старэнькі флігелёк на два пакойчыкі з цёмнай прахадной кухняй. Абстаноўка беднаватая, але цёпла, утульна ў маім куточку за перагародкай, дзе я займаўся з рэпетытарам. Таксама за бабуліным сталом, калі яна ў параўнанні з роднай бабуляй, «шырокая», паважна разлівала каву ці гарбату. Тут я чуў словы — «шуфляда», «коўдра», «рушнік», «пакой» і багата іншых, якія не ўжываліся ў нас дома. Слоўная аснова і гукавы лад мовы маіх дзядоў у значнай меры закладаліся ў бабулі Амаліі.

Бацька наш добра ведаў народную мову, але ў сям'і культываваўся «чистый русский язык».

Вярнуўся назад. Мусіць, хутка пасля паўстання 1863 года памёр бацькаў айчым. Бабуля Караліна вярнулася з Вільні ў Гомель разам з дзецьмі: двое родных сыноў ды няродныя — дачка і сын Невяровічы. Бабуля любіла іх не менш за родных. Тут сваю ролю выявіла рэлігійная злучанасць.

Дачка Невяровіч выйшла замуж за дарожнага майстра. Яе дзецям бабуля старалася дапамагаць. Бацька і дзядзька Уладзімір таксама адносіліся да дзяцей «сястрыцы Насценькі», як да родных пляменнікаў, дапамагаючы матэрыяльна. Старэйшы з іх, Антон Сяўрук, скончыў Гомельскую гімназію, пасля універсітэт, з якога на некалькі гадоў выключаўся за ўдзел у студэнцкім руху. Нарэшце, быў земскім урачом. Я быў у чацвёртым класе, калі ён заехаў да нас у Магілёў перад службай. Насіў яшчэ студэнцкую шэрую тужурку. Прыгожы, цёмна-русы з невялічкімі кучаравымі «бачкамі», ён зрабіў на мяне значнае ўражанне сваёй вытрыманасцю і разумнай размовай, якая не цалкам падабалася майму бацьку. Я даў сабе зарок зрабіцца доктарам. Дык вось, зноў назад.

---

Дзядзька Уладзімір пачаў служыць у Магілёўскай Казённай палаце, адначасова займаючыся юрыдычнай самаадукацыяй. Бацька паступіў у пяхотны полк. Палкоўнік не хацеў прымаць яго за маларосласць. «Вырасту!» — абяцаў добраахвотнік.

Калі на Балканах пачаўся славянскі рух за вызваленне, бацька кінуўся ў сербскія валанцёры. Старэйшы брат толькі ўхмыляўся: «Ты, Аляксандр, бяры турак у палон, а я ім буду галовы адсякаць!»

Сербская вайна перарасла ў руска-турэцкую. Бацька перайшоў у грэнадзёрскі полк. Быў пад Плеўнай, дайшоў да Адрыянопаля, бачыў востраў Суматракі на Эгейскім моры.

З дзяцінства наслухаўся я ад яго вайсковай героікі пра паходы і бойкі: пра Скобелева і Гурку, пра Асман-пашу, які бараніў Плеўну, пра Сулейман-пашу, які, абуўшы знарокам турэцкія лапці, выхваляўся, што скіне рускіх з Шыпкі. Гэты паша «выразаў» нібыта балгарскі горад Эскізагры — 25 тысяч жыхароў! У апавяданнях бацькі была і праўда, былі і тыповыя для таго часу салдацкія байкі.

Доўга пад уплывам гэтай усёй «іліяды» я марыў зрабіцца ваякам, генералам «Скобелевым».

У добрым настроі, сабраўшы вакол сябе дзяцей сваіх, бацька спяваў паўстанцкі балгарскі гімн: «Шуми, Марица окровавлена! Плаче вдовица, люто ранена. Марш-марш, генерале наш! Марш-марш, добры войницы!» У яго былі сербскія і балгарскія медалі і румынскі крыж. Надзяваў ён іх ва ўрачыстыя дні.

Вярнуўся ваяка з паходаў 1877—1878 гг. усяго толькі ў чыне фельдфебеля (сучасны старшына).

Некаторы час бацька заставаўся ў грэнадзёрах. Затым спрабаваў розныя службы. Напрыклад, цягніковага кандуктара. Жыў і ў Грамыках, і ў сваёй цёткі, бабулі Амаліі, пакуль яна жыла на хутары. Дарма не жыў: фізічна дапамагаў у сельскіх работах.

## II. КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Некаторы час я вельмі ганарыўся сваімі продкамі. Менавіта тым, што яны не былі ані панамі-прыгоннікамі, якія карысталіся працай замацаваных да іх сялян, ані гэтымі бязвольнымі. Неяк на першым курсе Маскоўскага універсітэта (1905 год, а не 1906, як пішуць у маёй біяграфіі), зайшоўшы ў бібліятэку, убачыў у круглай зале на стэлажах вялізныя тамы энцыклапедыі. Зацікавіўся, бо бачыў такое кніжнае дзіва ўпершыню. Адно-другое слова... «Громыко»: «Старинная литовская дворянская фамилия». Здзівіўся. Значна пазней я растлумачыў сабе. Тэрмін «літоўскі» трэба разумець не ў этнічным сэнсе, як «народ», «німудр», але выключна як назву дзяржавы (Беларуска-літоўскай).

Вядома, што яшчэ ў часы Пушкіна «Літвой» называлі і ўсю Польшчу («Волнения Литвы»...).

Што да «дваранства», то тут зблытана пэўная палітычная вольнасць некаторай часткі земляробаў з класава-прывілейным станам,— я ніколі не чуў пра Грамык-абшарнікаў, якія мелі б прыгонных. Хто ж былі продкі тых, што абраблялі пясковыя глебы па Бесядзі, што часткова прымушаны былі пакідаць свае ваколіцы? Можа, проста «шляхта»?

Наўрад ці так. У асноўнай масе польска-літоўская шляхта, або здрабнелыя паны, якія ўсё ж карысталіся ў мінулым хоць малым лікам прыгонных, або сяляне, якія атрымалі вольнасць за вайсковую службу.

Другая адзнака «шляхты» — цяга да польскіх паноў у сваім побыце, у сваёй веры, у мове. Нічога падобнага не было ў ваколіцах Грамык, Жалежнік, Цярэшкавіч ды і іншых па Бесядзі і Сожы.

Спрадвеку трымаліся праваслаўнай веры, амаль не ўжывалі польскіх слоў; у быце, вопратцы хутчэй адчуваўся ўплыў Украіны або Расіі. Між іншым, не насілі звычайных на Магілёўшчыне белых даматканых світак і шапак-магерак. Адзежай паходзілі хутчэй на «шчарсуноў» з заходняй Міншчыны.

Я тлумачу справу так. Беларуска-літоўскія дзяржаўцы (Гедымінавічы) сялілі на сумежжах з рускімі княствамі вольных людзей, надзяляючы іх зямлёй. За гэта насельнікі павінны былі ставіць дзяржаве ў часе ваеннай небяспекі збройнае апалчэнне. У мірны час людзі памянёных ваколіц былі звычайнымі земляробамі, жылі з ральніцтва і досыць заможна. У некаторых адносінах стан іхні можна параўнаць з украінскім або рускім казацтвам. Але была і пэўная розніца. Казакі ў асноўнай масе набіраліся з беглых прыгоннікаў, якія ратаваліся ад паноў «за парогамі». Або — маскоўскія людзі рознага звання, якія пасоўваліся ў стэпы збройнымі ватажкамі, «каланізавалі» цалінныя прасторы на Доне, Волзе ды іншых паўднёвых рэках.

А вось на Сожы, Бесядзі аселі па ваколіцах людзі «тутэйшыя», не беглыя з розных краін. Яны з самага пачатку, мусіць, мелі пэўныя граматы з азначэннем зямельных правоў і дзяржаўных абавязкаў. Часы ішлі. Літва злілася з Польшчай, пазней — з Расіяй. Сем'і разрасталіся, надзелы драбіліся.

З'явілася новая праслойка — «выхадцы», «ізгоі». Ніколі не чуў я ні ад бацькі, ні ад каго іншага, каб на гаспадарках у Грамыкаў карысталіся батракамі. У «прымы» прымалі. Гэта было. Безумоўна, «чысціня» крыві продкаў не змагла захавацца. Гэтым вельмі быў незадаволены наш бацька. Усе звычайныя парушэнні маральнага і грамадскага «кодэкса» ў Грамыкаў тлумачыў ён «мешанінай крыві». Але прагледзеў тое, што сам быў тыповым «мяшанцам». Ды і дзяцей меў ад дзвюх жонак, зусім не «грамычанак». Па ваколіцах большасць жыла заможней за асноўнае сялянства Магілёўшчыны. Хаты — прасторнейшыя, святлейшыя, коні мацнейшыя, колы ў калёсах на жалезным хаду, замест лапцяў — змазаныя боты, замест белых світак і магерак — кажухі, пінжакі,

картузы. Чаму так? Першапрычына, што ваколіцы не ведалі прыгону. Другая — што «ізгоі» не адрываліся канчаткова ад радні.

З Гомеля, Магілёва, Кіева ішлі падарункі і грошы. Уся гаспадарчая энергія сям'і цалкам скарыстоўвалася.

## III. СЯМЕЙНЫ «ПЕРАПЛЁТ»

Не ва ўсе куткі і закуткі свайго жыцця дазвалялі дарослыя заглядваць нам, малым. А калі мы ўзрасталі, было нялоўка дапытвацца да таго-сяго.

Усё ж можна паставіць галоўныя вехі на жыццёвым шляху старэйшага пакалення. Трэба тут сказаць крыху аб пэўным сямейным «пераплёце».

Сястра бабулі Караліны, бабуля Амалія, якая ўпаміналася, выйшла замуж у сталым ужо веку за дробнага хутараніна Міхайлу Клімовіча. Яго можна было б назваць «шляхцічам», каб ён быў каталікам з польскім уплывам. Хутчэй за ўсё Міхайла Клімовіч належаў да той немнагалікай праслойкі беларуска-літоўскіх здрабнелых «дваран», якія захавалі старажытную веру, народную мову і свае звычаі, у поўную процілегласць панам і магнатам. Ён быў удовым, меў дачку і сына.

Дачка Наталля выйшла замуж за карэннага гамельца, дробнага служаку гарадскога магістрата, Ілью Акушку (Окушко). Тыповы беларус з уніятаў, Ілья Гаўрылавіч Акушка, пасля «дабравольнага» ў 1839 годзе «звароту» уніятаў ва ўлонне праваслаўнай царквы, пачаў хадзіць у касцёл, гаварыў на мяшанай беларуска-польскай мове. Дзве яго дачкі ад Наталлі Клімовіч раслі гомельскімі «паненкамі». Часта бывалі яны ў свайго дзеда на хутары каля ваколіцы Цярэшкавічы.

У гэты час бацька мой жыў тут жа ў сваёй роднай цёткі Амаліі. Вядома, вясковае знаёмства, сямейная супольнасць!

Малодшая гамяльчанка Алена (Леначка) усім сваім шчырым сэрцайкам захапілася ладным бывалым ваякам, які апавядаў пра далёкія краіны, пра незвычайныя падзеі. А як добра танцаваў польку! І як умеў шпарка «пракаціць» па ваколіцы на маладым кані!

Каротка кажучы, Леначка Акушка, шаснаццацігадовая русалачка, супраць волі бацькоў звязала жыццё сваё з чалавекам на 14—15 гадоў старэйшым, які меў ужо жонку, праўда, у разводзе.

Натуральным вынікам гэтага, не зусім звычайнага на тыя часы, кахання быў аўтар цякучых старонак «Сямейнай хронікі».

Вось жа. Мая бабуля з матчынага боку, Наталля Міхайлаўна Клімовіч-Акушка, прыходзілася падчарыцай маёй бабулі Амаліі, роднай сястры бабулі Караліны. Інакш: бацькава цётка зрабілася «бабуляй» ягонай жонкі Алены. Трэба адзначыць, што бабуля Амалія вельмі добра адносілася да сваёй няроднай унучкі, маёй матулі Ленaчкі. Таксама была прыхільная да яе і родная мая бабуля Караліна.

## IV. «ДЗЯДЗЯ ВАЛОДЗЯ»

У сямейнай хроніцы ўсяго «клана» — Грамыкі, Акушкі, Клімовічы — значную ролю мае Уладзімір Гаўрылавіч Грамыка, наш «дзядзя Валодзя».

Гаварылася ўжо, што абодва браты вучыліся ў Віленскім духоўным вучылішчы. У абодвух рана праявілася здольнасць да тлумачэння і практычнага скарыстання заканадаўства. Асабліва выдаваўся Уладзімір. Нейкі час пасля вяртання бабулі Караліны з дзецьмі з Вільні, ён служыў чыноўнікам Казённай палаты ў Магілёве. Ужо на службе пачаў выступаць прыватным адвакатам па розных дробных справах. Начальству не падабалася сумяшчэнне. На заўвагу начальніка ён досыць гарэзна адказаў: «Вашы чыноўнікі занадта доўга сядзяць за чаем і займаюцца пустаслоўем. Я выконваю ўсю работу за тры гадзіны. На трыццаць рублёў жабрачыць не магу». Але — правілы, парадак!

Давялося пакінуць палату, а разам з ёй і дзяржаўную кватэру. Уладзімір Грамыка не шкадаваў ні формы, ні чыноўніцкай залежнасці. Я памятаю яго толькі ў штацкім сурдуце ды ў дабротным брылі.

Выступленні яго спачатку толькі перад «мировым судьей» былі досыць паспяховымі. Далей — болей. Здараліся салідныя ганарары. «Слава» расла. З Магілёва дзядзька пераехаў у Гомель, дзе бліжэй была радня. Многа часу аддае на самаадукацыю: чытае юрыдычныя творы, дастае старыя выданні законаў. Гарэлкі ані ў губу, у карты не гуляе.

Адно — «жаночы пол» да канца жыцця застаецца для дзядзькі Уладзіміра прывабнай сілай.

Трымаючыся з гонарам, незалежна, ён разам з тым

меў здольнасць падыходу да людзей розных станаў. З панамі ён размаўляў на добрай польскай мове; селяніна-магілёўца ў белай світцы разважаў пры выпадку нечаканым жарцікам на ягонай мове; якога-небудзь фурмана з Рагачова ці Вежкі даводзіў да смяшлівага здзіўлення, пачаўшы ў дарозе пытацца ў таго пра інтымныя сямейныя адносіны, пра яго «балабосту» ды на акцэнтаваным местачковым жаргоне. У Гомелі сярод яўрэйскага абывацельства Уладзіміра Грамыку характарызавалі вышэйшай формулай.

Калі дадаць да ўсяго вонкавы выгляд — чарнявая «асірыйская» барада пры сініх вачах, тонка паўднёвы колер твару без смуглаты, нейкая самавітая, «арыстакратычная» постаць — дык будзе досыць зразумелым той «крэдыт», якім карыстаўся дзядзька сярод радні і ў розных колах, з якімі меў практычныя справы.

Хутка Уладзімір Грамыка перайшоў да досыць рызыкоўных юрыдычных вопытаў, «стратэгія» якіх атрымала, нарэшце, такія формы.

Звяртаюцца да яго якія-небудзь браты Случаноўскія, дваранскія «недарослі» па 25—27 гадоў. Яны лічаць сябе нашчадкамі значнага маёнтка, якім валодаў колісь іх дзед ці прадзед. У сучасны момант маёнткам валодаюць часткова манастыр, часткова былы ўправіцель ці які спрытны бакавы нашчадак. Кваліфікаваныя адвакаты, да якіх уперад звярталіся «недарослі», адмаўляюцца ўзяцца за няпэўную справу. Дваранчыкі выглядаюць беднавата. Авансам з іх нічога не возьмеш. Прыйдзецца ўзяць братоў на свой кошт: трэба ж і касцюм, каб паявіцца ва ўстановах, трэба падкормліваць... Тое-сёе параспытаўся прыватны адвакат, паглядзеў у нейкія паперы, што прынеслі нашчадкі... Нішто! Трэба ўзяцца, трэба рызыкаваць! Поўная даверанасць, у якой пералічаны ўсе правы адваката, прадбачаны ўсе магчымасці, падпісана па ўсіх тагачасных законах.

Адвакат пачынае «ваяж» — Магілёў, Кіеў, Варшава, Пецярбург... Варушацца архівы манастыроў, пастановы ўрадаў аж да часоў Кацярыны ды Станіслава Панятоўскага... Пераглядаюць сенацкія тлумачэнні і г. д.

У поўную напружанасць дапамагаюць Уладзіміру Гаўрылавічу малодшы брат, мой бацька, які да пэўнага часу быў пад аўтарытэтам свайго «непараўнальнага» Уладзіміра, ды яшчэ адзін чалавек.

Гэта быў пісьмавод Уладзіміра Гаўрылавіча, малады, вельмі сухапары і вузкагруды яўрэй, сарамлівы і ціхі. Звалі яго Іофін. Прозвішча гэта было тады Іофеці імя — так я і не дазнаўся ніколі.

Іофін цалкам быў адданы свайму патрону. Ён выконваў па заданню Уладзіміра Гаўрылавіча нават вельмі «щепетильные» справы. Ды не толькі пісьмаводам, быў і даручным. Ён і «гувернёр» для большых дзядзькавых дзяцей, ён і «нянька» для малых. У ролі «гувернёра» Іофін хадзіў з большымі ў царкву, бо дзядзька не лічыў магчымым губіць свой час на праваслаўныя абрады, а цётка Маша, сама з лютаранскай сям'і, уся пагрузла ў дамаводстве ды чаканні чарговага Уладзіміравіча. Даходзіла да кур'ёзу. Стаіць крыху рудаваты яўрэй з дзецьмі ў царкве, стараецца не звяртаць на сябе ўвагу. У пэўны момант свяшчэннік узглашае: «Оглашенным изидите!.. Елицы верныи господу помолимся».

Формула такая мела практычнае значэнне толькі ў першыя вякі хрысціянства. «Оглашенными» называліся яшчэ не падрыхтаваныя кандыдаты да прыёму ў лона царквы.

Дык вось мой стрыечны брат Мікола (Коля), які быў, мусіць, ужо ў трэцім класе, дзе праходзілася богаслужэнне, звяртаецца да гувернёра: «Іофін, ты чуеш? Ты аглашэнны,— выходзь з царквы!»

«Коля, што ты робіш? — шэпча бядача.— Ты звяртаеш на мяне ўвагу, сароміш!»

Такі чалавек, пакуль не ажаніўся, многа гадоў быў верным дзядзькавым памочнікам.

Адкуль жа дзядзька здабываў грошы, каб весці складаны юрыдычны працэс ды жыць у гэты час з шматдзетнай сям'ёй? Трэба было апрача паездак ды жыцця па гасцініцах, наймаць землямераў, даручаць кваліфікаваным адвакатам частковыя выступленні і г. д. Словам — грошы і яшчэ раз грошы! Праўда, пакуль цягнуўся галоўны працэс, дзядзька не адмаўляўся і ад больш дробных спраў. Але, праходзіў год-два, а то дык і ўсе тры. Сям'я ўзрасла нарэшце да васьмярых Уладзіміравічаў. Сам «галава» патрабуе на сябе «ільвіную» долю. Заўтра кухарка спытаецца на базар... А тут з Кіева Іофін шле тэлеграму: даведаўся пра дзень пасяджэння Судовай палаты, калі будзе разглядацца канчаткова прэтэнзія братоў Случаноўскіх. Трэба ехаць самому.

Даўно ўжо ён, Ул. Грамыка, выкапаў у кацярынінскіх законах не адменены пасля Кацярыны яе нашчадкамі адзін надзвычайна патрэбны артыкул, якім ён і «казырне» нечакана! Здабывае яшчэ 100—200 рублёў, пакідае з іх крыху дома... Цётка Маша гатова трымаць свайго Валодзю за фалды сурдута... Паехаў!

Праходзіць тыдзень-два... Тэлеграма з Кіева ў Гомель: працэс выйграны... Цётка Маша бяжыць з тэлеграмай да крэдытораў, зноў пазычае, мо апошні раз? Усё ж — адкуль крэдыт?

Напрыклад. Памірае Міхаіл Клімовіч, мой прадзед па матчынай лініі. Бабуля Амалія застаецца ўдавой. Як ужо тлумачылася раней, яна ж родная цётка Уладзіміру і Аляксандру. Нашчадкі Клімовіча прадаюць фальварак каля Цярэшкавіч, каб падзяліцца спадчынай. Дастаецца пэўная частка ўдаве. Любімы Валодзя тут як тут. Ці ж можа ашукаць ён? Ці ж можа не выйграць справу, за якую ўзяўся такі разумны, такі шчаслівы пляменнік? А выйграе — «азалаціць» цётку! Ну, а пакуль што прыйдзецца перабрацца ў Гомель, у стары флігелёк, на два пакойчыкі з перaборкамі, з прахадной цемнаватай кухняй. Як ужо гаварылася, я пражыў у гэтым флігельку адну зіму перад гімназіяй. Доўг пляменнік будзе выплачваць праз усё жыццё даверлівай цётцы.

Былі і іншыя крыніцы крэдыту. Уладзімір Гаўрылавіч умеў пераканаць і Акушку-старога, і некаторых з больш заможных Грамыкаў. Давалі пазыку пад добры працэнт, вядома, гомельскія дзялкі-стараверы і яўрэі. Дык вось,— справа выйграна. Галадранцы-панічы Случаноўскія робяцца ўласнікамі прадзедаўскіх лясоў ды поймаў. Бярэ сваю долю, дый добрую долю, адвакат,— усё абгаворана, усё прадбачана. Дзядзька выплочвае найбольш вострыя пазыкі, але далёка не ўсе. Крэдыт аднаўляецца. Атрыманая доля лесу прадаецца ці закладваецца, каб жыць з дастаткам, каб было з чым брацца за новую падобную справу. «Ланцуговая рэакцыя» праз усё жыццё Уладзіміра Грамыкі, пакуль ланцужок не разрываецца. Але пра тое — далей.

Нястрымны дэспат дзядзька ўсё ж асноўныя сродкі аддаваў «законнай» сям'і. Але нямала перападала і «ўбок», бо гэты «асірыец» з твару быў вельмі ласы, як гаварылася, да жаночых прываб. Ужо ў сталым узросце я даведаўся, што меў недзе, здаецца, у Кацерынаславе (сучасны Днепрапятроўск) прыгожую стрыечную

сястрыцу, якая па лініі сваёй маткі была крэўнай нашчадніцай біблейскіх гераінь — Сары ды Рахілі.

Наш бацька ніяк не ўспрымаў і не дараваў такія паходжанні свайго брата-шэфа.

Добры сурдут, харковае футра, бабровы каўнер — такім прыязджаў з Гомеля ў Магілёў «дзядзя Валодзя». Запрашае дзяцей у нумар гасцініцы. Тут на стале, на падваконніцы раскладзены прывабныя піражныя, яблыкі, грушы... Бяры не лічачы! Дома, праўда, былі свае яблыкі, але піражных калі-нікалі перападзе па адным...

## V. МАТУЛЯ. СЯЛО ЧОРНАЕ

У год, калі мне нарадзіцца (1885), у пару кахання Леначкі Акушка і Сашачкі Грамыкі, дзядзька Уладзімір набыў каля сяла Чорнае зямлю: ці то купіў, ці то адсудзіў у мясцовага памешчыка. Надумаў будаваць у досыць прыгожым месцы над азярком дачу-хутар. Брата пасадзіў гаспадарыць.

Уладзімір даваў сродкі. Аляксандр аддаваў усю гаспадарчую здольнасць і спрытнасць. Амаль уласнымі рукамі насадзіў наш бацька малады сад над стромкім берагам возера, зрабіў прышчэпы. Разам з майстрамі абчэсваў, пілаваў, габляваў, лавіў блешняй рыбу. Так хацелася яму пажыць тут спакойна са сваёй Леначкай.

Яна з ахвотай пакінула ў Гомелі бацькоў, у якіх не сустрэла ані разумення, ані спачування свайму сардэчнаму захапленню.

Пакуль будаваўся дом, жылі ў вёсцы. Тут, пэўна, і з'явіўся іхні першачок, запісаны ў прыхадной царкве Міхаілам, у гонар, як раней я казаў, матулінага дзеда, майго прадзеда Клімовіча.

З вёскі перайшлі ў новы дом. Памятаю высокі ганак, светлыя пакоі. Бацька дзівіўся, калі я апісваў пазней план дома, бо мне не было поўных трох гадоў, як выехалі з хутара.

Нядоўга пажыла матуля ў новым доме, пагуляла ў маладым садзе над возерам. Каханы часта адлучаўся па братавых справах. Заставалася з бабуляй Каралінай ды з гарбаценькай добрай нянькай, якую прывезлі ад Акушак. Яна выпеставала і матулю, і мяне.

Ужо студэнтам апошняга курса я атрымаў ад другой бабулі, Наталлі Акушка, лісты нябожчыцы матулі. Бабуля Наталля прыехала ў Маскву лячыць ад слепаты

свайго малодшага сына, майго «дзядзю Ваню», ветэрынарнага ўрача. У Маскве бабуля захварэла і памерла на 82-м годзе жыцця.

Дык вось. З гэтых пажоўклых старонак, пісаных амаль дзіцячым почыркам, адрасаваных з вёскі ў Гомель да бацькоў, да сястры і брата, ішоў няспынны сум, адзіноцтва, непакой за «дружочка Сашачку», за дзіця сваё.

Пакінула матуля сонечныя прамені, калі ёй ледзь споўнілася дваццаць год. Засталіся два хлопчыкі: мне было каля трох гадоў, брату чатыры-пяць месяцаў.

Застудзілася матуля, нядоўга пахварэла на запаленне лёгкіх. Лячыць тады такія хваробы амаль не ўмелі, ды і лекары былі далёка.

У памяці маёй застаўся адбітак: светлы пакой, пасярод на высокім ложку спіць родная-родная істота...

«Чаму мама так доўга спіць?» — звяртаюся з балючым пытаннем да бацькі, да бабулі Караліны, да гарбаценькай добрай няні.

Пахаваў бацька сваю падружку на вясковых могілках. Агарадзіў дубовай агароджай. Паставіў дубовы крыж. У крыж уставіў невялікі фотапартрэт пад шклом.

Набожныя жанчыны з вёскі Чорнае доўга прымалі гэты партрэт за абразок нейкай святой.

---

Хутка пасля смерці матулі дзядзька прадаў хутар дзеля новых планаў. Бацька з хлопчыкамі перабраўся зноў у Гомель. Я жыў або ў цёткі Машы, або ў дзеда Ільі ды бабулі Наталлі Акушак. Вобраз старога чалавека, які падсаджваў мяне на руках, каб я дастаў з дрэва грушу, трымаўся ў маёй памяці.

Я перайшоў ужо ў чацвёрты клас гімназіі. Прыехалі дыліжансам з Магілёва з братам у Гомель у госці. Дзядзя Валодзя надумаў павезці нас ды свайго сына Мікалая ў сяло Чорнае. Спыніліся ў пачатковай школе. Мы спалі на падлозе на саломе, дзядзьку паставілі ложак. На другі дзень пайшлі на могілкі. Дзядзька заспрасіў свяшчэнніка. Адслужылі паніхіду. Я схіліўся на калені перад запыленым партрэцікам...

Што прымусіла чалавека, які не выконваў рэлігійных абрадаў, прыехаць сюды, прывезці дзяцей, выстаяць без брыля паніхіду? Ён жа так бярогся паветра, прастуды.

Мо нейкі водгук сумлення, адказнасці за раннюю

смерць, за адзіноцтва нябожчыцы? Чужая душа — цемра!

Ніколі пазней я не меў магчымасці і выпадку наведаць куточак бацькаўшчыны, у якім нарадзіўся, дзе вечна пачывае нейкая фізічная частка роднай істоты, зліваючыся з роднай глебай.

Ад старога сяла Чорнае, мусіць, нічога не засталося. Ані ад могілак, ад дубовага крыжа з партрэцікам... Новая вёска з новай, мусіць, назвай. Гэта не блага. Але памяць аб родных, дарагіх сэрцу людзях павінна праходзіць нерухома праз нашае жыццё і зліваццa ў адно аблічча з роднымі нівамі.

## Частка другая

### І. ЦЕЦЯ АНЯ

Гадоў пяць бацька жыў удовым. Ні свайго кутка, ні сям'і. Двое хлопчыкаў жывуць на людзях, хоць і не чужых.

Неяк трапілася заехаць аж у Растоў, мусіць, па адвакацкіх дзядзькавых справах. На вуліцы выпадкова сустракае ён дзяўчыну, у якой прызнае зямлячку Ганну Шышкіну. З сям'ёй Шышкіных бацька быў знаёмы здаўна, бо прыходзілася заязджаць на паштовую станцыю па Гомельскай шашы, дзе Шышкін служыў наглядчыкам. Заязджалі і з нябожчыцай нашай матуляй і з яе сястрой.

«Анечка Шышкіна!» — спыняе дзяўчыну на растоўскай вуліцы незнаёмы барадаты мужчына. Яна здзіўлена ўглядаецца.

— Аляксандр... забылася як па бацьку.

— Ён самы, «дзядзя пуд»! — смяецца мужчына, і Ганна Шышкіна канчаткова пераканалася, што не чужы спыніў яе, а знаёмы ўсёй яе бацькавай сям'і, якога празвалі жартам «дзядзя пуд» за тое, што вельмі многа мог з'есці рознай стравы.

Праз паўгадзіны зямляк Аляксандр Гаўрылавіч быў хлебасольна прыняты ў кватэры старэйшай дачкі Шышкіных, Марыі.

Пайшлі ўспаміны і прыемныя і сумныя. Пасля смерці бацькі сям'я Шышкіных перасялілася на поўдзень. Марыя была замужам таксама за беларусам Шымковічам, аўдавела. Двое дзяцей пры ёй. Браты служаць: старэй-

шы Антон на тарговай прыстані ў Наварасійску, сярэдні Мікалай — памочнік начальніка невялікай станцыі чыгункі; малодшы Генадзь скончыў настаўніцкі інстытут і атрымаў пасаду ў Луганску. Ганна жыве ў заможнай сям'і ў якасці бонны пры дзецях.

«Нікуды не гадзіцца такая справа!» — упаўголаса думае госць з далёкай роднай Гомельшчыны. Сёстры пераглядаюцца... Госць наведвае іх кожны дзень. А праз які тыдзень плоўненскі ваяка робіць штурм на ціхі куток зямлячак: «Прапаную сябе мужам Ганны! Згодны?» Ціхі куток збянтэжана заварушыўся...

— Двое дзяцей, і да іх мачыхай?

— Не мачыхай, але другой маці для сіротак. А для мяне — падруга і паўнапраўная гаспадыня! — паралізуе адмоўны адказ Аляксандр Гаўрылавіч.

Перад вачамі абедзвюх сясцёр паўстаў вясёлы жартаўлівы чалавек, якога прымалі ў Шышкіных, як роднага, які сябраваў і з бацькамі, і з братамі іхнімі, і з імі, дзяўчатамі.

Марыя амаль адразу дала згоду на шлюб і заставалася для нашага бацькі шчырай швагеркай, а для нас — ветлівай «цёцяй Марусяй».

Што да галоўнай гераіні скараспелага рамана, то бацька памылкі не зрабіў. Да канца жыцця свайго (памерлі ў адзін год і ў адзін месяц) Аляксандр і Ганна заставаліся вернымі адзін аднаму таварышамі ў жыццёвай барацьбе. Для мяне і брата ў асобе «цёці Ані», як мы нейкі час называлі яе, бацька знайшоў у праўдзівым значэнні замену роднай матулі. Для яе не было розніцы, што мы абодва хлопчыкі, што яе родныя дачушкі, нашыя сястрыцы. І так праз усё жыццё яе! Хай давеку будзе добрая памяць аб табе, цёця Аня, што з заслуговым правам атрымала ад нас святую назву «мама»!

Вянчанне адклалі, бо жаніху трэба было вярнуцца ў Гомель, справаздачу зрабіць брату, а галоўнае — прывезці адтуль шафера. Як? Няўжо сярод растоўскіх знаёмых ды і радні не знайшлося чалавека патрымаць вянец над галавой нявесты? Знайшоўся б, вядома, але Аляксандру Гаўрылавічу падумалася, каб вянец трымаў яго першачок, яго любы сыночак Мішук! Надумалася, значыць, павінна адбыцца. Ці трэба казаць, якое ўражанне зрабіла гэта жаніхоўская ўхвала на растоўскую новую радню, а крыху пазней — на гомельскі ўвесь «клан»! Ды ці жартачкі адмахнуць з Растова ў Гомель

і назад у тагачасным цягніку: лічы — трое сутак туды, трое назад!

Усе тры мае бабулі завохкалі:

— Надумаўся! Везці мальца ў Растоў на халеру!

Ішоў 1891/92 год — эпідэмія халеры на поўдні, з цэнтрам якраз у Растове. Бацька адбіваўся ад роднай маці, ад цёткі, ад братавай, ад Акушак.

— Бог не выдасць, свіння не з'есць! Сырой вады піць не будзем, з базара не абмыўшы варам таксама!

І вось я ў Растове. І вось сямігадовы хлопчык трымае вянец, а сам стаіць у царкве на зэдліку, на здзіўленне натоўпу, якога набралася досыць, так што прыйшлося паставіць пераносную загародку, каб натоўп не збіў святара і вянчальных.

Жылі ў кватэры цёці Марусі Шымковіч. Бацька ўстанавіў пэўны рэжым, але елі і кавуны і дыні, хоць з двара час ад часу выносілі нябожчыка. Усё ж не абышлося без напружанага моманту ў сям'і.

Пяцігадовая дзяўчынка цёці Марусі, Зіначка, па недагляду паела тлустых калдуноў ды запіла сырой вадой. Вядома: парнела, схаладзела... Папулярны ў той час у горадзе доктар зірнуў, махнуў безнадзейна рукой і пайшоў на выхад. Але павярнуўся ў калідоры і сказаў:

— Паспрабуйце пакласці ў гарачую ванну, як можа вытрымаць рука!

Вось жа! Гарачыня вырвала Зіначку з ледзяных абдымкаў азіяцкай зладзейкі! І Зіначка засталася, каб праходзіць жыццё сваім шляхам, досыць «гарачым» часамі, як тая ванна, досыць «зімным» часам, як тая «азіятка»!

Вярнуліся мы ў Гомель утраіх. Радня сустрэла «мачыху» не надта ласкава, братовыя, гэта значыць цёця Маша і цёця Аня, не сышліся характарам. Акушкі, натуральна, дзьмуліся. Але родная бабуля Караліна прыняла нявестку як належыць. Таксама і бабуля Амалія аднеслася да жонкі любага пляменніка сардэчна. Мы нават пасяліліся на нейкі час у яе цесненькай кватэры.

## II. ІВАНІШЧАВІЧЫ

Дзяцінная воля,
Няспынны голас, —
Адыдзе нядоля,
Як успомню пра вас!

У Гомелі пражылі нядоўга. Трэба было недзе астаяляваца ўласнай сям'ёй. Не без «саліднай» адвакацкай дапамогі дзядзькі Уладзіміра бацька атрымаў пасаду аканома і даверанага па вялізнай зямельнай і лясной гаспадарцы магілёўскай абывацелькі, удавы настаўніка семінарыі Трускоўскага.

Толькі пры парадках і законах расійскіх цароў магло стаць юрыдычным фактам, што звычайны «разначынец», выкладчык нейкай дысцыпліны ў духоўнай семінарыі, зрабіўся валадаром некалькіх тысяч дзесяцін лясных масіваў, палёў і лугоў.

Дакладна я не ведаю, але справа гэтая мела, мусіць, такую гісторыю. Маёнтак Іванішчавічы каля вёскі той жа назвы ў Быхаўскім павеце некалі належаў польскаму пану. Пасля паўстання 1863 года маёнтак быў канфіскаваны і перапрадаваўся. Апошні валадар прадаў свае абшары, галоўным чынам лясныя, купцу яўрэю. У купца былі грошы, ды не было права валодаць зямлёй. Ён даверыўся «сумленнаму чалавеку» — а як жа: настаўнік духоўнай семінарыі! — ён даў таму грошы (можа, пад нейкі вексель). Настаўнік «купіў» маёнтак. Купчая, усе дакументы ў «парадку»: ашуканага купца адсунулі ўбок, і Трускаўскі, які далей магілёўскіх прыгарадаў, мусіць, і не выходзіў, стаў памешчыкам! Не ведаю, ці зазірнуў ён калі ў фальварак, бо хутка памёр. Нашчадкамі яго зрабіліся — жонка, тыповая «чыноўніца»-мяшчанка ды двое сыноў-гімназістаў.

Дык вось бацька наш, атрымаўшы нечаканую такую грунтоўную пасаду, не разважаючы доўга, забраў жонку, нас, хлопчыкаў, бабулю Караліну і на шэсць гадоў асталяваўся на добрае жыццё.

Ён як бы знайшоў самога сябе: было дзе разгарнуць сваю гаспадарчую і арганізацыйную здольнасць; было дзе выявіць тыя рысы характару, натуры, якія ішлі ад яго продкаў-хлебаробаў.

Што да мяне асабіста, дык Іванішчавічы далі непараўнальныя ўражанні прастору і хараства нашых гоняў і першае знаёмства з народам у працэсе яго пазямельнай працы.

Прыняў бацька фальварак ды і ўсю гаспадарку вялізнага маёнтка ў поўным заняпадзе. Дагэтуль сядзеў на ёй арандатарам нейкі няўдалы і лядашчы шляхціц. Ён жыў нейкі час і пры нас у меншым флігелі, у якім пасля яго пасялілі нас, дзяцей.

Наколькі нядбалы быў гэты, досыць яшчэ малады і фізічна моцны чалавек, сведчыць хоць бы тое, што пасля яго выезду застаўся ў пакойчыку за пераборкай ягоны ложак, які стаяў на бярозавых слупах. Гэта азначала, што сцены флігеля дрэнна трымалі цяпло, і гаспадар залазіў на ложак аж пад столь.

Арандатар доўга не здаваў справу, і нашаму бацьку прыйшлося амаль сілком «выкурваць» яго.

Памятаю сцэнку: праз шчыліну дашчаных варот, якія вялі з двара ў абору, цягнуць новую дошку ў два бакі — бацька з двума работнікамі і арандатар са сваімі падручнымі. Бацька перацягнуў, але крыху акрываві ў рукі, бо дошка была шурпатая.

Большасць будынкаў прыходзілася перакрываць, нават і галоўны флігель, у якім пасялілася сям'я.

Флігель быў невялікі, дробнашляхецкага гатунку: чатыры пакойчыкі, адкрытая тэраска.

Бацька ўзяўся прыбудаваць кухню і сталовую. Гэтая прыбудова з новага бярвення так і заставалася як бы прылепленай да старых сцямнелых сцен. Кухня была вялізная, з вялікай печкай, на якой маглі спаць двоетрое. Дашчанымі пераборкамі з кухні выдзялялася камора з акном, у якой жыў з жонкай галоўны работнік Іван Бушыла, а таксама аддзялялася маленькая частка, на якую выходзілі пячныя чалеснікі, у якой звычайна гаспадарыла сама «маладая пані» (або «барыня»), гэта значыць наша былая цёця Аня.

Дзверы вялі з гэтай часткі кухні проста ў сталовую. Сталовая, спланаваная, як і кухня, нашым бацькам, уяўляла доўгі пакой з адным акном, якое выходзіла на возера, і дзвярамі на тэрасу. Ані сенцаў, ані тамбура! Узімку халодная шэраватая пара проста ўрывалася ў пакой, калі ўваходзіў хто з дарогі ў футры. Дзверы, праўда, былі абабіты лямцам і звычайна ўваходзілі ў сталовую ў зімовую пару праз кухонныя сенцы і кухню. Ну, а ўлетку затое дзверы з тэрасы ў сталовую амаль не зачыняліся, бо народу назбіралася сесці за вялізны стол досыць. Пра гэта далей.

Бярвенчатыя сцены сталовай былі пабелены па гліне. Калі першай нашай сястрычцы Верачцы было за паўтара гады, яна выкалупала ў гэтай атынкоўцы раўчучок на роўні свайго росту: была ў яе нейкая патрэбнасць есці гліну з вапнай.

Са сталовай вялі дзверы ў «галоўныя» пакойчыкі: першы ад сталовай нейкі невыразны, праходны, з акном на тэрасу, займаў ложак, але не заўсёды; стаялі тут рундукі пад зімовую вопратку, просты стол. З гэтага пакоя ўлева дзверы вялі ў пакой, які можна было б назваць і канторай і кабінетам.

Тут бацька за простым сталом займаўся час ад часу гаспадарчымі падлікамі; тут вёў гаспадарчыя гутаркі з галоўным работнікам Іванам Бушылам, з лесніком, карчмаром і іншымі гэтага «ранга» людзьмі. Адно акно выходзіла на возера, як і са сталовай. Пакой гэты адбіўся ў памяці чамусьці як цемнаваты.

З прыходнага пакою проста ўваходзім у гасцінуюю. Не трэба ўяўляць сабе ў ім мяккую мэблю, дыван на падлозе і г. д. Пакой быў досыць светлы, бо меў тры акны, але амэбляваны вельмі сціпла: канапа, перад ёю стол, некалькі крэслаў, невялічкая шафа, здаецца, з кнігамі; на сценах некалькі гравюр.

Як-ніяк гэта была «гасціная», у якой можна было прыняць рэдкіх паважаных гасцей, напрыклад, святара з даўгамохскай царквы з яго пападдзёй. Толькі раз гэты парадны пакойчык быў практычна скарыстаны: у ім паставілі мой ложак, калі я моцна захварэў на шкарлятыну. Паўтара месяцы праляжаў і прасядзеў я ў пакоі, праз які нам дазвалялася толькі праходзіць у спальню бацькі і маці. Вузенькі, з адным акенцам на тое ж возера, пакойчык гэты здаваўся самым цёплым узімку, самым утульным. Такім ён быў і для бацькоў нашых. Яны знаходзілі ў ім адпачынак пасля клапатлівага дня. Тут стаяў, між іншым, камод, спадчына нябожчыцы матулі. Бацька вельмі даражыў гэтай памяткай. Мама Аня таксама адносілася да яго з вялікай увагай. Яго перавезлі і ў горад. Мэбля гэта, зробленая проста, але дабротна, з ліпавага дрэва, пакрытая чорным лакам, мела тры ніжнія шуфляды для бялізны і адну верхнюю для дробных каштоўных рэчаў. Задняя палавіна гэтай шуфляды была падзелена на глыбокія дробныя скрыначкі з вечкамі. Нейкі вясковы майстра апрацаваў скрыначкі акуратна, пафарбаваў жоўтым лакам. Але, дзіўная рэч: у цэнтры кожнага вечка была вылуплена перачынным ножыкам неакуратная ямінка. Ямінкі гэтыя рашуча дысгарманіравалі з усёй шуфлядай, з усім камодам. Хто так сапсаваў добрую мэблю? З якой прычыны?

Толькі ўжо ў горадзе, калі я быў у трэцім класе, бацька расказаў: дзядзя Валодзя, у адсутнасці брата, зацікавіўся «сакрэтнымі» ячэйкамі, вечкі якіх адчыняліся асобнай «хітрай» прыладай. Бесцырымонна дзядзька пачаў калупаць іх нажом. Дзядзькава няўрымслівасць абурала ў свой час нашага бацьку і таму асабліва, што гэта здарылася яшчэ пры матулі, якая вельмі горасна перанесла такі ўчынак. Кожны раз, як адчынялася верхняя шуфляда камода і я глядзеў на «параненыя» скрыначкі, нейкі боль за матулю ўздымаўся ў маім сэрцы і нейкае незразумелае сямейнае няладдзе ўзнікала ў выабразі.

З апісанага галоўнага флігеля пяройдзем у меншы, у якім прайшла большая частка нашага іванішчавіцкага дзяцінства. Калі асноўны флігель з яго тэраскай-ганкам, з прыбудаванай сталовай і кухняй мелі дробнашляхецкі выгляд, то меншы мала адрозніваўся ад звычайнай вясковай хаты: вышэйшы, праўда, даўжэйшы ды вокны большыя.

Без ганка дзверы адчыняліся ў кухню-сенцы. Звычайная печка, ложак, лаўкі. Адсюль дзверы ў досыць светлы пакой. Адно акно глядзела праз агародзік на галоўны флігель па той бок шырокага двара, другое выходзіла ў сад. За пераборкай — вузенькі пакой з акном таксама ў сад. Сцены пабелены. Грубка адна на абодва пакоі.

Улетку ў гэтым флігелі начавалі апрача мяне з братам дзеці цёці Марусі з Растова. Яна кожнае лета прыязджала гасцяваць у Іванішчавічы. Калі гасцявала і Мар'я Баляслаўна, даўняя сяброўка маміна, то яна з дачкой, годам старэйшай за мяне, таксама ўладкоўваліся ў нашым флігелі.

Звычайна і цёця Маруся і Мар'я Баляслаўна засядзяцца ў галоўным флігелі пасля вячэры: чытаюць уголас, у карты гуляюць. Тады трое хлопчыкаў — я, Лёня растоўскі, брат Шура 6—7 гадоў — і дзве дзяўчынкі — Зіначка, што перанесла халеру, ды Жэня ўкладаліся спаць без дарослых. Або калі і наглядаў хто з іх, дык хутка знікаў, упэўнены, што дзеткі спяць. Але дзеткам гэтым яшчэ доўга не спалася, хоць лямпу і гасілі. Тады на падлозе, дзе покатам укладаліся ўсе пяцёра, пачыналася нейкае асаблівае жыццё, не падобнае да таго,

якое ішло ўдзень, пад сонцам. Асновай гэтага жыцця было імкненне ўсебакова «пазнаць» прыроду, сутнасць фізічную дзвюх галін адзінай чалавечай істоты — мужчынскую і жаночую, якія трымаліся пакуль на стадыі хлопчыкаў і дзяўчынак. Нечакана адкідаліся коўдры або прасцірадлы, а часам ускідваліся і кашулькі. Тады вочы прагна шукалі пэўных мясцінак, чакаючы чагось нечаканага, хвалюючага.

Вядома, пачынальнікамі «шуканняў» заставаліся хлопчыкі. Аб'ектыўна магу адзначыць, што я заставаўся найменш актыўным у гульні на падлозе. Мусіць, менш «генавага» тэмпераменту, больш сарамлівасці. Лёня і асабліва мой брацік, жвавы Шурачка, ставілі пытанне рашуча і ясна: «Пакажы!»

Зіначка, дык тая з'яўлялася перад хлопчыкамі, як старажытная Фрына. А вось Жэня рашуча адмаўлялася паказацца ў такім выглядзе, і Лёня, які добра ведаў сваю сястрыцу, так і не дачакаўся параўнаць яе з Жэняй.

Вядома, у накіданых вышэй формах дзіцячага пазнавання сваёй прыроды было досыць такога, што прымушае задумацца педагога і псіхолага. Але ўсё ж яно здасца наіўным у параўнанні з тымі «пазнавальнымі вопытамі», якія ўносіліся ў нашае дзіцячае жыццё хлапчукамі Пецькам ды Грышкам Трускоўскімі, нашчадкамі вялізнага маёнтка, калі яны прыязджалі на канікулы ў Іванішчавічы. Пра гэта далей.

У асенне-зімовую пару, калі госці раз'язджаліся, да нас з братам, каб не былі адны ў флігелі, далучалі маладых работніц, дзяўчат Фроську ды Вольгу ці іншую якую. Тады, на шырокіх нарах, на якіх спалі з аднаго боку дзяўчаты, а мы з братам з другога, «пазнаванне» адбывалася хіба толькі ў дыдактычнай форме. Сярод восеньскай ночы чулася дзявочая размова інтымнага гатунку. Памятаю, напрыклад, такі шэпт: «Я кажу яму: ну, годзе ўжо, Саўка! Ідзі дадому! А ён просіцца: «Яшчэ трошачку, Фросечка, паляжу каля цябе!» — «А як жа ён уваходзіць у хату?» — «Як! Праз акно, вядома. Бацькі спяць на палку, я на лаўцы пад акном...»

І вось у маім уяўленні, калі не моцна спіцца, афармляюцца фантастычныя тлумачэнні пачутых слоў: «праз акно»... «Яшчэ трошачку паляжу каля цябе»...

Так было, мусіць, дзве апошнія зімы. Калі бацька прывёз з Магілёва рэпетытара, ён пасяліўся з намі. Скончыліся таямнічыя шэпты на шырокіх нарах, спы-

ніўся цёплы, прыемны подых, які ішоў ад здаровых чыстых дзявочых целаў.

Сям'я аканома, упраўляючага, была, вядома, у стане «паноў» ці «паўпанкаў», хоць бацька наш не любіў, каб называлі яго «панам», а толькі па імю і па бацьку. Нас звалі — Міша, Шура. Толькі пасварыўшыся, вясковыя хлапчукі дражнілі: паніч, паніч, з...ы лыч! А брата — «Шурачка, авечачка!», бо памяншальнае імя ў нас для Аляксандра, Алеся — Саша, Лесік.

Дык вось, я кажу, што спаннё ўпокат з вясковымі дзяўчаткамі, побач з пэўнымі педагагічна-адмоўнымі бакамі, мела і станоўчыя. Яно падтрымлівала сувязь «панічоў» з народам, яно станавілася ўпрытул як бы з «народным целам». І я лічу, што такая блізкасць была адным з падсвядомых падгалоскаў майго пазнейшага народна-дэмакратычнага светапогляду.

Некалькі слоў пра план фальварка. Нейкае злучэнне салідных, разлічаных на гаспадарчы размах будынін і агульнае ўражанне чагосьці далёка не панскага, дробна-шляхецкага. Ані прысад, якія падводзіліся б да ганка з белымі калонамі, ані каменнай брамы, ані кветнікаў, ані альтанак.

Ужо пры бацьку аднаўленыя вароты з дзвюх шулак з перакладзінай вялі на шырокі чатырохкутны двор, процілежны ад варот бок якога быў адгароджаны ад саду. Двор не брукаваны, улетку пакрыты траўкай, увосень досыць гразкі. Пасярэдзіне — калодзеж з доўгім жоравам і цэбрам. Пры калодзежы карыта, у якім узімку паілі толькі коней. Для кароў і свіней карыта стаяла на другім двары, на аборы. На «чысты» двор гэтую патрэбную вельмі, але не дужа «выхаваную» жывёліну не пускалі. Улева ад варот двор замыкаўся чыстымі адрынамі з засекамі пад збожжа і асобна пад мякіну з мукой. Адрыны стаялі досыць высока над грунтам і таму мелі перад дзвярамі памосты. Пад простым кутком да адрын, аддзеленая загароджаным прамежкам, стаяла стайня з цаглянымі слупамі, разлічаная на стаенных коней, а ў той час — добры прытулак для чатырох-пяці не надта каб «выглядных», але досыць дагледжаных дружных рабацяг. Ад стайні была адгароджана «вазоў-

ня», значную частку якой займала дапатопная музейная карэта, якая колісь вазіла «сапраўдных» паноў, а зараз абадраная, ужо без сядзенняў, але яшчэ з вялізным дышлам, яна добра служыла нам, дзецям, у фантастычных падарожжах.

За вазоўняй незабудаваны прамежак, як бы кароткі правулак, ішоў да азёрнага, досыць стромкага спуску. Над гэтым спускам знаходзіліся вельмі патрэбныя ў жыцці, але далёка не эстэтычныя будовінкі, з двара амаль што і непрыкметныя. А за правулкам новай кухні пачынаўся галоўны флігель. Ён як бы замыкаў левы бок двара. Ад галоўнага флігеля да нашага «дзіцячага» флігеля цягнуўся плот, які аддзяляў двор ад саду. Пасярэдзіне гэтага плота — садовыя вароты. Яны якраз прыходзіліся насупраць уязных у двор варот, аб якіх ужо гаварылася.

Дзіцячы флігель ствараў чацвёрты бок нашага «чыстага» абшарнага двара. Флігель гэты непасрэдна пераходзіў у другую «чорную» кухню-хату з сенцамі, з куросаднем. У чорнай кухні гатавалі бульбу свінням, замешвалі пойла каровам, шаткавалі капусту, рабілі іншыя гаспадарчыя справы. На вялізнай печцы ды па лавах спалі тут у халодную пару работнікі эканоміі «другога ранга», напрыклад, высокі сутулы пастух Змітрок, яго падпасак Іванчык, першы мой сябра ў гульні, што не пашкодзіла яму скалоць мне ў сяброўскай бойцы кавалак разца. За кухняй-хатай ішоў дашчаны паркан з веснікамі, аб якіх гаварылася вышэй, у сувязі з «бойкай» нашага бацькі з арандатарам.

А далей — глухая бярвенчатая сцяна хлявоў, якія стваралі асобны двор, так званую абору. Двор гэты меў таксама выгляд чатырохкутніка. З трох бакоў яго выходзілі вароты з хлявоў і свінарняў у сярэдзіну двара. Выпускалі жывёлу толькі праз адны вароты на праезд, на выган. Чацвёрты бок двара-аборы быў заняты паветкамі пад дровы, пад калёсы і сані. Заднія сценкі паветак выходзілі ў сад. Абора высцілалася ўзімку саломай. Сюды выпускалі з хлявоў жывёлу, каб напаіць з вялізнага дашчанага карыта. Ваду прывозілі ў бочцы з прудка. З карытам гэтым, умацаваным на козлах, звязаны вельмі ж вострыя моманты нашых гульняў і забавак. А як жа! Бугай Міхей, «паша» ўсяго хлеўнага «гарэма», выходзіць на салому, пароўквае, азіраецца. «Быська, быська! Міхей, Міхей!» — раздаюцца задзірныя галаскі.

Ён з хвіліну пазірае на гарэзнікаў... Рэўкнуў, узняў капытом салому... Момант, і рушыў на ворагаў! Але ворагі ўжо пад карытам, а Міхей з разбегу раптам супыніўся перад моцнымі дошкамі...

Вядома, бацька забараняў нам займацца такой «гульнёй». Але спакуса «вострасці» настолькі вялікая, што нават сынок Міша, які звычайна не парушае бацькавых загадаў, не меў волі адыходзіць ад «гульні» з бугаём.

На галоўны, «чысты» двор выпускаліся толькі коні,— пакачацца. Тут і паілі іх узімку каля калодзежа, тут і запрагалі. З аборы дапускалася цялё, якое паілі каля кухоннага ганка. Мы стаялі вакол і лашчылі яго, пакуль яно сваёй яшчэ «наіўнай» пысай сёрбала пойла. Дапускалася сюды час ад часу і салідная «мамаша» са сваімі 8—10 ружовенькімі парсючкамі, каб яна, паклаўшыся на бок сярод двара, блажэнна рохкаючы, дазваляла сквапным рыльцам церабіць мнагалікія істокі цякучай белай жывільнасці.

Ну, вядома, два султаны-пеўні час ад часу пачыналі бойку за валоданне прывабнымі рознакаляровымі «дамамі», якія досыць абыякава праходзілі міма сваіх «павяліцеляў». І толькі калі заўважалі кроў, падымалі голас. Але да смяротнага канца дуэль чырвонага і чорнага «рыцара» не даходзіла, бо паяўлялася таўстуха Марфа, якая назірала байцоў з кухоннага акна, і аблівала іх вадой.

Хадзілі па двары гусі, качкі, калі вярталіся з возера, клекатаў індык, надзімаючы чырвоныя мясістыя завушніцы, ды парка цэсарак адчувала сябе тут чужакамі, бо наш бацька прызнаваў толькі гусей, хоць і ганяў іх з аўсоў, ды яшчэ добрых пародлівых курачак. Індыкі, цэсаркі — гэта была пэўная саступнасць па жаданню «маладой пані», як называлі работнікі нашу мамашу.

Але досыць сярод жывёліны! Хутчэй туды, дзе можна было разбегчыся, наладзіць гульню!

Сад займаў значную плошчу — каля дзевяці дзесяцін,— але ў ім ніколі не гулялі па прысадах дарослыя, не запрашалі туды і гасцей, бо прысад ніякіх не было, калі не лічыць кароценькую з маладых яшчэ ліп, якая ішла ад варот садовых да капцільні.

Сад малады яшчэ, яблыневы: ані груш, ані вішняў я не памятаю ў ім. Толькі і бяды нам! Затое ж — разгон! Як пусцішся ўгрунь ад капцільні па сцежцы між дрэў да самага пералазу на дарогу, якая тут кутом пераходзіла ў вясковую вуліцу! А тут ужо і першыя хаты-двары. А насустрач хлапчукі з двароў. Пералазім у сад з імі да капцільні, адтуль на возера, на чарот, на вір... Калі даспявалі яблыкі, бацька дазваляў збіраць падалкі. Трэсці дрэвы не дазвалялася ні нам, ні вясковым. Пасля другога «спаса», гэта значыць 15 жніўня старога календара, здымалі першы збор. Заставалася позняя антонаўка. Некалькі мяшкоў адвозілі ў Магілёў Трускоўскай. Бочачку яблыкаў мачылі на зіму. Астатняе ішло ў страву і ўжывалася на хаду, у «вітамінозным» выглядзе, хоць ні гэтага слова, ні разумення і не было яшчэ ў тыя часы.

Не памятаю, каб з боку вёскі здараліся наскокі на сад. З бліжэйшымі вясковымі дзецьмі мы дзяліліся яблыкамі. Яны ж навучылі нас затое, як з зялёнага недаспелага ды зрабіць такое, што можна грызці, хоць і сціскае часам дзясны аскоміна: пабіць яблычка з усіх бакоў кійком.

Бацька сам частаваў спелымі яблыкамі самавітых сялян, якія прыходзілі па справах.

Сад, мусіць, прызначаўся былымі гаспадарамі з мэтай рыначнага тавару, але быў мала дагледжаны. Бацька таксама мала ўвагі аддаваў яму. Садоўніка не было. Стары Хвядос быў адначасова і вартаўніком, які ўначы абыходзіў сад і двор, і падкладаў з восені ў капцільні ў агонь елкі, каб капціліся вяндліна ды каўбасы.

Дрэвы крыху абкопваліся, крыху бяліліся вапнай; на зіму абкладаліся ад зайцоў калючымі лапінамі. Не было гутаркі аб прышчэпах, аб палепшанні гатункаў. Дзіўна! Наш жа бацька насадзіў сад на дзядзькавым хутары Гарадок, каля вёскі Чорнае, дзе я нарадзіўся.

У часе напісання гэтых радкоў, я атрымліваю лісты ад настаўніцы Чарнянскай школы, у якіх яна піша, што сад той захаваўся і краязнаўцы-вучні збіраюцца прыслаць мне яблыкаў з яго.

Другім месцам для дзіцячых гульняў і разгонаў было «гумнішча». Калі прабегчы ад садовых варот праз двор, зірнуўшы ўлева на «наш» флігель, «чорную» кух-

ню, вароты на абору, а ўправа — на галоўны флігель, вазоўню са стайняй, міма свірнаў, ды ў галоўныя вароты, ды праз іх, праз дарогу ў фортку, або зусім ужо вясковыя веснічкі, калі яны былі адсунуты, чакаючы воза з сенам або драбін з пожняў,— дык улётаеш у новы свет захаплення. Але чакайце! Што ж гэта за дом ля самых веснікаў, вузенькім палісаднічкам аддзелены ад дарогі? Ён выглядае вышэйшым за жылыя флігелі і нібы навейшым. І ў тыя часы, калі я прабягаў міма яго на гумнішча, і зараз, калі з сівой барадой трымаю аўтаручку, я так і застаюся без адказу, для каго і для чаго прызначаўся гэты «новы» дом, як вызначалі яго ў фальварку?

Бліжэй за ўсё ён нагадваў яўрэйскі местачковы будынак, у якім можна было мець шынок. А можа, прызначаўся для канторы? Уваход з вуліцы праз ганак. Нейкі пярэдні пакойчык, за ім кухня і выхад на гумнішча. З прыхожай — вялізны пакой з досыць вялікімі вокнамі, за пераборкай — яшчэ пакой, меншы. Сцены пабелены, але нязграбна, неакуратна. Мэбля? Вялізны стол пасярэдзіне большага пакоя, лавы, зэдлікі... І ўсюды нейкі непрыемны пах ці то вапны, ці то мокрай цэглы.

Узімку тут схіляліся над планамі каморнікі. Тут яны і жылі. Улетку на які месяц, ды і то не на кожнае лета, наязджала сама ўласніца дзевяці тысяч дзесяцін абшараў Юлія Рыгораўна Трускоўская. Тады гэты нязграбны дом прыводзіўся, мусіць, у парадак, неяк жа мэбляваўся. Але тады мы, малыя, не забягалі ў яго. Не памятаю, каб Юлія Рыгораўна заходзіла да нас. Нейкія дзіўныя адносіны! Уладарка не выяўляла аніякіх уладарскіх правоў і трымалася хутчэй як нейкая часовая госця ці дачніца. З ёю жылі і яе сынкі Пецька ды Грышка. Без маткі яны жылі з намі ў флігелі.

Самай вялізнай будынінай на гумнішчы была пуня. Уся на моцных дубовых шулах, паміж якіх шчыльна закладзены бярвенні, саламяная страха, добра дагледжаная, яна ляжала на нутраных шулах,练ракладзінах, страпілах. Двое парных наскрозь варот, гліняны роўны ток... Нарэшце, вялізнасць, умяшчальнасць будыніны рабіла на дзіцячае ўяўленне вялікае ўражанне. На вялікдзень і аж да касавіцы і зажынак пад страхой пуні падвешваліся арэлі, на якіх з захапленнем гушкаліся

хлопцы і дзяўчаты як фальварковыя, так і вясковыя. Наш бацька сам, сваімі моцнымі рукамі, правяраў надзейнасць гэтых арэляў: як закінуты вяроўкі праз самую высокую перакладзіну, як працягнуты яны праз дзіры шырокай дубовай дошкі. Ён адчуваў адказнасць за хлопцаў і дзяўчат. А было аб чым непакоіцца, бо гушкаліся аж пад «канёк». А колькі было смеху, жартаў, часам не зусім... літаратурных прымавак, калі дзяўчаты ўзносіліся ўгару, а хлопцы — Саўка, Грышка, Іванчык сядзелі ўнізе! А мы, малыя, тут як тут! І гэтая «зямельная» маладосць, такая прыбраная на вялікдзень ці ў нядзелю ў чыстыя кашулі даматканага палатна... І гэтая мова, не кранутая яшчэ горадам ці царскай службай,— усё прышчаплялася да вачэй, да вушэй, да маладых душ!

Задняй сцяной пуня выходзіла на досыць высокі і стромкі бераг рачулкі, што цякла праз вёску, уздоўж саду праз возера-пруд, збягала са стаўкоў, прыводзіла ў рух колы млына і сукнавальні, утвараючы ніжэй прудок, і вось тут за пуняй чыстым струмком бегла за гумном між лугоў аж да вёскі Слабодкі і гублялася ля нас. За пуняй, пад старымі ліпамі, што стаялі волатамі над рачулкай, ішла гульня. Тут з жэрдачак і дранак будаваліся нашыя будкі, якія выабраза пашырала да вежаў і замкаў. Адсюль выязджалі на «парках» і «тройках», каб угрунь праскочыць праз гумнішча, двор, трапіць у сад або звярнуць улева на млын і праз мост да кузні і далей...

Якімі жывымі здаваліся нам у 8—9—10 гадоў выразаныя з маладых ліп і бярозак «коні», якія мелі тыя самыя назвы, што і сапраўдныя,— «гняды», «цыганок»...

Цікавы псіхалагічны факт: калі я трапіў упершыню ў Траццякоўку, праз сем гадоў пасля Іванішчавіч, і ўбачыў белага каня пад Дабрынем Мікітавічам на вядомай карціне Васняцова, то адразу ўспомніў свайго белага, бярозавага коніка, а з ім паўстала і пуня, і гумнішча, і ўся дзяціная вясковая розгуль!

Мастацкі твор славутага майстра і дзяціная творчая здольнасць злучыліся ў адно цэлае!

## III. БАЦЬКА Ў РАБОЦЕ УПРАВІЦЕЛЯ

Я падкрэсліваў ужо, што бацька ў поўную меру знайшоў прыстасоўку сваіх гаспадарчых здольнасцей. Прыходзілася ўздымаць усё. Амаль на ўсіх будынках страха працякала. Трэба перакрываць гонтамі або драніцамі. Майстроў сярод іванішчаўцаў не было, бо ўся вёска — і хаты і гумны — спрадвеку крыліся саломай.

Бацька лазіў на страху, паказваў, як устаўляць ганціны адна ў адну, як «прышываць» іх цвічкамі.

З першых дзён вылучыўся сярод падабраных работнікаў Іван Бушыла. З налёту ён пераймаў ад управіцеля ўсе навыкі і стасункі. Хутка Іван вызначыўся не толькі як галоўны работнік, але нават і як намеснік управіцеля, калі Аляксандра Гаўрылавіч выязджаў у Магілёў.

Вышэй сярэдняга росту, сухарлявы, з правільнымі рысамі твару, невялічкай цёмна-русай бародкай і сінімі славяна-беларускімі вачамі Іван Бушыла, каб апрануць яго належна, лёгка сышоў бы за настаўніка гімназіі. Столькі было ў гэтага малапісьменнага маладога іванішчаўца нейкай нутраной прыроджанай інтэлігентнасці, столькі добразычлівай усмешкі! Управіцель цаніў Івана і давяраў яму. А той адказваў шчырым стараннем ва ўсіх галінах запушчанай гаспадаркі.

Малодшы брат, Хведар, быў пастаўлены пры конях і, пакуль не ўзялі яго ў армію, выязджаў на козлах у горад. Управіцель і ажаніў абодвух братоў: Івану сасватаў прыгожую пад стаць яму Ганну, а Хведару дасталася каранастая Мархва.

Ганна была падручнай памочніцай нашай мамашы па дамавой гаспадарцы. Абавязкі Мархвы пашырыліся на ўсю абору, на ўсю малочную гаспадарку і «чорную» кухню. У падпарадкаванні Мархвы былі яшчэ дзве дзяўчыны. Не дужа салодкая доля дасталася вясёлай Мархвушцы, як забрылі лоб яе Хведару. Жыла яна і працавала ў фальварку ў стане салдаткі, на якую меў права прылюдзейна паглядаць і хлопец, і мужчына.

Памятаю такую сцэну. На другі ці трэці год нашага асталявання ў Іванішчавічах заявіўся ў нас бацькаў дальні пляменнік Міцька (з боку цёткі Машы, жонкі дзядзькі Уладзіміра). Чаго ён апынуўся ў нас? Можа, бацька надумаў зрабіць з гэтага недавучкі-шляхцюка падмогу сабе па кіраванню маёнткам? Калі так, дык

Аляксандра Гаўрылавіч хутка ўпэўніўся, што выбар яго няўдалы. Фізічна развіты, досыць прыгожы Міцька гэты стаўся вялікай спакусай для дзяўчат і маладух фальварковых і вясковых. Разам з ім гасцявала ў нас і ягоная матка. Чакалі яе неяк узімку з горада. Бацькі ў гэты час у фальварку не было. Ноч, завіруха, а матухны няма! Міцька і кідае рэпліку: «Баюся не столькі за мамашу, як за сваю тройку: заморацца коні!» Тройка была іхняя, уласная, з хутара пад Гомелем.

Нарэшце і матушка і сынок сабраліся дадому. Тройка добрых коней гатова. У вазку сядзіць захутаная цёця Варвара. Міця апрануты ў дублёны кажух, падперазаны на вузел. У руцэ бізун. Пытаецца: «Дзе ж Мархута?» Яе клічуць. Міця абдымае салдатку пры ўсіх, цалуе... Жвава меціцца, падхапляе лейцы... бізун свішча ў паветры. Тройка рванула вазок... Мархута выцірае хусткай вочы і бяжыць у дом, бо не паспела апрануцца.

Як сёння бачу белы картуз на перадзе лініі касцоў-іванішчанцаў. Яны адзін за адным упэўнена, нізка бяруць касой сакавітую траву. Вось-вось самы высокі нагоніць управіцеля. Давядзецца, мусіць, яму саступіць убок. Ды куды там! Паркалёвая ў кветачках кашуля і белы картуз шырокім размахам ідуць і ідуць сабе ўперад! Я тут, на гэтых лужках, што цягнуцца ўздоўж правага берага рачулкі, ніжэй млына і моста. Перапынак. Звонка точаць косы. Некаторыя з касцоў адыходзяць, каб пакляпаць іх. Я чую гутарку ўпаўголаса: «Такі ўправіцель гаспадарку не запусціць! Не тое, што той шляхцюк!», «Нашую работу разумее, нібы сам з мужыкоў», «Кажы! Каб з мужыкоў, дык бы...», «Ціху, пачуе!», «Не любіць, каб панам называлі. Я, кажа, не паляк!», «Барынам, значыцца, каб!» «Гаворыш!» — злуецца на маладога касца яго бацька.— «Аляксандра Гаўрылавіч,— во як!»

Я чую ўсю гэтую гутарку, і мне робіцца прыемна, і я ганаруся сваім бацькам. Упершыню тады паўстала ў мяне пытанне: хто наш бацька, усе мы? Упершыню я зразумеў, што не ўсе ўправіцелі, аканомы аднолькавыя.

Самы дальні лужок пад лесам ляжыць у пакосах. Іван вядзе туды дзесятак дзяўчат і маладзіц з граблямі.

Мусіць, нейкія вольныя жарты адпускае гэты Іван, бо ў хустку смяюцца некаторыя. Пачула б твая Ганна, надзёрла б табе хахол, хоць і смяялася б сама!

Для нас, малых, пачалася пара пераездаў на сене. Перавозілі яго ў пуню ў драбінах: двое драбін у парку коні. Бацька ці Іван закідваюць нас высока на сярэдзіну. Як цікава глядзець адтуль! Нават млын, сукнавальня, будынкі здаюцца нізкімі. А ў пуні скочыш на ўкладзенае сена і пачынаеш «памагаць» разносіць прывезенае па ўсіх кутках. Ходзіш босы, бо бацька не дазваляў таптацца нават у лёгкіх дзіцячых чаравічках. За дзень пераедзеш з лугоў у пуню разы тры.

*1962—1969 гг.*

# Лісты

*1. Лісу А. С.*
*2 снежня 1964 г.*

*2/XII-64 г.*

Добры дзень, Арсені!
(сам вінен, што не велічаю па-бацьку)

Згодна Вашага ліста і прапановы, пасылаю як «узор» успамін пра Антона Грыневіча. Калі нешта падобнае Вам падыходзіць, напішыце, буду ўспамінаць пра іншых. Калі не — напішыце і гэта.

Наогул кажучы, мемуараў не вяду. Па асабістых прапановах што-якое адсылаў:

1) Успаміны аб беларускім тэатры — у належны аддзел БАН.

2) Успаміны пра Якуба Коласа — у музей па просьбе Данілы Міцкевіча і г. д.

Цікава, што ў Мінску ў пэўных колах склаўся незразумелы для звычайных чалавечых адносін «звычай»: не адказваць на лісты і запытанні. Спадзяюся, што Вы — за межамі гэтага «кола»?

Ваша прозвішча Ліс — гэта не скарочанае, не псеўданім? І як па-бацьку.

Між іншым, майго бацьку звалі Аляксандр.

Застаюся з пашанай

*Міхайла Грамыка.*

*2. Шушкевічу С. П.*
*2 студзеня 1965 г.*

*22/I-65 г.*
*Хімкі*

Даражэнькі мой Станіслаў Пятровіч!

Радасна ўсхваляваўся я, прачытаўшы Ваш ліст і Вашы чулыя радкі да мяне ў «Полымі». Гэта быў найлепшы навагодні падарунак. Вы, мой дарагі вучань у мінулым, ды яшчэ да гэтага невядомы мне Арсен Ліс, скінулі з маіх старых плячэй больш 30-ці гадоў! Так... Душэўна... На жаль, застаецца: у хуткім часе 80 гадоч-

каў жыцця... Хронік-язвеннік. Тры гады назад перанёс рызыкоўную аперацыю... Гастрыт, каліт... розныя «склеры» і «карды»... Але ва ўсім гэтым Вы ніяк не павінны! У выніку з 5-га года не рыпаюсь нікуды за межы масkоўскіх ваколіц. Што і казаць! Добра і радасна было б пабачыцца з усімі вамі, маімі дабрадзеямі ў Мінску! Але што зробіш! Дзякуй богу, што галава пакуль што не адмаўляецца працаваць. Ваш нарыс пра Ул. Хадыку поўны свядомай грамадзянскай чуласці. Наогул, чытаеш «Полымя» і бачыш, як узняліся ўгару нашы пісьменнікі, маладзейшыя за нас, пашырылася тэматыка, узбагаціліся формы, стыль.

Сэрца наліваецца радасцю, што ўслед нам, натуральна адыходзячым у «нірвану», ідуць шэраг за шэрагам яшчэ больш рупныя, больш таленавітыя працаўнікі на гонях культуры і ўздыму нашай Радзімы. А праз тое — уздыму брацкіх народаў Саюза і ўсёй сусветнай працоўнай грамады!

Бывайце здаровы! Жывіце шматгранным жыццём у новым годзе і ў шэрагу будучых!

*Міхайла Грамыка.*

Як выпісаць на год «Полымя»?
Умовы падпіскі не надрукаваны.

*3. Шушкевічу С. П.*
*14 студзеня 1965 г.*

*14/I-65 г.*

Дарагі Станіслаў Пятровіч!

Дзякую за добрае, шчырае вітанне ды за мінскія фота, якія даюць уяўленне аб сучаснай сталіцы нашай рэспублікі. На іх я прызнаў толькі гасцініцу. Аб часопісе «Полымя» не клапаціцеся, бо я выпісаў яго і буду атрымліваць з сакавіка. (Спазніўся з выпіскай.) Калі мае вершы будуць надрукаваны ў № 1 ці № 2, дык паведаміце, і я тут дастану. У Маскве ў адным кіёску прадаюцца.

Пісаць пра тых, хто яшчэ жыве, не варта, даражэнькі. Спытайцеся ў Ільі Гурскага, калі гэта той, што працаваў у Галоўліце, пра маю п'есу «Скарынін сын»: ці захавалася яна.

Бывайце здаровы!

*Ваш Міх. Грамыка.*

*4. Шушкевічу С. П.*
*14 лютага 1965 г.* *14/II-65 г.*

Даражэнькі мой Станіслаў Пятровіч!

Вашы лісты да мяне заўсёды радуюць і бадзёраць. Дзякую! У мінскую бібліятэку я ўжо адаслаў свае запытанні адносна твораў даўнейшых, звяртаючыся, як вы раілі, да Н. Б. Ватацы. Ад С. Ліхадзіеўскага з Ташкента атрымаў зборнічак яго вершаў з надпісам. За гэта таксама трэба дзякаваць і Вам!

Трохтомнік «Ант. бел. паэзіі» маю. Толькі што перачытаў Вашы вершы ў 2-м томе. Добрая мова і размер... Ды толькі мала вершаў Вашых. З гэтага боку нам з Вамі не пашэнціла! Калі ёсць у Вас залішні зборнічак, прышліце, калі ласка! У мяне толькі па экземпляру сваіх. Прачытайце два апошнія вершы, якія я адаслаў у «Полымя» 28/I. Прачытайце ў Арс. Ліса мае ўспаміны. У іх знойдзеце што-якое і з біяграфіі маёй. Адносна артыкула яшчэ пагаворым. Мой погляд Вам вядомы.

Усяго добрага.

*Міх. Грамыка.*

*5. Ліхадзіеўскаму С. І.* *(Ташкент, Шахрызябская, 41.)*
*2 лютага 1965 г.* *27/II-65 г.*

Дарагі Сцяпан Іванавіч!

Вельмі парадавалі Вы мяне сваёй «Берасцянкай...» ды чулым надпісам на першай старонцы!

Як прыемна старому чалавеку даведацца, што памяць аб ім не зусім змарнела ў тых, каму ў свой час аддаваліся душэўныя сілы!

Творы Вашы ў значнай сваёй частцы вельмі блізкія мне. А наогул Ваш верш багат музычна, ды і па разнастайнасці тэматыкі Вы, як і большасць сучаснай нашай паэтычнай моладзі, пайшлі наперад у параўнанні з папярэднім пакаленнем. Добра, што многія з вас узяліся за іншыя мовы, за пераклады. І як таленавіта пішуцца пераклады! З Вашых мне асабліва падабаюцца пераклады з В. Гётэ.

Сучасная моладзь узварушыла і мяне, старога. Пасля вельмі значнага перапынку я зноў узяўся за пяро, каб «амаладзіцца» праз мову дзядоў маіх. У «Полымя» я паслаў некалькі вершаў. Кажуць, што будуць друкавацца. Адзін з маладых усё падбівае пісаць успаміны.

Я адаслаў яму ўжо пра чатырох, якіх знаў і якія адышлі ў нябыт.

На жаль, у мяне толькі адзін экземпляр зборніка «Плынь», каб абмяняцца з Вамі! Наогул я не маю многіх з сваіх твораў і не ведаю, ці адшукаю іх калі-небудзь!

Жадаю Вам далейшых поспехаў, як у літаратуры, так і ў навуковых імкненнях!

Сардэчна Ваш

*Міхайла Грамыка.*

*6. Шушкевічу С. П.*
*4 мая 1965 г.*

*4/V-65 г.*

Даражэнькі мой Станіслаў Пятровіч!

Даруйце, што пазнюся з адказам на Ваш шчыры ліст, але хоць не адразу, на шчырасць — шчырасцю! Вельмі дзякую за № 2 «Полымя». З № 3 я часопіс атрымліваю па падпісцы. Раман Ул. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» зацікавіў мяне. Калі дачытаю, скажу аб сваім уражанні. Ці не першая гэта спроба гістарычнага рамана на нашай мове? Караткевіч валодае мовай ці хто пераклаў? Ваша неадступная просьба пісаць аўтабіяграфію зрабіла сваё: я-ткі ўзяўся за яе. Праз 5—7 дзён атрымаеце частку. Напішыце, ці варта працягваць. Пішыце шчыра, не шкадуючы, таксама пра мае вершы. Якое ўражанне ад іх у рэдакцыі і наогул сярод пісьменнікаў?

Бывайце здаровы!

*Дзед Міхайла.*

*7. Шушкевічу С. П.*
*31 ліпеня 1965 г.*

*31/VII-65 г.*

Даражэнькі Станіслаў!

Пасылаю ў поўнае тваё скарыстанне аўтабіяграфію. Такую ж, перапісаўшы чарніламі, перашлю ў Саюз разам з іншымі матэрыяламі.

Што да характарыстыкі ад Ул. Дубоўкі, то даю табе яе толькі часова. Другі экземпляр, прысланы Ул. Д., перасылаю таксама ў Саюз пісьменнікаў. Тое, што напісаў пра мяне Дубоўка, мне вельмі дорага. Больш экземпляраў у мяне няма.

К. Буйла да гэтага часу маўчыць: мо захварэла ці на дачы?

Бывай здароў!

*Твой Міх. Грамыка.*

*8. Шушкевічу С. П.*
*23 ліпеня 1965 г.* *23/VII-65 г.*

Даражэнькі мой Станіслаў!

Учора звякаў мне Мік. Улашчык, перадаваў тваю просьбу хутчэй выслаць аўтабіяграфію. А сёння я атрымаў з Саюза пісьменнікаў цэлы пакет з рознымі анкетамі. Чакаюць высылкі трох рэкамендацый, фотаздымкаў і г. д. Між іншым, прапануюць звярнуцца да Ул. Дуб. і Канст. Буйла, даюць іхныя адрасы.

І зараз пішу да іх. А трэцім маім «шэфам» прыйдзецца стаць табе, даражэнькі. Аб чым і прашу. Заўтра іду фатаграфавацца. Калі атрымаю рэкамендацыі ад Дубоўкі і Буйлы, запоўню анкеты, напішу кароткую аўтабіяграфію, то перашлю ўсё гэта ў Саюз. Думаю, што пісаць табе яшчэ адну аўтабіяграфію не трэба.

Незалежна ад усёй гэтай фармалістыкі, я напісаў ужо першую частку «Старонкі сямейнай хронікі». Сёння чытаў сваёй дачцы Марыне. Ёй падабалася, і яна настойвае працягваць. Калі атрымаеш гэтую частку, паспрабуй паказаць у рэдакцыі. Можна было б друкаваць у «Полымі» па частках. Якое будзе ўражанне ад гэтай работы — напішы.

Бывай здаровы з усёй сямейкай тваёй!

*Сардэчна твой Міхайла.*

*9. Шушкевічу С. П.*
*6 жніўня 1965 г.* *6/VIII-65 г.*

Дарагі Станіслаў!

Атрымаў тваю рэкамендацыю, за якую вельмі-вельмі дзякую! Яна станецца для мяне каштоўнай не менш як Ул. Дубоўкі.

Што да твайго ліста, а ў ім да шэрага пытанняў, то магу накіраваць цябе да Арс. Ліса, у якога знаходзяцца мае ўспаміны пра пэўных дзеячоў, а ў гэтых успамінах знойдзецца досыць і пра мяне.

Дзіўлюся, што да гэтага часу вы абодва не пазнаёміліся, хоць праца ваша ў значнай меры верціцца каля агульнай асі. Жывяце ў адным горадзе! Адрас яго я, здаецца, даваў табе. [...]

Па-другое. Я пераслаў у Саюз анкетны матэрыял, з якога можна будзе выбраць амаль усё, што цябе цікавіць. Ды паслаў табе аўтабіяграфію. Дадаю да яе што-якое.

1. *Маіх* былых вучняў-пісьменнікаў памятаю слаба, [...]

2. На рускай мове пачаў пісаць у 1907—1908 гг. Друкаваўся ў невялікіх маскоўскіх часопісах («Самообразование», «Белый камень», «Пробуждение» (?).

3. Жыў на Госпітальнай, 4, у прыватным доме, тры пакоі. Другую палову займаў гаспадар. Перад ганкам — стары каштан, прытульны ценявы куток. Крыху далей, ужо каля канца парку — двухпавярховы новы дом Я. Коласа.

4. З Я. Купалам быў асабіста, сямейна дружны. Бываў і ў Я. К. з Ц. Гартным сустракаўся часта ў рэдакцыі. Таксама з Зм. Бядуляй. З А. Гурло — рэдка.

5. Архіў рукапісаў пры мне. У ім: 1. Машынапісны экземпляр вершаў на рускай мове — «Рифмованные тропы». 2. Машынапісныя экз. п'ес «В семье Паншиных», «При разведке недр». Даваў у маскоўскія тэатры. Для пастаноўкі адкладваліся. 3. Незакончаны вершаваны раман «Старые липы». 4. Незакончаны раман «Федор Тихвин». І інш.

6. Кніжачку атрымаў. Чытаю. Асабліва падабаюцца дзіцячыя вершы.

Пасылаю фатаграфію.

Здаровенькі бывай.

*Міх. Грамыка.*

Фота пасылаю асобна: няма канверта.

*10. Шушкевічу С. П.*
*5 верасня 1965 г.*

*5/IX-65 г.*

Дарагі Станіслаў!

Учора атрымаў твой ліст і «Вясёлку», за якую вельмі дзякую. Можа, калі мая ўнучка Таццяна (ад дачкі Расціславы, ёй зараз тры гады) зацікавіцца прачытаць яе, «адолеўшы» мову сваіх продкаў з матчынага боку (бацька яе карэнны велікарус).

Ты доўга не адказваў на мой ліст, і я ўжо занепакоіўся, што з табой. Дзівакі вы, хлопцы — ты, Шкраба і інш. У вас пад рукой досыць матэрыялу пра мяне: у сакратара Саюза (аўтабіяграфія, пералік твораў і беларускіх, і рускіх па гадах і інш. Затым у Ліса, у Германовіча і ў іншых працаўнікоў Акадэміі). Няўжо мне па другому разу пісаць усё? Што да п'есы «Каля тэрасы», то я прагледжу яе, прымаючы твае заўвагі.

У раёне Рэчыцы пачалі доследы — Азбукін і я. Ён — геаграфічныя, я — геалагічныя. Калі б не спынілі нашу работу ў той час, то, можа быць, нафта была б вядома ў гэтым раёне з 1930 г.

Зборнік «Плынь» я табе перасылаю. [...]

А за гэтым і не гледзячы на ўсё такое, заставайся фізічна здаровым і душэўна спакойным і задаволеным!

*Міхайла.*

*11. Шушкевічу С. П.*
*18 кастрычніка 1965 г.*

*18/Х-65 г.*

Дружа Станіслаў!

Кладу руку на сэрца, звяртаючыся да цябе, праз ростань з падзякай за ўсе клопаты аб маіх літаратурных справах!

Яшчэ раз пацвярджаю, што лічу цябе сваім прадстаўніком і давераным, і ў якасці такога прадаўжай дзейнічаць адносна маіх усіх твораў.

Вельмі прыемна, шчырыя хлопцы, чуць ад вас, як блізка і чула адносіцеся вы да майго юбілею. Але як рэагаваць будуць «моцныя свету» — невядома. Ды гэта і не так ужо хвалюе мяне! Пэўную «славу» я ўжо ў свой час пераҗыў — хопіць старому да яго веку!

Адно зараз прашу цябе, дарагі Станіслаў, і ўсіх да мяне прыхільных,— не настойвайце, каб я абавязкова прыехаў у Мінск у сувязі з юбілеем. Слоў іншых няма: самому мне хацелася б пабачыцца з усімі вамі, пазнаёміцца вочы ў вочы! Але зразумейце: без хвалявання мой «візіт» у Мінск не абыдзецца. А яно, гэтае хваляванне, можа вельмі кепска і непажадана скончыцца і для мяне, і для вас усіх!

Можа, значна пазней, не раней вясны, я і наведаюся на Радзіму, калі, вядома, дажыву да таго часу! Будзе менш урачыстасці, менш хвалявання. Ну, дык вось так умовімся.

Ці трэба казаць, што бачыць цябе тут, у маёй кватэры, калі здарыцца быць табе ў Маскве, будзе мне вельмі прыемна, аж на сто крат!

Папісваю патроху свае «Старонкі». Калі перапішу частку, перашлю табе.

Бывай здароў і працавіт, дружа.

*Міхайла Грамыка.*

*12. Шушкевічу С. П.*
*24 студзеня 1966 г.*

*24/I-66 г.*

Дарагі Станіслаў!

12 і 19 студзеня адаслаў у выдавецтва дзве бандэролі: «Плынь» і «Дзве паэмы» са сваімі праўкамі, заўвагамі і лістом да Казекі. Будзь ласкаў наведацца да яго, каб інфармаваць мяне, у якім стане гэтыя рэчы. Зараз бяруся за п'есу «Каля тэрасы», якая патрабуе больш часу на рэдагаванне. Прыйдзецца, мусіць, значную частку перапісваць ад рукі. Каб гэта дастаць «Полымя» за 1929 г. № 7, ды ўзяць з яго п'есу «Віно бушуе», ды перадаць у выдавецтва?

Зноў перачытаў твой артыкул «След на зямлі». Чытаў сваёй дачцэ Марыне, якая прыехала з Новасібірска ў навуковую камандзіроўку. Будзе абараняць, мусіць, дысертацыю на доктара гістарычных навук. Пра гэты артыкул згодна гаворым: добра напісаны! Крыху ёсць «перасолу», але гэта нішто: зусім без яго, мусіць, нямажна.

Бывай здароў, даражэнькі, са сваёй сямейкай!

Чакаю ліста, але не спяшайся з гэтым.

*Міхайла Грамыка.*

*13. Вялюгіну А. С.*
*4—5 сакавіка 1966 г.*

*4—5/III-66 г.*
*Хімкі*

Дарагі Анатоль Сцяпанавіч!

Па-першае, прыношу вялікую падзяку за кніжку вершаў «Адрас любві». Вы як паэт добра разумееце прыемнасць атрымаць вершаваныя тропкі душы ад калегі. А калі творы сябра выказваюць яшчэ і пэўную роднасць, блізкасць, дык прыемнасць узводзіцца «у квадрат»! Вось і зараз, калі кніжка разгорнута і я чытаю... Па тэматыцы, стылю, «ладу гуслей» «Адрас любві» вельмі набліжаецца да «Плыні», хоць раздзяляюць іх амаль трыдзесят год!

Троху дзівіць назва зборніка: занадта прэтэнцыёзная. І чаму: «любві», а не «кахання»? Ну, ды мы яшчэ пагаворым аб сутнасці, пакрытыкуем адзін аднаго. Адказваю на запытанні.

1. Новых вершаў пакуль у мяне няма. Тыя вершы, што былі ў рэдакцыі «Полымя» і не друкаваліся, зараз увойдуць, мусіць, у зборнік.

У другі нумар зборніка «Дзень беларускай паэзіі» я

адаслаў верш «Ветразь» і некалькі рамансаў. (Між іншым, трэба лепш замяніць назву: «Ветрыгон» або проста «Вецер»).

2. Справа з «Сямейнай хронікай» пакуль спынілася, бо зараз праглядаю машынапісны экземпляр ды заканчваю драму «Каля тэрасы» ў новай рэдакцыі. Праўда, у мяне напісана яшчэ столькі, колькі знаходзіцца ў Шушкевіча. Трэба толькі перапісаць.

Як разумець Вашыя словы: «Калі можам планаваць»? Збіраецеся друкаваць «Хроніку» ў «Полымі» ці асобным выданнем?

3. Цяпер пра «нафту». Браточкі! Не трэба перавялічваць маёй ролі ў справе шукання падземных скарбаў нашай Радзімы.

У свой час я працаваў як геолаг пад кіраўніцтвам праф. (а пазней акадэміка) Мік. Фёд. Бліадухо. Апрача яго, геалогію Беларусі даследавалі: праф. Лунгензгаўзен (Горкі, Акад. с.-г. навук), праф. Церлецкі (Мінск, універсітэт), праф. Касаткін (почвавед) і інш. Я рабіў маршрутныя агляды ў розных раёнах: 1) аглядаў выхады палеазоя каля Раванічаў (на усход ад Мінска), 2) шукаў граніт для Маўзалея Леніна, 3) прайшоў летам 1924 г. з двума студэнтамі ўсю рэчку Проню ад г. Горак да злучэння яе з Сожам каля Слаўгарада (б. м. Прапойск) і інш.

У 1930 г. я быў накіраваны ў Рэчыцкі р-н, разам з географам Мік. Азбукіным. Гэта быў першы, зноў-такі маршрутны пошук. Магчыма, што ў выніку яго, мы і «нашчупалі б» прыкметы нафты і было б паказана месца, дзе належала б ставіць сталую разведку. Як вядома, нашы работы (геалогія і геаграфія) былі спынены. Ні я, ні Азбукін не мелі ўжо далей ніякага дачынення да сталай разведкі нафты. Вёску Гарывада я не ведаў і не ведаю. Уся слава адкрыцця беларускай нафты належыць, безумоўна, пазнейшым, маладым геолагам. Мне было б вельмі прыемна, каб сярод іх значыўся хто-небудзь з маіх слухачоў па геалогіі і мінералогіі ў Бел. дзярж. унів.

Ці варта здымаць мяне для фільма? Думаецца, вельмі мала для гэтага «грунту». Я не пакрыўджуся, калі абмінуеце мяне. З Хімак я не збіраюся рыпацца анікуды.

Застаюся з пашанай

*Міхайла Грамыка.*

Кажаце, што мой зборнік запланаваны аж на 67-ы год? Для мяне гэта тэрмін досыць адцягнуты ў «імглу» часу...

*14. Шушкевічу С. П.*
*18 сакавіка 1966 г.*

*18/III-66 г.*

Дарагі Станіслаў!

Пішу аб сваіх справах па парадку, як у добрай канцылярыі.

1. Аб п'есе «Каля тэрасы». Тры акты перапісана на бяло. Працую над 4-м. Мяркую закончыць праз тыдзень і адаслаць І. Д. Казеку. Разам з рукапісам вышлю і друкаваны экз. дзеля параўнання. (Яго трэба вярнуць.)

Як пабачыце, новы варыянт — зусім *«новая»* п'еса. Яна больш дынамічна і псіхалагічна абгрунтавана. На маю думку, дык «К. Т.» рацыянальна было б выдаць асобнай кніжкай (як гэта і было). Чаму? Яна больш за іншыя мае п'есы падыходзіць да сучаснасці, асабліва з набліжэннем да 50-гадовага юбілею. Хутчэй за іншыя яна можа пайсці на сцэну.

Калі яе пусцяць праз машынку, добра было б зачытаць перад гуртком артыстаў і паслухаць крытыку.

2. Ці адшукаў у старым «Полымі» маю п'есу «Віно бушуе»? Калі адшукаў, што робіце з ёю? Яе разам з п'есай «Над Нёманам» можна было б пусціць у другую чаргу, г. зн. пасля «К. Т.».

Я сам не памятаю, як выглядаюць гэтыя п'есы. Экземпляр «Над Нёманам» (машынапісны) у мяне ёсць.

3. Гаварыў з табой Анатоль Вялюгін пра мой ліст да яго і пра «Хроніку»? Чаму не паспрабуеце пачаць друкаваць «Сям. хроніку» ў «Полымі»? На тваіх руках першая частка. У мяне гатова значная доля і другой (толькі перапісаць). Калі пачнуць друкаваць, я буду ахатней пісаць працяг. Трэба шчыра табе сказаць, што я зараз вельмі зацікаўлены ў ганарары. Чаму? Вось хутка прыйдзецца зноў аплаціць машыністку за п'есу, і далей. Як ні нязначная сума 25—30 руб, але для мяне яны «накладныя»! [...]

4. Калі надрукуюць 2-ю кніжку «Дзень беларускай паэзіі» — вышлі мне яе. Вышлі таксама наступныя кніжкі:

1. Бірыла Л. В. Беларуская антрапанімія. 1 р. 23 к.

2. Часопіс «Навука і тэхніка» (ці выдавецтва?). Аб некаторых асаблівасцях беларускай літаратурнай мовы. 0-68 к.

3. У мяне няма ніводнай п'есы К. Крапівы. Хацеў бы мець. І не крыўдзіся, Станіслаў, калі я вышлю табе за кніжкі нейкую суму. Ведаеш польскую старую прыказку: «Жывем, як браты, а рахуемся, як гандляры».

Ну, бывай здароў!

Прывітанне жонцы. Пацалункі дзеткам.

*Міхайла Грамыка.*

*15. Шушкевічу С. П.*
*10 красавіка 1966 г.*

*10/IV-66 г.*

Дарагі мой Станіслаў!

Дзякую за дзве кніжкі, якія мы з жонкай пачалі чытаць з вялікім інтарэсам! Праз 2—3 дні высылаю І. Дарафеевічу п'есу «Над Нёманам».

Я пісаў яму, што ўсякія справы да мяне, звязаныя з выданнем, можна перадаваць праз цябе. Гэта не азначае, што я не цаню твайго часу, а толькі тое, што ты бліжэй да мяне. Зараз я сяджу над успамінамі аб сваім удзеле ў рэвалюцыі 1905 г. у Магілёве: вельмі насядае Магілёўскі абласны музей. Як скончу, прымуся за «Хроніку». Другая частка амаль гатовая, толькі перапісаць. Пасылаць мне 1-ю не трэба.

Укладаю ў канверт некалькі здымкаў са старых фота. Рабіў таварыш нашага сына. Выйшлі не надта добра. Калі прыгатуе, надышлю яшчэ.

Толькі днямі даведаўся я, што маеш сына 31 году. Што ж маўчаў? Ад мяне мала чым адстаў: нашай Расціславе 42 гады. Але ж ты мой вучань! Напішы пра сына і наогул пра склад сямейкі сваёй. Чакаем цябе да нас. Я калі і наведаю вас усіх, дык не раней, чымся будуць надрукаваны мае зборнікі, бо пра мяне наогул забыліся, за выключэннем некалькі дзесяткаў пісьменнікаў.

Як справа з другім № «Дня беларускай паэзіі»? У рэдакцыі мае вершыкі. Даведайся, ці будуць іх друкаваць? Калі не, перадай іх у «Полымя».

Ну, усяго найпрыемнейшага.

*Міхайла Грамыка.*

*16. Шушкевічу С. П.*
*4 мая 1966 г.*

*4/V-66 г.*

Дарагі мой Станіслаў!

Узаемна вітаю з Маем з усімі належнымі добрымі пажаданнямі! Праз пару дзён адсылаю ў Магілёўскі аб. краязнаўчы музей успаміны пра ўдзел у першай рэвалюцыі 1905—1907 гг. Аб іх настойліва прасіў гэны музей. Успаміны маюць часткова белетрыстычную форму і маглі б, на мой погляд, друкавацца ў часопісе. Але, паколькі я абяцаў іх музею, то нялоўка было б абмінуць яго. Не ведаю, як скарыстае іх музей. Было б крыху крыўдна, каб іх, узяўшы што-якое, здалі б у архіў адразу. Успаміны маглі б, з другога боку, стацца дадаткам да «Хронікі».

Як ідзе справа з адасланымі ў выдавецтва «Беларусь» маімі рэчамі?

Да сёння не высылаюць машынапісны экз. «Каля тэрасы», не гаворачы пра «Над Нёманам».

Не адказваеш мне, Станіславе, і пра зборнік «Дзень белар. паэзіі».

Што зараз робіш?

Ці вызваліўся ад службы, каб цалкам аддацца літаратуры? З свайго жыццёвага вопыту магу параіць зрабіць гэта як мага хутчэй. Я змог бы ў дзесяць разоў даць больш прадукцыі і на рускай (да 1917 года) і на роднай мове, каб у свой час дайшла да майго ўсведамлення гэтая, досыць ясная «ісціна»!

Пасылаю яшчэ два здымкі ў дадатак да ранейшых. Хай будуць у тваім архіве. Можа, калі-нікалі скарыстаюць іх для выдання. Вельмі прыемна хвалюе мяне шчырая перапіска з вучнямі і, галоўнае, з настаўніцай школы ў с. Чорнае! Абяцае прыслаць мне здымкі мясцовасці, дзе я нарадзіўся. А па леце — пасылку з яблыкамі з саду, які калісьці насадзіў мой бацька!

Што да выезду ў Мінск, дык зноў кажу: не рэальна! Куды лягчэй убачыцца з вамі, даражэнькія, і прыватна з табой, тут, у мяне! Ці як цяжка вам, маладым, выбрацца ў Маскву?

Бывай здароў з сям'ёй!

Твой нязменна прыхільны

*Міхайла.*

*17. Шушкевічу С. П.*
*15 мая 1966 г.*

*15/V-66 г.*

Дарагі Станіслаў!

Лісты твае заўсёды робяць супакойна прыемнае ўражанне, не гаворачы ўжо пра каштоўнасць інфармацыі аб маіх літаратурных справах.

Крыху сумна, вядома, што друкаванне п'ес адкладаецца на доўгі час. П'еса «Над Нёманам» зараз састарэла, я згодны. Але «Каля тэрасы» ў *новым* варыянце — зусім іншае! Ці не папытацца прыстроіць яе ў які тэатр? Якраз у сувязі з 50-годдзем, яна актуальна ў новым варыянце. Што каб ты, Станіславе, аддаў адзін экземпляр машынапісны крытыку Тамары Бушко? Я прачытаў яе артыкул у «ЛіМе» «Варыянт другі Віцебскі» — і ён вельмі мне падабаўся сваёй аб'ектыўнасцю і кваліфікаванасцю ў тэатральных пастаноўках.

Мне вельмі хацелася б мець яе погляд на гэтую маю рэч. У выдавецтве зараз тры экземпляры «Каля тэрасы» з маімі праўкамі алоўкам. Вазьмі, будзь ласкавы, адзін экз., праўку зрабі атрамантам і перадай Т. Б.

Калі яна дасць станоўчы адказ, то можна было б перадаць у Віцебск Падабеду, падкрэсліўшы, што гэта *новы* варыянт. Праўда, у тэатры імя Я. Коласа сядзіць у якасці заг. літ. чалавек, які не прыхільна аднёсся да п'есы. Але і яму можна падкрэсліць, што ён не чытаў у *гэтым* варыянце. Не выйдзе з Віцебскам, можа, можна даць у трэці беларускі тэатр (дзе ён, не ведаю). Калектыў тэатра імя Я. Купалы не віншаваў мяне з 80-годдзем і туды звяртацца ці варта?

Нарэшце, можа, узяў бы п'есу і тэатр рускі, каб перакласці? (Гэта зрабіць зусім лёгка.) Вельмі будзе шкада, калі гэтая п'еса не ўбачыць падмосткаў. Я ўпэўнены, што яна будзе мець поспех. З нецярплівасцю чакаю «Полымя» з артыкулам Р. Бярозкіна. Калі ж ты, даражэнькі, наведаеш Маскву і нас?

Бывай здаровенькі!

*Міх. Грамыка.*

*18. Шушкевічу С. П.*
*25 верасня 1966 г.*

*25/IX-66 г.*

Паздароў, дарагі Станіслаў!

Адрасую на Мінск, мяркуючы, што ты вярнуўся з падарожжа.

Днямі атрымаў з Мінска два лісты, розныя па зместу і яшчэ больш розныя па ўспрыняццю.

1. З Бел. тэатральнага аб'яднання. Нам. ст.— Стэльмах Ул. піша, што атрымалі ад двух народных тэатраў прапанову выслаць ім маю п'есу «Каля тэрасы». Я адказаў, што тры машынапісныя экз. знаходзяцца ў выдавецтве «Беларусь». А надалей прапанаваў звяртацца да цябе як упаўнаважанага па ўсіх маіх літ. справах. Будзеш мець час, зайдзі па адрасу: вул. Захарава, 10/б. Гэта вельмі было прыемна мне атрымаць.

2. З Беллітфонда. Дырэктар Аллер Ф. За «бывай здароў» проста прапануе мне ўнесці да 30/X 10 рублёў за 1966 г. Ніколі, ні ад каго не чуў я пра існаванне БЛФ. У Саюз усе ўзносы за 1966 г. уплочаны. У чым справа? Я адказаў і гэтаму дырэктару ў належнай форме. Іх адрас: Мінск, ул. Энгельса, 9.

Ці выйшаў зборнік «Дзень белар. паэзіі» № 2? Калі выйшаў, будзь ласкавы, перашлі.

Як адпачываў у Кактэбелі? Што напісаў там? Твой артыкул у «ЛіМе» «А песні засталіся» добра, кваліфікавана напісаны.

У «Полымя» я паслаў два вершы. Чаму няма цябе сярод супрацоўнікаў «Полымя» на 1967 г.? Калі нарэшце я ўбачу цябе ў Хімках?

Бывай здаровенькі з усёй сямейкай.

*Міх. Грамыка.*

*19. Шушкевічу С. П.*
*15 кастрычніка 1966 г.*

*15/X-66 г.*

Дарагі Станіслаў!

Вельмі трывожыць мяне тваё маўчанне на мой ліст ад 25/IX. Ты, такі акуратны, уважлівы — і маўчыш! Ці не захварэў? Альбо вельмі заняты? Крый божа, каб не здарылася што дрэннае з табой: тады я згублю адзінага, нязменна клапатлівага па ўсіх маіх літаратурных справах сябра! Сёння атрымаў з выдавецтва экземпляр дагавора, падпісаны дырэктарам З. Матузавым. Так што справа друкавання значна рушыла наперад. Мяне цікавяць зараз такія пытанні:

1. Ці атрымалі ў БТА (Стэльмах) машынапісныя экземпляры п'есы «Каля тэрасы» (з выдавецтва) і што далей з ёю? Цікавіліся гэтай п'есай народныя тэатры ў Віцебску і Браславе?

2. Ці выйшаў зборнік «Дзень белар. паэзіі».

3. Як сябе адчуваеш? Што пісаў у Қактэбелі?

4. Растлумач мне, што за штука такая — Бел. літар. фонд.

Калі атрымаю, згодна дагавору, 25 працэнтаў за зборнік, дык абавязкова «выпішу» цябе сюды, бо вельмі хачу мецць за свайго госця. І ані не адмаўляйся, даражэнькі Станіславе!

Каб жа хутчэй здалі ў набор!

Бывай здароў з сямейкай!

*Твой Міхайла.*

*20. Шушкевічу С. П.*
*24 кастрычніка 1966 г.*

*24/X-66 г.*

Дзень добры, дарагі Станіслаў!

Дзякую за змястоўны ліст ды за клопаты аб маіх справах! Вельмі радуюся за твае літаратурныя поспехі, за плённы адпачынак у Сіняй бухце. Таксам калісь і я: большасць маіх п'ес пісалася ў летні адпачынак ад заняткаў, лекцый, дзе-небудзь на беразе мора (Адэса) або на дачы. Ніколі не было, каб я проста ляжаў дагары пупам, нічога не рабіў.

Ты калісь пісаў, нібы ў зборнік «Дзень белар. паэзіі» ўвойдуць мае вершы. Калі гэта так і яшчэ не позна, хацеў бы перамяніць назву аднаго верша — «Ветразь» — на «Зімовая пабудка».

Вельмі прашу цябе, Станіславе, і іншых, хто цікавіцца мной, як пісьменнікам, нічога не пісаць пра мяне, пакуль не выйдзе з друку мой зборнік. Хачу ведаць, як успрымуць яго настаўнікі, студэнты... без аніякіх нагадванняў! [...]

Ну, бывай здаровенькі!

*Твой Міхайла.*

*21. Шушкевічу С. П.*
*4 снежня 1966 г.*

*4/XII-66 г.*

Дарагі мой Станіслаў!

Твая «Навальніца» ляжыць на вачах у мяне.

Асабліва вольна-гучна пабудаваны вершы «Жарцікі» III раздзела. Падабаюцца таксама: «Лясное возера», «Сонца кліча», «Юным партызанам», «Звоняць бомы» і інш.

Ёсць у кніжачцы і «рыфмаваныя антыбіётыкі». Але без іх не можна!

Формай верша ты, Станіслаў, завалодаў поўнасцю. Справа зараз за вобразамі, тыпамі. Час пераходзіць да разгорнутых паэм. А яшчэ лепш — да добрай прозы. Пачынаць трэба, на мой погляд, з апавяданняў тыпу Мапасана, Чэхава. Але пра гэта сур'ёзна ў другі раз.

Днямі адаслаў у «Полымя» нешта «балладзістае» — «Сон пад буран». Перароблена з верша, накіданага яшчэ ў 1950 г. у Кіраўску.

Выпісаў з магазіна «Кніга — поштай» некалькі кніжак яшчэ 22/XI. Але дагэтуль нічога не атрымаў (наложным плацяжом).

Прачытаў у «ЛіМе» пра пленум пісьменнікаў. Вітаю абранне ў першыя сакратары Максіма Танка. Хто ж цяпер будзе галоўным рэдактарам «Полымя»? Ці не Янка Скрыган?

Вельмі прыемна чытаць, што ты актыўна выступаеш.

Я неяк пытаўся пра тваю сям'ю: колькі дзетак? Узрост? Як зваць? Дзе і як вучацца? Ведаю толькі, што ёсць дарослы сын.

Ну, заставайся здаровенькі з усёй купкай!

*Твой Міхайла.*

*22. Шушкевічу С. П.*
*11 студзеня 1967 г.*

*11/I-67 г.*

Дзень добры, Станіслаў!

[...] Учора выслаў у «Полымя» верш «Прамова». Там у іх ляжыць некалькі маіх вершаў. У 1966 г. не друкавалася нічога ўласна майго. Не лічу артыкул Р. Бярозкіна ў № 7. Да сёння не маю «ЛіМ», хоць падпісаўся даўно на год.

Не ведаю, што робіцца ў нашым літаратурным свеце.

Ці ўзяўся за што «саліднае»? Твой верш у № 12 досыць арыгінальны па канцоўцы, але я не паставіў бы яго ў рад лепшых тваіх твораў. З прозы ў апошнім № «Полымя» звяртае ўвагу Янка Скрыган («Конны двор» і інш.). Піша не кепска, але канцы вельмі «мяккія». «Лара» Рамана Сабаленкі падабаецца асабліва, што верагодна і вытрымана псіхалагічна і «ідэйна» зроблены канец.

Ну, бывай здароў, даражэнькі, як і ўся сямейка твая!

*Міхайла.*

*23. Шушкевічу С. П.*
*19 студзеня 1967 г.*

*19/I-67 г.*

Дарагі Станіслаў!

1. А вот як здарылася такая непрыемная дробязь з пераводам майго ганарару! Умовіўся я з тутэйшай ашчаднай касай, каб пратэлефанавалі, калі прыйдуць з Мінска грошы. Даў свой нумар тэлефона (74-84). Заходзіў разы два, заходзіў сын. «Нічога не атрымалі»,— кажуць. Ну я чакаю і чакаю. Злаваўся, нават лаяў бухгалтэрыю (добра, што толькі сам з сабою ды ў лісце да цябе!). Учора выпадкова заходзіў у ашчадную касу. «Грошы ляжаць ужо з 6/I», — кажуць. «Чаму ж не званілі?» — «Згубілі ваш нумар тэлефона».

Вось табе і на! Таму толькі сёння высылае Шушкевічанкам Дзед Мароз Міхайла невялічкі падарунак. Не бурчы і не набірай крыўды, бо я пакрыўджуся ў дзесяць разоў больш!

2. Адносна аўтабіяграфіі. Шчыра скажу, даражэнькія сябры мае, што надакучыла мне такая пісаніна. Іншая справа — «Старонкі сямейнай хронікі»: тут больш размаху і творчасці.

У цябе на руках пачатак. Гатовы і перапісаны і працяг. Буду прадоўжваць. Каму высылаць? Лагічна — табе, паколькі маеш ужо частку. Відаць, цікавіцца гэтай работай і Іван Дарафеевіч. Чакае чагось такога і Арсен Ліс. Добра было б, каб хто аддаў у машынапіс. Тады усе былі б задаволены. Работу машынапісную я з ахвотай аплаціў бы. Нагадваю зноў, што адрэзак часу майго жыцця (1905—1907) напісаны мной і знаходзіцца ў Магілёўскім музеі (удзел у рэвалюцыі 1905 г.).

3. Забыўся я падпісаць набраны экз. майго зборніка. Калі вельмі патрэбна, няхай Марціновіч (як яго імя і па бацьку?) вышле назад адзін аркушык, на якім трэба паставіць аўтарскі подпіс.

4. Па недагляду нашай пошты ці маскоўскага «Саюздруку» я не буду мець газеты «ЛіМ» увесь студзень. Калі ў якім нумары будзе што асобна цікавае для мяне, будзь ласкаў, прыслаць выразку. Я падпісаўся на «Полымя», «Беларусь» і «ЛіМ» яшчэ ў лістападзе на ўвесь год. Але для нашага п/а беларускія часопісы і газеты — гэта чыстая «заграніца»!

Каб канчаткова збавіцца хваробы, вытрымлівай лекарскі парадак, да часу не пакідай кватэры і ложка. У часопісе «Наука и жизнь» быў артыкул пра аспірын

(«Знакомый незнакомец»). Артыкул рэкамендуе гэты стары лек, як універсальны.

Цісну руку!

*Міхайла.*

*24. Шушкевічу С. П.*
*7 лютага 1967 г.*

*7/II-67 г.*

Даражэнькі мой дружа Станіслаў!

Сёння для мяне дзень «уздыму веры ў жыццё і людскасць», бо атрымаў даўно чаканы ліст ад цябе і такія шчырыя радкі ад Шушкевічанак!

Як гэта я, чалавек доўгага вопыту, так лёгка дазволіў сабе, хоць і на кароткі час, засумнявацца ў тым, што досыць выразна выявілася на працягу часу і ў выразных формах! Не іначай як старэчая нецярплівасць ды склератычная «фантастыка»! Ну, усё добра, што мае добры спын!

Вельмі радуюць твае літаратурныя досыць цвёрдыя крокі ў розных кірунках!

Велізарны «дзякуй» мой за «Дзень — 1966 — паэзіі». Прыгожа выдалі кніжачку. Прыема ў ёй мець свой куточак, хоць і значна «абкургузілі» мой верш «Вецер». Трымаюся зноў за аўтабіяграфію выключна з павагі да паўторна выказанага жадання Івана Дарафеевіча Казекі.

Вітаю ўсю працоўную сямейку тваю, а маладзейшых моцна цалую!

*Міхайла.*

*25. Шушкевічу С. П.*
*9 сакавіка 1967 г.*

*9/III-67 г.*

Дружа Станіслаў!

Газету «ЛіМ» пачалі дастаўляць з № 18—19 пакуль акуратна, болей аб ёй не клапаціся. Атрымаў і «Полымя» і «Беларусь» за люты. Усе высланыя табой №№ «ЛіМа» і «Голас Радзімы» атрымаў, вельмі дзякую за іх. Твае артыкулы прачытаў з ахвотай — добра!

Жонка мая з 1922 г. (гл. аўтабіяграфію). Лідзія Іванаўна. Дачка Расціслава ўрач-тэрапеўт, нарадзілася ў Мінску, у 1923 г. Другая — Марына доктар гістарычных навук, нарадзілася ў 1927 г. Жыве ў Новасібірску. Сын Барыс жыве з намі, нарадзіўся ў Запаляр'і ў 1933 г.,

студэнт авіяінстытута. Унук Станіслаў — 21 год, студэнт, другі — Аляксей у 3 г. (Марынін сын). Унучка Таццяна — 4 г. 5 мес., як і Станіслаў — Росціны дзеці. Пішы.

*Міхайла.*

*26. Шушкевічу С. П.*
*16 сакавіка 1967 г.*

*16/IV-67 г.*

Дарагі Станіслаў!

Дарэмна клапоцішся высылаць мне нумары «ЛіМа», у якіх надрукаваны твае рэчы: вершы, апавяданні, артыкулы. Зараз дастаўка пайшла акуратна, і калі ёсць што тваё ці іншае для мяне цікавае, я абавязкова выразаю і хаваю ў папку.

Тваё сібірскае апавяданне для пачатку не кепскае. Але трэба працаваць і працаваць над стылем. А. П. Чэхаў раіў вучыцца па лермантаўскай «Тамані». У чым справа? На маё разуменне галоўнае ў тым, каб не раскідацца ў аповесці, не ахопліваць адразу шэраг здарэнняў: і рэчка сібірская, і барацьба з быстрынёй плыні, і вынаходка кам. вугалю, і заданне на разведку, і новыя людзі... Калі на беразе рэчкі, дык падай усе часткі сутак, раніцу, поўдзень, вечар, поўнач, але *дасканала*, падрабязна! І людзей — таксама дасканала. Хоць і коратка аб кожным. Успомні «Стэп» Чэхава або «Стары і мора» Хемінгуэя.

Прабачай за гэты «настаўніцкі» тон. Я сам вельмі слабы апавядальнік, хоць і напісаў (па-руску) дзесяткі сшыткаў, цэлыя «раманы»...

Калі бачышся з Арк. Марціновічам, то ад яго, мусіць, даведаўся пра «візіт» да нас у Хімкі, ды пра сустрэчу 6 красавіка ў Доме пісьменнікаў. Толькі ты не з'яўляешся ў Маскву і да нас.

Вельмі шчыра сустрэліся мы з Максімам Танкам. Прыемны чалавек, такі просты, сціплы, не гледзячы на грамадскі і літаратурны стан!

Чакаю не дачакаюся выхаду ў свет майго зборніка.

Прачытай у рэдакцыі «Полымя» мае рукапісныя вершы. Адчуваю, што друкаваць іх не будуць.

Пішы наогул «творы» і мне пішы, і бывай здаравенькі з усім сваім «гнездаваннем».

*Твой Міхайла.*

Добра, што ты перапісваешся з маімі «чэрняцкімі» і трымаеш іх на належным узроўні.

*27. Шушкевічу С. П.*
*16 мая 1967 г.*

*16/V-67 г.*

Даражэнькі мой Станіслаў!

Нарэшце атрымаў я свой зборнічак. Прыслаў мне яго Арк. Марціновіч. Вось жа прыгожая, прыемная надта кніжачка!

Я паслаў падзячны ліст усім траім, што мелі дачыненне да выпуску яе.

А пра свайго Станіслава і забыўся?

Ані, ні на момант!

Няўжо мне не зразумела, што без твайго сяброўскага і гаспадарскага вока кніжка яшчэ далей затрымалася б, ды і выглядала б, мусіць, не так!

Мы ж умовіліся, што ты там, у Мінску, для мяне ў асаблівым стане і на асобным «рахунку».

Чакаю ад Арк. Ніч. яшчэ 8 экз. аўтарскіх. [...]

Калі ж, Станіславе, нарэшце з'явішся сюды, каб пазнаёміцца па-настаяшчаму?

Мне ў Мінск ехаць вельмі складана, нават рызыкоўна. Ды і час для візіту не зусім адпаведны, бо там будуць адзначаць адзін юбілей за адным. Я буду выглядаць, як «прышый кабыле хвост». [...]

А мне так хочацца пабачыцца з табой, пакуль яшчэ жывы! (Нагадай Язэпа Сушынскага, майго аднагодку!)

Ну, бывай здаровы з усёй сваёй дружнай сямейкай!

Ад жонкі, сына шчырае прывітанне.

*Міхайла Грамыка.*

*28. Шушкевічу С. П.*
*2 ліпеня 1967 г.*

*2/VII-67 г.*

Дарагі Станіслаў!

Пазнюся з адказам на твой ліст ад 9/VI з дадаткам карэктарскага экз. артыкула Р. Бярозкіна. Збіраўся пісаць пасля палучэння нумара «Полымя», але не сцярпеў. Я ўпэўнены, што не абышлося тут без цябе, як і ў іншых маіх літаратурных справах. Ты, Дубоўка, Ліс, Глебка, М. Танк, рэдакцыя «ЛіМа», некаторыя яшчэ — вось сумленныя і шчырыя да мяне землякі. [...]

Скажы яму пры сустрэчы, што, чытаючы яго артыкул, я некалькі разоў... словам, расчуліўся стары!

Гэты артыкул, аб'ектыўны пры прыхільнасці, кваліфікаваны, і ёсць тое, чаго я доўга чакаў. І я магу паўтарыць словы біблейскага старца:

«Ныне отпускаеши раба твоего...»

Гэта азначае: цяпер змагу без крыўды, спакойна легчы пад тую коўдру, якая ўжо ніколі не скідаецца!

Як з п'есай «Каля тэрасы»?

Дакучаю я табе, Станіславе, даражэнькі!

Бывай здароў!

*Міх. Грамыка.*

*29. Марціновічу А. Н.*
*20 ліпеня 1967 г.*

*20/VII-67 г.*

Дарагі Аркадзь Нікіфаравіч!

Атрымаў «Прасеку», за якую трымаюся. Што да маіх п'ес, то «Каля тэрасы» ці цяпер ляжыць у рэдакцыі выдавецтва? Я тады ж прасіў аддаць яе ў машынапіс з маёй аплатай, вядома. Дырэктар Віцебскага абласнога Д. Н. Тв. (Сакалова Г. А.) пыталася аб гэтай п'есе па заяўках некаторых народных тэатраў. Я накіраваў Сакалову ў выдавецтва. З тых часоў з п'есай ані ўзад ні ўперад!

Здаецца, Іван Дарафеевіч інфармаваў мяне (калі толькі ішла гаворка аб маім зборніку), што п'есы ў сучасны момант друкуюцца толькі тыя, якія ставяцца на сцэне. Калі гэта застаецца ў сіле, то добра было б, каб які тэатр прыняў бы яе да пастаноўкі. Тады лягчэй было б і ў друк. П'еса «Каля тэрасы» юбілейная, актуальная.

Другая п'еса «Над Нёманам» ляжыць у мяне. Умомант магу выслаць яе (машынапісны экз.). Другі экз. знаходзіцца ў архіве тэатра імя Я. Купалы. Уся бяда, што я жыву далёка ад усіх належных «кропак». Прыходзіцца звяртацца да сваіх сяброў-прыхільнікаў. А іх у Мінску у мяне небагата: ты, дарагі Аркадзь Нікіфаравіч, ды Шушкевіч Станіслаў, на карак якіх дазваляю сабе сесці.

Ну, вось! Заставайся здаровенькім. Жадаю і далей плённай творчай працы.

*Міхайла Грамыка.*

*30. Марціновічу А. Н.* *30/VII-67 г.*
*30 ліпеня 1967 г.*

Даражэнькі мой Аркадзь Нікіфаравіч!

[...] Чытаю «Прасеку». Падабаецца «Выбух» за драматычную канцэнтраванасць і адсутнасць залішняй «чарнаты» і крыві. Не кепска таксама «Белае воблачка». Буду чытаць далей. Надрукаваныя раней у «Полымі» аповесці крыху слабейшыя.

Бывай здаровенькі і творча мацней!

Ад сям'і прывітанне.

*Міх. Грамыка.*

*31. Шушкевічу С. П.*
*24 жніўня 1967 г.* *24/VIII-67 г.*

Дарагі Станіслаў!

Дзякую за прыемную інфармацыю, але сэнс яе да канца я не ўхапіў.

1. Якія гамяльчане і ў якой форме «не забываюцца» пра мяне?

2. Хто напісаў артыкул пра мой зборнік і «якімі днямі» ён будзе надрукаваны ў «ЛіМе»?

Добрую і праўдзівую рэцэнзію даў у «Полымі» Міхась Стральцоў пра твае дзіцячыя вершы.

Вельмі радуе мяне, што ты ўсё вышэй падымаешся па сцежцы на Парнас.

Маёй сястрыцы падабалася гравюра — Фр. Скарына перад друкарскім станком.

Укладзі ў канверт штук пяць такіх паштовак. Калі нарэшце зазірнеш?

Прывітанне тваёй сямейцы.

Бывай здаровенькі!

*Міх. Грамыка.*

*32. Шушкевічу С. П.*
*2 кастрычніка 1967 г.* *2/X-67 г.*

Дарагі мой Станіслаў!

Колькі вады прайшло праз мой жыццёвы «ставок» з тых часоў, як мы абмяняліся апошнімі лістамі! Пасля 13 верасня я са старога, хранічна хворага чалавека стаўся апроч усяго інвалідам. Каротка: выявілася вельмі пашырана (я і не ведаў) хвароба мужыкоў (старых да 70 працэнтаў і сярэдніх гадоў да 40 працэнтаў). Не ці-

кава апісваць усе фазы папярэдніх доследаў, даведак і аналізаў, вельмі балючых! Нарэшце мне зрабілі аперацыю, прарэзалі дзіру ў поласць пузыра і ўставілі вывадную трубку. Цяпер урына ідзе, мінуючы натуральны канал.

Праляжаў я ў вядомай маскоўскай «второй городской больнице» (уралагічны інстытут) з 12 па 27 верасня. Зараз дома.

Першыя тыдні ўсё было добра. Але ноч з 1-га зрабілася для ўсіх, хто быў пры мне (Л. Ів., дачка Расціслава, сын Барыс, унучка Танечка 5 г.) напружанай, бяссоннай. Два разы вызывалі карэту, каб спыніць крываток з трубкі. Два разы да рання дачка і сын хадзілі ў нашу бальніцу і раіліся з дзяжурнымі дактарамі: у якую бальніцу пакласці, адвезці мяне. Барыс прывёў быў і таксі. Але раптам кроў спынілася, і я застаўся на сваім добрым ложку!

І вось панядзелак, аўторак — крыві няма. Дачка дае лекі, робіць з сынам перавязкі. Як будзе далей — Зеўс з Аллахам ды з Пярунам адно ведаюць!

Вось які нецікавы ліст накідаў я табе, дружа!

Хацелася з вамі, маімі роднымі сябрамі, падзяліцца сваёй бядой-горам.

Але досыць. Багата людзей, не горшых за мяне, перажываюць і яшчэ горшае. Панагледзеў я іх за гэтыя дні!

II/X. Зноў прайшло праз ставок досыць струмнай вады! Зноў бальніца, тая ж палата № 2, знаёмыя мужыкі — церпяліўцы! Зноў Расціслава вязе мяне туды і назад.. Туды — у карэце сваёй бальніцы, у якой я ляжу, як на ложку, ухутаны ў коўдру. (Гэта было 5-га.) Назад — учора, 1-га. У чым справа? Пузыр з урынай зноў пачаў крываточыць і напужаў у першую чаргу Расціславу. А можна было б і не пужацца, бо і тут, на месцы, зрабілі б амаль тое самае, што і ў бальніцы. Праўда, тут было больш кваліфікацыі. А гэта само па сабе супакойвае людзей. Адно: у бальніцы мне, апроч усяго, змянілі трубку. Гэта робіцца раз у 3—4 тыдні. Пакуль усё добра, дзякуй невядомаму духу Жыцця! Зноў свой ложак, свой пакойчык!

Дома я ўбачыў прысланыя табой два часопісы. Прачытаў твае кароценькія, але добрыя вершы. Пра зайку і яго таратайку вельмі дойдзе да дзетак. Сатыры ў «Вожыку» таксама і досыць прыцэльныя, і досыць гучныя.

Не менш за твае вершы быў бы рады прачытаць і твой ліст, напісаны звычайнай, эпісталярнай прозай, які расказваў бы мне, напрыклад:

1. Хто твой зяць? 2. Як пачалі агульнае жыццё маладыя? 3. Ці кінуў ты штодзённую службу і над чым працуеш? 4. Як чытаецца мой зборнік і ці разыходзіцца больш-менш? 5. Ці збіраешся ў Маскву?

З Гомеля пішуць мне, што ў кнігарнях майго зборніка і няма, і не было, што наогул на беларускай мове ніхто не чытае.

Прывітанне ўсёй тваёй сямейцы ад усёй маёй!

Бывайце ўсе здаровенькія, багатыя нашым добрым смачным хлебам ды салам нашым хоць халодным са склепу, хоць гарачым з патэльні!

*Твой Міхайла.*

*33. Шушкевічу С. П.*
*29 кастрычніка 1967 г.*

*29/X-67 г.*

Дарагі Станіслаў!

Адначасова з гэтай паштоўкай кідаю «авія» — пасылаю ў рэдакцыю «ЛіМа» (Пашкевічу) верш, прысвечаны Кастрычніку. Вазьмі клопат прасачыць за ягоным лёсам і інфармаваць мяне. Нязменна чытаю твае артыкулы, рэцэнзіі, нататкі, не гаворачы пра вершы. Пашана тваёй рознабаковасці і працаздольнасці!

Віншую са святам!

Прывітанне ад усёй маёй сям'і ўсёй тваёй!

*Міхайла.*

*34. Шушкевічу С. П.*
*2 снежня 1967 г.*

*2/XII-67 г.*

Дарагі Станіслаў!

Мусіць, вельмі заняты творчымі ўздымамі, калі не маеш часу чырканўць хоць разок у тыдзень? Я быў бы вельмі задаволены, каб ты ўзяўся за значную тэму і разгарнуў яе ў раман.

Учора перад сном перачытваў вершы Якуба Коласа (зборнік «З майго летапісу» — характэрны для Коласа загаловак!). Вершы нашаніўскага часу і да 1917 года — звычайныя па тэматыцы для таго перыяду, слабейшыя за купалаўскія і багдановічаўскія, ёсць цеплыня, шчырасць... Вершы апошніх гадоў ёсць вельмі добрыя, па

форме значна больш апрацаваныя за ранейшыя. Абурэнне ад захопу Радзімы фашыстамі, заклікі да змагання і помсты... Шчыра напісаны лірычныя звароты да сябра, да жонкі... Падабаецца мне «Песня на сон у бяссонне» — арыгінальна і цёпла! [...]

Ад Гілевіча Н. атрымаў ліст пра мой апошні верш. Значыць, спадабаўся. Ну, не бяда! Калі пабачыш яго, перадай маю падзяку за ўвагу і добрыя пажаданні.

Каторы раз пытаюся, як разыходзіцца мой зборнік. Мусіць, ляжыць сабе спакойна на паліцах кнігарняў! Нічога не пішаце мне, каму высылаць працяг «Хронікі». Ці ж пакрыўдзішся, калі я вышлю ў архіў Саюза пісьменнікаў? Думаецца мне, што гэта будзе найлепей. Хто захоча, зможа скарыстаць з часам гэты матэрыял.

Хацелася б папоўніць сваю беларускую бібліятэчку. Вось у першую чаргу — у мяне няма «У палескай глушы». Каб ты ўзяў на сябе перасылку? Не чытаў «Сэрца на далоні», «Людзі на балоце». Вядома, усё будзе аплочана.

Мой стан здароўя не змяніўся. Пакуль не выходжу, хоць доктар і патрабуе.

Часам бываюць вельмі сумныя гадзіны. Нейкая паняверка...

Ну, бывай здароў, дружа!

Сямейка твая — таксама!

*Міхайла з-пад Рэчыцы.*

*35. Шушкевічу С. П.*
*12 студзеня 1968 г.*

*12/I-68 г.*

Дарагі мой Станіслаў!

Дзякую за ліст ад 9/I. Усе кніжкі, што высылаў ты, атрыманы, і за іх таксама вельмі дзякуй!

Твае перакладныя вершы даю чытаць унучцы Таццяне (5 г. 4 м.) і другой не роднай унучцы (у 3-м класе). Ці выдадзены гэты зборнік па-беларуску?

Прачытаў уважліва «На ростанях». Праўдзіва, проста напісана. 1-я частка (пісалася ў 22—23 гадах!). Уважліва-наглядальна пададзены замалёўкі палескай прыроды. Няблага намечаны людзі і быт. Але ўсё абрываецца і нічога закончанага не застаецца. Другая частка значна слабейшая. [...]

Іншае ўражанне ад аповесці Івана Пташнікава (беларус?) «Тартак» («Полымя» № 12 1967 г.). Тут і ары-

гінальнасць пісьменніцкай манеры, стылю... Тут і багацце мовы (хоць для мяне — гамяльчаніна — магілёўца досыць першачутных слоў). Месцамі, здаецца,— паўтарэнні. Але — не! Нешта кожны раз новае ў гэтых перажываннях і прыгодах людзей, якія ідуць і ідуць з нейкім «абозам»... Ідуць кудысь на «Тартак» — нешта і рэальнае і разам з тым жудасна-казачнае, як і *ўся вайна!* І добра ў яго, што няма пакуль што (бо прачытаў 80 ст.) геройскіх подзвігаў, а толькі сляпая, інстынктыўна-моцная барацьба за жыццё! Аповесць без сораму можна перадаць за межы Айчыны!

За гасціннае запрашэнне ў Мінск (на «твой дзень» — 19 лютага!) і то вельмі дзякую, але...

Я ёсць сёння і заўтра — хронік-інвалід на ланцужку (бутэлька на шыі... ды не пад гарэлачку, якую так паважаў коласаўскі Лабановіч і яго сябры!). Трубка ў чэраве. Пытанне аб працягу аперацыі застаецца нявырашаным. Рызыка перайсці ў нябыт пад агульным наркозам або пасля аперацыі праз тыдзень-месяц, бо старыя «клеткі-цысты», старыя органы 82-гадовага Міхайлы наўрад ці вытрымаюць шэраг мучэльных працэдур, звычайных пры аперацыі адэномы. Вось чаму мяне вельмі ажыўляе і радуе кожны візіт, кожнае наведванне мяне тут, у Хімках. І я чакаю — і няўжо не дачакаюся? — бачыць у нас таксама «за сталом» такога пажаданага госця, сябра, як Станіслаў, сын Пятровіч?!

Тым часам заставайся заровенькі з усім сямействам!

*Міхайла Грамыка.*

*36. Шушкевічу С. П.*
*15—16 сакавіка 1968 г.* *15—16/III-68 г.*

Даражэнькі мой колішні вучань,
сучасны шчыры сябра Станіслаў!

Атрымаў ад цябе і газеты, і часопісы, і лісты, і сеў за адказ.

Ці трэба падкрэсліваць, што дагэтуль радуюся тваім радасцям у сувязі з юбілеем тваім? Ты нібы ўвайшоў на гару, адкуль і цябе лепш пабачылі тыя, што не звярталі яшчэ належнай увагі на разварот плячэй нашага разнаграннага пісьменніка, ды і твае кругавіды раздаліся праз заслужаную ўвагу нашай грамадскасці.

Мой віншавальны ліст, накіраваны якраз пад 19 лю-

тага, не дайшоў, мусіць. Гэта дробязь у параўнанні з грамадскай увагай, але ўсё ж шкода.

Мы сардэчна крануты запрашальнай запіскай на 8-ю гадзіну 24 лютага. З вялікай прыемнасцю павячэраў бы я за адным сталом з юбілярам ды з сотняй дарагіх землякоў! Але што ж ты зробіш! Малайцы вы абодва з паважанай Кацярынай, што разгарнуліся частаваннем, нібы беларуска-літоўскія ваяводы. Так і трэба: грай, скрыпачка, грай, бі ў бубны, бі, сучасная Беларусь!

Адно мяне ўводзіць у пэўны сум. Я ўяўляў тваё аблічча, як яно дадзена на запрашальных картках Саюза. Але ў газетах ты пададзены іншы. Юбілейныя гады твае не такі век, каб «пасталець». Трымайся за волю ў жыццё: не меней як яшчэ 20 гадоў творчага плёну! Апавяданне «Воўчыя слёзы» ясна гаворыць, што «даспеў», як празаік. Толькі апошняя парачка радкоў крыху не стасуе да мастацкага, наогул стыльна і псіхалагічна вытрыманага твора. Трэба, каб што-якое засталося «дараблядць» чытачу. Хай ён сам уяўляе сабе, што б далей зрабіў герой, каб... і г. д. Такія парады даюць і Тургенеў, і Чэхаў у сваіх лістах да пісьменнікаў. Ну, ды гэта дробязь.

Наконт «Полымя». Я выслаў 14/III ліст да адказнага сакратара Бачылы. Падаў тут у п/а запытальную паштоўку. Што робіцца з маім Гомлем? Ні ў адной кнігарні, ні ў бібліятэках і не чулі пра мой зборнік. [...] Нагострой мой нагадвае (не праз «пясочак»!) хвалі: або «горою підимо», або «до долу вербы гне». А да долу ўжо недалёка...

Ну, бывай здароў фізічна, а творчага парывання, дзякуй нашаму богу, бачу, што хапае!

Прывітанне шаноўнай Кацярыне і ўсяму «зялёнаму» твайму галлю!

*Міхайла Грамыка.*

*37. Шушкевічу С. П.*
*4 красавіка 1968 г.*

*4/IV-68 г.*

Дарагі Станіслаў!

Атрымаў тваю першамайскую паштоўку. Дзякуй за ўвагу! Але не яе чакаў я ўжо досыць здаўна. Гэтыя агульныя добрыя пажаданні — даніна ўмоўнасці і традыцый — не дае таго, чаго чакаеш ад сябра.

Як ён жыве? Чым дыхае ў сучассі? Над чым працуе яго пісьменніцкае пяро? Як сям'я, сябры і г. д.?

На пасяджэнне ў Саюзе пісьменнікаў (23 красавіка) я атрымаў вельмі прыхільнае сяброўскае запрашэнне ад М. Гарбачова. Але ніяк не змог выехаць з Хімак на значны час праз складанасць апранання і далейшых паводзін па-за кватэрай (бутэлька на шыі ды і інш.).

Але ж вельмі хацелася пабачыцца з нашымі пісьменнікамі! І прасіў жа я ў адказным лісце, каб наведаў мяне хоць бы хто з іх. Ані адзін не адгукнуўся! Ды чаго ты, стары Міхайла, дамагаешся? Каму цікава гутарка са старым ды хворым? Ды яшчэ ехаць кудысь у Хімкі нейкія... (Хоць можна за 25 мінут даехаць ад Маскоўскага да Хімкінскага вакзала!) [...]

З вялікім задавальненнем перачытаў вершы Ф. Багушэвіча — тое, што надрукавана ў тым т. «Анталогіі». Які быў гэта моцна прымацаваны да народа свайго беларусін! Дый мове ягонай можна з карысцю вучыцца да нашых дзён!

Добра напісаны аповесці М. Гарэцкага. Кніжку яго мне пераслаў акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Праўда, занадта ж багата (трэба кінуць частае ўжыванне слова «шмат»: яно проста «шматуе», ірве на шматкі нервы!) у Максіма слоў вузка мясцовага «арэала» (з-пад Мсціслаўля).

У свой час досыць начуўся нашай мовы ад Гомеля да Оршы, асабліва ў Быхаўскім і Магілёўскім раёнах. Дык жа паважаны пісьменнік карыстаецца такімі словамі, якіх я ані слыхам (?) не чуў і ў вочы не бачыў!

Чаму пайшло зараз «слых» заместа «слух»? Нібы няма ў нашай мове: «слухаю», «паслухмяны», «слушна» і г. д.?!

Ну, але ж тым часам — бывай здаровы з сямейкай сваёй і плённы на паперы!

*Твой Міхайла з-пад Рэчыцы.*

*38. Шушкевічу С. П.*
*28 чэрвеня 1968 г.*

*28/VI-68 г.*

Дарагі Станіслаў!

Перадай, калі ласка, зборнік па прызначэнню.

Пісьменніцкага білета пакуль не атрымаў.

«Беларусь» выслалі № 6 чэрвень.

Малайчына ты, што плённа аб'язджаеш гарады і весі

роднай краіны. Вандруй, вывучай, сей «нашае добрае, адвечнае», пакуль сілы ёсць, галава і ногі, і вантробы робяць сваю справу!

Заставайся ані на каліва, ані на валасок хворым!

*Міхайла.*

Уся нашая сямейка ўзаемна вітаюць караткачаснага, але прыемнага госця і чакаюць зноў.

*8—9/VII-68 г.*

Станіслаў падумае нічога сабе пастскрыптум з інтэрвалам у дзесяць дзён!

Так і ёсць, даражэнькі: дзесяць дзён вандраваў зборнік з лістом у партфелі нашага Барыса!

Да сёння быў у мяне вельмі песімістычны настрой. Прычын — досыць. Але сёння разгарнуў «ЛіМ» за 9 ліпеня і «...узрадавалася сэрца маё і дух мой возвесяліхся!».

Вельмі, вельмі дзякую табе, Станіславе, бо без твайго 90-працэнтнага ўдзелу не бачыў бы я гэтых слупкоў у газеце. Падзякуй за мяне (і ад мяне?) таксама і Марціновічу.

Членскі білет атрымаў. Зноў-такі: дзякуй!

Яшчэ раз усяго найдабрэйшага!

*Міхайла.*

Атрымаў «ЛіМ» ад 5-га ад цябе, дзякую! Болей не трэба.

*39. Шушкевічу С. П.*
*17 верасня 1968 г.*

*17/IX-68 г.*

Дарагі Станіслаў!

Выслаў табе 5 фота з аўтографам. Адзін належыць асабіста табе. Іншымі распараджайся на свой план.

Што чуваць з перакладам п'есы «Каля тэрасы»?

Працягваю хроніку, але вельмі марудна. Каб ведаць, што яна пойдзе ў друк, то, мусіць, шпарчэй пайшло б. Халады адбіваюць ахвоту сесці за лісты паперы. А ў ложку — хутчэй пад коўдру!

Эканомім на ацяпленні, стыхійная бяда. У такія дні з замілаваннем успамінаюцца добрыя сялянскія печкі, ляжанкі, грубкі... Можна час ад часу ўключаць электрапеч. Але ці ж параўнаць!

Добрую кніжачку склаў ты, сапраўды няспынны пісьменнік і грамадзянін. [...]

Чытаю аповесць Грамовіча «Далі сабе слова». Рэч

змястоўная. Закранае багата сучасных пытанняў сямейнага і грамадзянскага парадку. Але мова вельмі ж «шарпатая». Яна і не «народная», спрошчаная, ды і не надта літаратурна апрацаваная. Але ці ж мне, адарванаму ад Айчыны, крытыкаваць мову нашых сучасных пісьменнікаў!

Шчырае прывітанне і падзяка ад усяго нашага сямейства за добры нарыс пра мяне! Як твая сямейка? Бывай жа здаровы на безліч гадкоў ды каб працавалася з плёнам.

*Твой Міхайла.*

Калі, нарэшце, вы, нашыя родныя, шаноўныя пісьменнікі, спынецеся «шматаваць» (па-руску: рвать на клочья) нашую багатую мову? Злоўжываючы без патрэбы абмежаванае па асноўнаму значэнню непрыгожае слоўка «шмат» (клок, клочья)? Ці ж няма ў нас «многа», «багата», «безліч» і г. д.? Які праўдзівы беларус-селянін казаў калі: «На кірмашы было шмат (?!) народу», «У дзядзькі Петруся шмат грошай»? А тут на табе: «шматграннае мастацтва». Прыгожа?!

*40. Шушкевічу С. П.*
*27 кастрычніка 1968 г.* *27/X-68 г.*

Даражэнькі наш Станіслаў!

Падкрэсліваю «наш», бо не толькі мяне аднаго ўздымае на радасць амаль кожная вестка твая, але і ўсё сямейства нашае.

Сапраўды: «Гомельская праўда»... Разгортваем — ёсць, памінаецца стары Міхайла!

«Вячэрні Мінск»... Не толькі артыкул, але і фота, ды не абы-якое, а сядзіць за «творамі» пісьменнік! І хто ж руку прыклаў да ўсяго такога прыемнага? Ды што — руку! Прыкладзена сяброўская цеплыня, шчырасць, павага! Чым адкажам Станіславу Шушкевічу? Хіба толькі згуртаванымі ад усёй сямейкі нашай такімі ж самымі пачуццямі! Наша галоўная гаспадыня Л. Ів. падкрэслівае, што нарысы твае пра мяне не толькі ўважліва, але прыгожа, таленавіта напісаны.

Перадай, калі ласка, маё адказнае прывітанне ўсім братам-пісьменнікам, якія не забываюць мяне. У «ЛіМе» (№ 85) надрукаваны артыкул С. Міско — «Крокі станаўлення», разбор кніжкі А. Семяновіча пра гісторыю нашага тэатра. На маё здзіўленне ўбачыў я і «М. Гра-

мыка» (побач з Ул. Галубком). Гэта ўпершыню даследчык Семяновіч успомніў забытага і выкінутага са спісу драматургаў іншымі даследчыкамі нашага тэатра Міхайлу Грамыку! Ці не змог бы, даражэнькі Станіслаў, пераслаць мне гэтую кніжку?

Цікавяць мяне пытанні:

1. Як разыходзіцца мой зборнік?

2. Ці зачытваюць часам дакладчыкі некаторыя мае творы і як рэагуюць слухачы?

3. Ці даваў ты чытаць каму маю «Хроніку»?

Бывай здаровенькі з усёй сямейкай!

Ад Л. Ів. і Барыса шчырае прывітанне.

*Твой Міхайла.*

*41. Шушкевічу С. П.*
*30 лістапада 1968 г*

*30/XI-68 г.*

Дарагі Станіслаў!

Вельмі хваляваўся я, не маючы ад цябе такі працяглы час ані гуку. Што здарылася з маім, такім акуратным, не гультайным «чычэроне» па літаратурных лабірынтах і калізеях? Ці не хварэе моцна? Прачытаўшы ў «ЛіМе» тваю заўвагу пра кніжку М. Гарэцкага крыху супакоіўся. Але зноў-такі, заўвага магла пісацца раней...

Спадзяюся, што ніякае «блага» (у нашым не старaславянскім разуменні) не закранула цябе. Чакаю з нецярплівасцю тваіх радкоў.

У сувязі з хранічнай хваробай насоўваюцца часам змрочныя думкі і развагі вельмі песімістычнага кірунку. Вось тады нават невялічкая заўвага пра мяне ў нашым друку падбадзёрвае і вяртае да жыцця-сцвярджэння! Напрыклад, радкі артыкула пра кнігу Семяновіча (пра наш тэатр, «Полымя», № 113). Нарэшце не толькі мой вызваленца з літаратурнага ( і асабліва тэатральнага) палону Ст. Ш., але і іншыя ўспомнілі «пахаванага» Міх. Гр.!

Ці ж не прыемна да ганарыстасці параўнанне «Каля тэрасы» з «Разломам» Б. Лаўранёва?!

Каб дастаць кнігі пра наш тэатр! [...]

Калі ў цябе ўсё добра (хай вартуюць нас старажытныя багі!), дык дазволь ускласці на твае плечы торбачку з такім даручэннем:

Падпішыся на год на «Полымя», «Беларусь» і «ЛіМ».

З гэтым я крыху спазніўся і баюся, што праз «Саюз-

печать» можа стацца, як у мінулым годзе. Грошы на падпіску вышлю днямі, але не пазней 8 снежня. Ад усёй сям'і шчырае табе прывітанне!

Заставайся здаровым ды радасна працаздольным, як і ўся сямейка Шушкевічаў.

*Твой Міхайла.*

*42. Шушкевічу С. П.*
*7 снежня 1968 г.*

*7/XII-68 г.*

Дарагі Станіслаў!

Вялікае дзякуй за кнігу Семяновіча! Аўтар удзяліў Міх. Грамыку досыць увагі. Шкада толькі, што перад ім ляжаў па ўсіх адзнаках крытыкі друкаваны калісь экз. «Каля тэрасы». Як табе вядома, я значна перарэдагаваў п'есу. Чаму не трапіў да Семяновіча рукапісны (або машынапісны) экземпляр? Так ці іначай, але падзякуй яго ад майго імя.

Я і сам бы напісаў Семяновічу, ды не ведаю ягонага адрасу.

Вельмі цікавае фота «старых» маладнякоўцаў. Пакуль не разбярэшся, што на ім усе слухаюць М. Лынькова, дык дзіўным могуць здацца выразы твараў пісьменнікаў.

Настрой у мяне вось ужо некалькі дзён вельмі дэпрэсіўны з розных асабістых прычын... Спадзяюся, што пройдзе.

Заўтра высылаю табе грошы за падпіску і кнігу. Выбачай за клопаты.

Што зараз у цябе пад пісьменніцкай рукой? Мусіць, усе вы рыхтуецеся да юбілею.

Добра піша мой зямляк па Гомельшчыне І. Шамякін. Чакаю працягу яго рамана (ці аповесці?).

Бывай здаровы з сямейкай!

Прывітанне ад нашага сямейства.

*Твой Міхайла.*

*43. Шушкевічу С. П.*
*10 сакавіка 1969 г.*

*10/III-69 г.*

Дарагі Станіслаў!

Ліст твой ад 3/III атрымаў. Я таксама быў занепакоены тваім доўгім маўчаннем.

Інфармацыя пра чарнянскіх краязнаўцаў вельмі пры-

емна мне. Твая няспынная ўвага да маёй п'есы, як і наогул да маёй «творчасці», ужо неаднойчы адзначалася ў маіх лістах да цябе ў форме перманентнай падзякі.

Але вось у чым справа.

Якія экземпляры п'есы «К. Т.» фігуруюць там у вас (у перакладчыка, у тэатральным аб'яднанні і г. д.)? Я даўно дамагаўся ад цябе адказу, але да сёння не маю яго. Ёсць надрукаваная мая п'еса «К. Т.» яшчэ да вайны. І ёсць (павінна быць!) перароблены *значна* (!) рукапісны экземпляр. У свой час я адаслаў яго табе (або ў рэдакцыю выдавецтва?). Ці быў гэты рукапіс пад машынкай — не памятаю. У свой час запрашаў мяне пра гэту п'есу і тэатр імя Я. Коласа. Я тады накіраваў іх у Мінск, да цябе. Калі зараз мае хаду *стары* варыянт, дык гэта было б для мяне *вельмі непрыемна*! Тваё маўчанне прымушае мяне насцярожыцца (аж да забароны!).

І другое.

Я з усёй сяброўскай душэўнасцю адчыненай шчырасцю пераслаў некалькі вершаў па-руску. Ты пішаш, «...прачытаем, абмяркуем...». Вершыкі гэтыя глупства, дробязь. Але чаму маўчанне больш за месяц замест адказу на шчырасць шчырасцю?! Калі дажыву, хацеў бы пабачыцца з табой улетку. За тваімі выступленнямі і друкаванымі, і вуснымі сачу і радуюся. Вельмі добра перакладзена крылоўская байка. «Шынель» — так сабе. Бывай здаровенькі, вядома, з усёй сям'ёй.

Ад маіх — падзяка за незабыўнасць.

*Твой Міхайла.*

*44. Шушкевічу С. П.*
*25—26 сакавіка 1969 г.*

*25—26/III-69 г.*

Дарагі Станіслаў!

Твой ліст супакоіў і падбадзёрыў мяне. Магу толькі падзякаваць за пераклад майго верша. Ты безумоўна лепш зрабіў гэтую справу, чымся бы сам аўтар, асабліва зараз, бо «творчы порах» значна падмок у мяне апошні час. Але навошта такая літаратурная самаахвярнасць з твайго боку? Я даўно даў табе «белую картку» на мае творы, якія перасылаю табе: рабі з імі, як знойдзеш патрэбным і лепшым.

Гэты мой ліст не застане цябе ў Мінску. Але другім разам, калі наведаеш Магілёў, спытайся ў краязнаўчым музеі (ці ў архіве?) пра мае ўспаміны 1905—1907 гг. Не

зусім разумею тваю вандроўку ў Сібір, асабліва ў дадзеную пару года.

Ганаровы тытул «несупынны», які ты паднёс мне, больш падыходзіць да цябе самога.

Але ў гэтай разнастайнасці, раскіданасці хаваецца значны агрэх: трэба спыніцца на чымся адным. Агрэх гэты я пранёс праз сваё жыццё.

Усе выпісаныя табой выданні высылаюць акуратна.

Атрымаў сёння ліст ад Саламевіча. Трэба адказаць на шэраг запытанняў.

Нехта з нашых пісьменнікаў сёння званіў па тэлефоне: збіраюцца да мяне.

Буду вельмі рады.

Заставайся здаровым!

*Дзед Міхайла.*

*45. Шушкевічу С. П.*
*12 красавіка 1969 г.* *12/IV-69*

Дружа Станіслаў!

Атрымаў «Вяч. Мінск» з вершам і тлумачэннем. Вельмі добра, прыемна! Але ўслед прыйшоў і паштовы перавод, чаму, каму, завошта?

Давай, браце, умовімся: калі нешта падобнае да гэтага літаратурнага выпадку здарыцца яшчэ калі-нікалі, то каб пераводу грашовага ані не было. Лепш ужо тады якую добрую кніжку, пра якія я пісаў табе.

За дзень-два раней прыслала мне выразку з «Веч. М.» за той жа дзень Юлія Бібіла. Я і не ведаў, што газета выходзіць двумоўна.

З нашымі маладымі пісьменнікамі, што былі ў Маскве, выйшла нейкае непаразуменне. Яны раскажуць табе, у чым справа. Мы чакалі іх з дня ў дзень, так і не дачакаліся! А я так радуюся сустрэчы з суайчыннікамі! [...]

З прыходам вясны, а з ёю — сонца і цеплыні, спадзяюся і я выпаўзці на свет боскі.

Ці пабываў у Магілёве?

Ну, бывай здаровенькі з сямейкай!

Шчырае прывітанне і падзяка ад маіх усіх.

*Твой Міхайла.*

# ЗАЎВАГІ

## П'есы

*Змітрок з Высокай Буды* (с. 16)
Упершыню: Вольная Беларусь, 1918.

*Над Нёманам* (с. 38)
Друкуецца па арыгінале.

*Каля тэрасы* (с. 108)
Упершыню: Грамыка М. Каля тэрасы. Мінск: Белдзяржвыд БССР, 1929. Друкуецца па кн.: Грамыка М. Каля тэрасы. Мінск: Маст. літ., 1975.

*Віно бушуе* (с. 155)
Упершыню: Полымя, 1929, № 7.

*Воўк* (с. 204)
Друкуецца па арыгінале.

## Паэмы

*Крылан* (с. 305)
Упершыню: Грамыка М. Дзве паэмы. Мінск: Белдзяржвыд БССР, 1927.

*Лесніčанка* (с. 326)
Упершыню: Грамыка М. Дзве паэмы. Мінск: Белдзяржвыд БССР, 1927.
Друкуецца па кн.: Грамыка М. Выбранае. Мінск: Беларусь, 1967.

## Вершы

*Беларусь* (с. 248)
Друкуецца па арыгінале.

*Менская вежа* (с. 273)
Упершыню: Полымя, 1926, № 5—6.

*Паэзія аб рэвалюцыі і рэвалюцыя ў паэзіі. Гвалт над формай* (с. 356)
Упершыню: Полымя, 1922, № 1.
Астатнія вершы — упершыню: Грамыка М. Плынь. Мінск: Белдзяржвыд, 1927. Друкуюцца па кн.: Грамыка М. Выбранае. Мінск: Беларусь, 1967.

### Крытыка, успаміны, лісты

*Пясняр сноў і чараў* (с. 364)
Упершыню: Полымя, 1923, № 3—4.

*Проста, даходліва пра свой працоўны народ...* (с. 368)
Друкуецца па арыгінале.

*Антон Грыневіч* (с. 371)
Друкуецца па арыгінале.

*Нас натхняў подых рэвалюцыі* (с. 372)
Друкуецца па арыгінале.

*Аўтабіяграфія* (с. 385)
Друкуецца па арыгінале.

*Старонкі сямейнай хронікі* (с. 393)
Друкуецца па арыгінале.

*Лісты Міхайлы Грамыкі* (с. 423)
Друкуецца па арыгінале.

**ЗМЕСТ**

## КРЫТЫКА, УСПАМІНЫ, ЛІСТЫ

**Грамыка М.**

Г 76 Родная пушча: П'есы, вершы, паэмы, успаміны, лісты/Уклад. С. П. Шушкевіча; аўтар прадм. С. С. Лаўшук.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 461 с., 1 л. партр.: іл.

Вядомы беларускі драматург, паэт, перакладчык Міхайла Грамыка (1885—1969) — аўтар падручнікаў па геаграфіі, мінералогіі, крышталаграфіі, выкладаў у вузах рэспублікі, быў геолагам.

Гэтая кніга — першая спроба сабраць багатую творчую спадчыну пісьменніка. У яе ўвайшлі творы пра савецкую рэчаіснасць і рэвалюцыйную барацьбу працоўных Заходняй Беларусі. Вялікае месца займаюць матывы стваральнай працы, хараства прыроды, кахання, высокіх духоўных парыванняў чалавека.

Г $\frac{4702120200-021}{М\,302(05)-87}$ 126—86 ББК 84Бел7

**Михаил Александрович**
**ГРОМЫКО**

**РОДНАЯ ПУЩА**

*Пьесы, стихи, поэмы, воспоминания, письма*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі *Г. С. Шупенька.* Рэдактары *Р. І. Барадулін, В. М. Хлебавец.* Мастак *У. А. Правідохін.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Л. П. Бялова.*

ІБ № 2272

Здадзена ў набор 06.05.86. Падп. да друку 12.12.86. АТ 00713. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 24,36+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 30,56. Ул.-выд. арк. 24,74. Тыраж 1600 экз. Зак. 2415. Цана 2 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**У 1987 ГОДЗЕ**
**ПРАПАНУЕ ЎВАЗЕ ЧЫТАЧА**
**НАСТУПНЫЯ КНІГІ**
**З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ:**

---

СЯРГЕЙ ДЗЯРГАЙ
**Чатыры стыхіі**
*Вершы і паэмы*

АЛЕСЬ ЖАЎРУК
**Крывёю сэрца**
*Вершы, успаміны пра паэта*